# ІВАН ЧЫГРЫНАЎ

## Выбраныя творы

Мінск
«Кнігазбор»
2013

## ЛЕТАПІСЕЦ «СЯЛЯНСКАЙ АТЛАНТЫДЫ»

Прыход у літаратуру ў канцы 1940 — пачатку 60-х гадоў колькасна шматлікага і творча markрознабаковага маладога пакалення — нібыта своеасаблівая кампенсацыя тых вялікіх страт, што панесла нацыянальнае мастацтва слова ў час сталінскіх рэспрэсій і ваеннага ліхалецця. Гэта пісьменніцкае пакаленне будуць называць хто філалагічным, хто сярэднім, хто «дзецьмі вайны». Адзін з самых яркіх яго прадстаўнікоў — народны пісьменнік Беларусі Іван Чыгрынаў.

Нарадзіўся Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў 21 снежня 1934 года ў вёсцы Вялікі Бор Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Закончыў Саматэвіцкую сярэднюю школу, у восьмы клас якой падлетка залічылі «звыш спіса» дзякуючы настойліваму жаданню маці, каб сын вучыўся далей. Затым былі гады вучобы ў Белдзяржуніверсітэце на аддзяленні журналістыкі (1952–1957), праца ў выдавецтве АН БССР (1957–1965), у рэдакцыі часопіса «Полымя» (1965–1975), у сакратарыяце праўлення СП Беларусі (1976–1986). У канцы 1980-х гадоў І. Чыгрынаў узначаліў створаныя на хвалі перабудовы Беларускі фонд культуры і рэдакцыю часопіса «Спадчына».

З першымі творамі, вершамі і невялікімі нарысамі пра жыццё землякоў-магіляўчан, І. Чыгрынаў выступіў будучы яшчэ студэнтам. У 1958 годзе з’явілася ў друку дакументальная аповесць пра швецкага даследчыка Арктыкі Саламона Андрэ «Тайна адной экспедыцыі».

У «дзяцей вайны» нават незалежна ад таго, вярнуліся іх бацькі з фронту, з партызанаў ці яны раслі бязбацькавічамі, асаблівыя адносіны да маці. Бо ў гады фашысцкай навалы абаронцам, карміцелем была якраз жанчына. Для многіх маці заставалася адзіным апірышчам і ў пасляваенны час. Пэўна ж, апошняя вайна нарадзіла сённяшняе звыклае, але алагічнае па сваёй сутнасці паняцце — **матчына хата**. Матчынай хата была таму, што ў ёй адсутнічаў гаспадар, бацька, і таму, што нярэдка будавалася яна гаспадыняй. «*Маці сталярыла і цяслярыла без гэбля, без ватэрпаса. Сякера была адна, як доля ўдавіная, чэзлая*», — так напісаў, зыходзячы са свайго сыноўняга вопыту, Р. Барадулін. Дзяцінства, гады сталення І. Чыгрынава мала чым адрозніваліся ад барадулінскіх. У аўтабіяграфічных нататках пісьменнік згадваў: «Баі

на Бесядзі працягваліся не доўга, здаецца, у тры дні ўсё было скончана, і армія рушыла далей на захад <…>, а мы прыняліся будаваць на зіму зямлянкі, з якіх потым выбіраліся доўга і цяжка. У новую хату, напрыклад, наша сям'я перайшла толькі ў пяцідзясятым годзе».

У Чыгрынавых дзяцей было шмат: Іван «нарадзіўся чацвёртым, а пасля яшчэ тры сястры і брат на свет з'явіліся», але гадаваць іх мацеры давялося адной. З гаркотай прызнаваўся Іван Гаўрылавіч: «бацьку мы з вайны да сябе не дачакаліся». Гэта сямейная драма — здрада роднага чалавека — знайшла адлюстраванне ў ранніх творах («Апавяданне без канца» і «На пыльнай дарозе»).

З-за таго, што бацька ў даваенныя гады працаваў старшынёй сельсавета, жыццё жонкі і дзяцей падчас акупацыі набыло асаблівы драматызм. У аўтабіяграфіі пісьменніка ёсць такая згадка: «…Людзі быццам вырашылі, што сям'я старшыні сельсавета пры новай уладзе стане першай, а можа, і адзінай ахвярай. У нас і карову немцы ў першых забралі, і конь нам не дастаўся, калі дзялілі ў вёсцы калгасную маёмасць <…> У сорак першым мала хто адважваўся пусціць чужога чалавека ў хату. Вось і прымала мая маці ўсіх бяздомных, у тым ліку і першых партызан, якія прыходзілі ў вёску з лесу. Аднавяскоўцы проста пасылалі іх да нас — маўляў, ідзіце, там вас прымуць <…> Часта будзіла нас маці сярод ночы і адводзіла, хаваючыся суседзяў, у лес, каб схаваць ад наехаўшых паліцаяў ды немцаў». Гэты факт знайшоў адлюстраванне ў самым першым апавяданні пісьменніка «Праз гады» (1961). Праўда, вобраз жанчыны, што прыняла на начлег партызан, у ім эпізадычны і, па сутнасці, не звязаны з асноўнай праблемай твора, аднак выпісаны ён псіхалагічна пераканаўча і сваім жыццёвым драматызмам застаецца ў памяці. Дарослы І. Чыгрынаў нібыта сам нёс віну за перажытае маці ў гады ліхалецця. Пісьменнік-гуманіст, ён не прымаў такога стаўлення да чалавека, што падкрэсліваецца ў апавяданні праз ацэнку сітуацыі леснікам Даўгалёвым.

Многія творы І. Чыгрынава нарадзіліся з асабіста перажытага, пабачанага, адчутага. Так, у апавяданнях «Бульба», «За сто кіламетраў на абед» знайшлі мастацкае ўвасабленне ўражанні ваеннага дзяцінства. Колькі тут канкрэтных непрыдуманых дэталяў, якія адкладаліся ў памяці, каб праз дзесяцігоддзі ажыць у творы! Згаданымі апавяданнямі пісьменнік падключаўся да тэмы абпаленага вайной маленства, якая займае важнае месца ў творчасці прадстаўнікоў філалагічнага пакалення. Гэту тэму ў свой час не абышлі і старэйшыя пісьменнікі К. Чорны, М. Лынькоў, А. Куляшоў, П. Панчанка… Аднак пры параўнанні іх твораў з творамі «дзяцей вайны», у апошніх кідаецца ў вочы засяроджанасць на штодзённым, звычайным жыцці людзей. Іх героі не ўзрываюць цягнікі, не здабываюць каштоўныя звесткі пра размяшчэнне ці колькасць варожай тэхнікі, яны проста жывуць. А за гэтым «проста жывуць» паўстае непрыдуманы драматызм і трагізм

ваенных гадоў. Як, напрыклад, у характарыстыцы дзяцей, якой пачынаецца апавяданне І. Чыгрынава «За сто кіламетраў на абед». «*Нам было ў той час па дзесяць гадоў, — адным трохі болей, другім трохі меней. І мы былі дзеці вайны. Але мы тады амаль усё ведалі, і мне часам здаецца, што ведалі куды больш, чым нават цяпер, калі нам па трыццаць ужо. Напрыклад, мы без памылкі маглі яшчэ на падлёце пазнаць па гуку самалёты — "нашы" і "не нашы". Ведалі, якія кулі ў што пафарбаваны — звычайныя, разрыўныя, бронеразрыўныя, бранябойныя, трасіруючыя… цяпер ужо цяжка пералічыць, а тады мы ведалі, па чым якою куляй страляць*». Акрамя гэтых «ведаў», набытых, безумоўна, у навакольнай рэчаіснасці, дзеці па форме лёгка адрознівалі салдат і афіцэраў любой краіны, якая ваявала на баку немцаў. Ведалі, каго з салдат-чужынцаў трэба асцерагацца, а да каго можна падыходзіць без страху і нават атрымаць пачастунак. «*А галодныя мы,* — гаворыць пра сваіх равеснікаў пісьменнік, — *здаецца, былі заўсёды: то харчу не хапала, то солі, то яшчэ якой трасцы… Як заходзіў год за годам, так і голад за голадам ішоў*».

Ужо на раннім этапе выявілася такая рыса Чыгрынава-празаіка, як увага да няпростых чалавечых лёсаў, да неадназначных сітуацый. «…Актуальнасць думкі, адсутнасць страху перад жыццёвымі супярэчнасцямі і складанасцямі, вастрыня пісьменніцкага зроку — усё гэта найлепшым чынам характарызуе аўтара зборніка «Птушкі ляцяць на волю», — адзначаў у рэцэнзіі на першую кнігу пісьменніка крытык В. Каваленка. Апавяданне «Маці», якое пабачыла свет у перыядычным друку ў 1963 годзе, са зменнай назвай («У ціхім тумане») і канцоўкай (маці паліцая вяскоўцы адмаўляюцца адвесці на месца смерці сына), упершыню было ўключана ў перакладны рускамоўны зборнік «За сто километров на обед» (1979). Часопісная публікацыя выклікала рэзкае непрыманне, адмоўна адгукнулася нават расійская перыёдыка, бо маці пакаранага партызанамі здрадніка нібыта не павінна выклікаць спачування. Пазней І. Чыгрынаў усё ж вярнуўся да першапачатковай рэдакцыі і назвы.

З'яўленне праз шмат гадоў у Бароўцы мацеры чалавека, вінаватага ў смерці старога Тараські і ў тым, што вёска была дашчэнту спалена, нікога не пакінула абыякавым. Найбольш перажывае, трывожыцца Ганна, і не толькі таму, што яе бацьку павесіў Рэйдзішын сын. Менавіта Ганне выпала сустрэць на дарозе ў вёску, а пасля запрасіць да сябе на начлег старую. І ўсё ж ні яна, ні хто іншы не нагадаў Рэйдзісе пра былое. «*Кароткая памяць*», за што ўдзячная аднавяскоўцам Рэйдзіха, выявіла, аднак, не абыякавасць, а душэўную веліч людзей. У адносінах да мацеры паліцая раскрылася іх глыбокая, па сваёй сутнасці хрысціянская чалавечнасць, у аснове якой — спачуванне чужому гору, хоць прычына гора сама па сабе непрымальная.

У апавяданні пісьменнік змог раскрыць матчыну драму, паказаць страх старой Рэйдзіхі перад былымі аднавяскоўцамі, бездапаможную залежнасць ад іх добрай волі (пакажуць ці не пакажуць магілу Якава). Аднак, што якраз і выклікала ў свой час непрыманне твора, у жанчыны няма адчування віны за сынавы ўчынкі. Прынамсі, пра гэта яна не думае, ён для яе проста сын. І. Чыгрынаў акцэнтуе ўвагу на прыродным інстынкце мацеры, на што працуе ўведзенае на самым пачатку твора параўнанне Рэйдзіхі з птушкай, «*скінутай аднекуль з гнязда*».

Стаўленне да здрадніка выяўлена аўтарам праз сістэму мастацкіх дэталяў. Гэта, фінальная ў творы, сцэна высвечвае майстэрства зусім маладога на той час празаіка. Тоўсты слой дзірвану на месцы смерці паліцая сведчыць пра адносіны людзей да чалавека, што пад ім ляжыць: ён не заслужыў памяці. Зусім іншае — памяць маці. Рукі Рэйдзіхі, не асэнсоўваючы таго, «*намагаліся нагрэбці на гэтым роўным шматгадовым дзірване магільны курганок*», на што, аднак, не пакідае ніякай надзеі іх «*бездапаможнае коўзанне па мокрай, яшчэ не высушанай ад расы траве*».

Тэматычны абсяг малой прозы І. Чыгрынава, прадстаўленай найперш зборнікамі «Птушкі ляцяць на волю» (1965), «Самы шчаслівы чалавек» (1967), «Ішоў на вайну чалавек» (1973), даволі шырокі. Трэба адзначыць, што пісьменніка заўсёды цікавяць не падзеі самі па сабе, якімі б яркімі, неардынарнымі яны ні былі, а чалавечыя характары. Героі твораў, за рэдкім выключэннем, жывуць у вёсцы, навек параднілiся з зямлёй, з нялёгкай сялянскай працай. Іх унутраны свет, іх надзеі і спадзяванні, жаданні і памкненні вартыя ўвагі і зразумелыя І. Чыгрынаву, які праз ўсё жыццё адчуваў сябе «селянінам па паходжанню, селянінам па душы». Пэўна таму ён адным з першых у нацыянальнай літаратуры звярнуўся да праблемы адзінокай старасці вясковых жыхароў, што было абумоўлена міграцыяй моладзі ў горад (апавяданні «Ці бываюць у выраі ластаўкі?», «У горад», «Адна»).

Скразным персанажам твораў І. Чыгрынава можна лічыць героя-апавядальніка, які адносінамі да рэчаіснасці, да чалавека блізкі аўтару. Гэта — падарожнік, неабыякавы да прыгажосці роднай зямлі, да лёсаў звычайных, на першы погляд, людзей. Абраная пісьменнікам форма «апавяданне ў апавяданні» з'явілася невыпадкова. У маладыя гады І. Чыгрынаў не аднойчы выпраўляўся пешшу са сталіцы на малую радзіму, папаўняючы такім чынам неабходнае для творцы веданне жыцця. «Сустрэчы на дарогах» падказвалі праблемы і калізіі, адкрывалі цікавыя чалавечыя характары, як, напрыклад, у апавяданнях «Адна ноч», «Шчаслівае месца», «Жыве ў крайняй хаце ўдава», «Выпадак у вёсцы Капранаўка».

Сустрэчы на дарогах у многім вызначаюць таксама сюжэтныя лініі раманаў І. Чыгрынава «Плач перапёлкі» (1970), «Апраўданне крыві» (1976), «Свае і чужынцы» (1983), «Вяртанне да віны» (1992), «Не ўсе

мы згінем» (1996). Нягледзячы на тое, што асноўнае сюжэтнае дзеянне прывязана да адной вёскі, героі пенталогіі знаходзяцца ў пастаянным руху. Працяглы час блукае Радзівон Чубар, шукаючы сваё месца ў барацьбе з ворагам. Спачатку ён імкнецца за лінію фронта, каб стаць салдатам, потым з думкай стварыць на акупіраванай тэрыторыі партызанскі атрад вяртаецца ў Забесяддзе. Паходы, паездкі, хоць і недалёкія: у суседнія вёскі, у раённы цэнтр — вызначаюць лад жыцця другога цэнтральнага героя твора Дзяніса Зазыбы, які стаў партызанскім сувязным. У рамане «Апраўданне крыві» з глыбокім разуменнем асаблівасцяў жаночай псіхалогіі апісаны паход верамейкаўскіх салдатак у Яшніцу, дзе знаходзіўся лагер ваеннапалонных…

З уцягваннем людзей у вайну гэты рух узмацняецца і пашыраецца. Вобраз дарогі ў раманах, такім чынам, нясе ў сабе трагедыю парушанага чалавечага існавання. Найбольш шырокай амплітудай перамяшчэння герояў у прасторы пазначаны змест апошняга рамана. Пасля пакутніцкай смерці маці ад прышлых у Забесяддзі партызан выпраўляецца ў Мінск Масей. Нічога не трымае ў спаленых падчас баёў Верамейках Дзяніса Зазыбу, ён без ваганняў прымае прапанову генерала Зеленадольскага, свайго даўняга знаёмага, і падарожнічае з ім па толькі што вызваленай тэрыторыі.

Разам з тым аўтар засяроджвае ўвагу на ўстойлівасці сялянскага (народнага) быцця, на яго ўпартым супрацьстаянні парушанаму вайной свету. І ў трагічным сорак першым селяніна кліча да сябе зямля: сабраць вырашчаны ўраджай, думаць пра новы. Потым героі выйдуць на касавіцу («Вяртанне да віны»), несучы ў душы вялікую трывогу ў сувязі з новым летнім наступленнем немцаў. Але, відаць, самай яркай, па-мастацку змястоўнай і арыгінальнай з’яўляецца сцэна наведвання парадзіхі («Плач перапёлкі»). Гэту сцэну рускі даследчык А. Бачароў назваў «квінтэсенцыяй усяго ідэйнага настрою рамана, усяго зместу, выяўленага ў лёсах, дыялогах, учынках…»

Захаванне адвечнага ладу жыцця цесна звязана ў творах з вобразамі жанчын. У жыцці акупіраванай вёскі жанчыны іграюць знешне не вельмі прыкметную ролю. Яны думаюць не пра супраціўленне чужынцам, а пра тое, чым накарміць дзяцей і як іх абараніць ад навалы, трывожацца за лёс мужоў, братоў, бацькоў. Адносна жанчын у Вялікай Айчыннай пісьменнік гаварыў у інтэрв’ю: «Яны, можа, зрабілі ў вайне, найбольш. Бо неяк умелі і з мужчынамі жыць, неяк умелі і дзяцей нарадзіць, неяк умелі і працаваць, і патомства захаваць, і ваяваць, і хлеб сеяць, і паспагадаць, і раны перавязаць, умелі любіць і ненавідзець. Гэта нейкая ўсеабдымная з’ява — жанчыны ў вайне, асабліва ж вясковыя. Сваіх жанок я найперш пішу са сваёй маці Хадоскі Ігнатаўны».

Змест раманнай пенталогіі дае падставы сцвярджаць, што ўзброенае змаганне з ворагам пісьменнік лічыў прэрэгатывай мужчын. Чыгрынаўскіх гераінь цяжка ўявіць са зброяй у руках. Невыпадковым

здаецца тое, што сярод іх толькі адна партызанка і яшчэ адна, чужая ў Забесяддзі дзяўчына, была пакінута армейскім камандаваннем у якасці разведчыцы. Лёс іх трагічны. Як і для В. Быкава, для І. Чыгрынава, пэўна ж, не з'яўлялася нормай ваеннай рэчаіснасці, тым больш гордасцю тое, што «ў нас і жанчыны ваявалі».

Паставіўшы перад сабой мэту паказаць жыццё народа ў гады акупацыі, празаік пачаў яго даследаванне з перыяду найбольш складанага і супярэчлівага — першых яе тыдняў і месяцаў. Да рамана «Плач перапёлкі» ў беларускай прозе не было твора, у якім так дэталёва і шырока ўзнаўлялася б «нізавая плынь ваеннай паўсядзённасці» (В. Каваленка) ў перыяд «міжуладдзя» — калі савецкае войска пакінула тэрыторыю, а немцы яшчэ не прыйшлі — і на самым пачатку акупацыі. Геаграфічнае становішча Верамеек — збоку ад вялікіх дарог — спрыяла іх часовай адасобленасці ад ваенных падзей. Непасрэдная сустрэча жыхароў вёскі з немцамі адбываецца толькі напрыканцы другога месяца вайны. Аднак знешне сцішаныя і мірныя Верамейкі перажываюць складаны перыяд адаптацыі да новых умоў: ідзе вызначэнне жыццёвых пазіцый, размежаванне на «сваіх» і «чужых». У вёсцы нечакана аб'явіліся дэзерціры і нават паліцэйскі. Новыя стасункі жыцця нарадзілі шэраг агульназначных праблем: што рабіць з калгасам, з вырашчаным збожжам, каго прызначыць «начальствам»?

З'яўленне трэцяга рамана давала падставу думаць, што далей І. Чыгрынаў пойдзе традыцыйным для беларускай літаратуры шляхам: засяродзіцца на паказе партызанскага руху. Аднак апошнія часткі пенталогіі засведчылі вернасць празаіка першапачатковай мэце — стварыць шырокую панараму народнага жыцця. Ад першых дзён і месяцаў вайны пісьменнік давёў раманнае дзеянне да лета 1944-га, калі адбывалася вызваленне цэнтральнай часткі Беларусі. Пенталогія заканчваецца партызанскім парадам у Мінску, у якасці гледача на ім прысутнічае Дзяніс Зазыба.

Заключны раман «Не ўсе мы згінем» з'явіўся ў друку ў 1996-м — у год смерці пісьменніка. Будучы ўжо цяжка хворым Іван Гаўрылавіч завяршыў свой галоўны твор, якому аддаў амаль тры дзесяцігоддзі руплівай мэтанакіраванай, не толькі аналітычнай, але і даследчыцкай працы. Пра апошняе гаворыць шырока ўведзены ў мастацкі тэкст дакументальны матэрыял.

Для раманаў, як, дарэчы, і для апавяданняў І. Чыгрынава характэрна запаволенасць апавядальнай плыні. Сюжэт слаба насычаны дзеяннем знешнім, асабліва ў тых раздзелах, дзе апісваецца жыццё Верамеек. Героі больш думаюць, разважаюць, спрачаюцца, чым штосьці робяць. Разам з тым творам уласцівы ўнутраная дынаміка і напружанасць. Пісьменнік імкнуўся да «кампазіцыі драматычнага сутыкнення характараў» (А. Адамовіч), калі сюжэт рухаецца не за кошт біяграфіі, прыгод герояў, а за кошт канфліктаў, якія ўзнікаюць паміж імі.

Доўгі час супрацьстаяць адзін другому, адстойваючы розныя падыходы да рэчаіснасці, былы старшыня верамейкаўскага калгаса Радзівон Чубар і былы яго намеснік Дзяніс Зазыба. Чубару, які прывык жыць па інструкцыях, вельмі цяжка зарыентавацца ў ваенных абставінах, бо яны вымагаюць самастойных, часам нават нестандартных рашэнняў, абдуманых дзеянняў. Існуе  дэкрэт Сталіна пакідаць ворагу толькі выпаленую зямлю, і былы старшыня гатовы знішчыць вырашчаны ўраджай. Яго не спыняюць аргументы Зазыбы, што людзям, якія засталіся на акупіраванай тэрыторыі, нешта трэба есці. Больш таго, Чубар абвінавачвае верамейкаўцаў, з якімі жыў і працаваў не адзін год, у нелюбові да ўлады.

На вобразе Чубара пісьменнік паказаў, як змяняецца чалавек, калі ён прырастае душой да нейкага кавалачка зямлі, набывае «малую» радзіму. У рамане «Вяртанне да віны» гэты персанаж гіне. Гіне, аднак, не як пераканаfamous ідэйны партыец (такім ён паўстаў на старонках першага твора), я як абаронца сваёй зямлі. За час вайны Чубару многае адкрылася ў людзях, у навакольнай рэчаіснасці, шмат на што ў сваім ранейшым жыцці ён пачаў глядзець па-іншаму. Найперш з Чубарам, з яго духоўнай эвалюцыяй звязана назва чацвёртага рамана цыкла. Варта адзначыць, што змены ў паводзінах і характары гэтага героя прагназаваліся асобнымі крытыкамі іншыя: Чубар не пазбавіцца ад сваіх недахопаў і нецярплівасцю, прамалінейнасцю, падазронасцю стане шкодзіць самой ідэі і сутнасці народнага змагання.

Вопыт народа і свой уласны падказваюць Дзянісу Зазыбу, што яго месца ў роднай вёсцы, таму ён вярнуўся ў Верамейкі, хоць была магчымасць застацца за лініяй фронту, чым вельмі здзівіў Радзівона Чубара. Зазыба лічыць, што адступае армія, народ застаецца, бо яму няма куды адступаць і няма як пакідаць родную зямлю. Аўтар не адзін раз падкрэслівае мудрасць, разважлівасць былога намесніка старшыні, яго ўдумлівыя адносіны да ўсяго, што адбываецца. Зазыба стараецца ва ўсім разабрацца самостойна, даць уласную ацэнку. Аднак і яму бывае цяжка зарыентавацца ў складанасцях як ваеннай, так і даваеннай рэчаіснасці. Так, ён не прымае гатоўнасць Чубара спаліць збожжа, разам з тым разумее, што будзе яшчэ горш, калі хлеб дастанецца немцам. І нават пасля таго, як выйсце, здаецца, знойдзена — падзяліць калгаснае поле, маёмасць і аддаць верамейкаўцам у асабістае карыстанне, — Зазыба не перастае сумнявацца. Пра гэта яскрава сведчыць рэакцыя на пажар у Паддубішчы. Ён не асудзіў Чубара за падпал, толькі здрыганулася душа селяніна, што можна такое зрабіць з вырашчаным хлебам.

Любоў Дзяніса Зазыбы да Радзімы, яго вернасць ідэалам рэвалюцыі народжаны ўсім папярэднім жыццём. «*Для мяне савецкая ўлада — як для маці тваёй ты!.. <…> Я за яе біўся! Я за яе пакутаваў!.. Бо мы ўсе, хто за яе біўся тады, ведалі, якая гэта ўлада і навошта яна людзям патрэбна*», — тлумачыць Дзяніс сыну. Гэтыя словы сведчаць

не толькі пра глыбокі і асэнсаваны савецкі патрыятызм персанажа, яны з'яўляюцца ключом для разумення, чаму так цяжка было яму разабрацца ў супярэчнасцях грамадскага жыцця 1930-х гадоў. Нейкі час для Дзяніса Зазыбы вышэй ягоных сіл спасцігнуць тое, што здарылася з Масеем. Ён імкнецца даказаць і сыну, і сабе, што арышт — трагічная памылка, ад якой не застрахавана ніводная, нават самая гуманная ўлада. Зазыба, па сутнасці, ухіляецца ад той страшнай праўды, якая стаіць за зняволеннем Масея. Ён не хоча ведаць, што перажыў сын, спыняе яго размовы з аднавяскоўцамі пра турму і лагер. Толькі на другім годзе вайны Дзяніс «*даўся ўгаварыць сябе паслухаць*» трагічную сынаву адысею і быў амаль шакіраваны пачутым, але разважыў адпаведна сваім перакананням: «*кажух з-за вошай не кідаюць <…> трэба думаць, як бараніцца ад чужога нашэсця, як ратаваць краіну*».

Вера ў савецкую ўладу, у яе гуманнасць і справядлівасць дапамагала старэйшаму Зазыбу выстаяць пад цяжарам жыццёвых выпрабаванняў у мірны час і ў гады вайны. Сын гэта разумее і называе бацьку то святым, то наіўным. Але ён не можа прыняць бацькаву праўду, бо глядзіць на жыццё краіны шырэй, нібы ацэньвае яго з пазіцый будучыні, калі будуць асуджаны бесчалавечнасць і жорсткасць, што мелі месца ў савецкай гісторыі.

І ўсё ж вайна зблiжае бацьку і сына. Назіраючы, якія страшныя формы з часам пачынае набываць партызанскае змаганне, Дзяніс Зазыба пакрысе губляе свой ідэйны катэгарызм і веру ў вышэйшую справядлівасць савецкай улады. Вялікі душэўны боль і трывога за лёс Масея кіруюць ім, калі ладзіцца на гарышчы схованка. У дадзеным выпадку немцы сыну не пагражаюць. Масей стаў здраднікам у вачах партызан, бо вымушаны быў пайсці працаваць пісарам у камендатуру. Бацька, ад першых дзён вайны звязаны з партызанамі, спадзяецца вымаліць у іх дараванне. На словы сына, што хоць зараз гатовы ісці на суд, бо нікому з людзей нічога дрэннага не зрабіў, Зазыба з гаркотай гаворыць: «*Які цяпер суд? Цяпер не суд бывае, а скорая расправа. Я нагледзеўся ўжо на норавы і немцаў, і нашых. Добра яшчэ дачакаюцца выслухаць, а то проста… адвядуць у кусты і шлёпнуць. Так што не рвіся на суд, сын*». Ён не пярэчыў, калі Масей вырашыў ехаць у Мінск да свайго былога сябра Алеся Астрашаба, які працаваў у створанай акупацыйнай уладай беларускай адміністратыўнай установе. Даведаўшыся пасля вызвалення сталіцы, што сын услед за немцамі падаўся на Захад, бацька не пагадзіўся з абвінавачваннем у здрадніцтве. «*У чым-у чым, але ён быў упэўнены, што да Масея гэта вызначэнне не мела ніякага дачынення. Проста менавіта такім чынам склаліся для яго жыццёвыя абставіны. Пачатак іх знаходзіўся ў трыццатых гадах, у нечаканым арышце… цяпер жа яго несла ў брудным рэчышчы імклівае цячэнне, і ён ужо няздольны быў выплысці на бераг*». Зазыба не рабіў выключэння для

свайго сына. Побач з ім ён бачыў і іншых такіх жа гаротнікаў, «*якія не па сваёй ахвоце падаліся на чужбіну*».

Масей Зазыба стаў паўнапраўным героем сюжэтнага дзеяння, пачынаючы з другога рамана. Гэты вобраз меў рэальнага прататыпа — пісьменніка-эмігранта Масея Сяднёва. І. Чыгрынаў нават не змяніў імя свайго земляка, родная вёска якога, Мокрае, знаходзіцца непадалёку ад Вялікага Бора. У 1970-я, калі пісаліся раманы «Плач перапёлкі» і «Апраўданне крыві», не было прынята гаварыць пра сталінскія рэпрэсіі. Увядзенне ў сістэму вобразаў персанажа з такім лёсам сведчыла пра пісьменніцкую смеласць у падыходзе да рэчаіснасці.

Змены, якія адбыліся ў краіне ў 1980–1990-я гады, не маглі не ўплываць на ідэйны змест і праблематыку раманаў. У апошніх з іх («Вяртанне да віны», «Не ўсе мы згінем») шмат горкай, трагічнай праўды пра перажытае народам у ваенны і перадваенны час. Дзякуючы лініі Масея, такім персанажам, як Парфён Вяршкоў, Дзяніс Зазыба, Алесь Астрашаб, і папярэднія, створаныя ў іншых грамадска-палітычных варунках часткі пенталогіі арганічна ўпісваюцца ў агульную эпічную карціну народнага жыцця. Безумоўна, спрыяла гэтаму таксама пісьменніцкае ўменне стварыць тыповыя яркія і запамінальныя характары.

У 1980-я гады побач з прозай І. Чыгрынаў пачаў актыўна выступаць у драматургіі. Першыя п’есы «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Дзівак з Ганчарнай вуліцы» былі створаны на аснове раманаў і апавяданняў. Услед за імі з’явіліся тэматычна і праблемна самастойныя «Ігракі», «Чалавек з мядзвежым тварам», «Толькі мёртвыя не вяртаюцца», «Следчая справа Вашчылы», «Звон — не малітва». Зварот да гістарычных падзей у двух апошніх творах не выглядае нечаканым, бо мінулае народа, аддаленае і блізкае, заўсёды цікавіла пісьменніка.

У творчасці І. Чыгрынава, як і многіх іншых прадстаўнікоў філалагічнага пакалення, назіраецца асаблівая прывязанасць да «малой» радзімы. «Мясціны гэтыя дарагія для мяне не толькі тым, што адтуль, з бацькоўскага парога, уецца сцяжынка майго жыцця. Там, у Забесяддзі, на Магілёўшчыне, назаўсёды засталіся сляды маіх герояў, жывых і мёртвых, пра якіх я расказваю ў раманах», — пісаў празаік. Сувязь з родным светам выразна выявілася праз шырока ўведзеныя ў мастацкую тканіну твораў тапонімы — дакладныя назвы вялікіх і малых населеных пунктаў, дарог, мастоў, лясоў і пералескаў, урочышчаў і інш. Пісьменнікам не толькі называецца тая мясціна, каля якой ці на якой адбываюцца падзеі, яна абавязкова апісваецца. У свой час І. Чыгрынава нават папракалі ў празмернай дэталізацыі, у перагружанасці асобных старонак падрабязнасцямі побыту, пейзажнымі замалёўкамі, перазаселенасцю прадстаўнікамі беларускай флоры і фаўны. Рэгіянальнай прывязкай выступаюць таксама дыялектызмы і дыялектныя формы, прыказкі і прымаўкі, якія сустракаюцца ў гаворках Магілёўшчыны. Імі густа «перасыпаны» дыялогі і маналогі герояў. Дыялектызмы часам

прысутнічаюць і ў мове аўтара: калі ён перакананы, што літаратурны варыянт слова менш выразны і змястоўны, чым гутарковы.

Пасля аварыі на ЧАЭС мастакоўскае вяртанне да вытокаў набыло асаблівы сэнс, бо стала вяртаннем на чыстую, не атручаную радыяцыяй зямлю. Вёска Вялікі Бор, адкуль пачалася жыццёвая дарога пісьменніка, падзяліла лёс многіх населеных пунктаў усходняй Магілёўшчыны: яна засыпана чарнобыльскім попелам.

Творы І. Чыгрынава — увасобленае ў эпічных мастацкіх вобразах матэрыяльнае і духоўнае быццё некалькіх чалавечых пакаленняў «сялянскай атлантыды» (А. Адамовіч) — традыцыйнай беларускай вёскі, ад якой мала што перайшло ў новы век. Са скрухай пісьменнік гаварыў напрыканцы 1980-х: «Аказаліся мы амаль голымі, дакладней — свабоднымі ад многага: ад традыцый, ад духоўнасці, ад памяці і абавязку перад бацькамі сваімі, ад адказнасці за сваю зямлю».

Патрыётам роднага краю, усёй беларускай зямлі, улюбёным ў яе сучаснасць і мінулае, застаўся ў літаратуры І. Чыгрынаў.

*Таіса ГРАМАДЧАНКА*

# I

Ноч была з расой, ажно халодная, як у самую восень. Але ціша стаяла нязвычная — у наваколлі больш не чулася таго грукату і гулу матораў, што прынесла ў Забесяддзе вайна.

Астаткі 55-й дывізіі, якая ўваходзіла тады ў 13-ю армію, што абаранялася на Сажы паміж Прапойскам і Крычавам, без баёў пераправіліся цераз Бесядзь, невялікую раку на паўднёвым усходзе Беларусі, і адступілі на Стругаўскую Буду. У тым баку падрыхтаваны быў новы абараняльны рубеж: ажно ці не месяц бабы і хлопцы дапрызыўнага ўзросту ездзілі з Верамеек капаць акопы і супрацьтанкавы роў. Спярша было пачалі вазіць акопнікаў да Латокі — за мястэчка Бабінавічы, але прыехалі аднекуль вайскоўцы на «эмках» і загадалі спыніць работы. Тады акопнікаў пасадзілі на калгасныя машыны, якія яшчэ не паспелі рэквізаваць для арміі, і перавезлі за Стругаўскую Буду. Адтуль калгаснікі звычайна вярталіся ў Верамейкі праз тыдзень — змена за зменай, і бабы хваліліся, што калі на Сажы нашы і не затрымаюць немца, то ўжо далёка за Іпуць — гэта значыць за другі вялікі прыток Сажа — ён, няйначай, не пройдзе: там столькі наварочана аднае зямлі ды бярвення ў пясок пакладзена, што нават чорт сабе нагу пакалечыць. Але пакуль баі ішлі на Сажы, была надзея — а раптам немца сапраўды далей не пусцяць, і Верамейкі ўратуюцца ад бяды. Гаварылі таксама, што і ў тую вайну — у першую імперыялістычную — германец тут да Бесядзі не дайшоў. Але ў канцы ліпеня выбраліся ў бежанцы абозам бабінавіцкія яўрэі. А яшчэ праз тыдзень верамейкаўцы ўбачылі, як два трактары на гусенічным хаду павезлі па пясчаным бальшаку з Белае Гліны велізарную гармату: паасобку — ствол і лафет. Дальнабойная — ківалі галовамі мужыкі, а раз дальнабойную цягнуць з фронту, значыць, адступаюць. Людзі неяк адразу прыціхлі, пачалі закопваць у зямлю скарб, падалей ад чужога вока. У пачатку жніўня

старшыня калгаса Радзівон Чубар сабраў апошні агульны сход. З двух пасёлкаў — Мамонаўкі і Кулігаеўкі, якія таксама ўваходзілі ў верамейкаўскі калгас як адна брыгада, прыйшоў на сход толькі стары праўленец Сідар Раўнягін. Тады Чубар паслаў у Мамонаўку па аднарукага Баханька — з Крутагор'я, раённага цэнтра, пазванілі па тэлефоне, каб вярталі з поля апошніх калгасных кароў. Асноўны статак — паўтараста дойных кароў — пагналі з Верамеек раней. За пагоншчыкаў там былі намеснік старшыні калгаса Дзяніс Зазыба і двое калгаснікаў, якія па гадах яшчэ не падлягалі мабілізацыі, — Іван Хахол і Мікола Рацэеў. Апошніх кароў таксама трэба было гнаць у тым жа напрамку — праз Карачоў на Хатынічы. І калі аднарукі Баханёк пачуў, навошта яго выклікаў у Верамейкі старшыня, то доўга аднекваўся, нават паплакацца не пасаромеўся, але Чубар не адступіўся, і Баханёк мусіў збірацца ў дарогу. Выганялі статак у нядзелю, надвечар. Каровы нібы адчувалі, што наперадзе вельмі доўгі шлях, таму жаласна мычалі і, пакуль праганялі іх вуліцай, шыліся па дварах, абы адчынены былі ў каго вароты. Чубар сам памагаў вытурваць іх адтуль, пхаў прыкладам вінтоўкі, лаяўся і ўсё крычаў на баб, якія ўпрошвалі, каб пакінулі ў вёсцы хоць маладняк, — маўляў, яшчэ ж невядома, як яно будзе далей. Але Чубар ажно злаваў, кажучы, што ёсць указанне з раёна і што ён не мае права на свой одум пакідаць ворагу калгаснае дабро. Нарэшце статак апынуўся за коўратамі, і Баханёк, ляскаючы пугай, пагнаў яго па дарозе на Гутку.

А яшчэ праз пару дзён у вёску вярнуўся Дзяніс Зазыба. Івана Хахла і Міколы Рацэева з ім не было: тыя падаліся на прызыўны пункт у Хатынічах.

Зазыба вярнуўся ў вёску ахлялы — напіўшыся па дарозе ў Верамейкі халоднай вады, ён падхапіў гарлянку. І калі ў хату да яго прыйшоў старшыня калгаса, гаспадар ляжаў на шырокім драўляным ложку. Выгляд у яго быў як зачаўраны.

Чубар паставіў у кут вінтоўку, знарок голасна спытаў:

— Ну як там?

Зазыбава жонка Марфа папраўіла на мужавых нагах коўдру і ціха выйшла з хаты: яна і раней заўсёды выходзіла, калі Чубар бываў у іх.

— Кароў здалі. Распіска з пячаткай во-он на стале. Толькі сам от… — Зазыба вінавата паглядзеў на Чубара. — Але ж неяк ачуняю. Не першы раз. Яна заўсёды мяне во так, гэта гарлянка, бытта ліхаманка, выпетрывае ўсяго.

Чубар прайшоўся па хаце — мужчына ён быў дужы, пудоў на шэсць, і масніцы, рассохлыя за лета, запішчалі пад яго нагамі.

— Але доўга нешта вы там, — плюснуў Чубар прыжмуранымі ад бяссонніцы вачамі.

— Дак… як справіліся…

Тады Чубар сказаў, але ўжо нібыта ў злосці:

— На шапачны разбор, лічы, прыйшоў!..

Зазыба пацёр левай далонню кончык шырокага носа, наморшчыў няголены твар:

— Ты б сеў, Антонавіч…

Чубар паслухаўся і адышоўся да ўслона, прыстаўленага да сцяны. Але сеў бокам, нібыта толькі з тым, каб глядзець праз акно на вуліцу, і Зазыбу было відаць яго патыліцу і левае вуха.

Нейкі час старшыня маўчаў.

— Не разумею, — нарэшце паціснуў ён плячамі, — чаму ты не застаўся там? Усе бягуць як падалей адсюль, у тыл, а ты раптам?

— Я, Антонавіч, за гэты час, як ішоў сюды, паглядзеў трохі і на людзей і на свет. Дак адны і праўда, як ты кажаш, бягуць, а другія дак і не думаюць. Так яно і з Верамеек, здаецца ж, ніхто не пабег?

— Ну і што? — нібыта не зразумеў Чубар. — Але ты калгаснікаў не раўняй з намі. Калгасам жа кіравалі мы з табой. Ці, можа, забыўся?

— Не, пра гэта я не забыўся, — усміхнуўся Зазыба.

— Дык няма чаго тады пустое гаварыць! А можа, ты спадзяешся і з новай уладай паладзіць? Што ні кажы, і сам як бы пацярпеў, і сын твой…

Зазыба пасунуў да сцяны падушку, сеў: ён раптам адчуў, як пачало не хапаць яму паветра.

— Ну от што!.. Ты гэта!.. — адно здолеў вымавіць ён.

Да Зазыбы вярталася непрыемнае пачуццё, якое

ўзнікла гадоў колькі, пасля арышту Масея. З'явілася яно тады не таму, што раптам знялі са старшынь яго, Зазыбу, а паставілі Чубара. Якраз гэта Зазыба перажываў без асаблівага надлому, можа, нават таму, што няшчасце, якое здарылася з сынам, завалодала яго істотай, узяло верх над усім, і не было як думаць пра асабістую крыўду. Тым больш што Зазыба лічыў — ды і не адзін ён, — што з ім яшчэ абышліся не дужа крута: не даў у крыўду сакратар райкома партыі Пракоп Маштакоў. Да таго ж і наверсе было ўлічана мінулае — Грамадзянская вайна і амаль васьмігадовае старшынства ў калгасе. І вось у той пакутлівы час Чубар нібыта ўшыўся ў сабачую скуру і кожны раз не мінаў сыпануць солі на жывую рану — папікаў разам з іншымі Зазы-

бу за «блізарукасць». Тады Зазыба, здаецца, разумеў Чубара: чалавек проста не хацеў, каб гісторыя са старшынёвым сынам нейкім чынам закранула і яго. Зазыба перамог пачуцці і сказаў зусім памяркоўна:

— Яшчэ зарана нам чубы дзяліць, старшыня.

Чубар падняўся з услона, памаўчаў натужна, пасля пачаў гаварыць хутка, быццам ужо не хапала на астатняе часу:

— Ты, Зазыба, паляжы трохі, раз ужо так выйшла, што захварэў, а тады ўставай. А то я адзін. Збіўся з ног. — І голас Чубара загучаў як стомлены: —Але ты не бойся, цяпер клопату паменела. Астатніх кароў мы таксама пагналі, мог нават сустрэць Баханька недзе, калі ішоў. Ужо за Клінцамі сёння будзе, калі ўсё добра.

Тады спытаў Зазыба:

— Кароў да аднае пагналі?

— А ты думаў, тут пакінем? Зазыба паляжаў і зноў спытаў:

— Неяк Марфа мая казала, што ў Палагі Харытонавай карова падавілася бульбінай, дак ці даў ты ёй карову?

— Не.

— А Баханьку? У яго ж старая, да і ялаўка ў гэтым годзе. Калі па-справядліваму, дак і яму варта было б замяніць яе.

— Надумаліся калі мяняць!..

— А ён, помніш, прасіў даўно, яшчэ ў маі пісаў на праўленне.

Чубар паморшчыўся, як ад прыкрасці.

— Дарэмна, — сказаў Зазыба. Гэта нечакана ўзбурыла Чубара:

— Але ж мы не павінны за кошт калгаснага статка папаўняць прыватны сектар!

— Пры чым тута прыватны сектар? — заварушыўся на ложку Зазыба. — Калі ў калгасніка няма каровы, дак хто яму паможа, як не мы?

— Ты быццам забыў, што ўжо амаль два месяцы вайна ідзе. Ці ты, можа, назнарок усё гэта гаворыш? Таго і глядзі, што заўтра фашысты тут будуць. А ты пра карову. Яшчэ невядома, каму яна дастанецца. Хто мне гарантыю дасць, што да немцаў у кацёл не трапіць? — Чубар крутануў галавой. — Урэшце, я выконваў дырэктыву. Ай не чуў выступленне таварыша Сталіна?

— Чаму ж, чуў, — спакойна адказаў Зазыба.

— А пра дырэктыву сээнка і цэк вэкэпэбэ ведаеш?

— Не, пра дырэктыву не ведаю.

— А нам чыталі. Сабралі ў райкоме і чыталі. Сам Маштакоў чытаў. Дык вось, каб ты не гаварыў абы-што. Там чорным па

белым сказана, няцяжка было запомніць: пры вымушаным, разумееш — пры вымушаным адыходзе часцей Чырвонай Арміі трэба не пакідаць праціўніку нічога. Калгасы павінны выганяць жывёлу, а хлеб здаваць пад ахоўнасць дзяржаўных органаў. А тая маёмасць, якую нельга вывезці, павінна, безумоўна, знішчацца. Знішчацца, разумееш? Каб не пакінуць ворагу. Адну спустошаную зямлю трэба пакідаць. Адну спустошаную зямлю!

— А людзей? — хмура спытаў Зазыба.

— Што людзей?

— А тое, што людзі ж застаюцца на гэтай зямлі. Ім жа есці патрэбна нешта будзе?

— А хто іх прымушае заставацца? Той, хто па-сапраўднаму любіў савецкую ўладу, не будзе сядзець. Той ужо даўно зняўся з месца і паехаў.

Зазыба ад хвалявання намацаў за спіной падушку, узяў яе аберуч і, прыціскаючы нечага да жывата, сказаў:

— Добра, тады давай па-другому гаварыць. Ты от кажаш — той, хто любіў савецкую ўладу, не застанецца. Няхай так. А як, па-твойму, — нашы верамейкаўскія бабы не любілі яе, што нікуды не падаюцца?

— Я ім у душы не лазіў!

— А варта было б. А то ты больш пад спадніцы ім лазіў.

Чубару такая гаворка не падабалася, асабліва апошнія Зазыбавы словы абуралі, але адказаць што ён не знайшоў, адно сцяў зубы.

Тым часам Зазыба не пераставаў даводзіць:

— І яшчэ я табе скажу, Чубар, а ты ўжо як хочаш — хочаш слухай, а хочаш не. Але я яшчэ ў тую германскую чуў, як Панаська гаварыў. Быў у нас такі чалавек, да калгасаў памёр. Ты яго не заспеў. Дак от Панаська нават тады гаварыў: хто з роднае зямлі ўцякае, той ворага не перамагае.

Чубар разумеў, што Зазыба гэтым вінаваціў не асабіста яго, таму зноў пачаў пярэчыць:

— Гэта ўжо не тваёй галавы справа. Мы з табой людзі маленькія.

— Але ж думаць нікому не забаронена.

— Чым глупства гаварыць, дык лепей ужо не думаць, — як адсек Чубар. — Адным словам, хопіць ляжаць, прыходзь заўтра ў кантору. Раз лічышся ў калгасе намеснікам, то адказваць таксама рыхтуйся. Не ў аднаго мяне шыя ёсць.

— От гэта правільна, — усміхнуўся Зазыба. — Так бы і гаварыў.

Чубар адвярнуўся да акна, загаварыў, стоячы спіной да Зазыбы:

— Я цябе ўвяду ў курс. Ведай — у засеках у нас пуста. Здалі ўсё —і пшаніцу, якая была, і грэчку. За гэта я спакойны. Гэта ўжо, здаецца, фашыстам не дастанецца. А цяпер пра тое, што ў полі стаіць… Адным словам, гэта ўжо будзе твой клопат. Раз ёсць дырэктыва, трэба выконваць яе.

Чубар не стаў бавіцца ў хаце. Пасля гэтых слоў ён узяў з кута сваю вінтоўку, павесіў на плячо і, як раззлаваны, падаўся за парог.

Кажуць, ад чужых слоў галава не баліць. Але Зазыбу, пасля размовы са старшынёй, не на жарты занепакоілася. У душы пасяліўся страх — было такое адчуванне, нібыта па вёсцы хадзіў хто з гарачай галаўнёй.

На другі дзень Зазыба пайшоў у калгасную кантору, якая стаяла наводдаль ад вёскі, побач з будынкам сельсавета, але Чубара там не было; стары Ціток, калгасны і сельсавецкі вартаўнік і даглядчык выязных коней, сказаў Зазыбу, што нехта бачыў, як старшыня калгаса падаўся па бальшаку на Белую Гліну. Гэта здарылася тады, як праз вёску прайшлі на Г'утку невялікай калонай ці не апошнія чырвонаармейцы, што прыкрывалі на Сажы адыход сваіх.

Тым часам у Бабінавічах — за сем кіламетраў ад Верамеек — ужо былі немцы.

Як ні дзіўна, але перш гэтая вестка прыйшла ў Верамейкі з Зазыбам.

Не паспеў Зазыба вярнуцца з калгаснай канторы, як з Кулігаеўкі па яго прыбегла ўнучка Сідара Раўнягіна.

— Дзед казаў, штоб вы да нас ішлі, — сказала яна.

— А што ў вас, вяселле? — ажно не паверыў Зазыба.

— Не ведаю, — сумелася дзяўчынка, — толькі дзед казаў, штоб вы прыйшлі.

Зазыба прыкінуў — Раўнягін нездарма пасылае па яго ў такі час дзяўчо.

— Ладна, — кінуў ён, — скажы дзеду свайму, што хутка прыйду.

Неўзабаве Зазыба накінуў на плечы ватоўку і пашыбаваў па загароддзі ў Кулігаеўку.

На два пасёлкі — Мамонаўку і Кулігаеўку — было пятнаццаць двароў. Пасёлкі гэтыя выраслі ў дваццатыя гады, у час так званай «прышчэпаўшчыны». Верамейкаўскім мужыкам, асабліва спярша братам Раўнягіным, Сідару і Ігнату, таксама

захацелася «культурна пагаспадарыць», і яны нагледзелі сабе пад сялібу Кулігаеўку — урочышча, дзе пры панах на беразе звычайнай рачулкі-сморкаўкі была паказная стайня. Праўда, урочышча тое, пакуль людзі раскашавалі пасля рэвалюцыі з зямлёй, пабралася глушынай, але акалічнасць гэтая не стала прычынай для двухжыльных братоў, і ўжо недзе пад восень на беразе Кулігаеўкі задымілі коміны хат, перавезеных з Верамеек. Праз год у Кулігаеўцы хат паболела — стала шэсць. У Мамонаўку тым часам пераехалі з Верамеек Даніла Райцаў і Васіль Храмянкоў. Здаецца, год ці два ў Верамейках пацвельваліся з навасёлаў, але не доўга: вельмі хутка абжыліся там былыя верамейкаўскія мужыкі — і хаты ўжо ў іх былі не саломаю крыты, а гонтай. Сідар, малодшы з братоў Раўнягіных, грамату з Мінска атрымаў, як культурны гаспадар. Калі паўсюды ствараліся калгасы, мамонаўцы і кулігаеўцы таксама вырашылі арганізавацца ў арцель. Але праз некалькі год у раённым цэнтры нечага палічылі, што пятнаццаць гаспадарак — гэта яшчэ не калгас, і прапанавалі мамонаўцам і кулігаеўцам далучыцца да Верамеек. Затое па-ранейшаму туды з вялікай ахвотай наведвалася featureчальства: там табе і лазня з венікам — кожны гаспадар меў сваю, і рыба — возера непадалёку, і дзічына — лес побач. Можа, таму і не бурылі пасёлкаў, не звозілі назад у Верамейкі.

Да Кулігаеўкі было кіламетра паўтара, і Зазыба дабраўся хутка, нават не думаў, што на такое здатны пры хваробе. За паваротам, адкуль выступалі стрэхі кулігаеўскіх хат, яго перастрэў Сідар Раўнягін. Высокі і пляшывы, Сідар ступіў на сцежку з альхоўніку, парукаўся і сказаў:

— А мы думалі, што па цябе давядзецца ехаць.

Зазыба ўскінуў вочы, спытаў:

— Што ў цябе там?

— Пабачыш сам. — Сідар усміхнуўся і, цяжка стаўляючы раматусныя ногі, павёў Зазыбу ў пасёлак.

«Можа, Чубар заве? — падумаў нечага Зазыба. — Але чаму тады такая патаемнасць?» Зазыбу не хацелася зноў лаяцца з Чубарам: урэшце, нельга ўсё зводзіць да неразумнай мудрасці — абы месяц свяціў, а зоркі — як хочуць. Аднак непакоіўся ён дарэмна. Каля Сідаравай хаты, пад дубамі-сталеткамі, стаяў грузавік, у якім нерухома, як вылепленыя з воску, сядзелі на лаўках чырвонаармейцы, трымаючы паміж каленяў вінтоўкі з прымкнёнымі штыкамі. У хаце Зазыбу чакалі сакратар райкома партыі Пракоп Маштакоў і незнаёмы вайсковец з дзвюма шпаламі на пятліцах. Маштакоў адразу падняўся з-за стала, на

якім да гэтага разглядаў карту, падаўся насустрач. А Зазыба ад неспадзяванай сустрэчы ажно затрымаўся ў парозе, і пакуль Маштакоў нёс праз хату сваё атлусцелае, нягнуткае ў паясніцы цела, паспеў заўважыць, што той за паўгода, якія яны не бачыліся, вельмі змяніўся. Можа, вінавата была паўвайсковая форма — зялёная дыяганалевая гімнасцёрка, падпяразаная шырокім камандзірскім рэменем, але твар, заўсёды па-мужчынску дагледжаны, таксама нібыта страціў ранейшы выгляд, здаўся Зазыбу надта азызлым, нават васкаватым; пад вачамі ў сакратара райкома былі сінія пухліны.

Маштакоў абняў Зазыбу за плечы, павёў да стала.

— Знаёмся з таварышам, — паказаў ён на вайскоўца.

Вайсковец выпрастаўся, падаў Зазыбу руку, але не назваўся.

Маштакоў глядзеў на Зазыбу з радасцю, якую ён не толькі не мог схаваць, але і не збіраўся гэта рабіць.

— Вельмі добра, што ты прыйшоў, — кладучы рукі далонямі на стол, сказаў Маштакоў. — Сядай і расказвай. — Ён пачакаў, пакуль Зазыба ўсаджваўся на табурэт з прапілаванай шчылінай, а тады спытаў: — Як справы ў вас, у Верамейках?

— Ці ж гэта справы? — чамусьці гледзячы на вайскоўца, адказаў Зазыба. — Я каторы дзень валяюся на ложку…

— Што так?

— Гарлянка замучыла, — сказаў Зазыба.

— Паганая гэта хвароба, — паківаў Маштакоў. — Здаецца, так сабе, глупства для мужыка, а бойся, як самае горшае. Брат мой некалі хварэў, дык я таксама ведаю.

Вайсковец пры гэтым чамусьці ўсміхнуўся як сілячыся.

Тады Маштакоў спытаў:

— А Чубар дзе?

— Не ведаю, — адказаў Зазыба, але дадаў: — Казалі ў вёсцы, што нібыта падаўся па бальшаку, можа, да вас, у Крутагор’е.

Маштакова Зазыбавы словы насцярожылі. Але працягваў ён гаворку зусім пра другое:

— Ну, што кароў калгасных не пакінулі ў вёсцы, пра гэта я ведаю, збожжа, мабыць, таксама не засталося? — Маштакоў паглядзеў на Зазыбу. — А як з новым хлебам?

— Не ведаю, — адказаў Зазыба, — яшчэ ж на полі ўвесь, у каласках. — І чамусьці апусціў вочы на бліскучыя халявы маўклівага вайскоўца, якія ляжалі пад сталом на суножцы.

— У Бабінавічах ужо немцы, — сказаў Маштакоў. — У Крутагор’і таксама…

— З учарашняга дня, — дадаў вайсковец.

— Увесь дзень трымалі, — сказаў Маштакоў, — а к вечару здалі.

— Але ж Чубар пайшоў туды, — нібы спахапіўся Зазыба.

— Вашага Чубара не зразумееш, — сказаў незадаволеным голасам Маштакоў. — Калі яго клікалі на важную справу, ён, па даваеннай звычцы, недзе хаваўся, а цяпер… — Ён пастаяў трохі з задуманым тварам, пасля кіўнуў галавой на карту: — Адным словам, раён наш ужо заняты праціўнікам!

Тады гаворку ўзяў на сябе вайсковец:

— Вольным застаецца пакуль адзін сектар, вось гэты. — Ён тыцнуў указальным пальцам у невялікі чырвоны кружок. Крутагор'е, ад якога адыходзілі пад вуглом, бадай, у сорак пяць градусаў дзве тлустыя лініі, праведзеныя сінім алоўкам. — Як бачыце, Верамейкі вашы трапляюць у гэты сектар.

— Мы гэта для яснасці табе, каб ведаў, — сказаў Маштакоў. — Мяркуй сам, калі не сёння, то заўтра фашысты ў Верамейках будуць. Ад Бабінавічаў да вас ім ужо недалёка. Тым больш што нашых войск каля Бесядзі няма.

Зазыба слухаў, адчуваючы, як скура на твары рабілася нерухомай і зусім нячутнай, быццам адлівала кроў.

Маштакоў паглядзеў на Зазыбу, спытаў амаль у вочы:

— Ты вось пра што скажы мне, Дзяніс Яўменавіч, як ты да савецкай улады — не перамяніўся?

Зазыба таксама падняў вочы на сакратара райкома, бо не зразумеў таго.

— Ты абавязкова павінен сказаць пра гэта, — стаяў на сваім Маштакоў, — бо я не так сабе…

Зазыба падумаў, што адказу яго чакаў не столькі Маштакоў, колькі вайсковец, таму сказаў без пакрыўджанасці, проста і шчыра, з усведамленнем усёй важнасці слоў:

— Не, не перамяніўся.

— Іншага я ад цябе і не думаў пачуць, — усміхнуўся задаволены Маштакоў. — Але даруй, гаворка цяпер паміж намі ідзе большая, чым звычайны давер. Мы вось параіліся з таварышам маёрам і вырашылі звярнуцца да цябе. Чалавек ты надзейны, гэта я ведаю. Мы тут надумаліся зрабіць адну справу.

Маштакоў перавёў позірк на вайскоўца. Той кіўнуў галавой.

— Трэба ўладкаваць у Бабінавічах аднаго чалавека, — дагаварыў Маштакоў.

Тады вайсковец спытаў:

— У вас там знаёмыя ёсць?

Зазыба прыкінуў у галаве, але адказаць не паспеў.

Вайсковец удакладніў:

— Ну такія, каб як свае былі?

— Ёсць, — нарэшце адказаў Зазыба.

— Ну вось і добра, — з палёгкаю ў голасе сказаў Маштакоў. — Можна клікаць у хату Марылю, — паглядзеў ён на вайскоўца.

Той адразу ж устаў з-за стала і рушыў да парога. Калі ў хаце засталіся Маштакоў і Зазыба, сакратар райкома паклаў на Зазыбава плячо руку:

— Цяжка?

— Да й не лёгка.

— Усім цяпер цяжка, Дзяніс. Але неяк адужаем. Не можа быць, каб не адужалі. Прыйдзе час, возьмем фашыста за горла.

— Дак трэба… Маштакоў падумаў і спытаў:

— Можа, у цябе што ёсць і да мяне?

— Ёсць.

— Тады гавары, а то часу ў нас мала.

— Спытаць хачу.

— Давай.

— Ты от гаварыў пра новы хлеб. Дак… Адным словам, сам ведаеш, жніво яшчэ не пачыналі ў калгасе, але ж скора пачынаць мусім. Дак што тады рабіць са збожжам? Чубар гаварыў пра нейкую дырэктыву, бытта ў райкоме ты чытаў актыву.

— Мы сапраўды знаёмілі раённы актыў з дырэктывай Савета Народных Камісараў і Цэнтральнага Камітэта партыі ад дваццаць дзевятага чэрвеня.

— Ну от… Дык я Чубара зразумеў так, што па ёй усё падлягае знішчэнню.

— Правільна. Але ж ты сам кажаш, што жніво не пачыналі. Значыць, хлеба яшчэ няма.

— Аднак жа будзе!

— Дзіва што будзе, — кіўнуў галавой Маштакоў.

— Чубар казаў, каб пасевы… Маштакоў прайшоўся па хаце.

— М-да, — сказаў ён праз нейкі момант, — кругом нам задаў фашыст задачу. Затрымайся на Сажы фронт яшчэ на два тыдні — хоць пра гэта галава не балела б. Са жнівом паспелі б. А цяпер збажына стаіць у полі быццам назнарок. Давядзецца неяк выкручвацца. Фашыстам і сапраўды нельга нашага хлеба аддаваць. Ён яшчэ самім спатрэбіцца.

— Я так думаю…

Але дагаварыць ім не далі: адчыніліся дзверы, і ў хату разам з вайскоўцам, які прыгінаў галаву, калі пераступаў парог, зайшла

дзяўчына. Яна была прыгожая, усё ў ёй — і пастава, якую зграбна аблягала летняя, з дробнаю клеткай сукенка, і ногі з нібыта вытачанымі лыткамі, і спакойныя, аголеныя да плячэй рукі, і чорныя вочы, якія на першы погляд здаваліся трохі касаватымі, але ніколькі не псавалі маладога твару, — прываблівала вока. Зазыба ажно паглядзеў на Маштакова, быццам не паверыў, што менавіта яе давядзецца ўладкоўваць у Бабінавічах.

— Так, гэта і ёсць той чалавек, — сказаў вайсковец. — Завуць яе Марыляй. Гэта не сакрэт. Думаю, што вы самі пасля пазнаёміцеся.

У Верамейкі немцы чамусьці не спяшаліся, і непатрывожаная жнівеньская ноч усё’ кружыла над саламянымі стрэхамі стоенай вёскі, як зацяты птах. Амаль паўтараста двароў — па шнуравой кнізе дакладна сто сорак тры — патаналі ўначы, прыслоненыя да лесу, які ледзь не палохаў сваёй густой, нібыта чорная воўна, цемрай. Лес гэты ішоў сюды ад самае Бесядзі, што падзяляла мясцовасць на лясную і бязлесную. Да лясной належалі і Верамейкі. На тапаграфічнай карце двухсотгадовай даўнасці, якую адшукаў некалі ў старых кнігах Зазыбаў Масей, Верамейкі яшчэ не значыліся. Тады наогул усё гэтае Забесяддзе ляжала нечапанае, адна пракаветная пушча ды азёры пасярод балот, якія непрыкметна, год за годам, зацягвалі іх купінай; следам наступаў лес, спускаючыся з сухіх выспаў, — спярша чэзлыя сосенкі, якія гнала ў адну балоніну і якія доўга не маглі прастаяць на багне (пад купінамі была вада), але паступова балота храсла, высыхала, і на ім выраслі магутныя хвоі. Па правы бок Бесядзі тым часам ужо гаманілі Бабінавічы, якія пасля, калі распрадавалі ў тутэйшых мясцінах каронныя землі, пачалі называцца мястэчкам. Уласна, гэта было самае вялікае паселішча на ўсю акругу. Адсюль набіраў сваё войска і Васіль Вашчыла, калі ўзбунтаваў супраць арандатара Гдалія, а разам з ім і супраць князя Радзівіла Крычаўскае староства. Паўстанне, як вядома з пісанай гісторыі, было падаўлена. Сам Вашчыла схаваўся недзе на адной з парубежных застаў, што стаялі тады кіламетраў за сорак ад Бесядзі. Паміж Сожам і Бесяддзю лютавала радзівілаўская «экспедыцыя». Былыя паўстанцы ратаваліся хто дзе, а больш падаваліся за Бесядзь — падалей ад кары і бліжэй да рускіх застаў. Адна за адной там узнікалі лясныя вёскі. Якраз тады і пачаліся за чатыры кіламетры ад Бесядзі Верамейкі. Заснаваў іх бабінавіцкі каваль Верамей, паплечнік Вашчылавага атамана Ветра, што з Канічаў. З кавалём за Бесядзь падаўся і ягоны брат

Сенька, які, мусіць, таксама паваяваў з палякамі. Мясцовае паданне не захавала большых падрабязнасцей пра братоў, але ў Верамейках усё роўна ведалі, дзе была пастаўлена першая хата: на беразе ручая, што цёк у возера, якое хаваў сабою лес… Дык вось, было гэта дзвесце гадоў таму назад. Але за два стагоддзі ўсё перайначылася тут. Галоўнае — вырасла цэлая вёска. Цяпер яна ляжала амаль падковай вакол таго возера і займала — вядома, без ворнай зямлі — ці не два кіламетры ўзлобкаў і выспаў, што некалі нельга было нават угледзець за дрэвамі.

…Зазыба ўначы надзеты быў, як у дарогу: на ім была ватоўка, якую ён ужо не скідаў пасля вяртання з Кулігаеўкі, і наваксаваныя боты — на выпадак, калі б раптам давялося падавацца куды з вёскі. Туліўся ён на ўслоне, паклаўшы галаву на кажух.

Адольвалі думкі. Ён перабраў ужо нямала іх у сваёй галаве, а заставалася яшчэ больш.

Амаль чатыры перадваенныя гады — пасля арышту Масея — ён пражыў як у тлуме. І таму шмат з таго, што адбывалася вакол, проста не заўважаў. Яго нібыта абыходзіла ўсё. І вось загрукатала вайна. Але і яна спачатку вялікага страху не нагнала. Урэшце, калі гаварыць як на духу, то мала хто з разумных людзей верыў у тое, што пісалі апошні час пра яе, асабліва пасля трыццаць дзевятага года, як немцы сталі на той бок дзяржаўнай граніцы. Разумелі нават недасведчаныя, што падышлі яны блізка не так сабе. Але перад вайной выйшлі з тасаўскім абвяржэннем газеты, дзе зноў нібыта пераконвалі «няверуючых», што Германія «таксама няўхільна захоўвае ўмовы савецка-германскага пакта аб ненападзе, як і Савецкі Саюз…». Пасля, праўда, некаторыя тлумачылі, што рабілася ўсё, маўляў, дзеля вялікай палітыкі ці, як казаў стары Ціток, дзеля міжнароднага этыкету. Аднак жа здавён лічылася: дзе многа этыкету, там небагата шчырасці, бо ад сабак, апрача блох, нічога не набярэшся. А фашысты — тыя ж сабакі. Пра гэта ведалі ўсе, у тым ліку і Зазыба, хоць ён і разумеў таксама, што ў палітыцы не кожны раз расход з барышом на адным полазе едуць. Па дарозе, пакуль Зазыба дабіраўся ў Верамейкі з Хатынічаў, ён наслухаўся рознага. У людзей нібы языкі развязаліся. Нават часам здавалася, што гаварылі цяпер амаль адно і прытоеныя зласліўцы, калі не ворагі, якія сапраўды чакалі прыходу фашыстаў, і людзі сумленныя, якіх хвалявала і непакоіла тое, што рабілася ў краіне. Але ва ўсёй гэтай гаварні, справядлівай і несправядлівай, было нешта такое, што прымушала задумвацца: можа, не ўсё варта было браць напавер. Хадзілі, напрыклад, чуткі, што па загаду Сталіна ўжо расстраляны каля

Віцебска генералы, якія не толькі не падрыхтаваліся як след да вайны з фашыстамі, але і ўтаілі ад яго праўду: пабаяліся за сябе. Тым часам гаварылі і другое, маўляў, вінаваты… Сталін — значыць, бацька не бацька, раз сыны нядбайныя… Некалі Зазыбу дужа злавала, калі бацька, Яўмен Зазыба, пытаўся: «Чаму твой Сталін ходзіць у ботах? Маўчыш? А чаму тады Ленін не насіў іх? А я ведаю, бо Сталін усё наравіць напрасткі пайсці, яму і балота не перашкода, а Ленін гэтак не рабіў, таму і было пры ім па-іншаму». Вядома, Зазыбаў бацька быў чалавек цёмны і жыў у адных забабонах, але насуперак усяму, што было разумнага, нават баючыся прызнацца сабе, Зазыба і сам пастунова як не гатовы быў глядзець на чалавека, якога мільёны людзей лічылі за вялікага правадыра, праз акуляры «прытчы пра боты», асабліва пасля таго, як засудзілі Масея. І, вядома, не таму, што Масеева няшчасце абярнулася бацькавай ганьбай: Зазыба надзвычай добра ведаў свайго сына, каб паверыць — тут, як кажуць, хоць голаў на кол.

Але пра Масея нагадаў яму ў Кулігаеўцы нават незнаёмы вайсковец, калі Зазыба вёў Марылю з Сідаравай хаты.

— Вы ад сына свайго лісты атрымліваеце? — спытаў раптам вайсковец.

Зазыба ажно сцепануўся, уцяўшы галаву, і цяжка, нібы махавое кола, павярнуўся на хату: вайсковец стаяў, трымаючыся рукой за край стала, і не зводзіў вачэй з Зазыбы.

— Не, — ціха, як у задыху, адказаў Зазыба. — Ён асуджаны па семдзесят другой стацці, без права перапіскі.

Тады вайсковец усміхнуўся, нібы жадаючы падбадзёрыць чалавека, але ўсмешка яго была як змушаная.

— Можа, вы чулі пра яго? — зрабіў Зазыба крок наперад.

— Нават бачыць давялося.

— Даўно?

— Не дужа, — ужо зусім строга сказаў вайсковец. — Але вы не хвалюйцеся, у яго ўсё добра.

Тады Зазыба ў сваёй неспадзяванай, але недаверлівай радасці паглядзеў на Маштакова і адразу панікнуў: сакратар райкома, нібы стыдаючыся чаго, плюскаў вачамі, спяшаючыся адвесці іх убок.

«Маніць! — са злосцю і душэўным болем падумаў Зазыба пра вайскоўца. — Нідзе ён Масея не бачыў!..» І пакуль вёў з Кулігаеўкі Марылю, усё не мог суняць хвалявання.

Ахалодаў ён ужо ў Верамейках — крыўда прайшла, і цяпер Зазыба ўспамінаў пра тую размову ў Сідаравай хаце як пра

нешта вартае спагады: да чаго можа давесці чалавека пачуццё перасцярогі, выклiканае не столькi бояззю за даручаную справу, колькi недаверлiвасцю. Тым не менш на душы ў Зазыбы было прыкра, хоць ён i добра ведаў, што розуму ў чужую галаву лапатай не накладзеш. Адзiн момант ён нават хацеў расказаць пра сваю гаворку з вайскоўцам Марфе, але стрымаўся, пашкадаваў турбаваць яе, бо ведаў, як тая можа ўпасцi ў роспач. Марфа таксама цяпер не спала, яна ляжала на тапчане, што быў памiж сцяной i печчу, накрыўшы ногi дзяругай. Было чуваць, як яна варушылася часам i ўздыхала, але зусiм цiха, нiбыта баялася патрывожыць нечы спакой.

Марыля начавала на другой палавiне хаты, за фiлёнкавымi дзвярамi.

Не спадзяваўся Зазыба, але раптам адолеў i яго сон — згубiлася недзе, як у бары рэха, неспакойная думка, i вочы, што стаялi слупом, перасталi гарэць сухiм агнём. Здаецца, даўно ўжо прыходзiлi да яго сны, можа, нават таму, што на старасць падалося, аднак сёння раптам пачало вяртацца якраз тое, што, бадай, i не ўспамiналася ўжо… Ён бачыў, як ехалi з бацькам па дубовыя штандары ў раскосы, вярсты за чатыры ад вёскi: тады задумалi яны перасыпаць сваю хату. Дрэва — дуб — для штандараў бацька нагледзеў загадзя, нават згаварыўся з леснiком, i яны неўзабаве пачалi пiлаваць яго без асаблiвай перасцярогi. Тырса, што сыпалася з дубовай прарэзiны, была цёплая i мяккая, i Дзянiс, тады яшчэ падлетак, зграбаў яе са свайго лапця i, пакуль бацька падбiваў абухом клiн, каб не зацiснула пiлу, прасейваў памiж пальцаў, паглядаючы ўгору — калi будзе падаць дрэва? Але тое стаяла сабе i нават не трымцела. Пiла тым часам не шкадавала яго, усё глыбей уразалася ў моцную, як косць, балонiну. Дуб пражыў у лесе гадоў трыста, не меней. Пра гэта сказаў Дзянiсу бацька. I яшчэ бацька папярэдзiў: «Баронь Бог, не адбягай нiкуды, як затрашчыць. Стой на месцы». Але Дзянiс, калi пахiлiлася дрэва, забыўся на бацькаву параду. Пабег якраз у той бок, куды мелася бабахнуцца дрэва. Уратавала хлопца, што дрэва расло вiлаватае: калi яно гахнулася на зямлю, Дзянiс апынуўся памiж сукоў. Вядома, страху ды болек набраўся. Але больш дасталося бацьку — той, як прыехалi з раскосаў, праляжаў ажно некалькi тыдняў у хваробе, бо не вытрымалi нервы. I вось цяпер Зазыбу нечага прыснiўся той страшны выпадак, i ён зноў спалохана бег па раскосах, чуючы над сабой трэск дрэва. Аднак гэты раз беглася чамусьцi не так прытка, i наогул усё рабiлася быццам назнарок: Дзянiс, ужо дарослы, як на сённяшнi дзень,

адно коўзаўся па мокрай траве, а дрэва ўсё нахілялася над ім, пагражала raструшчыць… Пабудзіла Зазыбу Марфа.

— Немцы! —трывожна шапнула яна.

Зазыба кінуў з услона ногі, прахапіўся, як і не спаў.

— Дзе?

— Паслухай…

Каб не выдаць сябе, Зазыба асцярожна штурхнуў акно. Адна аканіца падалася на вуліцу, у твар дыхнула сцюдзёнасцю і пахамі позняга лета, але вуха нічога не лавіла.

Тады Зазыба пасунуў наперад другую аканіцу, вылез па плечы вонкі. Але і цяпер нічога не чуваць было — ні аднаго гуку.

— Папрышчылася табе, — сказаў ён жонцы амаль на ўвесь голас.

— Не, я бытта не спала, — не паверыла тая.

Зазыба яшчэ колькі хвілін павісеў на падаконніку, але якога-небудзь старонняга гуку і цяпер не пачуў — вёска па-ранейшаму была стоеная.

І тады за дварамі ў аўсе, быццам не аготаўшыся ад чаго, свіснула раз ды другі перапёлка:

— Піць!.. Піць!..

Спярша Зазыба нават не падумаў, што гэта падала голас перапёлка.

Але вось пачулася больш выразнае і поўнае:

— Піць-піль-віць… Піць-піль-віць… Піць-піль-віць, — і тады Зазыбу ажно заманулася паслухаць чутачку.

— Піць-піль-віць…

Але ж сёлета ці не запознены спеў яе?

— Піць-піль-віць…

Зазыба падумаў так і нібыта з падманутым пачуццём памкнуўся зачыніць акно. Але дакрануўся рукой адно да аканіцы. Нешта як стрымлівала пацягнуць яе на сябе. Можа, самы перапёлчын голас.

— Піць-піль-віць… Піць-піль-віць…

У ім не было тае ядранай і бесклапотнай зухаватасці, якая, быццам удар хлыстоўскі, ажно падсцёбвае часам і прыўзнімае настрой.

— Піць-піль-віць… Піць-піль-віць…

Сёння перапёлка, няйначай, плакала — ці то гняздзечка яе разбурыў хто, ці яшчэ якая бяда прымусіла агалошваць тугой наваколле, але замест звычайнага спеву чуўся плач:

— Піць-піль-віць… Піць-піль-віць…

Зазыба нарэшце адчуў гэта, і ў галаве ягонай узнікла пакутлівая думка: калі птушкі так плачуць са свайго гора, то як жа тады

павінны галасіць людзі, у якіх гора наогул бывае незраўнана больш, а цяпер дык і зусім цераз край?

Успомнілася:

Перапёлка, трасцяно гняздзечка,
залато яечка,
перапёлка!
Перапёлка, пастушкі пагоняць,
гняздзечка разбураць,
перапёлка!

— Ніякіх немцаў няма, — лагодна ўшчуваючы жонку, кінуў ён у цёмную хату і задыхаў на ўсе грудзі. — Табе і праўда нешта папрышчылася.

Але Марфа сама падышла да акна.

— Ат жа і праўда нічога не чутна, — згадзілася яна праз нейкі момант.

— А чаму раптам падумалася табе? — спытаў Зазыба.

— Да падалося, што машына прайшла.

— Дзе?

— Па вуліцы.

— Тады б яна і цяпер гула.

— А хто яе ведае…

Марфа пазяхнула, але адыходзіць ад акна не спяшалася.

— Кладзіся спаць, — параіў Зазыба, — а то заўтра будзеш совацца па двары. Да й дзеўку мы, відаць, пабудзілі?

— Яна маладая. Ёй спіцца. А цябе во дарэмна па дурноце сваёй падняла.

— Тае бяды, — махнуў рукой Зазыба.

Нарэшце Марфа пайшла зноў укладвацца на тапчан, а Зазыба застаўся сядзець на ўслоне — нечага дужа засвярбела галёнка ў боце, можа, таму, што запацела ў анучах. Ён пакутліва моршчыўся, ужо наважваючыся разуцца. І ў гэты час на вуліцы пачуліся раптам галасы. Зазыба хуценька прычыніў акно, а сам схаваўся за лутку. Галасы набліжаліся. Гаварылі па-руску. Як толькі Зазыба разабраў гэта, то паспакайнеў і перастаў хавацца, стаўшы насупраць акна.

Марфа таксама пачула галасы, падышла:

— Што там?

— Пачакай, — папярэдзіў Зазыба.

Нарэшце Зазыба ўбачыў дзве чалавечыя постаці. Тыя наблізіліся да хаты і запыніліся.

— Можа, гэта? — сказаў адзін голас.

— Калі цётка тая дакладна палічыла, — адказаў другі.

— Па левы бок?

— Здаецца, так.

— А як тут узысці на двор?

— Чорт яе ведае!

— Можа, тады залезці ў гародчык гэты ды паляпаць у шыбіну?

— Не, патопчам. Пад вокнамі заўсёды што-небудзь расце.

— Можа, выйсці да іх трэба, — падказала Зазыбу Марфа.

Але Зазыба не зварухнуўся.

Тым часам людзі падаліся да Зазыбавых варот, дзе па правы бок была фортка. Запораў на ёй адмысловых не было, адзін драўляны сабачка, што прыўзнімаўся аборкай у прасвідраваным вочку. На двор не цяжка было трапіць нават уначы. Як і трэба было чакаць, незнаёмыя людзі хутка справіліся з няхітрымі Зазыбавымі запорамі, узышлі на ганак. У хаце пачулася, як яны пачалі пацíху ляпаць клямкай. Зазыба выйшаў у сенцы. На ганку, мусіць, пачулі, як адчыніліся дзверы, таму перасталі ляпаць. Колькі часу знадворку маўчалі. Тады Зазыба знарок кашлянуў.

— Старшыня Савета тут жыве? — спыталі з ганка.

— Не.

— А хто вы? Старшыня калгаса?

— Не, я загадчык гаспадаркі.

— Мы чырвонаармейцы. Справа ў нас пільная.

Зазыба пачаў адчыняць дзверы — прывычна намацаў у цемнаце жалезную засаўку, шмаргануў яе ўправа, жалеза бразнула, і дзверы расчыніліся ледзь не напята, быццам на іх хто націснуў з таго боку. Чырвонаармейцы адступілі на крок, даючы дарогу гаспадару. Зазыба выйшаў на ганак, стаў паміж чырвонаармейцамі. Адзін з іх паднёс руку да шапкі, сказаў:

— Лейтэнант… — і назваў прозвішча, якое Зазыба не паспеў расслухаць: вочы ў чырвонаармейца блішчалі нават уначы.

— Дак якая справа тады да мяне? — спытаў Зазыба.

— Бензін трэба, — сказаў лейтэнант.

— Бензін? — перапытаў Зазыба.

— Так.

— Але ж ці ёсць ён? Мабыць, здалі разам з аўтамашынай. У нас палутарка была.

Лейтэнант зняў шапку.

— Але хто скажа — ёсць бензін у калгасе ці не? — спытаў ён больш настойліва.

Зазыба пацiснуў плячамі.

— Ну вось, а яшчэ заўхоз!.. — сказаў тады чырвонаармеец, які да гэтага маўчаў.

— Дак я таксама без году нядзеля тута, — пачаў апраўдвацца Зазыба. — Было адлучаўся надоўга з калгаса. Рабілася ўсё без мяне.

— Разумееце, у нас гаручае кончылася…

— Можа, тады спытаць у кладаўшчыцы? — няпэўна, як для самога сябе, сказаў Зазыба. — Гэта недалёка.

— Пакажыце, — адразу ўхапіўся лейтэнант.

Зазыба пастаяў трохі ў развазе, а тады ціха зачыніў дзверы і першы сышоў з ганка.

Кладаўшчыцай у калгасе была Ганна Карпілава, саламяная ўдава: у свае маладыя гады — не набрала яшчэ дваццаці пяці — яна мела двух дзяцей, так званых ветравічкоў-бязбацькавічаў. Хадзілі да яе і тутэйшыя, верамейкаўскія, мужыкі, і прыезджыя, асабліва розныя ўпаўнаважаныя, якія праседжвалі ў калгасе цэлымі тыднямі і якіх вадзілі да яе, па-вясковаму, як у гасцініцу, начаваць. Здаралася, што знаходзіліся і жаніхі ёй, якія сваталіся, здаецца, разы са тры. Але доўга не затрымліваліся ў яе хаце. Аднаго прымака, лесасплаўшчыка, яна прагнала сама — пабіла даёнкай за тое, што недзе бачылі яго са старэйшай Піліпчыкавай дачкой, астатнія ўцякалі па сваёй ахвоце: ці то харчы не падабаліся, ці то цягавітасці не хапала. Кладаўшчыцай Ганну паставіў ужо Чубар. Спярша ў Верамейках смяяліся з гэтага, а пасля перасталі: слабкая на передок, Ганна выйшла моцнай на галаву. За якія паўгода яна разгадала паперную мудрасць і стала нядрэннай кладаўшчыцай.

Калі Зазыба прывёў на яе двор чырвонаармейцаў, жанчына спала: па ёй хоць і пярун, абы міма. Будзілі кладаўшчыцу доўга, нарэшце дастукаліся. Ганна падышла да акна, пазнала Зазыбу. Але на парог выйшла босая і ў сподняй.

— Ну, што табе? — спытала яна недавольна Зазыбу.

— Бензін во таварышам камандзірам патрэбны.

Ганна паварушыла плячамі і сказала з гуллівым шкадаваннем:

— А я думала, жаніхоў прывёў!

— Табе абы!.. — хацеў паўшчуваць Зазыба.

Але Ганна гучна засмяялася.

— Дак няма бяльзіну, — сказала яна такім голасам, быццам да гэтага толькі марочыла галовы. — Каб раней, дак можна было б. А цяпер няма. Газы, праўда, ёсць трохі. У кладавой стаіць.

— Што гэта… газа? — спытаў лейтэнант Зазыбу.

— Па-вашаму — карасін, — растлумачыў той.

— А бензіну няма?

— Дак ні каліўка бяльзіну, — зноў чамусьці на ўсю моц засмяялася Ганна. — Увесь аддалі, як машыну калгасную здавалі.

Вайскоўцы пачалі аб нечым перамаўляцца між сабой.

Тады Зазыба выкарыстаў момант і цыкнуў на Ганну, як на нявестку:

— Пастыдалася б, голая выйшла!.. Ганна павяла плячамі, знарок сцепанулася.

— Накінула б на сябе што, — зноў буркнуў Зазыба.

Ганна прыціснула да гарачых бакоў сагнутыя ў локцях рукі і быццам з неахвотаю пайшла ў хату. Лейтэнант павярнуўся да Зазыбы.

— Матор у нас заглух, — сказаў ён. — Гаручага не хапіла. Думалі, у вас раздабудзем, а цяпер вось не ведаем, як быць.

— Каб быў, то не пашкадавалі б, — нібы апраўдваючыся, развёў рукамі Зазыба. — Каму-каму, а сваім не пашкадавалі б.

— А коні ў вас ёсць? — спытаў тады чырвонаармеец.

— Ёсць, — замест Зазыбы адказала Ганна, якая якраз вярнулася з хаты адзетая. — Праўда, ахрамелыя. Чырвонаармейскія. Нам іх пакінулі замест калгасных. І ўчора яшчэ траіх бралі. Але запрэгчы можна. Вядома, калі на начлег іх не павялі.

— Тады вось што, — сказаў Зазыбу лейтэнант, — вы нам пакажаце, дзе вашы коні, а яна, — ён кіўнуў на Ганну, — няхай прынясе керасін.

— Дык ета ж далёка ісці па яго! — устрывожылася Ганна.

— Што значыць далёка? — паглядзеў на яе лейтэнант.

— Да ажно ў самы канец вёскі! — сказала Ганна.

— А ты не ідзі вуліцай, — незалюбіў Зазыба, — ступай па загароддзю, дак бліжэй будзе.

— Буду я хадзіць уначы па загароддзі тваім!

— Палахлівая!..

— Ай палахлівая! Бяры сам ключы да ступай у кладавую!

— Ты, Ганна, не дуры, — строга сказаў Зазыба. — Я тама не ведаю, што і як шукаць у цябе.

— Знойдзеш, калі хота будзе. Размову іхнюю перапыніў лейтэнант.

— Тады няхай ён ідзе з ёй, — прапанаваў лейтэнант і паказаў на чырвонаармейца.

— З праважатым пайду! — засмяялася Ганна і перастала ўпарціцца. Яна вярнулася ў хату, каб наказаць нешта свайму большаму хлопчыку, а тады лёгка, быццам бязважкая, збегла

на пахаладалую зямлю па сходках невысокага, складзенага з драўляных круглякоў ганка.

— Вядзі, — гукнула яна чырвонаармейца. Ужо на вуліцы лейтэнант сказаў Зазыбу:

— Трэба хоць вывезці за вёску машыну, а то сталі пад вокнамі.

Коні былі на стайні, і Ганна дарэмна сказала, што іх маглі павесці на начлег — не да таго цяпер было. Коні стаялі на самым праходзе, паміж стойламі, і толькі аднавокая кабыла, якая нікому не патрэбна была, падышла да бакавых варот. Яна пачула людзей і ціха заржала. Зазыба ведаў калгасную стайню і таму без святла прайшоўся па ўсім праходзе.

— Што ў вас там, палутарка ці «ЗІС», — кінуў ён лейтэнанту.

— «Тэ-дваццаць шэсць».

— Што? — не зразумеў Зазыба.

— Танкетка.

— А-а-а, вон што! Тады пачакайце. — Зазыба схадзіў у трысценак, прыбудаваны да стайні, вынес адтуль хамуты з доўгімі сырамятнымі пастронкамі і пачаў брытаць коні.

Тым часам у самым канцы вёскі гаварылі паміж сабой яшчэ два чалавекі — мясцовы селянін Парфён Вяршкоў і другі танкіст, які застаўся каля заглухлай танкеткі. Танкетка спынілася якраз насупраць Парфёнавай хаты, праехаўшы па вуліцы метраў чатырыста. Тое, што кончылася раптам гаручае, не з’явілася нечаканасцю для саміх танкістаў. Яны нават упэўнены былі, што некалі гэта павінна здарыцца, бо выбіраліся ў дарогу— ад Вераб’ёвай Рудні, што непадалёку ад Гардзееўкі, да Бесядзі — ужо амаль без гаручага. Камандаванню тэрмінова патрэбна было зрабіць глыбокую разведку да самай ракі, і камандзір батальёна, накіроўваючы танкістаў, папярэдзіў:

— Адтуль, пэўна, давядзецца нагамі тупаць — гаручага ўсё роўна не хопіць. Але рызыкаваць не хачу. У нас няпоўныя бакі нават у «КВ». Таму запраўляцца не будзем. Паедзеце на тым, што ёсць. Для мяне лепей «тэ-дваццаць шэсць» страціць, чым «КВ».

— Але ці паспеем мы вярнуцца? — сумеўся лейтэнант.

— У вашым распараджэнні ўся ноч. Туды даедзеце, а адтуль — алюр два крыжы. — Камбат раней служыў у артылерыі. — Хочаш, магу выпісаць мандат? На зваротным шляху выкарыстоўвай любы транспарт, рэквізуй, калі што. Але каб разведданыя да раніцы былі ў штабе брыгады. — Ён паклаў руку на плячо лейтэнанта. — Ты зразумей — брыгаду кожную

хвіліну могуць кінуць у бой. Гаручае ўсё на ўліку, а новы падвоз добра, калі будзе ўранні. Не хапае аўтамашын. Адным словам, алюр два крыжы.

І вось нерухомая танкетка ўжо амаль гадзіну стаяла ў Верамейках. Танкісты дарэмна трацілі час, якога ў іх не вельмі шмат заставалася, але пакідаць баявую машыну на вуліцы не адважваліся. Спярша была надзея «пазычыць» гаручае ў вёсцы. Аднак самыя старанныя пошукі нічога не далі. Тады лейтэнант рашыўся на самае апошняе — вывезці танкетку за вёску і падпаліць.

Пакуль лейтэнант з адным танкістам хадзілі па вёсцы, другі танкіст, седзячы на загавальні, распытваў пра дарогу ў Парфёна Вяршкова — той выйшаў на вуліцу адразу, як пачуў, што насупраць спынілася машына.

— Да Гардзееўкі далёка?

— Вёрст трыццаць, лічы.

— А калі напрасткі?

— Напрасткі? Дак напрасткі адна варона лятала, затое дома не бывала!

— А калі без жартаў?

Парфён задраў галаву і пачаў прыпамінаць вёскі, што ляжалі на шляху да Гардзееўкі, вялікага сяла, якое было ўжо ў Бранскай вобласці. Дарогу ў Гардзееўку з Верамеек мала хто ведаў, бо ў тутэйшых сялян не было ніякай патрэбы хадзіць туды. Але Парфён, калі быў малады, вазіў у Гардзееўку кару, якую дралі тады па ўсім Забесяддзі на грошы. З таго часу памяць і захавала вёскі.

— Спярша трэба падавацца на Сухое, — прыгадваў Вяршкоў, — пасля на Буду…

— Гэта Вераб'ёва Буда? — удакладніў танкіст.

— Не, проста Буда. Але і Вераб'ёва недзе там.

— Далей…

— А далі Гайнаўка будзе.

— Гайнаўка, — лічыў за Вяршковым танкіст.

— А за Гайнаўкай, здаецца, адразу Гардзееўка.

— Ну, а Вераб'ёва Буда?

— Да і Буда недзе там.

— Значыць, не ведаеш?

— Дак вам Гардзееўка трэба ці Вераб'ёва Буда?

— Гэта ваенная тайна.

— Так бы і гаварыў адразу, а то галаву дурыш!

Нарэшце Зазыба з лейтэнантам прывялі коні.

— Аўсюкова яшчэ не было? — спытаў лейтэнант танкіста.

— Ён жа з вамі пайшоў, — падаўся той да лейтэнанта.

— Гэта я сам ведаю, — злуючыся нечага, сказаў лейтэнант.

Вяршкоў тым часам пазнаў Зазыбу.

— І ты, Яўменавіч, не спіш? — гукнуў ён. — Дак хадзі садзіся во.

— Мабыць, Ганна недзе прыспала вашага чалавека, — пажартаваў Зазыба.

— Якая Ганна? — наставіў вушы Парфён Вяршкоў.

— Кладаўшчыца.

— Тады скора не чакайце, — усміхнуўся Вяршкоў. — Яна такая — сваё возьме.

Ноч між тым недзе прамінула ўжо тую мяжу, адкуль пачынаецца зваротны шлях яе, і цяпер навокал нібыта шарэла. Угары патухалі самыя далёкія зоркі, быццам хто неўзаметку сціраў іх з неба.

Непакоячыся, што затрымка ў вёсцы выйшла занадта доўгая, лейтэнант сказаў Зазыбу:

— Мы вельмі познімся. Баюся, што не паспеем дабрацца да часці. Таму я падумаў — можа, коней сваіх дасцё нам?

Зазыба не паспеў адказаць, як лейтэнант пачаў супакойваць:

— Вы не хвалюйцеся, мы распіску пакінем.

— Етых коні ў нас даюць і забіраюць, забіраюць і даюць. Як кажуць, салдат даў — салдат узяў.

— Не той час, Парфён, каб нечага шкадаваць для Чырвонай Арміі, — сказаў Зазыба.

— Да ўжо ж. Але яны не кульгавыя?

— Не ўсе. Адзін кульгае.

— Значыць, падлячыліся ўжо, — усміхнуўся Вяршкоў— Але як ета не ўгледзелі іх? Пэўна б забралі.

— Не возьмем мы, возьмуць немцы, — раптам кінуў Вяршкову танкіст, які ў прысутнасці лейтэнанта маўчаў.

— І ета можа быць, — невыразна згадзіўся Вяршкоў. — Час цяпер такі, што ўсе бяруць нешта і не пытаюцца нават.

— Будзем лічыць, што мы з вамі маем поўнае разуменне, — ігнаруючы Вяршкова, сказаў лейтэнант Зазыбу. — Коні вы дасцё нам, а распіску палучыце.

— Дзе яе пісаць цяпера? — махнуў рукою Зазыба. — Бярыце ўжо так, без паперкі. Раз трэба, дак трэба.

Тады лейтэнант нібы спахапіўся і стаў прыспешваць.

— Лезь у машыну, кіруй, — загадаў ён танкісту.

Зазыба пачаў раскручваць пастронкі і падаваць лейтэнанту, каб той чапляў за танкетку.

— А таго вашага з Ганнай можаце і не дачакацца, — быццам пакпіў Парфён Вяршкоў. — Яна баба смаляная. Ды і час якраз такі. Сама ў прымы прыставаць, і галава цалей будзе, і целу раскоша.

— Вярзеш абы-што, Парфён, — паморшчыўся Зазыба. — Нешта сянні ты…

— Яго, мусіць, баба да сябе не падпусціла, — высунуў твар з пярэдняга люка танкіст.

Лейтэнанту не спадабалася маладая нахабнасць свайго падначаленага, і ён прыкрыкнуў:

— Ну-у, ты-ы!

Калі танкетка нарэшце была зачэплена за доўгія пастронкі, коні зрушылі яе з месца і, храпучы, павалаклі па вуліцы.

— Куды яны яе? — спытаў Парфён Вяршкоў Зазыбу.

— За двары, каб падпаліць. Вяршкоў крутануў галавой:

— Навошта?

— Няма на чым ехаць далей. Я от хвалююся, ці вытрымаюць да канца пастронкі. Кароткія былі, прыйшлося надвязваць.

— Раз коні адразу скранулі, дак вытрымаюць.

— І карціць табе, Парфен, непрыемнае гаварыць людзям, — сказаў між тым Зазыба.

— Якое непрыемнае? — пакруціў галавой Вяршкоў. — Самае непрыемнае я прыпас яшчэ. — Ён прайшоў трохі моўчкі, побач з Зазыбам, які кіраваў коньмі, а тады сказаў: — Чым еты карабок цягнуць, вы б лепей паганялі па застрэшшы мужыкоў нашых, папаролі б штыкамі, як вераб'ёў. А то ж хаваюцца. Акружэнцы, маць іх за нагу! Яшчэ фронт не прайшоў, а ўжо акружэнцы!

— Нешта я не разумею…

— Дак зразумееш, калі пралупіш зенкі. Але позна будзе.

— Кажы ясней!

— Да ўжо куды больш ясна…

«Няўжо хто-небудзь з верамейкаўцаў дэзерціраваў? — падумаў Зазыба. — Але хто?»

Коні вывалаклі танкетку на край поля за выганам, і тады аднекуль выскачылі з начы Аўсюкоў і Ганна Карпілава.

— Дзе ты швэндаўся? — накінуўся на чырвонаармейца лейтэнант.

Той вінавата выпрастаўся. Тады заступілася Ганна.

— Не крычы, камандзір, — сказала яна і лена засмяялася. — Салдат жа прыйшоў…

Лейтэнант кінуў злосным вокам на яе, але змоўчаў. Парфён Вяршкоў з Зазыбам тым часам адчэплівалі пастронкі.

З танкеткі вылез чырвонаармеец, паклаў на зямлю замок ад кулямёта.

— Трэба выкінуць недзе, — сказаў ён.

Лейтэнант узяў з рук у Аўсюкова прынесеную з калгаснага свірна бляшанку з газай, пабоўтаў і, не шкадуючы, пачаў выліваць на браню.

— Падпальвай! — скамандаваў праз момант ён.

Чырвонаармеец чыркнуў запалкай аб карабок і кінуў на самы верх танкеткі. Сіняе полымя спачатку нясмела лізнула браню, затым скочыла ўгору і, стаўшы чырвоным, абхапіла ўсю танкетку. Адразу навокал зрабілася светла, а цені, якія адкінуў пажар ад людзей — пецярых мужчын і адной жанчыны, — выраслі ледзь не да самых двароў, заскакалі, быццам жывыя.

## II

Зазыбава хата стаяла ў невялікім завулку, які не меў сабе назвы, і была там крайняя. Сядзіба кідалася ў вочы яшчэ ад самае вуліцы прасторнай, на дванаццаць вянкоў з падрубам хатай; двор быў абнесены тынам, а шаляваныя вароты віселі паміж пашарэлых дубовых шулаў. Тынам двор выходзіў на пустку, дзе раслі дзяды і глухая крапіва, а далей, паміж пусткаю і калгасным полем, быў глыбокі роў, які губляўся ў сівым палыне і шырэў паступова, пакуль дасягаў лесу, затым наогул нібы распасціраўся, утвараючы лагвіну, парослую па краях балотным перцам, а пасярэдзіне — блакітна-ружовым букашнікам, паўзучай канюшынай і лілова-чырвонымі лугавымі васількамі. У пачатку гэтага рова было глінішча, там брала гліну для тынкоўкі і на печы ўся вёска, таму амаль заўсёды ўлетку дарога пад вокнамі ў завулку была як пафарбаваная. Затое зімою каля Зазыбавай хаты ўсё замятала, і па завулку нельга было праехаць нават на санях. Вокны Зазыбавай хаты глядзелі на два бакі — адны выходзілі на паўднёвы захад, акурат на вёску, а другія — на двор, адкуль відаць было праз тын поле з бальшаком, абсаджаным бярозамі (некалі саджалі іх уздоўж шляху, кожны насупраць свайго надзелу), і лес, амаль заўсёды — і ўлетку і зімой — атулены смугой. Разам з Зазыбамі ў завулку жылі Аўхім Каспярук, Хрысціна Гаманькова з сынам-падлеткам — яна аўдавела ў фінскую вайну — ды вялікая сям'я Кузьмы Прыбыткова, два сыны якога, не аддзеленыя нават пры калгасе, ваявалі цяпер на фронце. Але першы гэты завулак пачынаў у Верамейках чалавек з Зазыбавага роду. Ім быў Дзянісаў прадзед Іван… Быў ён нядужы і хутка, здаецца,

праз год пасля таго, як далі ўсім вольную ад паноў, памёр. У яго жонкі, Аўласавай дачкі Насты, засталіся сын Яўмен і дачка Вусціня… Дзяніс, Яўменаў сын, браў сабе жонку з Бабінавіч. Нявесту ён паказаў сам, але ездзілі па яе ў мястэчка ажно тры разы. Спярша бацька нявесты, Давыд Сяголетка, муліўся, пасля сама нявеста нечага як бы спалохалася, аднак трэці раз сватоў прынялі: тады якраз ездзілі з Верамеек у Бабінавічы на кірмаш. Пра вяселле згаварыліся на восень — не сталі чакаць зімы. Дзіва, але прыспешваў ужо бацька нявесты: сваты з Верамеек трапіліся памяркоўныя і не запрасілі багатага пасагу, а матка жаніхова нават кужэльным не пацікавілася. Вяселле наладжвалі пасля Пакроваў, калі трохі ўправіліся з гаспадаркай. Усе Верамейкі хадзілі ў Зазыбаву хату глядзець Дзянісаву нявесту. Марфа сядзела з сумам у бліскучых, быццам узмакрэлых вачах, але была прыгожая, асабліва кінуліся ўсім яе смуглы, амаль цыганскі твар і валасы, як воранава крыло. Жаніх таксама пасаваў ёй: з твару быў чысты, меў чорныя бровы над карымі вачамі і русыя валасы. З часам яны папалавелі ў яго, быццам іх пылам пасыпала на вялікай дарозе жыцця, потым і зусім сталі сівыя на скронях і ля вушэй, а на макаўцы заблішчала гуменца. Адна Марфа з гадамі нібыта не змянілася, толькі пацішэла вельмі ды пачала рукі хаваць пад фартухом: ад работы яны ў яе былі ў сініх сужыллях. Нарадзіла Марфа Дзянісу аднаго сына, Масея. Можа б, і яшчэ ў іх былі дзеці, але ў чатырнаццатым годзе, як пачалася вайна, Дзяніса забралі на румынскі фронт. Адтуль ён вярнуўся ўжо са шпіталя — адпусцілі далечвацца ў вёсцы. Тут ён і дзве рэвалюцыі перабыў, а калі ў васямнаццатым годзе прыйшоў у Забесяддзе з Унечы Шчорс набіраць добраахвотнікаў, Дзяніс дастаў з куфра сваю салдацкую шапку з бліскучым аколышкам, з якой не была знята нават кукарда, і запісаўся ў чырвонае войска. Можа б, ён тады і не падаўся да Шчорса, але пасварыўся з бацькам: цыганы ўкралі на лузе іхнюю жаробку, на якую спадзяваліся ў гаспадарцы, і вінаваты быў Дзяніс, бо не застаўся на начлезе, а прывалокся начаваць у вёску да жонкі. Тым не менш Зазыба нібы прыкіпеў да рэвалюцыі — праз усю Грамадзянскую пранёс ён сваю веру ў яе, пазнаваў спакваля, затое моцна і назаўсёды. І калі праз тры гады вярнуўся ў Верамейкі, то насіў ужо на гімнасцёрцы ордэн Чырвонага Сцяга. Тады гэта быў, можа, трэці чалавек з ордэнам на ўсю Калінінскую акругу.

Верамейкі разбудоўваліся так, што сонца, якое выплывала з-за пагорка, на нейкі час нібыта лажылася на дарогу паміж крайніх хат пасярэдзіне вуліцы. Тады здавалася, што гэта нават

не сонца, а проста вогненны шар, які ўскаціўся аднекуль сюды. Але мінаў час, шар паступова, як бы з вялікай цяжкасцю, адрываўся ад зямлі, увачавідкі менеў, становячыся ледзь не белым і падобным на сонца. Нарэшце сонца-шар збочвала, плыло да самага пасляабеддзя паўз вёску, пасля паварочвала і спынялася к вечару ў доўгім канцы яе, але не дакраналася да самай зямлі — за возерам пачынаўся лес, і яно амаль непрыкметна, неяк адразу хавалася за яго.

Сёння сонца прадзіралася скрозь туман як спрасонку. Туман нечага доўга засціў і зямлю і неба на ўсходзе, але нарэшце зварухнуўся, прыўзняўся над зямлёй, і тады сонечныя промні пасерабрылі расу, што ляжала на ўсім — ад пагорка да вёскі. Здавалася, сонца будзе вісець увесь дзень. Але неўзабаве яно памутнела раптам, хоць зрабілася яшчэ больш чырвонае і нібыта наважылася перагарэць.

Вёска паступова абуджалася: узнімалі і апускалі драўляныя вёдры на доўгіх почапах жураўлі — у Верамейках было тры калодзежы з жураўлямі, — і вясковыя бабы, дзогаючы парэпанымі пяткамі па сцежках, ужо ўгіналіся пад каромысламі, насілі ваду. Валіў дым з комінаў. Лопаючы крыламі на пералазах, спявалі галагуцкія пеўні.

Дзяніс Зазыба выйшаў на ганак, калі сонечныя промні саскочылі з вяза, што стаяў на вуліцы насупраць хаты, і апынуліся на гарбузовым лісці, якое на жоўта-зялёнай касе выпаўзала на дарогу з Прыбытковага гарода. Неба над галавой было чыстае. Толькі па левы бок, акурат недзе над возерам, тоўпілася купка белых аблачынак, якія нечым нагадвалі разагнаную чародку памытых авечак.

Мінулая ноч давала сябе адчуць — у галаве шумела, як на пажары; Зазыба ажно пацепваўся, нягледзячы на сонца, якое выплывала правым бокам з-за вугла хаты. За тынам хавалася ў тумане пустка, і Зазыбу здавалася, што адтуль нясцерпна пахла палыном, які рос уздоўж рова ад глінішча і быў аднаго колеру з туманам.

Хвілін праз колькі на ганак выйшла Марфа. Зазыба не павярнуўся да яе, і яны стаялі так паасобку, услухоўваючыся ў раніцу. Тады Марфа ўздыхнула, ступіла яшчэ крок і, стаўшы ўпоравень з мужам, сказала:

— Можа б, і мы закапалі што ў зямлю. Леташняя ж ямка, што бульбу хавалі, не абвалілася, дак не трэба новай, адно пачысціць ад курап. Хоць бы машыну швейную туды, ці што. А раптам забяруць?

Зазыба махнуў рукой.

— Яшчэ невядома, ці машыну тваю хаваць трэба, ці самім у той яме хавацца. — Пачакаў і спытаў: — А пастаялка наша прачнулася?

— Ходзіць па хаце. — Марфа так і не папыталася сама пра незнаёмую дзяўчыну, бо Зазыба папярэдзіў, каб гаварыла ўсім, што гэта пляменнікава дачка з Латокі.

— Ты па-свойску з ёй, — параіў Зазыба.

— Да ўжо ж…

Зазыба пастаяў яшчэ, паўглядаўся паўзверх тыну, быццам спрабаваў адшукаць нешта на пустцы, затым сышоў з ганка і, як пад чужымі вокнамі, падаўся на вуліцу.

— А-а-а, Дзяніс, — убачыў яго Кузьма Прыбыткоў, які сядзеў на лаўцы, пры хляве; пакуль Зазыба ішоў праз дарогу, Прыбыткоў адвязаў ад аборкі, якой быў падпяразаны па штанах, хромавы каптур, расцягнуў яго, быццам спружыну, зверху ўніз і, намацаўшы пальцамі скручаны ліст рудога тытуню, пачаў шчыкаць дробнымі долькамі.

— Ты ета саўсім не курыш? — спытаў ён Зазыбу, калі той сеў побач.

— Не куру.

Прыбыткоў закурваў спакваля — доўга, быццам прымерваючыся, драў газету, каб выйшла акурат, слініў яе і дрыжачымі рукамі пасоўваў на губах з кутка ў куток.

Зазыба ўсміхнуўся:

— Слабееш, Кузьма!..

— Дзіва што.

Але ў свой век — семдзесят год —Кузьма Прыбыткоў яшчэ меў твар з вялікім, як без храсткоў, носам, па якім ледзь не ад самых вачэй разыходзіліся тонкія, быццам з карэнішча, жылкі.

— Як мяркуеш, германец сянні прыйдзе да нас? — паглядзеў Прыбыткоў на Зазыбу.

— Да ўжо як захоча.

— І то праўда, ад Бабінавіч яму недалёка.

Нарэшце Прыбыткоў прыпаліў самакрутку і сказаў, бадай, самае галоўнае, да чаго не кожны мог даўмецца:

— А я думаю, што ён і саўсім сюды не пойдзе. — Колькі моманту Прыбыткоў зусім сур’ёзна глядзеў на Зазыбу, быццам нечага чакаў ад таго, а тады пачаў разважаць: — Чаго яму ісці да нас? Ну, у Бабінавічы — тут ясна, як ні кажы, мясцечка, дарога вялікая ёсць, едзь сабе на машынах, нідзе не загрузнеш. А што ў нас? Дамоў багатых няма, дарогі таксама не пралажаны.

Словам, глушмень кругом, адны ваўкі ды мы от. Дак ці ж нас пільнаваць? Тады і старажоў не хопіць. Германія, яна не тое, што мы, — ма-ле-е-енькая!.. Ёй з намі, як па-разумнаму, дак і брацца не варта б. Ета дзе той Хабараўск, а за ім таксама зямля. Я нават дзіўлюся, як ён саўсім насмеліўся напасць. Ета ж калі палічыць, дак іхні адзін на нашых трох ці чатырох…

Зазыба папраравіў:

— Чатырох не будзе.

— Ну, няхай трох, — лёгка згадзіўся Прыбыткоў, — але паспрабуй угледзь нават трох — зайцоў і тых не ўпасеш, а тут людзі.

— Да людзей, мусіць, і ён набраў да сябе, раз на Маскву цаляе.

— Масква, яна як прынада тая. З вайной на Маскву хадзілі і ў старыну. Да ўсё праз нас, праз Беларусю. — Прыбыткоў пакруціў, як у здзіўленні, галавой і працягваў гаварыць далей: — Я от думаю цяпера, дак неяк ажно дзіўна размешчана ета Беларуся наша, бытта Гасподзь знарок яе паклаў так. Усё праз нас з вайной ходзяць, усё праз нас. Здаецца, каб хто перанёс яе ў другое месца, дак і нам бы па-другому жылося. А зямля харошая, можа, нават лепшая за рай той. Ета ж падумаць толькі — у другіх голад, дак ужо голад, людзі, як тыя мухі, гінуць, вазьмі хоць Украіну, тама во і нядаўна колькі паўмірала, а ў нас адно мужыкі паапухалі — не кара, дак ягада, не ягада, дак грыб, а тама ўжо бульба пойдзе, жыта, але чалавек неяк выб'ецца з бяды, абы не сядзеў рукі склаўшы. Не, зямля наша папраўдзе райская, а от жа… — Стары патушыў самакрутку — моцная за адзін раз не сассеш! — і паклаў на левы бок ад сябе на край лаўкі. — От і Гітлер таксама… Спярша з дружбаю лез, а цяпера і дружбе канец і любошчам.

— Гуляла кошка з мышкай.

— Ну-да, ей-праўды! Я і сам…

Але дагаварыць Прыбыткову не дала нявестка, якая расчыніла акно і гукнула:

— Тата, бульба зварылася!

Прыбыткову быццам гэтага і не хапала, пакуль гаварыў, — абапіраючыся абедзвюма рукамі на дубец, ён стаў на ногі.

— Можа, і ты, Дзяніс, не снедаў яшчэ, дак хочаш? — Ён паглядзеў на комін Зазыбавай хаты, усміхнуўся:—Але ж бабы нашы сяннi… позняцца… бытта сапраўды чакаюць…

— Мужыкоў дома няма, дак і раскашуюць. Хоць высплюцца.

— Да ўжо ж…

Прыбыткоў пастаяў яшчэ, а тады пайшоў, торкаючы ў зямлю дубцом; абутыя ў лапці ногі — у свае гады ён не мог іх змяніць

ні на якія боты! —стаўляў так, быццам асцерагаўся наступіць на што калючае. Зазыба падумаў — і праўда знасіўся Кузьма!.. Але ж на памяці людзей Прыбыткоў яшчэ не вельмі даўно разгінаў для забавы жалезную падкову і некалі пахадзіў з сынамі бадай па ўсім Забесяддзі — ад Вялікага да Малога Хоцімска: амаль усе сталі і падлогі ў хатах, што будаваліся апошнія трыццаць гадоў у вёсках, былі пакладзены з ягоных дошак; пільшчык ён быў адмысловы і вечна хадзіў абсыпаны тырсай.

Зазыба ажно пашкадаваў, што гэтак адразу пайшоў Прыбыткоў.

Але па завулку ўжо бег сын Гаманьковай Хрысціны. Іван аднекуль спяшаўся, нёс на сабе, уздзеты на галаву, хамут з чорнай скуры. Мусіць, хлопец бег па вуліцы і пацішэў, калі ўбачыў Зазыбу, тады на нейкі момант ажно разгубіўся, але павярнуць ужо не было куды, і ён, выдаючы сваю збянтэжанасць, што наскочыў на намесніка старшыні калгаса, адно перайшоў паспешліва на другі бок завулка, каб неяк збочыць, хоць хата Гаманьковых стаяла побач з Прыбытковым дваром.

Калі Іван наблізіўся, Зазыба спытаў:

— Гэта ж куды вы надумаліся ехаць?

— Н-не, мы не паедзем, — спалохана паглядзеў на Зазыбу хлопец.

— Тады навошта хамут?

— А я ўзяў яго на канюшні. Там цяпер бяруць хто захоча.

Зазыбу раптам нібы сцебанула чым.

— Ты от што, — сказаў ён без вялікай злосці, — нясі назад, раз не паедзеце. Бо навошта дома трымаць? Канюшня ж ёсць!

Зазыба ледзь не стрымгалоў заспяшаўся да стайні, якая была на беразе возера. Пакуль шыбаваў па вуліцы, паступова спакайнеў, але ўжо ля самых варот, якія былі адчынены і ў якіх, тоўпячыся, гаманілі вясковыя бабы, сціснуў абедзве вязанкі пальцаў у кулакі.

— Здароўця, — кінуў ён бабам.

Тыя аціхлі адразу, быццам убачылі прывід, і расступіліся, даючы Зазыбу на стайню дарогу.

— Ну што вы збегліся? — як не прыкрыкнуў на іх Зазыба.

Тады нехта спуджана хіхікнуў за спінамі. Наперад ступіла Куліна Вяршкова:

— Мы ета на работу прыйшлі, а тута…

— Нясіце ўсё на месца, — сказаў Зазыба.

Бабы, як прысаромленыя, кінуліся ў трысценак, пачалі складваць на падлогу хамуты, сядзёлкі — усё, што трымалі дагэтуль

у руках. Зазыба стаяў на праходзе, і ў яго на твары пад скурай хадзілі жаўлакі. Ён усяго мог чакаць ад сваіх верамейкаўцаў — дзе толькі фэст, і яны заўсёды там, — але тое, што пабачыў цяпер, не ўкладвалася ў галаве: выходзіла, толькі звядзі вочы, як адразу разнясуць усё калгаснае па дварах. Суцяшала адно, што не было на стайні мужыкоў.

Праз хвіліну да Зазыбы падышла тая ж Куліна Вяршкова.

— Ета ўсё Раман, — сказала вінавата яна, — ён пачаў першы насіць да сябе, нават калёсы закаціў на двор, а мы паглядзелі, таксама загарэліся.

— Які тама яшчэ Раман? — неўразумела паглядзеў на жанчыну Зазыба.

— Да Сёмачкін.

— Яго ж прызвалі, здаецца?

— А радзімец яго ведае, — пацiснула яна плячамі. — Бачым толькі, ходзіць па вёсцы, пагражае калгас распусціць. А тут ні Чубара, ні цябе.

«Значыць, Парфён Вяршкоў тады праўду казаў, — успомніў начную размову Зазыба. — Дэзерціраваў Раман…» Ён падабраў аброненае кімсьці пута, панёс у трысценак. Там, падпёршы левым плячом шула, стаяў Раман Сёмачкін. Вочы яго як не смяяліся, выпускаючы на волю задзірлівых чорцікаў. Зазыба набліжаўся да Рамана, і ўсярэдзіне ў яго ўсё абуралася.

Раней у Верамейках былі два браты Сёмачкіны — гэты, Раман, старэйшы па гадах, і Паўлік. Але Паўліка гадоў пяць таму пасадзілі ў турму за забойства кулігаеўскай Домны Варонінай. Забівалі жанчыну яны ўдвух. У Верамейках ведалі пра гэта: нехта бачыў іх у тую ноч разам — браты ішлі ў Кулігаеўку. А пачалося ўсё з таго, што раптам у малодшага Сёмачкіна стала ўсыхаць нага. І што ні год, то горай: Раман павазіў ужо брата і ў раённую бальніцу, і ў абласную, але дактары не маглі даць рады. Тады нехта ў Верамейках падказаў, што ў Латоцы ёсць шаптуха, якая здымае гэтакія хваробы. Паехалі да яе. Шаптуха паглядзела нагу, пакруціла галавой — нехта сушыць. Браты пачалі думаць, хто б мог чараваць. Перабралі па дварах усе Верамейкі, пасля Кулігаеўку з Мамонаўкай. Нарэшце сышліся на Домне Варонінай. Успомнілі, што аднаго разу, як вярталіся з кірмашу на Ілью, абтрусілі яе сад. Вядома, з дакладнасцю палічылі гады — выходзіла якраз па часе. Тады шаптуха параіла разбурыць у Домнінай хаце комін, забраць адтуль зямлю са следам, якая павінна была вісець у мяшочку. У Кулігаеўку Сёмачкіны пайшлі ўначы. Але падвешанай зямлі ў коміне не

знайшлі. Тады яны падступіліся да самой Домны. Прасілі яе, каб аддала след. Нарэшце, ашалелыя, задушылі старую жанчыну. Аднак на судзе, які адбыўся ў Крутагор'і праз колькі тыдняў, Паўлік узяў віну на сябе, сказаў, што задушыў Домну адзін — пашкадаваў жанатага брата…

Зазыба абмінуў Рамана Сёмачкіна, прайшоў у трысценак. Там ляжала раскіданая па ўсёй падлозе калгасная вупраж, і ён пачаў падбіраць яе, вешаць на драўляныя цвікі, што былі забіты ў прасвідраваныя ў сцяне дзіркі.

— Дарваўся? — кінуў ён злосна Раману.

А той адгукнуўся, быццам гуляючы словамі:

— А што, нельга?

Тады Зазыба падступіўся блізка:

— Засячы сабе на носе — другі раз па руках палучыш!

Сёмачкін пагардліва ўсміхнуўся:

— Маё, таму і бяру. Калі-та прынёс, а цяпер бяру!

— Але не адно тваё! Тута ўсіхняе! Калгаснае! І не табе распараджацца ім!

— Так і не табе ўжо! —крыкнуў Раман. — Досыць, пакамандаваў!

— Ну, от што, — ускіпеў Зазыба, — ступай адсюль!

— Ты не крычы, а то ведаеш!..

— Што ведаеш?

— Рукі няхота пэцкаць!

— А то табе прывыкаць?! — Зазыба ў злосці ледзь не затуманенымі вачамі паглядзеў на Рамана. — Толькі не ўзялі яшчэ цябе за шкіркі! Але не думай, возьмуць! Цяпера пойдзеш пад трыбунал, дэзерцір! Дабяруцца да цябе!

— Хто, бальшавікі? — неяк віскліва спытаў Раман.

— Няўжо ж фашысты!

— Не, — па-ранейшаму, як не сваім голасам, зарагатаў Раман, — таварышам бальшавікам цяпера няма як. Яны хоць бы самі ратунак знайшлі сабе за Уральскім хрыбтом.

Зазыба ў нянавісці змераў Сёмачкіна вачамі. Тады Раман ужо адкрыта пачаў пагражаць:

— Табе, Зазыба, я параіў бы папрытрымаць пакуль язык. Цяпер суду няма. Прыцісне хто, як клапа таго, і адказваць не будзе. Так што лепей хадзіць табе не катом, а мышшу. І дзізярцірствам не папікаць. Не адзін я зрабіў етак. Вон уся армія разбеглася, дак і дзізярціры, па-твойму?

— Ты армію не чапай. Армія адступіла.

— На падрыхтаваныя рубяжы? Мы, салдаты, ведаем тыя падрыхтаваныя рубяжы!

— Нічога ты не ведаеш! Да і які ты салдат? Можа, уцёк яшчэ з ваенкамата да схаваўся пад страху. Ета малі Бога, што не здагадаліся, а то б спаролі, як вераб’я кілаватага. Быў бы харош!

— Я ўжо вымаліў сваё ў Бога, цяпера табе трэба маліцца. Паглядзім, як ён табе паможа, — выскаліў зубы Раман і пайшоў вонкі з выглядам чалавека, якому нешта ўдалося.

Ён заўсёды быў зацяты, мог кідацца нават з завязанымі вачамі на кожнага, хто стане ўпоперак, і таму Зазыбу здзівіла трохі, што сёння гэтак абышлося: Раман хітраваў, як звер, што пасля няўдачы звычайна падцінае хвост толькі да першых кустоў; мусіць, насцярожвала яго няпэўнасць, што была пакуль — і немцаў на гэты бок Бесядзі не відно, і чырвоныя, няйначай, далёка яшчэ не адышліся.

«Дарма-такі не выведаў тады пра яго ў Парфёна Вяршкова, — успомніўшы пра начную размову, пачаў дакараць сябе Зазыба. — І зусім лёгка ж было зрабіць, адно сказаць лейтэнанту з байцамі, а тыя ўжо б дасталі Рамана, з дэзерцірамі ў іх размова кароткая».

Хістка, як з неахвотаю, Зазыба падаўся да стайні.

На дварэ ўжо багата памянялася што. Вецер, які падзьмуў нечакана з паўночнага захаду, прагнаў з пагоркаў туман. Але ў лагчынах і на аўсяным полі, на краі якога згарэла ўначы танкетка, туман яшчэ плаваў. Сонца паднялося ўгору, але зусім чыстае, здаецца, сёння яно не пабыло нават гадзіны — спярша яго засціў туман, пасля замуціла смуга, падобная на вадзяныя пырскі; цяпер яно плыло пад зрэджанай, як пафарбаваная тканіна, заслонаю хмар; першыя дасяглі яго тыя белыя аблачынкі, што гулялі над возерам раней, калі Зазыба стаяў яшчэ на сваім ганку, затым з-за лесу выплылі хмары, і вецер пагнаў іх проста на ўсход; мусіць, недзе далёка каторы дзень паліваў зямлю дождж. Возера было як застаялае, на яго попельнай роўнядзі яшчэ не горбіліся хвалі. Паміж лесам, што перакуліўся дагары ў ваду, і тым берагам, які парос сушаніцай, балотнікам і бацяновымі ножкамі, скублі траву выпушчаныя са стайні коні.

Зазыба пачуў галасы — гаманілі на бёрнах, што ляжалі на ўскоцінах за стайняй. Бёрны тыя ўжо другое лета як былі прывезены з калгаснага лесу на хатку для конюхаў. Але хаткі не пабудавалі, і пад бёрнамі пакуль хаваліся ад сабак адны здзічэлыя кошкі ды вясковыя хлопцы, калі прыводзілі туды раз’юраных дзевак.

На бёрнах Зазыба ўбачыў абсыпаных падлеткамі верамейкаўскіх мужыкоў — Парфёна Вяршкова, сухарукага Сілку Хрупчыка, Івана Падзерына, якога ў вёсцы празвалі Цукрам

Мядовічам і якога не забралі ў армію праз грыжу, таксама Рамана Сёмачкіна. Пяты сярод дарослых сядзеў незнаёмы чалавек з усходнім аблiччам.

Гаварыў Раман:

— Пераехалі мы, значыць, Сож, глядзім, а немец ужо ля ракі. Бачым, не паласа. Тады мы з Рахімам…

«Мусіць, той», — паглядзеў Зазыба на скуласты твар незнаёмага чалавека.

— …тады мы з Рахімам выскачылі кумільгом з машыны да ў кусты. Ну, а немцы, яны таксама не дурні — убачылі нашы машыны і пачалі лупіць па іх, ажно пэтлахі паляцелі.

Раман гаварыў і быццам для пэўнасці пазіраў на аднавяскоўцаў.

Тыя слухалі яго па-рознаму.

Парфён Вяршкоў сядзеў з апушчанай галавой, паціху варушыў наском пабялелага абрэзня — бот без халявы — пасохлую кару, што ляжала пад бёрнамі; шчацiністы і даўганосы твар яго быў, здавалася, абыякавы, але тоўстая шыя натужна чырванела.

Сілка Хрупчык тым часам не зводзіў вачэй з Рамана Сёмачкіна — лавіў кожнае ягонае слова.

Іван Падзерын неспакойна круціў галавой, якая сядзела ў яго на кадыкаватай шыі, і ўсё ўхмыляўся, нібыта кажучы: ладна, брашы ўжо да канца.

І Раман вылузваўся:

— …але чуем, перастаюць страляць. Тады я таўхаю пад бок Рахіма, паказваю вачамі — бяжым. Бачым, сёй-той таксама ўстае на карачкі. А хтосьці крычыць: «Па машынах!» Але куды паедзеш, калі камандзёраў няма? Ета ж як пачалі страляць па нас ля ракі, дак тыя на браневіку сваім і ўцяклі. Ну, падышлі мы з Рахімам да свайго грузавіка, глядзім — разбіты і бянзін выцякае.

Зазыба падышоў да бёрнаў, сеў зводдаль. Раман Сёмачкін кінуў на яго вачамі, але загаварыў гучней:

— Яно і праўда, што мы без камандзёраў адны? Пачалі разыходзіцца хто куды. Мы з Рахімам таксама вырашылі падацца сюды, балазе да Верамеек недалёка. Вёрст сорак, калі напрасткі.

Да гэтага ўсе, хто слухаў Рамана, па розных прычынах маглі стрымліваццa і не выказваць сваіх адносін, бо тое, што гаварыў ён, было звычайнай гаварнёй чалавека, які не толькі выхваляўся, выдаючы няпраўду за праўду — верамейкаўцы ж не ведалі сапраўднага становішча ў арміі і на фронце, — але і не хацеў тым часам паказаць сябе ў вачах аднавяскоўцаў яўным дэзерцірам: маўляў, так склаліся абставіны…

Аднак Раман дапусціў адну памылку, нават не памылку, хутчэй звычайную прамашку — недакладна назваў адлегласць ад Сажа да Верамеек.

І гэтага дастаткова было, каб Іван Падзерын паправіў:

— Лічы, з гакам.

А вясковым людзям —толькі пачні.

— Дай гак трэба яшчэ памераць, — дадаў тут жа Сілка Хрупчык.

— Парфён, мусіць, дакладна ведае, — сказаў яшчэ Іван Падзерын, — ён жа некалі хадзіў таксама і ў Чэрыкаў.

Але Раман Сёмачкін не даў сказаць Вяршкову.

— Ета калі тое было, што Парфён хадзіў,— запярэчыў ён, — а мы во з Рахімам цяпера нагамі памералі ўсё. Напрасткі, дак вёрст сорак, не болей.

Вяршкоў паглядзеў на Зазыбу, па-змоўніцку ўсміхнуўся:

— Раман, мабыць, сігаў дужа, ці паглядзеў калі нават на пяты сабе?

— Тады няхай скажа ён! — зрабіў нібы пакрыўджаны выгляд Раман Сёмачкін і паказаў на Рахіма, які з аднолькавай увагай і неўразуменнем слухаў кожнага, настаўляючы неяк па-воўчы правае вуха.

— Рахім твой таксама ці паспеў азірнуцца хоць раз, — памагаючы Парфёну Вяршкову, з’едліва кінуў са свайго бярна Зазыба.

Мужыкі зарагаталі з гэтых першых Зазыбавых слоў.

— Рахіму, з яго ростам, мабыць, давялося рабіць за табой па два крокі, — не перастаючы смяяцца, сказаў Сілка Хрупчык.

— А што? — задзірыста спахапіўся Раман Сёмачкін. — Ты не глядзі, што ён татарын да малы ростам. Ведаеш, бывае маленькі, да ўдаленькі. Рахім прыжывецца ў нас. Цяпера ў вёсцы мужыкоў не хапае, дак няхай ён абслужвае кабет. А тама, можа, яшчэ і ўласць аддадзім яму. Пахадзілі ў начальніках Чубар з Зазыбам, цяпера няхай Рахім во.

— А сам што, нібыта й не хочаш? Раман адмоўна паківаў галавой.

— Боязна? — усміхнуўся Вяршкоў.

— Я, сам ведаеш, не дужа палахлівы. Да й няма каго баяцца.

— Значыць, табе прамая дарога ў начальнікі, — падначыў Іван Падзерын.

— Начальнікам я не хачу быць, — зусім сур’ёзна сказаў Раман.

— Так ужо і не хочаш? — прыжмуранымі вачамі паглядзеў на яго Парфён Вяршкоў.

— І не хачу!

— А можа?

— Што можа?

— Дак галаву ж яшчэ добрую трэба мець, каб начальнікам быць.

— Ну, ета мы паглядзелі б! — быццам узбурыўся Раман.

— А што глядзець? — ужо назнарок пацвельваўся Парфён Вяршкоў. — Раз лічыш, што галаву добрую маеш, то бяры на сябе ўласць, навошта аддаваць каму? Што еты Рахім табе — брат ці сват?

— Мне ўласці не трэба.

— Але які ж ты асцярожны? Здаецца, чалавек, як і ўсе мы, а таксама кумекаеш, бо цяпера ўласці шукаць, дак усё роўна што пятлю на шыю. Таму ты і прывёў от Рахіма. Усё ж не свая шыя!

Ад Парфёнавай адкрытасці Раман ажно заплюскаў вачамі, шукаючы падтрымкі ў астатніх верамейкаўскіх мужыкоў. Сілка Хрупчык і Падзерын Іван пазіралі адзін на аднаго, і ў вачах іхніх месцілася глыбока прыхаваная ўсмешка, якую цяжка было заўважыць. З усіх толькі Зазыба не ўтойваў сваёй здаволенасці: Парфён гаварыў Раману Сёмачкіну тое, што мог выказаць і ён, Зазыба, але тады б усё выглядала па-іншаму і ўспрымалася б без такой катэгарычнасці. Парфён пачакаў трохі — акурат столькі, каб не ачомаўся Раман, пасля зноў пачаў:

— Ты от кажаш, бытта няма каго баяцца? Але ж ета ты сваёй галавой думаеш так, а я сваёй дак іначай мяркую. Да й баба мая ўчора на патэльні варажыла — выходзіла, што нашы вернуцца.

Раман Сёмачкін маўчаў.

Тады спытаў Іван Падзерын:

— Скажы, а заместа каго ты свайго Рахіма хочаш ставіць? Заместа Чубара ці заместа Зазыбы от?

— Чаму заместа Чубара? — нібыта здзівіўся Раман. — Калгаса ж пры немцах не будзе, значыць, і доўжнасці такой не будзе.

— Ага, значыць, валасным? — падказаў Сілка.

— Яшчэ невядома, — сказаў Раман Сёмачкін. — Ета ўжо немцы самі скажуць. Але магу на заклад пабіцца — болей ні сельсавета, ні калгаса не будзе!

— Многа ты знаеш!

— А тута няма чаго знаць. Тута ўжо ўсё ясна.

— Значыць, у нас цяпера будзе камандаваць татарын Рахім? — спытаў Рамана Парфён Вяршкоў.

— А чым ён горшы за Чубара ці Зазыбу? — паглядзеў на Вяршкова Раман Сёмачкін.

— Дак я не кажу. Але ж як раптам Дзяніс возьме да не захоча аддаць Рахіму ўлады?

— Ну, пра ета, дапусцім, пытацца ў яго не будуць. Цяпера вордзен Зазыбаў не йграе.

Вяршкоў зірнуў на Зазыбу:

— Ты, Раман, як відаць, прадумаў ужо ўсё.

— Дзіва што, — засмяяўся Іван Падзерын. — Часу ж хапала, пакуль недзе на столі хаваўся!

— Але позна, — сказаў раптам Парфён Вяршкоў.

— І праўда, позна ўжо, — заварушыўся Сілка Хрупчык. — Трэба дахаты ісці, а то мы нешта сянні разгаварыліся.

— Я не пра ета, — стрымаў яго Парфён Вяршкоў, — я думаю, што Раман з Рахімам, мабыць, ужо спазніліся. Брава-Жыватоўскі апярэдзіў іх. Яшчэ на досвітку ці не ў Бабінавічы пайшоў. Можа, з немцамі дамаўляецца недзе.

— Дак і Брава-Жыватоўскі ў Верамейках? — здзівіўся Сілка Хрупчык.

— А ты думаў, адзін я? — здзекліва ўсміхнуўся Раман.

— Ну-у-у, — развёў рукамі Сілка.

— Яны з Раманам з адной курасадні зляцелі, — засмяяўся Іван Падзерын.

— Усе мы тута з аднае курасадні, — запярэчыў Раман Сёмачкін, — ета, мабыць, толькі Зазыба з другой. — Дужа хацелася неяк супрацьпаставіць вясковых мужыкоў былому старшыні калгаса.

— Але ж Брава-Жыватоўскі! —як у захапленні прамовіў Іван Падзерын.

— Было не сядзець Раману доўга, — сказаў тым часам Парфён Вяршкоў. — Цяпера не быць Рахіму начальнікам у нас. Усё Брава-Жыватоўскаму немцы аддадуць.

Тады падаў голас нехта з падлеткаў:

— А Жыватоўшчык не адзін у Бабінавічы пайшоў. Па Мікіту Драніцу заходзіў.

Мужыкі пераглянуліся.

— Праўда, як ета мы не падумалі? — сказаў Іван Падзерын. — Седзімо ўжо колькі, а Мікіты няма. Етага ж яшчэ не бывала з ім. Мабыць, падаўся-такі ў Бабінавічы з Брава-Жыватоўскім. Ну-у-у, асэсара адхопіць! Новая ўласць не пашкадуе! Але ж не, ета ж, мусіць, за перакладчыка ў Брава-Жыватоўскага «як тэй таго» пайшоў!

Усе засмяяліся — Мікіта ведаў багата слоў па-нямецку: навучыўся ў свайго цесця, які прабыў колькі часу ў германскім

палоне ў тую вайну, задаваўся ў вёсцы гэтым, асабліва перад школьным настаўнікам нямецкай мовы.

— Пацягнула Мікіту на валакіту, — сказаў Сілка Хрупчык. — Цяпер да яго носа і з кукішам не падступішся. Але дзіва, надоечы яшчэ ж таксама кудысь бегаў. Пасля бытта хаваў нешта на гародзе. Баба мая кажа, паглядзі, што ета яны з Аксютай па гародзе ходзяць.

— Дак яны і праўда нешта захавалі там, — загаманілі падлеткі.

Дарослыя сціхлі, быццам злоўленыя на чым, тады Парфён Вяршкоў спытаў строга, але з выглядам абыякавым:

— Хто ета бачыў?

— Хведзька Гаўрылішын, — адказаў Іван Гаманькоў, які паперад Зазыбы прынёс на стайню хамут ды так і застаўся з дарослымі. — Мы яго пасылалі падглядаць.

— Таксама шпіёны! — ссунуў бровы Парфён Вяршкоў.

— Дзе ваш Хведзька? — паглядзеў вакол сябе Сілка Хрупчык.

— Дак ён дома, — засмяяліся нечага дзеці.

Мужыкі загаманілі, і Падзерын кіўнуў Раману Сёмачкіну:

— Бачыш, як некаторыя робяць!

— А ён рот нараспашку да язык на плячо, — ужо зусім нязлосна сказаў Парфён Вяршкоў пра Рамана Сёмачкіна. — Ранні зайчык заўсёды цярэбіць зубкі, а позні вочкі прадзірае.

— Нічога, — паклаў Раману руку на плячо Сілка Хрупчык, — табе ета, можа, і добра, што ў Бабінавічы пайшлі Драніца з Брава-Жыватоўскім, таму як па цяперашнім часе ісці туды, дак усё роўна што ісці па попел кажуць жа, пайшоў па попел, а чорт па дарозе і ўхопіў.

— Разумныя ўсе сталі! —нібыта з дакорам, але палагаднелым голасам сказаў Раман: ён рады быў, што паступова ўвага скіроўвалася на другое.

— Але што ета сябра твой? — раптам быццам успомніў Сілка Хрупчык. — Мы во плявузгаем абы-што, а ён ці то языка не мае, ці на вус матае?

— Ці ж не бачыш — татарын, — падміргнуў Парфён Вяршкову. — У іх заўсёды адно: твая — мая, мая — твая, а што — дак і не зразумееш.

Тады Раман Сёмачкін сказаў:

— Затое Рахім усё аб вас разумее. — І гэта прагучала як пагроза наперад, хоць Раман рабіў выгляд, што, няйначай, жартуе.

Сілка Хрупчык пазяхнуў, паклаўшы абедзве рукі — і хворую, і здаровую — далонямі на патыліцу.

— Дак ці будзем мы сянні рабіць што ў калгасе? — спытаў ён, паглядаючы на неба.

— Хмарыць жа во пачало, — прыжмурыў вочы Іван Падзерын.

Але Сілка Хрупчык быццам не пачуў, працягваў:

— Ці загадвалі сянні куды?’

— Ета па Дзянісавай часці, ён павінен ведаць, — сказаў Іван Падзерын.

— Так і па тваёй жа, — Сілка Хрупчык перавёў позірк на Зазыбу. — А можа, Дзяніс, пакуль ганяў тых кароў, дак і не ведае, што Іван цяпера таксама ў начальніках у нас. Рахункаводам стаў.

— Гэта пры мне яшчэ было, — кіўнуў галавой Зазыба.

— Мая справа — пісаць, — быццам адхрышчваючыся ад чаго, сказаў Падзерын.

— Я таму пра работу, —сказаў Сілка Хрупчык, — што ўспомніў: засталіся ў лесе клёпкі мае. — Сілка трохі рабіў па бандарнай справе і дзён колькі назад паскяпаў асіну, а прывезці не паспеў. — Дак, можа б, каня ўзяць якога?

— Аднавочку, — жартам падказаў Іван Падзерын.

— Ета ўжо ты сам вязі на аднавокай! —не змоўчаў Сілка Хрупчык.

— Паглядзі сам, якога ўпадабаеш, таго і запрагай, — сказаў тады Зазыба. — Я цяперашніх коней не ведаю.

— А навошта табе, Сіланці, клёпкі? — пацікавіўся праз момант Іван Падзерын. — Бочак жа цяпера не будзе як збываць?

— Ета яшчэ паглядзець трэба, — сказаў Сілка Хрупчык.

— Раней дак на Ілью…

— А цяпера на Звіжанне! У Мядзведзі паеду і прадам. Думаеце, цяпера дак і бочкі людзям непатрэбны будуць?

— Калі ета Ілья сёлета быў?

— Ён заўсёды прыходзіцца ў жніўні, на другі дзень, — падказаў Парфён Вяршкоў.

— Але такая мітрэнга, — уздыхнуў Іван Падзерын. — Тута забудзеш і пра святых.

— А то без етага дак ты дужа помніў пра іх! — засмяяўся Сілка Хрупчык. — Цяпера, даўжно, і папы добра не ведаюць, якое свята за якім ідзе. Я сам пра Ілью помніў, бо пільнаваў, каб на базар у Бабінавічы ехаць…

І раптам задзогалі нагамі хлапчукі — тыя ўсё-такі, на свой страх, збегалі на Драніцаў гарод.

На гародзе сапраўды была пакапана зямля, і яны хутка адшукалі схованку: пад дзірваном ляжала загорнутая ў падраны мяшок вайсковая торба.

Торба была нечым напакавана. Але хлапчукі не сталі трыбушыць, прынеслі, як ёсць, да стайні.

Іван Падзерын узяў торбу, паважыў на вялікім пальцы.

— Ого! — сказаў ён весела.

Мужыкі паўставалі з бёрнаў, абступілі Івана Падзерына, аднак глядзець пры гэтым адзін на аднаго не маглі. На месцы засталіся толькі Дзяніс Зазыба, якому непрыемна стала, што дарослыя раптам ледзь не пачалі блазнаваць, ды яшчэ Раманаў татарын Рахім, які, здавалася, абыякава ставіўся да ўсяго, што адбывалася вакол. Іван Падзерын расшпіліў торбу, сунуў туды руку і выняў цэлы жмут папер. Патрымаў у выцягнутай руцэ, пасля аддаў, расчараваны, Раману Сёмачкіну. Той таксама паглядзеў на паперы ў здзіўленні і па чарзе перадаў іх Парфёну Вяршкову.

— Вынімай усё! — сказаў Сілка Хрупчык.

Іван Падзерын перавярнуў торбу дагары, страсянуў. На зямлю пасыпаліся лісты.

— А я думаў, — расчаравана сказаў Сілка Хрупчык, — можа, грошы якія хавалі яны!.. Ажно во-о-о што! Бярыце, хлопцы, — сказаў ён падлеткам, — да нясіце етую пісаніну ў возера.

— Пачакай, Сіланці, — заступіў падлеткам дарогу Парфён Вяршкоў. — Можа, што важнае, дзяржаўнае. Трэба глянуць. Можа, якія дакументы з раёна. А ты ў возера! Яўменавіч, — гукнуў ён Зазыбу, — паглядзь, можа, што патрэбнае? — нагнуўся, грабянуў па зямлі растапыранай рукой і сам панёс паперы да Зазыбы.

Зазыба прыняў іх на ўлонне, пачаў распрамляць, каб пачытаць збольшага.

Парфён Вяршкоў стаяў, не адыходзячы, і назіраў, як Зазыба паступова хмурыў лоб, удаючыся ў паперы. Астатнія верамейкаўскія дзядзькі таксама не зводзілі вачэй з намесніка старшыні калгаса.

Нарэшце Зазыба падняў галаву на Парфёна Вяршкова і, вінавата ўсміхаючыся, сказаў:

— Глупства адно… Нічога дзяржаўнага няма тута… Можна ў возера кінуць.

— Тады навошта закопваць іх было? — не паверыў Раман Сёмачкін.

— І праўда, чаму? — сталі незразумелыя вочы і ў Сілкі Хрупчыка.

— Мабыць, Зазыба не ўсё прачытаў? — паглядзеў на мужыкоў Раман Сёмачкін.

— А што чытаць? — адмахнуўся Зазыба.

— Да тое, што напісана, — пачаў насядаць на Зазыбу Іван Падзерын.

— Урэшце, ты сам граматны, вазьмі да й чытай, — сказаў яму Зазыба. — Гэта пісьмы падмётныя.

— Цэлая торба?

— Можа, ёсць і яшчэ якія паперы, але мне трапіліся адны пісьмы.

— І ўсё на верамейкаўцаў? — як ашалела плюскаў вачамі Іван Падзерын.

— Мусіць, сабраны са ўсяго раёна, — заступаючыся за Зазыбу, разважаў Парфён Вяршкоў.

— Але на каго? — стаяў у неўразуменні Раман Сёмачкін.

— У кожным разе, не на цябе, — кінуў яму Зазыба.

— Але ж і не на цябе! — нібыта з зайздрасцю сказаў Раман Сёмачкін. — Ты савецкай уласці служыў верай і праўдай. Ета што яна цябе трохі асадзіла, дак было дужа не старацца. Масея твайго таксама, мабыць, за дужую адданасць забралі. Не, на цябе пісьмаў не пісалі. Каму было пісаць?

— Няхай от пакапаюцца, — кіўнуў галавой Зазыба, — дак, можа, знойдуць і твае.

Мужыкі падступаліся да Івана Падзерына — давай чытай. Але той, нібыта асцерагаючыся чаго, адмовіўся. Тады паклікалі Івана Гаманькова: хлапец перайшоў у шосты клас, і на яго можна было спадзявацца.

Іван Гаманькоў адразу пазнаў сярод почыркаў руку свайго аднакласніка — Міцькі Драніцы: той пісаў пад бацькаву дыктоўку.

Першы ліст трапіўся на Радзівона Чубара. І гэта здзівіла верамейкаўскіх мужыкоў: Мікіта Драніца ўсе гэтыя гады, пакуль Чубар жыў у Верамейках, набіваўся да таго ў дружбу.

«І тады, — чытаў Іван Гаманькоў, — я прыгласіў таварыша Чубара Радзівона Антонавіча да сібя. — Драніцу, мусіць, вельмі хацелася, каб напісана было па-руску. — Пілі мы самагонку, якую прынёс мне Хвядос з Дзяржыння, а таксама маскоўскую гарэлку, каторую бралі за свае грошы ў магазіне. Таварыш Чубар пры етым ругаў прысядаціля рыка таварыша Сілязнёва, крыцікаваў таксама таварыша Качуру, які прыяжжаў учора ў Вірамейкі. Зацем таварыш Чубар сабраўся і паехаў у пасёлак Мамонаўку да сваёй палюбоўніцы Аграфены Азаравай, каторая пацірала мужа ў філянскую вайну. Учом і распісваюся. Нікіта Драніца».

Быў сярод папер ліст і на старшыню Верамейкаўскага сельскага Савета Ягора Піліпчыкава. Паслухалі і той з вялікай і непадробнай сялянскай цікавасцю.

— А еты ўжо пра дзядзьку Дзяніса, — сказаў Іван Гаманькоў праз нейкі момант, адшукаўшы запісаны буйнымі літарамі ліст з вучнёўскага сшытка.

— Чытай! —падбадзёрылі хлопца дзядзькі: ім нечага ажно смешна было слухаць, як пісаў Драніца пра сваіх аднавяскоўцаў.

— Што ён тама пра Зазыбу піша!

Але Гаманькоў адно азіраўся на Зазыбу.

— Нічога, чытай, — наступіў падлетку на нагу Парфён Вяршкоў.

Тады Зазыба пакруціў галавой, усміхнуўся.

— І любіце ж вы… — але не дагаварыў да канца сваю думку.

«Сапшчаю, — пачаў чытаць Іван Гаманькоў, — што паследнія ўрэмя я наглядаў за нашым заўхозам Зазыбам Дзянісам Я., каторага тры гады знялі з прысядаціля і паставілі Чубара. Д. Я. Зазыба маўчыць, але ёсць людзі, якія не вераць яму, патаму што ён не п’ець. У далейшым буду таксама атпісваць Вам і пірыдаваць ціраз маю бабу, бо яна возіць па пятніцах у раівон сліўкі з гуцянскага сіпаратара. К сяму — Нікіта Ляксеявіч Драніца».

— Як той рашпіль, — пакруціў галавой Іван Падзерын і перадражніў Драніцу: — «К ся-му Ні-кіта Ля-яксеявіч»… Хто б падумаў?

— Дак ён жа пра Дзяніса не вельмі каб, а? — павадзіў па ўсіх вачамі Сілка Хрупчык.

Тады зарагатаў Раман Сёмачкін:

— Здаецца ж, як той сабака, ніколі бліноў не пёк, а цеста еў!

— А ты — рот нараспашку, — зрабіў дурнаваты твар Парфён Вяршкоў.

Раман Сёмачкін адчуў, што гаворка ад Мікіты Драніцы можа перакінуцца на яго, таму адразу надзьмуўся, хоць Парфён Вяршкоў, па сутнасці, нічога абразлівага не сказаў. Тым не менш Раман ужо назнарок чырванеў ад злосці, якая нібыта распірала яго і якую ён стараўся стрымаць у сабе.

Парфёну Вяршкову Раман Сёмачкін ужо не адказваў. Ён павярнуўся да Рахіма, буркнуў:

— Хадзем, а то… можа, тама немцы ўжо ў вёсцы, а мы…

— Яно й праўду кажа Раман! — нервова засмяяўся Іван Падзерын. — Пакуль мы сядзім тута, дак немцы, можа, да баб нашых!..

Але жарту ніхто не падтрымаў — Парфён Вяршкоў нездаволена спахмурнеў, правёў далонню па сухіх губах; Сілка Хрупчык тым часам дастаў з-пад бярна вупраж на цэлага каня — хамут, сядзёлку, дугу — і сказаў падлеткам:

— Занясіце на канюшню.

— Дак жа ты збіраўся па клёпкі ехаць? — насмешліва глянуў на яго Зазыба.

— Куды цяпера паедзеш! —адвёў вочы Сілка Хрупчык.

Разыходзіліся ад стайні па два — спярша рушыў Раман Сёмачкін, павёў некуды свайго татарына, за імі падаліся дамоў Іван Падзерын і Сілка Хрупчык; Дзяніс Зазыба ішоў разам з Парфёнам Вяршковым — ім было ў адну дарогу.

Ужо капаў дождж.

Хмары цяпер чапляліся ледзь не за вясковыя стрэхі. Былі яны як пашматаныя, плылі яшчэ не спрэс, часам пасярод можна было бачыць само неба.

Рэдкія, але буйныя кроплі дажджу падалі на чорную сцежку, вытаптаную паўз платоў, лапаталі на гародах па бульбоўніку і гарбузоўніку, збівалі прыдарожны пыл з падтынніку — чортавага серабра, што не паспела адцвісці і да гэтага часу.

Буслінае гняздо, якое ўзвышалася на бярозе ля могілак, таксама было атулена хмарамі. Яно то вынырала з іх на кароткі час, і тады было відаць, як стаяла там старая бусліха, што прылятала каторы год на гняздо, то хавалася зноў ад вачэй.

— А вы таксама, — сказаў з дакорам Зазыба, — прыйшлі на работу! Але самі хоп на пасядзенне, а баб на канюшню паслалі. Няхай тыя раскрадаюць калгасную маёмасць, а мы, маўляў, ні пры чым.

— Дак яно ж… — памуліўся Парфён Вяршкоў. — Чубар недзе сышоў, а ты то… бытта і не гаспадар цяпера ў калгасе. Як зганяў тых кароў, дак не толькі самога на вёсцы не відаць, але нават голасу не чутно. А час не чакае. І немцы, ты сам кажаш, у Бабінавічах, да і… жніво пара пачынаць. Другі год дак мы ўжо, лічы, канчалі такімі чысламі. А тута як наўмысля, еты год бытта адно да аднаго. К таму ж Раман, мабыць, праўду казаў, калгасаў немцы не дапусцяць больш. Так што…

— Але не Раману калгасным дабром распараджацца, — са злосцю сказаў Зазыба: сваёй галавой ён разумеў, што Парфён Вяршкоў, гаворачы пра ўсё, меў пэўную рацыю, і клопат быў недарэмны, але сам пакуль не здольны быў ні растлумачыць што-небудзь з таго, што хвалявала людзей у Верамейках, ні зрабіць правільна, каб вырашыць, па сутнасці, неадкладную і надзённую справу, бо не было самае яснасці на яе.

— Вы, мабыць, пачапаліся ета на канюшні з Раманам? — усміхнуўся Парфён Вяршкоў. — Бачу, спярша Раман прыскочыў

да нас, як укушаны, пасля ты ідзеш. Па твары відаць, што паміж вас нешта адбылося. Да і маўклівасць твая. Прасядзеў амаль без языка, як той Раманаў татарын. А дарэмна. Мне во давялося гаварыць з ім і за цябе, і за сябе адным часам.

— Я гэта зразумеў, — нібыта жартам сказаў Зазыба.

— А Раман, аказваецца, хітры, — выціраючы рукавом твар ад дажджу, разважаў Парфён Вяршкоў. — Разумее, што свавол можа плачам скончыцца. Таму нейкага татарына хоча падставіць, а сам пры ім — як кажуць, і з мукою, і не пыльна.

— Цяпер усякае г… усплываць будзе, — уздыхнуў Зазыба. — Як у вялікую паводку. Вада сляпая, яна нясе, што патрапіць. Але скажы, мусіць, ты выдумаў цяпера і пра Брава-Жыватоўскага, і пра Драніцу?

— Стану я выдумляць!

— А ўначы я падумаў, што ты проста бурчыш, — сказаў Зазыба. — Але чаму не гаварыў тады ясна, без намёкаў? Мы б іх падаставалі са столяў!

— А то сам не ведаў?

— Каб жа!

— Шкада ўсё ж, чалавек, што ні кажы. Але і я пра Брава-Жыватоўскага не здагадваўся, — прызнаўся Парфён Вяршкоў. — Думаў, адзін Раман Сёмачкін уцёк. А тады бачу ўранні — і Брава-Жыватоўскі ў Верамейках.

— А можа, і яшчэ хто?

— Не, мабыць, яны адны. — Парфён Вяршкоў колькі часу прайшоў моўчкі, пасля зноў загаварыў: — Яно, вядома, жыць хота ўсім. Але ж вон іх колькі, з усяе вёскі мужыкі пайшлі па мабілізацыі, а ў Верамейках апынуліся толькі Раман да Брава-Жыватоўскі.

## III

Чубар сапраўды з Верамеек падаваўся ў Крутагор'е. Але ў Белай Гліне бабы раптам сказалі, што ў горадзе немцы — адтуль ужо вярнулася дачка мясцовага ветэрынара, якая рабіла медсястрой у бальніцы.

Чубар спантанна апусціўся на лаўку пад вокнамі нечае хаты, адчуваючы, як перасыхае і храсне ў роце; пэўна, і на твары Чубаравым відаць была разгубленасць, бо белаглінаўскія бабы пачалі суцяшаць верамейкаўскага старшыню, а жонка аб'ездчыка Паляноўскага, да якога Чубар, здаралася, заязджаў па дарозе з Крутагор'я, дакорліва паківала галавой, паказваючы на вінтоўку:

— І навошта з етай ламачынай ходзіш цяпера? Кінуў бы ў раку, дак цалей быў бы. А то ні салдат, ні… Схопяць, як зладзюгу якога…

Чубар папрасіў напіцца, і нейкая маладзіца заспяшалася ў хату. Неўзабаве яна выйшла адтуль з вядром у руцэ, выліла каля варот на мураву ваду, мусіць, ужо летнюю, і праворна накіравалася праз вуліцу да калодзежа, што быў непадалёку, двары за два. Адтуль яна прынесла халоднай — па самыя вушкі — і паставіла вядро на лаўку. Чубар апусціўся на калені — чамусьці на дыбачках не стаялася, — схіліўся над вядром, абхапіўшы аберуч. Вада яшчэ гойдалася ў вядры, і Чубараў твар калыхаўся ў ёй таксама, то расплываючыся ўшыркі, як у няправільным люстры, то выцягваючыся ўдоўжкі. Праз момант вада адстаялася, тады Чубар пачаў піць набгом. Піў прагна, але без смаку, адчуваючы слабасць у целе; вада плюхалася на грудзі, сацінавая кашуля, зашпіленая толькі на апошнія гузікі, адразу намокла, халадок пачаў студзіць скуру; зайшліся зубы; тады Чубар паставіў вядро на ўсё донца, аддыхаўся і зноў сеў на лаўку, выпрастаўшы абутыя ў ялавыя боты ногі.

Па левы бок вясковую вуліцу пераходзіла гравійная дарога, якая вяла з Бабінавіч у Крутагор'е, і на ёй цяпер не было на чым воку зачапіцца, адны нізкарослыя, як велізарныя шары, куцобістыя вербы стаялі паабапал, адкідваючы на попельны пясок цені. Але было такое адчуванне, быццам з-за павароту, які пачынаўся за мостам каля валатовак, вось-вось выпаўзе нешта жахлівае і заслоніць сабой увесь прасцяг наперадзе. Паступова гэтае адчуванне набыло ў думках пэўную форму, і Чубару як не бачыўся ўжо імклівы рух па гравійнай дарозе варожых танкаў. Уяўнасць была настолькі моцная, што праз нейкі час верамейкаўскі старшыня не мог болей заставацца пасярод вуліцы. У жыцці ён не належаў да палахлівых людзей, прынамсі, так лічыў нават сам — можа, да першага вялікага страху, але цяпер ледзь не станавіліся ў яго пад скураным картузом валасы: жахліва было б апынуцца аднаму перад фашыстамі…

Развітаўшыся спехам з белаглінаўскімі кабетамі, Чубар пашыбаваў у завулак, што быў насупраць калодзежа.

Здарылася так, што Чубар, заняты эвакуацыйнымі справамі ў калгасе, страціў жывую сувязь з райцэнтрам. Сувязь да апошняга часу, вядома, была, але аднабаковая — старшыня калгаса адно прымаў з райцэнтра каманды, якія павінен быў выконваць. Пакуль ішлі ў Верамейкі тыя каманды, ён адчуваў сябе спакойна, прынамсі, у такой ступені, як здольны адчуваць чалавек, які

ведае, што ўжо насоўваецца навалай фронт. Але настаў час, калі тэлефон перастаў званіць: у адказ у тэлефоннай трубцы адно гуло, і на лініі сувязі, што праходзіла па кругавой ледзь не па ўсім раёне, не было чуваць нават галасоў тэлефаністак. Чубара гэта адразу занепакоіла. Аднак у галаву яшчэ прыйшла думка — сапсавалася недзе тэлефонная сувязь. Першы тэлефонны вузел на шляху да райцэнтра быў у Бабінавічах, і Чубар разважыў, што, можа, якраз на гэтых сямі кіламетрах і ёсць пашкоджанне, бо мястэчка таксама не давала на званкі адказу. Тады Чубар пасадзіў на каня старога Цітка і загадаў, каб той праехаўся верхам уздоўж тэлефонных слупоў. Цiток выканаў усё, што хацеў старшыня, але пашкоджання не знайшоў — дрот па-ранейшаму туга вісеў на белых кубках, а слупы стаялі праз роўныя прамежкі скрозь. Цiток вярнуўся ў Верамейкі, далажыў Чубару. І яны ўдвух доўга сядзелі ў калгаснай канторы, меркавалі, чаму так выходзіла, што і слупы цэлыя, і дрот не парваны, а тэлефон не працуе. Нарэшце старшыня сказаў Цітку застацца ў канторы да самага вечара, калі патрэбна будзе, то і на ўсю ноч — уласна, Цiток і без таго бадай ад пачатку вайны амаль не адлучаўся з канторы, дзяжурыў пры тэлефоне, — а сам пайшоў у хату, дзе кватараваў, пачысціў выструганым прутком вінтоўку, палічыў патроны і ў трывозе засігаў па бальшаку. У яго была надзея, што заспее там савецкіх і партыйных кіраўнікоў, тым больш што на тэрыторыі раёна дзейнічаў знішчальны батальён, якім камандаваў начальнік міліцыі. Да гэтага батальёна былі прыпісаны неваеннаабавязаныя актывісты, таксама старшыні сельскіх Саветаў і калгасаў, якія падпадалі пад бронь, у тым ліку і Чубар. Накіроўваючыся ў Крутагор'е, Чубар браў у разлік таксама і тое, што раённы знішчальны батальён у кожным разе павінен далучацца да рэгулярнай арміі, тады не трэба будзе актывістам туляцца абы-дзе, можна адступаць разам, стаўшы байцамі якой-небудзь чырвонаармейскай часці. І вось усяму гэтаму — разлікам і спадзяванням — прыйшоў канец: раптам у Белай Гліне высветлілася, што Крутагор'е занялі фашысты!..

Паспакайнеў Чубар тады, як выйшаў за Белую Гліну і апынуўся каля дзебры — старога рэчышча, па якім некалі цякла Бесядзь і якое цяпер парасло вольхай і вербалозам. З вёскі Чубара ўжо нельга было заўважыць. Дарога, якая ішла з Бабінавіч у Крутагор'е, ад дзебры таксама не праглядвалася.

Чубар зняў з пляча вінтоўку і паволі, быццам з неахвотаю ці ў вялікай задуме, пакрочыў па лузе, падмінаючы падэшвамі ботаў пасохлы плюшч і застаялую мурожніцу, пракладваючы

след па густой і злямцаванай, як мядзведзева шкура, траве. Як і ў Верамейках, у Белай Гліне калгасны луг таксама не ўвесь пакасілі — паўсюды цяпер не хапала мужчынскіх рук: за гэтыя няпоўныя два месяцы вайны адбылося ўжо некалькі мабілізацый. Копы стаялі на лузе толькі ў вусці — там у Бесядзь упадала Дзяражня, можа, самы вялікі прыток гэтай ракі, што пачыналася недзе на Смаленшчыне і ўлівалася непадалёк ад Гомеля ў Сож. Было на лузе трохі і непагрэбенага сена, але яно даўно сапрэла ў пакосах і выгляд мела як леташняе; на пракосах ужо адскочыла атава, якая неяк незвычайна, нібыта пафарбаваная, зелянела паміж пажоўклага цурбылля: была маладая і кволая, як мокрае восеньскае жыта пасля зазімку. Дзебра шмат дзе перасохла за лета, дно там — глеістае і парэпанае — паспела пакрыцца пячоначным мохам і яшчэ нейкай мяккай, паклычанай травой, а па азярынах, між пагрызенага лісця белых і жоўтых гарлачыкаў, плавалі качкі. Пасярод лугу тырчала пахіленая вітка — можа, яшчэ з вясны засталася стаяць, калі запіралі сенажаць, і Чубар, як толькі дайшоў да яе, самахоць прыпыніўся, каб выпрастаць. Азірнуўся, вядома, і на Белую Гліну. Высокі бераг над старым рэчышчам больш не засціў сваім горбам вясковыя стрэхі. Чубар задумаўся — дарэмна ён гэтак заседзеўся ў Верамейках, здаецца, што каштавала перадаць калгасныя справы Дзянісу Зазыбу. Тады б пэўна ўжо не давялося бадзяцца тут, быццам пакалечанаму буслу перад Пакровамі. Чубар успомніў, як нядаўна не паехаў у Машавую, калі выклікалі туды па тэлефанаграме з райкома партыі. Тады ён не надаў гэтаму выкліку асаблівага значэння, дакладней, не столькі не надаў, колькі не здолеў сабрацца: тэлефанаграму яму ўручылі з вялікім спазненнем, бо ў той дзень яны з Іванам Падзерыным ездзілі за Гаўрылаву пожню абмерваць стагі. Больш таго, нават на другі дзень ён не сабраўся пазваніць у райком, растлумачыць сваё нез’яўленне — усё яшчэ пакладаўся на даваенны час, калі выклікаў на розныя нарады было, можа, сапраўды замнога, і таму трэба было мець асаблівае чуццё на іх, каб адгадваць, на якую наведвацца абавязкова, а на якую не. А тут раптам чамусьці выклікалі не ў Крутагор’е, а ў Машавую, звычайную вёску, што за дванаццаць кіламетраў ад Верамсек. І вось цяпер Чубару пачало рупіць, што менавіта апошняе, хоць і несвядомае непаслушэнства, калі можна сказаць так, і было прычынай, з якой вынікалі сённяшняе хваляванне і сённяшняе няведанне.

А ў той жа дзень сапраўды адбылася важная падзея — раённым камітэтам партыі сумесна са штабам 13-й арміі быў створа-

ны партызанскі атрад, куды ўвайшлі актывісты раёна, старшыні сельскіх Саветаў, калгасаў, дырэктары машынна-трактарных станцый і прадпрыемстваў.

…У адным месцы Бесядзь — якраз там, куды накіроўваўся Чубар, — рабіла круты разварот, і правы бераг быў абрывісты; глыбіны зямлі, спрасаваныя сівой вапнай і рыжай балотнай рудой, павісалі над вадой, якая шумна хлюпала ўнізе, быццам рака тут раздвойвалася і адна, роўная па шырыні, спакойна плыла праз луг між чароту і аеру, а другая пракладвала сабе шлях недзе пад зямлёй, употай ад людзей. Чубар ступіў на абрыў, глянуў на паверхню ракі. Вада была чорная — сонца ўжо не дасягала яе за берагам. На паверхні кружыліся ступкі-вірунчыкі. Бесядзь у гэтым месцы была шырокая. Па правы бок, амаль пасярод яе, узвышаўся парослы чырвонай лазою пясчаны астравок. Туды, мусіць, часта наведваліся бабры, якія паспелі за колькі год вельмі распладзіцца, — скрозь паўз бераг вытыркаўся з вады пагрызены імі хмыз, бялелі свежай драўнінай камлякі дрэў. Па левы бок на рацэ, упрытык да густога чаротавага зарасніку, быццам плывучы мост, гойдаліся вываратні. Насупраць, крокаў за трыста, на адхонным беразе, стаяў лес; наперадзе яго, на самым узлеску, кідаліся воку два магутныя дубы: адзін вілаваты, як з назнарок падрэзанай верхавінай, а другі некрануты, таму разбуялы і велічны. Трохі далей раслі таксама дубы, але яны стаялі далёка паміж сабой і былі параскіданы па ўсім поплаве, што абмывала рака. Адсюль пачыналіся забесядскія імшары — яловыя расцяробы і сасновыя выспы, якія ішлі праз многія кіламетры; пасярод іх недзе былі вёскі, у якіх жылі людзі, — такія самыя вёскі, як Верамейкі, і такія ж людзі, як у Верамейках. Чубару раптам прыйшло ў галаву, што ён за гэтыя гады, пакуль быў у Верамейках, так і не пабываў у багата якіх вёсках.

Сюды, у гэты адміністрацыйны раён, яго пераманіў з-пад Оршы загадчык Крутагорскага райземаддзела Стахван Ядлоўскі. У трыццаць трэцім годзе яны разам канчалі саўпарткурсы, але Ядлоўскі па накіраванню адразу замацаваўся ў Крутагор'і, а Радзівон Чубар тым часам усё спрабаваў свае здольнасці кіраўніка на розных пасадах, пераязджаючы з раёна ў раён. Ядлоўскі накіроўваў Чубара ў Верамейкі на час, пакуль адкрыецца добрая вакансія ў раённым цэнтры. Але неўзабаве Стахвану Ядлоўскаму прапанавалі самому пераехаць у другі раён працаваць, і Чубару давялося затрымацца на пасадзе старшыні калгаса. У Верамейках калгас на ногі паставіў яшчэ Зазыба. Чубару заставалася

адно кіраваць. І вось на трэцім годзе яго старшынства пачалася гэтая вайна…

Чубару неабходна было як хутчэй, пакуль не села сонца, трапіць сёння на той бераг Бесядзі, каб апынуцца пад аховай лесу, і ён падумаў спярша пашукаць броду, пасля ўспомніў, што вышэй па рацэ павінен стаяць паром. Але хутка спахапіўся — да таго парома, разважыў ён, могуць рухацца і немцы, раз яны ўжо занялі раён, тым больш што мастоў паблізу на Бесядзі не было, таму лепш за ўсё сапраўды перайсці раку сваім ходам. Неўзабаве ён ужо крочыў паўз самы бераг, пільнуючы мель. Сцежкі пратаптанай не было, і Чубар спатыкаўся, абмінаючы кусты. Ён нават не зглердзеў, як дасягнуў вусця, дзе злучалася з Бесяддзю Дзяражня: непрыкметна павярнуў ад галоўнага рэчышча і падаўся берагам Дзяражні. Зразумеў памылку толькі тады, калі апынуўся непадалёк ад канцавых двароў Белай Гліны — раптам узняў галаву і ўбачыў наперадзе знаёмы мост, а за ім млын.

Мост быў драўляны, на чатыры пралёты. Па той бок яго тырчалі з вады быкі-трохкутнікі, аб якія ў час паводкі ператрушчваліся крыгі.

Чубар ашалела пастаяў колькі хвілін насупраць драўлянага збудавання на рацэ, паазіраўся. Здавалася, нічога не пагражала яму. Адно шкада было, што патрачана багата часу — у Чубаравы планы ніяк не ўваходзіла калясіць у чорта на рагах. Але як толькі ён наважыўся павярнуць назад, насустрач выйшаў з кустоў вербалозу чалавек у чырвонаармейскай форме. Быў ён высокага росту, але ніжэй за Чубара. Вялікія цёмныя вочы пазіралі на Чубара з цікаўнасцю, але без асаблівай насцярожанасці; як на вока, то чырвонаармеец не меў пры сабе нават зброі — пасля ўжо Чубар агледзеў, што наган у таго вісеў на рэмені ззаду; па выглядзе і па тым, як стрымана паводзіў сябе чырвонаармеец, можна было меркаваць, што ён сачыў за Чубарам даўно, можа, ад самага вусця; нават тая акалічнасць, што Чубар меў вінтоўку, здавалася, не выклікала здзіўлення. Непрыкметна — прынамсі, гэтак думалася — Чубар кінуў вачамі спярша па адзін бок ад чырвонаармейца, пасля па другі. Там, дзе вербалоз быў амаль непралазны, стаяў буданчык — проста на расцярэбленым доле. Крокі за два ад яго Чубар убачыў другога чырвонаармейца. Той таксама не зводзіў вачэй з незнаёмага чалавека. На твары яго блукала недаверлівая ўсмешка. Менавіта гэты, другі чырвонаармеец, і загаварыў з Чубарам першы: быццам выходзячы з вады, ён адхінуў ад сябе рукамі вербалоз і ступіў на сцежку.

— Можа, у таварыша пакурыць ёсць? — спытаў чырвонаармеец.

Чубар выцер рукавом узмакрэлы твар, даверліва ўсміхнуўся:

— Я не куру, таварыш.

Тады чырвонаармеец патушыў недаверлівую ўсмешку на твары, зняў з галавы пілотку — кароткія, але падрослыя валасы яго пырснулі ва ўсе бакі.

— А я думаў… — сказаў расчаравана чырвонаармеец і ляпнуў па растапыранай далоні пілоткай.

— Хто вы? — спытаў у Чубара высокі чырвонаармеец.

— Я — старшыня калгаса.

— Гэтага? — паказаў галавой высокі чырвонаармеец на Белую Гліну.

— Не, туды яшчэ, — кіўнуў Чубар на лес.

— Што вы тут робіце?

— Ішоў у Крутагор'е. Але там, кажуць, немцы. Чырвонаармеец ссунуў выгаралыя бровы — адно,

над правым вокам, было рассечана некалі, і маленькі плешык не даваў валасам зрасціся, — пастаяў колькі моманту ў задуменні, пасля перапытаў:

— Значыць, старшыня калгаса?

Другі чырвонаармеец тым часам закінуў за плечы вінтоўку і спакваля, як на пагулянцы, пайшоў пакручастай сцежкай да валатоўкі, што засціла сабой па правы бок цэлага паўнеба.

Неўзабаве постаць яго вырасла на вяршыні валатоўкі — адтуль кіламетраў на шэсць была адкрытай дарога на Крутагор'е.

«Не выключана магчымасць, — падумаў Чубар, — што гэтыя чырвонаармейцы таксама трымаюць шлях за Бесядзь, тады нам будзе ў адну дарогу».

— І куды вы цяпер? — спытаў чырвонаармеец.

— Куды загадаеце! —Чубар махнуў, нібыта крыламі, рукамі і, апускаючы іх, нечакана ляснуў сябе па клубах.

Абодва — і Чубар і чырвонаармеец — раптам засмяяліся з гэтай Чубаравай бездапаможнасці.

— Маё прозвішча Шпакевіч, — сказаў чырвонаармеец. — А той, — ён паказаў на свайго таварыша, які вяртаўся ўжо з валатоўкі, — Халадзілаў. Ён — сібірак. Аднекуль з-за Урала. А я — з Мазыра. Так што мы землякі з вамі.

— Беларусы, — нібыта дзеля поўнай яснасці сказаў Чубар.

Падышоў Халадзілаў, як праспяваў:

— Не пылит дорога, не шумят кусты…

— Думаеш, замірэнне выйшла? — паглядзеў на яго Шпакевіч.

— Знаеш, як у той прымаўцы…

Шпакевіч пачаў тлумачыць Чубару:

— Нам загадана ўзарваць гэты мост. Вядома, як пройдуць па ім апошнія чырвонаармейскія часці. Але мы затрымаліся трохі — добра б было разам з немцамі падняць яго ў паветра!

— Скажы лепш, забылі пра нас, — сказаў Халадзілаў. — Абяцалі забраць адсюль і не забралі. Цяпер вось адны планы строім. Як кажуць, самадзейнасцю займаемся.

— Я не думаю, што пра нас забылі, — запярэчыў Шпакевіч. — Нешта не выйшла ў іх там.

— Мяне ўжо не першы раз забываюць, — сказаў са зласлівай усмешкай Халадзілаў. — Я гэтыя масты ўзрываю ледзь не ад самай граніцы. І кожны раз пасля выбіраюся з так званага акружэння. А вы? — павярнуўся ён да Чубара. — Чаму вы апынуліся тут?

— Хацеў далучыцца да сваіх у Крутагор'і, — адказаў Чубар. — У нас там знішчальны батальён. Я таксама прыпісаны да яго. — Ён паказаў на вінтоўку.

— Патроны ёсць? — спытаў Шпакевіч.

— Штук дзесяць.

— Не багата, — пацёр Шпакевіч далонню патыліцу. — У нас іх таксама — кот наплакаў. Але добра, што вы тутэйшы. Калі не маеце нічога, можам пайсці разам.

Чубар згодна кіўнуў галавой — якраз дарэчы!

— Прыгожа вёска размешчана,—з тугой пазіраючы на белаглінаўскія хаты, сказаў Халадзілаў. — Асабліва калі глядзець адтуль. — Ён паказаў рукой на валатоўкі і дадаў: — У вас, у Беларусі, наогул прыгожа. Некалі мне здавалася, што тут адны балоты. Чытаў пра гэта нават у кніжках.

— Балоты — гэта ў нас, на Палессі, — удакладніў з усмешкай Шпакевіч. — А тут, бачыш, пяскі.

— Хапае балот яшчэ і ў нас, — таксама з усмешкай сказаў Чубар.

— А курганы? — паглядзеў на яго Халадзілаў. — Адкуль яны такія тут?

— Людзі кажуць — ад шведаў. Нібыта Карл Дванаццаты пераправяўляўся тут, калі на Украіну ішоў да Мазепы.

— Гэта запісана дзе?

— Не ведаю. Але ходзяць чуткі. Раней дык нават залатыя рэчы знаходзілі тут.

— Якраз дарэчы, — засмяяўся Шпакевіч. — Ты б, Халадзілаў, схадзіў зноў на курган, можа, табе таксама пашанцуе.

— Твая ж чарга, — сеў на траву Халадзілаў.

— Я пагляджу, — прапанаваў свае паслугі Чубар.

Шпакевіч, які быў за старшага ў камандзе, не запярэчыў, адно здзіўлена глянуў на Чубара.

Сонца ўжо не праменілася. На ўсім ляжала надвячэрняя вусцішнасць. Сонечная прозалаць была разліта па ўсім наваколлі — па стрэхах вясковых хат, па шатах дрэў, па калгасных палетках, што пачыналіся ў вялікай лукавіне, якую ўтварала за мостам Дзяражня. Чубар узыходзіў на валатоўку лёгка, ногі па сцежцы ажно пружынілі, нягледзячы на тое, што яна ўвесь час вяла ўгору. Пасля неспадзяванай сустрэчы з чырвонаармейцамі да Чубара прыйшлі спакой і ўраўнаважанасць. Нечага было такое падманлівае адчуванне, быццам жыццё, зрушанае вайной, зноў вярнулася на свае трывалыя кругі. Але раптам да валатоўкі аднекуль даляцеў ціхі гул, і Чубар пачаў насцярожана лавіць яго, падумаўшы, што гэта рухаюцца па дарозе нямецкія танкі альбо аўтамашыны. Усю істоту яго зноў працяў неспакой. Чубар прыпыніўся, збянтэжана азірнуўся. Чырвонаармейцы таксама пачулі гул. Яны стаялі непадалёку ад моста і ўслухоўваліся. Тады Чубар з усіх ног кінуўся бегчы на вяршыню валатоўкі, каб паглядзець на дарогу адтуль. Але дарэмна. Ні танкаў, ні аўтамашын на дарозе не было. Гук між тым усё нарастаў, шырэў. Нарэшце Чубар зразумеў, што падаў той на зямлю з неба. «Самалёты», — паспакайнеў ён, хоць і ведаў, што быць навідавоку ў фашысцкага лётчыка таксама небяспечна. Аднак ратунку шукаць на валатоўцы не стаў. Па-ранейшаму адкрыта стаяў на самай вяршыні і глядзеў на неба. Паступова Чубар пачынаў адгадваць, што гук даносіўся з таго боку, дзе заходзіла сонца. Прамінула яшчэ колькі часу — вядома, вымерваўся ён менш чым хвілінамі, — і трохі збоч Белай Гліны, на вышыні, можа, тысячы метраў, узніклі абрысы самалёта. За гэтыя тыдні, як ішла вайна, людзі ўжо навучыліся адрозніваць свае самалёты ад варожых. Чубар таксама без вялікай цяжкасці пазнаў савецкі бамбавоз, які ляцеў на Крутагор’е.

Спалох, такім чынам, быў дарэмны. Чубар кінуў яшчэ погляд на дарогу, якая пустая ляжала каля падножжа валатоўкі, і, упіраючыся абцасамі ў трывалы грунт на сцежцы, пачаў спускацца ўніз, каб далучыцца да чырвонаармейцаў.

Тым часам паміж Шпакевічам і Халадзілавым адбывалася размова.

— Зараз ён недзе грымне, — казаў Шпакевіч.

— Калі даляціць, — гаварыў недаверлівы Халадзілаў. Падышоў Чубар.

Шпакевіч і яму сказаў:

— Паляцеў наш! Зараз недзе грымне!

Але не паспеў схавацца за валатоўкамі бамбавоз, як пачуліся кароткія чэргі, нібыта хто драў ужо мокрае палатно.

— Ну вось, я ж казаў, калі паспее даляцець! — зусім без адчування свае праваты вымавіў Халадзілаў.

Мусіць, на падлёце да Крутагор'я пачынаўся паветраны бой.

Халадзілаў не вытрымаў, падаўся на валатоўку глядзець.

Скончылася ўсё тым, што моцны выбух раптам страсянуў наваколле і ў неба ўзняўся чорны слуп дыму.

Слуп гэты спярша рос проста ўгару, пасля раптам заклубіўся, утвараючы вялікі пажар, які паступова шырэў, засланяў жоўта-белым — саламяным — дымам неба на паўночным усходзе.

На Шпакевіча ўсё гэта — і абрынуты бамбавоз, і нечаканы пажар — падзейнічала нядобра. Чубар бачыў, як на пахмурным твары ў таго хадзілі пад скурай жаўлакі. Здавалася, колькі гэтакага было ўжо на шляху — Шпакевіч, як і Халадзілаў, адступаў ад заходняй граніцы, — але прывыкнуць да пажару не мог, таксама як не мог спакойна глядзець на забітых: чалавечае шкадаванне ў ім заўсёды ўзмацнялася адчуваннем прыкрасці і бездапаможнасці…

— Уласна, нам неабавязкова заставацца тут надалей, — раптам рашуча, з нейкай незнаёмай яшчэ для Чубара жорсткасцю ў голасе, сказаў Шпакевіч. — Зараз вось ірванём мост і пойдзем.

— Да цёмнага можна яшчэ паспець на той бок, — быццам падахвоціў Шпакевіча Чубар, паказаўшы пры гэтым на лес, што чарнеў за Бесяддзю.

Непрыкметна падышоў Халадзілаў.

— І хто іх адных, без прыкрыцця, пускае, гэтыя бамбавозы? — пашкадаваў ён уголас.

— Што там яшчэ загарэлася? — спытаў Шпакевіч.

— Нейкая вёска.

— Можа, Крутагор'е?

— Не, гэта бліжэй, — сказаў Халадзілаў. — Але сволачы збілі над самай вёскай. Два «месеры». Нават адруліць не далі. Цяпер вось пажар. Гараць хаты. А лётчык не паспеў выскачыць. Нізка ляцеў. Некаму зноў нядобры сон будзе…

— Мы тут рашылі з таварышам Чубарам, — паглядзеў на Халадзілава Шпакевіч. — Трэба ўзрываць мост. Хопіць чакаць.

— Дык я пра гэта даўно табе талкую, — схіляў набок галаву Халадзілаў.

— Усё роўна, — працягваў гаварыць Шпакевіч, — немцы да раніцы ўжо не папруцца сюды. У іх, мусіць, начлег.

— М-да, ваююць фашысты з камфортам, — цыркнуў скрозь зубы Халадзілаў. — Усё па рэжыму. Абед, сон, адпачынак. Хацеў вось нейкі дзівак напалохаць нанач, дык і не ўдалося!..

Шпакевіч і Халадзілаў пастаялі ў маўклівай мужчынскай скрусе, а тады рушылі да буданчыка. Чубар таксама падаўся туды. На прывялай траве ў буданчыку ляжалі два чырвонаармейскія шынялі, вінтоўка — мусіць, Шпакевічава, бо Халадзілаў сваю ўвесь гэты час трымаў пры сабе. Шпакевіч сеў на дыбачкі, пачаў выграбаць рэчы. Падаў Халадзілаву скрыню. Гэта была ўзрыўмашына, і Чубар цяпер убачыў, як ад яе да моста вёў паўз бераг Дзяражні чорны шнур. Халадзілаў дастаў з кішэні штаноў ручку, прыладзіў да скрыні. Завесці ўзрыўмашыну Халадзілаву каштавала аднаго павароту ручкі — на скрыні адразу загаралася чырвоная лямпачка. Можна было рабіць выбух. Але Шпакевіч загадаў усім схавацца пад абрыў, куды не маглі дастаць абломкі дрэва, хоць зарад пад сярэдняй апорай яны паклалі невялікі. Халадзілаў перанёс таксама туды і ўзрыўмашыну.

Колькі часу Халадзілаў і Чубар чакалі пад абрывам Шпакевіча — той нечакана затрымліваўся каля буданчыка.

Халадзілаў нібыта пашкадаваў:

— Дарэмна спяшаемся. Можна было б на ноч схадзіць у вёску. Нехта адзін павартаваў бы каля моста, а астатнія — да маладзіц.

— З гэтым час быў управіцца, — засмяяўся Чубар.

— Дазволу чакалі, — жартаваў Халадзілаў. — Ад мясцовага начальства — без даведкі, заверанай пячаткай, яны цяпер не даюцца.

— Але мая пячатка на белаглінаўскіх баб, мусіць, не падзейнічае, —сказаў Чубар. — Тут не мая гаспадарка.

— Тады, можа, на дзевак? — блазнаваў Халадзілаў.

— На дзевак таксама.

— Гэта яны дарэмна, — нібыта пагразіў Халадзілаў. — Усё роўна немцы псаваць будуць. І без даведак, і без пячатак. Так, гвалтам.

— А ў цябе сям'я ёсць? — раптам спытаў Чубар.

— Не, я халасты.

— А бацькі?

— Бацькі есць.

— Мне Шпакевіч казаў, што ты сібірак.

— Не самы сібірак, але ж…

— Да вас далёка яшчэ.

Яны памаўчалі: Халадзілаў адчуваў дакор у тым, як Чубар перавёў яго юрлівую размову на рэчы, што спрадвеку прымушалі аціхаць і задумвацца самых зацятых гаваруноў.

Нарэшце зверху скочыў заклапочаны Шпакевіч. Падэшвы яго ботаў глыбока ўмялі намыты пясок на беразе, і сляды, якія былі бліжэй да ракі, пачалі напаўняцца вадой, што сачылася аднекуль спаднізу. Шпакевіч укленчыў побач, узяў рукамі абодвух за плечы, нібыта хацеў сутыкнуць, зашаптаў Халадзілаву ў вуха:

— Круці, брат!

Халадзілаў паставіў перад сабой скрыню на ракітавы корань, які нібыта жывым локцем вытыркаўся вонкі з абрыву, спытаў:

— А там, на мосце, нікога няма? Можа, зявака які ўзышоў?

— Каго цяпер панясе! — усклікнуў Шпакевіч. — А немцы, дык мы чакаем іх!

Чубар выпрастаўся, глянуў на край абрыву.

— Здаецца, нікога няма…

— Ну, машыначка, не падвядзі, — быццам у прадчуванні радасці, пацёр адна аб адну рукі Халадзілаў.

Чакаючы выбуху, Чубар уцяў галаву — справа гэта для яго была незвычайная, і таму ажно захалонула нутро.

Халадзілаў павярнуў узрыўную ручку. Але выбуху не атрымалася. Чырвонаармейцы пераглянуліся — у кожнага ў вачах было недаўменне. Шпакевіч кіўнуў галавой, паказваючы — давай, маўляў. Халадзілаў зноў павярнуў ручку. І зноў не пачулася выбуху. Тады Шпакевіч адвёў руку падначаленага, падступіўся сам да скрыні. Аднак і ў яго ўзрыўмашына не дзейнічала — лямпачка не патухала, а кантакту не было: ці то выхадная клема не кантачыла, ці то вінавата была міна, якую разам з шашкамі толу сапёры прывязалі пад мостам да апоры.

— Халера, — пачухаў галаву Шпакевіч.

Халадзілаў выцер тыльным бокам далоні спацелы твар.

— Яшчэ гэтага нам не хапала!..

— Я здагадваюся, — нервова засмяяўся Шпакевіч, — што было б з намі, каб па мосце сапраўды ехалі фашысты!..

Халадзілаў ва ўвесь рост кінуўся да моста. Вярнуўся адтуль, збянтэжана развёў рукамі — усё ў парадку. Тады Шпакевіч зноў пачаў паварочваць узрыўную ручку сам. Але дарэмна.

Чубару відаць было, як пакутліва думаў Шпакевіч.

— Давядзецца яшчэ адзін пажар распаліць, — пераканаўшыся ў беспаспяховасці ўзарваць мост, нарэшце вырашыў той.

— Але як? — пацiснуў плячамі Халадзілаў: адказны за ўзрыўмашыну, ён адчуваў сябе ніякавата перад таварышам.

— Вядома, самае лепшае абліць бензінам, — чамусьці кпліва сказаў Шпакевіч.

— Чаго захацеў! — пакруціў галавой Халадзілаў. Тады сваё падказаў Чубар:

— На гэты мост хапіла б аднаго воза саломы.

— А што, старшыня праўду кажа, — ухапіўся за Чубараву прапанову Халадзілаў.

Затуліўшы рот, Шпакевіч сціснуў рукой абедзве шчакі, пастаяў так.

— Нікуды не дзенешся, — скрозь пальцы буркнуў праз нейкі час Шпакевіч, — давядзецца сапраўды цягаць на мост салому.

Чубар падаў голас (ва ўсім, што рабілі чырвонаармейцы, яму хацелася цяпер браць самы чынны ўдзел, каб ужо гэтым далучаць сябе да іх спраў) схадзіць у Белую Гліну, пашукаць падводы, на якой можна прывезці салому. Але Шпакевіч махнуў рукой:

— Пакуль будзем шукаць падводы, невядома, што здарыцца за гэты час.

Яны пабралі на рукі рэчы і ўтрох рушылі да моста, бо ў вёску сухая дарога была толькі па ім. Праз два пралёты спыніліся. Адсюль добра відаць быў пажар: чырвона-чорнае полымя жэрла вялікую вёску.

А Белую Гліну тым часам нібы абыходзілі ўсе: надвячэрняя стоенасць, якая панавала ў прыродзе, стварала ўражанне ціхамірнасці і ўсталяванага спакою, якія, здавалася, не маглі парушыць ні гукі нядаўняга паветранага бою, ні шум пажару, што, нягледзячы на адлегласць, даносіўся сюды. Пасярэдзіне вуліцы стаяла рабая карова і махала з жывёльнай абыякавасцю доўгім хвастом, адганяючы назойлівую машкару, якая роем вілася над ёй.

Канцавыя белаглінаўскія хаты былі за паўтараста крокаў ад моста, але гароды па правы бок падыходзілі да самай лукавіны. На нечым гародзе стаялі жытнёвыя копы—звычайная з’ява: на сотках пажнуць хутчэй і без каманды. Чубар паказаў на гарод. Дастаткова было адно кіўнуць у той бок галавой, каб чырвонаармейцы зразумелі ўсё. Па ржэўніку ўсе разам падышлі да коп. Памацалі снапы. Шпакевіч ажно палушчыў адарваны каласок. Пачаў смакаваць зярняты. Халадзілаў з Чубарам стаялі побач, чакалі. Але вось Шпакевіч выхапіў з капы сноп — важкі, у тоўстым перавясле. Гэта паслужыла камандай: Халадзілаў і Чубар кінуліся разбураць капу. Нарэшце Чубар, як самы дужы з выгляду, а можа, і на самай справе, набраў снапоў, узваліў на сябе і панёс да моста, трымаючы рукі, як рагачы, угору. Шпакевіч і Халадзілаў рушылі следам — у іх ношкі былі меншыя, але таксама мелі вагу. Снапы шасталі, заглушалі нават крокі. Таму ні Шпакевіч, які ішоў апошні, ні Халадзілаў, ні тым больш Чубар не пачулі, як на гародзе раптам пачаўся крык. Па мяжы да

коп бегла расхрыстаная жанчына з трайнікам у руках. Лямант яе ўсё мацнеў, і неўзабаве Шпакевіч першы спыніўся, каб азірнуцца. Насцярожыўся і Халадзілаў. Ускіпелы выгляд жанчыны збянтэжыў чырвонаармейцаў. Яны пакідалі снапы на зямлю. Адзін Чубар працягваў рухацца далей — ён ужо таксама чуў за сабою лямант, але не азіраўся, нёс бярэма да пералазу. Крык у ім чамусьці выклікаў зацятую злосць. Тады жанчына падскочыла да верамейкаўскага старшыні і цаўём трайніка піхнула ў спіну. Ад гэтага Чубар адразу страціў раўнавагу. Снапы пападалі на ржэўнік.

— А што ж ета, ірад, робіш? — нарэшце разабраў Чубар словы.

Жанчына як не заходзілася ў плачы. Вочы яе блішчалі шаленствам. Чубар убачыў іх і зразумеў — баба не будзе доўга думаць над тым, каб варсануць нават трайнікам. На нейкі момант ён ажно разгубіўся, але хутка сабраўся і, як не сваім голасам, крыкнуў, спрабуючы збіць разгневаную жанчыну з панталыку:

— Дурніца, немцам на пірагі запасаеш?!

Але на жанчыну лаянка не падзейнічала — тая па-ранейшаму была натапыраная ўся.

Чырвонаармейцы з вінаватым выглядам пазіралі то на жанчыну, якая бараніла свае снапы, то на Чубара, які, уласна, заварыў усю гэтую кашу.

Нарэшце Чубар пачаў адступацца: гучна злаяўся самымі брыдкімі словамі, якія даводзілася каму чуць, і зарагатаў — даўно ўжо, можа, ад самага таго часу, як арганізоўвалі калгасы, не даводзілася яму сутыкацца з гэтакай з’явай.

— Ірады вы, ірады!.. — Яна кінула на мяжу трайнік, села на калючы ржэўнік і загаласіла, абхапіўшы рукамі проставалосую галаву. — А што ж мае дзеці будуць есці?..

— Ты зразумей, — пачаў ушчуваць Чубар, — нам салома патрэбна. — І, каб было больш пераканаўча, паказаў на чырвонаармейцаў: — Ім во, для справы. Для Чырвонай Арміі.

Жанчына не слухалася:

— А што ж ета вы робіце?..

Але голас яе паступова слабеў. Неўзабаве яна ўжо адно хісталася ды пакрыўджана ўсхліпвала. Да Чубара нячутна падышоў Шпакевіч.

— Хадзем адсюль, — гукнуў ён.

Жаночы лямант, мусіць, пачулі на вёсцы, — прынамсі, у тых дварах, што былі бліжэй, бо каля загарадзі раптам з’явіліся людзі, як належыць у ваенны час, падлеткі ды бабы з малымі

дзецьмі, яны моўчкі, нібыта зачараваныя, назіралі за тым, што адбывалася на гародзе, а ў вачах, здавалася, не было ні асуджэння, ні спачування, адна цікаўнасць. Па той бок peралаза таксама нехта паспеў апынуцца. Чубар пазнаў яшчэ здалёку — то быў кульгавы стары, па прозвішчы Якушок, які меў звычку з раніцы да вечара сядзець на загавальні сваёй хаты і быць, такім чынам, сведкам усяго, што рабілася за цэлы дзень на ажыўленай дарозе. Кожны раз, як верамейкаўскаму старшыні выпадала ехаць праз Белую Гліну ў Крутагор’е, яны віталіся. Стары таксама пазнаў Чубара, пачаў усміхацца ліслiва, але нібыта адчужана, выскаляючы пакрышаныя зубы.

— А я думаў, — сказаў ён, шастаючы вачамі па ўсіх трох, — што ета вы, можа, з таго самалёта? Цяпера бачу, ажно не. Дак ета ж, здаецца, вы, таварыш начальнік? — Ён спыніў позірк на Чубары. — Значыцца, яшчэ тута? А наш Калатоз у вакувацыю паехаў. Яшчэ на тым тыдні. І сельсавецкі старшыня паехаў. Пабралі лепшых коней і патарахцелі кудысь за Бесядзь. Тама яшчэ не страшна.

Чубар спытаў:

— Што гэта за баба такая?

— Наша тута. Проста баба. Але як я пагледзеў, дак можа каму і кішкі выпусціць.

— Дурніца шалёная, — смыкнуў шчакою Чубар.

— Тута ашалець можа хоць хто, — засмяяўся, мусіць, задаволены ваяўнічасцю жанчыны, стары. — А навошта вам салома? — спытаў ён і адразу пачаў тлумачыць сабе: — Яно, канечне, людзям таксама паспаць трэба, бо ля тае Дзяражні нават калі пасядзець доўга, дак адсырэеш. — Ён даваў зразумець ім, што ведае пра ўсё. — А салома гарыць. Вэ-э-эн, бачыце, колькі гарыць яе! — стары паказаў рукой на пажар.

— Нам папраўдзе вельмі патрэбна салома, — падаўся да старога Шпакевіч.

— Дзе ж яе ўзяць цяпера? У калгасе яшчэ амаль не жалі. За вёскай, праўда, тама ёсць копы, нават памалочаныя, аднак ета далёка. — Стары ўсміхнуўся: — Адна Сукліда пажала во. Дак яны і стаяць на гародзе, як прышчыкі на лбе, — усім лезуць у вочы.

— Немцы не пашкадуюць, — сказаў яшчэ не астылы Чубар.

— А ета пагледзець трэба, — нібыта не паверыў стары. — Яна ў нас баба такая, што і перад немцам з віламі пастаяць судолее. Сваё адбароніць і не аддасць каму не трэба. А як жа іначай? Дзяцей у хаце поўная дзяруга, а мужыка забралі па першай набілізацыі, дак…

— Але як нам саломы раздабыць? — пытаўся Шпакевіч, якому не цярпелася хутчэй скончыць справу з мостам.

— Тады, можа, кароўнік раскрыць, раз трэба? — падказаў дзед. — А навошта?

— Мост ваш паліць будзем, — прызнаўся Шпакевіч.

— Дак яго лепей тады бабахнуць, — параіў спакойна дзед.

— Не пячэ, дзед, — засмяяўся Халадзілаў.

— Машынка не работае?

— Не работа-е-е.

— Бач ты! —пакруціў галавой стары.

— А можа, у цябе леташняя салома ёсць? — спытаў Чубар.

— Не,— узняў растапыраныя далоні стары. — Спажылі ў гаспадарцы за тую зіму. Нават трухі не засталося. Яно ж карова, цёлка… — Але нібыта спахапіўся, што пачаў не пра тое — Мост, кажаце, наш спаліць хочаце? Дак паліце сабе. Ён нам тута, лічы, і непатрэбны. Ета калі, можа, на машынах ездзіць, дак праўда. А нам, — ён махнуў абедзвюма рукамі, — мы і так цераз Дзяражню знойдзем дзе пераехаць.

— Ты от што, дзед, — не даў гаварыць старому далей Чубар, — пакажаш, дзе ў вас салома ў полі. І падводу запражэш, каня знойдзеш.

Стары збянтэжана азірнуўся:

— Дак я ж нямоглы, нават у калгасе не рабіў, а тута!..

— У калгасе не рабіў, — павысіў голас Чубар, — а нам памагчы мусіш!

— А як на мяне тады заявяць?

— Хто?

— Ці мала хто! Людзям жа рот не закрыеш. Скажуць, памагаў Чырвонай Арміі паліць мост, а немцы мяне за ета да сценкі.

— Не хвалюйся, — усміхнуўся Чубар, — скажаш, прымусілі. Я з табой таксама пайду.

Нарэшце стары зразумеў, што Чубар ад яго не адступіцца, унурыў галаву.

— Вы мяне вядзіце тады пад ружжом па вёсцы, а? Каб усе бачылі.

Чубар засмяяўся.

— Ладна, стары, пойдзеш пад вінтоўкай, — сказаў ён Якушку і паглядзеў на чырвонаармейца. — А вы мне сігнал падасцё адсюль, калі што раптам.

— Нарабілі гармідару, — пачухаў патыліцу Халадзілаў.

— Гэта ўсё праз тваю машынку, — сказаў нездаволена Шпакевіч. — Чаму не праверыў зараней?

— Дасюль жа працавала, — бараніўся Халадзілаў.

Шпакевіч павёў позіркам па гародзе — жанчына па-ранейшаму сядзела на ржэўніку, але ўжо, здаецца, не плакала. Шпакевічу шкада стала яе. Ён падышоў, сказаў:

— Даруйце нам…

Тады жанчына ўзняла галаву і зноў пачала плакаць.

— Я ведаю, што ета не вы, — гаварыла яна праз слёзы. — Ета той, верамейкаўскі. А вы такія ж, як і мой. Мой таксама недзе вось так… ваюе… а можа, галаву злажыў… Не, я на вас зло не помню. А таму верамейкаўскаму…

З Крутагор'я немцы рухаліся па двух напрамках — уздоўж чыгункі на Унечу і па вялікай дарозе, што вяла праз мястэчка Бабінавічы да Паповай Гары і далей, абмінаючы такім чынам амаль усё лясное Забесяддзе. 24-ты матарызаваны корпус быў павернуты гітлераўскім камандаваннем з цэнтральнага напрамку і сумесна з 2-й танкавай групай кінуты на разгром адыходзячых армій толькі што створанага Бранскага фронту: мелася на мэце ў канчатковым выніку ўмацаваць жывой сілай і танкавымі злучэннямі паўднёвыя войскі, якія цяпер павінны былі, па плану фюрэра, выконваць галоўную задачу ў вайне.

Хоць ініцыятыва дзеянняў па-ранейшаму заставалася за фашыстамі, але тэмпы прасоўвання войск пасля жорсткіх баёў на апошнім абараняльным рубяжы ў Беларусі сталі надзвычай марудныя: замест трыццаці кіламетраў, якія пераадольваліся раней, цяпер удавалася прайсці за суткі не больш як шэсць-сем кіламетраў. Гэта было таксама прычынай, што амаль усе вёскі па левы бок Бесядзі яшчэ нямала часу заставаліся не занятымі ворагам нават пасля таго, як пачаліся баі на наступным абараняльным рубяжы, што перасякаў вялікі тракт, які вёў з Тулы на Арол.

…Падпаліўшы на Дзяражні драўляны мост, чырвонаармейцы сапёрнага ўзвода Шпакевіч і Халадзілаў, а разам з імі старшыня верамейкаўскага калгаса Радзівон Чубар рушылі ад Белай Гліны за Бесядзь.

Карты, па якой можна было б арыентавацца, чырвонаармейцы не мелі, і дарогу даводзілася распытваць ад вёскі да вёскі.

Да сваіх выйшлі ў размяшчэнні 258-й стралковай дывізіі, якая была накіравана на абараняльны рубеж з Арла. Рубеж складаўся з некалькіх ліній траншэй, кулямётных і артылерыйскіх гнёздаў, дзотаў і вялікага супрацьтанкавага рова. Але суцэльнае лініі

абароны пакуль не было. Не хапала войск: палкі дывізіі яшчэ знаходзіліся на маршы. Затое ў навакольных вёсках, амаль па ўсім рубяжы, ужо стаялі высланыя наперад заставы, якія накіроўвалі на падрыхтаваныя зборныя пункты байцоў і камандзіраў, што адступалі па лясных і палявых дарогах. На адну такую заставу, у вёсцы Пёкліна, і натрапілі Чубар і яго новыя таварышы.

Яшчэ ў Забесяддзі пачаўся абложны дождж, і спадарожнікі не прасыхалі да самага Пёкліна. За ўвесь час, пакуль былі ў дарозе, спалі толькі двойчы — адзін раз у лесе, пад шатамі дрэў, а другі — у вясковай хаце, калі нарэшце адчулі, што зусім папрэлі. Пусціла іх начаваць жанчына, якая жыла адна. Яна напаліла другі раз у печы і скрозь ноч клапатліва сушыла адзежу сваіх начлежнікаў.

Чубар хоць і пакутаваў ад макрэчы — плісавая талстоўка не магла замяніць верхняй апраткі, таго ж шыняля, — але ён вельмі ўдзячны быў шчасліваму выпадку, які звёў яго каля Белай Гліны з гэтымі двума чырвонаармейцамі. Цяпер не трэба было са страхам думаць пра тое, што рабіць. Ад самае Бесядзі яны ішлі ўжо як заадно. Шпакевічу было дваццаць дзевяць гадоў, на тры гады меней, чым Чубару, аднак ваяваў ён з першага дня вайны, бо прызываўся пасля закона аб усеагульнай вайсковай павіннасці. Яму заставалася праслужыць аднаго няпоўнага паўгода, і калі б не напалі фашысты, то ўжо ў гэтую восень ён зноў бы надзеў сваю міліцэйскую форму. У Мазыры ў яго жыла сям'я— жонка і шасцігадовы сын. Шпакевіч усё бедаваў, што нічога не ведаў пра іх. Халадзілаў таксама служыў у арміі па так званаму варашылаўскаму прызыву — яго ўзялі глыбокай восенню трыццаць дзевятага года з педагагічнага інстытута. Ішоў Халадзілаў заўсёды наперадзе, па сваёй ахвоце хадзіў на разведку ў вёскі — хоць немцаў навокал і не было, але не хацелася дарэмна рызыкаваць, — і ўвесь час, нягледзячы нават на дождж, з яго твару не знікала тая недаверлівая ўсмешка, якую пабачыў Чубар яшчэ каля моста, — здавалася, чалавек нарадзіўся з гэтай усмешкай, таму не толькі хадзіў з ёй, але і спаў. Гаварыў ён амаль бесперастанку, але кожны раз чамусьці наравіў павярнуць размову на небяспечную тэму: яго займала даволі дзіўнае пытанне — ці будуць пасля гэтай вайны судзіць тых, хто вінаваты, што мы пагана сустрэлі вайну, палажылі ўжо столькі народу і ўсё адступаем? Шпакевіч звычайна не слухаў свайго падначаленага. Тады Халадзілаў прыставаў з гаворкай да Чубара. Але той, як пачынаў Халадзілаў, таксама стараўся ўхіліцца ад размовы, нават прыкрыкваў на маладога чырвона-

армейца, каб перастаў гаварыць абы-што. Халадзілаў сапраўды змаўкаў на нейкі час, аднак дарога была доўгая, незнаёмая, пад дажджом, і ўсё забывалася даволі хутка, неяк само сабой, таму няўрымслівы Халадзілаў непрыкметна зноў ставіў на круг сваю шчарбатую пласцінку: а вось у руска-японскую вайну дык было судзілі пасля генералаў, якія прайгралі вайну, пра гэта напісана ў гісторыі… Чубар ад ягоных слоў злаваўся да чырвані і сур'ёзна пераконваў — маўляў, руска-японская вайна была прайграна царскімі генераламі, а ў гэтай вайне перамога будзе за намі, трэба верыць у тое, што гаварыў таварыш Сталін 3 ліпеня… Шпакевіч часам мірыў іх, але рабіў гэта чамусьці з усмешкай і незласліва, і Чубару незразумелай была ягоная паблажлівасць, хоць сам ён, мусіць, таксама не ўзяў бы Халадзілава за жабры, каб што якое: Чубар адчуваў да абодвух — і да стрыманага, бадай, нават маўклівага Шпакевіча, і да балбатлівага, хутчэй несвядома языкастага Халадзілава — удзячную адданасць…

Сонца не выблісквала на працягу ўсяго паходу, таму цяжка было вызначыць, калі пачынаўся сапраўдны дзень і калі канчаўся. Звычайна нават у пахмурны дзень можна адшукаць на небе сонца — у тым месцы хмары заўсёды трохі святлейшыя, і вочы тады пачынаюць адчуваць схаванае цяпло, — але цяпер хмары рухаліся над зямлёй ці не ў тры накаты, як у сырую восень, і ў настылым наваколлі плавала задымленая густая імжэль. Паабапал дарог стаяла паклычаная збажына, а на зямлі бялела пагублянае каласамі зерне.

Артылерыйскія грымоты чуліся здалёку і з вялікімі перапынкамі — пачнуцца раптам, пасля заціхнуць, і затым доўга глухне ўсё навокал. І вось перад самым Пёклінам паветра страсянулася па-сапраўднаму. Спачатку ўсчалася звычайная страляніна. Было выразна чуваць, як недзе працаваў кулямёт — так-так-так-так… Быццам круціў хто вялікае зубчатае кола. Пасля пачуліся моцныя выбухі. Тады і прыйшло радаснае ўсведамленне: блізка свае! Трое здарожаных хадакоў — два чырвонаармейцы і адзін цывільны — наддалі кроку: заспяшаліся ў той бок, дзе іх, уласна, магла сустрэць і небяспека. Але ўсё склалася добра. У Пёкліне стаяў заслон аднаго з батальёнаў 258-й дывізіі. Пры ўваходзе ў вёску на плоце вісела дошка, на якой здалёку можна было прачытаць: «Збор адступаючых груп, адзінкавых байцоў і камандзіраў у лесе каля абараняльнага рубяжа». Аб'ява была напісана вялікімі чорнымі літарамі…

Шпакевіч прачытаў аб'яву, падышоў і загаварыў з чырвонаармейцам, што стаяў паставым амаль на сярэдзіне вуліцы.

— Падкажы, брат, дзе тут сто адзінаццаты полк?

— Нам такіх звестак не даюць, — адказаў чырвонаармеец, пры гэтым малады твар яго застаўся амаль нерухомым. — Загадана накіроўваць такіх, як вы, на зборны пункт. Туды. — Ён паказаў за вёску, дзе быў лес.

Але Шпакевічу і Халадзілаву не хацелася ісці на зборны пункт — пачнецца праверка, а тады паспытай дакажы, што ты выходзіў не проста з акружэння, а выконваў заданне пасля адыходу войск. Чубару тым часам было ўсё роўна, але ён нічога не рашаў.

Шпакевіч пачаў ледзь не кленчыць:

— Браток, нам абавязкова трэба ў сто адзінаццаты. Мы з задання ідзём. Выконвалі спецзаданне, разумееш? Трэба далажыць камандаванню. — І Шпакевіч дзеля большай пераканаўчасці назваў прозвішча камандзіра палка.

Аднак на паставога чырвонаармейца гэта не падзейнічала: як кажуць, малады і неабстраляны, ён наогул трошачкі звысоку паглядаў на ўсіх акружэнцаў, бо думаў, што гэты абараняльны рубеж для фашыстаў апошні, праз яго яны ўжо не пройдуць…

— Гэтак усе кажуць, — пажаваў ён ротам. Шпакевіч зрабіў пакутлівы твар:

— Разумееш, нам вельмі патрэбна…

Чырвонаармеец спыніў свае вочы на Чубары. Выгляд цывільнага чалавека выклікаў у ім нейкія думкі, і ён сказаў Шпакевічу памяркоўна:

— Вось што, ідзіце тады да лейтэнанта, можа, ён ведае, дзе ваш сто адзінаццаты.

— Дзе гэта?

— Тут недалёка. Вы пазнаеце. Там павінен стаяць другі вартавы.

У вясковай хаце пажылы лейтэнант у накінутым на плечы шынялі чытаў за сталом кнігу — яна была адлістана на сярэдзіне. Калі Шпакевіч, стаўшы належным чынам, пачаў дакладваць аб сабе і аб сваім жаданні адшукаць 111-ты полк, лейтэнант усё не мог падняць галавы. Нарэшце паклаў левую руку далонню на кнігу, глянуў спадылба.

— Мы тут людзі новыя, і нам невядома, дзе стаяць якія часці. Вам лепей будзе пайсці на зборны пункт. Там вас прызначаць куды трэба. А гэты таварыш, — лейтэнант кіўнуў на Чубара, — павінен ісці ў Журынічы. Там фарміруецца апалчэнне.

— Але ж нам загадана было…

— Дарэмна вы, — усміхнуўся Шпакевічу лейтэнант, — усе мы тут свае.

Тады ступіў наперад Чубар:

— Таварыш лейтэнант, дзе мне шукаць тыя Журынічы?

— Гэта ўжо іншая справа, — нібыта ўзрадаваўся лейтэнант; ён выйшаў з-за стала, паправіў локцямі шынель на плячах і паказаў праз акно: — Пойдзеце па гэтай вуліцы, потым павернеце налева. І ўвесь час пасля трымайцеся левага боку. Як пачнуць размінацца дарогі, так і паварочвайце на левую. Колькі ў нас цяпер? — Ён выняў з кішэні гадзіннік, пстрыкнуў сярэбраным вечкам. —Ну што ж, калі варон у полі не лавіць, то да цёмнага дайсці можна да Журынічаў. Там у іх сваё начальства. Няхай разбіраюцца з вамі. Дарэчы, вы камуніст?

— Так.

— Адным словам, вам трэба туды.

— А можа, няхай і ён з намі на зборны пункт ідзе, таварыш лейтэнант? — памкнуўся быў Шпакевіч.

— Не, не, — замахаў рукой лейтэнант. — Мы не ваенкамат.

На вуліцы Шпакевіч доўга трос руку Чубару.

— Вось, Радзівон… — казаў ён з выразнай засмучанасцю. — Каб выйшлі мы ў размяшчэнне свайго палка, то цябе не адпусцілі б ужо. А тут свае парадкі.

Халадзілаў таксама шчыра шкадаваў.

У дадатак Шпакевіч распрануў шынель, накінуў Чубару на плечы, — шынель не прыйшоўся, быў караткаваты і не вельмі раскошны. Гэта рассмяшыла раптам спярша непасрэднага Халадзілава, пасля самога Чубара. Шпакевіч яшчэ больш спахмурнеў.

— Нічога, — сказаў ён, — пакуль там у тваім апалчэнні надумаюцца выдаць табе што цяплейшае, насі гэты. Да цябе я трохі не дарос, факт, але нічога, цяплей будзе. А мне неяк таксама дадуць. Салдат без шыняля не бывае.

Чубар прасунуў рукі ў рукавы і неяк па-блазенску пачаў аглядаць сябе — вочы яго пры гэтым туманіла цёплая вільгаць…

— Ну, бывайце, — сказаў ён ціха.

Але не паспеў зрабіць і дзесяць крокаў па вуліцы, як з хаты на ганак выйшаў знаёмы лейтэнант і гукнуў наўздагон:

— Гэй, таварыш! Чубар павярнуўся. Лейтэнант сказаў:

— А вінтоўку належыць здаць!

Чубар здзіўлена паглядзеў спярша на лейтэнанта, пасля на Шпакевіча, якога таксама затрымаў лейтэнантаў голас.

— Таварыш лейтэнант, — падаўся да ганка Шпакевіч, — гэта яго вінтоўка. Таварыш атрымаў яе ў ваенкамаце і мае даведку.

Аднак лейтэнанту раптоўнае заступніцтва не спадабалася.

— Трэба выконваць загад, — паморшчыўся ён. — Таварыш вартавы, — паглядзеў лейтэнант на чырвонаармейца, што стаяў на ганку, — прыміце зброю.

Вартавы збег з ганка, забраў вінтоўку: Чубар нават заўпарціцца не паспеў.

Шпакевіч супакойваюча кіўнуў Чубару.

Праз колькі хвілін Чубар выйшаў за вёску і пакрочыў па дарозе, што вяла скрозь бульбяное поле на высокі і шэры ўзлобак, за якім недзе былі Журынічы.

Неспадзяванае лейтэнантава распараджэнне спачатку толькі збянтэжыла Чубара, але чым далей ён адыходзіў ад Пёкліна, дзе давялося расстацца са сваімі спадарожнікамі, тым глыбей западала ў душу крыўда, нават злосць; недарэчным і непатрэбным здавалася тое, што ў яго адабралі вінтоўку — хоць яна ні разу і не спатрэбілася Чубару, гэта значыць не была пушчана ў ход, бо ні дэсанта, ні шпіёнаў-дыверсантаў над Верамейкамі вораг не скідаў, аднак паступова і непрыкметна ён прывык да яе гэтаксама, як прывыкае звычайна кульгавы чалавек да кульбы.

Цямнела хутка. Чубар не адмераў яшчэ і двух кіламетраў, а бульбяное поле, якое ўсё ж не канчалася, ужо нібы растварылася на вачах, і неўзабаве можна было распазнаць толькі блізкія ад дарогі рэчы ды яшчэ самую дарогу: лейтэнантаў гадзіннік паказваў тады, мусіць, крадзены час. Як і належала, у франтавых вёсках не гарэлі ў вокнах агні, бо вечар выдаў бы іх спадарожніку, нават калі б якое паселішча знаходзілася за многа кіламетраў. Сабачага брэху, гэтай неад'емнай адзнакі вясковых ваколіц, таксама не было чуваць сёння. Чубар ні на хвіліну не выпускаў з галавы лейтэнантавага папярэджання трымацца левага боку, але калі сцямнела, стала цяжка арыентавацца.

Лейтэнант казаў, што Журынічы ад Пёкліна недалёка, аднак Чубар, здаецца, і праз тры гадзіны свайго падарожжа ўсё не мог дайсці да іх. Нарэшце настаў час, калі ён ужо адно коўзаўся па дарозе: шлях забіраў сілы, хоць багата хто ў жыцці мог пазайздросціць ягонай цягавітасці. Паступова Чубар пачынаў разумець, што сёння ці ўдасца выбавіцца з цемры, каб трапіць у Журынічы, — на благі канец нядрэнна набрысці хоць на якую вёску.

І раптам на дарозе пачулася:

— Хальт!*

Чубар нават не расслухаў, адкуль даляцеў гэты кароткі і незразумелы вокліч. Ён насцярожана прыпыніўся. Тады нехта

* Спыніся! (*Ням.*)

нездаволена загаварыў на чужой для Чубара мове, і Чубар жахнуўся — фашысты!.. Атарапела, амаль па інстынкце, скочыў у бок ад дарогі, але нязручна — правая нага трапіла ў нейкую ямку. Чубар крутануўся, спрабуючы вызваліць нагу, але не. Раўнавага была ўжо страчана, і ён употарч паляцеў паміж разорын, хапаючыся рукамі за слізкі бульбоўнік. Гэта яго, бадай, і ўратавала. Адразу секанула траскучая чарга з аўтамата, пасля другая, трэцяя… Агністыя бліскаўкі прашылі за метр ад зямлі цемру, праляцелі міма. На дарозе пасля гэтага застукалі боты. Чубар шчыльней прылёг у разорыну, здавалася, перастаў нават дыхаць. Але фашысты блізка не падыходзілі. Вялі паміж сабой гамонку амаль на тым жа месцы.

— Генуг. Вір фэршойхен нур ды хазэн*.

— Айн тырхен нідэрцукнален, Курт, дас вэрэ вас фюр унс гэвезен. Іх хабэ шон швайнэфляйш я цум коцэн зат. Дэр арш кнурт мір фон дэн эрбзэнконсэрвэн**.

— На эбэн, Ганс. Айн хазэнбратэн лэст айнэм гут гефален, дас браўхэн вір эрст рэхт***.

— Морген зэен вір маль. Іх гляўбэ дох айнэн гетрофэн цу хабен?****

— Ай во! Ніхт айнмаль анн шрайэн вар цу хёрэн. Ды штэрбэндэн хазэн шрайэн я фаст ві ды мэншэн*****.

— Візо дэн. Офтэрс комтс аўх ганц ілтьшь фор******.

Нарэшце галасы сталі цішэць, і Чубар яшчэ больш насцярожыўся, увесь ператварыгўся ў слых, каб не прапусціць ніякага гуку. Немцы сапраўды адыходзілі па дарозе ў адваротным напрамку. І як толькі Чубар пераканаўся ў гэтым, адразу адчуў — быццам ліхаманка пачала калаціць. Але Чубар яшчэ колькі часу паляжаў нерухома, а тады прыўзняўся на карачкі і паціху, каб не рабіць шуму, папоўз па бульбоўніку. Паўзці было вельмі нязручна — больш за ўсё замінала крыссё шыняля, якое Чубар не мог прыдумаць, куды заткнуць, а таксама разорыны,

---

* Досыць нам зайцоў палохаць (*ням.*).

** Не блага было б, Курт, пацэліць ужо і па зайцу. А то абрыдла гэтая свініна. Ды і задніца ад гарохавьгх кансерваў баліць (*ням.*).

*** Твая праўда, Ганс. Смажаная зайчына —гэта якраз тое, чаго не хапае нам цяпер (*ням.*).

**** Заўтра паглядзім, можа, сапраўды падстрэлілі? (*Ням.*)

***** Але нават енку не было чуваць. Яны ж заўсёды перад смерцю енчаць, як і людзі (*ням.*).

****** Бывае, што і не енчаць (*ням.*).

што ішлі ўздоўж дарогі і, такім чынам, знаходзіліся цяпер упоперак ягонага шляху. Поўз Чубар да таго моманту, пакуль не здранцвелі рукі. Заставалася выбіраць адно з двух—альбо аддыхвацца, лежачы ў гразкай разорыне, альбо стаць на ногі. Чубар рашыўся на апошняе. Але перад тым як падняцца на ўвесь рост, прыкінуў у галаве, ці далёка адпоўз ад таго месца, дзе адбылася нечаканая сустрэча з немцамі, — мусіць, то быў нейкі патруль. Па часе выходзіла, што дарога, калі ён, вядома, дакладна выбраў кірунак, была метраў за трыста. Хоць гэта і не дужа вялікая адлегласць, але ўжо можна было па-чалавечы выпрастацца. Чубар адпіхнуўся рукамі ад зямлі, стаў. Хвіліну-другую паслухаў. Нічога падазронага больш не было. Тады Чубар выцер аб шынель забруджаныя рукі і, спатыкаючыся на разорынах, пайшоў напрасткі. Інстынкт самазахавання гнаў яго, як з’вера, ад таго месца, дзе ледзьве не загінуў. Цяпер ён не меў у галаве нічога пэўнага —яму ўсё роўна было куды ісці, абы не застацца ўранні навідавоку ў немцаў.

Поле звычайна не можа цягнуцца бясконца, якое ні было б яно вялікае, таму неўзабаве Чубар сапраўды апынуўся каля нейкага зарасніку: адчуў гэта адразу па шапаценні дажджу. Давялося выставіць наперад рукі і, адхінуўшы мокрае голле, увайсці ў зараснік. Пад нагамі захлюпала вада, але дно было трывалае, і Чубар зразумеў, што гэта трапілася не балота, а хутчэй палявая лугавіна, якая можа вывесці на ўзлесак. Так яно і было. Калі Чубар прайшоў па неглыбокай вадзе лугавіну, пачалося сухое драбналессе. За ім, атулены цемрай, быў лес. Праз нейкі час Чубаравы вушы, а затым вочы сталі прывыкаць да начнога лесу. У цемры ўжо ўгадваліся таўшчэзныя камлі дрэў. Чубар падышоў, абмацаў кару нейкай замшэлай елкі і выцер аб шынель рукі: барада на дрэве была, як распоўзлы грыб, і яму — быццам толькі што не поўз па гразі і слізкім бульбоўніку — зрабілася брыдка ад дакранання да яе. Хоць дождж і ў лесе вымачыў зямлю, але пад шатамі вялікіх дрэў было не мокра, прынамсі, шыгалле, якое ляжала тут скрозь, заставалася амаль сухое, яго можна было згрэбці ў яміну паміж карэнняў, каб зрабіць сабе лежава. Доўга не думаючы, Чубар пачаў шастаць пад дрэвам, растапыранымі пальцамі ўзрываючы зляжалыя пласты. Неўзабаве вырасла цэлая куча. Тады ён разгарнуў яе на ўсю даўжыню свайго цела, кінуў яшчэ колькі зляжалых пластоў пад галаву і стомлена паваліўся на зробленую пасцель. Заставалася толькі аппянуцца шынялём ды сцішыцца, каб адразу заснуць.

## IV

За вёскай, непадалё’к ад дарогі, што вяла за Бесядзь, верамейкаўцы знайшлі забітага чалавека. Той ляжаў у густым ельніку, у адных споднiках, а жывот яго з пасінелай скурай, якая пачала распаўзацца, непамерна разбабеў, ажно жахліва было глядзець. Забіты чалавек быў у галаву — куля пацэліла ў шчаку і на вылёце вырвала ўсю левую скроню, у якую паспелі залезці лесавыя жукі. Знайшлі яго ў той дзень, калі Гаўрыліха не пагнала па радоўцы кароў — не захацела ў няпэўны час пакідаць у вёсцы дзяцей адных; тады пакрычалі верамейкаўскія бабы на вуліцы, памалолі, як гэта бывае пры вясковых непарадках, адна адной косці языкамі ды сышліся нарэшце на тым, што з радоўкай цяпер наогул трэба пачакаць, лепей няхай кожны сваю скаціну пакуль пасе. І вось Наталля Родчышына, дзеўка-векавуха, гнала карову ў Замасточча — невялікае ўрочышча, якое было за адным са шматлікіх колішніх масткоў — і ўбачыла нежывога чалавека. Наталля была, як далікатна гавораць, жанчына згубленая, можа, нават праз тое самае незамужжа, і ўжо даўно з зацятай адчужанасцю глядзела на ўсё, што адбывалася вакол, але і яна жахнулася, калі ўгледзела паміж елак, у высокай траве, забітага. Карову пасвіць яна больш не стала — прагнала, не даючы ўхапіць травіну, па так званай Цыганчынай дзялянцы, і каля першых двароў у Верамейках расказала пра ўсё, што пабачыла. Вестка аб забітым чалавеку разнеслася па вёсцы хутка, і самыя цікаўныя верамейкаўцы яшчэ паспелі схадзіць да вечара ў ельнік — свой гэта ці чужы?

Пахаваў забітага Парфён Вяршкоў. Зрабіў ён гэта па сваёй ахвоце — узяў у хляве рыдлёўку, выкапаў магілку каля самае дарогі і закідаў небараку зямлёй, накрыўшы твар па-хрысціянску, радном.

А надвечар Вяршкоў прыйшоў да Зазыбы — прынёс Зазыбавай Марфе кош яблыкаў: было перад вялікім Спасам.

Зазыба ўжо таксама ведаў пра забітага. Таму амаль адразу, як Вяршкоў зачыніў дзверы ў хату і патупаў трохі ў парозе, спытаў:

— Што там было?

— Да от… чалавека пахавалі. — Вяршкоў сказаў гэта без натугі ў голасе, як пра досыць звыклае, што ўжо даводзілася рабіць не адзін раз; ён падышоў і сеў на ўслоне, побач з Зазыбам.

— Што за чалавек? — не зводзіў з яго вачэй гаспадар.

— Дак хто ж яго ведае, — пацiснуў плячамі Вяршкоў. — Але твар незнаёмы. Адно што не сянні забіты і не ўчора. Запахнуў

ужо. Пахаладнела етым дажджом, дак хоць дыхаць можна было. Няхай пухам зямля чалавеку будзе.

— І што, ніякіх паперак пры ім?

— У адных жа падштаніках ляжаў. А кляймо на мацерыі наша, савецкае. Нават нумары былі, ета калі хто разбіраецца ў іх. Але ж таксама ўцеха — буду хоць ведаць, што не немца закапаў.

— Адкуль яму было ўзяцца, немцу, тут?

— Ну от, — уздыхнула Зазыбава Марфа, якая прысела на тапчане, — пахавалі чалавека каля сваёй вёскі, а не ведаем — хто да адкуль. А недзе ж таксама клопат маюць пра яго, спадзяюцца, мабыць, што вернецца з вайны. — Рагом хусткі яна выцерла слёзы, якія раптам навярнуліся. — І што ета вайна робіць з людзьмі? Жыве чалавек і ведам не ведае, дзе яму наканавана галаву палажыць.

— Добра, калі хоць на сваёй зямлі, — задумліва сказаў Зазыба.

— Яму цяпера, мабыць, усё роўна, — паківаў галавой Парфён Вяршкоў.

— Да ўжо ж, — згадзіўся з Вяршковым Зазыба, але тут жа як спахапіўся: — Не-е-е, Парфён, не кажы. Чалавек — ён такі, што калі не жыць, дак хоць ляжаць бліжэй к дому хоча. Во, помню, колькі мы хавалі ў Грамадзянскую. І ад куль гінулі, і ад хвароб паміралі. У дзевятнаццатым у Армавіры тыфус пачаўся, дак нашы былі пакінулі хворых у гарах. Мой таварыш, Ляксей Сазонаў, паміраў тама. Усё прасіў, штоб дамоў адвезлі. Яму яно і недалёка было, вёрст дзвесце. Гэта ў нас тут дзвесце вёрст, дак дарога вялікая, ажно, здаецца, на край свету ехаць трэба, а тама ў стэпе адно, можа, ад станіцы да станіцы.

— Быў жа і я пазалетася на Кубані, — паёрзаў на ўслоне Парфён Вяршкоў, зусім не наўмысна паварочваючы ў другі бок гамонку. — Наша ж большая ў Ціхарэцку замужам за настаўнікам, — ён заўсёды казаў, што дачка выйшла за настаўніка, бо ганарыўся гэтым перад людзьмі, — дак таксама дзіва — абрыкосы, мы ж тута, здаецца, і не чулі пра іх. У Крутагор'і і то на базары ніколі не бывае, але тама яны растуць проста на вуліцы. Акурат во як у нас ліпы ў прысадах. Стаяць дрэвы, нават не абгароджаныя, а на іх абрыкосы!

Вяршкоў гаварыў нечага ў захапленні, нават тварам паступова святлеў.

Але Зазыба, як толькі Вяршкоў змоўк на момант, спытаў:

— Ну, а што на вёсцы чуваць? — і, быццам вінавацячы сябе, дадаў: — А то я цяпера, бачыш, як жыву. Дажджы ўсё, дак і я ні да каго, і да мяне ніхто. Адзін ды адзін. Дзень пры дні.

— Што новага? Хапае, — сказаў пасуравелы Вяршкоў. — Учора быў на пасёлку. Бачыў Сідара Раўнягіна. Дак ён таксама гаварыў…

— Пра што?

— Помніш, мы надоечы гаворку мелі з табой пра калгас. Дак Сідар прасіў пераказаць…

— Я ўжо здагадваюся, — усміхнуўся Зазыба. Вяршкоў кіўнуў галавой.

Тады Зазыба адвярнуўся — як зазлаваў.

— Але навошта спяшацца?

— А ты паслухай, тады сам падумаеш.

— Я ўжо і так многа думаў. Цяпера толькі і работы адно што думаць. Дак от… — Зазыба зноў паглядзеў на Вяршкова, каб спытаць: — А калі раптам хутка нашы вернуцца? Якімі вачамі тады на іх глядзець будзем? Яны ж недалёка адышліся! Паслухай вон уначы, калі сцішваецца ўсё, дак чуваць, бухкаюць гарматы. Таму я і кажу, не трэба спяшацца. Тута справа яшчэ няясная. Ну, паложым, фашыст дайшоў да нас, паложым, забраў і нас пад сябе, але гэта яшчэ не ўсё, кажу, могуць жа заўтра яго турнуць назад, і ён зноў па той бок Бесядзі апынецца. Тады прыйдуць свае ж мужыкі, што цяпера недзе ваююць, паглядзяць, а ў Верамейках ужо калгаса няма, дэзерцір Раман Семачкін да от вы, такія паспешлівыя, з Сідарам па аборачцы ўсё па дварах расцягнулі.

Вяршкоў аблізнуў пасмяглыя губы.

— Сідара і мяне няма чаго раўняць з Раманам Сёмачкіным, — глуха сказаў ён. — Раман — ета адно, а мы з Раўнягіным — другое. Ты сам ведаеш. Тым больш што Раўнягін таксама ж ці не член праўлення.

— Ну, член.

— Дак не вораг жа калгасу?

— Не вораг.

— А навошта тады на яго гаварыць?

— Бо не падабаецца мне ваша настырнасць. Тута з галавой трэба падыход мець, а вы адразу — дава-ай, дзялі-і-і!

— Ты паслухай, што гаварыць маю. — Вяршкоў глянуў на Марфу, якая моўчкі слухала гамонку. — Ета цяпера табе Брава-Жыватоўскі ці Драніца не ўсё скажуць, а я дак яшчэ… Словам, што вушамі злаўлю, тое і табе прынясу.

— Значыць, Драніца з Брава-Жыватоўскім пасябравалі?

— Да ўжо і вадой не разальеш.

— Дзіва што! — не стрымалася, каб не сказаць, і Марфа Зазыбава, нібыта яна наперад здагадвалася пра гэта.

— А ты ўсё як веры яшчэ не даеш, маўляў, сябрука Брава-Жыватоўскі адбіў, — засмяяўся Вяршкоў. — Але я дак не разумею — ці ты, праўда, непанятлівы, ці, можа, прытвараешся непанятлівым. Цябе нават пісьмы падмётныя нічому не навучылі. — Вяршкоў трохі памаўчаў — нібы даваў перадышку сабе. — Еты Драніца ваш… — Ён ажно нагнуў галаву і прыгладзіў далонню сівыя валасы — спярша па цемю правёў рукой, пасля за вушамі, па абодва бакі. — Калі ты быў за галоўнага ў калгасе, бегаў каля цябе. Пасля палез з дружбай да Чубара. А ўсхадзіўся цяпера Брава-Жыватоўскі, значыць, трэба хінуцца да яго. Помніш, мужыкі на бярвенні тады жартавалі, казалі, што Брава-Жыватоўскі з Драніцам пайшлі ў Бабінавічы, каб асэсараў у немцаў папрасіць? Дак яно амаль па-нашаму і выйшла. Брава-Жыватоўскі вярнуўся адтуль паліцэйскім. Ета, мабыць, па-старому стражнік. Аднаму Драніцу чамусьці зброі не далі. Але, можа, Мікіта праўду кажа, што сам не схацеў. Базно базном, а галаву таксама нейкую мае. Як і Раман Сёмачкін. Я і не здагадваўся, што ў Верамейках мужыкі хітрыя. Раман нават у мястэчка не пайшоў, Рахіма аднаго паслаў. Цяпера і татарын паліцэйскім. Але не ў Верамейках, а ў атрадзе. У Бабінавічах жа, каб ведаў, паліцэйскі атрад ствараюць. Набіраюць мужыкоў і з Бабінавіч, і з Латокі. І ад нас во. Адным словам, арганізоўваюць уласць. Воласць у мястэчку працуе ўжо. А Брава-Жыватоўскі тута камандуе. Кажа, што мы таксама мусім сабе новую ўласць выбіраць. Старасту. Але нешта немцы з етай справай цягнуць.

— Відаць, не дайшла чарга да Верамеек, — сказаў Зазыба. — Таксама справа нялёгкая. Паку-у-уль гэта ва ўсіх вёсках выберуць. Трэба ж папаездзіць нямала. А тута ўсё незнаёмае — і людзі, і мясцовасць… — Ён падняў вочы на Вяршкова. — А як яны тых стараст — выбіраюць ці назначаюць?

— Брава-Жыватоўскі кажа, што нібыта выбіраць будуць.

— Ну што ж, нават пры цару стараст выбіралі. Стражніка назначалі, а старасту выбіралі. Таксама дэмакратыя.

— Таму Брава-Жыватоўскі пакуль і камандуе. А Мікіта Драніца ходзіць за ім, як прывязаны: калі БраваЖыватоўскі стамляецца, Мікіта вінтоўку следам носіць. Як ета раней, пры Мікалаю было. А можа, пры Керанскім? Здаецца ж, нават таварышам міністра чалавека называлі нейкага? Дак от і Мікіта Драніца, я кажу, і яго можна называць такім таварышам, але не міністра, канешне, да міністра Мікіта не дарос, але таварышам старшыні калгаса, таварышам старшыні сельсавета акурат можна, цяпера во таварышам пана паліцэйскага. Невядома яшчэ толькі, ці будзе ён адпісваць і новай уласці на сваіх сяброў-таварышаў?

— Будзе, будзе, — нібыта супакойваючы Вяршкова, сказаў Зазыба.

Тады Вяршкоў засмяяўся:

— Ат жа няхай дурняў вучыць! А то аднаму Мяшкову пакуль давялося за дружбу з ім паплаціцца!

Зазыба ўжо слухаў Вяршкова без ранейшага ўнутранага супраціўлення, але панура, як з перасцярогай: калі Парфён звычайна пачынаў гаварыць, то ніхто ў вёсцы не мог здагадацца, да чаго ён павядзе. Амаль усё, што паведамляў Вяршкоў цяпер, да Зазыбы ў розных варыянтах дайшло праз Марфу, якая наведвалася да суседзяў: даводзілася эканоміць нават на запалках — ужо насілі ўранні вуголле з хаты ў хату, каб распаліць дровы ў печы. Хадзіла яна па суседзях таксама і дзеля мужа: бачыла, як той нудзіўся ў няведанні — верамейкаўцы абыходзілі нечага хату, Вяршкоў, лічы, першы завітаў. Але для Парфёна, кажуць, законы не пісаны. За ім даўно ішла яго слава: здавалася, чалавек праз усё жыццё, як памятаюць яго, адно рабіў, што пярэчыў не толькі аднавяскоўцам, але таксама і наезджым людзям. У дваццаць дзявятым, калі арганізоўвалі калгас, Вяршкоў нават не пайшоў на вясковы сход — ён тады лічыўся серадняком. Ужо ўсе верамейкаўскія двары былі ў калгасе, а Парфён упарта ладзіў гаспадарку аднаасобна. І толькі ўвосень, як сабраў ураджай на сядзібе, прынёс заяву і папрасіў Зазыбу, каб разам з калгаснай заворвалі і яго зямлю. Але з таго дня стаў, можа, самым заўзятым чалавекам у калгасе і рабіў у ім як для свайго дому. У трыццаць сёмым яго паводзіны таксама не засталіся незаўважаныя. Калі прыйшлі газеты аб судзе над маршалам Тухачэўскім, які быў арыштаваны разам з іншымі вядомымі военачальнікамі, у Верамейках ішоў калгасны сход. На сходзе прысутнічаў начальнік раённага аддзела НКУС Злотнік. Можа, якраз гэтая акалічнасць і стала прычынай, што на сходзе пачалася размова пра новых «ворагаў народа». Вядомая справа, у Верамейках Тухачэўскага таксама закляймілі ганьбай: на сходзе была прынята рэзалюцыя, дзе ўхвалялася для маршала найсуровая кара. Але ў часе галасавання рэзалюцыі знайшоўся чалавек, які ўстрымаўся. Гэтым чалавекам быў Парфён Вяршкоў: раптам ён падняў руку сваю там, дзе не трэба было вытыркацца. Начальнік раённага аддзела НКУС ажно разгубіўся ад нечаканасці, хацеў нават не заўважыць высунутай рукі. Тады Вяршкоў падаў голас. Гэта раззлавала начальніка— абавязкова ж трэба было здарыцца выпадку на сходзе, які ішоў пры яго непасрэдным удзеле!.. І вось Злотнік халодным голасам просіць Вяршкова растлумачыць «таварышам калгаснікам», па

якіх матывах ён хоча ўстрымацца. Той-сёй і з мясцовых актывістаў пачаў шыкаць на неслуха. А стары Ціток — ён заўсёды на сходах сядзеў на першай лаўцы — дык той наогул памкнуўся сказаць ад імя радавых калгаснікаў у процівагу Вяршкову слова (закрычаў — дайце гаварыць, дайце гаварыць!). Але ў прэзідыуме не дазволілі яму выступіць — ці то не паверылі, ці, можа, наогул не захацелі аддаваць ініцыятыву ў палітычнай справе. Тады Вяршкоў сам падняўся і растлумачыў свае паводзіны наступным чынам: у сталінскай канстытуцыі, маўляў, запісана, што кожны грамадзянін краіны можа галасаваць і за, і процi, а можа таксама ўстрымацца, адным словам, ён, Парфён Вяршкоў, дзейнічае паводле канстытуцыі. Гэта падзейнічала: паколькі начальнік раённага аддзела НКУС, як і ўсе, хто прысутнічаў на сходзе, нічога не меў супраць сталінскай канстытуцыі, то адразу перастаў дапытвацца, назваўшы напаследак Вяршкова спярша вясковым дэмагогам, затым проста адсталым элементам, якога яшчэ трэба выхоўваць і прывесці да класавай свядомасці. Ну і вядомая справа — Вяршкова пачалі выхоўваць пасля таго амаль усе, хто меў да гэтага хоць якое дачыненне: і старшыня сельсавета Ягор Піліпчыкаў, і дырэктар школы Бутрыма, і ўчастковы міліцыянер Ляўшоў… А грахоў, накшталт пералічаных, у Вяршкова было-такі. Кожны ў Верамейках мог бы ўспомніць што-небудзь і расказаць пра Парфёнавы «дзівацтвы». Тым часам чалавек жа зусім не блазнаваў, і гэта разумелі ў Верамейках, проста цяжка і няскора ён разлучаўся з тым, да чаго прывыкаў гадамі.

…Перастаўшы гаварыць пра Мікіту Драніцу, Вяршкоў нават на момант не даў асталявацца цішыні.

— Але мы загаварыліся, —зрабіў ён выгляд, што спахапіўся. — А справы тым часам не чакаюць, бо адклад не ідзе ў лад.

— Адкладваць ніхто і не збіраецца, — трохі па-блазенску глянуў на Вяршкова Зазыба. — Сыдуць дажджы во, дак усёй вёскай і выйдзем у поле.

Вяршкоў падкусіў верхнюю губу:

— Сідар Раўнягін…

— Але чаму тады Сідар твой маўчаў, калі можна было гаварыць? — як зазлаваў Зазыба. — Тама ж быў… — Аднак Маштакова назваць не рашыўся. — Тама ж… не адны мы з ім былі. Былі ж людзі і не нашай галавы. Маглі б даць рады!

— Пра што ты? — заплюскаў вачамі Вяршкоў. Зазыба ачомаўся:

— Да так, к слову прыйшлося. Тады Вяршкоў спытаў проста:

— Калі ты Сідара паспееў пабачыць?

— Днямі неяк.

— Сам наведаўся ў Кулігаеўку ці ён прыходзіў?

— Было, — няпэўна адказаў Зазыба. — Але ён жаліцца на ногі. Рэўматызм, дак жаліцца.

— Я бачу, Сідар ужо таксама хітраваць стаў, як даўней Хомка Берасцень, — заварушыўся на ўслоне Вяршкоў.

Зазыба засмяяўся.

— Гэта ў цябе жонка яшчэ маладая, — сказаў ён, — дак ты малайцом ходзіш сярод нас. Таму, мабыць, не верыш і другім, калі хто жаліцца на здароўе па старасці. Вядома, табе трэба, а то жонка пахапае свае вузлы да ходу.

— У мяне яшчэ ёсць чым прывязаць да сябе жонку, — з раздражненай самазадаволенасцю буркнуў Вяршкоў.

Тады Зазыба зноў як падначыў Вяршкова:

— Дак гэта справа такая. Хто чым можа, той тым і трымае. Сцяпан Ткачоў вон дак нават пута прывязваў у сесла для парадку.

— Ат, — махнуў рукой Вяршкоў, робячы выгляд, што яму зусім не цікава такая размова, — як за тоўстае бярно брацца, дак заўсёды хітрыя знойдуцца. А цяпера таксама трэба цяжкае бярно падымаць. Дак, можа, Сідар твой і жаліцца таму пачаў. Яны тама, на тых пасёлках, усе здатныя Хомку пераймаць.

У Верамейках даўней жыў Хомка Берасцень, па мянушцы «Абы» — абы етак, абы так, — чалавек, які бадай усё жыццё прытвараўся. Дык пра таго Хомку цяпер вось і нагадваў Парфён Вяршкоў. Берасцень хадзіў ледзь не з маладых гадоў па вёсцы з кульбай. І, можа, таму, што выгляд меў сапраўды несамавіты, яго нараканням на здароўе верылі. Але аднойчы за ім верамейкаўцы ўсё ж падгледзелі. Хомка тады паваліў на край балота тоўстую вольху, але не разлічыў — дрэва гахнулася ў багну. Вольха патрэбна была на падлогу ў клеці — збіраўся сам пакалоць на дошкі, каб не наймаць пільшчыкаў. Але ж не будзеш калоць на багне — па горла, трэба вывалачы на трывалы грунт. І вось Хомка абхапіў рукамі камель, прыціснуў да правай бачыны і, таго не думаючы, што за ім пільнуюць, патарабаніў вольху на сухое, ажно сучча затрашчала на купінах. Вядома, у Верамейках гэта выклікала ўсеагульны рогат — ну і Хомка Берасцень!..

— Але што Хомка, — нарэшце махнуў рукой Парфён Вяршкоў. — Ён даўно сатлеў, а мы во жывём. Дак жывым трэба пра жывое.

— Ты зноў?..

Тады азвалася са свайго месца Марфа:

— А ты, я гляджу, не даеш слова сказаць чалавеку! Хочаш, каб мужыкі цераз цябе пераступілі?

Зазыба раптам адчуў, што жонка бярэ Парфёнаў бок — акурат заадно. Нават здалося, што яна не ўсё сказала і яшчэ дагаворыць, але дарэмна — Марфа ўзяла на пяколку дзяругу-пасцілку, падала гаспадару.

— Вазьмі да занавесь акно, бо пара запальваць святло.

Зазыба паслухмяна ступіў нагамі на ўслон, разгарнуў на распасцёртых руках дзяругу і пачаў чапляць на цвікі, што тырчалі ў верхняй лутцы. Марфа тым часам пабоўтала газу ў лямпе, падкруціла нагарэлы кнот. Калі праз нейкі момант у Зазыбавай хаце загарэлася святло, Марфа зноў сказала:

— Да і павячэраць трэба ўжо, а то мы дзеўку сваю голадам заморым.

— Парфён во таксама з намі павячэрае, — наперад пачаў запрашаць Зазыба.

— Сядайце адны, а я пакуль са сваёй хаты галодны не выходжу, — з годнасцю сказаў на гэта Вяршкоў.

— Дак у чужых жа яно заўсёды смачней, — усміхаючыся, сказаў Зазыба і пашкадаваў уголас: — Праўда, пляшкі ў нас няма, як для госця.

— Цяпер адзін Брава-Жыватоўскі знаходзіць недзе гарэлку. Мужыкоў нашых частуе. Ці, можа, яны яго. Было за етыя гады, за савецкія, хоць некаторыя трохі паадвыкалі ад гарэлкі, а цяпера во зноў… Ета як… Можа, хто гоніць ужо?

— З новага хлеба?

— Я ўчора хадзіў у Паддубішчы, тама на сядзібах бабы пажалі сваё.

— Дождж перастане, дак і калгаснае трэба спяшацца жаць.

— Калі сярпамі, то час быў даўно. З выбаркай. На гары, што ля маяка, мабыць, яшчэ на тым тыдні паспела. Але дарэмна трактар разбіралі да закопвалі недзе па частках. Праўда, Іван Падзерын ведае схованку, бо дапамагаў Чубару.

— Нічога, справімся і без трактара. Не пажнем, дак пакосім.

— Колькі ў нас цяпер тых касцоў!

— Бабы таксама касіць могуць.

— Накосяць табе бабы!

Каб не замінаць гаспадарам вячэраць, Парфён Вяршкоў перайшоў на тапчан.

Марфа ўжо несла на стол чыгунок з варывам. Страва яшчэ дымілася — сыходзіла парай, нягледзячы на тое, што печ палілася ўранні; у хаце пахла ўжалелым.

Зазыба дастаў з падвешанага на сцяне шкапчыка лыжкі, якія стаялі там у драўлянай, знарок зробленай дзеля гэтага ступцы, тады гукнуў на другую палавіну хаты:

— Марыля, вячэраць нас завуць!

Але адказу не дачакаўся. Тады адчыніў філёнкавыя дзверы. Зноў гукнуў.

Нарэшце Марыля пераступіла парог, павіталася з госцем.

— Ого, колькі яблыкаў! — убачыўшы кош, узрадавалася яна: малады голас яе пры гэтым неяк вельмі нязвыкла прагучаў у хаце.

— Спас настае, — сказаў паважна Вяршкоў, — дак Куліна, мая жонка, кажа, нясі таксама Зазыбавым, няхай частуюцца.

Марыля падышла да каша, выбрала яблык і з вялікай ахвотай адкусіла,

— Ета якраз і ёсць спасаўка, — пахваліў яе выбар Парфён Вяршкоў.

А гаспадыня, адчуваючы віну за сабой, што ўзбунтавала і госця, і сваіх хатніх з вячэрай, пачала зноў запрашаць Вяршкова да стала, але той па-ранейшаму адмаўляўся. Тады гаспадары, быццам з неахвотаю, уселіся за сталом і моўчкі пачалі есці проста з чыгунка.

Вяршкоў паназіраў за імі, падумаў пра Марылю — дзеўка недзе гарадская ўжо стала, а есці таксама ўмее, як у добрай сялянскай сям'і.

Сёрбалі яны варыва без хлеба, і Вяршкоў, бачачы гэта, падзівіўся, што Зазыба хоць і быў намеснікам у калгасе, але за сталом не раскашаваў цяпер, акурат мнагадзетны — ад мінулага года, мусіць, ужо не засталося запасаў, а з новага ўраджаю яшчэ нічога не было на хлеб.

Парфёну Вяршкову неспакойна было сядзець на тапчане. Ён ажно злаваў на сябе, што так і не здолеў давесці да канца Зазыбу пра галоўнае. А галоўнае тое было вось у чым. У Бабінавічах, пасля таго як замест сельсавета немцы аднавілі валасное праўленне, камендант гарнізона Адольф Карл Гуфельд — дарэчы, ён хутка навучыў беларусаў называць сябе на рускі лад, Адольфам Карлавічам, — загадаў склікаць агульны сход. Паліцэйскія, што былі ў навакольных вёсках — з гэтым акупанты спяшаліся перш за ўсё, — наладзілі поўны збор: абавязалі з'явіцца ў кантору праўлення калгаса не менш як па адным чалавеку ад двара. Адшукалі таксама членаў праўлення, вядома, тых, што засталіся на тэрыторыі калгаса. Адным словам, усё было зроблена самым належным чынам — і прэзідыум быў, і члены праўлення нібыта вагу мелі, і галасаванне праводзілася. І ўжо зусім дзіву даліся людзі, як камендант раптам абвясціў, што нямецкае камандаванне, калі гэта пажадаюць сяляне, можа дазволіць ім жыць і

працаваць у калгасе. Проста, растлумачыў Гуфельд, няхай усё і надалей ідзе ў гаспадарцы па-ранейшаму. Новая ўлада таксама не супраць калектыўнай гаспадаркі ў вёсцы. І наогул, калгасы павінны захоўвацца пакуль па ўсёй Бабінавіцкай воласці… Уласна, з гэтым вось і прыйшоў сёння Парфён Вяршкоў да Зазыбы. Але гаворка іхняя, без малога ад першых слоў, нібыта забуксавала — Зазыба і блізка не прымаў нічога, што датычыла далейшага лёсу, асабліва падзелу калгаса.

Нарэшце гаспадары павячэралі. Марыля падзякавала і не затрымалася на гэтай палавіне хаты — пайшла на сваю, набраўшы на прыслоненую да грудзей руку чырванабокіх яблыкаў з каша. На парозе яна яшчэ азірнулася, каб удзячліва ўсміхнуцца Вяршкову. Зазыбава Марфа тым часам пачала маліцца на покуць. Мужчыны пасядзелі дзеля прыліку колькі моманту ў маўчанні, тады Парфён Вяршкоў зноў загаварыў. Але цяпер Зазыбу нібыта хто падмяніў. Ён нават адным словам не перапыніў госця. І той збольшага нарэшце пераказаў усё, як было ў Бабінавічах. Здавалася, Зазыба спярша не паверыў яму — раптам ускінуў у здзіўленні галаву і доўга глядзеў прыжмуранымі вачамі, як прымерваўся. Затым на ягоным твары з'явілася разгубленая ўсмешка, якая змянілася трывогай, што была выклікана, пэўна, сумятнёй пачуццяў, бо тое, аб чым паведаміў Вяршкоў, не ўкладвалася ў прывычны парадак рэчаў. Нават з газет — а на працягу амаль двух месяцаў, пакуль каціўся да Бесядзі фронт, людзі мелі магчымасць чытаць газеты кожны дзень — вядома было, што акупанты павінны распускаць калгасы на захопленай тэрыторыі. І вось у Бабінавічах яны раптам павялі сябе інačай.

— Дак от, што б ведаў, Яўменавіч, —з несхаванай злараднасцю сказаў Парфён Вяршкоў— Не адзін ты цяпера стаіш за калгас. Ну, чаму ты за калгас, ета ясна. А от чаму нямецкі камендант у Бабінавічах таксама бароніць калгас, дак ета ўжо вельмі дзіўна. Мабыць, і ён мае ў калгасе нейкі інтарэс.

— Але сапраўды дзіва, — гледзячы кудысьці як у самога сябе, адчужана ўсміхнуўся Зазыба. — Сапраўды дзіва, — паўтарыў ён.

— Да ўжо большага дзіва, бадай, і не дачакаешся.

— Што б гэта значыла?

— Ета ўжо ты ў каменданта спытай, — развёў рукамі Парфён Вяршкоў. — Але табе, Яўменавіч, як намесніку старшыні ёсць над чым падумаць.

— Да ўжо ж…

— А як на мой розум, дак па такім часе нічога разумнейшага не прыдумаеш, як падзяліць усё па дварах, бо не можа быць,

каб Адольф Карлавіч таксама па шчырасці за калгас стаяў. Тута нешта ёсць такое, чаго мы яшчэ пакуль не бачым. Таму не трэба думаць, што мы нешта благое зробім.

Вяршкоў разважаў, а Зазыба ўжо не мог прымусіць сябе з патрэбнай увагай слухаць яго — раптам чалавек нібыта ў прастрацыю ўпаў: адно паціраў рукой кончык носа і з затуманенай недаўменнасцю пазіраў то на госця, то на сваю Марфу, якая прыбірала пасля вячэры са стала.

У той вечар спаць у Зазыбы ў хаце клаліся рана. Гаспадар толькі праводзіў за вароты Парфёна Вяршкова, сказаўшы напаследак памяркоўным голасам:

— Парахуемся, Парфён, падумаем…

З галавы не выходзіла пачутае ад Вяршкова пра бабінавіцкія падзеі. Ён намагаўся растлумачыць сабе, што адбылося ў мястэчку і чым кіраваўся камендант Гуфельд, калі падаў голас за калгасы. Зазыба паступова перабраў у галаве ўсе магчымыя варыянты, якія хоць трохі пралівалі святло на гэта. І нарэшце, ужо нібыта ў тумане якім, прыйшоў да дзіўнай, але суцяшальнай думкі, якая здалася яму прымальнай, можа, таму, што была… наіўная па сваёй сутнасці. Але абумоўлена яна была таксама і падсвядомым жаданнем — вельмі хацелася, каб сапраўды было так: раптам Зазыбу падумалася, што бабінавіцкі камендант Гуфельд можа аказацца камуністам; зыходзіў ё’н у сваіх меркаваннях з таго, што ў Германіі некалі дзейнічала шмат камуністаў і гітлераўцы наўрад ці здолелі ўсіх перасадзіць у канцлагеры.

## V

Прахапіўся Чубар ад незразумелага гуку. Было ўжо ранне, і ён колькі часу няўцям азіраўся, прывучаючы вочы да святла, якое здавалася чамусьці няпраўдашнім пасля ночы. Лес, дзе не па сваёй ахвоце апынуўся Чубар, быў рэдкі — як абхапіць двум чалавекам елкі, сярод якіх пракідаліся камлюкаватыя бярозы, стаялі адна ад другой на вялікай адлегласці. На голых мясцінах, што нагадвалі звычайныя паляны, раслі ў папараці рабіны, якія чырванелі яшчэ не зусім спелымі гронкамі.

Нешта туркала ўгары на ўвесь лес — тр-р-р, тр-р-р, тр-р-р, менавіта гэтае турканне і пабудзіла Чубара.

Дажджу не было, але неба засцілі хмары.

Непадалёку Чубар убачыў шырокі, з вялікім падрэзам пень. Вакол яго ляжала паскубанае птушынае пер’е: пеначак, берасцянак, чыжоў. Было каля пня таксама некалькі сойчыных хвастоў.

Але больш за ўсё — рыжавата-шэрага пер’я перапёлак. Тым часам на самым пні дзівіла вока ахайная чысціня. Няйначай, гэта была «сталоўка» ястраба-перапёлачніка. Ён высочваў свае ахвяры недзе ў полі, кідаўся на іх з вышыні і прыносіў сюды сталавацца.

Чубару пры выглядзе ястрабавай «сталоўкі» ўспомніўся свой выпадак.

У той год, як ён прыехаў на старшынства ў Верамейкі, Дзяніс Зазыба павёз яго паказаць калгасныя ўладанні. Была сярэдзіна лета, і вараны жарабок — куплёнік, якога набылі на Гомельскім конезаводзе, да паўдня паспеў павазіць седакоў ледзь не па ўсёй тэрыторыі калгаса. На Халахонавым хацішчы — некалі, ужо не за гэтым часам, жыў там адасоблена ад Верамеек багаты, але дужа нелюдзімы мужык Халахон — Зазыба прапанаваў даць каню адпачыць, бо не было ратунку ад сляпнёў. Старшыня калгаса і яго намеснік, дакладней загадчык гаспадаркі, нацёрлі каня балотным перцам і паставілі проста ў аглоблях у вялікі цень, паслабіўшы церассядзёлак, а самі спярша прайшлі па сенажаці — у тое лета аўсяніца высыпала як не па локаць, заліўшы ўсё’ фіялетавым колерам, затым накіраваліся глядзець авёс і грэчку, што былі пасеяны на новых лядах. Не паспелі яны выйсці на край нівы, як убачылі шэрага ястраба-перапёлачніка. Склаўшы кароткія крылы, той падаў камяком на зямлю. У аўсе спачатку пачуўся трывожны піск, пасля пачалася нейкая валтузня. А яшчэ праз момант перапёлачнік узляцеў угору. У кіпцюрах ён моцна трымаў сваю ахвяру. Але з ёй не мог узняцца высока, таму ляцеў па-над зямлёй. Зазыбу з Чубарам ён не заўважаў. І тое, што яны раптам апынуліся на яго шляху, было нечаканасцю. Ястраб разгубіўся, і яго ахвяра выпала з кіпцюроў. Гэта была куцахвостая перапёлка. Драпежнік не паспеў забіць яе, адно раструшчыў грудную клетку. Перапёлка мела бездапаможны выгляд. Здавалася, яна ўжо не скранецца нават з месца. Але вось яна паляжала на зямлі, нібыта ажывала, абапіраючыся на крылы, стала на ломкія ногі і, выдыхаючы з вялікім болем «хва-ва, хва-ва», як стрыножаная, паклыпала ў авёс.

Тады драпежніку не давялося паласавацца перапёлчыным мясам. Перашкодзілі Зазыба з Чубарам, якія паявіліся нечакана на краі нівы. А гэты, мусіць, праз усё лета насіў сваіх ахвяр да пня, зрабіўшы на ім сапраўдную «сталоўку»…

Чубар разварушыў ботам птушынае пер’е, пастаяў трохі над ім, быццам у забыўлівасці, а тады пачаў сцягваць з сябе закарэлы і брудны шынель.

Наперадзе быў цэлы дзень, і Чубарам валодала моцная надзея трапіць за гэты дзень у Журынічы — незнаёмая вёска стала для яго нібыта адным запаветным месцам, куды яшчэ мела сэнс падавацца.

У лесе патыхала цяжкім духам грыбоў. Паміж маладога ельніку блішчаў пасярэбраны дажджавымі кроплямі шаўкавісты змяёўнік. Па моху расла так званая грыбная лапша — булаўніца, але чамусьці не жоўтая, як звычайна, а чырванаватая, нават аранжавая: здаецца, ступіш на яе нагой, і мох навокал адразу акрывяніцца.

Бульбяное поле, па якім давялося ўчора паўзці Чубару, бачылася здаля. Чубар выйшаў на ўзлесак, стаў на бугарок межавай канавы. Па правы бок вачам заміналі глядзець кусты — тыя, што трапіліся ўчора ў цемры. Каб абмінуць іх, Чубар патупаў далей па канаве і ўгледзеў кіламетры за два невялікую вёску. Каля гэтай вёскі фашысты, мусіць, і напалохалі ўчора аўтаматнымі чэргамі Чубара. Але сёння нішто не выдавала там іх. Больш таго, ва ўсім наваколлі не адчувалася ніякіх прыкмет вайны: і па той бок абараняльнага рубяжа, і па гэты ўсё пакуль патанала ў звычайнай маўклівасці. Тады Чубар датупаў да апошняга размежавальнага капца, глянуў на далёкую дарогу, што ішла паўз вёску, можа, за паўкіламетра ад крайніх двароў. То была, няйначай, грунтавая дарога. Па ёй рухаліся крытыя грузавікі. Скрозь ранішнюю імжэль яны здаваліся адсюль вялікімі фургонамі.

Ісці па адкрытым полі было небяспечна, і Чубар разважыў, што лепей дачакацца на ўзлеску якога-небудзь мясцовага чалавека, каб распытаць пра дарогу і пра ўсё астатняе. Як толькі думка гэтая ўмацавалася ў свядомасці, Чубар пачаў прыкідваць у галаве, што ён павінен рабіць цяпер. Па-першае, хацелася есці. Але пытанне з ежай можна было вырашыць лёгка — у Чубара быў пры сабе карабок запалак, а бульба расла побач. Больш складана было сустрэць чалавека. Таму Чубар адразу заняўся тым, што залежала ад яго, — падаўся на поле капаць бульбу. Вогнішча ён раскладваў далей ад таго месца, дзе правёў ноч, каб нельга было заўважыць з узлесся. Гадзіны праз дзве пад яловым карчом нагарэла вуголле, і Чубар высыпаў на яго першы вялікі пасад бульбы. Гэтага пасаду магло хапіць яму на колькі разоў. Але як толькі Чубар наталіў голад, неспадзявана пачаўся бой. Над лесам спярша прагулі самалёты з чорна-жоўтымі, нібыта фасфарычнымі, крыжамі, скінулі бомбы на абараняльны рубеж. Пасля там сталі бухаць зeніткі, і нарэшце праз нейкі момант пачалася такая калатэча, што пад Чубарам загойдалася зямля.

Здавалася, што абрынулася само неба з усімі яго грымотамі і маланкамі. Сядзець нават за колькі кіламетраў было жахліва, хоць лес гэты яшчэ заставаўся, бадай, адзіным ва ўсім наваколлі астраўком, не зачэпленым боем. Чубар не меў вопыту ў ваеннай справе — яму не давялося ўдзельнічаць у папярэдніх войнах па малалецтве, але і ён рашыў, што гэта пакуль ішла артылерыйская падрыхтоўка і рабілі яе хутчэй за ўсё немцы: гарматы стралялі не далей як ад вёскі, якую бачыў Чубар, калі выходзіў на ўскрай лесу. Тым не менш Чубар неўзабаве не вытрымаў і рушыў паціху ад вогнішча, каб зноў выйсці на ўзлесак і паглядзець з-за дрэў у бок вёскі: гэтак часам адчуванне страху і несвядомая цікаўнасць выводзяць на небяспеку неразумнага звера. Тое, што раптам убачыў Чубар за межавай канавай, прымусіла скалануцца і знямець — уздоўж канавы, выставіўшы на бульбяное поле гарматы, стаялі нямецкія танкі. Калі яны панаехалі сюды, Чубар не мог нават уявіць сабе: можа, у самы апошні момант, пад грымотамі бою. Але выгляд варожых танкаў выклікаў у ім амаль жывёльны страх. Чубар кінуўся з усіх ног ратавацца ў сярэдзіну лесу. У роце зрабілася горка, быццам пакаштаваў моху, што рос на дрэвах. І ўсё ж да Чубара даволі хутка вярнулася здольнасць разважаць. Гэтаму паспрыяла тая акалічнасць, што лес раптам кончыўся і Чубар апынуўся на краі нейкага жытнёвага поля: далей бегчы было небяспечна.

Тым часам дождж, які быў аціх пад раніцу, зноў пачаўся. Аднак цяпер ён ішоў з перапынкамі, быццам раздумваючы: пальле як з вядра паўгадзіны, а тады перастане. Чубар пачакаў, пакуль новая сцяна дажджу заслоніць ад вачэй наваколле, і проста праз жыта падаўся да другога ўзлеску, што быў наперадзе. Падумалася нечага, што пакуль будзе лепей не мець ніякага дачынення, няхай нават ускосна, праз шынель, падараваны ў Пёкліне Шпакевічам, да вайскоўцаў… І ён кінуў шынель на дажджы, хоць і разумеў, што пашкадуе аб гэтым у першую ж ноч, якую, няйначай, таксама давядзецца правесці не ў хаце. Чубар ішоў у адваротным напрамку ад абараняльнага рубяжа, на якім ужо некалькі разоў усчынаўся і заціхаў бой.

Надвечар дождж зноў як перастаў на працяглы час, і тады Чубар убачыў на мурагу, пасярод узаранага поля, каня. Наеўшыся ўдосталь і нават стаміўшыся ад гэтага, той стаяў ужо амаль з паўдня нерухома, звесіўшы ў нейкім сваім одуме галаву. Чубар адразу, як убачыў безнагляднага каня, павесялеў — ён азірнуўся з перасцярогай навокал і пашыбаваў па топкім ворыве напрасткі, хвалюючыся ад нечаканага і яшчэ патаемнага свайго жадання.

Конь таксама звярнуў увагу на чалавека, які спяшаўся да яго, і насцярожана занепакоіўся. Але Чубар ведаў коней — яшчэ здаля пачаў улагоджваць, ціха кажучы «кось-кось-кось»… Тады конь як паверыў чалавеку і паслаблена пераступіў пярэднімі нагамі, пакратаў адным вухам, нібыта гэтым даваў дазвол падысці, нават узяць сябе за мокрую, але ўзапрэлую, таму вельмі цёплую грыву. Ён, мусіць, з нейкае блізкае вёскі, якой пакуль не відаць было адсюль, але цяпер, надвечар, па яго маглі прыйсці сюды кожную хвіліну. Таму Чубар не стаў чакаць. Абапёрся распасцёртымі, амаль на ўсю шырыню, рукамі на канёвыя карак і крыж, падскочыў і павіс на нейкі момант жыватом на вострай хрыбціне, а тады крутануўся і, закінуўшы правую нагу, сеў. Можна было ехаць. Але конь раптам яшчэ ніжэй апусціў галаву, нібы збіраўся пачаць скубці мурог. Чубар штаўхануў лыткамі па канёвых рэбрах, пацягнуў на сябе ледзь не каля самае галавы за грыву, спрабуючы прымусіць каня выпрастаць шыю. Але дарэмна. Конь не хацеў слухацца Чубара, адно чухаў аб выстаўленую нагу пабялелую, быццам скура на Чубаравых ботах, пысу.

— Но! — пачаў голасам паганяць Чубар.

Конь не паддаваўся ні штаўхалям, ні крыку.

— От упіра, — сказаў у злосці Чубар і саскочыў на мурог — рашыў ужыць спачатку самае надзейнае: вывесці каня на дарогу.

Набрынялы мурог непрыемна зачмякаў пад падэшвамі ботаў. Але наваксаваная скура, нягледзячы на тое, што амаль не прасыхала ўжо колькі дзён, яшчэ не прапускала да анучаў вады.

Улагоджваючы каня, Чубар мякка паляпаў рукой па ягоным шырокім ілбе, пачаў зноў «коськаць». Тады выцягнуў са штаноў рэмень і накінуў каню на шыю, заціснуўшы ў руцэ абодва канцы.

— Хадзем, — сказаў ён каню, як пасля дамоўленасці, патузаў за канцы.

Нарэшце конь, мусіць, адчуў над сабой уладу чалавека, перастаў натурыцца.

Тады Чубар ціха засмяяўся, задаволена сказаў:

— Даўно б так!..

Але на дарозе Чубар яшчэ ўтрапёна падумаў, што без аброці конь, няйначай, паспрабуе павярнуць не ў той бок. Толькі дарэмна. Конь больш не паказваў нораву — як угнуўся пад цяжкім седаком, дык адразу патрухаў па дарозе. Ехаць на коні хоць і было мулка ды парна, асабліва сыспаду, аднак праўду кажуць дасціпныя людзі, што лепей дрэнна ехаць, чым добра ісці. Чубар лічыў, што з канём яму пашанцавала, нават задужа. Гэтага шанцу ўжо ставала, каб не думаць, што конь можа зусім неўпрыкмет

паблытаць знаёмыя яму дарогі і правазіць седака да наступнае раніцы вакол аднаго і таго ж месца. Вядома, конь быў крадзены. Але на гэты кошт Чубар меў заспакойваючае апраўданне — ён разумеў сабе справу так, што конь, няйначай, калгасны, значыць, па цяперашнім часе амаль нічыйны.

Як і ў мінулы вечар, калі Чубар ішоў з Пёкліна ў Журынічы, цямнела, здаецца, пачынаючы ад самага ранняга пасляабеддзя. Над зямлёй вісеў туманны паўзмрок. Але ў мінулы дзень Чубар быў поўны спадзяванняў і нязведанага прадчування — гэта ж не жарты, выйшлі сюды яны, лічы, з самага нямецкага тылу! Учора ўсё складвалася як нельга лепш, адно да аднаго. А сёння тое самае нібыта пачало пракручвацца на зварот. Другі раз за апошнія колькі дзён — першы раз у Верамейках, затым у Белай Гліне, калі ён апынуўся ў жахлівым няведанні, а другі раз цяпер вось — перад ім паўставала задача са шматлікімі невядомымі, якую патрэбна было рашаць. Але тады на шляху ў яго апынуліся Шпакевіч з Халадзілавым — акалічнасці склаліся нечакана так, што адпала неабходнасць рашаць менавіта яму тыя невядомыя. Цяпер жа зноў усё складвалася як да сустрэчы з Халадзілавым і Шпакевічам. Чубар павінен быў зноў асабіста турбавацца пра ўсё. Ды адзін ён ужо не мог нічога прыдумаць — не хапала не толькі здатнасці, але, здаецца, нават фізічных сіл. Разумеючы гэта, Чубар паступова траціў ранейшую ўпэўненасць і ранейшае жаданне, у ім брала верх нешта падобнае на абыякавасць да ўсяго, што магло мець значэнне ў ягоным становішчы.

Канём Чубар зусім не кіраваў — гэтага нават не вымагала дарога, бо яна была пакуль адна тут.

Кіламетраў праз колькі пачаўся лес.

З вопыту свайго вандравання Чубар ведаў, што тутэйшыя лясы былі невялікія — хутчэй звычайныя пералескі, таму ён падумаў, што гэты таксама павінен неўзабаве кончыцца.

Дарога хутка прывяла на раскрыжаванне — адсюль пачыналіся яшчэ дзве: адна, торная, была, уласна, працягам ранейшай, па якой ехаў Чубар, а другая толькі адгаліноўвалася, але была зараслая травой і закіданая апалым лісцем. Такія дарогі, як гэта, звычайна нікуды з лесу не выводзяць, яны канчаюцца часцей за ўсё жураўліным балотам, дзе сяляне з навакольных вёсак скубуць доўгі і мяккі мох на розныя свае будоўлі. Таму Чубар пусціў каня на торную дарогу.

Скрозь густую імжу, якая ў лесе нагадвала ўжо звычайныя пацёмкі, Чубар неўзабаве ўбачыў на дарозе чалавечую постаць. Дзіва, але Чубар нават не ўзрадаваўся сустрэчы, якая мелася

адбыцца. Па дарозе тупаў мужчына. Гэта адразу кідалася ў вочы па хадзе. І чым хутчэй яны набліжаліся адзін да аднаго, тым выразней станавілася, што чалавек меў сялянскі выгляд — ужо нават па тым, што быў дужа рухавы і насіў армяк з накінутым на галаву башлыком.

— Ці не бачыў ты цёлкі чмарай? — гукнуў ён наўперад, калі паміж Чубарам і ім заставалася не больш за дзесяць крокаў.

Але Чубар не адказваў да самага таго моманту, пакуль не параўняліся.

— Не, не бачыў, — пільна ўзіраючыся ў чалавека, пакруціў галавой Чубар.

Чалавек глядзеў на конніка насцярожана, вочы яго ажно жмурыліся.

— Ці то сама сышла куды, ці хто звёў, — па-сапраўднаму шкадуючы, сказаў ён. — Уранні не знайшлі, цяпера вось цэлы дзень па дарогах бегаю.

— А яна тым часам, можа, дзе на мурагу распірае бакі, — усміхнуўся Чубар.

— Каб жа знаццё…

— Ты адкуль? — спытаў Чубар.

— А ты?

— Ды я адтуль, — паказаў Чубар рукой за плечы. Чалавек падступіўся бліжэй, сказаў:

— Але нешта я не пазнаю цябе?

— Дык і я таксама цябе, — быццам гуляючы словамі, паказаў Чубар зубы.

— Мусіць, нетутэйшы?

— Чаму ты думаеш?

— Дык сваіх жа я ведаю! —усміхнуўся чалавек.

— А сам з якой вёскі? — зноў спытаў Чубар.

— З Шыраеўкі.

— Дзе гэта?

— Ды выедзеш з лесу, і вёска наша адразу.

— У цябе паесці няма чаго? — спытаў Чубар.

— Няма. Бегаю каля самага дому, дык навошта?

— І то праўда, — нібы толькі цяпер усвядоміў гэтую акалічнасць Чубар.

— А конь у цябе нішто, — пахваліў чалавек.

— Добры конь.

— Але, няйначай, крадзены?

— Чаму ты падумаў? — зусім шчыра здзівіўся Чубар. Чалавек хітра паглядзеў на яго, разважліва сказаў:

— На сваім кані нават цыган не ездзіць без аброці.
— Цыган і на чужога без аброці не сядзе, — пажартаваў Чубар.
Чубару не хацелася далей гаварыць пра каня, таму ён спытаў пра другое:
— Немцаў у вёсцы няма?
— Учора былі на матацыклах, а сёння, здаецца, яшчэ не наведваліся.
— Ну і што? Як яны?
— Рагоў пад каскамі не відаць было, а там хто іх разбярэ, — паціснуў плячамі чалавек. — Пакаталіся на матацыклах па вёсцы, пахапалі на вуліцы гусей, а благога не нарабілі.
— А гусі — гэта не благое?
— Дык…
— Можа, спяшаліся куды?
— Можа, і спяшаліся.
— А ты кажаш!..
Чубару патрэбна было мець хоць якое ўяўленне пра мясцовасць, таму ён пачаў распытваць чалавека пра навакольныя вёскі:
— Значыць, Шыраеўка ваша недалёка ўжо?
— За лесам адразу.
— Як туды ехаць?
— Проста — па дарозе, па дарозе…
— А за вашай вёскай — якая наступная будзе?
— Дык гэта, як куды, — разважліва сказаў чалавек. — Калі туды, — ён паказаў на поўнач, — то на Аўчынкіна выедзеш, а калі сюды, — і ён зноў паказаў рукой, але ўжо трохі лявей, — то на Папаратню пападзеш.
— Журынічы адсюль далёка? — спытаў Чубар.
— Журынічы… Журынічы… — Чалавек ссунуў калматыя бровы. — Журынічы…
— Там блізка яшчэ другая вёска, Пёкліна, — падказаў Чубар.
Тады чалавек раптам усміхнуўся:
— Гы, пра гэту я чуў. Пра гэту ў мяне пыталіся ўжо. Пёкліна цяпер недзе там, за фронтам.
— Дык там вось і Журынічы, — важка сказаў Чубар.
— Тады не ў той бок едзеш, —пачаў тлумачыць чалавек. — Трэба павярнуць назад і падавацца на Петраполле, пасля на Мядзведзі, на Жанвіль, а за імі і Пёкліна недзе. Гэта ўжо не нашага раёна.
— А Шыраеўка ваша якога? — спытаў Чубар.
— Гардзееўскага, — з нейкай асаблівай годнасцю адказаў чалавек, быццам Гардзееўку ведалі ва ўсім свеце.

— А на Гардзееўку як трэба ехаць?

— Гэта ўжо на Папаратню…

— Ну вось і пагаварылі, — зрабіў Чубар выгляд, што наважыўся ехаць.

Але чалавек паціснуў плячамі.

— Нешта я не разбяруся — тутэйшы ты ці нетутэйшы, ваенны ці неваенны…

— А сам чаму не ў арміі? — спытаў тады Чубар.

— Бялет маю.

— Белы?

— Вядома, не чырвоны!

— Што ў цябе?

— А мяне як неслі хрысціць у царкву, дык у халоднай вадзе пакупалі, — бліскаючы вачамі, адказаў чалавек. — Кум з рук выпусціў малога.

— Ну і што? Кума ж ты пасля, як вырас, хоць пабіў?

— Завошта? З белым бялетам таксама можна пражыць.

— Асабліва як цяпер? — пакпіў Чубар.

— Я — па закону, — як незалюбіў чалавек. — А ты вось таксама… мусіць, нечага не ваюеш?

Чубар натужна памаўчаў. Тады нібы спахапіўся:

— А хто ў цябе яшчэ пытаўся пра Пёкліна?

— Ці ж вас цяпер разбярэш? — сказаў з усмешкай чалавек. — Хто сустрэне на дарозе, той і пытае.

— Ну, а ўсё-такі?

— Выйшлі нейкія два ў ваенным на дарогу і гаварылі.

«Мусіць, акружэнцы?» — падумаў Чубар.

— Дзе гэта было? — спытаў ён.

— Там, — махнуў чалавек рукой на дарогу за сабой.

— А даўно?

— І ўсё табе хочацца ведаць! — раптам нібыта заўпарціўся чалавек. — А можа, я таксама слова даў!

— Добра, — сказаў як нездаволены Чубар, — тады трымай сваю клятву. Але пра немцаў ты праўду сказаў?

— Якую ты праўду хацеў?

— Ну, што ў вёсцы няма іх?

— Дык я казаў, што не было.

— Ладна, праверым, — з наўмыснай пагрозай наперад сказаў Чубар.

— Дык ім жа на машынах нічога не каштуе цяпер, — нібыта апраўдваючыся, сказаў чалавек.

Чубар крануў каня. І ўжо ад'ехаўшы, крыкнуў наўздагон:

— А можа, купіў бы за што каня ў мяне?

Але крыкнуў проста так, дзеля аднаго свавольства. Чалавек павярнуўся і на хаду таксама крыкнуў:

— Едзь ужо, едзь! Пакуль не папаўся з гэтым канём! У нас адзін так прадаваў ужо! А назаўтра высветлілася, што конь быў з суседняга калгаса! Украдзены!

— Мой не крадзены! — дзеля большай пераканаўчасці засмяяўся Чубар.

Над дарогай з абодвух бакоў навісалі яловыя лапы. Яны ледзь не сашчэпліваліся на сярэдзіне, таму неба праглядвалася толькі праз вузкую палоску, якая выгіналася ўгары разам з дарогай.

Конь тупаў паціху, плёхкаючы капытамі па калдобінах, у якіх стаяла вада.

Чубар не здагадваўся, але наперадзе па дарозе быў чырвонаармейскі пост, яго сапраўды паставілі акружэнцы, калі адчулі, што настае вечар. У вёсцы чырвонаармейцы заначаваць не адважыліся, адно папрасілі ў сялян печанага хлеба: мяса — каніну — яны неслі з сабой, а бульбы можна было накапаць на калгасным полі. Цяпер гэтак рабілі ўсе, хто рухаўся да фронту.

Чубара аклікнулі адразу, як ён наехаў на пост.

Непадалёку, крокаў за пяць ад дарогі, паміж дзвюх бяроз, якія вылучаліся сваёй бяростай сярод хвойных дрэў, стаялі чырвонаармейцы з вінтоўкамі. Адзін, з насупленым тварам, у акулярах, ступіў на дарогу, перастрэў конніка:

— Хто такі?

— Ды…

Дзіва, але Чубар не ведаў, што адказаць. Сапраўды, хто ён? Тады, каля Белай Гліны, Чубар не бянтэжыўся, бо ведаў, што гаворыць пра сябе чырвонаармейцам. Там ён быў амаль дома. Урэшце, для Шпакевіча і Халадзілава было ўсё роўна, што Белая Гліна, а што Верамейкі. Галоўнае, Чубар — старшыня мясцовага калгаса. А цяпер, у гэтай незнаёмай мясцовасці, ён быў ні больш ні менш як звычайны бадзяга. І тыя, каму ён меўся гаварыць аб сабе, маглі паставіцца да ягоных слоў па-рознаму, прымаючы іх напавер альбо не. Але і хлусіць яму таксама не было сэнсу: ён сам не меў нічога супраць неспадзяванай сустрэчы. Чырвонаармеец між тым чакаў адказу. Збольшага, каб не зацягваць размовы і не злоўжываць цярплівасцю, Чубар пачаў расказваць чырвонаармейцу пра сваё вандраванне ад Бесядзі да абараняльнага рубяжа, што недзе паміж вёскамі Пёкліна і Журынічы, пасля — сюды… Чырвонаармеец спачатку слухаў сапраўды цярпліва, але як толькі высветліў для сябе, што чалавек

на кані зусім не тутэйшы, а таксама закінуты ў гэты лес вайной, занёс яго ў разрад падазроных і рашыў затрымаць.

— Хопіць, — перапыніў ён Чубара, — пра далейшае раскажаце дзе трэба.

Міма другога чырвонаармейца, які па-ранейшаму заставаўся паміж бярозамі, яны рушылі ў лес: Чубар на кані, а канвойны яго — трохі побач і пеша.

— Толькі не ўздумайце выкінуць якую-небудзь штуку, — папярэдзіў Чубара канвойны чырвонаармеец. — Уцячы ўсё роўна не ўдасца. Пасты кругом.

— Я не ўзброены, — каб супакоіць чырвонаармейца, сказаў Чубар.

Але сам тым часам глядзеў вакол неспакойнымі вачамі — хоць і была пэўнасць, што гэта напаткаліся свае і што няма чаго вельмі асцерагацца, аднак ледзь не звярынае адчуванне перасцярогі прымушала ўнутрана напружвацца і быць, як кажуць, напагатове.

Конь раптам спыніўся, расставіў ногі і, выгінаючыся, пачаў мачыцца. Гэтая акалічнасць нечага раззлавала канвойнага чырвонаармейца. Той пачаў усіх прыспешваць:

— Хутчэй, а то надумаліся тут!.. Тады Чубар з усмешкай сказаў:

— Няхай ужо аблегчыцца.

Ён скарыстаў момант і саскочыў на мох.

— Куды вы мяне? — нарэшце пацікавіўся Чубар, размінаючы ногі.

Чырвонаармеец не адказаў.

Тым часам да лагера, які размясціла ў незнаёмым лесе група байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі, што выходзілі з акружэння, заставалася ўжо крокаў з паўсотні.

Людзей у лагеры небагата. Гарэла вогнішча. Вакол яго сядзела некалькі чырвонаармейцаў. Трохі воддаль стаялі тры буданы, скіданыя з яловых лапак. Пры ўваходзе ў бліжэйшы да вогнішча будан, але меншы па памеры, ляжала разасланая коўдра. На шынялі, прыхінуўшыся спіной да невысокага пня, сядзеў з забінтаванай да калена нагой грузны камандзір з чырвонай зоркай на рукаве. На пятліцах яго былі па чатыры шпалы. То быў палкавы камісар. У левай руцэ ён трымаў салдацкі кацялок і еў з яго алюмініевай лыжкай. З будана, на ўсіх чатырох, вылез другі камандзір. Гэты адразу ўбачыў каня, а пры ім незнаёмага чалавека ў суправаджэнні чырвонаармейца. Падаўся насустрач.

Чубараў канвойны далажыў дакладна па форме:

— Таварыш капітан, на дарозе затрыманы… — і гэтак далей.

Капітан — высокі, з упалымі шчокамі — даслухаў чырвонаармейца, змераў Чубара зачэпістым позіркам.

— Мне трэба пагаварыць з вамі, — першы сказаў, хвалюючыся, Чубар.

Капітан кіўнуў галавой і моўчкі адышоўся да будана. Там ён перагаварыў аб нечым з палкавым камісарам і махнуў Чубару рукой. Палкавы камісар перастаў есці, але кацялок не паставіў.

— Хто вы? — спытаў камісар. Чубар адказаў.

Камісар расплыўся ва ўсмешцы і з цікавасцю агледзеў незнаёмага чалавека.

— Аднак прозвішча ў вас!.. Чубар таксама ўсміхнуўся.

— Непаразуменняў не бывае? Чубар паціснуў плячамі.

Камісар зразумеў гэта, як — здараецца…

Быў ён з вялікай лысінай, якая амаль клінам сыходзіла на самай макаўцы галавы. Нягледзячы, што чалавеку, мусіць, нярэдка даводзілася стаяць простаю галавой і на сонцы, і на дажджы, лысіна была зусім белая. Валасы на скронях і на патыліцы пасівелі да самых каранёў. Твар хоць і шырокі быў, але не азызлы і загарэлы. Няпэўнага колеру — ці то карыя зусім, ці то наогул чорныя — вочы глядзелі дапытліва, аднак не жорстка, нават трохі ўсмешліва.

Па зорцы на рукаве Чубар здагадаўся, што перад ім сядзеў камісар, аднак у высокіх вайсковых званнях, асабліва палітсаставу, ён не вельмі разумеў што. Але цяпер гэта нават не мела значэння — хапала таго, што на рукаве была камісарская зорка. І тым не менш камісар сказаў:

— Прадстаўляцца не буду. Маё — усё на мне. — Ён паказаў вачамі на зорку, затым—ужо рукой — на шпалы. — Праўда… Але слова гонару, пад гімнасцёркай таксама свая, айчынная бялізна. Фашысцкага нічога няма.

Чубару яшчэ невядома было, што немцы часам пераапраналіся дзеля правакацый, таму апошнія камісаравы словы ў яго разуменні здаліся непатрэбнымі, нават нявартымі.

— А вось пра вас, — працягваў гаварыць палкавы камісар, — хацелася б даведацца больш падрабязна. Дакументы ёсць?

Чубар пакорпаўся ў кішэні, падаў камісару ўсе, якія меў пры сабе, паперы.

Палкавы камісар паставіў збоч кацялок, наважыўся правяраць Чубаравы дакументы. Але спахапіўся, кіўнуў на кацялок:

— Калі жадаеце і не грэбуеце, можаце даесці. Чубар хацеў устрымацца.

Але па вачах яго палкавы камісар здагадаўся, што чалавек галодны.

— Ды вы не саромейцеся, — сказаў ён. — Давайце па-простаму. Кухні ў нас няма. Харчоў таксама небагата. — І засмяяўся: — Лічыце, што вам у нейкай ступені пашанцавала нават. Я памарудзіў вось, дык цяпер давядзецца падзяліцца з вамі харчам. Але сядайце.

Чубар паслухмяна апусціўся на мох. Тады палкавы камісар падаў яму кацялок. Чубар ажно пачырванеў — стала няёмка браць вячэру ў чалавека, які, можа, таксама хацеў есці.

У кацялку быў крупнік, але густы, як павярнуць лыжкай. Пахла мясной прыправай. Але Чубар есці не спяшаўся.

Капітан схадзіў да вогнішча, прынёс адтуль акраец сялянскага хлеба.

— Ешце, — сказаў і ён Чубару, — а то мы ведаем, як можна галадаць!..

Палкавы камісар тым часам пачаў правяраць Чубаравы дакументы.

— Ну, спавядайцеся, — сказаў ён пасля таго, як Чубар апраставў недаедкі ў кацялку, і пасунуў рукамі трохі ўбок параненую нагу.

Чубар падзякаваў за ежу і пачаў апавядаць, але таксама збольшага, пра свае вандроўкі. Тады камісар папрасіў не спяшацца, гаварыць падрабязна. Калі Чубар паступова дайшоў у расказе да таго месца, як яны са Шпакевічам і Халадзілавым апынуліся ў Пёкліне, камісар раптам заварушыўся і кінуў маўкліваму капітану, што стаяў крокі за два:

— Карту!

Той хуценька дастаў з перакінутай цераз плячо планшэткі тапаграфічную карту, паклаў камісару на калені, а сам укленчыў побач.

— Мы прыкладна так і меркавалі, — паглядзеў палкавы камісар на задумлівага і стараннага капітана.

Капітан зрабіў на сваім твары нешта падобнае на ўсмешку, кіўнуў галавой.

— М-да, — задумліва прамовіў тады палкавы камісар, — па сённяшняй кананадзе можна было меркаваць…

Абое — і палкавы камісар, і капітан — колькі часу не адводзілі вачэй ад разгорнутай карты.

— Значыць, у Пёкліне нашы? — удакладніў палкавы камісар.

— Былі нашы, — адказаў Чубар.

Палкавы камісар выставіў руку. Капітан выняў з планшэткі металічную лінейку. Палкавы камісар памераў ёю нешта на карце, задумаўся.

— Ну што ж, — паглядзеў ён на Чубара, — калі вашы звесткі дакладныя, то мы ўжо, лічы, дома!

— Вы заходзілі ў вёскі? — спытаў Чубара капітан.

— Ён жа конна ехаў! — пажартаваў палкавы камісар.

— Не, больш давялося ісці, — з адценнем сарамлівасці ўсміхнуўся Чубар.

— А конь?

— Гэта так… — памуляўся Чубар.

— А мы з табой, капітан, колькі тупаем, а вось не дадумаліся, — зноў з усмешкай сказаў палкавы камісар.

— Дык я хачу спытаць, — меў сваё ў галаве капітан,— вы калі ішлі праз вёскі, немцаў там не бачылі?

— Я абмінаў вёскі. Таму дакладна не ведаю.

— Вось што, — сказаў палкавы камісар капітану, — няхай байцы адпачываюць ужо. Заўтра выступім на самым світанні. І вам, таварыш Чубар, таксама трэба адпачыць. Вы сваё заслужылі… Ужо нават тым, што многа памоклі сёння на дажджы.

Капітан пайшоў да вогнішча аддаваць адпаведныя распараджэнні. Палкавы камісар паплюскаў стомленымі вачамі, пасунуў рукамі для зручнасці параненую нагу і зноў сказаў Чубару:

— Вы далучайцеся пакуль да маіх байцоў і адпачывайце. Думаю, што яны прымуць вас. А яшчэ лепей, лезьце ў мой будан. Бярыце коўдру і накрывайцеся. Будзеце пакуль як у Бога за пазухай. А мы з капітанам пасядзім. Трэба распрацаваць на заўтра маршрут. — І дадаў: — З вамі мы пасля таксама пагаворым яшчэ. Вы не супраць?

— Не, — сказаў Чубар.

Байцы раскінулі нагамі вогнішча, каб не выдала ўначы, і паляглі ў буданах.

Небяспекі вялікай не чакалі — з чатырох бакоў вакол лагера стаялі пасты.

Чубар таксама не ўтрымаўся ад спакусы — падаўся ў будан.

Знадворку было чутно, як гаманілі паміж сабой палкавы камісар і капітан. Слоў іхніх нельга было разабраць. Да таго ж Чубар і не намагаўся рабіць гэтага. Ён ляжаў і не ведаў — ці то яму сапраўды засынаць, ці дачакацца палкавога камісара. Але неспадзявана з’явіўся новы клопат: падумалася, што непрывязаны конь можа сысці куды ўначы. Хоць Чубар і не ведаў, ці патрэбны яму будзе заўтра гэты конь, аднак ламаў цяпер галаву

сабе над тым, як можна даць рады: не хапала самай простай рэчы — добрай вяроўкі ці нават звычайнай аборкі.

І ўсё ж Чубару давялося на нейкі час пакінуць зацішны будан.

— На каня гляну, — сказаў ён капітану, які насцярожана павёў за ім вачамі.

Конь тым часам неспакойна варочаў галавой, быццам у нецярплівасці, але стаяў на месцы. Чубар падышоў да яго, спыніўся заклапочана: сапраўды была поўная нявыкрутка. Тады Чубар рашыўся на самае простае — падвёў каня да будана і ледзь не тыцнуў яго мордай у яловыя лапкі.

— Пастой тут, — сказаў ён каню.

Калі Чубар зноў забраўся ў будан, там ужо варушыўся палкавы камісар. Капітан перад сном падаўся праверыць пасты.

— А што вы наогул збіраецеся рабіць? — спытаў у Чубара палкавы камісар.

— Пайду з вамі, — адказаў Чубар. — Там, у Журынічах, збіраюць апалчэнцаў.

Палкавы камісар доўга маўчаў.

— А вы лічыце, што біць фашыстаў можна толькі ў апалчэнні? — зноў парушыў ён цішыню.

— Чаму ж, — не зразумеў Чубар, — у арміі таксама… мусіць, яшчэ лепш. Але тады, у Пёкліне, мяне чамусьці не ўзялі ў армію, накіравалі ў Журынічы, у апалчэнне.

— Я не пра тое, — сказаў палкавы камісар. — Вы пра партызан чулі?

— Чытаў у газеце, здаецца, у «Правде», а можа, у «Известиях», двух нашых беларусаў з Палесся нядаўна ўзнагародзілі. Герояў Савецкага Саюза далі. Але прозвішчаў я не запомніў.

Палкавы камісар адшпіліў на гімнасцёрцы кішэню, дастаў двума пальцамі складзеную паперку і падаў у цемнаце Чубару.

— Гэта скарочаны тэкст прамовы таварыша Сталіна, якую ён сказаў трэцяга ліпеня, — растлумачыў камісар. — Тут пра ўсё сказана. Пра партызан таксама. І вас як немабілізаванага камуніста гэта датычыць у самай вялікай ступені.

Чубар слухаў.

— Ведаеце, што я зрабіў бы цяпер на вашым месцы? — працягваў гаварыць палкавы камісар. — Вярнуўся б у свой калгас. Там вас добра ведаюць.

— Але ж тое, што мяне добра ведаюць, можа, таксама… Хто-небудзь возьме да выдасць немцам.

— Усё будзе залежаць ад вас.

— Але ж для партызан там, мусіць, пакінулі людзей? — выставіў тады самы важны аргумент Чубар. — Каб я таксама патрэбны быў, то…

Камісар не запярэчыў, але і адказаў не хутка.

— Мне цяжка меркаваць, — нарэшце пачаў ён, — што ў вас там, у раёне, адбылося. Але я перакананы, што ў вашай мясцовасці таксама нехта астаўся для арганізацыі партызанскага руху. Вы ж самі разумееце, раён ваш крайні на паўднёвым усходзе рэспублікі. Пакуль фашысты захапілі яго, колькі часу прайшло. Цяпер жнівень, а вайна пачалася ў чэрвені. Гэта не тое, што на граніцы альбо паблізу. Там маглі і не паспець стварыць партызанскія групы. А ў вас справа іншая. Вашаму кіраўніцтву часу хапала, каб выканаць дырэктывы партыі і ўрада. А дырэктывы былі пэўныя. — Камісар паляжаў у маўчанні, быццам думаў, што яшчэ сказаць Чубару, а тады ўсміхнуўся і з захапленнем у голасе вымавіў: — А з партызанамі мы з капітанам бачыліся не адзін раз. Асабліва за Дняпром. Яны там пастрэльваюць ужо немцаў!

Камісаравы словы, здавалася, пакуль не кранalі за жывое Чубара. Ён успрымаў іх як нешта такое, што абыходзіла яго. І ўжо зусім ненаўмысна пацікавіўся:

— А вы? Вы ж таксама маглі застацца на акупіраванай тэрыторыі? Чаму вы не хочаце партызаніць?

Камісар адказаў:

— Я, таварыш Чубар, стары партызан. Не забылі? — І ён ціха праспяваў:—«Партизанские отряды занимали города…» Дык гэта пра нас, далёкаўсходніх. Мы там з Флягонтавым білі і японцаў, і белякоў. Так што мне партызанскае жыццё добра знаёма!

З паста вярнуўся капітан. Ён пастаяў трохі каля ўвахода ў будан, затым прысеў на дыбачкі і гукнуў у цемнату:

— Дзе вы там, таварыш палкавы камісар?

— Якраз пасярод.

— Каб хоць не зачапіць.

— Не бойся, лезь, я каманды табе падаваць буду — правей, лявей…

Але каманды не спатрэбілася. Капітан асцярожна залез у будан і лёг з правага боку ад палкавога камісара.

— Усё ў норме?

— Парадак, — як пахваліўся капітан.

— Як думаеш, заўтра дождж будзе?

— Для нас, можа, і лепей было б, каб ён заўтра не перашчукаў. Маскіроўка. У вялікі дождж можна незаўважанымі прайсці праз любыя пасты.

— Такія яны тады пасты!..

— Дык я ж пра нямецкія! — нібы пакрыўджана, але з выразным прытворствам, усклікнуў капітан.

— Ну, ну, спі!

Праз колькі хвілін палкавы камісар зноў пачаў гаварыць да Чубара:

— Дык вось. Я стары прыхільнік партызанскай тактыкі, каб ведалі, нават знарок запіскі пасылаў некалі ў Рэўваенсавет. Але мне там адзін разумнік, мусіць, ваенспец, я нават не пацікавіўся даведацца хто, сачыніў адказ: маўляў, Грамадзянская вайна была ўся пераважна партызанская, таму немэтазгодна займацца асобна пытаннямі тактыкі партызанскіх дзеянняў у такім плане, як гэта робіце вы. Адным словам, адказ быў рашучы. І я пасля такога адказу паклаў свае канспекты на паліцу. Успомніў пра іх гадоў праз дзесяць. Не, нават больш. Так, больш. Сабраўся быў паслаць…

І палкавы камісар назваў адно дужа вядомае ўсёй краіне, але забароненае тым часам прозвішча, а тады нібыта адгадаў у цемнаце Чубарава здзіўленне, сказаў пасуравелым голасам:

— Так, так, не бянтэжцеся, таварышу Якіру. Бог не прадасць, свіння не з’есць, а мы з капітанам адной куляй паранены. Толькі ён лёгка адбыўся, а я ўсё яшчэ не магу стаць на нагу. — Палкавы камісар памаўчаў трохі, пасля зноў глуха пачаў: — Гэта ж каб па-сапраўднаму падысці да справы, то патрэбна было і цэлую партызанскую навуку распрацоўваць. Але зыходзілі з таго, што ваяваць давядзецца на чужой тэрыторыі. Вайна ж паказала адваротнае — прынамсі, што ў планах неабходна прадугледжваць усе магчымасці. Партызанская вайна адрозніваецца ад ваенных дзеянняў рэгулярных часцей, свае законы мае. Але задача адна — біць ворага. Дарэчы, гэта яшчэ нават Дзяніс Давыдаў ведаў. І нападаў на ворага паўсюды, дзе толькі можна. А ў нас пакуль выходзіць іначай. У акружэнні апынуліся цэлыя часці. Але ўсе чамусьці імкнуцца выйсці за лінію фронту. Камандзіры вядуць байцоў з глыбокага тылу, нават у баі староняцца ўступаць. Некаторыя групы ідуць ад самай граніцы. Нават цяпер яшчэ недзе блукаюць па беларускіх лясах. У чэрвені месяцы, напрыклад, у групе было сто чалавек, а ў ліпені, ды і ў жніўні, добра, калі пятнаццаць захавалася. Адны загінулі, здаралася, нават выпадкова, другія, на жаль, проста адсталі. І гэта тады, калі не асцерагацца трэба, а біць, біць фашысцкую навалач! Чым болей паб’ём мы іх, тым меней застанецца. Урэшце, фашыстам таксама лік нейкі ёсць. І калі кожны з нас заб’е свайго немца, то

яны звядуцца зусім. — Апошнія сказы палкавы камісар гаварыў ужо павышаным голасам, нібыта пераконваў не столькі Чубара, колькі яшчэ кагосьці. — Праўда, вы можаце папракнуць у гэтым і нас, нашу групу, — пацішэў нарэшце ён. — Мы таксама, як і іншыя, цягнемся да фронту. Але, паверце, таварыш Чубар, у нас на гэта асаблівая прычына.

Палкавы камісар, вядома, не сказаў Чубару, якая гэта прычына. Аднак прычына на самай справе была: група выносіла з акружэння дакументы — партыйныя і штабныя — стралковай дывізіі, якая была разбіта паміж Бярэзінай і Дняпром на тэрыторыі Магілёўскай вобласці ў ліпені. Сам палкавы камісар не належаў да каманднага складу разбітай дывізіі. Ён прыехаў у дывізію са штаба арміі, калі палкі ўжо ледзь стрымлівалі націск танкавай групы праціўніка. Камандуючы арміяй накіраваў палкавога камісара туды пасля таго, як у штабе арміі стала вядома, што камандзір дывізіі загінуў на камандным пункце ад фашысцкай бомбы і што кіраванне палкамі парушана. Камандарм спадзяваўся, што палкавы камісар наладзіць работу штаба дывізіі і да прызначэння новага камандзіра зробіць усё неабходнае, каб не прапусціць на ўсход танкавую калону. Але было позна — дывізіі як баяздольнай вайсковай адзінкі бадай не існавала ўжо, і ягоны прыезд, па сутнасці, нічога не вырашаў: у той дзень варожыя танкі праламалі абарону палка, што стаяў на цэнтральным участку, і ва ўтвораны пралом рушылі матарызаваныя часці, засланяючы шлях да адступлення. Некалькі дзён зусім парадзелыя палкі дывізіі пад камандаваннем палкавога камісара вялі баі ў акружэнні. Нарэшце настаў час, калі штаб дывізіі — уласна, палкавы камісар не паспеў стварыць яго нанова, і штабам называлася група камандзіраў, якая ўцалела тады пад бамбёжкай, — апынуўся ў вельмі крытычным становішчы. Па-першае, была канчаткова страчана сувязь з палкамі, а па-другое, непасрэдна на штаб дывізіі пачаў наступаць батальён фашыстаў. Рота аховы, якая да гэтага часу таксама панесла страты, абараняла штаб мужна, але сілы былі няроўныя: байцы гінулі пры кожнай новай атацы, ужо не хапала камандзіраў, каб кіраваць боем, і тады палкавы камісар сам лёг у чырвонаармейскі ланцуг, загадаўшы начальніку асобага аддзела паклапаціцца аб дакументах. Фашысты, мусіць, здагадваліся, а мо нават і ведалі, што наступаюць на буйны штаб, таму атакі не спыняліся і з надыходам вечара. Тым часам па стрэлах палкавы камісар ужо разумеў, што далей трымацца рота не здольна: разам з ім, палкавым камісарам, якому куля раструшчыла правую нагу, і гэтым капітанам, таксама параненым,

у канцы другога дня абарону займалі ўсяго чалавек дваццаць. Таму палкавы камісар дачакаўся вечара і аддаў загад здымацца з пазіцый. Была надзея далучыцца да якога-небудзь свайго палка, але дарэмна — колькі ні спрабавалі байцы наладзіць сувязь з іншымі падраздзяленнямі, ім гэта не ўдавалася.

Палкавога камісара давялося несці на насілках. Гэта, вядома, дужа замінала групе. Было вырашана — дзеля сакрэтнасці так званых чужых у групу асабліва не прымаць (апрача лётчыкаў і танкістаў) і ў бойкі з ворагам не ўступаць: справай усёй групы цяпер стала — вынесці з акружэння дакументы дывізіі. І вось, высылаючы перадавыя і бакавыя дазоры, а на прывалах — ставячы ўзмоцненыя пасты, адасобленая і невялікая група байцоў на чале з параненым палкавым камісарам падыходзіла ўжо да лініі фронту: Пёкліна, пра якое расказаў Чубар, знаходзілася не больш як за дваццаць кіламетраў.

Капітан, які ў часе размовы, што ішла паміж палкавым камісарам і Чубарам, маўчаў, неўзабаве захроп на ўвесь будан: відаць, чалавек вельмі здарожыўся за дзень і заснуў моцна.

Палкавы камісар ажно сказаў у захапленні:

— Сапраўдны салдат! — І дадаў: — Таксама час. Будзем і мы спаць, таварыш Чубар. Калі не дагаварылі што, то заўтра дагаворым, перад расстаннем.

Чубар згадзіўся з ім. Але з прыхаванай крыўдай падумаў сабе — палкавы камісар ужо сёння адмаўляе яму ў тым, каб ісці разам за лінію фронту…

Здавалася, сон прыйдзе хутка, варта адно заплюшчыць вочы, але было наадварот. Чубару доўга не засыналася — апрача ўсяго іншага, не хацелася страціць каня, які стаяў каля будана. Чубар ляжаў на яловых лапках, думаў і адным часам лавіў вушамі кожны канёў рух. Пасля ўсё ж стома адолела і яго. Першы сон, які цягнуўся не больш за дзве гадзіны, быў асабліва моцны, і, можа, таму ў астатні час Чубар праз кожныя некалькі хвілін прахопліваўся, вяртаючыся да яснай свядомасці, заклапочана насцярожваўся: ці на месцы конь? Дзіва, але каню, мусіць, таксама па нейкай прычыне не выпадала пакідаць новага гаспадара. За ўвесь час, пакуль Чубар знаходзіўся ў будане, ён не зрабіў нават спробы зрушыць куды-небудзь — па-ранейшаму стаяў і, прыслухоўваючыся да чалавечага дыхання, сам забываўся ў кароткім сне. Так яны і дабылі да шостай гадзіны, калі пачало днець.

Раніца, нягледзячы нават ледзь не на восеньскую пару, бралася хутка, і калі заварушыўся лагер — чырвонаармейцы

першыя паўставалі са сваіх буданоў, — у лесе праглядваліся ўжо голыя месцы. Угары, недзе паміж шатаў, пішчала нейкая птушка, нібы хто жывую смажыў яе на вогнішчы. Чубар скінуў з сябе коўдру, павёў па будане вачамі. Капітана ў будане не было. Толькі палкавы камісар, седзячы, паціраў — можа, яму дужа свярбела — вышэй калена параненую нагу.

Чубар паварушыў здранцвелымі плячамі, моўчкі выпаўз на волю. Капітана ён убачыў крокі за чатыры ад будана. Той стаяў і нешта гаварыў учарашняму Чубараву канвойнаму. Чырвонаармеец і сёння быў хмуры, слухаў капітана, як і тады Чубара, з апушчанай галавой, раз-пораз папраўляючы на носе акуляры.

Пакуль палкавы камісар сядзеў у будане, Чубар быў адзін. Пры выглядзе падрыхтаванняў, якія рабіліся ў лагеры перад паходам, яму стала ажно не па сабе. Было нават сорамна неяк за сваю непрычыннасць да ўсяго. Тады ён падышоў да схаладнелага за ноч каня і з усёй чалавечай удзячнасцю, на якую хапіла яго, правёў рукой па персці, маючы жаданне ўтуліцца тварам у прасохлую за ноч грыву. Конь адчуў чалавечую прыязнасць, павярнуў галаву. У левым воку яго Чубар неспадзявана ўбачыў сваю ссутуленую постаць, быццам у гэты час на ім ляжаў цяжарам ледзь не ўвесь свет і ён не меў ужо сілы трымаць яго на сабе.

Чырвонаармейцы вынялі — менавіта вынялі — з будана палкавога камісара і асцярожна, каб не зачапіць параненай нагі, пасадзілі на пень.

Капітан адразу ж подбегам падскочыў да яго, па ўсёй форме далажыў:

— Таварыш палкавы камісар, група заканчвае падрыхтоўку да выхаду. Перадавы дазор высланы ў кірунку да вёскі Петраполле.

— Байцы задачу на сёння атрымалі?

— Так.

— Добра, капітан.

Палкавы камісар пашукаў вачамі Чубара, паклікаў да сябе.

— Мы ўранні не раскашуем з харчамі, спадзяёмся звычайна на вячэру, — незразумела ўсміхнуўся ён. — Так што выбачайце, таварыш Чубар, што не да канца гасцінныя.

Чубар чакаў, што пачне гаварыць палкавы камісар пасля гэтакага перапрашэння.

Палкавы камісар узяў у капітана карту, разгарнуў яе на выстаўленых руках, спытаў у Чубара:

— Адкуль вы? Дзе ваша вёска?

Чубар адшукаў на карце Крутагор’е, пасля звілістую Бесядзь, а тады на невялікай адлегласці — Верамейкі.

— Тут, — паказаў ён.

— Зірні, капітан, — нібыта ўзрадаваўся палкавы камісар, — там жа ў іх адны лясы! Нават вёска пасярод лесу! Не, таварыш Чубар, грэх вам шукаць дзесьці на чужой старане тое, што можна знайсці дома.

Чубара, вядома, не пераконвалі камісаравы словы, бо яму не вельмі хацелася вяртацца ў Верамейкі, і ён стаяў перад палкавым камісарам з маўкліваю крыўдаю, адчуваючы, як храсне ад гэтага ўсё ўсярэдзіне. Але ні запярэчыць, ні папрасіцца ў адну дарогу з чырвонаармейцамі ён не адважваўся, бо лічыў, што свае асноўныя довады выказаў ужо ўчора.

— Багата чым памагчы цяпер не магу, — сказаў палкавы камісар, — але патронаў і вінтоўку дам. А там — здабывайце зброю самі. І, далібог жа, не бадзяйцеся па незнаёмых закутках. Падавайцеся ў свае лясы. На месцы адчуеце сябе другім чалавекам. Самі абставіны падкажуць, што рабіць. Вас там ведаюць, і вы таксама ўсіх ведаеце. Палохацца не трэба. Усё будзе як найлепш. Пасля некалі нават дзякуй скажаце, што паслухаліся мяне. Для яснасці скажу, што вы не першы, каго мне давялося гэтак пераконваць. І яшчэ… таксама для яснасці… Да нашай групы спрабавалі прыстаць многія. Але мы адмаўлялі. Праўда, не ўсім. З намі, напрыклад, ідуць два лётчыкі і адзін танкіст, бо гэтым у тыле няма чаго рабіць. Іхняя зброя — самалёт, танк. Асабліва калі ўлічыць, што лягчэй зрабіць самалёт ці той жа танк, чым навучыць чалавека ваяваць на ім, таму мы гэтым траім і не адмовілі. А іншым адмаўлялі. І я лічу — правільна рабілі. І не толькі таму, што я няздольны па-сапраўднаму камандаваць па прычыне ранення. Не. Цяпер людзі ўжо, мусіць, недзе б'юць фашыстаў, узнімаючы народ на барацьбу з ворагам. Вы таксама павінны гэта рабіць. — Ён зноў паказаў на карту. — Вось глядзіце. Мы знаходзімся цяпер тут. Бачыце? Адразу за гэтым лесам вёска Шыраеўка. А там вашы Верамейкі. Напрамак трымаць адсюль трэба ўвесь час амаль на поўнач. Бярыце карту і, пакуль мы тут, вывучайце па ёй свой будучы маршрут.

Чубар колькі часу сядзеў над картай: спярша проста так, у зацятай, пакрыўджанай маўклівасці. Пасля пачаў знаходзіць на ёй знаёмыя назвы, набраныя дробным шрыфтам. І тады адбылося нечаканае — тапаграфічныя абазначэнні раптам нібы ажылі перад вачамі, і ён стаў з цікавасцю адшукваць патрэбныя дарогі, рачулкі, вёсачкі, усё больш захапляючыся гэтым. Карта нібыта перанесла яго ў Забесяддзе, і ён амаль нанава пазнаваў там усё.

Палкавы камісар тым часам загадаў капітану, каб далі Чубару зброю. Тады капітан сам насыпаў у торбу ад процівагаза вінто-

вачных патронаў, узяў у некага яшчэ зусім новую трохлінейку і кляцнуў для пэўнасці затворам.

— Гэта вам, — сказаў палкавы камісар Чубару, калі той перастаў чытаць карту. — Будзем лічыць, што мы з вамі дамовіліся. — І ўсміхнуўся: — Прозвішча ваша я запомню, гэта, аказваецца, няцяжка. У паведамленнях Саўінфармбюро пачуць спадзяюся.

Чубар павесіў на плячо торбу з патронамі, узяў у рукі вінтоўку — гэты раз яна нібыта пякла рукі. Палкавы камісар спытаў:

— Страляць умееце?

— Умею, — адказаў Чубар, хаваючы аслупянелыя вочы: яму чамусьці ажно няёмка, нават сорамна было размаўляць з палкавым камісарам.

— Тады будзем развітвацца.

Двое чырвонаармейцаў выцягнулі з камандзірскага будана самаробныя насілкі, і палкавы камісар з дапамогай капітана ўспоўз на іх.

— Гэта мой конь, — нявесела сказаў Чубару камісар, быццам апраўдваючыся за сваю фізічную бездапаможнасць.

Тады Чубар прапанаваў:

— Бярыце майго, — і паказаў на каня.

— І не шкада?

— Вам ён больш патрэбны.

— Не, я ўжо да канца паеду на сваім, — нават не задумваючыся, адказаў палкавы камісар.

## VI

Сонца выбілася з-пад хмар толькі на чацвёрты дзень — на ўсходзе, амаль над самай зямлёй, раптам утварыўся разрыў у хмарах, і чырвоны круг нязвыкла паплыў па ачышчанай сінечы неба.

У Верамейках сонца гэтае бачылі адны лічаныя хвіліны, акурат з-пад крыса, але надзея на перамену надвор'я была ўжо — як і заўсёды, з надыходам новай квадры.

Кажуць, прыйдзе Ілья — наробіць гнілля. Але не кожны год здаралася, каб амаль скрозь усе Спасы на дварэ стаяла багно.

Зазыбава Марфа закутала юшку — вуголле было загрэбена і пабралася ўжо белым попелам у пяколках, — але пастаяла ў хаце, слухаючы, ці запахне чадам. Сёння яна добра-такі напаліла печ, бо Дзяніс паскардзіўся ўначы, што стынуць ногі, і яна падумала тады, што ў гэтыя дажджлівыя дні трэба не пашкадаваць дроў — і самім будзе лацвей, і хата дарэмна не стане сырэць.

А яшчэ Марфа чула, як паціху, нібыта скардзячыся, кашляла на той палавіне хаты Марыля. Марфа неяк непрыкметна, але хутка прыкіпела душой да гэтай негаваркой дзяўчыны, якую нечага патрэбна было выдаваць за пляменніцу з Латокі. Гэтая патаемнасць прымушала ажно шкадаваць дзяўчыну і ні на хвіліну не забываць пра яе — нібыта варушылася хворае сумленне ці нейкая несвядомая боязь была за Марыльчыну будучыню. Аднак за час, пакуль жыла дзяўчына ў іх, Зазыбава Марфа адно разы са два зачапілася гаварыць з ёй. І кожны раз Марыля пачынала прыгадваць пра сваю маці, якая недзе таксама жыла на зямлі… Чаду не было чуваць.

Супакоеная, Марфа выйшла ў сенцы, узяла ў цёмным куце сплецены з маладога сасновага карэння кош і вытрасла з яго на падлогу бураковае лісце. Пакуль не ліло з неба, можна было наведацца на грады, і Марфа, як толькі пачысціла кош, падалася да тыну, дзе паміж хатай і хлявом была ў іх фортка на гарод.

Зазыба ляпаў сякерай пад павеццю — ад самае зімы там стаяла драўляная калгасная мялка-казёл, якую прывозілі да Зазыбавай лазні, калі сушылі лён, і ён цяпер рабіў новы асінавы шпунт, што трымае ў жолабе мяла, а сам з галавы не выпускаў учарашнюю размову з Парфёнам Вяршковым. Усё яшчэ загадкавым здаваўся яму бабінавіцкі камендант Гуфельд. Ужо праз адно гэта быў сэнс як хутчэй наведацца ў мястэчка, каб глянуць на ўсё, што адбывалася там, сваімі вачамі, тым больш што Бабінавічы і Верамейкі зноў, як і даўней, сталі адной воласцю. Да таго ж Зазыбу ўвесь час непакоіла, каб адвезці ў Бабінавічы Марылю — як вырашыў, да краўца Шарэйкі.

Марфа ляснула нячутна клямкай на фортцы і спынілася адразу за дошкай-завальнёй — там была здзірванелая пляцоўка, якая ніколі не заворвалася. Гарод — тут была большая частка іхняй сядзібы — увесь панікаў пад цяжарам дажджу: кацелкі, што раслі на бульбоўніку, сагнулі свае шыі і ўтаропіліся неабшалушанымі тварамі ў зямлю, быццам чакалі, што сонца вынырацы гэты раз будзе не за вёскай, а тут, паміж градаў; мясцовага, можа, нават верамейкаўскага гатунку кукуруза, якую вырошчвалі па ўсім Забесяддзі яшчэ з незапомных часоў, нясмела вытыркала з-пад шырокага і настылага, таму ажно крохкага лісця чорна-рыжыя кудлы сваіх кароткіх, але таўсманых кіяхоў; ля самай лескі, што адцзяляла Зазыбаў гарод ад сядзібы Аўхіма Касперука, плакаў ад дажджу, як свінцовымі слязамі, разбабелы свойскі мак. Паўсюды была вада — і ў бульбовых разорынах, і на сцежцы, і ў межах, а больш за ўсё было вады на расліннасці, здавалася, зрабі толькі

адзін крок па гародзе і адразу намокнеш па вушы. Але Марфа не пабаялася макрэчы. Падаткнула падол спадніцы і пахлюпала ў гумавых ботах па коўзкай сцежцы. Вада пырскала адусюль і ледзь не цурком лілася ў халявы.

Паўз леску ў Марфы была расаднiца, накрытая парваным брэднем, і Марфа павярнула туды, каб паглядзець высадкі. На Касперуковым гародзе таксама ўжо нехта корпаўся на градах. Спярша Марфа падумала, што гэта сама Касперукова жонка, Варка, але Касперучыха была жанчына маленькая, высахлая, а гэта ўзвышалася на градах капой; на жанчыне быў накінуты ад дажджу палаплены мяшок башлыком на галаву, які хаваў твар, да таго ж жанчына гэтая не разгіналася — нейкі час латашыла цыбулю, пасля (і таксама не выпростваючыся) пачала ламаць кроп. Але вось жанчына нарэшце ўзняла галаву, і Марфа пазнала Драніцаву Аксюту.

У Драніцы, можна лічыць, не было свайго гарода — здаецца, і зямля аднолькавая, такая, як у суседзяў, і соткі кожны год заняты пад гуркі, буракі, а на градах нічога не расло, нібы там стойла конскае было, і Аксюта звычайна хадзіла пазычацца: то сама напрошвалася на гарод да каго, то людзі запрашалі яе, бо ў гаспадарцы не заўсёды спажывалі ўсё, што было на градах. Мусіць, гэтак вось Аксюта апынулася і на Касперуковым гародзе, балазе недалёка ёй — Мікіта Драніца жыў каля выгану. У Верамейках жартавалі з Драніцаў, мужа і жонкі, казалі, што нячысты, пэўна, не адну пару лапцей стаптаў, пакуль звёў іх: Мікіта быў нізкі і вяртлявы, быццам чортам падшыты, мог цэлы дзень, без перапынку, бегаць па вёсцы, адно што пад вечар пачынаў трохі касабочыць і апускаць левае плячо; Аксюта, наадварот, была мажная, з заплылым тварам, на якім вызначаліся савіныя вочы. Браў яе Мікіта з Гаўрылінскай Буды, яшчэ амаль ад жывога мужа — не прайшло шэсць тыдняў пасля смерці таго, як пасватаўся Мікіта. Аксюта са сваім удовіным скарбам пераехала ў Верамейкі і неяк хутка, можа, ёй не прывыкаць было, узяла Мікіту ў рукі, і хоць гаспадара з яго не зрабіла, каб раскашаваць за ім, затое магла беспакарана камандаваць ім.

Аксюта нібы пільнавала Зазыбаву Марфу з чужога гарода, а як убачыла, то заспяшалася, топчучы грады, да лескі.

— Як тэй таго, — узрадавана пачала яна, — нешта вас етыя дні няма нідзе.

Марфа ўсміхнулася, як сама сабе, сказала:

— Дажджы ж…

— А мы з Мікітам, як тэй таго, падумалі… можа, баіцёся чаго? Яно ж, новая ўласць…

— Ат, неяк пражывём і пры новай уласці, — з выразнай абыякавасцю ў голасе сказала Марфа.

— А мой, як тэй таго, кажа, што вас з Дзянісам не зачэпяць. — Аксюта глядзела на былую старшыніху нечага лісліва. — Можа, калі германец забярэ ўсё пад сябе, дак Масей ваш яшчэ начальнікам стане, як тэй таго… Во, цяпера ж і Брава-Жыватоўскі… Учора ў нас, як тэй таго, былі. Цяпера ўсё, як даўней, пры царах было, і паліцыі, і воласць. Дак, можа, і ваш пает, калі жывы дзе, таксама… Германец жа, няйначай, распусціць астрогі.

— Няхай дае Бог, — уздыхнула Марфа.

— А Вяршкова Куліна казала, што ў вас цяпера, як тэй таго, пляменніца жыве, — не пераставала сыпаць Аксюта.

— Жыве.

— Чыя ж ета?

— Наша.

— Я не пра ета, як тэй таго. Раз у вас, значыць, ваша. Я пытаюся, чыя яна — па Дзянісу, як тэй таго, ці твая. Але ж у Дзяніса, здаецца, не было ў Латоўцы нікога?

— Майго дваюраднага дзеўка. Ідзе з Магілёва. Вучылася. Дак ад Бялынкавіч, са станцыі, да нас бліжэй, чымся да Латокі. От і засталася, пакуль на дарогах неспакойна. Няхай пераждж э.

— Дак ці ж месца хто, як тэй таго, пашкадуе, — кіўнула галавой Аксюта і выдала самую апошнюю вясковую навіну: — А Сахвея Меляшонкава радзіла!

— Глядзі ты, а я і не чула! Ці ж пара ета ёй была?

Марфа нацягвала за край брэдзень на расадніцу, прывязвала мацней да калкоў і гаварыла пад сябе, а Драніцава Аксюта тым часам, як вялікая птушка, трымалася чорнымі ад зямлі рукамі за ляшчыны — рассунула іх трохі, каб прыпасці тварам, і лыпіла вочы на Зазыбаў гарод.

На дварэ і папраўдзе распагоджвалася — ужо не надта цяжкія былі хмары на небе, і хоць плылі яшчэ спрэс, але нябачнае сонца прабівала іх тоўшчу.

У наваколлі быццам пасвятлела.

Аднекуль прыляцела на Зазыбаў гарод мухалоўка-белашыйка і села на макавінку. Тая ажно закалыхалася пад чорна-белым жывым камяком. Птушка апусціла паласатыя крылы, а хвост, кароткі і таксама паласаты, задрала ўгору. Хоць яна і не вельмі самавітая была па сабе, але нораў пражорлівы мела. Уласна, на гарод мухалоўка прыляцела яшчэ толькі з надзеяй — адчула

раптам, што выясняецца і сушэе, тады і заспяшалася сюды, каб лавіць пчол, якія лётаюць звычайна па гурковых і гарбузовых косах. Але пчол на гародзе пакуль не відаць было, яны хаваліся ад слоты па вуллях… Таму мухалоўка пасядзела на макавінцы і пачала, ад няма чаго, спяваць — спярша як нясмела: «Пік-пік», пасля з большым працягам: «Пі-і-ік, пі-і-ік, пі-і-ік…»

Марфа, пачуўшы птушыны галасок, ажно выпрасталася і пашукала вачамі па гародзе птушку.

— А якраз на спасаўку, як тэй таго, і павінна была радзіць, — сказала Аксюта пра Меляшонкаву Сахвею. — Але без Меляшонка цяпера паспрабуй выгадуй адна. Ета ж як рабіць, дак Меляшонак тута, а як расціць, дак яго няма!

— Што ты гаворыш, Аксюта! — як ад болю, паморшчылася Марфа. — Чалавек жа не сабакам сена косіць, а ваюе!

— Дак… Але ж вон Сёмачкін Раман дак не сплахаваў. Затое дома цяпера. А Меляшонак, можа, галаву паклаў.

— Яно так, — сказала Марфа няпэўна — ці то пагадзілася з Аксютай, ці то падумала пра нешта сваё.

Расадніца нарэшце была папраўлена, і Марфа адышлася, пачала ламаць на градзе бураковае лісце.

Аксюта таксама адступіла ад лескі.

На ядраны бурачнік Марфа кінула два гуркі-насеннікі, што ляжалі дагэтуль, быццам пасмаленыя парсюкі, на градзе, і той жа сцежкай вярнулася на двор.

Зазыба ўжо не майстраваў. Пад павеццю ў іх быў адгароджаны абапалкамі высокі закутак, дзе звычайна Масей — як наязджаў дамоў і ляпіў скульптуры — складваў сякі-такі інструмент, таксама матэрыялы, а больш за ўсё розныя гліняныя альбо гіпсавыя недаробкі, і Зазыба нечага цяпер корпаўся там.

Некалі ўсе Зазыбы, якія жылі ў Верамейках, дужа здзівіліся, што адзін з іхняга роду выбраў сабе гэтакі занятак. А пачалося як бы з забавы. У дваццатым годзе ў хату да Яўмена Зазыбы на пастой трапіў чэх з інтэратрада, што накіроўваўся на польскі фронт, і малы Масей пабачыў тады, як той ляпіў з гліны і воску чалавечыя галовы. Вылепіў чэх і галаву старэйшага Зазыбы. Але Масееў дзед незалюбіў — маўляў, гэта, няйначай, нячыстая сіла! Давялося чэху перарабляць чалавекаву галаву на… дыню.

Чэх той пажыў у Верамейках, здаецца, з тыдзень, пакуль стаяў увесь атрад, але Масею хапіла гэтага — неўзабаве ён пачаў браць з бажніцы ды камечыць бабіны свечкі, а як надышло лета — насіць на двор гліну. Улетку звычайна ўсё на Зазыбавым

дворы — і загавальня пад вокнамі, і ганак — было застаўлена Масеевымі вырабамі.

Дзед Яўмен хадзіў давольны:

— От і майстар, глядзі! Можа, ганчаром стане! — Тады лічылася, што нават дрэнны ганчар не горай за добрага гаспадара.

Старэйшага Зазыбу надта цешыла, што ўнук неспадзявана праз «чэхаву забаву» памеў ахвоту да гэтакай самавітай справы.

— Адно цяпера, — гаварыў ён Дзянісу, — трэба пачакаць, пакуль хлапец трохі падрасце, а тады купім ганчарны круг, бо гліна вон за хатаю, толькі і растраты пасля што на свінец, каб гарлачы да махоткі былі паліваныя.

Але цешыўся дзед да таго часу, пакуль усё, што ляпіў з гліны Масей, было падобна на гаршкі, а як толькі на загавальні пад вокнамі ўбачыў чалавечую галаву — акурат чэхаву, то расчаравана махнуў рукой: і гэтага абротніка сатана адурыў!

І ўсё ж Масей зрабіў скульптурны партрэт дзеда Яўмена. Па памяці. Цяпер партрэт той ужо каторы год стаяў у хаце, накрыты, як ад мух, Марфінай хусткай.

Марфа зайшла пад павець, сказала:

— Вон Аксюта Драніцава кажа, што немцы распускаць будуць астрогі, дык тады і Масей…

Зазыба павярнуўся да жонкі:

— Адкуль гэта яна ведае?

— Дак жа людзі нешта ведаюць! — раптам з незразумелаю злосцю сказала Марфа.

Тады Зазыба ўзбурыўся:

— І ты таксама… такая, як і Драніцава Аксюта! Вярзеш абы-што!

Марфа не вытрымала мужавага крыку, заплакала.

Зазыба колькі часу зацята глядзеў на яе, тады адпусціўся: штосьці ёкнула пры выглядзе жончыных слёз у ягонай сярэдзіне, ён збянтэжана азірнуўся вакол сябе і, замахнуўшыся ад пляча, моцна ўбіў сякеру вастрыём у сцяну.

У вёсцы на бабіны ходзяць з ахвотаю — жанчыны пякуць уранні прысмакі, загортваюць у палатняную ці каленкоравую намётку, каб потым ісці з гэтым да парадзіхі.

У Марфы печ была ўжо выпалена сёння, і нічога асаблівага, што можна палічыць за вясковыя прысмакі, яна не гатавала. Таму прынесла з чуланчыка сырыя яйкі, паклала, палічыўшы ротам, у бяроставы кошык, падобны на польскую канфедэратку. Але гэтага было мала. Тады яна адчыніла ў сенцах кубел — запахла

старым салам: на дне, пласт на пласт, ляжалі пажоўклыя кавалкі яшчэ ад мінулых Каляд. Парсюка яны калолі сабе ладнага, хоць елі ўсяго ўдваіх, але на жніво засталося не вельмі багата — у чуланчыку вісеў у анучы кумпяк ды гэтыя вось кавалкі ў кубле: Зазыбавы, як бывае звычайна ў вёсцы, пазычалі Касперучысе, тым жа Прыбытковым, але на хуткую аддачу цяпер не разлічвалі. Марфа, ледзь не шкадуючы, дастала з кубла кавалак, фунты на чатыры, атрэсла соль. Падумала была шаснуць нажом у хаце, але не стала — панясе цэлы. Бяроставы кошык адразу пацяжэў, і Марфа накрыла яго вышыванай накрыўкай.

— Вы тута паясцё ўжо без мяне, — сказала яна Зазыбу, які лёг, прыйшоўшы са двара, на тапчан: хоць і кароткая, але дужа нечаканая сварка пад павеццю з жонкаю вывела яго з раўнавагі, здавалася, больш, чым нават нядаўняя сутычка на стайні з Раманам Сёмачкіным. Тым часам душой Зазыба разумеў, што злаваць, а болей, павышаць гэтак голас на Марфу сёння не толькі не варта было, але і дарэмна: яна гэтыя дні нечага як нанава перажывала за сына, таму лёгка да сэрца прымала ўсё, нават неразумнае і злое, што ёй гаварылі, абы неяк дачуцца хоць што пра Масея ці памець, няхай з чужых слоў, хоць якую надзею на яго вяртанне. І яму цяпер было сорамна і прыкра, бо, накрычаўшы на Марфу, ён тым самым, лічы, накрычаў і на сябе — вось ужо багата гадоў, як жонка стала нібыта ценем яго маўклівым, здавалася, жанчына гэтая ніколі і ў галаве сваёй не мела, што можна жыць і паводзіць сябе іначай, што можна мець нейкую адметнасць ад мужа. Да таго ж Зазыба лічыў, што Марфе і наогул не надта пашанцавала ў іхнім доме: дужа рана ёй, яшчэ ледзьве не ля самага алтара, давялося брацца за ўсю цяжкую жаночую справу ў свёкравай гаспадарцы, бо свякруха, Дзянісава маці, тады жыла ўжо ці не апошні год на гэтым свеце, а Дзянісава сястра, Вусціня, збіралася ехаць сваёй сям'ёй у Сібір — у Зазыбаў, каб аддзяліцца ім, не хапала вольнай зямлі, тым часам недзе ў далёкай Сібіры людзі ажно раскашавалі з ёю, і Вусцінчын муж, як і багата хто іншы ў Забесяддзі, наслухаўшыся рознага пра сібірскае «эльдарада», не ўстрымаўся ад спакусы, таксама захацеў падацца туды ды нарэшце зажыць самастойна. Праўда, верамейкаўцам прыйшлося рабіць ажно колькі спроб, каб выехаць у Сібір, — усё перастравалі вазы іхнія на бялынкавіцкім шляху, які вёў адсюль ужо на Рослаў, стражнікі, якім неўзабаве, калі ад'езд на новыя землі сярод тутэйшых людзей стаў масавы ці, як пісалі ў сваіх паперах тагачасныя чыноўнікі, «няпланавы і павальны», быў дадзены загад лавіць перасяленцаў і заварочваць назад у вёскі; здаецца,

толькі на трэці раз верамейкаўскім мужыкам удалося шчасліва абмінуць стражнікаў, якія рып колаў, нібыта жураўліны крык, чулі здалёку, але гэты раз верамейкаўцы ўжо ехалі хоць і кружна, аднак па другой дарозе — спярша праз лес на Дзяржынне, а тады на Машавую, дзе стаяў маёнтак Шкарняка, і далей адтуль на Клінцы. Пасля ад’езду залоўкі Марфа стала адна гаспадыняй у Зазыбавым доме, але, як кажуць, ад таго дня, бадай, і свету белага ўжо не бачыла з-за турботаў і працы.

— Ладна, — азваўся з неахвотаю Зазыба. На галасы выйшла Марыля.

— Куды гэта вы, Марфа Давыдаўна?

— А да парадзіхі, — адказала Марфа дзяўчыне з добрай усмешкай, быццам дужа ганарылася. — Радзіла ў нас адна. Дак пайду от. Але не ведаю, мальца ці дзеўку.

Меляшонкава хата стаяла каля самага лесу, у так званых верамейкаўскіх Падліпках. Па той бок, здаецца, сяліліся пазней за ўсё, калі пачало ўжо не хапаць у вёсцы ні зямлі для новых гаспадарак, ні месца для наступных падворышчаў: верамейкаўскія мужыкі, як прадзеды іхнія, карчавалі там на валах дзялянкі, палілі груды, матычылі і аралі — багата на гэта часу патрэбна было, поту таксама, але пушча паступова аддавала працавітым і настырным людзям свае абсягі. Меляшонкавы падаваліся ў Падліпкі апошнія, таму хата іхняя там была крайняя — казалі ў Верамейках, што ў вокны да Меляшонкавых па ПІЛІПАЎКАХ зазіраюць нават ваўкі.

Цяпер у Падліпках жыло некалькі сем’яў, адной невялікаю вуліцай, і вакол кожнага двара там былі сады — яшчэ моцныя дужасцю свайго незачаўранага дрэва, буйныя, ап’яняючыя квеценем увесну і гулкія начным яблыкападам увосень.

У Падліпкі ад Зазыбавай хаты можна было ісці па галоўнай вуліцы, адно павярнуць пасля направа. Аднак то была даўжэйшая дарога. І Марфа, як зачыніла за сабой фортку ў завулак, пашыбавала напрасткі — за ніжнімі гародамі вяла ў Падліпкі сцежка, адно трэба было ўтрымацца нагамі на той вузенькай гатцы, што злучала сухія грывы, якія называлі ў Верамейках курганамі. Пасля доўгага і амаль неперашчуканага дажджу гатка, мусіць, і сама распоўзлая стала, таму Марфа падабрала каля сцежкі скарыстаную ўжо некім алешыну і з ёй нясмела ступіла на парудзелае, зляжалае пад балотнай гразёй яловае голле. Усё абышлося без прыгод. Гатка не падвяла Марфу, і жанчына са сваім бяроставым кошыкам неўзабаве апынулася на травяністым узлобку, адкуль відаць былі хаты ў Падліпках і возера за імі. Над вёскай яшчэ

вісела як дажджавая сетка, але на страсе Меляшонкавай хаты ўжо блішчала штосьці ад сённяшняга святла. Марфа пабачыла з гары вёску і нечакана ўзрадавалася: яна ж апошні час нідзе далёка не была, адно бедавала ды месціла ў сабе той халодны страх, прадчуваннем якога цяпер жылі па ўсім Забесяддзі. Там, каля сваёй хаты, яна ўвесь гэты час адчувала на сабе нязвыклы цяжар невядомасці, які прыводзіў чалавека ва ўтрапенне, а тут, на гэтым травяністым узлобку, што быў усяго за кіламетр ад дому, нічога падобнага яна не перажывала больш: дастаткова было пабачыць ёй, што ўсё ў вёсцы заставалася на ранейшых месцах і што нічога паганага пакуль ні з кім не здарылася, больш таго, Сахвея Меляшонкава нават нарадзіла дзіця.

Марфа заклапочана паглядзела на свае парусінавыя чаравікі — яны былі запэцканы балотнай рудой. Тады Марфа паставіла збоч сцежкі бяроставы кошык і, падабраўшы спадніцу, пачала выціраць мокрай травой скураныя мысы і запяткі.

У парадзіхі, калі Марфа прыйшла туды, сядзелі ўжо Куліна Вяршкова, Гапка Сімукова, што жылі непадалёку, у гэтых жа Падліпках, таксама Ганalign Падзерына, а з маладзейшых — салдаткі Дуня Пракопкіна, Роза Самусёва і Гэля Шаракоўская. Гэтыя тры былі Сахвейчынымі сяброўкамі яшчэ тады, калі ні адна з іх не выходзіла замуж.

На стале, амаль пад бажніцаю, адкуль на хату мрыйна і абыякава глядзеў раззалочаны Мікола Угоднік, стаяла, як забеленая чым, пузатая бутля з брагай. Жанчыны, мусіць, пакаштавалі ўжо трохі і цяпер сядзелі — і старэйшыя, і маладзейшыя — на шырокім услоне, вялі гамонку. За бабку ў Сахвеі была Ціткова жонка, старая Рыпіна. У Верамейках яна шмат у каго бабіла, а ў Сахвеі — другі раз. Цяпер яна гаспадарыла — паваротліва, як маладая і як у сваёй хаце, знаходзіла патрэбныя рэчы, сустракала жанчын, якія прыходзілі ў адведкі, частавала брагай і не забывалася пра гаспадыню-парадзіху, што ляжала, стомленая і здаволеная, на тапчане: балазе было за кім сёння паляжаць.

Побач з парадзіхай стаялі вялікія начоўкі, дзе спала, загорнутае ў чыстыя пялёнкі, дзіцё.

Марфа паставіла на стол свой кошык, гледзячы на бажніцу, ціхмана паклала на грудзі крыж і ўжо затым пайшла да тапчана. Асцярожна, каб не пашкодзіць, адгарнула лёгкую накрыўку, глянула на чырвоны тварык.

— Дзякуй, Давыдаўна, што прыйшла, — сказала Сахвея.

— Каго ж ты еты раз — дачку ці сына? — спытала Марфа.

— Дачку.

— А што сыны! — азвалася з услона Гапка Сімукова. — Не паспее падрасці, як яго забіраюць ужо ад цябе.

— Праўду кажаш, — падтрымала яе Ган
уся Падзерына. — Вон у Круцяліхі ажно пяцёра было, а дзе яны цяпера? Ні слыху ні дыху. А матка сядзі, чакай.

— Да ўжо ж… — паківала галавой Куліна Вяршкова, хоць сама хлопцаў не мела.

— А большы твой дзе? — спытала Сахвею Марфа.

— Недзе гуляе, — адказала парадзіха. — Можа, у суседзяў.

— Як жа ты пачуваеш?

— А-а-а, справа прывычная! Малое ў начоўкі, а сама была за рагач ужо да к печы. Але бабы во не падпускаюць.

— Нічога, паляжы, — сказала ў сваю чаргу і Марфа, — ёсць каму памагчы.

— Дак і я падумала, — усміхнулася Сахвея. — Але ж як… Як мне цяпера з імі адной? — І раптам яна зрабіла жаласны твар і пачала выціраць кулаком сухія вочы.

— Табе нельга хвалявацца, — паўшчувала яе бабка — Ціткова Рыпіна, — а то малако перагарыць. Чым тады малое будзеш карміць? А мужык, дасць Бог, вернецца. Усе вернуцца, каму Богам намечана, дак і твой прыйдзе.

— Хадзі-тка, Зазыбава, — паклікала Ганруся Падзерына, — ды выпі з намі. Сахвея от брагі наварыла, дак…

Рыпіна Ціткова заглянула пад накрыўку ў кошык, прынесены Марфай, пераставіла яго са стала на акно, дзе былі ўжо кошыкі і гладышы, і таксама пачала запрашаць.

— Давай, Давыдаўна, і папраўдзе хлябні. Яна наліла ў карэц брагі.

Марфа падняла важкі карэц, сказала:

— Ну, за тваё здароўе, Сахвейка! — выпіла брагу і села з бабамі на ўслон.

— Мы ета, Давыдаўна, пра вайну тута без цябе гаварылі, — сказала Куліна Вяршкова.

— А я на іх лаюся, — перапыніла Куліну гучным голасам Ціткова Рыпіна. — Песні спявайце, навошта пра вайну!

Тады раптам Дуня Пракопкіна сапраўды запела:

Я бы ету бабку,
Я бы ету любку
Да ў бабкі не брала;
Я бы етай бабцы,
Я бы етай любцы
Да й намёткі не дала…

Маладыя жанчыны заўсміхаліся і падхапілі песню:

Запражыце, запражыце
Дзевятнаццаць валоў,
Адвязіце, адвязіце
Ету бабку дамоў.

— Паглядзім яшчэ, якімі вы бабкамі будзеце, калі дажывеце, — сказала на гэта без усякае крыўды Рыпіна Ціткова.

Але Куліна Вяршкова пачакала, пакуль усе накрычацца, тады зноў сказала, звяртаючыся больш да Марфы Зазыбавай:

— Учора да Васілёвічавай Вулькі прыходзіла белаглінаўская баба, нейкая радня тамашняя, дак таксама гаварыла пра вайну. У іх жа тым летам абнавілася ікона, а сёлета бытта сам Хрыстос яўляўся адной там. Акурат як пачацца вайне. Во, кажуць, Бога няма, а як на паверку, так і праўда выйшла.

— Бо-о-ога няма?! — нібыта ўзбурылася Гапка Сімукова. — Ета як для каго, а я вон ікон дак не дала чапаць камсамольцам сваім. Сын быў усхадзіўся, а я — не руш! Дак яшчэ матчыны таму вісяць — і Ягоры Пабядзіцель, і Прачыстая Дзева.

— Дак я і кажу, — не спынялася на тым Куліна Вяршкова. — Ён жа, Гасподзь, таксама абы-каму не стане паказвацца. Значыць, заслужыла кабета перад Госпадам, раз у вобразе чалавечым явіўся.

— Раскажы, раскажы, — падахвоціла яе Марфа Зазыбава.

— Дак от, — Куліна, мусіць, не першы раз апавядала ўжо, — ідзе ета яна па дарозе, а тады бача — стаіць чалавек. Ну, стаіць сабе і стаіць. Ці мала людзей бывае. Таму жанчына нават міма прайшла, але азірнулася. Глядзіць, а над галавой у яго бытта свеціцца што. Тады баба — бах на калені, маліцца пачала. А ён і гаворыць: «Зямля сухая. Саўсім перасохла. Трэба паліць чырвоным дожджычкам». Во, як у кніжках старых сказана — пральецца на зямлю чырвоны дождж!

— Дак ён і праўда праліўся! — сказала Ціткова Рыпіна.

— Награшылі людзі, — дадала Ганўся Падзерына.

Тады нечакана ўзбурылася Дуня Пракопкіна: яна адчула ў гаворцы старэйшых жанчын нешта злое і нядобрае.

— А-а-а, памаўчалі б вы, бабы, з Богам сваім! — крыкнула яна і пакутліва зморшчыла твар.— Жывеце са сваімі мужыкамі, дак і жывіце!

Жанчыны збянтэжана паглядзелі на маладзіцу.

— Не гняві Бога, дзеўка! — як не накінулася на яе Рыпіна Ціткова.

— Грашыць дак усе грашылі, а як адказваць, дак нам адным, Розе во, Гэлі да Сахвеі? Нашы ж мужыкі паліваюць зямлю тым чырвоным дожджычкам, а не вашы! Вы сваіх на печах трымаеце! Вашы ж!.. — І раптам Дуня быццам спатыкнулася на што — загаласіла, ажно вокны затрымцелі ў хаце.

Нечакана плач яе падняў з тапчана нават Сахвею. Парадзіха спалохана дастала рукой начоўкі, пачала калыхаць малое, нібыта занепакоілася, што тое пачуе і таксама будзе плакаць.

Роза Самусёва і Гэля Шаракоўская кшуліся супакойваць Дуню, але салдатка заходзілася ўсё мацней — выла без слёз і па-бабску бязладна, нібыта на прысак перасмаліла ў ёй гора.

— Да кіньце вы яе, бабы, — узлавалася Ганузя Падзерына. — Напілася, дурніца!..

Тады да маладзіцы падступілася Марфа Зазыбава. Яна ўзяла Дуньчыну галаву аберуч і прытуліла лобам да сваіх высахлых грудзей.

— Ну, ну, — нібыта паўшчувала яна і пачала гладзіць салдатку па спіне.

Дуня пацішэла адразу, але галавы не ўзняла.

З гэтай хвіліны нібы што стала ў хаце паміж старэйшымі жанчынамі і маладзейшымі. Колькі часу ўсе сядзелі насупленыя, нездаволеныя.

— Вы б, дзеўкі, схадзілі ў Яшніцу, — з намерам памірыць баб сказала маладзейшым Куліна Вяршкова. — Тама, кажуць, лагер цяпера. Палонных нашых немцы трымаюць. Дак, можа, і ваш чый тама? Немцы, бывае, аддаюць бабам мужыкоў, калі хто пазнае свайго.

— От і Сахвея скора можа пайсці з вамі, — спачуваючы, падказала Рыпіна Ціткова.

— А што, вазьму дзеўку на рукі да й пайду! — кінула з тапчана парадзіха.

Непрыкметна ў хаце зноў пачалася вольная гамонка. Неўзабаве злосці і плачу як не было. Куліна Вяршкова расказвала, як хадзілі ў Яшніцу маладыя бабы з Гончы, насілі туды немцам, што ахоўваюць лагер савецкіх ваеннапалонных, розную правізію, асабліва мёд, яйкі, сала.

— Толькі не трэба пры камандзірах даваць, — наперад папярэджвала яна. — У немцаў таксама парадак. Могуць пакараць за ета нават свайго. Таму выкуп даваць трэба асцярожна, каб камандзіры не бачылі.

— Можа й застрэліць, — пагражаючы, сказала Рыпіна Ціткова.

— Як дадуць каманду, дак і застрэліць, — пацвердзіла Куліна Вяршкова: яна, як і Парфён, з ахвотай разважала на самыя разнастайныя, нават часам не жаночыя тэмы, але тлумачыла ўсё, далікатна кажучы, ужо ж вельмі па-свойму.

Калі ўсё вясковае было збольшага перагаворана, старэйшыя жанчыны пачалі разыходзіцца ад парадзіхі. Першая ўзяла свой гладыш Гануся Падзерына — сунула ў сярэдзіну яго накрыўку, нечага панюхала ў пустое горла і падышла да Сахвеі, каб пацалаваць:

— Крэпкая ў цябе брага, Сахвейка, няхай Госпадзь здароўя дае і табе і тваёй дачцэ. Ажно ногі цяпера во не ідуць… — Гануся і сапраўды трохі была п’яная.

Неўзабаве сабраліся ісцы і Куліна Вяршкова з Гапкай Сімуковай. А Марфу Зазыбаву не пусціла дамоў Рыпіна Ціткова.

— Ты, Марфачка, пабудзь тута, у Сахвеі. З маладымі во. А то мне трэба гаспадарку паглядзець. — І пажартавала не па-старэчаму: — Каб хоць Ціток мой не прывёў там другую.

Але не паспела Марфа нават гаршкі пераставіць у чалесніку — намерылася таксама памагчы гаспадыні, як у хату быццам уваліласяГанна Карпілава, прынесла з сабой прыглушаныя пахі непрасохлай вясковай вуліцы і сваю бесклапотную ўзрушанасць.

— А я з гасцей да ў госці, — пачала яна не дужа гнуткім языком. — Па Ліструцысе ж сянні шэсць тыдняў, дак была там. Ішла дай зайшла. А цяпер во да Сахвеі. Сказалі, што радзіла…

Ганна абвяла вясёлым, але затуманеным позіркам хату, убачыла каля печы Зазыбаву Марфу і нечага махнула рукой, як на непатрэбную тут, пасля кінулася да астатніх гасцей, пачала цалавацца. Маладзіцы нязлосна адпіхвалі яе, здаволена заліваючыся смехам, і ажно ёрзалі па ўслоне.

Тады Ганна нарэшце падышла да Сахвеі, якая пасля Дуньчынага плачу не лажылася больш, пляснула рукамі, усклікнула:

— Каб ты ведала, як я рада, Сахвейка, як я рада!.. Ета ж цяпера і ты са мной зраўнялася. І ў мяне — двое, і ў цябе — двое. Дак харашо!

Яна і да парадзіхі палезла з абдымкамі.

— Да ты п’яная, Ганна, — у здзіўленні адшаснулася ад яе Сахвея.

А я п’ян, а я п’ян —
Пайду завалюся
Да й на тую караваць,
Дзе мая Маруся, —

нібыта ў адказ запела Ганна. Голас у яе — і гэта ўсе ведалі — ад прыроды быў звонкі, як назнарок для спеваў, але цяпер ён гучаў глуха, і Ганна, дурэючы, адно крычала ім на ўсю хату.

— Нарэшце і я з вамі раўня, — не магла сцішыцца яна… — Цяпера і я без мужыка, і вы без мужыкоў. Ах, вайна — вайна — вайна!.. — Ганна некалькі разоў пачынала спяваць гэтыя словы — тады яшчэ не было самой песні. Нарэшце трохі ўгаманілася, сказала:—Давайце скакаць, бабы!

— Дак пад што? — спытала, як падначыла, Гэля Шаракоўская.

— Пад фісгармонію, — пажартавала, падказваючы, Дуня Пракопкіна.

— А пад грэбень не хочаш? — тупнула нагой Ганна. — Ану-тка пашукайце грэбень! Сахвея, дзе твой грэбень? — Але ўбачыла, што сяброўкі не па-належнаму паставіліся да яе выдумкі, раззлавана і без дай прычыны накінулася на Марфу Зазыбаву, падумаўшы, што тая за бабку ў Сахвеі:— Дак ета ты за бабку? — І адразу рушыла да Сахвеі. — Навошта ты Зазыбаву запрашала? Няўжо ва ўсёй вёсцы не знайшлося каму твайго дзіцёнка перабабіць?

— А чым табе цётка Марфа не даспадобы?

— Дак яна ж не ўмее рабіць етага! — Ганна ажно засмяялася. — Хто ж калі браў яе за бабку?

— Не трэба, Ганна, крыўдзіць цётку Марфу, — паўшчувала Сахвея.

— А і то праўда, — Ганна ўзялася за галаву. — Нешта я сянні злая нейкая…

Роза Самусёва падышла да Ганны, абняла за плечы.

— Не злая, а вясёлая, — сказала яна, паціскаючы рукамі.

Дуня Пракопкіна, усмешліва назіраючы за Ганнай і за тым, як сяброўкі спрабавалі суняць яе, павяла па хаце галавой і заспявала:

Ой, зязюлька кукуе,
Салавейка ўсё чуе.
Калі б знала я, калі б ведала,
Дзе мой мілы начуе.

Да яе голасу далучыла сваё сапрана Роза Самусёва:

Калі ў полечку, пры дарожачцы,
Памажы яму, Божа,

Калі ў дзевачкі, на пасцелечцы,
Накажы яго, Божа…

— А як па мне, — перабіла сяброўак Гэля Шаракоўская, — дак няхай лепей заначуе ўжо «ў дзевачкі, на пасцелечцы». Цалей будзе.

— І то праўда, — заплюшчыла вочы Дуня Пракопкіна і паківала галавой, уздыхаючы. — Нешта мы сянні распеліся!..

— Але ці будзем скакаць? — не пераставала дурэць Ганна Карпілава.

— Будзем, будзем, — загаманілі маладыя жанчыны.

— Тады шукайце грэбень!

Ганна і сапраўды нагнулася пад тапчан, дастала адтуль драўляны грэбень, якім чэшуць кудзелю. Пасля выдрала ліст з нейкае школьнае кніжкі, сунула яго паміж зубцоў, прыгладзіла рукой і паднесла грэбень да губ. Першыя гукі ў яе выйшлі хрыплыя і невыразныя, але вось Ганна зноў надзьмула шчокі, пачырванела ад натугі, і тады ў хаце пачулася знаёмая мелодыя:

Шахцёр пашанькі не паша,
Касы ў рукі не бярэ;
Касы ў рукі не бярэ,
Што заробіць, то й прап’е…

— От, бачыце! — сказала пасля гэтага здаволеная Ганна. — А яшчэ каб праз бяросту, дак і зусім не пагана выходзіла б. — Яна перабрала вачамі маладзіц, прапанавала Гэлі Шаракоўскай: — На-тка цяпера ты пайграй!

— Але што?

— «Месяц», — пырснула смехам Роза Самусёва.

Не паспела Гэля паднесці грэбень да губ, а Ганна ўжо выйшла на сярэдзіну хаты, падняла над сабой хустку ў руцэ і ціха, без п’янага крыку, але па-ранейшаму хрыплавата, запела перад самым тым момантам, як зрабіць першы крок у танцы:

Све-е-еціць месяц, све-е-еціць ясны…

Затым Ганна махнула хусткай — спярша направа ад сябе, пасля налева, ледзь не да самага пляча, пайшла па кругу, лёгка і пругка ступаючы па падлозе. Яе не пазнаць было — яна ўся перамянілася, і без таго не абы-якая з выгляду, здаецца, адно пахарашэла: блакітныя вочы раптам ачысціліся ад п’янага тлуму, што засціў іх хвіліну назад, сталі задумлівыя, нібыта засвяціліся

сваім святлом аднекуль з глыбіні, на твары, трохі схуднелым, даўгаватым і ў той жа час скуластым, паявілася сарамлівая і радасная ўсмешка; уся яе постаць, па-бабску ладная, выдавала зайздроснае здароўе, нібыта не Ганна нарадзіла тых дваіх дзяцей, што цяпер недзе былі ў яе хаце, і не сама, без мужчынскае дапамогі, расціла іх; шырокая, як парасон, і доўгая, ажно да самых лодачак-чаравікаў, спадніца яе з бардовага паркалю калыхалася ў такт размераных крокаў.

Гэля Шаракоўская больш не замінала Ганне сваім іграннем. Маладыя жанчыны сцішыліся і на ўсе вочы глядзелі, зачараваныя, на саламяную ўдаву, зайздросцячы яе зграбнасці і спрытнасці. Сапраўды, было надзвычай прыемна глядзець збоку на Ганну і на незвычайны яе танец — без музыкі, з адным напевам. А Ганна тым часам лёгка рабіла адзін за адным кругі, шоргала ледзь чутна падэшвамі. Здавалася, яна забылася на ўсё на свеце, бо ў гэтыя хвіліны духоўнага і фізічнага ўзрушэння здольная была разбіраць толькі свой паслухмяны голас ды яшчэ адчувала, як поўнілася істота салодкай замілаванасцю да ўсяго. Але вось Ганна страсянула галавой, азірнулася і крыкнула цераз плячо:

— Разам, разам давайце!

Тады нібы спахапілася Дуня Пракопкіна — самая танцорка на вясковых ігрышчах. Маладзіца ўскочыла з услона, падперлася левай рукой, а правую ўзняла ўгору. Яна пастаяла гэтак, пакуль параўнялася Ганна Карпілава, прыгожа пахіснулася і, вольна згінаючыся ў поясе — то ў адзін, то ў другі бок, — дробненька затупала нагамі.

— Дак і вы ж ідзіце ў круг! — крыкнула з тапчана Сахвея Розе Самусёвай і Гэлі Шаракоўскай.

Марфа, якая сачыла за ўсім ад печы, падалася цяпер да ўслона, села там.

У танцы кружыліся ўсе — і трохі марудлівая ўжо, але па-ранейшаму нястомная Ганна Карпілава, і пругкая, нібыта гумовы мячык, Дуня Пракопкіна, і ўсмешлівая, з прыжмуранымі, таму як недаверлівымі вачамі Роза Самусёва, і не дужа вольная, нават у сваіх рухах, Гэля Шаракоўская.

Не спявала ў крузе адна Роза Самусёва. І гэта Марфа Зазыбава пачула адразу — галасы астатніх маладзіц, хоць і зліліся ў адно, можна было пазнаць, калі ўслухацца. Марфа ажно здзівілася, што гэтак лёгка яна адрознівае іх — хапала адно паглядзець на твар якой, убачыць, як варушацца губы, і тады да слыху акрэслена далятаюць словы, выразны робіцца голас. Але з усіх выдаваўся голас Дуні Пракопкінай. Яна вяла ў песні-танцы. Голас яе быў самы чысты, здавалася, вылятаў з грудзей, як пасярэбраны.

Марфа пераводзіла свой позірк з аднае танцоркі на другую, па-жаночаму зайздросціла іхняй маладосці і тым жа часам, нечага ажно стыдаючыся, шкадавала яе.

Але адзін танец, нават без музыкі, не можа цягнуцца бясконца.

Быццам па якой камандзе, танцоркі перасталі раптам спяваць, стоўпіліся пасярэдзіне хаты — усё роўна як яны былі на ігрышчы і цяпер чакалі, пакуль зайграе новая музыка. Але музыка не пачыналася — ёй не было адкуль брацца. Тады Дуня Пракопкіна задзірыста, нібыта робячы выклік, тупнула нагой і, уся гарачая ад узбуджанасці, канчаткова ўзяла ролю завадатара на сябе.

— Ай, гоп, гра-ча-ні-кі… — запела яна на ўвесь голас.

Дуніны «грачанікі», як на ляту, падхапілі яшчэ тры галасы. Не ўтрымалася нават Роза Самусёва, якая расчырванелася ўся і ўжо бліскала сваімі чорнымі вачамі, што заўсёды вылучаліся на яе смуглым твары: яна спявала і моцна тупала нагамі, нібыта наважылася прабіць наскрозь чужую падлогу. Танец цяпер падобны стаў на звычайную вясковую «трасянку», калі ўжо ідуць у скокі ўсе, хто на пагулянцы — танцоры ці не танцоры, затое зацята дзогаюць па гнуткіх, спаласаваных шавецкімі цвікамі масніцах — называецца, прыбіваць абцасамі. Маладыя жанчыны як выхваляліся адна перад адной сваёй спрытнасцю, пасля, запыханыя, ажно клаліся па чарзе на ўслон, млелі ў бессаромнай жаночай знямозе, а праз нейкі час зноў працягвалі даўно пачатую «трасянку».

Нарэшце вярнулася з дому Рыпіна Ціткова, паглядзела на раздурэлых маладзіц і сказала, але быццам усцешаная чым:

— І праўда, панапіваліся бабы!.. От табе, Сахвейка, і брага. — Яна падышла да стала і з вялікай ахвотай выпіла яшчэ карэц брагі, выцерла бязгубы рот, павінілася перад Марфай: —Даруй, што забавілася.

— Тае бяды, — махнула рукой Марфа.

— Я дак паляжу пакуль, — сказала тады Рыпіна і палезла на тапчан.

На дварэ між тым пашарэла ўжо. Надыходзіў вечар. Недзе яшчэ бавіўся на вёсцы Сахвейчын хлопчык, і Марфа ўзяла на сябе клопат адшукаць яго. Знайшоўся малы ажно ў Антона Жмейды, гэта каля самае кузні, што на галоўнай вясковай вуліцы, і пакуль Марфа вяла яго адтуль у Падліпкі, звечарэла па-сапраўднаму.

Танцаў у Меляшонкавай хаце не было ўжо.

Сахвея давала на тапчане грудзі дачцэ.

Навокал прыбранага ад посуду стала скýпіліся госці — Дуня Пракопкіна ціскала ў пальцах запаленую васковую свечку, якая ўсё не прыліпала да пашкрэбанай дошкі, а Гэля Шаракоўская трымала напагатове ў руцэ белы пярсцёнак, зроблены з сярэбранай манеты. Пасярэдзіне стала стаяла шклянка чыстай вады: нягледзячы што Каляды былі далёка, жанчыны збіраліся ў гэты вечар варажыць…

Першы раз пярсцёнак кідалі, загадваючы на Івана Самуся, але Роза дарэмна чакала, яна не пабачыла свайго мужа — у шклянцы пад вадой не ўзнікла нават ценю.

— Цяпера на Меляшонка трэба, — сказала Ганна Карпілава, якой зусім не было на каго загадваць.

Гэля Шаракоўская патрымала над шклянкай пярсцёнак, кінула ў ваду. Пярсцёнак апусціўся на дно, ціха бразнуў аб шкло. Патрывожаная вада ў шклянцы праз нейкі час астоялася, і ўсе чатыры жаночыя галавы схіліліся над сталом. З дзіцем на руках нясмела падышла гаспадыня. Яна стала ўпрытык да стала, выцягнула шыю і, чырванеючы ад хвалявання, таксама ўтаропіла вочы на шклянку. У хаце запанавала цішыня. Толькі чуваць было, як дыхала на тапчане Ціткова Рыпіна. Але вось жанчыны заварушыліся, і Ганна Карпілава, уздыхнуўшы з палёгкай, усклікнула:

— Жывы твой Меляшонак, жывы!

— Праўда, Сахвея, жывы твой! — следам за Ганнай, нібыта ў вялікім здзіўленні, сказала і Роза Самусёва.

Але сама Сахвея пакуль нічога не бачыла ў шклянцы. Пярсцёнак нерухома ляжаў на дне, без ніякае чалавечае постаці. Тады Сахвея асцярожна абышла стол, прыпала прагнымі вачамі да шклянкі з таго боку, дзе сядзела Ганна Карпілава. Сапраўды, цяпер у самым пярсцёнку пад вадой падалося ёй нешта падобнае на чалавечы адбітак. Сахвея ўпэўнілася ў гэтым і адразу нібыта самлела ад неспадзяванай радасці — здаецца, упершыню пасля таго, як нарадзіла, адчула сваю слабасць. Яна заплюшчыла вочы і пахіснулася, быццам у непрытомнасці, ажно.Марфе Зазыбавай давялося падтрымаць яе за плечы.

— Жывы! — сказала Сахвея, яна прытуліла да сябе малую і гэтак прайшлася па хаце. — Чуеш, жывы наш тата! — радасна сказала яна і хлопчыку, які пазіраў ужо з-за коміна.

Тады папрасіла паваражыць на свайго Дуня Пракопкіна. І на яе мужа пярсцёнак у шклянку кідала Гэля Шаракоўская.

Жанчыны зноў ссунулі галовы над сталом. Але ў сярэбраным кружочку на дне шклянкі ўзнік ледзь прыкметны цень, які нечым нагадваў скрыню.

— Глянь, труна, — шапнула Розе Самусёвай Ганна Карпілава. Дуня пры гэтым сцепанулася ўся, спалохана крыкнула:

— Дак ета ж я на хаўтурах ягоных скакала!..

## VII

Чубар пачаў сядаць на каня. Цяпер ён рабіў гэта не так, як першы раз — падвёў да вываратня, ступіў на яго і, занёсшы правую нагу, амаль зверху апусціўся задам на падатлівую канёву спіну. Конь адшукаў на моху глыбокія ўмяціны ад учарашніх слядоў і павёз седака да дарогі. Аднекуль з-за дрэў выскачыў наперад вялікі, увесь у жоўтых зябрынах, кот. Ён выгнуўся, быццам размінаючыся, і сеў крокаў за восем. «Перабяжыць ці не перабяжыць дарогу мне?» — загадаў наўдачу Чубар. Але кот не кранаўся з месца. Тады Чубар гучна, па-хлапечы, свіснуў, і кот спалохана скокнуў убок, знікаючы ў пажоўклай папараці. «Значыць, пашанцуе!» — падумаў Чубар. А шанцы былі пакуль усяго на тое, каб уз'ехаць на патрэбную дарогу.

У ім зноў жыў неспакой чалавека, якому рупіла немалаважная справа: ён хоць і не прымаў яшчэ таго, што мусіў падавацца ў Забесяддзе, як асэнсаваную і адзіна патрэбную ў ягоным становішчы рэч, але не паслухацца палкавога камісара ўжо не мог.

Па-першае, палкавы камісар у дачыненні да яго старэйшы чалавек і па ўзросце, і па партыйным становішчы, а па-другое, у довадах палкавога камісара была абгрунтаваная пераканаўчасць—сапраўды, каму, калі не такім камуністам, як Чубар, найперш трэба было заставацца на месцы, каб наладжваць барацьбу ў тыле варожых войск? Праўда, Чубар асабліва не падманваў сябе: Зазыба меў рацыю, калі дакараў пры апошняй сустрэчы, што за час старшынства ён так і не сышоўся па-належнаму з верамейкаўцамі. Цяпер Чубар нават вызначыць не мог для сябе, на каго ў вёсцы можна будзе разлічваць, калі справа дойдзе да барацьбы. Колькі ён ні перабіраў у галаве мужчын, якія па розных прычынах, а больш за ўсё па непрыгоднасці да вайсковай службы, засталіся ў Верамейках, логіка разважанняў прыводзіла да сумных вынікаў — акрамя Дзяніса Зазыбы ды, можа, Мікіты Драніцы, вельмі спадзявацца не было на каго. Вядома, белабілетнікі — сухарукія ды кілаватыя — не ішлі ў разлік. А пра дэзерціраў, такіх, як Раман Сёмачкін ці Брава-Жыватоўскі, ён нават думаць не мог пакуль.

Раніца ўжо бралася паступова, і па тым, якое высокае стаяла над лесам неба, можна было меркаваць, што дажджу сёння не прадбачылася, прынамсі, на пачатку дня.

Конь выйшаў на дарогу, стаў упоперак, нібыта рашыў пачакаць, чаго захоча гаспадар. Тады Чубар паляпаў яго па мускулістай шыі, і той паслухмяна павярнуў направа.

Да вёскі было недалёка.

Не праехаў Чубар і паўкіламетра, як у прасветлінах паміж дрэў выступілі хаты. Яны пачыналіся амаль ад самага лесу. І наогул, вёска стаяла нібыта ў лясным тупіку, толькі па левы бок, калі глядзець з дарогі, адкрывалася вачам поле, на якім была ў бабках нейкая збажына.

Вёска — то была Шыраеўка — здалася Чубару ціхай. Па самым узлеску шныпарылі, узрываючы дзярніну лычамі, сялянскія свінні. Відаць, іх павыганялі з хлявоў яшчэ на досвітку і трымалі цяпер на ўзлеску, каб пасля можна было найхутчэй схаваць у лесе, абы заспела небяспека. Пад вокнамі крайняй хаты стаялі і гаманілі аб нечым людзі — усе мужчыны. Калі б у вёсцы былі немцы, разважаў Чубар, то наўрад ці стаялі б сяляне гэтак навідавоку. На ўсякі выпадак ён даслаў у патроннік зарад і, узяўшы на рукі вінтоўку, як бяруць звычайна паляўнічыя стрэльбу, уз’ехаў з-за дрэў на вясковую вуліцу. Конніка заўважылі адразу. Больш за ўсіх не зводзіў з яго погляду селянін, які стаяў пасярод круга. У вачах селяніна былі адным часам і здзіўленне, і неспадзяваная радасць. Пад’язджаючы, Чубар нават усміхацца пачаў — было такое ўражанне, нібыта яны пазнавалі адзін аднаго. Але селянін раптам выйшаў з круга і кінуўся да конніка, чапляючыся абедзвюма рукамі ў канёву грыву.

— Аддай, — прахрыпеў ён, як захлынаючыся ўвесь.

Твар у селяніна, можа, з унутранай натугі, быў чырвона-сіні.

Асабліва кінулася Чубару ў вочы тое, як апрануты быў чалавек. Нават для сялянскага выгляду адзенне яго было не зусім звычайнае: на кудлатай галаве сядзела пацёртая салдацкая шапка, а на нагах былі пяньковыя лапці, уззутыя на лямцаваныя халявы — штосьці накшталт самаробных, хоць і не па сезоне ботаў; і наогул, акрамя салдацкай шапкі, астатняе ўсё таксама было на ім самаробнае — напрыклад, кароткая суконная куртка, пафарбаваная ў чорны колер, які паспеў парадчэць, таксама штаны-галіфэ… Сухімі, зачэпістымі вачамі селянін ажно працінаў Чубара. На ўсёй натапыранай постаці яго з’явілася ледзь не вепруковая рашучасць. Здавалася, вось-вось нападзе ён на самога седака. Але, мусіць, узброены выгляд таго стрымліваў чалавека, і ён адно казаў, напінаючы на шыі тоўстыя жылы:

— Аддай!

Тым не менш Чубар на ўсякі выпадак пакратаў вінтоўкай і наважыў правую нагу, каб пры неабходнасці адпіхнуць чалавека

ад каня. Але недзе ён ужо здагадваўся, чаму той кляшчом учапіўся за грыву — няйначай, гэта быў сапраўдны гаспадар каня. Каб выйшла, што сустрэча адбылася раней ды адзін на адзін, можна было спадзявацца, што паміж імі нічога не адбылося б. Хутчэй за ўсё Чубар злез бы тады з каня і, ні слова не пярэчачы, аддаў яго гаспадару. Але здарылася падзея пасярод вуліцы, на вачах у незнаёмых людзей, якія невядома як маглі паставіцца да ўсяго. Лепей было рыхтавацца бараніць сябе. Чубар звычайна закіпаў хутка. Але гэты раз злосць у ім нібыта заснула. І тым не менш настаў момант, калі ён ужо гатовы быў павысіць голас.

Тады наперад ступіў другі чалавек і сказаў Чубару:

— Слухай, аддаў бы ты сапраўды каня, а? Гэта яго конь. Не трэба крыўдзіць чалавека. Аддай!..

Чубар павярнуў галаву — звяртаўся да яго ўчарашні шыраеўскі мужык, з якім яны памелі гаворку на дарозе ў лесе. Звалі мужыка Ягорам, а прозвішча яго было Пішчыкаў. Цяпер мужык стаяў без армяка, у ватоўцы, зашпіленай па самы кадык на шыі.

— Аддай, — плюскаў ён вачамі.

Чубар зірнуў на астатніх мужыкоў. То былі людзі пераважна старога веку. Толькі трох ці чатырох можна было палічыць за пажылых. Сяляне таксама з дакорам талопілі вочы на тое, што адбывалася на вуліцы.

— Гэта петрапольскі аднаасобнік, — пачаў тлумачыць Чубару Ягор Пішчыкаў. — У яго дзяцей поўная печ. Дык аддай каня. Без каня яму нельга.

Чубар перакінуў у левую руку вінтоўку і спрытна, нягледзячы на цяжар, які быў у ім, саскочыў з каня.

— Раз твой, то бяры, — сказаў ён гаспадару каня, але такім голасам, нібыта не меў да гэтай гісторыі ніякага дачынення.

Аднаасобнік тым часам дрыжачымі рукамі ўжо брытаў каня, за якім давялося-такі пабегаць гэтай ноччу. А Чубар, бачачы, што канчаткова настала палёгка, кінуў з незалежным выглядам адурэламу ад шчасця чалавеку:

— Таксама мне гаспадар! Кінуў дзе папала каня, а тады соплі пускае!

— А помніш, што я табе ўчора казаў пра гэтага каня? — усмешліва паглядзеў на Чубара Ягор Пішчыкаў.

Чубар перасмыкнуў шчакой.

— Немцаў няма ў вёсцы? — спытаў ён, даючы зразумець, што яго цікавіць зараз зусім іншае.

— А то каб былі, дык вы б з-за каня з аднаасобнікам петушыліся б так! —засмяяўся Ягор Пішчыкаў і азірнуўся на вяскоўцаў: маўляў, дзівак прыехаў.

Чубар таксама пачаў усміхацца, але ягоная ўсмешка была як вымушаная, таму ажно дурнаватая.

— Я гляджу, ты сёння нават з вінтоўкай! — задраў галаву Ягор Пішчыкаў у здзеклівым захапленні. — А ўчора ж, здаецца, не было?

— Гэта ты не заўважыў яе тады, — пажартаваў, як дзеля адчэпкі, Чубар.

— А я ўсё пытаўся ў сваіх — ці праязджаў праз вёску верхам на кані чалавек? Такі і такі, маўляў. А яны вось кажуць — не бачылі, не ехаў.

— Ці знайшоў жа сваю цялушку?

Ягор дужа пільна, нібыта працінаючы наскрозь, паглядзеў на Чубара.

— Цяпер я здагадваюся, — сказаў ён адчужаным голасам праз нейкі момант. — Ты, відаць, заначаваў недзе з тымі? Помніш, я казаў? Тады прызнайся — яны маю цёлку з'елі?

Чубар крутануў галавой.

— То былі сапраўдныя чырвонаармейцы!

— А быццам сапраўдныя не хочуць і не могуць смачна паесці?

— Не кажы глупства, — ужо са злосцю паглядзеў на Ягора Чубар, якому вельмі не хацелася, каб узводзілася дарэмшчына на групу палкавога камісара. — Чырвонаармейцы красці не стануць. Я паказаць магу іхнія буданы. Галаву аддаю — ні аднаго масла не знойдзеш!

— Маслы і закапаць можна! — не адпускаўся Ягор.

— Ну, не ведаю, — не знаходзячы больш важкіх аргументаў, сказаў Чубар. — Але чырвонаармейцы тыя як прыйшлі сюды аднекуль амаль галодныя, так і пайшлі далей без сняданку.

— Дык і ў нас, у Шыраеўцы, яны былі ўчора, — падказаў нехта з дзядзькоў. — Прасілі харчоў. На свае вочы бачыў, давалі бабы.

Тады заступіўся за чырвонаармейцаў самы старэйшы сярод шыраеўскіх мужыкоў — з выгляду нехлямяжы, аднак надзвычай жвавы дзядок.

— Ты, Пішчык, сапраўды, можа, дарэмна гэта, — пачаў ушчуваць ён Ягора, — можа, і праўда тыя не чапалі цёлкі твае. Я сам бачыў іхняга начальніка. Са звяздой такі, на рукаве звязда. Дык наўрад ці дазволіць ён займацца свавольствам. Хоць і нямоглы, на насілках, а не дазволіць. Не можа быць, каб такі вялікі начальнік ды дазвол даў.

— Быццам мне не ўсё роўна — тыя ці другія! Галоўнае, каровы, лічы, няма на двары!

— Ну, на карову яна не скора падобная стала б, — спакойна запярэчыў дзядок.

— Можа, яшчэ знойдзецца твая цёлка, — паспачувалі Ягору ледзь не хорам астатнія дзядзькі.

— Ат, — махнуў рукой Ягор: яму ад крыўды ўжо не хацелася глядзець не толькі на Чубара, але і на сваіх.

Настаў момант, калі гаворка магла абярнуцца непажаданым бокам, таму Чубар спытаў, ні да кога пэўна не звяртаючыся:

— Значыць, немцаў у вас няма? Мужыкі пераглянуліся, заўсміхаліся.

— Ды вось, — сказаў адзін, — самі стаім, нібыта чакаем. Кароў даўно пагналі ў лес, а свіней каля вёскі трымаем. Як толькі награнуць немцы, так і пагонім таксама ў лес.

— Дык я і кажу, што глупствам займаецеся, — паморшчыўся Ягор Пішчыкаў. — Гэта яшчэ хто ведае, як яно лепш. Я вон каб з пуні не пускаў сваю, дык напэўна б цяпер цэла была.

— Але чаму ты лічыш, што тваю цялушку, няйначай, чырвонаармейцы зарэзалі? — не ўтрымаўся, каб пераканаць Ягора Пішчыкава, Чубар.

— А я і не кажу, што чырвонаармейцы, — зусім ужо гыркаючы, адказаў Ягор. — Цяпер хапае… і чырвонаармейцаў і нечырвонаармейцаў. Адзін каня звядзе, другі цёлку.

— А немцаў ты нават у разлік не бярэш?

— Ахвота немцам цёлкай займацца! Ім пакуль гусей ды курэй хапае. Ды і красці яны не будуць. Прыйдуць на двор ды забяруць што трэба.

— Ягор тут праўду кажа, — беручы бок аднавяскоўца, прамовіў жвавы дзядок.

— Ага, — пацвердзілі мужыкі.

— Заўчора яны тут пагойсалі трохі на матацыклах, дык паказалі сябе, — зноў сказаў стары. — А самі хто будзеце? — паглядзеў ён Чубару ў вочы.

— Партызан. — Чубару захацелася адразу паказаць шыраеўскім дзядзькам, што перад імі не абы-які чалавек.

— Во-во! — пачуўшы Чубараў адказ, усклікнуў Ягор Пішчыкаў.

— Так, партызан, — падкрэслена, быццам насуперак, паўтарыў Чубар і адчуў, як паспакайнеў адразу, бо ў гэты момант для яго, можа, адбылося самае важнае: ён ужо сам упарта называў сябе ў новай якасці, на якую пакуль не меў, як і яму здавалася, падстаў.

Хоць шыраеўскія дзядзькі і да гэтага бачылі, што Чубар не проста туляга, а чалавек са зброяй, значыць, мае калі не ўладу, то дачыненне да нечага вельмі важнага, але адказ ягоны здзівіў іх: слова «партызан» для тутэйшых сялян было пакуль не толькі нязвыклае на слых, аднак і не зусім зразумелае. Вядома, яны чулі пра партызан яшчэ з Грамадзянскай вайны, але тады ў гэтай мясцовасці партызаны не дзейнічалі, таму ўяўленне пра іх складвалася пераважна па чутках.

— Дык як гэта цяпер будзе? — спытаў гаваркі дзядок. — Здаровых мужыкоў забралі ў армію. Значыць, ваююць на фронце. А ў партызаны, мусіць, будуць набіраць тых, хто не падпаў пад мабілізацыю. Такіх во, як Карней, — дзядок паказаў вачамі на плячыстага, але ўжо, бадай, сапраўды не ў вайсковых гадах чалавека, — ці Аўлас, — ён перавёў прыжмураны, як для прыцэлу, позірк на наступнага селяніна, нібыта гэтым выдаваў аднавяскоўцаў Чубару, — таксама Аўціх…

Няйначай, дзядок быў адмысловы жартаўнік, бо ўсе, хто стаяў паблізу, пазіралі ўжо на яго і на Чубара з паблажлівымі ўсмешкамі.

— Ты, дзед, таксама падыдзеш у партызаны, — здагадваючыся пра гэта, сказаў Чубар, каб адным часам у голасе былі і жартаўлівая пагрозлівасць, і прыстойная паважлівасць.

— А што? — выпнуў грудзі стары.

— Дык вось і запісвайся першы, — нібыта ўзрадаваўся аціхлы Ягор Пішчыкаў.

— А ты?

— А ў мяне бялет. Я — па закону.

— Дык гэта ж яшчэ невядома, які закон на бялеты выйдзе, калі ў партызаны набіраць стануць? А ў мяне — вочы. Нават добра не пацэліш з такой вось. — Стары кіўнуў на Чубараву вінтоўку. — А які гэта стралок, калі германец уцячы можа з-пад ружжа?

— Нічога, мы табе прывяжам германца да плота, — загаманілі дзядзькі, — якраз пацэліш куды трэба.

Каб надаць большай важкасці размове і тым самым сваёй прысутнасці ў вёсцы, Чубар спытаў:

— Дзе ж ваша начальства?

— Якое? — нахіліў галаву дзядок.

— Ну, старшыня калгаса.

— Шукай ветру ў полі,— паспяшаўся свіснуць Ягор Пішчыкаў.

— Ды, мусіць, падаўся з абозам некуды, — падказаў другі селянін, здаецца, Аўлас.

— Мы аб'яднаны былі з Гарэлічамі, — пачаў тлумачыць Карней. — У Гарэлічах і калгасная кантора, і старшыня там жыў. А тут у нас — паляводчая брыгада, трэцяя.

— Дык сам вы партызан ці ўпаўнаважаны па партызанах? — не губляў тым часам сваёй тэмы дзядок.

— Усё разам — і партызан, і ўпаўнаважаны, — адказаў, усміхаючыся, Чубар.

— І дакументы маеш?

— Ёсць і дакументы. Але навошта яны табе?

— Ды так.

— Ён у нас дужа граматны, — сказаў, выскаляючы зубы, Ягор Пішчыкаў. — Усім цікавіцца.

Дзядзькі зарагаталі.

— Вам абы!.. — незалюбіў стары. — А я хацеў спытаць, як думае чалавек. Ён жа, мусіць, начальнік, раз у партызаны пайшоў. Дык я і хачу спытаць. Нашы яшчэ вернуцца?

— А ты як думаеш?

Дзядок абвёў позіркам аднавяскоўцаў.

— Забраў жа вон колькі…

— Што забраў, тое і аддасць, — сказаў важка Чубар і раптам злавіў сябе на думцы, што, гаворачы пра гэта, ён кожны раз нібыта набіраўся аднекуль сам выразнай пэўнасці.

— Гэта так, — уздыхнуў стары. — Чужое — не сваё. Чужое — аддай.

— Я таксама кажу мужыкам — на гэты ж год нават знак господні такі, — сказаў раптам Карней, — што ўсё будзе добра, што нашы перамогуць немца. Вайна ж пачалася ў святы дзень. У гаду ёсць дзень, калі наша царква адзначае памяць усіх святых рускай зямлі. І гэты дзень сёлета прыйшоўся якраз на дваццаць другога чэрвеня. Людзі, якія ведаюць святое пісьмо, гавораць, што такое супадзенне невыпадковае. Гэта, няйначай, знак літасці нашых святых да нас.

— А ты што, таксама са святых? — самым уважлівым чынам паглядзеў на Карнея Чубар, нібыта хацеў адшукаць у ягоным обліку нябачныя рысы.

— Ён у нас некалі на папа вучыўся, — паспяшаўся падказаць дзядок, — але архірэй пасля не ўпадабаў.

Мусіць, пра Карнея і архірэя гаворка сярод шыраеўцаў пачыналася ўжо не першы раз, таму мужыкі пасля дзедавых слоў зарагаталі.

Стары тым часам растлумачыў Чубару:

— Карней у нас бачыш які? І ростам, і тварам? Што той багатыр з казкі. А ў архірэя жонка таксама пісаная прыгажуня. Дык архірэй і пабаяўся нашага Карнея трымаць блізка.

Мужыкі зноў зарагаталі, можа, нават не думаючы, ці бывае ў архірэя жонка.

Сам Карней да дзедавай балбатні ставіўся з сялянскай паблажлівасцю — пасмейваўся і не меў нават ценю пакрыўджанасці ці нездаволенасці на твары.

Праз нейкі момант дзядок зноў спытаў Чубара:

— Дзе ж астатнія твае партызаны?

— У лесе.

— Ага, — кіўнуў стары, нібыта яшчэ ўсведамляючы нешта.

— Лес цяпер домам стаў багата каму, — па-філасофску разважыў Карней: ён, відаць, не хацеў, каб усю гамонку з незнаёмым чалавекам займаў дзядок. — Але ў нас тут… Так сабе лес. Адно схавацца за кустом ад злога вока. А калі хто задумае пашукаць каго напраўду, то і не вельмі цяжка будзе знайсці, бо… Словам, нашага лесу стае на дровы ды калі на бёрны каму. А вось туды, пад Бранск, там сапраўдны лес. Пасля на Мглін, на Клетню. Таксама дай Бог лясы. Ды і сюды, — ён паказаў рукой уздоўж вясковай вуліцы. — Але там ужо Беларусь пачынаецца. Во як за Іпуць пяройдзеш, то… Чубар не даў дагаварыць, спытаў:

— А што да Іпуці?

— Ды, лічы, наш гэты лясок апошні. Да Іпуці ўжо адно поле будзе.

Пакуль на краі вёскі, паміж канцавымі дварамі, ішла гэтая размова, петрапольскі аднаасобнік непрыкметна, прынамсі, для Чубара, сеў на свайго каня, якога нарэшце пашчасціла перастрэць, і, уцяўшы галаву, патрухаў у лес па той дарозе, па якой прыехаў у вёску Чубар. З Шыраеўкі ў той бок яна была адна. Вёска стаяла па мясцовай геаграфіі, відаць, недзе на самым водшыбе Гардзееўскага раёна, аслоненая з паўночнага ўсходу хвойным лесам. Дакладней кажучы, нават трохі болей, чым з аднаго паўночнага ўсходу. Справа ў тым, што ўезд у вёску і выезд з яе таксама былі па лесе. Але там ён выглядаў як зрэзаны і суцэльны не быў: яго хапала толькі на тое, каб выпусціць з абдымкаў дарогу праз вёску і праглынуць яе на другім канцы; лінія так званага зрэзу праходзіла акурат праз паўднёвы бок вёскі. Дзіва, але ў самой Шыраеўцы і паабапал яе ўсё было зроблена нібыта згодна геаметрыі — асабліва гэты вось выкарчаваны ўпоперак няпоўнага проставугольніка лес, дзе ўтульна змясцілася вёска

і роўная, як па лінейцы пабудаваная, вуліца, дарэчы, адзіная ў вёсцы. Хаты — самай няхітрай сялянскай архітэктуры — стаялі на аднолькавай адлегласці паміж сабой, амаль без выключэння былі накрыты гонтай. Над нечай страхой, недзе пасярод вуліцы, тырчала жураўлём радыёантэна, досыць рэдкая пакуль адзнака дваццатага стагоддзя ў вёсцы. Будавалася Шыраеўка не адразу, прынамсі, не за адзін і не за два гады, бо пад гэты канец было некалькі зусім новых дамоў, можа, пазалеташніх, на якіх яшчэ не паспелі счарнець бёрны, але нават старонняму воку можна было меркаваць, што належала яна да тых паселішчаў, якія засноўваліся ўжо калі не пры калгасным ладзе, то не болей за восем гадоў наперад.

З таго часу як Чубар прыехаў у Шыраеўку, гадзіннік недзе адлічыў толькі наступныя трыццаць хвілін. Між тым на дварэ ўжо стала як удзень. Сонца ўвачавідкі паднялося над лесам, патрохі ачышчаючыся ад копаці і смугі. На ўсходзе дажджавых хмар больш не было. Затое на захадзе неба яшчэ нібыта клубілася. Але вецер настойліва зносіў паклычаныя хмары на паўднёвую ўскраіну, не даваў зноў засланіць сонца.

— Дык як цяпер будзе? — спытаў Карней Чубара.

— Што — як?

— Ну, раз кіраўнікоў нашых няма… мы так разумеем, што… без старшыні сельсавета ці старшыні калгаса дык і вырашаць нічога нельга.

Чубар здагадліва ўсміхнуўся:

— Неяк абыдземся без іх. Тым больш што вашу Шыраеўку стараной не абыдзеш. Асабліва калі знаёмыя ёсць. — І каб не пакідаць людзей, асабліва гаваркога дзядка, які ўжо, няйначай, зноў пакутаваў ад цікаўнасці, у няведанні, растлумачыў напаўжартам: — Мы ж з Ягорам вашым даўнія знаёмыя!

— Бачыліся ўчора ў лесе, як шукаў цёлку, — нібыта апраўдваючыся, кінуў Ягор Пішчыкаў.

— Дык я і падумаў, спытаю, дзе тут Ягорава хата.

— А што там, у хаце, рабіць цяпер! — не паглядзеў на Чубара селянін.

— Як што? — здзівіўся дзядок. — Звычайная справа. Трэба сустрэць чалавека, пачаставаць. А то, можа, і крошкі ў роце яшчэ не было ў яго.

— Ты праўду кажаш, дзед, — прызнаўся Чубар. — Жывот даўно падцягнула.

— Во, чуеш?

— Калі ты скоры такі ды багаты, то і частаваць можаш, — з’едліва кінуў старому Ягор Пішчыкаў. — Я табе не забараняю.

— Сам жа чуў, чалавек да цябе хоча. Знаёмы твой.

— Такі, як і твой. А мне за стол садзіць яго няма з чым. Цёлку вон…

— Ты праз яе цяпера…

— У Ягора звычайна дружна бывае да першага паваротку, — кпіў Карней.

— А ты б!.. — памкнуўся быў да селяніна Ягор. Чубар натужна падумаў, пасля ўсмешліва сказаў:

— Што ж, дзед, давядзецца напрасіцца да цябе ў госці, раз Ягор адмаўляе.

— Да мяне, — раптам здзівіўся стары і, хаваючы сваю разгубленасць, пачаў моцна і досыць доўга чухаць пад шапкай галаву.

Тады Чубар абвёў позіркам астатніх прымоўклых мужыкоў і з кплівай усмешкай паківаў галавой: тыя паапускалі вочы. У ім нараджалася крыўднае пачуццё чалавека, які раптам зрабіў для сябе непрыемнае адкрыццё там, дзе яго, па ўласным перакананні, не магло быць. Уражаны гэтым, ён пачынаў лавіць сябе, што на вуліцы ўжо ці не адбывалася нешта накшталт недарэчнага тэатральнага відовішча. Сябе Чубар здольны быў бачыць у гэтым відовішчы ні больш ні менш як абавязковай, нават неад'емнай, але, па сутнасці, нікому не патрэбнай рэччу, якую ўдзельнікі відовішча пачалі адкрыта перакідваць адзін аднаму. Спярша яму падумалася, што вінаваты быў Ягор Пішчыкаў, які ўсё яшчэ злаваў праз згубленую недзе цялушку, але дарэмна: уласна, усе гэтыя мужыкі былі вартыя адзін аднаго, і, мусіць, ніхто не перамог бы на шалях, каб давялося паважыць іх на звычайную насцярожлівасць, а яшчэ больш — на хітрую сялянскую разважлівасць. Проста нікому не хацелася па сваёй ахвоце весці ў хату ўзброенага чалавека. Чубар разумеў, што насцярожваліся людзі адзін перад адным: пры іншых умовах, напрыклад, каб завітаў ён да каго з іх без сведкаў, не было б адмовы яму ні ў гасціннасці, ні ў прытулку. Асабліва багата чаго для разумення гэтага даваў выпадак, што адбыўся ў Белай Гліне, калі стары Якушок прасіў Чубара, каб той павёў яго праз вёску пад вінтоўкай. Больш таго, Чубар у думках ужо здагадваўся наперад, што і надалей давядзецца сутыкацца з чымсьці падобным і што гэтак ці амаль гэтак будзе, прынамсі, да таго часу, пакуль самі падзеі не перайначаць цяперашнюю няпэўнасць…

Мужыкі — бадай, кожны — таксама мулка пачувалі сябе перад незнаёмым чалавекам. Але з тае прычыны, што стаялі грамадой, ад вінаватасці душой не пакутавалі: кожны меў адны і тыя ж правы і мог зрабіць для яго тое ж…

Нарэшце настаў усё ж момант, калі і Чубар, і шыраеўскія мужыкі пачалі найбольш усведамляць няёмкасць таго недарэчнага становішча, якое гэтак неспадзявана склалася: і той бок, і гэты ўжо нецярпліва чакалі нечага адзін ад аднаго.

Нашто ўжо дзядок быў нястрыманы на язык і ўедлівы дужа, аднак і той адступіўся ад Чубара — вочы яго, па-старэчы запаленыя і па-хлапечы хітравата-дураслівыя, схаваліся пад павекамі, а постаць, якая да гэтага, быццам у маладога непаседы, ажно хадзіла ўся, зрабілася яшчэ больш кашчавай і, як цень, косай.

Яўна не ставала пакуль таго псіхафізічнага моманту, які ўзбурыў бы напятыя адносіны. Дзіва таксама, але каб напяць іх, хапіла самага малога, а вось каб парушыць, патрэбна была, здавалася, цэлая бура.

І гэтая бура, як кажуць, грымнула.

Увасобілася яна ў жаночым голасе, што пачуўся з акна тае хаты, насупраць якой тоўпіліся цяпер у маўчанні вакол Чубара шыраеўскія дзядзькі.

— І не сорамна вам, мужыкі?..

Усе адразу павярнулі галовы на голас.

У расчыненым акне стаяла, бачная па клубы, маладая і станістая жанчына. То была гаспадыня хаты, ці, як у Шыраеўцы казалі, Васілёва Палага. Сам гаспадар, Васіль Шунякоў, ужо каторы год моцна хварэў і не ўставаў з ложка. Мусіць, Палага стаяла незаўважанай у акне даўно і чула ўсё, аб чым гаварылі паміж сабой мужыкі, бо нездарма пачала адразу сарамаціць іх. У голасе яе выразна чуўся тады пагардлівы дакор. Але на твары цяпер чамусьці была гарэзлівая ўсмешка. Гэта Чубар адзначыў перш за ўсё, як убачыў жанчыну. Палага больш за ўсё глядзела на яго: ёй нечым — употай, проста па-жаночаму — прыглянуўся незнаёмы чалавек, што прыехаў у вёску, як высветлілася, на крадзеным кані. Яна выпадкова падышла да акна якраз тады, калі петрапольскі аднаасобнік наляцеў коршунам на конніка. Ёй падалося, што на вуліцы пачалася бойка, і яна спярша жахнулася, аднак справа была даволі хутка ўладжана — хапіла заступніцтва Ягора Пішчыкава. Але яшчэ больш здзівілася Палага, калі высветлілася, што і прыезджы, і Ягор Пішчыкаў знаёмыя паміж сабой. І, можа, таму яна не адышлася адразу ад акна, пастаяла колькі часу, паслухала, аб чым пойдзе гаворка. Прызнацца, размова, якая пачалася затым пад вокнамі яе хаты, не зацікавіла яе. Ёй здавалася, што ў мужчын не было таго ладу, што павінен быў усталявацца нават паміж незнаёмымі людзьмі, якія ўпершыню сустракаюцца. Асабліва калі ў гаворку ўмяшаўся

дзед Пшэкін. Стары меў досыць рэдкую здольнасць непрыкметна ператвараць паважныя рэчы ў пустую забаву. У вёсцы гэтым захапляліся, але таксама не абыходзілася, каб надоўга і зацята не зазлаваў хто. Тым больш што ў маладыя гады Пшэкін, як і артыст, што не набыў яшчэ вядомасці, строіў жарты больш над сваімі, шыраеўцамі. Аднаго разу, напрыклад, ён пахваліўся мужыкам — маўляў, купляйце ў Гарэлічах гарэлку ды прыходзьце на зайчаціну. Усе ведалі, што Пшэкін часам бегаў са стрэльбай вакол Шыраеўкі, здаралася, прыносіў дзічыну, таму асаблівай падэсці з гэтага боку ад яго не чакалі. І вось надвечар з бутэлькамі ў кішэнях дзядзькі гурмой уваліліся да Пшэкіна ў хату. Той якраз спаў на печы. Канечне, саромецца ніхто не стаў — раскатурхалі гаспадара. Пшэкін прахапіўся, залыпаў вачамі. Пасля паморшчыўся — не маглі пачакаць, пакуль ён даляжыць свой сон! — і пачаў паволі апранацца. Узбуджаныя мужыкі тупалі настылым абуткам па хаце і яшчэ нічога не падазравалі. І толькі тады, як гаспадар пацягнуў з вешалкі, што на сцяне, кажух, у людзей раскрыліся вочы. «Куды гэта?» — спыталі яго. «Як куды? — знарок здзівіўся Пшэкін. — Зайцоў пайду за вёску страляць. Якраз снег быў. Можа, падыму русака». Выходзіла, што ён запрасіў на зайчаціну, якая яшчэ бегала на волі. Вядома, мужчыны пачалі лаяць вясковага выдумшчыка. Але што зробіш. Самі дзівакі, што гэтак лёгка паверылі. Не перастаючы лаяцца, яны павыстаўлялі з кішэняў бутэлькі на стол, бо цяпер усё роўна было, дзе выпіваць іх. Але самую вялікую штуку прарабіў Пшэкін яшчэ амаль падлеткам над родным дзядзькам. Ці то дзядзька раней за ўсіх сярод сваякоў і суседзяў заўважыў ягоныя дзівацкія здольнасці, ці проста неспадзявана напароўся на злосны жарт, аднак погалас пайшоў менавіта з таго выпадку. Прыходзіць гэта малы Пшэкін да дзядзькі, а той у добрым гуморы і кажа: «Ну, пляменнічак, схлусі што-небудзь». Пляменнік ажно пакрыўдзіўся з выгляду. «Няма, дзядзька, часу, — гаворыць, — бацька перадае, каб ты ў лазню да нас ішоў». Ну, дзядзька, вядома, на столь ды за венік бярозавы, просіць сваю гаспадыню, каб дала таксама чыстую бялізну. Нарэшце прыходзіць да брата. Адчыняе дзверы ў лазню, а там — хоць ваўкоў ганяй: ніхто і не збіраўся той раз паліць у ёй… Але сёння Пшэкін не дужа выяўляў сваю здатнасць жартаваць злосна. Нават Палазе з акна здавалася, што ён увесь час нібыта спахопліваўся чаго, не даваў волі свайму языку, хоць і даймаў роспытамі незнаёмага чалавека, і гаворка таму вялася, можна сказаць, амаль далікатная і прыстойная. І вось пад канец, калі незнаёмы чалавек пачаў напрошвацца на

сняданак, а вясковыя мужыкі нечага нібыта пагубляліся, ледзь не сварку ўсчалі паміж сабой, Палага не стрымалася, каб не азвацца. За першымі словамі, якія прагучалі нечакана і кпліва, яна яшчэ дадала:

— Чалавека пакарміць шкадуеце! —Але ўжо з новай адметнасцю ў голасе — нібыта дражнячы аднавяскоўцаў, да таго ж мужчын. — А вы дарэмна кланяецеся столькі, — сказала неўзабаве жанчына і Чубару, — заходзьце тады да нас.

Яна аблакацілася на падаконнік, высунулася па грудзі на вуліцу. Цяпер можна было добра разгледзець жанчыну. У яе былі надзіва рыжыя, ажно як медныя, валасы на галаве. У цёмных вачах хавалася патаемная ўсмешка, што заходзіла па нейкіх сваіх шляхах нават у куточкі губастага, выразна акрэсленага рота. Аголеныя па плечы рукі былі па-сялянску загарэлыя і прыгожыя; складзеныя амаль накрыж, яны спакойна ляжалі на падаконніку, падпіраючы вялікія грудзі, скрытыя пад цеснаватай, а можа, знарок пашытай без запасу, блакітнай блузцы.

Чубару на нейкі момант падумалася, што гэта, няйначай, якаясьці саламяная ўдава або проста вясковая маладзіца, якой нічога асаблівага не каштуе заманіць з дарогі ў хату кожнага ўпадабанага мужчыну, але па тым, як успрынялі шыраеўскія мужыкі гэтае запрашэнне — самым належным чынам, без падкрэсленай і хітраватай цікавасці, — можна было меркаваць пра адваротнае. Праўда, жанчына сваім нечаканым запрашэннем нібыта ратавала іх ад непатрэбнага, дакладней, далікатнага клопату, такая акалічнасць, вядома, магла паўплываць на паводзіны людзей, аднак наўрад ці мела тут і гэта якое значэнне. Урэшце, як бы там ні было, але шыраеўскія мужыкі адразу пачалі ківаць Чубару галовамі — ці то падахвочваючы яго заходзіць у хату, ці проста развітваючыся; прынамсі, разыходзіліся яны з выглядам той годнасці, якая поўніць людзей пасля зробленага імі чагосьці надзвычай вартага, нават пазабывалі, што на ўзлеску па-ранейшаму сноўдалі ўзбуджаныя, быццам пакусаныя кім, свінні, якіх яны, як казалі самі, выйшлі на край вёскі пільнаваць.

Чубар піхнуў ад сябе весніцы, зробленыя з бярозавых калкоў, змацаваных наўскасяк абапалкам, узышоў на сялянскі двор. На плоце, што адгароджваў гэты двор ад вуліцы, стаяў на моцных, шышкаватых нагах прыгожы і магутны певень — шыза-чырвоны, з доўгімі залацістымі пярэсцінамі на шыі. Ён убачыў на двары незнаёмага чалавека, адразу занепакоіўся, але спярша пераступіў па жардзіне, а тады залопаў крыламі і гучна, з хрыпатой у голасе пракрычаў некалькі разоў запар, як выгавор-

ваючы: «Вось табе і на! Вось табе і неспадзеўка!..» Проста на ганку, што быў пры ўваходзе ў дашчаныя сенцы, ляжаў чорны сабака. Але гэты нават не падняў галавы на Чубаравы крокі. На двары стаяла цэлае багно — прайсці да ганка можна было толькі паўз загавальню, якая мацавалася лазовымі пляцёнкамі-фашынамі, і Чубар, пільнуючыся, каб не ўварзэпацца ботамі ў гразь, адразу патупаў, дакранаючыся да сцяны вольнай рукой. Хата, у якую ён меўся зайсці, складалася з трох частак: першай, уласна самой хаты, што была каля дзевяці аршынаў удаўжыню, затым так званай прыбудовы ў тры сценкі, якая служыла другой палавінай хаты і рабілася асобна, пасля таго ўжо як гаспадары жылі ў першай палавіне, і, нарэшце, сенцаў. Ад веснiц Чубар кіраваўся проста на гэтыя сенцы.

Гаспадыня ўпэўнілася праз вокны, якія выходзілі на двор, што запрошаны ёю незнаёмы чалавек сапраўды ўжо ідзе праз двор, сама выйшла на ганак. Сабака і пры ёй не падумаў паварушыцца. Тады яна кранула яго нагой, абутай у высокі жаночы чаравік, і сабака неяк клубком саскочыў з ганка, але не адбегся, а застаўся стаяць, нібыта чакаючы, пакуль пройдзе чалавек у хату, каб тады заняць самому ранейшае месца.

— Заходзьце, — сказала гаспадыня.

Следам за ёй Чубар праз сенцы ўвайшоў у так званую прыбудову і разгубіўся. Хоць у хаце і было, як у шарую гадзіну, але ён адразу заўважыў, што на драўляным ложку, пастаўленым у невялікі прасценак, ляжаў, накрыты паласатаю коўдрай, чалавек. То быў Васіль Шунякоў. Ён нават не павярнуў галавы, і Чубару відаць былі зарослыя шчаціннем левая шчака, сцятыя губы і завостраны гарбаты нос. Але падумаць, што гэта ляжаў нежывы чалавек, не давалі вочы, якія час ад часу плюскалі. Проста Васіль быў дужа хворы. У зацененай хаце стаяла затхласць, пахла… Гэта вельмі не стасавалася з выглядам самой гаспадыні, якую нельга было і блізка назваць неахайнай. Тады недзе ў Чубаравай сярэдзіне зварухнулася нядобрае пачуццё да гэтай жанчыны — мусіць, круціць хвастом сама, а мужык ляжыць скрозь дні недагледжаны. Чубар нават затаптаўся каля парога ў нерашучасці. Але гаспадыня ўжо адчыняла шырокія, амаль квадратныя дзверы на другую палавіну хаты, і Чубару нічога не заставалася, як пайсці праз хату далей.

Тут было зусім па-іншаму, не так, як на першай палавіне: адразу кідалася ў вочы паскобленая, быццам споднi бок жытнёвага бохана, сасновая падлога, сцены, завешаныя вышыванымі, мусіць, яшчэ з дзявочага пасагу, ручнікамі і багатая сялянская

пасцель — пуховыя падушкі ў белых міткалёвых навалачках, саматканая коўдра, падобная на крамны дыван, таксама прасціна з выбеленага і вельмі тонкага палатна.

Відаць, жанчына нямала папрацавала ў жыцці зімовымі вечарамі, збіраючыся ў замужжа, але вось нечага не пашанцавала ёй.

— Вы тут пасядзіце, — сказала жанчына, паказваючы на табурэтку пры стале, — а я зараз пра абед падумаю, раз ужо запрасіла вас.

Яна нікольki не мітусілася, рухі ў яе былі павольныя, нават, здавалася, трохі марудлівыя; ва ўсёй паставе яе адчувалася тая маладая яшчэ нерастрачанасць, якая бывае і ў замужніх жанчын (калі тыя не раджалі).

Перад тым як выйсці з гэтай хаты, яна сказала для яснасці:

— То муж мой… хварэе…

— І даўно? — спытаў Чубар.

— Каторы год ужо.

— А што з ім?

— Ды ўсё… — яна ўздыхнула. — І хрыбціна, і… як гэта… мачавы пузыр… А як правільна хваробы завуцца, дык вон у паперцы, што ў бальніцы давалі, напісана. Ляжыць небарака каторы год і паварушыцца не можа, не тое што на ногі стаць. Таму вось так і ў хаце прапахла ўсё…

— Мусіць, яго прыцiснула чым? — пацікавіўся Чубар.

— Не, само прыключылася.

— А што дактары?

— Якія цяпер дактары!.. Але тады, як працавала ў Гардзееўцы бальніца, то завозілі мы з братам яго некалькі разоў туды. Паляжыць, а тады зноў кажуць, каб забралі. А цяпер вось назусім прывезлі. І ні дактароў, ні лякарства. Ды яму, мусіць, дактары і непатрэбны ўжо. Я клікала нядаўна ў хату да яго доктара, чырвонаармейскага, праходзіла тут нейкая часць, як адступалі нашы, той таксама разводзіў рукамі.

Гаспадыня, мусіць, даўно звыклася са сваім становішчам, таму пасля выразнага смутку, які, здавалася, прыгнятаў яе хвіліну назад, раптам нібыта адкараскалася ад усяго пакутлівага, усміхнулася Чубару ранейшаю ветлай усмешкай.

— А ружжо ваша не стрэліць?

— Не стрэліць, — адказаў Чубар, але спахапіўся: затвор вінтоўкі ўсё яшчэ не быў пастаўлены на засцерагальнік; таму ён пацягнуў на сябе шляпку байка, крутнуў направа; пасля прыставіў вінтоўку да падаконніка. — Цяпер ужо напэўна не стрэліць, — усміхнуўся ён.

Гаспадыня выйшла.

Чубар пакруціў галавой па хаце. Адно бярно ў той сцяне, што выходзіла на вясковую вуліцу, выразна вылучалася на ўзроўні вачэй сваёй пачарнелай, нібыта адпаліраванай паверхняй і спрэс было размалявана рознымі знакамі, аб прызначэнні якіх не здагадацца. То былі ўсё маленькія крыжыкі, зорачкі, квадрацікі, трохкутнікі, кружкі, малюнкі. Адным словам, нейкая цэлая сістэма знакаў. Калі гаспадыня праз нейкі час вярнулася, несучы ў руках вялікую міску, накрытую драўлянай закрыўкай, Чубар ажно не ўтрымаўся, каб не пацікавіцца:

— Што гэта за маляванне такое? — паказаў ён на сцяну.

— А-а-а, — усміхнулася жанчына, — гэта… як вам сказаць… чысліннік такі, ці, як цяпер называюць, каляндар. Гэтае бервяно нам даў Васілёў дзед, калі мы будаваліся. Сказаў, што яму таксама яно дасталося ад свайго дзеда. Дык мы як памяць сямейную і ў сваю хату паклалі вось. Але чытаць не можам, нічога не разумеем. Дзед Васілёў і то не ўсё тут мог прачытаць, а мы і падаўна. Праўда, я трохі была навучылася. Зімой неяк, калі жывы яшчэ быў Васілёў дзед і калі не было чаго рабіць, але мала. Усе гэтыя малюнкі паказваюць дні, месяцы… Напрыклад, вунь той… Гэта — дваццаць трэцяга сакавіка. Бачыце? Засечка, пасля конь? Значыць, ужо настаў час выязджаць у поле. А прамяністы дыск на тонкай сцябліне абазначае, што пачаліся дні сонцавароту…

— А чаму вы запомнілі якраз дваццаць трэцяга? — спытаў Чубар.

Жанчына ўсміхнулася:

— Гэта дзень майго нараджэння.

Тлумачыла ўсё гэта яна амаль на памяць, бо занята была каля стала, на які выкладвала з міскі прынесенае з пограба сала, кружок шэрай каўбасы, залепленай белым тлушчам, рэзала на лусты хлеб. Адказвала яна на пытанні проста і талкова, але голасам чалавека, які багата і патаемна пакутаваў: у цёмных вачах яе быў незатуханы агонь надзвычай чуллівай душы.

Нарэшце на стол было выстаўлена ўсё, што мела гаспадыня на першы выпадак, каб накарміць старонняга чалавека, і Чубар пачаў няспешна есці — чамусьці не хацелася паказаць сябе перад гэтай жанчынай галодным. Яму падабалася гаспадыня, было ў ёй нешта такое багульнікавае, ад чаго мужыкі, як кажуць, страчваюць галовы, але ўвесь час свядомасць вяртала яго да хворага гаспадара хаты, які адзінока і бездапаможна ляжаў на ложку ўсяго праз дзверы, крокаў за восем. Гэта ўплывала нават

на гаворку паміж імі, бо Чубар часта лавіў сябе на тым, што і ён сам, і тым больш гаспадыня рабілі штосьці непрыстойнае ў дачыненні да чалавека, які ўжо не мог спадзявацца ні на што на свеце. Але без гаворкі таксама нібыта нельга было ў іхнім становішчы, і яны таму гаварылі.

— А я гляджу, — успамінала яна нядаўняе, — нехта сядзіць пад акном на кані. Пасля падскочыў да вас той чалавек. Што гэта быў за чалавек, што каня забраў?

— Кажуць, аднаасобнік нейкі.

— Чый жа гэта?

— Відаць, адтуль, — пахіснуў Чубар назад галаву.

— А-а, мусіць, з Петраполля. Там, здаецца, не ўступалі ў калгас Нітачкіны. Ага, прыпамінаю. Ёсць там адзін такі мужчына, што падобны на гэтага. Ну, а конь? Чаму ён забраў каня?

— Конь, відаць, таксама яго быў.

Больш пра каня Чубар не стаў гаварыць, і гаспадыня таксама не падумала далей пытацца пра яго. Яна сядзела па той бок стала, амаль насупраць госця, але сама не дакраналася ні да чога: яўна што падабалася ёй, як гэты чужы чалавек мацаваўся харчам у яе хаце, а яна нічога не шкадавала, карміла яго. Думкі ў яе былі нейкія дзіўныя, адрывістыя і блытаныя, што раптоўна прыходзілі ў галаву і тут жа замяняліся іншымі. Мусіць, з гэтай прычыны і гамонка паміж ёй і Чубарам ішла непаслядоўная, таксама блытаная. То гаспадыня пытала, як яго завуць і куды ён едзе, то раптам пачынала ўспамінаць, ж сама расла ў дзеўках, як гуляла з хлопцамі, і як яе засваталі, і як на запоінах бацька напіўся і выбіў у хаце акно…

Тым часам за дзвярамі замяўкаў кот, пачаў шкрэбаць па дошках. Яна паднялася з-за стала, упусціла ката на гэтую палавіну. Чубар праводзіў яе пажадлівым позіркам да дзвярэй, а калі вярнулася і зноў села, спытаў нечакана:

— І не баішся?

— Чаго?

— Ды от… немцы прыйшлі… а ты такая прыгожая…

— Мне ўжо за прыгажосць сваю быццам няма чаго баяцца, — адказала яна зусім спакойна, нават разважліва. — Усё роўна… Словам, што мне казаць трэба, сам бачыш. — Яны абое непрыкметна перайшлі ў размове на «ты». — Але, прызнацца, я не думала гэтак. Ды, мусіць, каб і думала раней, то таксама не стала б калаціцца ад страху. Жыццё такое… што кожны дзень не дае, а забірае нешта ад душы.

Чубар пагледзеў на яе, убачыў задумлівы твар, які зрабіўся, здаецца, яшчэ больш вабны, і адчуў раптам, што яму сорамна і

шкада жанчыны… Але ён перамог у сабе гэтае пачуццё, сказаў амаль весела:

— Хадзем са мной?

— Куды? — зусім не здзівілася яна.

— А куды я, туды і ты.

— Не, мне так нельга, — сказала яна проста, як умеюць гэта рабіць натуры шчырыя і непасрэдныя, — я за яго адказваю і перад Богам, і перад людзьмі… Без догляду ён не можа. Трэба, каб нехта заўсёды быў пры ім.

Чубар даўно — яшчэ з таго моманту, як зайшоў у хату — прыкмеціў, што пра мужа, які зрабіўся і вялікім няшчасцем для яе і, няйначай, ужо непамерным цяжарам, яна гаварыла без падкрэсленага шкадавання, але і без ценю раздражнёнасці ў голасе; адчувалася — тое, што здарылася з мужам, самым непасрэдным чынам датычыла і яе. Яна ўспрымала гэта з усведамленнем непазбежнасці і свайго абавязку перад ім. Таму Чубар ажно пашкадаваў, што не падумаў пра гэта перад тым, як рабіць сваё недарэчнае запрашэнне.

Але гаспадыня надзіва сама захацела прадоўжыць гаворку.

— Лепей ужо ты заставайся тут, — сказала яна без сарамлівай умоўнасці.

— Не, я павінен ісці, — усміхнуўся ён.

Яна падумала.

— Куды цяпер ісці можна?

— Дарог заўсёды багата, — няпэўна адказаў Чубар. — Куды хочаш, туды і ідзі.

— Але ж на гэтых дарогах цяпер неспакойна.

— Так, неспакойна.

— Тады лепей пачакаць тут, пакуль не ўляжацца гэта вайна. Не хочаш у хаце, можна знайсці ўтульнае месца ў лесе. А я да цябе прыходзіць буду. Хоць у вёсцы таксама можна перачакаць. Бачыш, лес адразу за хатай… Уцячы паспееш, калі немцы раптам заявяцца.

— Не, не ў гэтым справа…

— У мяне на столі сена ёсць, калі ў хаце не хочаш.

— Не, я не пра тое.

Чубар ажно дзіву даваўся, як лёгка было гаварыць з ёй, здавалася, пра самыя складаныя рэчы. Галоўнае, не трэба было нічога тлумачыць.

— Заб’юць цябе аднаго, калі будзеш гэтак бадзяцца, — уздыхнула яна.

— Чаму ты думаеш, што я адзін?

— О-о-о, мяне не падманеш! Чубар апусціў галаву.

— Бачыш, — нібыта выкарыстала момант яна, — я нават не таюся ад цябе. Кажу ўсё, як ёсць. Дзіўна, але сёння на мяне быццам найшло што. Я ж ніколі не была яшчэ такая.

Чубар выцер аб чысты ручнік рукі, падзякаваў за абед.

— А цяпер трэба ісці, — сказаў ён: раптам яму стала невыносна сядзець у гэтай хаце.

— Ужо? — неяк адчужана спытала яна, ускінуўшы галаву.

— Ага.

Чубар падышоў да акна, глянуў на вуліцу. Скрозь было пуста.

— Значыць, не застанешся?

— Не.

Ён узяў вінтоўку, пайшоў да парога. Тады і яна падалася следам.

У сенцах Чубар спыніўся.

— А можа, пабудзеш хоць да вечара? — усё яшчэ не хацела расстацца яна са сваёй думкай. — Я падвезла б цябе куды трэба. Схадзіла б у Гарэлічы. Там у мяне брат брыгадзірам. Дык даў бы каня калгаснага, а я адвезла б цябе, раз ужо не можаш інакай.

Слухаючы, Чубар прыхінуўся плячом да драбінаў, што былі прыстаўлены да сцяны, каб лазіць на паддашак, з удзячнасцю ўзяў жанчыну за руку. Падаючыся наперад, тая сцепанулася ўся ад прайшоўшай па целе гарачай хвалі, і Чубар з пакутлівай выразнасцю ўявіў сабе, як зараз адчуе на твары яе стоенае, але трывожнае дыханне.

## VIII

Нехта доўга соўгаўся за дзвярамі, шукаючы клямку ў хату, ажно ляскалі ў сенцах вёдры, што стаялі на лаўцы ўздоўж бакавой сцяны. Тады Зазыба памкнуўся чалавеку насустрач, расчыніў дзверы і, не чакаючы, пакуль той пераступіць парог, адступіў крокі на два на хату.

Увайшоў Мікіта Драніца.

Мікіта быў трохі выпіўшы і напускаў на сябе важны выгляд, але гэта яму не давалася: па-першае, постаццю ён для важнасці не выйшаў, а па-другое, вочы ў яго сёння бегалі так, нібыта ўранні яны сарваліся з цвіка, а ўвечары ніяк не маглі трапіць на сваё ранейшае месца. Вялікі, як сплюснуты, Мікітаў твар ільсніўся; з правага вуха вытыркаліся пакручаныя ў кольцы рудыя валасы. Мікіта, як некалі і бацька яго, недачуваў на адно вуха, можа, таму і выраслі адтуль гэтыя валасы, але ў адрозненне

ад бацькі сын доўга не прызнаваўся ў сваёй глухаце, хоць людзі ўсё роўна здагадваліся пра гэта: пры гаворцы Мікіта заўсёды цішэў, лаўчыўся падстаўляць чалавеку здаровае вуха. Але трэба аддаць яму належнае — у смешныя гісторыі, як гэта часта здараецца, Мікіта пакуль не пападаўся, неяк усё выкручваўся, быццам меў трайное чуццё.

— Як тэй таго, — кашлянуў Мікіта: у іх на дваіх, на Аксюту і на яго, было гэтае недарэчнае «як тэй таго». — Я к табе па справе, як тэй таго, — зноў кашлянуў Мікіта.

— Бачу.

Стаўшы спіной да Драніцы, Зазыба падкручваў кнот у пяцілінейнай лямпе, на якую пакуль хапала газы, скідаў нагар.

— Дык па справе я, як тэй таго, — у нерашучасці тым часам таптаўся ў парозе Мікіта.

— А хто цяпера так сабе ходзіць?

Язычок пабялелага полымя астаўся на кноце, і паламаны цень са столі Зазыбавай хаты пераскочыў на сцяну.

— Дак от… — Драніца ўжо выйшаў на сярэдзіну хаты, але па-ранейшаму ў ім нібыта захрасла што.

Зазыбу ад такой нерашучасці зрабілася смешна, і ён сказаў памяркоўна:

— Дак ці гавары ўжо адразу, ці сядай вон, — гаспадар паказаў на ўслон.

Драніца паслухаўся і ўтрапёна сеў, заклапочана глянуўшы пад ногі сабе — ці не панёс Марфе гразі з вуліцы.

Апрануты Мікіта быў па-восеньску: у доўгую, пашытую ў бабінавіцкага Шарэйкі фуфайку зялёнага колеру, як з вайсковага. Фуфайка даставала яму трохі ніжэй каленяў, была з шырокім поясам, які трымаўся па баках на мацерчатых вушках. Бабінавіцкі Шарэйка багата каму да вайны шыў такія фуфайкі, і дзядзькі шыкавалі ў іх па той і па гэты бок Бесядзі. На Шарэйкавы фуфайкі ў навакольных вёсках была ажно мода. Але на Драніцу адмысловая адзежына не ляжала, хутчэй вісела: усё Шарэйкава ўмельства гінула на ім як назнарок.

Зазыба акінуў Драніцу ўсмешлівым позіркам, успомніў, як гаварыў пра яго Парфён Вяршкоў, калі прыходзіў у той вечар.

Парфён нездарма нагадаў тады раённага ўпаўнаважанага па Верамейкаўскім сельсавеце Мяшкова. Сапраўды, Мяшкоў быў тым чалавекам, што паплаціўся-такі за сваю дружбу з Драніцам. Тады яны ехалі разам з мястэчка. Выклікалі ў Бабінавічы ўсё верамейкаўскае начальства — вядома, упаўнаважанага, таксама старшыню сельсавета Ягора Піліпчыкава і ўсіх старшынь калга-

саў — на нейкую куставую нараду. Але так павялося ўжо — дзе начальства, там і Мікіта Драніца. Той раз ён таксама выдумаў сабе справу ў Бабінавічах: сталі гаварыць, што верамейкаўскі крамнік Даніла Боц намачыў назнарок соль — цяжэй будзе, і Мікіта доўга абураўся, пакуль жонка не дазволіла сходзіць па соль у сельпо, за сем кіламетраў. І вось Мікіта напакаваў важкую торбу, прынёс на горбе да вазоў і закапаў глыбей у сена, што было на санях упаўнаважанага. Мерзнуць у мястэчку яму давялося да самага вечара. калі пасля нарады сельсавецкія і калгасныя старшыні сабраліся ў сельпоўскай краме, балазе на вуліцы стаялі калядныя маразы, якія нанач асабліва даймалі ў дарозе. Зазыба з Ягорам Піліпчыкавым паехалі з мястэчка адразу, адно пастаялі трохі са знаёмымі старшынямі на базарнай плошчы перад царквою — Зазыба наогул з маладых гадоў неахвочы быў да пітва, а Ягор Піліпчыкаў у той дзень чамусьці спяшаўся дамоў. Найдаўжэй у мястэчку затрымаўся Мяшкоў. Да яго і далучыўся Мікіта Драніца. Мусіць, яны ў краме доўга адзін аднаго пераважыць не маглі, але каня пасля ўсё ж неяк здолелі выкіраваць за мястэчка і пусціць па наезджанай дарозе на Верамейкі. Конь у Мяшкова быў прывучаны да бабінавіцкай дарогі — упаўнаважаны нечага часта ездзіў з вёскі ў мястэчка, казалі, што ў яго там жыла братава ўдава, таму вазакі і апынуліся неўзабаве ў Верамейках, каля пажарнай, дзе ў прыбудове была сельсавецкая стайня. Абое яны былі моцна п’яныя і ляжалі ў абдымках адзін у аднаго на халодным сене. Лейцы былі завязаны зашмаргам на Мікітавайназе. Калі стары Ціток убачыў іх каля пажарнай, на дварэ ўжо быў глыбокі вечар; на ўсім, на сонных мужчынах, на кані, што прывёз іх у вёску па сваёй ахвоце, ляжаў іней. Ціток ажно злякаўся спярша — гэта ж такі мароз, магло ўсё здарыцца! — але пачуў, што людзі дыхаюць, замітусіўся каля саней. Першага ён завёз упаўнаважанага. Той кватараваў у Сілкі Хрупчыка, і Ціток разам з Сілкам аднеслі нерухомага Мяшкова ў хату, паклалі нераздзяванага на ложак. Лягчэй было з Мікітам Драніцай. Аксюта нібы адчувала што і выбегла за вароты адразу, як заскрыпелі пад вокнамі палазы. «У-у-у, заліў недзе зенкі, як тэй таго!» — яна дала мужу кухталя і сама, як ваўчыца якая, кінула яго на плечы сабе, патарабаніла ў хату. Здаволены, што гэтак развёз людзей на спачын, Ціток паехаў адганяць каня, які дрыжаў на марозе ўсёй скурай. І толькі на другі дзень, ужо ад людзей, стары пачуў, што Мікіта Драніца па дарозе з мястэчка ледзь не адкусіў упаўнаважанаму Мяшкову вуха. Мікіта заўсёды, як напіваўся, страшна скрыгатаў зубамі, тады нават жалезным

чым разняць іх цяжка было. Але пра гэта ў Верамейках ведалі, і не знаходзілася дурняў падстаўляцца яму. Не ўбярогся адзін Мяшкоў. Калі яны ляжалі на возе ў абдымках, Драніца неяк дацягнуўся да ягонага вуха і пачаў жаваць. Уратавала трохі Мяшкова тое, што вуха само выслізнула з зубоў. Назаўтра Мяшкову давялося паехаць у бальніцу, каб там палапілі вуха.

А верамейкаўцы паднялі смех — маўляў, Драніца паквапіўся на чужое вуха, бо думае сваё памяняць. Людскі смех, вядома, мае свае адмоўныя і станоўчыя бакі, але Мяшкова праз той недарэчны выпадак неўзабаве забралі з Верамеек назад у Крутагор'е — упаўнаважаны гэтак нядобра скампраметаваў сябе.

Справа была даўняя, і пра яе цяпер успаміналася без ранейшае прыкрасці. Зазыба мог пасведчыць і тады, і цяпер, што вельмі рады быў ад'езду з Верамеек Мяшкова як упаўнаважанага. Да ўпаўнаважаных (а іх вясковыя людзі таксама называлі начальнікамі) у забяседскіх калгасах былі прывычныя таксама, як паўсюдна. Нямала іх перабыло ў Верамейках за мінулыя гады. Але Зазыба з нейкага часу пачаў заўважаць, што паміж тымі ўпаўнаважанымі, якія прыязджалі ў вёску да калгасаў, і тымі, якіх накіроўвалі сюды пасля, было пэўнае адрозненне. Першыя ўпаўнаважаныя, амаль без выключэння, няблага ведалі вёску з яе людзьмі, мелі ці то агратэхнічную, ці то ветэрынарную адукацыю. Тым часам сярод пазнейшых упаўнаважаных былі ўжо людзі іншага тыпу — часам некаторыя з іх не мелі ніякага дачынення да сельскай гаспадаркі, працавалі да гэтага недзе звычайнымі сталаначальнікамі, можа, пісарчукамі, якія няздольныя былі ўжо з ранейшай здатнасцю трымаць аловак у пальцах.

Якраз тады вось пачаў гуляць па беларускіх вёсках вядомы жарт пра аднаго ўпаўнаважанага, які не мог адрозніць грэчкі ад лубіну…

Мяшкоў таксама належаў да так званага другога тыпу раённых упаўнаважаных. А Зазыба якраз лічыў, што зусім не блага было б, каб такія ўпаўнаважаныя падалей трымаліся ад калгасаў, бо ў адрозненне ад папярэдніх, якія не толькі выступалі на агульных сходах, але таксама давалі сялянам парады, вучылі мужыкоў, як весці гаспадарку па шляху «інтэнсіфікацыі сельскагаспадарчай вытворчасці», гэтыя ўжо лічылі патрэбным загадваць і кіраваць; тады добра, калі такі ўпаўнаважаны п'яніца альбо ціхі лайдак, якому абы грошы ў раёне плацілі, а калі раптам трапіцца заця ты дурань ці, яшчэ горай, шчыры недарэка?

Таму Дзяніс Зазыба нікольні не пашкадаваў тады, як ад'язджаў з Верамеек упаўнаважаны Мяшкоў…

Успамінаючы цяпер пра ўсё гэта, Зазыба падумаў таксама і яшчэ пра адно — гэта пра Мікітаву здатнасць сыходзіцца з новымі людзьмі, якім выпадала доўга ці мала жыць у Верамейках, асабліва з тымі, што мелі дачыненне да ўлады. Удавалася яму амаль без перашкоды і напэўна «заводзіць дружбу», можа, якраз таму, што, апрача самаахвярнай гатоўнасці да паслуг — прынесці, падаць, — Мікіта яшчэ валодаў адчуваннем той невызначальнай адлегласці ў паводзінах, якая падабаецца багата каму і за якую часам шмат што даруецца. Усе ведалі Мікіту — яго неразборлівасць, перакідлівасць, і ніхто разам з тым не грэбаваў ім. Пакуль гаспадаром у Верамейках быў Чубар, Мікіта «вадзіў дружбу» з ім. Не стала Чубара — Мікіта выбраў сабе Брава-Жыватоўскага, які добраахвотна стаў у Верамейках паліцэйскім.

Зазыба цяпер бачыў Драніцу нібыта наскрозь. Ён здагадваўся, што той не так сабе прыйшоў сёння ў хату, што, няйначай, паслаў Мікіту нечага сюды Брава-Жыватоўскі.

Тым часам Драніца і сапраўды меў пэўнае заданне. Брава-Жыватоўскі падгаварыў яго пайсці да Зазыбы і забраць ордэн Чырвонага Сцяга, маўляў, хопіць, параскашаваў Зазыба з прыгожай бляшкай.

— А як не захоча, як тэй таго? — муляўся нейкі час Драніца.

— Тады пагразі, — навучаў Брава-Жыватоўскі. Але Драніцу ад гэтай прапановы моташна было.

— Ты ж паліцэйскі, а мне ён не аддасць вордзена, як тэй таго, — прабаваў выкруціцца з ласкотнага становішча Драніца: яму папраўдзе не хацелася ісці да Зазыбы з такім незвычайным даручэннем. — Мне яно, як кажуць, і не па кані і не па аглоблях, — даводзіў ён. — Трэба неяк па справядлівасці, як тэй таго, бо вордзен жа зарабіў на вайне Зазыба вон, а не мы з табой.

— Дзівак, але ж немцы і нам нешта могуць даць за такі ордэн. Гэта ж табе не абы-што. Некалі першы ордэн у Саветаў быў. Дык ці мала навошта ён немцам спатрэбіцца. Гэта як спраўны дакумент — пашпарт ці партыйны білет.

— Гм, а то яны самі парцейных бялетаў нарабіць не могуць! Бытта ў іх, як тэй таго, казённай паперы няма? Да і вордзен таксама няцяжка адліць. Для етага ж, як тэй таго, трэба толькі хвормачку мець.

— Могуць, але сапраўдныя дакументы альбо ардзяны ім таксама патрэбны. Тут важна нумар дакладна ведаць. Тады нідзе не засыплешся. Адным словам, Мікіта, шкандыбай да Зазыбы, патрабуй ордэн. Ды не палохайся калі што. А я ўжо з Адольфам пагавару, як у Бабінавічах буду. Можа, яны і табе які медаль дадуць за гэта.

І вось Мікіта Драніца сядзеў на ўслоне ў Зазыбавай хаце і злаваў на самога сябе — яму б пачынаць размову пра ордэн адразу, як пераступіў парог, а ён даў сябе ўгаварыць і рассеўся, нібыта прыйшоў у госці…

Было ажно горача дыхаць.

Нарэшце Мікітава злосць перайшла мяжу, ён крутануў галавой:

— Дак ета я па справе, як тэй таго! Сказаў ужо!

Зазыба падбадзёрыў:

— Гавары, якая ў цябе справа?

— Вордзен твой патрэбен!

Зазыба ажно сцепануўся.

— Каму гэта ён спатрэбіўся? — як чужым голасам спытаў ён.

— Германцам.

— Германцы з табой гаварылі пра мой ордэн?

— Канешне, гаварылі! — Мікіта адчуў у сабе ўнутраную ўраўнаважанасць: Зазыба нечага не закрычаў на яго і не пагнаў з хаты.

— Не хлусі, — нібыта не паверыў гаспадар. Тады Мікіта прызнаўся:

— Ета Брава-Жыватоўскі загадаў, як тэй таго…

— А ты і паслухаўся?

Сама па сабе гаворка пра ордэн у такім плане для Зазыбы не была надта нечаканай. Ён разумеў, што некалі — рана ці позна — яна павінна адбыцца.

Ордэн свой Зазыба схаваў яшчэ на тым тыдні ў маленькай кадушцы пад шулам, каля варот, і нават Марфе не сказаў пра гэта.

— Дак няма ў мяне ордэна ўжо! — зрабіў галузаваты твар Зазыба.

Драніца здзіўлена падняў галаву.

— Няма! —як у радасці кіўнуў Зазыба. Драніца тупа глядзеў на Зазыбу.

— Здаў я свой ордэн у ваенкамат, Мікіта, — здзекліва растлумачыў Зазыба і паказаў абедзве рукі далонямі ўгару — маўляў, паглядзі — пуста. — Браў жа з сабой, калі ганяў калгасных кароў. Таксама насіў на грудзях. Як ні кажы, а з ордэнам чалавеку давер большы. А ў Хатынічах, як дазналіся, што я вяртаюся ў Верамейкі, пазвалі ў ваенкамат. Самога во адпусцілі, а ордэн сказалі, каб здаў. Ну я і здаў. Так што позна твой Брава-Жыватоўскі спахапіўся. Каб былі тута Мікола Рацэеў ці Іван Хахол, дак і яны б не сталі хлусіць, сказалі б табе, што здаў я ордэн у Хатынічах. Вядома, цалей будзе.

Зазыба гаварыў з падробленым шкадаваннем у голасе, а па Мікітавым твары тым часам блукала паблажлівая ўсмешка — маўляў, ты, канечне, гавары сабе, а мы таксама не на адным гаросе раслі. Але вось Мікіта ўскочыў з услона, прабегся па хаце.

— Ты ета, Яўменавіч, як тэй таго, добра прыдумаў, — па-змоўшчыцку заўсміхаўся ён, — што здаў тама вордзен свой. — Мікіта ўжо разумеў, што Зазыбаў адказ ратаваў іх абодвух. — І сам цяпера, як тэй таго, непрыемнасці мець не будзеш, і мяне ад граху выслабаніў. — Ён спыніўся насупраць Зазыбы, які стаяў, прыхінуўшыся да сцяны, і плаксівым голасам пачаў даводзіць: — Ты думаеш, я вельмі хацеў ісці з етым да цябе? Да яшчэ страшыць? Ета ўсё Брава-Жыватоўскі, як тэй таго! Ён і цяпера, можа, слухае, як мы тута…

— Няхай слухае, — усім голасам сказаў Зазыба. Мікіта кінуў позірк на акно.

— Дак я перадам, як тэй таго, — таксама гучна сказаў Драніца, — што ты здаў вордзен!

— Так і перадай.

Бадай, гаворка паміж імі на гэтым магла скончыцца.

Мікітава шапка ляжала на ўслоне. Але ён не спяшаўся браць яе — адчуванне вінаватасці перад Зазыбам чамусьці затрымлівала яго ў хаце.

Як па-вясковаму, то Зазыбу варта было б усё ж патурыць Драніцу з хаты, аднак ён не рабіў гэтага, з аднаго боку, перасцярогу меў, каб не паставіць супраць сябе недарэку, які мог таксама балюча кусацца, а з другога, дык проста не хацелася заставацца аднаму на ўвесь вечар, бо Марфа яшчэ недзе гуляла на бабінах у Сахвеі Меляшонкавай. Да таго ж асаблівай прыкрасці ці якой брыдкасці Зазыба не адчуваў да Мікіты, можа, таму, што ведаў наперад, на што здатны гэты чалавек: так вось амаль усе ў Верамейках паводзілі сябе ў адносінах з ім.

— Не спяшайся, — сказаў Зазыба Мікіту, калі той нарэшце сам адолеў сарамлівую нерашучасць і гатовы быў выскачыць за парог. — Яшчэ ж не так позна. Нават бабы маёй няма.

— А што мне ў цябе рабіць? — зноў пачаў рабіць важны выгляд Мікіта. — Я сваю справу зрабіў, як тэй таго, цяпера магу ісці.

— Да пачакай, пагаворым. Цяпера ж у вас з Брава-Жыватоўскім усе навіны.

— Чаму раптам у нас?

— Дак…

— Я па сабе, а Брава-Жыватоўскі па сабе. Я ж не паліцэйскі.

— Я і не сказаў, што ты паліцэйскі.

Зазыба яўна хацеў улашчыць Драніцу, але таксама давесці сваё.

— Вы ж цяпера з ім як сябры-таварышы. Кажуць, нават разам хадзілі ў той дзень у мястэчка.

— Калі ета?

— Ну, як Брава-Жыватоўскі станавіўся паліцэйскім, — падказаў Зазыба.

— А-а-а, хадзілі, як тэй таго, тады хадзілі.

— Дак ты б расказаў, як яно было тама?

— Што мне расказваць. Я ж не сам хадзіў, як тэй таго. Ета ж мяне знарок браў туды Жыватоўшчык. Мовы іхняе не ведае, дак мяне, як тэй таго, браў.

— А-а-а, вон яно што-о-о, — усміхнуўся Зазыба. — Да ты сядай зноў, чаго стаяць?

— Мне трэба, як тэй таго, ужо ісці.

— Паспееш яшчэ. Нікуды не дзенецца твой Брава-Жыватоўскі… Нават калі пад акном стаіць.

— А чаму ета мой?

— Нешта ты адхрышчваешся сянні ад яго, бытта баішся чаго?

— Чаму ета баюся?

— Але самому, бачу, нічога ў мястэчку не перапала?

— Дак цяпера ж, як тэй таго, сяльпоўскія крамы не гандлююць.

— А нашы мужыкі спадзяваліся, што асэсарам вернешся з Бабінавіч.

— Навошта мне асэсар ваш, — як пра нешта самае звыклае, сказаў Драніца і пацiснуў плячамі. — Кажу, як тэй таго, браў мяне Жыватоўшчык, каб памог яму гаварыць з немцамі!

Зазыба ўсміхнуўся:

— Але ж Брава-Жыватоўскі от…

— Я за яго не адказчык, як тэй таго. Мне самому трэба жыць, — нарэшце нібыта абурыўся Драніца.

Тады Зазыба зарагатаў:

— Але ж разумееш таксама!..

— Дак тута няма чаго, як тэй таго, разумець, — пахваліўся Драніца.

— Гэта добра, што так думаеш, — гулліва падміргнуў Зазыба: ён увесь час адчуваў сваю вышэйшасць над Мікітам. — А торбу дак не хапіла галавы прыхаваць добра!

— Якую торбу? — глянуў Мікіта пасалавелымі вачамі.

— А то сам не ведаеш?

Драніца пачаў хутка варочаць вачамі.

— Якую торбу? — ужо неяк па-сабачаму вякнуў ён.

— Падумай, дак успомніш.

— А-а-а, вон пра што ты, як тэй таго! —нарэшце прытворна сказаў Драніца. — Дак то…

— Да ўжо ж…

Сёння, бадай, і не варта было гаварыць, як хлапчукі адшукалі на Драніцавым гародзе торбу з паперамі, хапіла б аднаго, што Мікіта нібыта паверыў Зазыбавай выдумцы пра здадзены ордэн, але… чорт, як кажуць, цягнуў за язык.

— Я не вінавачу цябе, — гаварыў Зазыба, — што ты прымушаў хлапца пісаць пад дыктоўку пісьмы на нас, гэта на тваім сумленні, хоць, канешне, ніхто не спадзяваўся, але дзе твая галава была, калі ты хаваў тую торбу сярод белага дня?

Драніца па-ранейшаму плюскаў вачамі, але ўжо, напэўна, лавіў момант, каб неяк перапыніць Зазыбу. Зазыба нарэшце ўзбурыўся:

— Дак яе ўвосень маглі нават свінні твае выкапаць лычамі.

— Я толькі даведаюся! — крычаў Драніца: па-першае, ён сапраўды вельмі абураны быў тым, што нехта выкапаў торбу з тымі паперамі, а па-другое, крыкам хацеў забараніць Зазыбу сарамаціць яго. — Дзе яна?

Зазыба здзівіўся, што Драніца ажно люты бывае ў злосці. Сказаў:

— У возеры мальцы затапілі.

Драніца недаверліва глянуў на Зазыбу, нагнуўшы галаву, падумаў.

— Не дай Бог, як тэй таго, вернецца Шчамялёў, — закапыліў губу ён. — Пападзе вам тады.

— А больш, мусіць, табе, — з’едліва сказаў Зазыба. — Я ж здагадваюся, гэта ж ты пабег тады ў Крутагор’е да выпрасіў у кагосьці тама свае паперы. Але не думаю, каб табе сам Шчамялёў іх аддаваў. Можа, стораж які ці недарэка. Бо ты, няйначай, паабяцаў сам іх недзе спаліць. Да не спаліў, а закапаў. Так што табе і пападзе! —Ён падміргнуў Драніцу: — Дак, думаеш, Шчамялёў яшчэ вернецца?

Тады Драніца перасмыкнуў левай шчакой, падаўся да парога.

— Яшчэ ж усё можа быць, як тэй таго, — кінуў ён глуха адтуль.

— Во, во, — падхапіў Зазыба, — а ты ўжо новую дружбу займеў!

— Ты мяне не вучы, — зноў ачомаўся Драніца. — Лепей пра сябе думай, як тэй таго. — Ён павярнуўся, спытаў: — Дак што перадаць Брава-Жыватоўскаму пра твой вордзен?

— Тое і перадай, што пачуў.

— Значыць, ты здаў вордзен? — нібыта для сябе ўдакладніў Драніца.

— Здаў, — з прытворнаю абыякавасцю адказаў Зазыба.

— Дзе ета?

— У Хатынічах.

— Дзе ета Хатынічы?

— За Карачовам.

— Значыць, за Карачовам? Як ганяў туды кароў, як тэй таго? Далёка ета?

— Вёрст дзвесце будзе.

— Ага-а-а…

Драніца памуляўся яшчэ ў парозе, быццам прыгадваў, як гаспадар перад вялікай дарогай, ці ўсё неабходнае ўзяў, пасля нечага махнуў рукой і, не развітваючыся з Зазыбам, падаўся з хаты.

Зазыба паслухаў, пакуль заціхлі пад вокнамі Мікітавы крокі, а тады тупнуў нагой і нібыта ўпершыню абурыўся:

— Цьфу, паганцы, ордэна ім захацелася!

Раптам з нейкім зусім новым і пякучым пачуццём пачало прыгадвацца тое, што, здавалася, станавілася ўжо гісторыяй і для яго.

Ордэн Чырвонага Сцяга Дзяніс Зазыба атрымаў з рук Сямёна Міхайлавіча Будзённага ў студзені месяцы 1921 года. Тады будзёнаўская конніца апынулася паблізу той мясцовасці, дзе гаспадарылі ўжо нейкі час махноўцы.

Але спярша Зазыба ўсё ж паваяваў у дывізіі Шчорса, дакладней — у брыгадзе бацькі Бажэнкі. Быў ён нават у ліку тых нямногіх, хто суправаджаў па чыгунцы атручанага, але яшчэ пакуль жывога легендарнага камбрыга.

За трохвосным салонам-вагонам тады рухаліся дзве цяплушкі з паўротай узброеных кулямётамі таращанцаў. То былі пераважна ветэраны брыгады. Разам з ветэранамі нёс і Зазыба апошні каравул на пляцоўках вагона, у якім везлі Бажэнку.

На станцыі Бярдзічаў атрымалі тэлеграму: «Кіеву пагражае небяспека наступлення Дзянікіна Кропка Вязіце Бажэнку Жытомір да мяне Кропка Шчорс».

Калі ў Жытоміры да Бажэнкі прыйшоў Шчорс, той адно сказаў:

— Мікола, мне дрэнна. Атруціла мяне контррэвалюцыя. — І панікнуў на плячо маладога начдзіва.

Ужо ўсе ведалі, што Бажэнку не багата заставалася жыць — дактары, якія сабраліся на кансіліум, вынеслі свой прысуд: «Цяжкі выпадак атручання, становішча безнадзейнае, дапамога спазнілася, да таго ж — хвораму пяцьдзесят шэсць гадоў».

Зазыбу прыйшло ў галаву, што тады Бажэнку было амаль столькі, колькі яму цяпер…

Цела памёршага Бажэнкі везлі па зялёным житомірскім бульвары на артылерыйскім лафеце. Тым часам за горадам чуўся гул кананады.

Пасля расказвалі, што пятлюраўцы, якія ўварваліся ў Жытомір на другі дзень, зрабілі вялікі здзек з магілы адданага бальшавіка і славутага камандзіра…

Дывізія пачала адступаць па ўсім фронце. Багунцы, таращанцы і ноўгарад-северцы не маглі стрымаць варожы націск: ад Луцка і Радзівілава наступалі часці белапольскага корпуса генерала Галера, з паўднёвага захаду — пятлюраўцы, а на Кіеў імкліва рухаліся войскі генерала Брэдава.

Недалёка ад Палоннага, што за Шапятоўкай-Падольскай, Зазыба быў паранены: асколак ад снарада парваў яму правую лытку.

Параненага Зазыбу павезлі сябры на бронецягніку ў Чуднава і паклалі там у шпіталь. Рана доўга гнаілася — не хацелі мускулы зрастацца, але паступова жывое ў іх дало свой уток, і Зазыба пачаў хадзіць. Але да таращанцаў ужо не вярнуўся. Яго накіравалі ў Першую Конную кулямётчыкам на тачанку.

І вось аднаго разу махноўцы атакавалі будзёнаўскі раз’езд. Некалькі чырвоных коннікаў было забіта ў перастрэлцы. А Зазыбу махноўцы ўзялі жывым. Канвойны махновец пагнаў палоннага перад сабой, відаць, у штаб. Зазыба ў думках ужо развітваўся з жыццём. Але неспадзявана ім сустрэлася па дарозе бандыцкая тачанка, і канвойны загаварыўся з сябрукамі, забыўшыся на нейкі час пра палоннага. Тады Зазыба і рашыўся на подзвіг: як згледзець вокам, выхапіў у канвойнага шаблю і пачаў секчы ёю з усяго пляча махноўцаў — спярша распаласаваў свайго канвойнага, а тады адсек галовы і тым, што сядзелі на тачанцы. Махноўцы нават рэвальверы не паспелі выняць, не тое каб з кулямёта стрэліць.

Праз колькі дзён чырвоны камандарм прышпіліў да Зазыбавых грудзей ордэн Чырвонага Сцяга і прачытаў перад строем коннікаў такую пастанову: «Ад імя Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саветаў рабочых, сялянскіх, чырвонаармейскіх і казацкіх дэпутатаў Расійскай Сацыялістычнай Федэратыўнай Савецкай Рэспублікі Рэвалюцыйны Ваенны савет 1-й Коннай Чырвонай Арміі на пасяджэнні 22 студзеня 1921 года пастанавіў: узнагародзіць ордэнам Чырвонага Сцяга чырвонаармейца 4-га палка асобнай кавалерыйскай брыгады —

і прозвішча адпаведна назваў, таксама імя, імя па бацьку — за тое, што той, будучы захоплены белабандытамі ў палон, уцёк ад іх і захапіў тачанку з кулямётам».

Багата што, дужа багата мог прыгадаць сёння Зазыба…

Нарэшце ён адчыніў філёнкавыя дзверы ў тую хату, дзе сядзела за сталом Марыля і чытала нейкую кніжку, трымаючы аберуч.

— Мы табе не пашкодзілі сваім крыкам? — ціха гукнуў ён.

Дзяўчына павярнула галаву, усміхнулася:

— Не.

— Але ці не пара нам, дзеўка, падавацца ў мястэчка? А то ж я паабяцаў тваім… Дак цяпера во паспакайнела, здаецца. Можа, паедзем?

Зазыбу падалося раптам, што Марыля пасля ягоных слоў як насцярожылася — усмешку на яе прыгожым твары нібыта патушыла палахлівае здзіўленне…

Ужо быў недзе позні вечар.

У вокны, быццам чужая, пацяху стукалася з палісадніку галінка, падобная на нейкую жывую істоту. Вецер, які парэдзіў, а затым размахаў па небе палягчэлыя хмары, страсаў дажджавыя кроплі.

Падсыхала, як не шэрхнучы, настылая зямля.

У горкім палыне за Зазыбавым дваром даспявала патрывожанае лета.

У тую ноч за возерам, на сухой імшары, неспадзявана затрубіў лось, б’ючы капытамі прымоўклую зямлю. Гэта быў першы выгнаны вайною лось, які прывандраваў сюды, за Бесядзь, аднекуль з далёкае Бярозаўскай пушчы.

У-е-е-е-о-о-о…

Раней ласі яшчэ лічыліся гаспадарамі сярод звяроў і ў забясецкіх лясах. Магутныя, яны блукалі ў сваёй зацятай маўклівасці па звыклых, адным ім належачых сцежках, гладалі на маладых дрэвах кару, а калі наставаў час восеньскага гону, шалелі ад любоўнага непакою; рагалі тады выходзілі з чашчобы і падаваліся бліжэй да расцяробаў на пошукі пакорлівых ласіх, што таксама знемагалі ад любоўнай страсці — пры гэтым яны станавіліся яшчэ больш дужыя, глухія да небяспекі і небяспечныя самі.

Ласям было прывольна ў пракаветнай пушчы. Часам яны пераплывалі Бесядзь, і тады іх можна было бачыць каля вёсак, разам са свойскай жывёлай. Асабліва прываблівала сахатых да чалавечага жылля вясна, калі пачыналіся так званыя вандроўкі.

Але наставалі, як кажуць, благія часы. У шведскую вайну абедзве арміі — і шведская і руская, якія адну восень манеўравалі

таксама і паміж Сожам і Бесяддзю, — харчаваліся пераважна ласіным мясам. Тады забесядскія лясы недалічыліся багата сахатых. Вайсковыя каманды палявалі на іх скрозь, здабываючы танна мяса, за якое не трэба было плаціць ні крэйцара, ні рубля. У часе паўстання Вашчылы таксама шмат загінула гэтых насельнікаў пушчы. Радзівілавы уланы ганяліся за ласямі аднолькава, як і за паўстанцамі. У тыя гады ў еўрапейскіх краінах пайшла мода на ласіны — скураныя рэйтузы. Добрыя ласіны каштавалі вялікія грошы, і уланы, пільнуючы ў пушчы паўстанцаў (за кожнага злоўленага ці забітага Вашчылавага мужыка князь плаціў асобна), не забываліся пра ласіныя стаянкі. Для іх гэта быў промысел: адзін — на паўстанцаў, другі — на сахатых. Але больш за ўсё пагінула ласёў пасля, калі распрадаваліся каронныя землі. Тады мясцовыя паны — і бабінавіцкія, і белаглінаўскія, і тыя, што мелі маёнткі далей ад ракі, — заманьвалі да сябе замежных купцоў і прадавалі ім (самім жа некалі дасталіся амаль задарма) шчоглавыя сосны і таўшчэзныя дубы, пад якімі, можа, балявалі самі радзімічы. Шляхі зносін адсюль былі зручныя: па Бесядзі павязаны ў плыты лес трапляў поўнай вадою ў Сож, адтуль па Дняпры — у Прыпяць. Прагныя купцы пляжылі забесядскую пушчу не адзін і не два гады, пакуль не выклеймавалі самае лепшае, што прыгодна было для прамысловага ўжытку. На вызваленых дзялянках пачалі будавацца сяляне — спярша беглыя, прыгонныя бабінавіцкіх і белаглінаўскіх паноў, асабліва пасля паўстання ў Крычаўскім старостве, калі багата хто ратаваўся ад уланаў; затым настаў час, што паны прымусам пачалі перасяляць за Бесядзь мужыкоў, каб тыя пашыралі панскія землі. Паступова чалавек сам станавіўся гаспадаром у пушчы. Ласі, ратуючыся ад яго, падаваліся на балотныя выспы. Дзякуючы доўгім нагам, рассунутым капытам, яны маглі лёгка трымацца на купінах, а там, дзе перашкаджала багна, прабірацца паўзком. Але і на балотных астравах нядаўнія гаспадары пушчы не знайшлі сабе надоўга спакою…

Здарылася так, што менш як за дзве сотні гадоў сахатыя перавяліся за Бесяддзю цалкам — адны былі панішчаны, а другія па сваёй ахвоце пакінулі няўтульныя мясціны. Паступова пазарасталі за імі патаемныя сцежкі; больш ніхто не знаходзіў на расцяробках, пасля восеньскага гону, цяжкія ласіныя рогі. Здавалася, ужо ніколі сахатыя не вернуцца за Бесядзь.

І вось у жнівеньскую ноч сорак першага года зноў затрубіў непадалёку ад Верамеек лось:

— У-е-е-е-о-о-о…

Аслаблены адлегласцю, ласіны рык быў падобны на глухі стогн. Ласі пачынаюць трубіць звычайна ў канцы верасня. Менавіта тады ў іх пачынаецца восеньскі гон. І першая падае голас ласіха:

— У-е-е-е-е…

Але гэта была не ласіха. Гэта быў лось. Вялікі і гарбаносы, ён стаяў цяпер на імшары, і ў начным лесе выступалі над ім шырокія, на сем вырастаў (па адным на кожны год), рогі. На кароткай шыі, якая пераходзіла адразу ў мускулы, дзе хавалася ўся ягоная сіла, вісела доўгай барадой завушніца.

Побач струніла ножкамі ласянё — маўклівае і насцярожанае.

Лось падаваў голас не дужа часта, быццам слухаў пасля сябе ці чакаў, што нехта абавязкова адзавецца на яго.

Пакуль трапіць сюды, на гэту імшару, была пройдзена доўгая і небяспечная дарога. Яна стаяла ажно ўваччу.

Адбылося ўсё неспадзявана.

Недзе пасярод гарачага дня, калі ва ўсе вочы глядзела ліпеньскае сонца і не было ратунку ад сляпнёў нават у пушчы, сахаты патупаў да ракі. Рака была шырокая, з вялікімі, нібыта азёры, затокамі, па берагах якіх рос паміж асакі недаўгавечны дзягіль. На вадзе ўжо амаль цэлае лета сушыліся белыя і жоўтыя гарлачыкі, якія пахлі яму пратухлай рыбай. Здавалася, яны былі невынішчальныя тут — не паспявалі адны адцвісці і асыпацца, як распускаліся новыя. Кожны раз у затоках сахаты бачыў побач з прыгожымі гарлачыкамі на круглым лісці зялёных, з вырачанымі вачамі жаб. Даволі было падысці да вады, як жабы спалохана саскоквалі з плыткага лісця, са звонам бултыхаліся ў ваду, быццам хто кідаў з берага невялікія дзічы.

Сахаты нарадзіўся ў гэтай пушчы. Выхадзіў яе скрозь. Як свае, ведаў і затокі на лузе. У адной, напрыклад, расла вадзяная бульба, і ён ласаваўся ёю, хоць дзеля гэтага даводзілася ныраць аж на самае дно. Сёння сахаты таксама збіраўся ласавацца бульбай; да таго ж у затоцы можна было ўратавацца ад назойлівых сляпнёў, таму ён абмінуў паляну, дзе рос бружмель, і па дарозе — па дзвюх ледзь прыкметных у траве каляінах — прайшоў з апушчанай галавой да павароткі, што вяла праз луг да высокага карункавага моста на рацэ. Неўзабаве пачуў наперадзе незнаёмы пах гары і яшчэ нечага нязвыклага. Сахаты пастаяў на заценёнай дрэвамі дарозе, панюхаў густое паветра і рушыў далей, пагарджаючы небяспекай.

Людзей ён убачыў на другой паляне, непадалёку ад моста. Ускрай паляны стаялі грузавікі — яны былі прыхаваны пры-

вялым галлём, нібыта таксама ратаваліся ад сляпнёў. Пасярод паляны глядзелі ў неба гарматы. Людзі перамаўляліся між сабой, рабілі нешта каля машын і зусім не зважалі на сахатага, які стаяў на голым месцы і ў здзіўленні пазіраў на ўсё, што адбывалася вакол. Але аднекуль з гары, нават вышэй з-за дрэў, раптам пачулася басавітае гудзенне, падобнае спярша на знаёмы лугавы зык. Пастулова яно вырастала. Людзі пачулі яго і адразу кінуліся да гармат. Не паспеў сахаты глянуць на неба, як у тым баку, дзе вісеў над ракой мост, грымнула нешта на ўсю моц, ажно скаланулася на многа кіламетраў пушча. Тады бабахнулі адна за адной гарматы на паляне, шуганулі ў неба чырвоным полымем. Лось ад нечаканасці ажно прысеў на заднія ногі і праз момант скочыў наперад, цаляючы паміж гармат, што выкідвалі з жэрлаў агонь з дымам, ад якога не стала чым дыхаць. Гэта нагадвала сабой навальніцу, але пры навальніцы ўсё ж было спакайней, бо не калаціліся так адразу зямля і неба. На шляху былі густыя зараслі, і сахаты, ломячы іх, рынуўся напраскі — у ім цяпер нібыта пабольшала моцы. Хоць і бег ён стрымгалоў, але на лузе апынуўся ўжо тады, як самалёты, падзяліўшыся на дзве групы, рабілі апошні заход на мост — адна група, лета-коў шэсць, спрабавала скінуць бомбы на мост, а другая, трохі большая, цаляла па той паляне, адкуль стралялі па іх гарматы. За ракой быў працяг пушчы, і сахаты кінуўся ў ваду яшчэ са страху, пераплыў самую быстрыню і выскачыў на другі бераг. Вочы яго ашалела кружыліся, зыркалі скрозь крывавы туман вакол. Але па гэты бок ракі быў ужо другі свет, прынамсі, не бухалі, скаланаючы зямлю, бомбы. А неўзабаве і наогул стала ціха. Толькі яшчэ недзе запозненна і зусім не страшна паліла ў неба хуткастрэльная гармата. Можна было вяртацца назад за раку, на знаёмыя тамашнія сцежкі, але сахаты не спяшаўся. Пасля перажытага гэтак нечакана страху ён нібыта растраціў сваю звярыную здольнасць рэагаваць на знешнія праявы.

Як зайсці сонцу, яшчэ два разы прыляталі самалёты, і столькі ж разоў абрыналася на мост і на зямлю гарачае пекла. І кожны раз гэта адпуджвала сахатага ад ракі. Нарэшце ў яго і зусім не стала ахвоты вяртацца дамоў. Абначыўся ён у незнаёмым, затое спакойным месцы — на круглым расцяробе, дзе была мяккая трава.

Не пасмеў сахаты пераплысці раку і на другі дзень, бо зноў прыляталі самалёты, а калі надумаў паспрабаваць шчасця на трэці, стала позна — крокаў за паўтараста ад берага, мусіць, за адну ноч (удзень дакладна не было іх) з'явіліся акопы. Гулі

аўтамашыны. Як і на той паляне, што за ракой, зноў было поўна людзей. Але цяпер сахаты не падыходзіў да іх блізка. Страх трымаў яго на адлегласці.

На пяты дзень сахаты неспадзявана сустрэў маладую ласіху з ласянём. Яны таксама ўцяклі сюды ў той дзень, калі наляцелі самалёты на мост. Побач з іхняй стаянкай у балоце разарвалася бомба. Асколкамі быў забіты стары, але яшчэ дужы лось, які неадступна хадзіў за ласіхаю з самае восені.

У лася яшчэ пакуль не ўзнікла пачуццё стаднасці, але адзінота ў гэтай калатэчы зрабіла звера падатлівым, і ён адразу далучыўся да ласіхі з яе малым, больш таго, узяў на сябе клопат апекаваць над імі. Першае, што зрабіў сахаты пасля сустрэчы, гэта адвёў ласіху падалей ад небяспечнага ўзлесся, на верасы, куды, здавалася, не павінны былі ўжо дасягаць людзі са сваім грымотным агнём. Але дарэмна ён спадзяваўся. Як толькі пачаліся баі, снарады сталі залятаць і на верасы. Тады сахаты вырашыў канчаткова пакінуць пушчу. Амаль без спачыну яны ішлі першы дзень, пасля другі, нарэшце перайшлі шашу, але грукат, які пачаўся каля ракі, усё не сціхаў, нібыта гнаўся за імі. І кожны раз, як узыходзіла нанава сонца, яны бачылі яго па левы бок ад сябе. Нарэшце настаў час, калі здалося, што самае жахлівае засталося ззаду — у наваколлі неспадзявана заціхла, і толькі ў небе калі-нікалі пралятаалі самалёты, але цяпер яны гулі высока.

Няшчасце здарылася на лясной дарозе… Як і заўсёды, першы на яе ступіў сахаты. Ён ужо быў, здаецца, на сярэдзіне, калі ўбачыў чалавека ў шэрай касцы, з чорным аўтаматам. Чалавек таксама заўважыў яго, на нейкі момант ажно збянтэжыўся ад нечаканасці, але хутка спахапіўся і стаў цэліцца. Тады сахаты напружыніўся ўвесь і скочыў цераз канаву на другі бок дарогі. За ім кінулася ласіха. Але адбегчыся ёй перашкодзіла ласянё. Яно раптам забавілася на дарозе. Ласіха адчула гэта, спынілася. Тады і пачулася траскучая чарга. Амаль усе кулі, выпушчаныя з аўтамата, трапілі па цэлі. З гарачкі ласіха яшчэ зрабіла некалькі вялікіх скачкоў, але не ўтрымалася на нагах, павалілася на бараўы пясок у сасонніку, які засціў дарогу.

Сахаты перамог страх даволі хутка, але спазніўся. Ласіха была нежывая. У раскрытых вачах яе застыла жахлівая пустата. Над забітай стаяла ласянё. Яно, можа, нават не разумела яшчэ, што здарылася.

І вось сахаты прывёў ласянё сюды, за Бесядзь…

## IX

Зазыбава Марфа расчыніла на два бакі вароты, адкінула на загавальню дошку, каб можна было праехаць на запрэжаным кані, і заклапочана пабегла ў хату затуляць засланку.

Зазыба такі рашыўся ехаць у мястэчка.

Быў вялікі Спас — дзевятнаццатага жніўня. Пры немцах у бабінавіцкай царкве ўжо ішла служба, і сёння ў мястэчка з Верамеек падаваўся не адзін Зазыба: набожныя вясковыя бабы недзе былі са сваімі кошыкамі — бралі свянціць яблыкі — за Бесяддзю.

Сёння першы раз за колькі гадоў было чуваць у Верамейках, як званілі на бабінавіцкай царкве званы. І слухаць іх павыходзіў багата хто з вёскі. Спярша верамейкаўцы падумалі, што гэта далятаў з-за Бесядзі нейкі іншы гук, можа, таксама выкліканы вайной, бо нязвычна ўжо ім было чуць царкоўны звон, урэшце, яны адвыклі ад яго, а тады бабы ды старыя дзядзькі вырашылі ўсё ж — няйначай, зазванілі ў мястэчку да ютрані. Розныя па тоне званы, бы перагукваючыся ды даганяючы адзін аднаго, зліваліся часам у роўны гул, хоць і не надта стройны, але музычны. Аднак адзін звон, на нізкай ноце, часцей за ўсё нібыта пазніўся, і гук яго вылучаўся сярод іншых неяк нечакана і вельмі журботна.

Зазыба таксама не адзін раз чуў з Бабінавіч «благавест». У ім заўсёды нешта як жывое. Ці то здаралася гэта надвечар, у Вялікі пост, калі і неба, і снег рабіліся амаль аднолькавага колеру, ці то пачыналася раным-рана напрадвесні, калі выходзіла з берагоў і шырока разлівалася Бесядзь, але кожны раз, як толькі чулася першае бомканне званоў, усю яго істоту запаўняла зусім новае пачуццё, якое праганяла некуды будзённы клопат і ўсё іншае, чым жыў ён у той момант.

Сёння Зазыба таксама пачуў далёкую, рознагалосую і нечаканую гамонку званоў і неяк міжволі сіліўся разгадаць яе; яму нечага здавалася, што гэта адным часам і мінулае, патрывожанае імі, і будучае, пра якое нельга было пакуль даведацца, уставалі і напаміналі аб сабе.

…Пасярод Зазыбавага двара стаяў, запрэжаны ў калёсы на жалезным хаду, буланы конь — з тых, што пакінулі калгасу ўзамен артылерысты. Конь быў раскаваны і не кульгаў. Ён стрыг вушамі, пазіраў на сябе ў зацененае акно Зазыбавай хаты. Марыльчыны рэчы ляжалі на возе, прыхаваныя травой з-пад касы, а сама дзяўчына перад дарогай поўная была непакою. Ужо з самага рання яна хапалася за ўсё — і хацела пасабіць у хаце

гаспадыні, якая таксама затужыла перад расстаннем, і бралася прагнаць у статак карову. Але Зазыба па-бацькоўску папракнуў:

— Ты глядзела б лепей за сваім, каб усё парадкам выйшла. Не забудзься чаго…

Марыля тады сунялася трохі, але непакой не прайшоў. Цяпер ён быў увесь у яе вачах.

Не дзіва, што дзяўчына хвалявалася перад паездкай. Для яе Бабінавічы былі незнаёмым мястэчкам, якое бачыць давялося адно на карце. Мястэчка стаяла на вялікай дарозе, якая ў вайну зрабілася стратэгічнай, і ёй, армейскай разведчыцы, выпадала цяпер не толькі жыць у гэтым мястэчку, але таксама выконваць адказныя заданні камандавання. Пакуль фронт стаяў непадалёку, кіламетраў за шэсцьдзесят, а месцамі нават бліжэй, гэта мела асаблівае значэнне, бо праз Бабінавічы рухаліся тыя матарызаваныя часці, якія разам з танкавай групай былі павернуты за Крычавам на паўднёвы напрамак.

Для разведкі, на думку армейскага камандавання, Марыля мела дзве перавагі — прыгажосць, якая магла спрыяць у небяспечнай рабоце, і веданне нямецкай мовы. Гэта і вырашыла справу, калі ў штабе 13-й арміі абмяркоўвалася пытанне, каго пакінуць у Бабінавічах. Дзейнічаць Марыля павінна была адна (групу ў невялікім мястэчку не адважваліся пакідаць) і пад сваім сапраўдным прозвішчам. Ёй амаль нічога непатрэбна было выдумляць у легенду — яна і сапраўды нарадзілася ў вялікім рабочым пасёлку, што за Тулай, але вучылася ў Беларусі; як пачаліся масавыя налёты нямецкай авіяцыі на прыдняпроўскі горад, дзяўчына, разам з іншымі, падалася на ўсход — яна ўцякала ад немцаў дамоў. Але не паспела. За выключэннем гэтага — «не паспела», такім чынам, усё было праўдай. І тым не менш вопыту разведчыцы Марыля не мела: адно скончыла кароткатэрміновыя курсы пры штабе па рабоце на рацыі ды пазнаёмілася ў агульных рысах з прынцыпамі вядзення армейскай разведкі.

Спярша, калі непадалёк ад Крутагор’я, у Клімавіцкай Родні, яшчэ стаяў штаб 13-й арміі, было намеркавана накіраваць Марылю адразу ў мястэчка. Але хтосьці з палітупраўлення арміі, можа, сам брыгадны камісар Крайноў, параіў разведаддзелу звязацца з Крутагорскім райкомам партыі, і Пракоп Маштакоў прапанаваў тады зрабіць іначай. Уладкаваць Марылю ў мястэчка павінны былі староннія людзі — альбо кулігаеўскі Сідар Раўнягін, альбо верамейкаўскі намеснік старшыні калгаса Дзяніс Зазыба. Вайскоўцы нечакана спынілі свой выбар на апошнім. Тады і паклікалі Зазыбу ў Кулігаеўку да Сідара Раўнягіна.

Зазыба браўся за даручэнне з вялікім запасам спакою — ён, вядома, яшчэ ў той дзень, як хадзіў у Кулігаеўку і гаварыў з Пракопам Маштаковым, зразумеў, што можна нават за адно знаёмства з Марыляй паплаціцца жыццём у немцаў. Але разумеў ён і тое, што цяпер ад кожнага, хто меў сумленне і ўсведамляў сваю адказнасць перад краінай, патрабавалася не толькі намаганне фізічных і духоўных сіл — бадай, найважней было падрыхтавацца ахвяраваць сабой. З адным Зазыба ніяк не мог пагадзіцца — гэта чаму раптам першая ў ахвяру сябе павінна была прынесці Марыля! Ажно крыўдна было за дзяўчыну — у Верамейках каторы дзень вольна жылі мужчыны-дэзерціры, той жа Раман Сёмачкін, Брава-Жыватоўскі, а яна мусіла падавацца з вёскі і, вядома, не дзеля сённяшняга Спаса. Крыўда гэтая мела пад сабой і іншы грунт, які таксама паддаваўся тлумачэнню. Датычылася гэта ўжо асабіста Зазыбы, дакладней кажучы, не самога Зазыбы, а яго жонкі, Марфы. У адрозненне ад мужа Марфа па-ранейшаму нічога не ведала пра Марылю і тым больш не здагадвалася, таму ёй вельмі няўцям было, чаму дзяўчына павінна недзе шукаць сабе прытулку, калі можна пажыць у Верамейках. Сёння Марфа нават не вытрымала, сказала мужу, як той ішоў на ўсходзе сонца касіць траву на воз. Аднак дарэмна: Зазыба не стаў гаварыць з ёй пра гэта. І вось цяпер са шкадаваннем бачыў, як нудзілася Марфа.

Марыля тым часам нібыта не месцілася ў сабе, нечым, можа, сваім насцярожаным неспакоем, нагадвала птушку, якая кожную хвіліну магла паляцець. Яна нават прыбралася ў дарогу — на сукенку накінула адмысловую цёмна-зялёную кофтачку, якая, здавалася, павялічвала яшчэ зусім дзявочыя грудзі.

Зазыба агледзеў воз, сказаў:

— Я мяркую, пара нам…

Марфа быццам чакала гэтых слоў — памкнулася да Марылі, прытуліла на нейкі час да сябе, а тады пачала благаслаўляць. Марыля стаяла зусім ціхманая, прымала чужую ласку і чужое хваляванне, як і належыць чалавеку, які прыжыўся ў доме, — але не паспела Марфа схаваць па звычцы пад фартух свае пасінелыя рукі, як Марыля сама кінулася да яе, нібы да роднай.

Зазыба паглядзеў на расчуленых жанчын і сказаў грубавата:

— Ладна, сядай ужо!

Марыля адарвалася ад Марфы, ступіла на драўляную падножку і села на мяккую траву, засланую паласатай дзяругай.

Марфа сказала:

— З Богам! — і пазначыла шчопацем правай рукі перад сабой крыж.

Тады Зазыба ўзяў за цуглі каня, вывеў за вароты.

— Зачыняйся тута, — кінуў ён жонцы. Акаваныя колы адразу паехалі па тупкай сцежцы.

Загрукаталі раптам на ўвесь завулак. Зазыба прайшоўся трохі па завулку, пасля ўхапіўся рукамі за гнушку і, падскочыўшы па-маладому і неяк брыкліва, сеў на воз з другога боку.

Марыля азірнулася на Зазыбаў двор. Усё там — і хата з трохскатнай страхой з залобкам, і вароты, аздобленыя адмысловай ліштвай — здаліся ёй адным часам знаёмымі і незнаёмымі. Было такое ўражанне, нібыта яна цяпер пазнавала даўно забытае. Позірк нечага доўга затрымаўся на высокай вітцы, што вытыркалася над вільчыкам аўчарні, пасля скочыў на адкрыты з двух бакоў ганак, дашчаная стрэшка якога абапіралася на букатыя слупкі-балясіны. І толькі тады, як у поле зроку трапіўся пад вокнамі хаты разгалісты вяз, захаланула маладое сэрца — дрэва гэтае ўсе дні яна бачыла праз акно свайго свядомага пустэльніцтва… На ім ужо сядзела белабокая сарока і нібы тачыла нажы.

Зазыба пачуў гэта, усміхнуўся:

— Гасцей во некалі накліча!

На прыбітай скацінай, калясьмі і людзьмі, а больш за ўсё гэтымі апошнімі дажджамі вясковай вуліцы мала што затрымлівала вока. Але каля хаты Парфёна Вяршкова давялося запыніцца, бо Парфён убачыў Зазыбу цераз плот і выйшаў на вуліцу, каб пераняць.

— Куды ета? — узяўся ён за гнушку.

— Да от, едзем, — няпэўна адказаў Зазыба.

— Да мястэчка ці далей?

— Да, мусіць, і ў мястэчка, а болей у Латоку. Трэба адвезці яе во. — Зазыба кіўнуў галавой на Марылю.

— Тады ўжо глядзі, каб Бабінавічы як не мінуць.

— Да ўжо ж…

— Даведайся тама… Зазыба цярпліва слухаў.

— А то надвор’е бытта нядрэннае робіцца, — не забіраў рукі Парфён з гнушкі.

— Ага, выясняецца.

Марыля сядзела і слухала сялянскую гамонку. Ёй нечага смешна было, як перамаўляліся вясковыя дзядзькі: здаецца, абменьваліся яны словамі толькі з адной мэтай — каб не маўчаць пры сустрэчы. А ім — і Зазыбу, і Вяршкову — гэтай стрыножанай размовы, выходзіла, якраз хапала, каб зразумець адзін аднаго. Напаследак Вяршкоў прапанаваў:

— Можа, яблык возьмеш у дарогу?

— Дык гэта… — Зазыба паціснуў плячамі. — Ці трэба? Тады Вяршкоў паглядзеў на Марылю:

— Дак іх жа ці шкода? Вон суччa ломіцца. Але як па сённяшнім часе, дак з яблыкамі акурат добра будзе ехацца.

— Спас…

— Згаджайцеся, Дзяніс Яўменавіч, — расцягваючы словы, папрасіла Марыля.

— Ну, калі ўжо не шкода, дак… —усміхнуўся Зазыба.

Яблыкі ў Вяршковых стаялі — дзеля Спаса, як у нескупых гаспадароў — на ўслоне пасярод двара: два бульбовыя кашы — адзін з сыпкімі летнімі грушамі, а другі з чырванабокімі цітаўкамі.

Парфён узяў у абедзве рукі па кашы, прынёс хутка да воза і пасыпаў на траву ў задок —як не пароўну і яблыкаў і груш.

— От, — сказаў ён.

Зазыба ляснуў па зямлі пугай.

— Дак паглядзі тама, — кінуў ім наўздагон Парфён Вяршкоў.

— Ладна.

Зялёнае разводдзе лясоў пачыналася адразу за Верамейкамі. Крайняя хата па гэты бок была Юхіма Кандрусевіча і стаяла трохі наводшыбе ад усёй вёскі, а стрэхі гаспадарчых прыбудоў хаваліся пад шатамі старых соснаў, што неяк ураталіся ад неразборлівага тапара. Дарога паўз хату была пясчаная, ішла скрозь па глыбокіх каляінах, і Зазыба знарок не падганяў каня, але той па сваёй ахвоце трухаў, ёкаючы селязёнкай.

Цягнуў буланы воз з двума седакамі амаль без натугі, і Зазыбу адно непакоіла, што былі трохі караткаватыя аглоблі ў калёсах — конь часам натыкаўся нагамі на пярэднюю падушку.

Глуха, зусім не парушаючы цішыні ў лесе, шумелі паабапал дарогі вялікія дрэвы, пераважна хвойнік, рэдка калі бярозы. Хоць птушак у лесе і паболела за лета, аднак іх спеў ужо не вызначаўся тым самазабыццём, якое бывае вясной, калі здаецца, што робіцца ўсё з заплюшчанымі вачамі і выліваецца за край.

У лесе было сыра і нават зябка. Сонца, якое косымі промнямі ўжо высвеціла паміж дрэў навакольныя паляны, парослыя пажоўклай папараццю і кучаравым, амаль палеглым ягаднікам, праганяла з камарыных імшарын шэрае сутонне нядаўняй ночы. Пахла гнілымі грыбамі: каторы год, бывае, прамінае лета, ужо восень стане на дварэ, а чалавек нават вокам не пабачыць сапраўднага грыба — усё неяк сонца з дажджом не патрапяць у адно. Сёлета ж здарылася наадварот — грыбы ўзяліся рана, асабліва каласавікі, але не да іх было. Ягад таксама ў Верамейках

не каштавалі, калі не лічыць тых суніц, што з'явіліся ў пачатку чэрвеня. І тым не менш было, што па ягады ў лес бегалі вясковыя дзяўчаты нават у ліпені — тады праз Верамейкі ішлі маршам ад чыгункі палкі кавалерыйскай групы Гарадавікова. І дзень, і два верамейкаўцы ўсёй вёскай стаялі на скрыжаванні дарог, пільнавалі чырвоных коннікаў — можа, раптам хто і свой трапіцца, а сарамяжлівыя дзяўчаты, трымаючы лазовыя кошыкі ў руках, частавалі запыленых хлопцаў набрынялымі кісла-салодкімі малінамі. Тады і верамейкаўцы, і коннікі, здавалася, забыліся на вайну — усе жартавалі і смяяліся так, нібыта гэта праходзілі звычайныя вайсковыя манеўры. У тыя дні ў Забесяддзі папраўдзе жылі вялікай надзеяй — коннікі Гарадавікова неслі з сабой адным часам і ўзрушэнне і заспакаенне: не верылася, што вораг здолее паставіць што-небудзь супраць гэтакай сілы!.. Між тым конніцу Гарадавікова фашысцкія самалёты пачалі нішчыць яшчэ на падыходзе да Сажа, і пра гэта ў Верамейках стала вядома неўзабаве, бо чуткам не доўга было ісці Зноў Чырвоную Армію тут пабачылі, як ад Прапойска пачалі адступаць часці 13-й арміі. Усё гэта — і імклівы марш асобных палкоў кавалерыйскай групы Гарадавікова, і адступленне 13-й арміі — адбывалася ў межах аднаго, хоць і не старога каляндарнага месяца, але нечага здавалася, што цягнулася яно надзвычай доўга, можа, таму, што час раптам стаў успрымацца як нешта амаль няўлоўнае і тым больш няпэўнае…

Паўз дарогі заўсёды сустракаюцца адметныя мясціны, якія з нечым звязаны ў чалавека ці проста выклікаюць цікавасць сваімі назвамі, часцей за ўсё дзіўнымі і незразумелымі — можна ў галаве паламаць усё, а да сэнсу не дабрацца. Напрыклад, за Верамейкамі, на адлегласці паўкіламетра, была Гогалева ніва — нават не ўрочышча, якіх багата вакол, і не дзялянка, на якой спляжаны лес. Наадварот, там скрозь раслі дрэвы. Тым у большае здзіўленне ставіла кожнага назва — Гогалева ды яшчэ ніва: паспрабуй здагадайся, ці гэта пайшло ад залётнай птушкі, ці ад чалавека. Праўда, у Верамейках знайшоўся дзівак, той жа Хомка Берасцень, які даваў своеасаблівае тапанімічнае тлумачэнне. Маўляў, яшчэ за далёкім прыгонам, калі Расеяй правіла Кацярына-царыца, здаралася ехаць тут царскаму поезду з Пецярбурга ў Таўрыду, Кацярына спяшалася тады да графа Пацёмкіна. Аднак пісара свайго, па прозвішчы Гогаль, не магла ўзяць у дарогу, бо той хварэў нечага. Давялося яму, як ачуняў, даганяць царыцу ад самага Пецярбурга на тройцы казённых стаеннікаў. Калі верыць Хомку, то Гогаль дагнаў Кацярыну якраз

за Верамейкамі, на гэтай дарозе, і яны сядзелі тады менавіта тут, пад гэтымі выносістымі дрэвамі, і займаліся… любошчамі. Адным словам, Хомка Берасцень у Верамейках быў не толькі хітры бастола!

У Зазыбы з Гогалевай нівай былі звязаны свае ўспаміны: заўсёды прыгадвалася, як некалі ехала з Бабінавіч па гэтай дарозе іхняе з Марфай вяселле — тады вясковыя хлопцы і маладыя дзядзькі пераняли тут «зайца»…

Дарога за нівай збочвала налева і вяла па сасновым жардзёўніку, які ажно кішэў насцярожлівымі сойкамі. Каля так званага Гарбатага мастка, што быў начыста разбураны, яна нібыта выпроствалася. Масток гэты будаваўся на паўдарозе да Бесядзі, і ў Верамейках адлегласць паміж сваёй вёскай і Бабінавічамі дзялілі звычайна на чатыры адрэзкі: спярша да мастка, пасля да Бесядзі, затым да дубровы, што за ракой; апошні прамежак ляжаў на пясчаных узлобках — далей ужо вытыркаліся крыжыкі мястэчковай царквы; кожны прамежак расцягваўся больш як на паўтара кіламетра, а ўсёй дарогі да Бабінавіч было, па не зусім дакладным падліку, каля сямі кіламетраў.

За дажджы з дарогі пазмывала чалавечыя сляды. Але шырокія, аплылыя каляіны ўсё ж гаварылі аб тым, што нядаўна тут адбываўся вялікі рух. У калдобінах стаяла неўсмактаная вада. Была яна і на мастку, дакладней, на гаці, што замест бярвенчатага насцілу. Буланы нават не запыніўся перад мастком, адно расплюхаў капытамі рудую ваду, абдаўшы ёю жалезны хадок. Дробныя камяні, амаль пырскі, заляцелі на воз, і Зазыбу, а болей Марылі, давялося счышчаць іх і з сябе, і з дзяругі, якой была заслана трава ў перадку.

Зазыба ехаў амаль безуважны да ўсяго, што абступала дарогу, — думкі варочаліся ў галаве так, як варочаюцца колы, калі патанаюць па калодкі ў пясок. Спярша яму зноў рупіла сённяшняя справа, праз якую давялося выбрацца, амаль сляпуючы, у мястэчка, а тады нечага прыгадалася размова з Мікітам Драніцам, калі той прыходзіў увечары па ордэн: у думках Зазыба ўжо здзекаваўся з Драніцы, які ўзяўся выконваць даручэнне Брава-Жыватоўскага. Але вось за мастком, можа, за паўтараста крокаў ад гаці, кінуліся раптам у вочы — і трэба было, як на тое, паглядзець збоч — на буйным, нібыта жоўтым пяску, што быў намыты ў невялікай седлавіне, незнаёмыя сляды. Яны нагадвалі каровіныя, але былі вузейшыя і выцягнутыя ўдоўжкі. Зазыба ведаў усіх насельнікаў тутэйшых лясоў, мог адрозніваць хоць якія сляды, аднак гэтакія, здаецца, бачыў упершыню. І ўжо зусім

здзівіўся памёту, што застаўся каля дарогі, — акурат заечага, але чорнага і намнога буйнейшага; круглякі ляжалі тут не даўжэй як з начы, бо яшчэ быццам ільсніліся. Было б гэта іншым разам, ці хоць бы не сядзела на возе дзяўчына, Зазыба напэўна б спыніў каня, каб паглядзець.

Марыля тым часам нават не здагадвалася, што незнаёмыя сляды на дарозе маглі так зацікавіць Зазыбу — ёй было хораша ехаць праз лес, слухаць пошум дрэў і лавіць незразумелыя гукі, якія даляталі з нетраў. І яшчэ ёй карцела пачаць гаворку са сваім вазаком. Учора, калі прыходзіў у хату Мікіта Драніца, дзяўчына пачула ўсё ж праз філёнкавыя дзверы гаворку паміж вяскоўцамі, і яе ўразіла тады, што гаспадар меў урадавы ордэн. Дзіва, але якраз учора яна нібыта вінаватай адчула сябе, што амаль нічога не ведала пра Зазыбу — тады, у Кулігаеўцы, сакратар Крутагорскага райкома і маёр з разведаддзела арміі сказалі ёй пра яго ўсяго некалькі слоў: чалавек, маўляў, надзейны, можна спадзявацца цалкам. Калі знаёмілі іх, яна трохі прыгледзелася да Зазыбы — сапраўды, чалавек выклікаў да сябе давер адразу, хоць і меў нейкі быццам разгублены выгляд, а ягоную неразгаворлівасць (за ўсю дарогу ад Кулігаеўкі да Верамеек Зазыба, здаецца, не сказаў слова, якое можна было б запомніць) яна тлумачыла сабе трыма акалічнасцямі: характарам, сялянскім паходжаннем і вайной. Пасля, калі яны жылі, як кажуць, пад адной страхой, Зазыба таксама пазбягаў размоў. Мусіць, не жадаў ён гаворкі і сёння.

І тым не менш Марыля адважылася загаварыць.

Яны пераехалі тады Бесядзь. Буланы, дробна ступаючы нагамі, узвёз іх на высокі бераг. Вачам расхінулася далячынь — за ракой патанаў у смузе крануты надыходзячай восенню забесядскі лес, па правы бок, паміж дубровай і ракой, што пакручастай бліскаўкай выгіналася ў шырокай лугавой пойме, выступалі з-за пагорка двары невялікай вёскі; па левы бок ляжала наўздзіў роўнае поле, аслоненае бярозавым бальшаком, —той самай гравійнай дарогай, што вяла ў Бабінавічы з Крутагор'я праз Белую Гліну, і толькі наперадзе неба засціў шырокі ўзлобак, за якім хавалася мястэчка. Над усім — над полем, над лесам, над пагоркамі — плыло спакойнае, але яшчэ па-летняму гарачае сонца.

Марыля намацала за сабой вялікі яблык, куснула самы чырвоны бок і зажмурыла вочы, быццам зрабілася даўка.

— Дзяніс Яўменавіч, — сказала яна нарэшце, — што я хачу спытаць. Па які гэта ордэн прыходзіў той чалавек учора?

— Мікіта?

— Мусіць.
— А-а-а, — усміхнуўся Зазыба.
— Я нават не чула дагэтуль, што вы маеце ордэн.
— Дак ці ж я таіўся калі са сваім ордэнам! —зноў усміхнуўся Зазыба, але ўжо з выразнай задаволенасцю. — Пра гэта ўсе ведаюць. Ордэн жа на грудзях носяць, каб відзён быў.
— А я вось не ведала.
— Не бачыла, таму і не ведала. Але пра ўсё ведаць не будзеш. Да і не трэба. Гэта нашы тута, свае, вясковыя справы.
Марыля спытала яшчэ:
— А які ордэн у вас, Дзяніс Яўменавіч?
— Да звычайны, наш.
— Вы ваявалі?
— А цяпер так выпадае, што чалавеку на яго жыцці даводзіцца ажно некалькі разоў ваяваць. Нібыта хто разлічвае. Гэта ўжо на маім вяку каторая вайна.
— Раскажыце, Дзяніс Яўменавіч!
— А што гаварыць? На вайне як на вайне. Але тады мы хоць не адступалі так. Здаралася, што адступаць даводзілася, але так не адступалі.
Марыля не знайшлася, што адказаць, — нібыта яна больш за ўсіх была вінавата ў тым, што армія адступала, — і яны зноў паехалі моўчкі.
Неўзабаве дарога пачала спускацца ў нізіну. Трэба было на ўсякі выпадак прытрымліваць буланага, і Зазыба стаў патрохі напінаць лейцы. Але дарэмна — конь, мусіць, нямала пахадзіў у артылерыйскай вупражы і справу сваю ведаў; колы патрапляль якраз у каляіны, і калёсы каціліся нядрогка.
З дубровы, амаль напярэймы, выйшла нейкая жанчына з вялікім бярэмам дроў. Было відаць, што бралася яна ў мястэчка. Зазыба падагнаў каня. Каля дарогі жанчына спынілася — мусіць, памела надзею пад’ехаць на возе.
— Кладзі свае дровы, — сказаў тады Зазыба.
Нікольні не марудзячы, жанчына павалакла схопленае вяроўкай галлё на воз. Была яна ў старэйшых ад Зазыбы гадах. Выгляд мела як зачуханы — пра такіх у вёсцы звычайна гавораць: забытая дзецьмі і Богам. На Марылю яна не зважала, глядзела на аднаго Зазыбу, нібыта яшчэ не паверыла цалкам, што той сапраўды давязе яе да мястэчка.
Марыля пасунулася, даючы месца на возе. Жанчына паклала дровы якраз на яблыкі, а тады і сама села, не выпускаючы з рук канцы вяроўкі.

— Во павязло дак павязло, — сказала яна, азіраючыся. — І не ведаю ўжо, як дзякаваць буду.

— А што гэта на сабе? — спытаў Зазыба.

— Каня ж няма! —Жанчына памаўчала і кінула быццам з дакорам: — А вы ўсё яшчэ ездзіце? І коні ў вас ёсць! Адкуль ета? Нібыта не пазнаю…

— З Верамеек.

— А-а-а, — паківала галавой жанчына, — дак у вас, можа, і германцаў яшчэ не было?

— Не было.

— Жывяцё-ё-ё ж тама ў лесе! —як пазайздросціла яна.

— А вы?

— Дак… Але немцы пакуль не чапаюць. Можа, і дарэмна толькі пужалі. Кажуць, не так чорт страшны, як яго малююць.

— Чорт, ён і ёсць чорт, — не згадзіўся Зазыба. — Як прыгожа ні малюй, усё роўна на чорта падобны будзе.

— Дак і папраўдзе, — зноў забубніла кабета, быццам не давярала, таму знарок пераконвала Зазыбу, — не чапаюць пакуль людзей. Усё засталося як і раней.

— Ну, ну…

— Камендант, здаецца, трапіўся яшчэ талковы, от што я скажу. Надоечы ажно пабіў аднаго паліцая. Васіля Бутрамея. Ета ж як было. Прыйшоў ён да адной бабы ў Зялёнкавічах да і забраў мужыковыя боты. Няхай бы якія там другія, а то хромавыя. А баба вазьмі да і схадзі да каменданта. Дак Адольф і дапамог. Шонпалам ажно пабіў Бутрамея. Кажа, я з вас рускае свінства выб'ю. Ну, Бутрамей як адведаў шонпала, дак прынёс боты назад у хату.

Зазыба паглядзеў на Марылю і пакруціў галавой — маўляў, слухай, як бывае…

— Не, можа, й дарэмна гавораць так пра немцаў, — працягвала разважаць кабета, — распусты яны не пацерпяць…

— Дзяніс Яўменавіч, зірніце, — дакранулася рукой да Зазыбавага пляча ўстрывожаная раптам Марыля.

Зазыба павёў вачамі, глянуў перад сабой. На бальшаку, што быў ужо недалёка, стаялі паміж радамі пачарнелых з камлёў бяроз грузавыя аўтамашыны з накрытымі кузавамі. Калона, мусіць, спынілася даўно, бо немцы пахаджвалі паміж грузавікоў, як на вялікім прывале ці надоўга змушаным прыпынку. Зазыба адчуў, як задрыжалі ў яго рукі. Ён паспрабаваў сціснуць імі лейчыны, але дарэмна — рукі былі непаслухмяныя.

— Кхы, кхы, — з вялікім намаганнем выціснуў ён з сябе штосьці падобнае на кашаль.

— А Бо-о-ожачка! — заварочалася на возе і кабета.

Палявая дарога, па якой яны ехалі паміж збажыны, перасякала бальшак якраз на тым месцы, дзе стаялі аўтамашыны. Нават перакрыжаванне было перагароджана.

— Ну, што будзем рабіць? — шапнуў Марылі Зазыба.

— Не ведаю.

Воз тым часам набліжаўся да бальшака.

Зазыба глядзеў на машыны, на ўзброеных салдат — ад хвалявання наперадзе ўсё нібыта расплывалася, на вочы напаўзаў амаль непраглядны туман.

Нарэшце буланы датупаў да бяроз у прысадзе і сам запыніўся, бачачы, што далей шлях перагароджаны.

Немцы таксама звярнулі ўвагу на фурманку. Колькі часу яны пазіралі на седакоў, а тады адзін пераскочыў казлом канаву і рушыў да воза. На твары яго не было ні асаблівай натужанасці, ні тым больш — усмешкі. Проста ім кіравала ў гэты момант абыякавая цікаўнасць, што выклікаецца звычайнай лянотай, адчуваннем вышэйшасці і бяздзейснасцю. «Ану-тка, падзіўлюся!» — падумаў недзе ён. Але ўбачыў прыгожую Марылю, і твар у яго адразу як запаліўся.

— О, — падняў ён у захапленні палец угору і, павярнуўшы галаву да грузавікоў, крыкнуў: — Ком маль шнэлер хэр! Прыма мэдэль!*

І тады маладыя і здаровыя немчыкі — у якога дык нават верхняя губа не паспела загрубець, — тупаючы цяжкімі ботамі, рынуліся, быццам спушчаныя з ланцуга, праз канаву да воза.

— Шёнэс мэдхен! Айн прахтшцюк!** — намагаліся яны перакрычаць адзін аднаго.

Бачачы ўсё гэта, Марыля скрыжавала на сабе рукі, ухапілася пальцамі за плечы і пацiснула іх, як ад холаду.

Зазыба сядзеў наперадзе, яму не было відаць, што рабілася за спіной. Але здавалася, што там, няйначай, гарцавалі чэрці. Стаяў вэрхал, сыпаліся з усіх бакоў незразумелыя словы.

Марыля, вядома, чула, што крычалі ў гэтым вэрхале нямецкія салдаты, але яна не падавала выгляду, што ведае іхнюю мову, спрабавала перамагчы ў сабе ўзрушанасць і палахлівую збянтэжанасць, бо ёй патрэбна было мець сілы глядзець на ворагаў расплюшчанымі і наіўнымі вачамі.

---

* Хутчэй, тут прыгожая дзяўчына! (*Ням.*)

** Дзяўчына, прыгожая дзяўчына! (*Ням.*)

— На вас дэн, грайф цу, Хайнрых, — хрыплаватым голасам казаў цыбаты немчык другому — таму, які першы падышоў да воза, — унд мах кайнэ умштэндэ. Хаст ду дас пюпхен альс эрстэр гешнапт, зо шлепэ зі ін айнэ экэ. Дас мэдхен гэхёрт дыр аляйн, німанд комт дацвішэн. Абэр этвас вайтэр, дас німанд дых цу бэнайдэн хат. Ляс зі дых дортсут гэнісэн, дас зі зіх даран юбэр дас ганцэ лебен эрінэрт…*

І раптам нібыта ўпершыню ўгледзеў на возе местачковую кабету з вязанкай дроў.

— Вас глёцст ду, альтэ хэксэ? — накінуўся ён на яе. — Гляўбст ду воль аўх айнэм гут шмэкен? Айнэм хундэ эер!** — закрычаў ён і адным рухам скінуў на зямлю дровы, а тады пад рогат піхнуў у каршэль жанчыну.

Тая войкнула і, быццам вялікая птушка, скінутая з гнязда, закапашылася пад коламі, грабаючы па зямлі рукамі. Нарэшце дацягнулася да сваіх дроў і, ухапіўшыся за канец вяроўкі, павалакла іх на карачках па канаве, як падалей ад нячыстага месца.

— Матка рус! Матка рус! —сыта рагаталі наўздагон ёй салдаты, хапаючы з воза раскрытыя яблыкі.

І раптам усе ўгаманілася. Да фурманкі падышоў афіцэр.

— Нун кайнэ ангст, майн шэцхен, — паднёс ён да брыва ў тонкіх скураных пальчатках руку. — Ды зольдатэн дэр румрайхэн армэе дэс гросэн фюрэрс…***

Але скончыць напышлівую прамову яму не далі. На бальшаку пачуліся паспешлівыя каманды. Загурчэлі маторы. Салдаты кінуліся да грузавікоў і, чапляючыся за барты, пачалі памагаць адзін аднаму.

— Пардон, мадам, — ад нечаканасці перайшоў афіцэр на французскую мову і гарэзліва бліснуў прыжмуранымі вачамі.

Грузавікі на бальшаку нібыта зараўлі. Калона рушыла з месца.

Пакуль машыны адна за адной міналі скрыжаванне, Зазыба сядзеў на возе ў пакутлівым чаканні — яму чамусьці здавалася,

---

* Ну, што цырымонішся, Генрых… Раз першы агледзеў, то і валачы яе ў канаву. Дзеўка твая, і ніхто больш не мае на яе права. Але цягні як падалей адсюль, каб не было хоць зайзлросна. Ды пад хвост там, пад хвост ей, каб запомніла на ўсё жыццё… (*Ням.*)

** А ты чаго талопіш вочы, старая карга? Думаеш, і ты каму патрэбна? Сабакам яе, сабакам! (*Ням.*)

*** Не палохайся, золатка… Салдаты доблеснай арміі вялікага фюрара… (*Ням.*)

што галоўнага яшчэ не адбылося і што нешта абавязкова павінна здарыцца…

З-пад тэнтаў на іх з Марыляй тупа глядзелі нямецкія ваякі.

Але вось ад'ехала ад скрыжавання апошняя машына, і тады Зазыба раптам не сваім голасам ціха засмяяўся.

— А тая, — сказаў ён, кранаючы за лейцы каня, — думала, што адзін немец будзе падобны на ўсіх астатніх…

Кравец Шарэйка быў чалавек, разумны і лічыўся адмысловым майстрам — пра яго ў Бабінавічах дасціпныя мужыкі, жартуючы, гаварылі, што ў галаве ў яго хапіла б розуму абдурыць, няйначай, двух яўрэяў.

Маладым хлопцам Шарэйка паехаў на шахты ў Юзаўку, але грошы не зарабіў: кавалкам пароды раструшчыла чалавеку левую нагу. У мястэчка давялося вяртацца пакалечаным. А ў мястэчку як і ў вёсцы: чалавек без нагі — таксама не чалавек. Выратаваў у Бабінавічах Шарэйку местачковы кравец Гірша. Стары яўрэй нечага ўпадабаў хлопца і, каб той не прапаў праз сваё калецтва, узяўся навучыць рамяству. Больш таго, Гірша адзін час хацеў нават ажаніць яго на сваёй дачцэ Бейлі, але супраць паўстала, бадай, уся яўрэйская палавіна мястэчка. «Навошта нам чужая кроў?» Гірша смяяўся ў адказ — маўляў, яшчэ невядома, хто ў мястэчку той, а хто не, усе ж яны — і дзеці яўрэяў і дзеці беларусаў — аднолькава катаюцца на свіннях па выгане. Аднак Бейлю аддаў за сына мясцовага рымара. Тым часам з Шарэйкі зрабіў сапраўднага краўца. І калі стары яўрэй паміраў, Шарэйка меў уласную зінгераўскую машыну.

Ужо багата гадоў, як Шарэйка самастойна абшываў мястэчка і вакольныя вёскі. Кожны лічыў за гонар мець у яго заказ.

Зазыба таксама вадзіў дружбу з Шарэйкам: заўсёды, як выпадала бываць у мястэчку, шукаў прычыны наведацца да краўца. Але сёння Шарэйка вельмі здзівіўся, калі ўбачыў пад вокнамі Зазыбу. Таму яго як не вынесла з хаты на ганак, і ён, ляскаючы па двары нагой-дзеравяшкай, кінуўся расчыняць вароты.

— Заязджай, Зазыба, заязджай! — загаварыў Шарэйка з той паспешнасцю, якая бывае звычайна пасля доўгага чакання; і потым, калі Зазыба ўжо ставіў каня пад павець, Шарэйка таксама нечага празмерна мітусіўся, быццам у хаце сапраўды за сталом даўно сядзелі госці і затрымка была за адным Зазыбам; на сваёй дзеравяшцы ён як дарэмна мераў двор, кульгаючы з канца ў канец, і неўпапад засыпаў заезджага чалавека словамі.

Марыля сядзела на возе — яна адчувала сябе ніякавата ў прысутнасці краўца, да таго ж і Зазыба нічога не прадпрымаў,

каб звярнуць на яе гаспадарову ўвагу. Яна адно паспела збольшага ўгледзецца ў краўца — той здаўся ёй чалавекам занадта знерваваным, а драўляная нага, прымацаваная сырамяцінамі вышэй калена, чамусьці выклікала ў яе ледзь не разгубленасць: Шарэйка нагадваў дзяўчыне аднаго з тых пакалечаных старцаў, якія да вайны хадзілі па міласці і пра якіх у народзе расказвалі розныя страшныя гісторыі.

Зазыба між тым вывеў каня з аглобляў, каб вальней было стаяць пад павеццю, і следам за гаспадаром падаўся на ганак, пасля — у хату: яны абодва быццам забыліся пра Марылю.

Будаваўся Шарэйка, калі ў яго ўжо былі сродкі. Хату — праўда, местачковыя людзі, у адрозненне ад вясковых сялян, хаты свае звычайна называлі дамамі — ён ставіў на так званыя дзве каморы, з прасторнымі сенцамі пасярэдзіне. У той час ён, відаць, разлічваў на вялікую сям'ю. Але сям'і такой у Шарэйкі не атрымалася. Ужо колькі гадоў, як яны былі з Ганнай адны — сын ажаніўся рана, ці не ў васямнаццаць гадоў, да таго ж пайшоў жыць у хату да жончыных бацькоў. Спярша Шарэйка цешыў сябе, што ў сына проста памела верх маладая дурнота, якая, няйначай, мінецца, але паступова ўсё асталявалася, настаў час, калі і сын і бацька перасталі нават думаць пра гэта. Старэйшаму Шарэйку толькі іншым разам шкода было, што некалі, будуючы хату, на вялікае замахнуўся, бо тая камора, што была на правы бок ад сенцаў, стаяла пустая. Праўда, у мястэчку заўсёды знаходзіліся людзі, якім можна было здаць яе пад кватэру, але і гэтага Шарэйка не дазваляў сабе — не хацелася мецъ майстравому чалавеку кожны раз на двары чужога каго.

Зазыба акінуў вокам жылую палавіну — усё тут было як і раней: ад печы да знадворнай сцяны ішла дашчаная перагародка, што датыкалася брыжом да паклеенай шпалерамі столі; за перагародкай, у сваю чаргу, уся плошча была падзелена таксама на дзве часткі; такім чынам, гэтая палавіна Шарэйкавай хаты складалася з трох пакояў, адзін з якіх быў вялікі і доўгі, асветлены па сценах роўнымі вокнамі, а два астатнія — проста бакоўкі. Тут змяшчалася і ўся кравецкая гаспадарка, галоўным у якой была, вядома, швейная машына.

— Дзе ж твая Ганна? — спытаў Зазыба.

— Дак на сяло пайшла, — адказаў Шарэйка.

— У царкву?

— Кажу, на сяло.

— А я ўсё блытаю, дзе ў вас мястэчка само, а дзе сяло пачынаецца.

— Сяло — за мястэчкам, — усміхнуўся Шарэйка.

— А мы пра ўсіх вас — мястэчка да мястэчка…

— Мястэчка — ета во наша частка, каля царквы, а сяло за садам будзе. Дак мая Ганна, каб ведаў, пайшла на сяло. Трэба нявестку праведаць, дак пайшла. Перадавала тая ўчора праз людзей, што малая прыхварэла. А ў царкву яна ўжо хадзіла, да ютрані.

— А сын твой што?

— Дак што, таксама ваюе!

На стале, што быў паміж вокнаў, ляжала новае шытво: зажыўленая простай ніткай ватоўка і яшчэ нейкая адзежына, але гэтая ўжо з нямецкага сукна. Зазыба затрымаў позірк на адзежыне, і, можа, таму, што ў ягоных вачах узнікла здзіўленне, Шарэйка пасунуў шытво на край стала.

— Ты гэта не выпускаеш іголкі з рук і цяпера? — пацікавіўся як паміж іншым Зазыба.

Кравец памуляўся:

— Заказ… Трэба спяшацца, бо чалавек не наш. Паедзе скора.

— Ну, ну…

Зазыба падышоў да акна.

Шарэйкава хата стаяла так, што паўзверх стрэх было відаць царкву па самыя вокны на местачковай плошчы.

— Вайна вайной, а чалавеку тым часам жыць нечым трэба, — сказаў за спіной Шарэйка. — Яму не толькі гамаць, але і апранацца ў нешта патрэбна, каб не свяціць задам.

— Да ўжо ж…

— Дак я таму і не выпускаю, як ты кажаш, іголкі з рук. Былі старыя заказы, а тута і новы падаспеў, ажно з германскага сукна.

— Некаму ж судобіла разжыцца!

— Не, ета іхняе. Афіцэр адзін прынёс. Абяцаў таксама заплаціць. — Шарэйка ўсміхнуўся, пасля зноў пачаў гаварыць, але ўжо нібыта адказваючы на нейкія свае думкі. — Яно, канешне, немец — вораг, і, як пісалі ў газетах, кожны бохан хлеба павінен разарвацца ў ягоных руках жалезнай бомбай, але ці пражывеш па пісаным?

Зазыба пачакаў, а тады сказаў:

— Вы тута, як відаць, прызвычаіліся ўжо да немцаў. Да, мусіць, усе. Падвозіў сянні адну бабу, дак таксама ажно не магла нахваліцца камендантам… Адольфам — ці як ён у вас?

— Дак ён не ў адных нас. Ён і ў вас. Верамейкі яму таксама падначалены.

— Але ці не рана пачалі вы яго хваліць? — паглядзеў на краўца Зазыба.

Той адчужана ўсміхнуўся:

— Галоўнае, каб не было позна. Але расказвай, што новага дзе, а то мы адразу неяк…

— Дак навіны ж у вас усе.

Шарэйка пастаяў задуманы.

— Канешне, — згадзіўся ён праз нейкі момант, — навін у нас па етым часе багата, але больш іх усё ж ідзе з Крутагор’я. Што ні кажы, а цэнтр ёсць цэнтрам.

— Я нават не ведаю, як яно цяпера — што цэнтр, а што не. І ці ёсць наогул райцэнтр? Можа, павятовым стаў? Мы тама сядзім як у прыдусе — ці то ўжо высоўваць з паніўкі галаву, ці яшчэ пачакаць.

— Ты от кажаш, ці не зарана мы хвалім Адольфа? Але ці ведаеш ты, хто начальнікам паліцыі ў Крутагор’і стаў?

— Дык хто іх зразумее цяпера! — пацікнуў плячамі Зазыба.

— Ета праўда, — усміхнуўся Шарэйка. — Нават і ў галаву можа не прыйсці, калі падумаць. Помніш Рослаўцава?

— Таго, што быў дырэктарам маслазавода?

— Ага.

— Гм…

— Дак ён цяпера ў Крутагор’і і стаў начальнікам паліцыі, ці, як немцы называюць, начальнікам аховы парадку. А мы за яго яшчэ ў мінулыя выбары галасавалі ў райсавет…

— І праўда — навіны, — заплюскаў вачамі, як ачмураны, Зазыба. — А можа, у яго ад нашых такое заданне было — стаць на высокую пасаду ў немцаў, каб памагаць пасля сваім?

— Каму ета сваім?

— Ну, нам во… Чырвонай Арміі…

— Етага я не ведаю, але для справы, бадай, лепей было б, каб Рослаўцаў не быў начальнікам паліцыі ў Крутагор’і. Яно вядома, ты хітры, але і немец не дужа дурны. Таму я і кажу. Цяпера-то яшчэ нічога — адны вочы ад здзіўлення ў людзей лезуць на лоб, а калі раптам ён захоча і немцам паслужыць? Ці мала якая прычына знойдзецца? Ведаеш, як тады галовы пакоцяцца з плеч? Ён жа лепей за немцаў пра ўсё ў раёне ведае. І актывістаў, і…

— Ты думаеш, ён…

— Нічога я не думаю, — ужо са злосцю сказаў Шарэйка. — Я табе гавару, як яно ёсць ці можа быць. Некалі мой Гірша казаў — не думай, як думаеш, а думай, як давядзецца. Дарэчы, разумны чалавек быў. Дужа разумны.

— А я помню яго. Шарэйка махнуў рукой:

— Пагары яны гарам і немцы, і начальнікі паліцыі іхнія, асабліва Рослаўцаў! Ты лепей скажы, які прымус зрушыў цябе ў такі час?

— Да ўжо і не ведаю, як пачынаць.
— Так жа сабе не паехаў бы.
— Дзяўчо во прывёз у мястэчка.
— А хто яна табе?
— Як табе сказаць… — Зазыба сабраў гармонікам лоб. — Трэба ўладжваць яе ў мястэчку.
Не дачакаўшыся ад Зазыбы пэўнага адказу, Шарэйка сказаў:
— У вас жа тама, сярод лесу, спакайней можна пражыць.
Зазыба зноў адвярнуўся да акна.
— Яна таксама во, як і ты, хоча папрацаваць на немцаў, — глуха сказаў ён.
Шарэйка апусціў плечы, памаўчаў у прыхаванай збянтэжанасці, а тады сказаў раптам:
— Гукні яе ў хату.
— Абыдземся пакуль, — буркнуў Зазыба.
— Але нешта я не разумею цябе, Дзяніс, — сказаў Шарэйка.
— А тута і разумець няма чаго, — пацiснуў плячамі Зазыба. — Дзеўка хоча пасяліцца ў мястэчку. Ты ж сам казаў, вайна вайной, а чалавеку жыць трэба.
— Дак ета я казаў…
— А яна — тым больш, бо засталася адна. Бежанка. Шукае прыстанку во.
— Але чаму тады не прыстанак у Верамейках? — спытаў Шарэйка.
— Дак яна ж хоча і рабіць нешта, каб яшчэ карміцца! Шарэйка пакруціў галавой і не ўхваліў:
— Раз ужо апекаваць над ёй недзе ўзяўся, то пракарміць мог таксама. У цябе ж, здаецца, ратоў небагата.
— А яна сама сабе гаспадыня!
Шарэйка пакутліва паморшчыў твар.
— Справа ваша, — сказаў ён. — Бачу, не хочаш адкрыцца мне. Але скажы, чаго мне ўсё ета каштаваць будзе? Ты ж, мусіць, хочаш, каб я заняўся яе ўладкаваннем?
І тут Зазыба не знайшоў што адказаць: выходзіла, што ён не гатовы быў для такой размовы.
Тады Шарэйка пацёр далонню няголены твар і загаварыў са злосцю, нібыта хацеў запалохаць Зазыбу:
— Тута сваіх дзевак даволі. З мокрымі хвастамі бегаюць. Яўрэйскія дамы, як тыя паехалі наперад арміі, амаль усе вольныя. У мястэчку застаўся адзін Восар, калі помніш, да яшчэ Іцкава жонка, таго Іцкі, што млынаром некалі быў у Прудкох. Дык сам Іцка памёр, а баба яго нямоглая.

— Але чаму яны засталіся? — каб неяк прытушыць Шарэйкаву гарачнасць, спытаў Зазыба. — Не ўзялі іх?

— Чаму так думаеш, — неяк гледзячы сабе пад ногі, нездаволена адказаў Шарэйка. — Іцкава жонка пабаялася ехаць хворая ў свет. У яе адзін страх другі пераробраў. Восар таксама на ладан дыша. Адным словам, у мястэчку засталіся толькі два старыя яўрэі. Астатнія паехалі некуды. А дамы іхнія цяпер пустыя стаяць. Афіцэры нямецкія тама балююць, калі якая часць праз мястэчка ідзе і спыняецца нанач. Тады яны і шукаюць па мястэчку дзевак. Настаўніцы ж у мястэчку засталіся, да і ў бальніцы персаналу хапае. Ночы напралёт грамафоны ў яўрэйскіх дамах іграюць. А цяпера во твая бежанка далучыцца. З твару ж нічога, да ўсім, здаецца, выйшла. Так што… глядзі! Справа твая. Але калі сама дужа захацела, то я зраблю ласку — адвяду хоць зараз за пошту, няхай у Хоніным доме селіцца.

Шарэйка зачэпіста паглядзеў на Зазыбу, нібыта хацеў пераканацца, якое ўражанне зрабілі на таго ягоныя словы. Ды па Зазыбу нельга было адгадаць што-небудзь: той умеў, калі гэта патрэбна было, не паказваць свайго ўнутранага ўзрушэння. Але вось ён імкліва адышоўся ад акна, сеў на крэсла, што стаяла амаль пасярод Шарэйкавай хаты. Непрыемна яму было весці з гаспадаром гэтакую размову — ведаў, што кравец нядобра цяпер думаў пра яго. І тым не менш пра тое, што Шарэйка нейкім чынам мог здагадвацца аб сапраўдным стане рэчаў, Зазыбу і ў галаву не прыходзіла: краўцовы словы, калі той пацікавіўся, чым можа абярнуцца для яго справа з уладкаваннем у мястэчку Марылі, можна было аднесці за кошт звычайнай мужыцкай цікаўнасці. Аднак якраз тады Зазыба па-сапраўднаму і адчуў усю недарэчнасць сваёй задумы — выходзіла, што ён свядома ўмешваў краўца ў небяспечную справу і нават не папярэджваў таго. Сумленне патрабавала расказаць Шарэйку пра ўсё, але Зазыба не меў права раскрываць тайну. Апраўдвала яго трохі тое, што ён і сам нічога толкам не ведаў. Цяпер ён сядзеў перад краўцом і адно стрымана дыхаў. Сорамна было таксама і за тое, што наогул неразумна павёў усю гаворку, амаль з парога накінуўся на чалавека, якога ён паважаў і ў якім меў цяпер вялікую патрэбу, — у кожным разе, ласкут нямецкага сукна не варты быў таго, каб псаваць настрой і самому сабе, і гаспадару гэтай хаты, а тым больш кідаць цень на Марылю. Вядома, можна было яшчэ паправіць становішча, неяк вярнуцца да ранейшай шчырасці, якая заўсёды была паміж імі, але Зазыба ўжо не ў стане быў перавесці гаворку на іншыя рэйкі: сялянскае адчуванне сарамлівай вінаватасці вельмі прыгнятала чалавека.

Тым часам у хату неспадзявана зайшла гаспадыня — Шарэйкава жонка, прыбраная, няйначай, усё ж дзеля Спаса.

— А я гадаю, хто ета да нас на кані, — сказала яна грудным голасам. — Што ж ета вы адну дзяўчыну пакінулі на двары?

— Ты і папраўдзе, Зазыба, пакліч яе, — пакруціў галавой гаспадар. — А то я нават не ведаю, як зваць яе. А Ганна тым часам на стол сабярэ. Абедаць хоць, можа, і рана, але ж некалі мой Гірша казаў — абед на абед не тое, што кій на кій.

— Твой Гірша, як бачу, на ўсё жыццё навуку табе даў, — усміхнуўся Зазыба і выйшаў на ганак, каб паклікаць Марылю.

За абедам Шарэйка сказаў жонцы:

— Можа, возьмем да сябе жыцельку во?

Ганна, якая па-жаночаму патрохі прыглядалася ўжо да незнаёмай дзяўчыны, паглядзела на мужа з насмешлівым недаверам. Тады Зазыба перахапіў гаворку.

— Няхай будзе так, як дамовіліся, — сказаў ён краўцу. — Тым больш што дамы ў мястэчку, як ты кажаш, без гаспадароў засталіся. Няхай займае каторы.

— Але ў цябе, Дзяніс, як я пагляджу, дак усё дужа проста выходзіць, — насмешліва пакруціў галавой Шарэйка — Ці ж чалавеку для жыцця аднаго пустога дома хопіць? Нешта ж яшчэ і есці трэба будзе, таксама на чым спаць? Яўрэі ж свае пухавікі пабралі!

— А ў мяне грошы ёсць, — сказала тады першыя словы Марыля.

— Ета добра, што грошы, — нават не паглядзеў на яе гаспадар: яму нібыта сорамна было глядзець чаго на дзяўчыну, — але што яны цяпер будуць вартыя, грошы?

— На першым часе хапаць будзе таго, што дала Марфа, — сказаў Зазыба, — а тама неўзабаве яшчэ падкінем.

— Гаспадар — бацька, — сказаў Шарэйка і разважыў: — Урэшце, галодная да халодная не будзе.

Тым часам Ганна з неўразуменнем паглядзела на мужчын.

— І праўда, Дзяніс, чаму ўжо тады не ў нас? Шарэйка крутануў галавой:

— Няхай робяць як знаюць.

Тады Ганна зноў абвяла позіркам абаіх — ажно паціснула плячамі.

— Як тама Давыдаўна твая? — спытала яна зусім пра іншае праз нейкі час.

— Жыве пакрысе-церусе, — адказаў з усмешкай Зазыба.

— Немцаў у вас няма?

— Пакуль, і праўда, выходзіць, — сказаў Зазыба, — што за лесам нас не відаць.

— Ета яны яшчэ не сабраліся да вас, — сказаў Шарэйка.

— Але паліцэйскага аднаго маем ужо.

— Затое ў нас іх цэлая плойма. Шлындаюць па мястэчку з вінтоўкамі, палохаюць баб. Але нібыта корм не той — усё нейкая чамяра сунецца ў паліцыю. Хоць бы адзін гожы чалавек папаўся, дак і то весялей было б.

— Нездарма кажуць: шляхі твае, Гасподзь, няведамыя, — уздыхнула Шарэйкава жонка.

Сам Шарэйка на гэта ўсміхнуўся.

— Сянні ў Бабінавічах, мусіць, багата хто ўспамінае Бога, — сказаў ён. — Ганна мая во таксама… — Памаўчаў і дадаў: — Паспахапляліся раптам… праз колькі гадоў. А ўжо здавалася нават, што непатрэбны ён.

— Грэх так казаць, — незалюбіла Ганна. — Ты б паглядзеў сянні, як паўзлі старыя бабы ў царкву, калі адчынілі, да цалавалі што можна было тама.

— Няхай Гасподзь хоць мяне ратуе, — яўна блазнуючы, сказаў Шарэйка, але пасуровеў і больш не стаў злаваць жонку.

— Раз ужо мы ўспомнілі грэшным часам Бога, — сказала нахмураная Ганна, — то зрабі мне ласку, Яўменавіч, перадай во ета пісьмо Марфе сваёй. — Яна адчыніла шуфляду абедзеннага стала, узяла там згорнутую трубачкай паперку.

— Што й та?

— Да не сакрэт, можаш глянуць.

Але не паспеў Зазыба прабегчы вачамі паперку, як выставіў па яе руку гаспадар.

— «На паляне, — моцна хмурачы лоб, пачаў чытаць кравец нечыя каракулі, — стаяць на траве дзве труны. Адна — чорная, другая — чырвоная. І вось другая труна, чырвоная, раптам кветкамі зацвітае…»

— Што гэта? — паглядзеў на Ганну Зазыба.

— Святое пісьмо, перадаецца па залатым ланцугу, — адказала тая.

Шарэйка пакруціў у руках паперку, усміхнуўся:

— Але ж ніякага золата не відаць.

— Табе ўсё абы зубы скаліць! — кінула злым вокам на яго жонка.

— Мусіць, у царкве сянні раздавалі? — пацікавіўся Шарэйка.

— Не ў царкве, а дамоў прынеслі. Яшчэ надоечы, — адказала жонка.

— Навошта?
— Ёсць навошта.
— Дак раскажы нам во.
Але Ганна ўжо не звяртала ўвагі на мужа. Яна па звычцы выцерла ручніком перад сабой стол, сказала Зазыбу:
— Дак ты ўжо, Яўменавіч, аддай Марфе пісьмо. — І растлумачыла: — Ты не думай, тута ўсё добра. Напісана, дзве труны. Дак адна, трэба чытаць, чырвоная, ета наша, савецкая, а другая, чорная, — іхняя, германская. Германская як стаяла во, так і стаіць, а наша кветкай расцвітае. Значыць, нам добра будзе!
— Ну, ну… — кіўнуў’галавой Шарэйка.
— Праўда, наша яшчэ ўся ў крыві стаіць, бо нездарма ж чырвоная, але напісана, што ажывае, кветкі на ёй. Значыць, нашы падолеюць немца. Ета святы знак, каб ведалі. Нават Бог цяпер за нас.
— А што Марфа мая павінна рабіць з пісьмом? — не ўтрымаўся Зазыба.
— Дак ты от паслухай, Яўменавіч, — усцешаная Зазыбавай увагай, пасвятлела тварам гаспадыня. — Ета пісьмо, як бачыш, святое, і павінна яно перадавацца па ланцугу такім, ад аднаго чалавека да другога. І галоўнае, каб ніхто не абарваў ланцуга, а то нічога тады не спраўдзіцца. Значыць, кожны, да каго трапляе пісьмо, павінен перапісаць яго і перадаць другому. Таму і ланцугом завецца.
— Ды яшчэ залатым, — непрыкметна падміргнуў Зазыбу Шарэйка.
— А што, мы з Шарэйкам тваім таксама павінны перапісваць яго? — спытаў Зазыба.
— Ну, ад вас дак ужо не дачакаюцца етага ні Бог, ні людзі. Хоць што я кажу, ты, мусіць, дак яшчэ… А мой адно зубы паказвае, як жаніх на вяселлі. У яго ні Бога за душой, ні чорта… Як Гірша некалі знусціў маладога, дак бязбожнікам і жыве цяпера. Людзі во сянні ў царкву, ледзьве заднела, балазе столькі паповага голасу не чуваць было, а мой — за стол да машынку круціць. Немца, бачыш, спалохаўся! Зараз трэба хутчэй рабіць! А Богава кара яму не страшна! Цяпер во ета пісьмо яму не падабаецца. А таго не ведае, што ўсякі, хто ета пісьмо чытае ці нават слухае, а яшчэ лепш, калі перапісвае — дак ужо, няйначай, ад Бога літасці дачакаецца. І ў чыім доме ліст, там ні агонь, ні бомба — нішто не прычыніць бяды.
— Скажы, Зазыба, — глянуў з-пад ілба Шарэйка,— твая Марфа таксама такая во… баптыстка?

Зазыба ў адказ адно ўсміхнуўся. Тады Шарэйка паківаў галавой:

— Цяпера я разумею, чаму мы з табой такія затурканыя!

— Затуркаеш вас! — паглядзела на мужа гаспадыня.

Зазыба ўзяў у свае рукі «святое пісьмо», паклаў у кішэню.

— Дак ты ўжо і праўда перадай тама, Яўменавіч, Марфе, — у каторы раз пачала як не ўпрошваць Ганна. — Няхай яна ў Верамейках першая прадоўжыць залаты ланцуг. Ета няважна, што грамаці не хапае. Можна папрасіць каго граматнейшага, той перапіша.

— Добра, — кіўнуў ёй Зазыба. — Не ведаю, што з етага будзе, але перадаць перадам.

— Апроч карысці — нічога не будзе, — упэўнена сказала на гэта Шарэйкава жонка. — Павінны ж і мы, бабы, памагаць сваім, каб германца вытурыць назад за граніцу. — Шукаючы падтрымкі сабе, Ганна нават паглядзела на Марылю.

— Ну, ну, давайце, памагайце, — усміхнуўся Шарэйка і пакруціў у незразумелым здзіўленні галавой. — Але ж нехта хітры выдумляе ўсё ета!

— Дак не дурны, — з гонарам адказала на яго словы жонка. — Але можаш галавы не ламаць. Немцы проці сябе выдумляць такога не стануць.

— Да ўжо ж… — згаджаючыся з гаспадыняй, тым часам зірнуў на Шарэйку Зазыба. — Мы з табой даўно гаворым, а пра галоўнае, здаецца, і не ўспомнілі, — сказаў ён праз нейкі час, пераводзячы гаворку зусім на іншае. — У вас, кажуць, новая ўлада нават калгаса не зачапіла?

— Гм, ета яшчэ што! І старшыню таго самага пакінула! Так што рыхтуйся і ты, калі Чубара няма ў Верамейках. Таксама зробяць старшынёй.

— А вы ешце, ешце, — пасунула бліжэй да Марылі гаспадыня чыгунок з топленымі дранікамі. — А то, можа, ніколі і не каштавалі такіх?

— Мне Марфа Давыдаўна пякла, — сумелася ад увагі дзяўчына.

— Ну, то ешце і нашы…

— Але праўду казала Ганна, — пакруціў быццам у ачмурэнні галавой Зазыба, — няведамы шляхі боскія.

— Ну, пра ета, бадай, ламаць галаву дужа не варта, — прыжмурыў левае вока Шарэйка. — Здаецца, усё ясна.

— Дак… — Зазыба паглядзеў на яго. — Казалі ж, што немцы супраць калгасаў будуць, а цяпера выходзіць…

— Значыць, калгас і немцам не замінае, — сказаў кравец і прыхінуўся да спінкі крэсла. — Я таксама, каб быў на Адольфавым месцы, не разганяў бы калгасаў. А то што ж атрымліваецца? Недзе яшчэ зусім блізка фронт стаіць і вагаецца, як на тых шалях, а тута ў полі хлеб асыпаецца на зямлю. Немцы — яны хоць і на машынах амаль усе, але таксама жывыя, без харчу не абыходзяцца. А з Германіі сюды не навозішся. Вось і надумалі нашым пакарыстацца.

— Ну, ну…

— Дапусцім, немцы разгоняць калгасы. Дарэчы, некаторыя нашы мужыкі таксама нічога не мелі супраць, каб падзяліць гаспадарку, перамераць поле зноў на палосы. Але ж камендант адгаварыў. Што яму палосы нашы? Сяляне збяруць ураджай дай пахаваюць кожны сабе. Паспрабуй тады, адбяры ўсё. Канешне, можна і адабраць, на тое ў немцаў цяпера і сіла. Аднак колькі на ета спатрэбіцца яе? Асабліва ў такі час, калі ўсё няпэўна. Ты, Зазыба, не забывай, наша мясцовасць цяпера ў прыфрантавой паласе. Ад нас нават чуваць, як бухкае, можа, адразу за Паповай Гарой. Таго і глядзі, Чырвоная Армія вось-вось вернецца. Не ўсё ж адступаць. Таму немцы і разлічылі правільна. Няхай мужыкі жнуць і малоцяць, як і раней, а калі збожжа ў амбары звязуць, можна распарадзіцца ім па-свойску. Тады не трэба ні па чуланах лазіць, ні зброю ўжываць. Адным словам, як мне, дык з калгасам справа ясная. Здаецца, немцы яго чапаць не збіраюцца. Казалі толькі, што памяняюць назву. Замест калгаса сельская абшчына будзе. Ета каб толькі калгасам не называць. Яно ж і з воласцю так — раён немцы пакінулі, і вобласць ёсць, а Савета няма, замест Савета вярнулі воласць. Ета каб з памяці людской вытравіць савецкую ўладу.

Шарэйка па-жаночаму сашчапіў на жываце рукі, пасядзеў трохі з усмешкай, а тады сказаў:

— У нас тута былі таксама пагубляліся ў здагадках. Маўляў, немцы й за калгасы стаяць? Чаму тады ў сябе, у Германіі, не робяць іх? Нават некаторыя дадумаліся да глупства, нібыта Адольф, камендант, тайны камуніст. Асабліва было гаворкі, як Адольф паліцая аднаго пабіў, прымусіў вярнуць бабе мужыкова дабро.

— Але і праўда, — шукаючы падтрымкі свайму ранейшаму меркаванню, пачаў Зазыба, — дужа незразумела… усё. Мы неяк таксама гаварылі ў сябе пра гэта, дак выходзіць.

— Выходзіць, — кіўнуў галавой Шарэйка, — але ж выходзіць таму, што нам усім вельмі хочацца, каб Адольф, няйначай, апы-

нуўся камуністам, бо наслухаліся рознага… Яно ж нават, калі помніш, гаварылі, што нямецкія рабочыя не дазволяць Гітлеру пачаць вайны з намі. Пралетарыят, маўляў, адразу ўзніме паўстанне альбо пяройдзе на наш бок з акопаў. А дзе ён, пралетарыят той? Ты думаеш, гітлераўскія салдаты, якія прыйшлі сюды, адны буржуйскія сыны? Не, сапраўдных буржуяў тама, у Германіі, не так ужо і багата. Цэлае арміі з іх не складзеш.

З мястэчка Зазыба вяртаўся надвечар. З ім у Верамейкі ехаў і Брава-Жыватоўскі.

— А я думаў, ты ўжо і з хаты не вылазіш! — сказаў, выскаляючы зубы, Брава-Жыватоўскі, убачыўшы Зазыбу з канём на местачковай вуліцы; новаспечаны паліцэйскі ўсім сваім выглядам — і чырвоным, як налітым, тварам з шэрымі вачамі, і плячыстай, нібыта напаказ злепленай постаццю, — здавалася, сведчыў, як можна адчуваць сябе, калі жыццё кругом па душы: мусіць, з таго часу, як прарэзаліся зубы, чалавек гэты ніколі не хварэў больш.

Зазыба меў намер праехаць міма, тады паліцэйскі пайшоў напярэймы.

— Куды ездзіў?

— Пляменніцу вазіў, — адказаў Зазыба.

— Цяпер павязеш мяне!

— А мне абы ў дарогу. — Зазыба пасунуўся на возе, даючы месца.

Але Брава-Жыватоўскі не спяшаўся скочыць на воз: карцела паказаць Зазыбу, што ў мястэчку ў яго важныя справы і што ён яшчэ не паспеў іх зрабіць усе.

— Трэба да каменданта заглянуць, — сказаў ён з выразнай знарочыстасцю.

Пакуль Брава-Жыватоўскі ішоў — і таксама быццам напаказ — да камендатуры, якая размяшчалася ў былым будынку сельскага Савета (гэта адразу цераз базарную плошчу, непадалёк ад местачковай бальніцы), Зазыба цяжкімі вачамі глядзеў яму ў спіну.

«Каб ён хоць не сказаў там чаго пра мяне каменданту, — падумаў Зазыба пра Брава-Жыватоўскага. — Тады пачнецца!.. Лацвей ужо ў сваёй вёсцы адказваць на ўсё і за ўсё».

Яму самому не хацелася бачыць Гуфельда нават краем вока: ужо ён пазбавіўся ад ілюзій і сялянскай цікаўнасці — гэта па меншай меры — адносна дзівакаватага нямецкага каменданта; брыдка было нават прызнацца, што магла займаць яго думкі «загадкавая» камендантава асоба.

Сонца ўсё больш хілілася за мястэчка, і цені, што кідалі ад сябе купалы местачковай царквы, датыкаліся, быццам дзіды, кончыкамі крыжоў да сцен аднапавярховага будынка, у якім да вайны была кантора сельскай спажывецкай кааперацыі.

Зазыба пасядзеў трохі, чакаючы з камендатуры Брава-Жыватоўскага, затым прывязаў лейцамі каня да ліпы, а сам надумаўся зайсці ў царкву — якраз яе не зачынілі яшчэ пасля сённяшняга богаслужэння. Над брамай кінуліся ў вочы пачарнелыя ад даўняе пазалоты лічбы — «1842»: у наступным годзе бабінавіцкай царкве мелася быць сто гадоў.

Царква была распачата будаўніцтвам у тую вясну, калі бабінавіцкія паны святкавалі другі век свайго (ні графскага, ні княжацкага) роду. І хоць большая частка паноў з гэтага роду належала да католікаў, у тым ліку і сам заснавальнік, на памяць аб якім і задумвалася будаўніцтва, але ў Бабінавічах жыла якраз тая частка роду, якая па прычыне змешаных шлюбаў была абруселая і праваслаўная, таму ўзводзіць намеркавана было ў мястэчку не касцёл, а царкву-храм.

Будавалі яе некалькі гадоў. Рабочыя рукі, цягло, збольшага нават будаўнічы матэрыял — гэта было сваё, мясцовае: сяляне хадзілі і ездзілі на будаўніцтва, як і на іншую паншчыну. Бадай, аднаго галоўнага архітэктара давялося выпісваць у Бабінавічы аднекуль. Час не захаваў яго прозвішча, але царква была пабудавана ў традыцыйным візантыйскім стылі і сваімі пяццю купаламі, ці, як іх называлі ў Забесяддзі, булавамі, нагадвала здалёку вядомы Успенскі сабор.

Працавала царква ў Бабінавічах восемдзесят гадоў, пакуль апошні местачковы поп, адданы прыхільнік патрыярха Ціхана, не быў пасаджаны на лаву падсудных за супраціўленне дэкрэту «аб канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў…».

Першае, што Зазыба пабачыў усярэдзіне царквы, была вялікая ікона цудатворнай Багамацеры. Яна стаяла па правы бок ад царскіх варот. Перад іконай гарэлі тонкія свечкі з воску. Некалькі жанчын стаялі на каленях і, хрысцячыся, шчыра клалі зямныя паклоны. У царкве панавала ціша, як у скляпенні, пахла гарэлым воскам. Трымаючы шапку ў руцэ, Зазыба падышоў блізка да жанчын, якія цалкам былі захоплены маленнем, і спыніўся насупраць цудатворнай. Доўга глядзеў на твар Багамацеры — здаецца, першы раз за сталае жыццё свядома і з непадробнай цікавасцю ўзіраўся ў святыя рысы, нібыта хацеў разгадаць тайну тае неадольнае сілы, якая выклікала малітвы людзей.

Божы лік быў непраглядны для вока, не паддаваўся разгадцы. Але стаяць перад іконай было цікава, нібы трымала што ля яе чалавека.

Перашкодзіў Зазыбаваму ціхманаму сузіранню Брава-Жыватоўскі. Той ужо колькі хвілін шукаў Зазыбу на плошчы і прывалокся па яго ў царкву з вінтоўкай. Але не паспеў паліцэйскі датупаць да свайго аднавяскоўца, як з бакоўкі ў прытворы выскачыў царкоўны стараста, які падлічваў дзённую выручку за прададзеныя свечкі.

— Ты што ета, анціхрыст? — накінуўся стараста на Брава-Жыватоўскага. — У Боскі храм да са зброяй? Зараз жа вон, каб і нагі твае не было тута!

Брава-Жыватоўскі на нейкі момант збянтэжыўся, але саўладаў з сабой і з незалежным выглядам адхіліў рукой царкоўнага старасту — маўляў, не замінай, шантрапа. Аднак старасту гэтая незалежнасць адно ўзбурыла. Зазыба ўбачыў, што ў царкве наспявае сварка — стараста дасканала ведаў сваю службу і таму кідаўся каршуном на чалавека, які пасмеў са зброяй пераступіць парог храма, а паліцай проста неразважліва паказваў сваю ўладу і сілу, мусіць, па-сапраўднаму не ўсведамляючы, што рабіў. Прысутнічаць пры сварцы не толькі не хацелася, але і недарэчы было, таму Зазыба, ведаючы, што Брава-Жыватоўскі прыйшоў па яго, паказаў на выхад. Брава-Жыватоўскі зразумеў яго, пачаў адступаць.

— Я зараз бацюшку паскарджуся, — не пераставаў пагражаць стараста, — знойдуць цябе і пад зямлёй, хто ты і адкуль! Ета табе не пры бальшавіках! — Ён ужо ледзь не выкідваў Брава-Жыватоўскага з царквы.

— Нейкі памешаны, — пачаў лаяцца Брава-Жыватоўскі на цвінтары, — і адкуль яго, чорта, нанесла?

Зазыбу між тым браў смех ад гэтай гісторыі. Але ён душыў яго ў сабе. Затрымлівацца на плошчы небяспечна было: а раптам і сапраўды пачнецца вялікі шум, які прыцягне ўвагу немцаў? Зазыба, доўга не думаючы, адвязаў каня і наўскач пагнаў па мястэчку. Брава-Жыватоўскаму давялося чапляцца рукамі за гнушку на хаду.

Стараста тым часам ажно падскокваў на цвінтары і, здаволены, што нагнаў на нейкага абротніка страху, махаў наўздагон кулаком. Побач варушыліся жанчыны, што маліліся перад гэтым у царкве. Пры выглядзе двух мужчын, якія ўцякаюць па мястэчку, яны таксама гатовы былі атукаць услед.

Як толькі мінулася небяспека, Брава-Жыватоўскі накінуўся на Зазыбу:

— А ты чаму пайшоў у царкву — ты ж камуніст, навошта яна табе была? Праз цябе ж усё выйшла!

— Па-першае, я цяпера не партыйны, — спакойна запярэчыў Зазыба.

— А ты перада мной не вылузвайся. Я цябе наскрозь бачу. Скора камуністы, якія ёсць у воласці, будуць рэгістрацыю ў камендатуры праходзіць, дык цябе таксама не міне гэта, няважна, што білет адабралі.

Але ў гэты час Брава-Жыватоўскі большую злосць усё ж меў на старасту, які вытурыў яго з царквы.

— Я яго прыхвачу яшчэ дзе-небудзь! — пакінуўшы ў спакоі Зазыбу, пачаў ён пагражаць царкоўнаму старасту. — Будзе ён у мяне, як уюн той у кашы, круціцца!

Нарэшце Брава-Жыватоўскі пачаў зусім астываць — лаянка, мусіць, задаволіла яго, і ён узяў у рукі вінтоўку, якая ляжала дагэтуль на каленях, паклацаў, як для застрашэння, затворам.

І Зазыба, і Брава-Жыватоўскі ехалі на адной драбіне, седзячы спіной да заходзячага сонца, і Зазыба мог назіраць за паліцэйскім нават па цяні, што неадлучна поўз па зямлі, то выгінаючыся на канавах, то выпростваючыся зноў на роўным полі.

За местачковым садам — яшчэ даўнім, панскім, пачаліся калгасныя засевы.

— Сёлета, чорт вазьмі, можам застацца без хлеба! — сказаў раптам з сялянскім сумам у голасе Брава-Жыватоўскі.

Зазыба кіўнуў галавой.

А Брава-Жыватоўскі загаварыў далей:

— Гэта каменданта толькі не было сёння на месцы, а то б можна было ўсё вырашыць нават у мястэчку. Праўда, у нас была ўжо гаворка пра Верамейкі. У яго зроблены поўны расклад на ўсю воласць — недзе неўзабаве павінен прыехаць і да нас, у Верамейкі. У нас таксама, як і ў Бабінавічах, калгаса не будуць дзяліць. Так што, Зазыба, можаш яшчэ застацца на сваёй пасадзе. Нават на павышэнне можаш разлічваць. Твае камуністы скінулі цябе са старшыні, а немцы могуць паставіць.

— У вёсцы цяпера, мусіць, знойдуцца ахвотнікі і без мяне старшынёй быць, — усміхнуўся Зазыба. — Той жа Мікіта Драніца…

— Ну, Мікіта яшчэ не дарос, — адчуўшы Зазыбаву іронію, сур’ёзна запярэчыў Брава-Жыватоўскі.

— Да й ты во чым не старшыня?

— Але я так лічу, што паставяць цябе, — усцешаны Зазыбавай увагай, сказаў памяркоўна Брава-Жыватоўскі. — У Бабінавічах жа пакінулі Абабурку. Не паглядзелі, што і пры Саветах быў. Так што, на ўсякі выпадак, рыхтуйся. А мне старшынёй няма чаго хацець. Мне і так няблага будзе. Набяру вось паліцэйскіх, арганізую стан у вёсцы. Камендант жа ставіць гэта за самае галоўнае перада мной. Думаю, што Раман Сёмачкін пойдзе, можа, Сілка Хрупчык…

— Дак ён жа сухарукі!

— Нічога, вінтоўку ўтрымае, — няйначай, падбадзёрваючы сябе, кіўнуў Брава-Жыватоўскі. — Ты, бачу, ужо лічыш, што акрамя цябе ды Чубара ў Верамейках няма каму і ў начальніках хадзіць? Другія таксама не лыкам шытыя. Толькі не ўсім шанцавала. Табе, напрыклад, твой ордэн памагаў, а Чубара проста аднекуль прывезлі. Нават не спыталіся ў нас. Але я яго апошнія дні ўвесь час пільнаваў. Хацеў на мушку ўзяць.

— Ты от што, — зрабіўшы выгляд, што прапусціў міма вушэй самыя апошнія словы, сказаў Зазыба, — ты дарэмна прысылаеш да мяне Драніцу. Я табе сам скажу. Ордэн я здаў у Хатынічах. Так што…

— А я Драніцу не пасылаў, — раптам пачаў адмаўляцца Брава-Жыватоўскі.

— Не паверу ж я, што яго падбіў на гэта бабінавіцкі камендант. Да й…

Брава-Жыватоўскі адчуў, што Зазыба пачне сарамаціць, як таго вулічнага блазнюка, таму натапырыўся ўвесь:

— Толькі не надумайся пагражаць!

— Я табе не пагражаю, але…

— Што — але? Што — але? — заёрзаў Брава-Жыватоўскі. — Сіла і права цяпер не ў цябе, а ў мяне! Улада перамянілася! Як кажуць, станцыя Беразай!

— І надоўга?

— А назаўсёды!

Зазыба зірнуў на Брава-Жыватоўскага — твар у таго быў як зрушаны.

— Мы тута едзем з табой адны, — сказаў ціха Зазыба, — і ты са зброяй, а я не. Так што… Але я от што павінен табе сказаць, раз ужо едзем адны. Дарэмна ты лезеш у пятлю сваёй ахвотай.

Брава-Жыватоўскі са злосцю паглядзеў на Зазыбу, але не закрычаў. Тады і наогул быццам зніякавеў: Зазыбава шчырасць як раззбройвала ўжо.

— Няма чаго шкадаваць мяне, — сказаў ён неўзабаве. — Лепей вон пагразіў бы Рослаўцаву.

— І Рослаўцаў, можа, свайго дачакаецца…

— Не-е, тут ужо хто каго! — з’едліва ўсміхнуўся і крутануў галавой Брава-Жыватоўскі.

— Ну-ну…

Некалькі часу яны праехалі моўчкі, а тады Брава-Жыватоўскі, мусіць, надумаўшыся іназлаваўшыся сам-насам, пачаў раптам зноў палохаць:

— Ты яшчэ, Зазыба, павінен маліць Бога. Адным словам, каб ты быў Чубарам, то… Давялося б табе ўмыцца ўжо крывёй. — Ён паглядзеў на Зазыбу і весела ўсміхнуўся: — А ведаеш, чаму ты трымаешся яшчэ на паверхні? Цябе топяць, піхаюць уніз, а ты ўсё ўсплываеш? Не ведаеш? Не? Да таму, што ты не сапраўдны камуніст быў.

— Цябе не зразумець, — засмяяўся, паціснуўшы плячамі, Зазыба. — Адзін раз ты кажаш, што я сапраўдны камуніст і не быў, а ёсць, нават пагражаеш на перапіс павесці за шворку, а другі — усё наадварот.

— Сапраўдны камуніст — гэта Чубар. А ты, Зазыба… — Брава-Жыватоўскі пакруціў галавой. — О-о не, Зазыба, ты не сапраўдны камуніст. Ты дзесяць разоў азірнешся, перш чым зрабіць што.

— Але нешта я не ўцямлю, ці ты гэтым хваліш мяне, ці ганіш? — пасля такога дзіўнага, а больш недарэчнага тлумачэння спытаў Зазыба.

— Ты вочы замазаў усім, — нібыта не пачуў Зазыбавага здзіўлення Брава-Жыватоўскі, — вось я табе скажу. Асабліва верамейкаўцам. Як жа, герой! Перад начальствам нават за каго не баішся пастаяць. Таксама пакладзісты. Людзей нібыта шкадуеш. Разумееш, што селянін — тое ж садовае дрэва, трусі яго колькі хочаш, а пад корні не заглядвай. Адным словам, разумны гаспадар на зямлі. Думаеш, я не ведаю, што цябе зачапіць нават цяпер нельга? Ого, паспрабуй толькі, дык нажывеш сабе ворагаў, бадай, у кожнай верамейкаўскай хаце. Не толькі самога звядуць са свету, але і трэцяму калену не даруюць. Я вас, верамейкаўцаў, вывучыў! Я на вас у гэтыя гады наглядзеўся! Кругом ажно скура дымілася на людзях, а з вас нават валасок ні з аднаго не зляцеў! І ўсё праз цябе! Усё праз тваю паказную самастойнасць ды жаласць. Але маліцеся Богу, што Чубара вам позна прыслалі. Час не той стаў. А то б пайшло і ў Верамейках усё пад грэбень. Чубар-то ўжо не тое, што ты, баптыст. Ён не стаў бы шкадаваць кожнага.

Зазыбу ніяк не выпадала падтрымліваць гэтую паліцыянтаву размову: ён наогул не любіў, калі хто пачынаў гаварыць пра яго, а тут і зусім чалавек нёс непатрэбнае…

— А я нават не здагадваўся, што ты нешта маеш да Чубара, — сказаў Зазыба, каб перш за ўсё адвесці ад сябе неразумную гамонку. — На каго-каго, а на цябе дак і не падумаў бы. І наогул… От слухаў я цябе і жахаўся.

— А ты адкуль мяне ведаеш? Можа, я і праўда не і той, кім паказваў сябе?

— Ну, калі і паказваў, дак умела.

Колькі часу яны зноў ехалі моўчкі. Пасля Брава-Жыватоўскі глянуў на Зазыбу, сказаў, нібыта выклікаючы на давер:

— А ты, Зазыба, дарэмна гэтак на мяне. Чалавек ты, канешне, заслужаны. Праўда, я таксама… —І павярнуў усмешлівы твар да Зазыбы. — Але няхай! — Нахмурыў ён лоб. — Пра гэта пазней. Гаворка цяпер не аба мне. Дык я і кажу, чалавек ты заслужаны. Маеш свой капітал. І не толькі ў вёсцы. Дакладней, меў, бо цяпер…

— Як я разумею, дак ты падаеш мне руку на дружбу?

— Так.

— Тады дарэмна.

— Чаму?

— Да таму, што мы з табой і даўней дружбы не вадзілі. Праўда, я цаніў цябе ў калгасе, работнік ты неблагі быў. Але душы тваёй ніколі не ведаў.

— Чалавечая душа — пацёмкі!..

«Сапраўды, пацёмкі, — падумаў Зазыба. — Ці ж можна было дапусціць, што Брава-Жыватоўскі дэзерціруе з арміі і падасца ў першы ж дзень да немцаў на службу? А цяпер от наважыўся цэлую паліцыю стварыць у Верамейках!..»

Уласна, а хто больш чаго ведаў пра гэтага чалавека?

Брава-Жыватоўскі жыў у Верамейках даўно, але не належаў да карэнных жыхароў вёскі. У Верамейках ён паявіўся гадоў васямнаццаць таму, дакладней, нават не ў саміх Верамейках, а спярша ў невялікім пасёлку Стараселлі, што па той бок Бесядзі: там, у былым маёнтку белаглінаўскіх паноў, стварылася камуна, і Брава-Жыватоўскі ажно ці не паўтара года жыў сярод камунараў. Ён лічыўся там за чырвонаармейца, родам з Вілейскага павета, але паколькі мясцовасць тая адышла пад Польшчу, то яму давялося шукаць сабе прыпынку на жыццё на ўсходзе Беларусі. Камуна ў Стараселлі і стала для яго на нейкі час тым надзейным прыстанкам. Але неўзабаве камуна распалася — па той жа самай

прычыне, што і большасць іншых тагачасных сельскагаспадарчых аб’яднанняў, і Брава-Жыватоўскі падаўся за Бесядзь. У Верамейках ён прыстаў да Параскі, чырвонаармейскай удавы, якая мела хоць і запушчаную, але даволі зайздросную па тым часе гаспадарку: цэлы трацяк, як лічылася ў Верамейках, сенажацяў, няўдобішчаў і ворнай зямлі. Такім чынам, было да чаго здароваму чалавеку прыкласці рукі. А Брава-Жыватоўскі, акрамя мужчынскае сілы, меў яшчэ добрую сялянскую кемлівасць і няблага ведаў зямлю — за некалькі год ён урабіў як след пяць Парасчыных дзесяцін і ў калгас паступаў ледзь не серадняком. Жыў Брава-Жыватоўскі, калі гаварыць па-вясковаму, праз тры хаты на чацвёртую — гэта значыць перш чым выйсці на вуліцу, выглядваў з акна, каб мець пэўнасць пра суседзяў.

Але першы, хто пачуў іншую гісторыю яго жыцця, быў камендант нямецкага гарнізона ў Бабінавічах Адольф Гуфельд. Пачуў той яе ад самога Брава-Жыватоўскага.

Што ў гэтай гісторыі мела пад сабой рэальны грунт, а што было дадумана дзеля большай важнасці, каб вырасці ў вачах прадстаўнікоў новае ўлады, сказаць цяжка: гэта ці высветліў бы нават следчы самога д’ябла, калі такі існуе дзе.

Брава-Жыватоўскі апавядаў Гуфельду пра сябе некалькі гадзін… Сапраўды, паходзіў ён з той мясцовасці, што ў дваццаць першым годзе адышла да Польшчы, але нарадзіўся і жыў да першай імперыялістычнай вайны пад Баранавічамі. Прозвішча Брава ў дадатак да свайго — Жыватоўскі — ён атрымаў у Гуляйполі, калі апынуўся ў бацькі Махно. Былы чырвонаармеец, які заснуў на пасту і, баючыся адказнасці — пагражаў трыбунал, — перабег спярша ў белую армію, а затым да махноўцаў. Тым часам недзе ўжо відзён быў канец вайне. Неабходна было пашукаць сабе сталае месца на жыццё. Дакументы яго не засмучалі — у бацькі Махно іх таксама няблага падраблялі. Заставалася толькі добра пачысціць кішэні, каб пазбавіцца ад усяго лішняга. Спачатку Брава-Жыватоўскі падаўся ў Чарнігаўскую губерню, прыбіўся там да аднаго манастыра, але неўзабаве адчуў, што манахі таксама займаюцца небяспечнай дзейнасцю — манастыр быў ледзь не прытулкам для розных банд, — і палічыў за лепшае ўцячы адтуль. З Чарнігаўскай губерні Брава-Жыватоўскі пераехаў у Магілёўскую, паблукаў трохі па ёй, а тады асталяваўся каля Бесядзі ў Старасельскай камуне — балазе гэта было далёка ад так званых бітых шляхоў. І ўжо зусім паспакайнеў Брава-Жыватоўскі, калі апынуўся ў Верамейках. Паступова ён стаў усім падобны да верамейкаўцаў (апрача, можа, таго, што гаварыць зусім па-верамейкаўску не навучыўся, быццам асце-

рагаўся, што ад гэтага задужа мяккі стане яго язык) — вядома, нікому нават і ў галаву не магло прыйсці капнуць пад ім грунт, тым больш што ніколі не даваў зачэпкі на гэта: у ягоным становішчы за лепшае было не выклікаць нядобрай зайздрасці да сябе і сваіх спраў; між тым самога Брава-Жыватоўскага ўвесь час не пакідала зайздрасць — з яго розумам ды з яго адукацыяй (Брава-Жыватоўскі меў не толькі вяскова-школьную адукацыю, але таксама і гарадскую, бо вучыўся некалі ў Баранавічах) пры новай уладзе можна было мець больш за тое, што ён меў, займаючыся гаспадаркай. На наступную вайну, у тым ліку з немцамі, ён не спадзяваўся, бо не верыў, што знойдзецца такая армія, якая хоць трохі падолее Чырвоную. І калі здарылася, што немцы раптам узялі верх з першых дзён вайны, Брава-Жыватоўскі прымусіў сябе паглядзець на рэчы іначай: здалося, што жыццё нарэшце можа павярнуцца да яго другім бокам. Прызваны ў армію па другой мабілізацыі, ён пільнаваў выпадак, каб адстаць ад вайсковай часці і перачакаць недзе альбо падацца ў Верамейкі і там схавацца да прыходу немцаў. Выпадак такі неўзабаве трапіўся — артылерыйскі полк, у складзе якога ён ваяваў, быў разбіты непадалёк ад Бабруйска. У Верамейкі дабраўся Брава-Жыватоўскі ўначы, паспаў да раніцы на сямейным ложку, пасля палез на паддашак. Там яму давялося чакаць таго дня, пакуль не прайшлі праз вёску апошнія чырвонаармейцы. Тым часам разляцелася чутка, што ў Бабінавічы ўступілі немцы. Тады Брава-Жыватоўскі пакінуў сваё сховішча і раніцой пайшоў у мястэчка — падумаў, што першаму, пакуль яшчэ той шапачны разбор будзе, няйначай, большае што дастанецца.

Цяпер Брава-Жыватоўскі наведваўся ў Бабінавічы амаль кожны дзень, як гаварыў — хадзіў на даклады да каменданта Гуфельда. Тым часам вёска жыла ў прытручаным стане, і дакладваць не было пра што: проста Брава-Жыватоўскі не хацеў, дакладней, баяўся жыць у няведанні.

Сёння ён таксама патраціў там дзень, бо Гуфельд паехаў у Крутагор’е на нараду: якраз стваралася адміністрацыйная акруга, у якую павінны былі ўвайсці некалькі былых раёнаў, і камендантаў гарнізонаў выклікала начальства да сябе.

## X

Чубар усім цяжарам здарожанага цела ляжаў на баравым пяску непадалёк ад жоўтай ямы, што акурат нагадвала варонку ад магутнай авіябомбы. Але яма ўсё ж была ўтворана не выбухам

бомбы: тады б, няйначай, кінуліся вачам на блізкіх дрэвах жывыя меціны ад гарачых асколкаў, а яшчэ больш — кавалачкі паспяканага металу на самым дне, якое б мела таксама характэрны нагар сіняга колеру. Хутчэй за ўсё паблізу недзе працаваў смалакурны завод, на якім здабывалі звычайную каламазь і шкіпінар, і яшчэ не дужа даўно — краі ямы не паспелі парасці — падрыўнікі з таго завода «апрацоўвалі» тут аманалам сасновы пень, які адзін, можа, даў ім цэлыя кубаметры патрэбнай сыравіны.

Чубар выбраў гэтае месца — бліжэй да ямы — знарок, каб у кожную хвіліну можна было не толькі схавацца, але і заняць, як цяпер належала думаць па-вайсковаму, кругавую абарону. Месца для гэтага было сапраўды прыдатнае: выносісты схон, парослы рэдкімі соснамі, навісаў, быццам уцёс, над дарогай і панаваў ледзь не над усёй мясцовасцю; прынамсі, адсюль Чубар бачыў і раку, якая блукала паміж парослых ракітамі берагоў па шырокім лузе, і дзве невялікія вёскі — адну па левы бок ад сябе, а другую насупраць. Калёсная дарога, з якой збочыў Чубар паўгадзіны таму, вяла праз луг да другой вёскі, што была насупраць. Далей Чубар таксама меркаваў ісці па гэтай дарозе, але цяпер не хацелася рабіць з сябе жывую мішэнь. Менавіта па гэтай прычыне ён і зрабіў тут прыпынак. Але ні ў хаванні ў яме, ні тым больш у кругавой абароне патрэбы, здаецца, не было.

Чубар не здагадваўся, але знаходзіўся ён ужо менш як за паўкіламетра ад Бесядзі. Рака, што цякла наперадзе, была самай сапраўднай Бесяддзю. Аднак выйшаў Чубар да яе далёка па левы бок ад Верамеек.

Чубар чакаў шарай гадзіны, таму ляжаў на схоне спакойна, падкурчыўшы пад сябе ногі, якія ажно смылелі ў закарэлых анучах. Быў ён у такім стане, калі чалавек нарэшце даходзіў ва ўсім, прынамсі, у галоўным, што найперш займае галаву і сэрца, да той яснасці, якая не пакідае больш ніякіх сумненняў альбо проста выклікае ўсведамленне, што з усіх магчымых варыянтаў вось гэты калі і не адпавядае дакладнаму выбару, то ўжо найбольш мэтазгодны напэўна. Усё, што магло выпасці цяпер на долю ў сувязі з вайной, ён успрымаў ужо са спакоем і гатовы быў нават дзівіцца з таго, што столькі багата патраціў часу, здавалася, на непатрэбнае, хоць і разумеў — яснасць гэтая склалася ў яго менавіта пасля сустрэчы з палкавым камісарам. Пасля размовы з тым, а больш — з шыраеўскімі мужыкамі, калі давялося выдаць сябе за партызана, ён ужо іначай і не называўся людзям. Але затое пачаў лавіць сябе на думцы, што багата чаго рабіў быццам наперакор сабе. Цяпер яму нават здавалася, што замест яго дзейнічае нейкі механізм, які ўстаўлены ўсярэдзіну.

Чубар такі затрымаўся тады ў Шыраеўцы на колькі гадзін: Палага не адпусціла яго задарма — праўду кажуць дасведчаныя людзі: з бабай, як з чортам, лепей не садзіся на адно чарано… Спярша, ажно да наступнай раніцы, Чубар адчуваў у сабе прыкрую спустошанасць ад выпадковай сувязі з жанчынай, але ў дарозе паступова вастрыня пачуццяў страчвалася, перагараючы і астываючы ў душы і свядомасці, і цяпер пра ўсё, што адбылося тады ў вясковай хаце, успаміналася без шкадавання і згрызоты, як пра нешта далёкае і незваротнае…

Сонца ледзь скранулася з зеніту, але далёкі захад пераліваўся ўжо найтанчэйшымі адценнямі фарбаў. Дрэвы, што стаялі на схоне, былі быццам аточаны паветрам.

Здаецца, упершыню за сталае жыццё Чубар меў сабе магчымасць думаць пра тое, хто ён, адкуль прыйшоў у гэты свет і як жыў. На другое пытанне адказ быў гатовы даўно — уласна, вось ужо амаль паўтара дзесятка гадоў, як Чубар стаў дарослым чалавекам, адказ гэты ішоў следам за ім у разлінеенай анкеце: нарадзіўся за восем гадоў да рэвалюцыі, рана застаўся без бацькоў і таксама рана трапіў на «выхаванне» да чужых людзей… Гэтыя акалічнасці, бадай, і сталі вызначальнымі ў фарміраванні яго як асобы. Аднак крытэрыі ацэнак у адносінах да сябе і да людзей, з якімі давялося сустракацца ў жыцці, выпрацоўваліся пасля, калі з дзіцячай працоўнай камуны ён трапіў спярша па найме да багатага хутараніна, а адтуль, незадоўга да суцэльнай калектывізацыі ў вёсцы, паступіў у школу каморнікаў — трохі незвычайную межавую навучальную ўстанову для вясковых дзяцей, якая адкрылася ў былым маёнтку царскага генерала, што перайшоў на службу ў Вышэйшы вайсковы савет маладой Чырвонай Арміі. На трэцяе пытанне — як жыў? — таксама няцяжка шукаць адказ. Тым больш што яно было далейшым працягам другога пытання. Напрыклад, Чубар добра ўсведамляў сабе, што выйшаў у жыццё пасля смерці бацькоў — маці памерла ад тыфусу ўранні, а бацька надвечар таго дня — толькі дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі, якой раптам стала справа да ўсяго ў краіне, у тым ліку і да такіх вашывых беспрытульнікаў, якім апынуўся дзевяцігадовы Родзька, сын нябожчыкаў Антона і Хадоры. У чалавеку заўсёды жыве ўдзячнасць да тых, хто рабіў калі добра яму. Ад Чубара таксама людзі мелі падставу чакаць такой удзячнасці. Але ў ягонай душы яна трансфармавалася з нейкага часу ў адно, і ён жыў з удзячнасцю да той рэвалюцыі, якая не дала яму прапасці ў вялікім брудзе лахманоў. Можа, не кожны раз ён добра ўсведамляў сабе тое, што рабіў, затое заў-

сёды, ці амаль заўсёды, ведаў, дзеля каго і дзеля чаго рабіў. Але бліжэй да анкеты! Каморніцкай школы тады Чубару не ўдалося скончыць — пачалася калектывізацыя, і ён, ужо дваццацігадовы чалавек, пайшоў разам з іншымі актывістамі «збіваць» сялянскія гаспадаркі ў адну вялікую, якая абяцала перайначыць вясковае жыццё. Усё спадзяваўся, што некалі вернецца ў школу, давучыцца, але падзеі закружылі яго ў сваёй віхуры, і праз нейкі час ён адчуў, што трэба выбіраць сабе новую лінію жыцця. На працягу наступных дзесяці гадоў, якія занялі час ад калектывізацыі да вайны з нямецкімі фашыстамі, Чубар працаваў на розных пасадах, пачынаючы ад сакратара сельскага Савета, збольшага вучыўся, а то зноў працаваў. І калі б хто староннi паспрабаваў уявіць сабе Чубара збоку, то магло б, няйначай, здацца, што той нечым нагадваў зрушанага з берлагу мядзведзя… Займаючыся цяпер супастаўленнем фактаў, дакладней, момантаў свайго жыцця, аналізам вызначальных альбо проста пабочных падзей, якія складалі гэтае жыццё, Чубар найбольшую цяжкасць меў адказаць на першае пытанне — хто ён? Было такое ўражанне, што сам ён наогул няздольны расказаць пра сябе да канца і што патрэбны нехта іншы, хто ведае яго і хто б сапраўды даў звесткі пра ўсё.

Чубар паспрабаваў абудзіць так званую фантазію, і неўзабаве ў галаве ўжо маляваліся карціны адна ярчэйшая за другую… Мозг у сваіх лятунках звычайна не ведае межаў, але Чубар не дазваляў яму завельмі адрывацца ад рэальнасці.

Усё, ці амаль усё, можна было збольшага наперад прадбачыць у думках, а вось тое, як складуцца ў Чубара справы, калі ён вернецца ў Забесяддзе, нельга было нават уявіць…

Чубар пазяхнуў — ужо як брала разморанасць, аднак засынаць так небяспечна было: па-першае, зямля, нягледзячы на баравы пясок, не пазбавілася пакуль тае настыласці, якую прынеслі нядаўнія дажджы, да таго ж справа наогул была пад восень, а па-другое, рабіць гэтага нельга было і па самай простай прычыне, якая тлумачылася наяўнасцю побач дарогі. Чубар паклаў на далонь твар і ўбачыў паміж пасохлай травы жывую сцежку, па якой у вялікай заклапочанасці спяшаліся ва ўсе канцы рыжыя мурашкі, нібыта назнарок перавязаныя пасярэдзіне. Недзе паблізу павінен быў знаходзіцца мурашнік, але колькі ні азіраўся Чубар, не заўважыў яго. Тым часам мурашкі былі вялікія — значыць, лесавыя. Такія не захочуць жыць ні ў паточаным пні, ні тым больш пад зямлёй. Чубар ведаў, што мурашкі таксама часам перавандроўваюць у іншыя месцы, асабліва калі

на мурашнік нападаюць дзікі. Пэўна, і гэтыя вымушаны былі па нейкай прычыне пакінуць свой дом, і Чубар цяпер бачыў іхнюю дарогу перасялення. Дзіва, але мурашкі былі гэтак заняты сваёй справай, што нават не звярталі ўвагі на чалавека, які ляжаў побач.

Назіраць за мурашкамі раптам стала цікава, і Чубар упёрся нагамі ў зямлю, каб падацца трохі наперад, а тады лёг зусім на жывот і паставіў локці цыркулем над жывой дарогай. Ён бачыў, як дзве мурашкі спрабавалі перавалачы цераз сасновы корань, што выпінаўся на паверхню, пагрызенае тулава лугавой стракозы, але дарэмна, у іх на гэта не хапала ні сілы, ні спрыту, і стракоза адно ледзь прыкметна краталася. Тым часам астатнія мурашкі працягвалі рабіць кожная сваё, а больш — проста спяшаліся некуды адна за адной і нават не зважалі на клопат другіх. Тады Чубар зламаў сухую былінку, што была на адлегласці выцягнутай рукі, і пасабіў небаракам, перакінуўшы стракозу цераз корань. Захацелася наогул паваждацца з гэтымі разумнымі і ахайнымі казуркамі. З нейкай помслівай, няйначай, хлапчуковай зларадаснасцю Чубар паклаў упоперак мурашкавай сцежкі палец і колькі часу назіраў за раптоўнай разгубленасцю: як натыкнуліся мурашкі з абодвух бакоў на перашкоду, якая засланіла шлях, так і забегалі ўстрывожаныя паўз яе, але пераадолець цераз верх, здавалася, не думалі. Толькі адна ўспаўзла на Чубараў палец, памітусілася па ім, быццам у яшчэ большай разгубленасці, тады не ўтрымалася на схіле і паляцела потарч на зямлю.

Між тым асноўная маса мурашак ужо абмінула Чубараў палец вакол пазногця, і жывая дарога зноў пачала дзейнічаць.

«Чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала» — успомніў Чубар выслоўе ў сувязі са сваімі доследамі над мурашкамі і ўсміхнуўся, як чалавек, які даўно быў адзін: ён далёкі быў ад таго, каб рабіць, як здараецца, нейкія аналогіі паміж мурашкамі і людзьмі, для гэтага нават у такі час патрэбна быць сама меней філосафам…

Чубар павёў вачамі па лузе, зачапіўшы позіркам прасцяг ад вёскі, што была злева, і да той невыразнай палоскі на небасхіле, якая нерухома стаяла ўжо столькі часу, колькі Чубар ляжаў на схоне. З вёскі, што насупраць, ішоў да ракі чалавек. Але быў ён яшчэ далёка ад яе. Чубар не здзівіўся, што ўбачыў раптам чалавека — урэшце, быў звычайны дзень, але колькі хвілін усё ж не зводзіў з яго вачэй, нібы зайздросцячы, што той ідзе вось праз луг, як кажуць, на ўвесь рост і, мусіць, без усялякае перасцярогі, а ён вымушаны туляцца, чакаць цемнаты. Чалавек адсюль здаваўся пакуль рухомай кропкай, якая патрохі набліжалася да

ракі, і разгледзець яго немагчыма было, хоць паветра над лугам стаяла празрыстае, а прадметы ў ім бачыліся быццам аточаныя з усіх бакоў. Гэтак бывае таксама і з рачной вадой, але ўжо ў самую восень — некуды сплывуць летняя цвіль і шумавінне, і пад тоўшчай вады выразна прагляне тады ўсыпанае каляроваю галькаю дно. Чубару было цікава адгадаць наперад, каго раптам вывеў клопат за вёску, аднак дарэмна: цяпер, калі ўсё перайначылася пад Богавай страхой і не паддавалася вызначэнню, можна было меркаваць і так, і гэтак. Разам з тым Чубар разумеў, што кожная сустрэча дадавала яму нешта да таго, што ён ужо ведаў. Уласна, толькі сустрэчамі гэтым часам і даводзілася жыць, бо пасля гаворкі нават з самым няшуплівым чалавекам прыходзіла ў галаву новая яснасць. Праўда, на кожную сустрэчу ішло багата маральных і фізічных сіл — заўсёды неабходна было трымаць сябе як напагатове. Але то былі ўжо, бадай, накладныя выдаткі.

Нарэшце чалавек перайшоў раку і апынуўся на другім беразе. У хадзе яго не адчувалася імкнёнасці, якая бывае ў людзей, што спяшаюцца з прычыны пільнай патрэбы. Проста ён ішоў з той зададзенай размеранасцю, якой павінна было хапіць яму калі не да скону дня, то хоць да наступнай вёскі. Нават здалёку кідалася ў вочы, што ён асцерагаўся ступаць усёй падэшвай правай нагі.

Але вось чалавек мінуў па хмызе апошнюю ручаіну на лузе, тады падышоў да схону, пад самы абрыў і колькі часу тупаў унізе, хаваючыся ад Чубаравага зроку. Нарэшце галава яго вынырнула паміж сосен, што на краі схону, і з гэтага часу чалавека зноў стала відаць усяго. Па баках ён не азіраўся, а глядзеў на дарогу, пад ногі, нібыта падлічваў крокі, якія рабіў з наўмыснай стараннасцю, таму Чубару варта было падумаць, каб не даць прайсці міма. Але Чубар адразу не стаў гукаць — проста спачатку сеў, паклаўшы на ўлонне вінтоўку, а тады пачаў гучна «кахыкаць», не зводзячы пры гэтым прыжмураных вачэй з незнаёмага чалавека. Той павярнуў галаву на прытворны кашаль і запаволіў хаду, быццам затупаў на адным месцы, аднак пакуль нельга было адгадаць, ці ён пойдзе далей, ці збочыць сюды.

— Што гэта за рака там? — спытаў тады Чубар, але такім невыразным голасам, быццам гаварыў у пустату і не хацеў, каб чалавек пачуў яго.

Ажно не — той разабраў Чубаравы словы і таксама не на ўвесь размоўны голас сказаў:

— Дасюль, здаецца, помніў, а цяпер, як на тое, забыў. Але пачакайце, нешта падобнае на Лесядзь…

— Бесядзь?

— Здаецца, так.

— Няўжо Бесядзь? — выцягнуў шыю Чубар.

А чалавек сышоў з дарогі і, непрыступна тупаючы да Чубара, дадаў:

— Здаецца, у вёсцы так гаварылі.

Чубар сядзеў як апантаны — ён уражаны быў, што раптам наперадзе апынулася Бесядзь. Ажно не хацелася верыць, бо па ягоным меркаванні тая мусіла быць недзе далей.

— А вёска? Як вёска завецца, адкуль вы ідзяце?

— Антонаўка.

— Антонаўка?

— Так, гэта я ўжо дакладна ведаю.

— Антонаўка, — вымавіў сабе Чубар, але дарэмна намагаўся ўспомніць, ці даводзілася чуць пра яе раней. — А тая? — паказаў ён на стрэхі другой вёскі, якая таксама стаяла за ракой і якую добра відаць было адсюль.

Чалавек запыніўся, доўгім позіркам паглядзеў на вёску, але адказаць быццам забыўся. Тады Чубар зноў запытаў:

— А не ведаеце — гэта ўжо Беларусь?

— Здаецца, ужо не Беларусь.

— Значыць, яшчэ не Беларусь? — Чубара гэта здзівіла — тады ж, у лесе за Шыраеўкай, ён старанна вывучыў па карце маршрут у Забяседдзе, і па ягоных разліках той павінен быў вывесці калі не проста да самых Верамеек, то ўжо не з вялікім адхіленнем ад іх.

Чалавек між тым падышоў да Чубара і сеў, не пытаючыся, насупраць, абхапіўшы дзеля раўнавагі рукамі калені. Яго постаць пры гэтым стала зусім сутулая, а плечы нібыта яшчэ больш павузелі. Быў ён увесь у вайсковым—як ужо ўгледзеў Чубар раней, у камандзірскай фуражцы з цёмна-зялёным акалышкам, пачарнелай дыяганалевай гімнасцёрцы і галіфэ, а на нагах былі рудыя боты з мяккімі парусінавымі халявамі, якія на самых згібах пусцілі на волю пабялелыя ніткі. Спярша Чубар падумаў, што на чалавеку пагранічная форма, але дарэмна: пагранічнікі насілі святлейшы колер на фуражках, да таго ж — не на акалышках. Значыць, чалавек належаў да нейкага другога роду войск. Знакі адрознення на пятліцах адсутнічалі. Нават непрыкметна было цёмных лапікаў, што пакідаюць звычайна камандзірскія трохкутнікі, кубікі, шпалы і г. д. — можа, таму, што даўно паздыманы былі. Чалавек пасядзеў колькі часу, быццам дзеля прыліку ці ўспамінаючы што, тады зняў фуражку, і Чубар убачыў, што галава ў таго была сівая, але не спрэс, а

пасмамі — здавалася, па чорных валасах блукалі сярэбраныя ясвы. Сівізна хоць і рабіла яго старэйшым за свой узрост (без яе можна было налічыць гадоў дваццаць восем), аднак разам з тым надавала ўсяму вобліку амаль ненатуральную прыгажосць, якая ажно выклікала недавер да сябе. І тым не менш у яго ўсё было самае сапраўднае — і пасівеласць, дакладней, ужо, бадай, цалкам сівізна, і непадробная прыгажосць. Тым часам у вачах, колер якіх не паддаваўся вызначэнню, стаяў стомлены страх, які ўзнік, можа, даўно, але які і да гэтага моманту чамусьці не пакінуў глыбокага прадоння.

У Чубара ён выклікаў дзіўнае пачуццё — было такое ўражанне, нібыта вочы ў чалавека не свае, прынамсі, здавалася, што яны не прымалі ніякага ўдзелу ў тым, што рабіў ён сам, гэта значыць не падзялялі паводзін не толькі тулава, але і галавы.

Чубар, вядома, не сумняваўся, што чалавек бачыў яго, але глядзеў той нешта на ўсё — і на Чубара, і ў прастору перад сабой — як невідушчым зрокам: вінтоўка, якую трымаў на ўлонні Чубар, напрыклад, нават не выклікала ў ім увагі.

— Вы камандзір?

— Не. Я — ваенурач. Гінеколаг.

Пачуўшы гэта, Чубар стрымаў у сабе няпрошаную ўсмешку, але не мінуў пажартаваць:

— А што рабіць у арміі гінеколагу? На службу ж пакуль бралі мужчын?

— Гэта я па колішняй спецыяльнасці гінеколаг, а так — ваенурач другога рангу.

— Адным словам, доктар?

— Так.

Мусіць, чалавеку не першы раз даводзілася мець размовы накшталт гэтай, таму адказваў ён Чубару як не з завучанай лёгкасцю.

— А цяпер што, з акружэння выходзіце?

Ваенурач не адказаў.

— Тады чаму вось так, — дапытваўся Чубар. — На віду? Можна ж да немцаў у рукі трапіць?

— Я з палону іду.

— Ці не рана гэта? Звычайна ж з палону вяртаюцца пасля вайны?

— Мяне адпусцілі цяпер.

Чубар пацiснуў плячамі:

— Хто?

— Немцы.

— І куды вы цяпер?

— У Свярдлоўск.

Тады Чубар плюснуў у здзіўленні вачамі:

— У Свярдлоўск?

— Так.

— А як вы туды дойдзеце?

Але чалавек, здавалася, нават не адчуў Чубаравай унутранай збянтэжанасці — вочы яго былі напоўнены тым жа стомленым страхам, ад якога Чубару ўсё больш рабілася не па сабе.

— Я іду з нямецкага палону, — нібыта пераконваючы Чубара, удакладніў праз нейкі момант ваенурач: ён паводзіў ужо сябе як на допыце, які безнадзейна зацягнуўся і які, нарэшце, стаў абыякавым для яго.

І Чубару нічога не заставалася, як чыніць гэты несвядомы допыт:

— Дзе вас узялі ў палон?

— Каля Слоніма…

— Параненага?

— Не.

Гаворка паміж Чубарам і ваенурачом увесь час ішла быццам па кругах, але якія, у адрозненне ад тых, што на патэфоннай пласцінцы, не маюць пераходу адзін ад аднаго. Таму кожны раз Чубару даводзілася пачынаць яе амаль спачатку.

Тым часам Чубар ужо глядзеў на доктара, як кажуць, на ўсе вочы, аднак не з тае прычыны, што адчуваў сваю найвышэйшасць над ім, хутчэй наадварот: знешняя адчужанасць, якую доктар прынёс аднекуль, з кожнай хвілінай усё больш выклікала ўтрапёную незразумеласць.

— І вы праўда — доктар? — пытаўся далей Чубар, нібыта яшчэ цалкам не верыў.

— Ваенурач другога рангу. — Дзеля большай пераканаўчасці чалавек падняў угору рукі, выставіўшы іх растапыранымі далонямі—яны былі ў яго сапраўды доктарскія, як кажуць, выпешчаныя да самых пазногцяў, быццам ён толькі што выйшаў з аперацыйнага пакоя.

Тады Чубар падаўся наперад усім тулавам і, робячы як найбольш даверлівы голас, усклікнуў:

— Гэта добра, што я вас затрымаў!

— Што, захварэлі?

— Не, сам я здаровы.

— А хто хворы?

— Пакуль няма хворых. Але могуць быць. Дакладней, параненыя. — Сказаўшы гэта, Чубар дастаў з кішэні скарочаны тэкст

прамовы таварыша Сталіна, атрыманы ад палкавога камісара, падаў доктару: — Пачытайце вось.

Той разгарнуў складзеную лістоўку, прабег вачамі: «У занятых ворагам раёнах трэба ствараць партызанскія атрады, конныя і пешыя, ствараць дыверсійныя групы для барацьбы з часцямі варожай арміі, для распальвання партызанскай вайны скрозь і ўсюды, для ўзрыву мастоў, дарог, псавання тэлефоннай і тэлеграфнай сувязі, падпальвання лясоў…» Доктар дачытаў дагэтуль, адвёў позірк і нібы задумаўся.

Тады Чубар сказаў няпэўна:

— Вось бачыце!

— Але я не разумею, якое дачыненне… словам, навошта мне чытаць гэта?

— Я ж вам казаў, нас, мусіць, шчаслівы выпадак звёў! Мне во як доктар патрэбны будзе! — І Чубар правёў па шыі рукой.

У прадонні доктаравых вачэй зварухнулася штосьці падобнае на свядомую зацікаўленасць.

— Урэшце, хто вы? — спытаў ён.

— Я маю заданне стварыць партызанскую групу. А лістоўка гэтая — мой мандат.

— Вон што… Яны памаўчалі.

— Вы тутэйшы? — праз нейкі момант спытаў ваенурач.

— Не. — Чубар падумаў і дадаў: — Але думайце ўжо, што тутэйшы. Праўда, вы мяне трохі здзівілі. Мне здавалася, што Бесядзь гэтая недзе там, — ён махнуў рукой перад сабой. — Але вы кажаце…

— Бо я так у вёсцы пачуў…

— Я не дакараю вас, — усміхнуўся Чубар. — Гэта нават добра, што Бесядзь тут. Я гэту раку ведаю. Працаваў каля яе. У Верамейках. Гэта збоч. Але вы не хвалюйцеся. Мы цяпер з вамі хутка дойдзем туды. Там лясы кругом.

— І мы іх паліць павінны?

Доктарава някемнасць здалася Чубару знарочыстай. Але Чубар не дазволіў сабе зазлаваць. Наадварот, прытворна засмяяўся і кінуў з ледзьве прыкметным ушчуваннем:

— У лістоўцы ж не адно гэта сказана. Трэба чытаць правільна. А то вы неяк…

— Большага не прачытаеш, як напісана, — зацята сказаў ваенурач.

— Аднак абы-што гаварыць таксама не варта, —з выразным падтэкстам параіў яму Чубар. — Тым больш што асабіста вам нічога не давядзецца паліць. Рыхтуйцеся партызан лячыць.

Здавалася, гэтым размова магла і скончыцца. Але не — Чубар спытаў яшчэ:

— Дык прымаеце маю прапанову?

— Не.

— Чаму? — здзівіўся Чубар. Ваенурач, не задумваючыся, адказаў:

— Разумееце, я не падыду вам.

Чубар зрабіў незразумелыя вочы, сабраўшы гармонікам шырокі лоб.

— Не ведаю, як растлумачыць, — сказаў тады ваенурач, — але я ўжо не падыходжу для вашай справы. І наогул…

— Доктар, вы на сябе паклёп узводзіце, — засмяяўся Чубар.

— Не, я праўду кажу. Мне давялося багата перажыць апошнім часам… Пра гэта доўга расказваць. Але няўжо не відаць па мне, што я…

Чубар павёў галавой — маўляў, не відаць.

— А я ўжо каторы дзень баюся на сябе глядзець не толькі ў люстэрка, а і ў вадзе, калі, бывае, нахіляюся ды п’ю. Не, я ўжо нікуды не варты. Нават людзей лячыць. Бо хворы чалавек не можа другіх лячыць.

— Але па тым, як вы разважаеце, зусім не чуваць…

— Не далікатнічайце, гаварыце. — На доктаравым твары з’явілася штосьці падобнае на пагардлівую ўсмешку.

Тады Чубар загарэўся чырванню і сказаў быццам у злосці:

— Я хацеў сказаць, што вы не падобны на таго, кім хочаце выдаць сябе. Свядомасць ваша, мяркуючы па размове, таксама ў поўным парадку. Нават злосці хапае, нягледзячы што з выгляду абыякавы да ўсяго.

— Гэта, бадай, не злосць, а хутчэй — бездапаможная зласлівасць.

— Бачыце, нават самі разумееце. А навошта тады гаварыць абы-што? Самі ведаеце, за такое…

— Вы думаеце, гэта цяпер самае страшнае?

Чубар не адказаў, уражаны нечаканым адкрыццём — з кожнай хвілінай яму ўсё цяжэй станавілася размаўляць з гэтым чалавекам.

— Самае страшнае, — тлумачыў тым часам доктар, — бадай, усведамленне таго, што ты ўжо ні на што не варты.

— А вам не здаецца, таварыш ваенурач другога рангу, — прыжмурыў вочы Чубар, — што гэтыя словы могуць нагадваць самыя звычайныя хітрыкі чалавека, якому па нейкай прычыне вельмі патрэбна выдаць сябе… ну… за вар’ята, ці што?

— Вось бачыце, гэты раз вы ўжо больш дакладна называеце рэчы, — не мяняючыся ў твары, сказаў ваенурач, але ў голасе ягоным пачулася дрэнна схаваная злараднасць, нібыта чалавек нарэшце атрымаў тое, чаго дамагаўся.

Чубар пакруціў галавой.

— І тым не менш у сваім вар'яцтве вы мяне не пераканалі, — жорстка сказаў ён.

— А я і не імкнуўся рабіць гэта, — спакойна запярэчыў доктар. — Проста я хацеў сказаць, што мне давялося перажыць момант такога нервовага напружання, якое чалавека робіць у канчатковым выніку калі не вар'ятам, як вы гаворыце, то ўжо непрыгодным ні для якой справы.

— Але ж вы не будзеце адмаўляць, што сур'ёзная справа вяртае чалавеку яго сапраўдны воблік? — Чубар колькі часу чакаў, што адкажа на гэта ваенурач, але той унурыў галаву і сядзеў зноў безуважны. — Добра, я абяцаю забыць пра ўсё, — быццам ратуючы становішча, сказаў тады Чубар, — што вы нагаварылі тут, але далей вам ісці не варта, трэба выкінуць з галавы, мякка кажучы, ненармальную ідэю дайсці адсюль у Свярдлоўск, зрэшты, пасмяяцца з яе!..

— Паверце, мне зусім не цікава — забудзеце вы пра нашу размову ці не. Да таго ж нічога асаблівага, што падлягала б пакаранню, я не нагаварыў тут. Таму пагрозы вашы…

Чубар не даслухаў.

— Мне доктар патрэбны, разумееце? — хвалюючыся, затрос галавой Чубар. — Таму я і ўгаворваю вас. Урэшце, таму я і не кажу вам, што непадалёк адсюль спыніўся фронт і што вам засталося ўжо нядоўга ісці да яго!

— Але я нязздольны на тое, чаго вы хочаце ад мяне, — упарта паўтарыў ваенурач.

— А я вам не веру! — сказаў, як падначыўшы, Чубар.

— Тады паслухайце.

І ваенурач пачаў расказваць роўным і глухім голасам, але зноў быццам з завучанай лёгкасцю.

…На тую ноч, як выбухнуць вайне, ваенурач паехаў на чыгуначную станцыю ў Баранавічы сустрэць малодшага брата, які толькі што скончыў школу малодшых палітрукоў і накіроўваўся ў 10-ю армію для праходжання далейшай службы. Штаб 10-й арміі тады знаходзіўся недзе каля Беластока, калі нават не ў самім Беластоку. Вядома, туды хутчэй было ехаць праз Брэст. Але тым жа цягніком і з той жа школы малодшых палітрукоў у Асобую Беларускую ваенную акругу ехаў служыць не адзін

доктараў брат — з выпуску сорак першага года сюды атрымалі прызначэнне некалькі чалавек: напрыклад, пяць малодшых палітрукоў мелі накіраванне ў палітупраўленне 3-й арміі, амаль столькі ж выпускнікоў атрымалі накіраванне ў 28-ы стралковы корпус, штаб якога быў у Брэсце. Жыццярадасныя і яшчэ амаль па-студэнцку бесклапотныя, яны нават называлі адны адных паміж сабой — «беластоцкімі», «гродзенскімі», «брэсцкімі». Кажуць, за кампанію і цыган павесіўся. Дык вось і з малодшымі палітрукамі нешта падобнае было — «беластоцкія», у тым ліку і доктараў брат, вырашылі ехаць да месца службы кружной дарогай, праз Гродню, балазе быў час, і яны, такім чынам, нікольні не пазніліся.

У Баранавічы пасажырскі цягнік прыйшоў па раскладзе, але там яго затрымалі. Прычыны ніхто ў цягніку не ведаў, пасажыры — пераважна вайсковыя людзі — казалі, што наперад прапускаюць нейкі другі цягнік. Аднак вагоны на запасныя рэйкі не заганялі, і гэта трохі дзівіла. Тым часам для братоў, якія колькі гадоў не бачыліся, затрымка цягніка была дарэчы. Яны пахаджвалі пад занавешанымі вокнамі вагонаў, пціху гаманілі і нават не заўважалі, што ўжо радчэла цёплая ноч і ўвачавідкі світала. Ніхто не здагадваўся, што заставалася мала часу да таго моманту, калі на савецкую зямлю разам з раніцай упадуць варожыя бомбы і даваеннага жыцця больш не будзе, і наогул — багата для каго яго зусім не стане. Тым не менш нават тады, як на падлёце да горада пачуўся гул фашысцкіх самалётаў, ваенурач, а разам з ім і іншыя людзі, якім здарылася не спаць, не падумалі, што гэта вайна — урэшце, маглі ляцець таксама савецкія самалёты, да таго ж немцы ў канцы мая ўжо рабілі такі масавы налёт, дасягнулі Баранавіч, але павярнулі назад: і дасведчаныя, і недасведчаныя людзі, якім давялося бачыць майскі палёт, палічылі яго за звычайную правакацыю, хоць то была ўжо генеральная рэпетыцыя… У тую ноч, дакладней — раніцой 22 чэрвеня, у Баранавічах рабілася аднолькава, як і ва ўсіх больш-менш буйных гарадах, што знаходзіліся не вельмі далёка ад дзяржаўнай граніцы. Пакуль суд ды справа, цягнікоў на захад не пускалі. Вайсковыя людзі рушылі натоўпамі да камендацта горада. Ваенурач і ягоны брат разам са сваімі таварышамі таксама падаліся туды. Каля гарадской камендатуры неўзабаве сабралася багата камандзіраў у розных званнях — і тыя, што вярталіся з чарговага адпачынку, і тыя, што ехалі яшчэ толькі па накіраванню. Але камендант нікога не мог задаволіць, адно казаў, каб усе як найхутчэй дабіраліся ў свае часці. На каманду

малодшых палітрукоў — іх з чамаданчыкамі зайшло ў кабінет да яго дванаццаць чалавек — глядзеў не столькі з заклапочанасцю, колькі з неўразуменнем і разгубленасцю, быццам сапраўды не ведаў, што з імі рабіць: усё круціў у руках іхнія прадпісанні ды моршчыў, як ад вялікай пакуты, лоб. Хоць камендант і разумеў, што буйныя штабы ўжо, няйначай, занялі падрыхтаваныя ў іншых месцах камандныя пункты, але і малодшым палітрукам параіў тое, што раіў другім камандзірам — хутчэй дабірацца да месцаў прызначэння. Разам з тым ён паклікаў па тэлефоне нейкага капітана і загадаў выдаць кожнаму па рэвальверы сістэмы «наган». Малодшым палітрукам давялося вяртацца зноў на чыгуначную станцыю. Але дарэмна: цягнікі па-ранейшаму стаялі на рэйках. Нават ваенурач не мог даць сабе рады, хоць яму, здавалася, было прасцей: артылерыйская брыгада, дзе той меў сабе медыцынскую службу, стаяла на паўдарозе ад Гродні сюды, і туды па чыгунцы было зусім не багата ехаць. Але чыгунка пакуль не дзейнічала, спадарожных машын таксама дарэмна было шукаць; апрача таго, ваенурач ведаў, што брыгада па камандзе ўжо рушыла з вайсковага гарадка. Адным словам, становішча складвалася такое, калі выйсце з яго цалкам залежала ад самаініцыятывы і кемнасці, і ваенурач, адчуўшы раптам адказнасць за малодшых палітрукоў, павёў так званых «беластоцкіх» і «брэсцкіх» за горад, на скрыжаванне дарог, бо ў яго была надзея, што там натрапіцца нешта спадарожнае. Аднак за ўвесь першы дзень «беластоцкім» палітрукам ледзь пашанцавала апынуцца ў Альберціне: дзіва, але да самага паўдня на шашы, акрамя як на Брэст, не было ніякага руху; уздоўж граніцы ўжо на ўсю моц грукатала вайна, а тут, непадалёк ад Баранавіч, нібыта сцішылася ўсё ў задуманай нерашучасці, нібыта шукала сабе яшчэ нейкае пэўнасці. З Альберціна — гэта на другую раніцу — тры малодшыя палітрукі на чале з ваенурачом другога рангу рушылі далей, трымаючыся дарогі на Ваўкавыск, але за Слонімам пачаліся бамбёжкі, і неўзабаве ўжо амаль нельга было рухацца наперад, бо ад граніцы, як выйшаўшая з берагоў вада, хлынулі на дарогі адыходзячыя чырвонаармейскія часці. Давялося паварочваць на прасёлкі, але і там рабілася немаведама што — чамусьці ва ўсіх напрамках рухаліся цэлыя вайсковыя падраздзяленні, а таксама асобныя групы байцоў і камандзіраў. Нарэшце пайшла паміж чырвонаармейцамі чутка, што неўзабаве ўсе войскі, якія запоўнілі лясныя і палявыя дарогі ў чатырохкутніку Слонім — Ваўкавыск — Поразава — Ружаны, увойдуць у непасрэднае сутыкненне з праціўнікам. І тады ваенурач убачыў,

як ажылі духам ягоныя малодшыя палітрукі: маючы ў наганах па адным барабанчыку патронаў, яны з усёй ахвотаю прагнулі бою з ворагам, пра якога за гэтыя дні ці мала чаго наслухаліся. Тым часам каторы дзень ужо далятала з захаду кананада, а ўначы стала чуваць, як страчылі за Зяльвянкай кулямёты. Аднак доўга паваяваць з фашыстамі малодшым палітрукам не давялося.

Непадалёку ад вёскі Чамуры раптам усчалася беспарадкавая страляніна, яна чулася ва ўсіх баках, і тады ў паветры павісла палохаючае слова — «акружэнне»; паколькі вопыту вядзення баёў у акружэнні не было, то гэтае слова ў атмасферы няўпэўненасці і трывогі гучала пакуль аднолькава, як і «палон». Вядома, ніхто з малодшых палітрукоў у палон да фашыстаў не збіраўся трапляць: акружэнне, палон — ганьба!.. Але неўзабаве зноў пачуліся крыкі — і не менш жахлівыя: танкі!.. Байцы і камандзіры, якія рухаліся па дарозе ў доўгай, ці не на два з паловаю кіламетры, калоне, сталі азірацца навокал. Сапраўды, з-за пагорка, што быў ад дарогі метраў за семсот, ужо выпаўзалі нямецкія «панцыры», пакідаючы за сабою шлейфы пылу — акуратна палеглы над зямлёю дым. Артылерыйская батарэя, якая таксама рухалася па дарозе паміж пяхотных падраздзяленняў, тут жа з’ехала на абочыну, і коні, нібыта ўпершыню адчуўшы на сваіх крыжах паспешлівыя ўдары ездавых, памчалі саракапяцімiліметровыя гарматы на невысокі ўзлобак, аслонены з тыльнага боку маладым сасняком. Было відаць, як услед за гарматамі беглі на той узлобак ланцужкамі артылерыйскія разлікі. На дарозе спадзяваліся, што зараз паміж нямецкімі танкамі і артылерыстамі, няйначай, пачнецца паядынак. Але выйшла не так. Стралялі са сваіх гармат адны варожыя танкі. Мусіць, фашысты прыкмецілі артылерыйскія запрэжкі яшчэ тады, як тыя збочвалі з дарогі і накіроўваліся на ўзлобак, адкуль можна было страляць прамой наводкай без малое перашкоды, бо адразу некалькі танкаў застылі жоўта-зялёнымі купінамі на схіле пагорка, сталі варушыць гарматамі, пільнуючы «саракапяткі». Іншыя танкі тым часам працягвалі падмінаць цяжкімі гусеніцамі нейкую збажыну ў нізіне, набліжаючыся з правага боку да дарогі, на якой, бы ў чаканні самага сапраўднага дзіва, спыніліся чырвонаармейскія падраздзяленні. Нарэшце пачуўся першы гарматны стрэл: штосьці бліснула, як маланка сярод белага дня, на схіле пагорка, а тады насупраць першай артылерыйскай запрэжкі, якая ўсё яшчэ імкліва рухалася наперад, раптам вырас пясчаны куст. Пасля першага выбуху снарады пачалі рвацца зусім густа, высаджваючы на ўзлобку цэлы пясчаны зараснік, і хутка там

не стала відаць ні коней, ні артылерыстаў. Гэта раптам ачомала ўсіх на дарозе—была страчана надзея на тое, што артылерысты паставяць перад танкамі заслон, і чырвонаармейцы, паўзводна, а то і паротна, кінуліся ў поле займаць абарону. Ваенурач з малодшымі палітрукамі знаходзіўся якраз у пачатку калоны, паміж двума невялікімі пяхотнымі падраздзяленнямі, з якімі яны рухаліся з учарашняга дня. Па гэтых падраздзяленнях, як па самых блізкіх, ужо страчылі з кулямётаў варожыя танкі. На дарозе застагналі параненыя. Ваенурач кінуўся дапамагаць ім. Ён ратаваў на абочыне параненага ў жывот незнаёмага лейтэнанта, як адчуў раптам, што танкі перасталі страчыць з кулямётаў і вакол усталявалася незразумелая цішыня, быццам зноў нечага ўсе насцярожыліся і чакалі. Тады ён падняў галаву і глянуў у той бок, адкуль рухаліся танкі. Тыя сапраўды больш не страчылі з кулямётаў. Аднак за час, пакуль ваенурач быў заняты параненым лейтэнантам, некаторыя з іх паспелі апынуцца на дарозе і цяпер рухаліся па ёй. Ды не гэта выклікала нечаканую цішыню. Усе ўбачылі, як раптам насустрач танкам рушылі па дарозе на ўвесь рост тры камандзіры. Ваенурач пазнаў іх адразу. То былі ягоныя малодшыя палітрукі. І вёў іх на танкі доктараў брат!.. Самаахвярнасць і палохаючая недарэчнасць такога гераічнага ўчынку — кідацца на варожыя танкі з аднымі наганамі! — няйначай, і прывялі ва ўтрапенне ўсіх, хто здольны быў назіраць цяпер за імі, нават фашыстаў, якія перасталі страляць з кулямётаў. Паміж пярэднім танкам і доктаравым братам заставалася ўжо некалькі метраў. З кожным імгненнем адлегласць усё скарачалася. Тады ваенурач ад жаху схапіўся за галаву і закрычаў на ўвесь голас… Калі было скончана ўсё, а на дарозе замест малодшых палітрукоў, таксама як і замест іншых байцоў і камандзіраў, якія не паспелі адбегчыся за прыдарожныя канавы, засталіся адны крывавыя плямы, ваенурач, на вачах якога здарылася гэта непапраўная з’ява, сам паваліўся камяком на зямлю і сутаргава пачаў раздзіраць рукамі, быццам грудзі сабе, прыдарожны дзірван. Трагічны ўчынак малодшых палітрукоў падзейнічаў на яго так, што сівець ён пачаў, мусіць, ужо да таго, як зніклі на дарозе варожыя танкі і сціхнула ў наваколлі страляніна…

— Тады вось ва мне і зламалася штосьці ўсярэдзіне, — ківаў галавой Чубару ваенурач. — Здавалася б — урач, бачыў нямала смерцяў нават у мірны час, бо наша прафесія па сабе такая, аднак вось жа зламалася нейкая спружына, на якой трымалася ва мне ўсё. Можа, таму, што брат быў. Словам, цяпер вы не павінны сумнявацца. Я сапраўды нікуды не варты ўжо!..

Чубар дзеля прыліку пачакаў, а тады сказаў, маючы намер адным часам і паспачуваць чалавеку, і падняць дух у яго:

— Гэта вы толькі ўзялі сабе ў галаву. Проста вам адпачыць трэба перад тым, як…

— Вы думаеце, я стаміўся? — Доктараў позірк быў накіраваны на Чубара, але вочы здаваліся ўсё ж невідушчымі.

— Не можа ж быць, каб тое, што здарылася з братам і яго сябрамі, прыгнятала вас увесь час! Урэшце, не павінна быць! Вось адпачнеце…

Але ваенурач зноў перахапіў размову і пачаў тлумачыць Чубару:

— Гэта толькі здаецца так. А на самай справе было ўжо часу на адпачынак. Аднак скальпеля ў рукі ўзяць вось не магу і цяпер. Баюся. Адно, на што здатны яшчэ як урач, гэта прапісаць лекі ад жывата ці галавы.

— Значыць, не ўсё яшчэ страчана, — наўмысна весела сказаў Чубар.

— Але дзе цяпер тыя лекі? Гэтым часам вясковы знахар на большае здатны тут, чым мы, адукаваныя дактары. Той хоць травы розныя ведае, а нас гэтаму не навучылі ў інстытутах.

— Лекі ў нас таксама знойдуцца, будзе чым лячыць, — наперад паабяцаў Чубар.

Але ваенурач быццам не пачуў гэтага.

— Я разумею, — гаварыў ён далей, — вас павінна бянтэжыць неадпаведнасць паміж тым, як я разважаю, дакладней, лагічная прыстойнасць маіх разважанняў, і тым, што гавару аб сабе. Але можаце паверыць, што адно другое не выключае.

Тады Чубар пажартаваў:

— Аднак жа дасюль было вядома, што… словам, што людзі з хворай свядомасцю звычайна даводзяць, што яны самыя разумныя на свеце!..

Зноў доктарава гаворка пачынала выклікаць у Чубара насцярожлівае адчуванне, нібыта ў даверлівым тоне яе яўна хавалася нейкая знарочыстасць; Чубару рабілася зразумела, што калі гэтая гаворка будзе працягвацца і далей у такім тоне, то вышэйшасць, якую ён меў дагэтуль над сваім субяседнікам, можа быць страчана. Тым часам Чубар чамусьці самым сур’ёзным чынам лічыў, што для справы, якую ён наважыўся распачаць у Забесяддзі, гэты чалавек са сваёй прафесіяй патрэбны быў перш за ўсё. Чубару здавалася, што небараку дастаткова будзе адпачыць у ціхім закутку, каб ачомацца ад нервовага ўзрушэння і набыць душэўную раўнавагу, і таму ён гатовы быў настойліва

паўтараць тую ісціну, што сур'ёзная справа сапраўды вяртае чалавеку страчаны воблік…

— Дык я кажу, што адно другога не выключае, — працягваў разважаць ваенурач з ранейшай непраніклівасцю на твары. — У чалавека ў галаве заўсёды знойдзецца месца і для разумных думак, і, як вы кажаце, для вар'яцкіх. — Чубар, вядома, гэтага не гаварыў, але не запярэчыў. — Часам нават цяжка правесці мяжу паміж імі. Асабліва калі чалавек трэніруе свой мозг у адным і тым жа напрамку. А ў мяне для гэтага часу хапала. Таму я паспеў багата чаго перадумаць нанава, нават пераасэнсаваць. Таму няхай вас і не здзіўляе, што я хапаюся адразу за тыя недакладнасці, якія да гэтага атрымалі ў маёй галаве пэўнае вытлумачэнне. І наогул, я… Але не, пра гэта лепей не гаварыць, бо вы пагражалі ўжо, здаецца, паставіць мяне да сценкі. Гэта мы навучыліся — хапаць адзін аднаго за рукі ды затыкаць рот. Няхай будзе па-вашаму. Я і праўда не стану гаварыць пра тое, да чаго прыйшоў, разважаючы на адзіноце аб усім нашым папярэднім жыцці і аб гэтых падзеях, якія раптам выбілі з каляіны столькі народу і не толькі выбілі з каляіны, але ў адных ужо забралі жыццё, другіх зрабілі вар'ятамі, а трэціх асудзілі на пакутлівую невядомасць.

— Вы залішне перабольшваеце, да сценкі ставіць вас я не збіраўся, але рашылі правільна, — сказаў Чубар. — Абы-што гаварыць не варта. Раскажыце лепей, што было з вамі потым?

— Калі?

— Ну, пасля таго, як страцілі брата?

— Трапіў у палон.

— Выходзіць, пра акружэнне?..

— Але ж якраз тады ніякага акружэння не было. Проста нехта пусціў правакацыйную чутку. Можа, лазутчыкі. А танкі тыя выскачылі аднекуль знянацку. Нават не затрымаліся на дарозе. Адно патрушчылі, каго паспелі, гусеніцамі. Падбіць іх не было чым. «Саракапяткі» не паспелі нават стрэліць. Так што… — Ваенурач памаўчаў. —А ў палон нас узялі праз дзень, — пачаў ён зноў. — Гэта на другі бок ад Слоніма, немцы высадзілі за Шчарай дэсант, і нашы часці, якія не мелі суцэльнай лініі абароны, былі заціснуты паміж гэтым дэсантам і галоўнымі наступаючымі сіламі. Нават бою вялікага не адбылося. Сам я зразумеў, што знаходжуся ў палоне, толькі тады, як на скрыжаванні шасэйных дарог, куды мы нарэшце выйшлі, убачыў нямецкіх матацыклістаў. Адстрэльвацца я, вядома, не мог, бо не меў нават асабістай зброі… Аднак дзеля дакладнасці трэба сказаць, што і ніхто іншы не аказаў тады супраціўлення… — Гаворачы пра

гэта, ваенурач паглядзеў на Чубара — ці верыць той. — Гэта пасля ўжо, калі хапілі шылам патакі ў лагеры ваеннапалонных, некаторыя спахапіліся. Але позна было — вакол калючы дрот і вартавыя. І тым не менш сёй-той пачаў строіць планы, як бы ўцячы з лагера. Не ведаю, ці ўдалося каму зрабіць гэта, бо мяне неўзабаве выпусцілі з лагера назусім.

— Чым вы патрапілі гэтак фашыстам?

— Я і сам задаваў сабе такое пытанне. Але пасля разважыў, што нічога дзіўнага не было ў гэтым. Проста камендант лагера першы прыкмеціў тое, чаго не хочаце бачыць, напрыклад, вы: гэта — што я сапраўды ні на што ўжо не варты. З нейкага часу, як выпадала яму ісці праз лагер, ён кожны раз падзываў мяне пальцам да сябе і распытваў пра ўсё, што датычыла майго жыцця. Цікавіла яго таксама мая думка пра вайну, пра немцаў. Словам, мяне ён настойліва вылучаў сярод іншых ваеннапалонных. А праз два тыдні выклікаў у кабінет, выпісаў пропуск і загадаў немцу-салдату, каб той вывеў мяне за вароты лагера і адпусціў на волю. І вось я каторы дзень ужо тупаю па Беларусі, цяпер…

— І ні разу не здаралася па дарозе, каб фашысты зноў не спрабавалі загнаць вас у які-небудзь лагер?

— У мяне ж пропуск ад каменданта. — Ён расшчапіў рукі на каленях, выпрастаў правую нагу і дастаў з кішэні галіфэ кардоначку, выразаную прамавугольнікам: да вайны на такіх друкавалі розныя мандаты для канферэнцый.

Чубар узяў кардоначку ў рукі, пакруціў з абодвух бакоў, а тады пачаў глядзець на тое, што напісана друкаванымі літарамі па-руску і па-нямецку. Вядома, Чубар па-нямецку не разумеў, таму чытаў тое, што было па-руску: маўляў, ваеннапалоннаму, урачу другога рангу, і прозвішча — Скварцоў Аляксей Ягоравіч, дазваляецца следаваць па тэрыторыі, акупіраванай германскімі войскамі, да месцажыхарства ў горад Свярдлоўск; і далей, ужо ў якасці так званай заўвагі, — прыпынак на начлег рабіць толькі ў межах населеных пунктаў, надаўжэй чым суткі ў адным населеным пункце не затрымлівацца, прад'яўляць пропуск кожны раз, як таго запатрабуюць мясцовыя ці вайсковыя ўлады… Адным словам, то была самая сапраўдная бестэрміновая падарожная, накшталт тых, што выдавалі ў царскі час катаржанам, якіх выпускалі на волю, але якім не было вызначана месцажыхарства ва ўсёй краіне: рэшту жыцця, якое яшчэ заставалася за імі, належала пражыць у дарозе…

— Можна падумаць, што камендант гэты вялікі жартаўнік, — аддаючы пропуск, пакруціў галавой Чубар.

— Так, пачуцця гумару ён не пазбаўлены, — згадзіўся ваенурач, мусіць, не цалкам усведамляючы, што меў на ўвазе Чубар. — Але ж зразумеў мой стан…

— Скажыце, а вам раней, ну, да сустрэчы з камендантам, не даводзілася думаць пра сябе вось гэтак?

— Як?

— Ну, так, як гаворыце пра сябе цяпер?

— Не.

— А калі ж гэта пачалося?

— Мусіць, тады, як я паглядзеў на сябе ў камендантавым кабінеце ў люстэрка.

— Тады скажыце яшчэ, — паглядзеў на ваенурача прыжмуранымі вачамі Чубар, — а вам не здаецца, што вы сталі проста несвядомай цацкай, якую надзвычай разумна выкарыстаў нейкі мацеры фашыст?

— Як гэта?

— Вы ж, пэўна, паказваеце пропуск не толькі фашыстам?

— Так.

— Нашым, савецкім людзям, таксама?

— Ну і што? — нібыта насцярожыўся ваенурач.

— А тое, — ужо абураючыся, падаўся тварам наперад Чубар, — што камендантавым пропускам вы шкоды нашай справе наносіце больш, чым!.. Калі дык вы разважаеце вельмі ўжо разумна. Нават дзівішся, адкуль гэта ў вас бярэцца. Хоць чорт вас ведае, мусіць, усе вы, інтэлігенты, такія. Але ж думаць і вам таксама трэба. І не трэніраваць мозг у адным кірунку, а нагул думаць. Каб ніякі фашыст не абвёў вакол пальца. Людзі ж глядзяць на гэты пропуск і вочы талопяць: фашысты калі сёння і не ўзялі яшчэ Свярдлоўска, то заўтра ці паслязаўтра браць напэўна ўжо збіраюцца, бо нездарма ж нават палонных адпускаюць туды. А Свярдлоўск — ён далей за Маскву. Значыць, фашысты ўпэўнены, што і Маскву забяруць, і далей пойдуць. Ніхто іх не здолее запыніць. А вы валачэцеся ад горада да горада, ад вёскі да вёскі і, самі таго не разумеючы, разносіце гэтую ўпэўненасць. Жывая рэклама фашысцкіх перамог! Ды калі хочаце пачуць праўду, то за такое вас нават мала да сценкі паставіць!

Мусіць, на Чубаравым твары не толькі была напісана пагроза, але і рашучасць прывесці яе ў выкананне, бо ваенурач, нягледзячы на ранейшую знешнюю абыякавасць — здавалася, не яму гаварылася! —раптам зварухнуўся ўвесь. Можна было падумаць, што ён зрабіў гэта, каб адно перамяніць позу, ад якой, можа, мулка стала, але не — позірк ашклянелых вачэй таксама пачаў блукаць, нібыта яны ўпершыню здолелі зрушыць з месца

ў вачніцах і цяпер шукалі, за што б зноў зачапіцца, а тады спыніліся на вінтоўцы, якая ўсё яшчэ ляжала ў Чубара на ўлонні. Чубар адразу ўнутрана насцярожыўся і, дзеля большай пэўнасці, паклаў сваю правую руку на прыклад.

Чубар хоць і перастаў кідаць абвінавачанні, аднак глядзеў на ваенурача з неастылым абурэннем, не маючы сілы дараваць ягоную няцямлівасць.

Нельга было вызначыць, колькі такіх вось спустошаных і захварэлых душой, што наўмысна павыпусканы з канцлагераў, бадзялася на акупіраванай тэрыторыі. Немагчыма было таксама дакладна меркаваць, якую шкоду нанеслі яны ўжо справе вызвалення краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Адно было зразумела — Чубара звяла дарога з адным з такіх. Той сядзеў цяпер насупраць. І Чубар быў адказны за яго.

Здавалася, ніштo не пагражала гаворцы, якая ўжо колькі часу вялася паміж Чубарам і ваенурачом, перарасці ў трагедыю. Праўда, Чубара яна пачала абураць па-сапраўднаму, дакладней, не сама гаворка, а тое, пра што паступова даведваўся ён ад ваенурача. Аднак Чубар яшчэ не меў думкі, што ваенурач знарок удзельнічаў у хітрай задуме нейкага фашыста альбо цэлай сістэмы: чалавек, мусіць, у канцлагеры сапраўды быў у стане моцнай душэўнай дэпрэсіі, якая і дагэтуль давала сябе адчуць… І раптам ваенурача нібыта ўдарыла што знутры. У адно імгненне ён адкінуўся на спіну, перакуліўся, як гуллівы мядзведзь, цераз галаву, а тады гэтак жа хутка і амаль незаўважна ўскочыў на ногі і кінуўся бегчы паміж соснаў ад Чубара, які ад нечаканасці таксама адшаснуўся назад і не ведаў, што рабіць.

— Стой! — нарэшце крыкнуў ён як не сваім голасам наўздагон.

Але ваенурач не слухаўся. Ён моцна кульгаў на правую нагу, аднак бег, як пры вялікай небяспецы. І тады Чубар ускінуў на ўзровень вачэй вінтоўку перад сабой і стрэліў у спіну: мусіць, і тут працягваў адыгрываць свaё механізм, які нібыта з нядаўняга часу знаходзіўся ўсярэдзіне. Стрэлу свайго Чубар, здаецца, не пачуў, але пабачыў, як ваенурач раптам распасцёр рукі, нібыта хацеў узняць іх, і пачаў валіцца дагары.

## XI

Гэты раз нават хадзіць пад вокнамі ды загадваць не спатрэбілася. Народ паваліў у Паддубішча — палетак каля трох дубоў — ледзь не на самым світанні. Там быў асноўны масіў

калгаснага жыта — праўда, сёлета сеялі яго і на былых наддатках, і непадалёк ад Кулігаеўкі, але ў Паддубішчы было каля сотні гектараў. Расло жыта на так званых схілах верамейкаўскага кургана, на якім стаяў драўляны маяк, звычайная трыянгуляцыйная вышка. Цяпер маяка на кургане не было — яго спілавалі яшчэ ў пачатку ліпеня, калі прыйшоў у сельсавет Ягору Піліпчыкаву шсьмовы загад: казалі, што па маяку лёгка арыентавацца варожым самалётам.

Але як настаць сённяшняй раніцы, амаль скрозь ноч у памяшканні калгаснай канторы засядалі верамейкаўскія праўленцы. Вядома, не даваенным складам, бо маладзейшыя члены калгаснага праўлення падлягалі мабілізацыі і цяпер былі недзе на фронце.

Зазыба, як прыехаў з Бабінавіч, паклікаў на двор Гаманьковага Івана, балазе недалёка было, і папрасіў, каб той прывёз на буланым з Кулігаеўкі Сідара Раўнягіна. Тым часам Марфа Зазыбава збегала па Кузьму Прыбыткова і Парфёна Вяршкова. То былі старэйшыя людзі ў вёсцы, і Зазыба не хацеў вырашаць калгасныя справы без іх.

Хоць Брава-Жыватоўскі і папярэджваў Зазыбу, каб у Верамейках дачакаліся камендантавага распараджэння, а тады ўжо вырашалі справу з калгаснай маёмасцю, але Зазыба надумаў сваё. Бабінавіцкі кравец Шарэйка разважлівасцю і цвярозым стаўленнем да падзей як нанава адкрыў Зазыбу вочы на тое, што адбывалася навокал. Зазыба разумеў, што цяпер, калі не было ў Верамейках Чубара, адказнасць за калгасную маёмасць, за лёс калгаса наогул зноў ляжала на ім; менавіта за ім было апошняе слова і менавіта з яго першага маглі спытаць за ўсё як свае, так і фашысты. З усіх бакоў выходзіла, нібыта Чубар цалкам меў тады, у Зазыбавай хаце, падставу — была свая суровая праўда ў тым, каб любым коштам пазбавіцца ў калгасе ад усяго, што магло трапіць да немцаў. Па гэтым часе ды пры такім павароце падзей Зазыбу, няйначай, ужо і прызнавацца нельга было, што ён таксама меў не меншую падставу, калі бараніў у размове са старшынёй калгаса сваю пазіцыю…

Пакуль не прывёз Іван Гаманькоў у Верамейкі Сідара Раўнягіна, мужыкі сядзелі ў калгаснай канторы і, як звычайна, гаманілі.

Кузьма Прыбыткоў, напрыклад, успомніў, як біліся верамейкаўцы пасля рэвалюцыі за Зінкевічаў луг. Той належаў бабінавіцкім панам, але быў па гэты бок Бесядзі. Бадай, гэтая акалічнасць і стала прычынай, што на луг пасягалі адразу некалькі вёсак, і верамейкаўцам даводзілася адстойваць свае правы

на яго сілай — рабіць у ноч перад касавіцай засады, нападаць на касцоў з лесу… Скончыліся бойкі тым, што Панцялей Казёл паслаў на той свет мужыка з Малога Хоцімска. Міліцыі давялося ці не тры гады ездзіць у Верамейкі, каб выкрыць забойцу, але дарэмна — ніхто не выдаваў свайго чалавека, хоць усе і ведалі, што мужыка таго Панцялей забіў дарэмна: небарака не прымаў удзелу ў бойцы, проста сядзеў каля вогнішча на ўскраіне лесу і пёк бульбу, а Панцялей наскочыў на яго таксама выпадкова, можа, нават старонячыся бойкі, аднак жа ўдарыў калом па галаве… Зінкевічаў луг верамейкаўцы адваявалі сабе ў дзевятнаццатым годзе: з Клімавіч і Чэрыкава, тагачасных павятовых гарадоў (Малы Хоцімск належаў да Чэрыкаўскага павета) былі накіраваны ў Забесяддзе каморнікі, і тыя, пад аховай узброеных міліцыянераў, паставілі межавыя слупы.

Амаль усе, хто прысутнічаў у калгаснай канторы, ведалі пра тыя падзеі не горш за Кузьму Прыбыткова, але слухалі старога з нейкай новай настроенасцю, нібыта непакоіліся, што можа ўсё паўтарыцца.

Іван Падзерын, які прыйшоў у кантору пазней за ўсіх, сказаў:

— Дак ета ж нашы выйгралі тады, што большага хабару далі начальніку міліцыі. А калі раптам перайграць цяпер захочуць і ў Малым Хоцімску, і ў другіх вёсках да таксама хабар свой павязуць? Улада ж памянялася!

— Навошта казаць абы-што, — паглядзеў на яго Парфён Вяршкоў. — Ніякага хабару не давалі верамейкаўцы. Само выйшла. А болей таму, што на нашым баку луг. Не дай Бог, каб ён на тым баку Бесядзі быў, не бачыць бы нам сена з Зінкевічавага лугу, як чорту салодкіх вушак. Не, хабару мы не давалі. Ета плёткі пусціла тады пакрыўджаная старана, маўляў, верамейкаўцы падкупілі начальніка міліцыі. Ну, і дагэтуль во гавораць, не перастаюць.

— За луг не давалі, — згадзіўся з Парфёнам Кузьма Прыбыткоў, — ета праўда, а от за Панцялея Казла ці не вазілі кадушку мёду?

Парфён Вяршкоў наморшчыў твар:

— Ты такс-а-а-ама!.. Самога ж у Верамейках, няйначай, не было тады!

— Не знаю, ці быў я, — запярэчыў Кузьма, — а помніць дак яшчэ помню, як збіралі па ўсіх пасеках па пяць хунтаў мёду. Няхай во Дзяніс скажа.

— Дак і Зазыба недзе не вяртаўся тады са службы, — паранейшаму не пагаджаўся з Прыбытковым Парфён Вяршкоў.

Але ўсе павярнулі ўжо галовы да Зазыбы, што сядзеў за доўгім канторскім сталом, за якім у звычайны працоўны дзень было месца падліковых работнікаў, а ў часе агульных калгасных сходаў — прэзідыума. Зазыба таксама слухаў аднавяскоўцаў, але быццам з вялікай паблажлівасцю.

— Вам, як кажуць, хоць каліўка, хоць цавінку, — зварухнуўся ён. — І якое гэта цяпер значэнне мае?

Пасля гэтага мужыкі таксама заўсміхаліся — маўляў, тут як на марозе, абы лічыць лысых…

— Панцялей во паспеў памерці, — нібы між іншым сказаў праз нейкі момант Іван Падзерын, — а то б цяпера, пры такім часе, калі памянялася ўсё, магло яшчэ адыграцца яму.

— Не палохай ты нас, Іван Хаміч,— зноў, усміхаючыся, паўшчуваў Зазыба, — а то бытта крыві захацелася. Дак ці мала яе льецца цяпера без гэтага.

— Дак жа мы, беларусы, не такія, каб… — спрабуючы ўнесці пэўную яснасць, сказаў Парфён Вяршкоў. — Ета на Каўказе, дак… А беларусы кроўнай помсты не маюць.

— Не ма-а-а-аюць, — пакруціў недаверліва галавой Іван Падзерын, — а помніш, як Маслюкі адпомсцілі таму лесніку з Гончы, што падстрэліў іхняга бацьку?

— Маслюкі — ета асобая рэч, — не пагадзіўся Парфён Вяршкоў. — Яны і без кроўнай помсты маглі каму хочаш юшку пусціць. А ў таго чалавека з Малога Хоцімска, здаецца, ужо нікога і не засталося ў вёсцы. Жонка ці не да калгасаў яшчэ памерла, а дзеці разбрыліся.

— Ета праўда, — падтрымаў Вяршкова Кузьма Прыбыткоў, — сям'і таго чалавека няма ўжо ў Малым Хоцімску. Але сына яго неяк мы бачылі з Пракопам сваім. Тады якраз у Кажлаёў дошкі пілавалі. Дак гаспадар адзін і сказаў мне, што ягоны падпасак і ёсць сын хоцімскага мужыка, якога нашы верамейкаўцы забілі. Я дак ажно паглядзець пацікавіўся. Гадоў дванаццаць хлопцу было. Дужа кніжкі чытаў. Можа, вывучыўся недзе.

— Яно па-вучонаму, дак яшчэ…

Але дагаварыць Івану Падзерыну перашкодзіла Ганна Карпілава, якая раптам падала аб сабе голас:

— Пусцілі б вы мяне, мужыкі, дамоў. А то калі той Сідар прыедзе? Да і ці прыедзе яшчэ?

— Сядзі,— строга сказаў ёй Зазыба.

— Дак малец жа хворы. У жары цяпера недзе ляжыць! Да і рабіць мне няма чаго з вамі. У амбарах жа хоць шаром пакаці. Адна старызна — некалькі скур папрэлых да хамуты, у якія даўно не запрагалі коней. Так што і дзяліць няма чаго.

— Парадак ёсць парадак, — адвярнуўся недавольны Зазыба, але дадаў: — Ты б хоць папрасіла каго тады паглядзець за тваімі хлопцамі на гэты час. Ведала ж, куда ідзеш і зачым.

— Дак… — Ганна адно сцепанула плячамі ды туга пацягнула за рог чорную хустку вакол шыі, якая была завязана на галаве так званым вясковым буданком.

Мужчыны адчулі на нейкі момант сябе быццам ніякавата, але заступіцца за Ганну ніхто не падумаў. Затое колькі хвілін сядзелі прымоўклыя. Курыў толькі Кузьма Прыбыткоў, але смаліў як за ўсіх, таму пад столлю ў канторы, што была слаба асветлена пузатай лямпай на крывых ножках, плаваў дым. Святло ад лямпы трапляла больш на Зазыбу, які сядзеў насупраць, тады на Івана Падзерына, што на правах рахункавода таксама прыладкаваўся паблізу, локці за тры ад намесніка старшыні калгаса; астатнія верамейкаўцы — і члены праўлення, і радавыя калгаснікі — сядзелі на суножнай лаўцы ўздоўж сцяны з вокнамі, але не адзін каля аднаго, а наводдаль, з няроўнымі прамежкамі, быццам прыехалі аднекуль на суд; далей за ўсіх ад стала, ужо ледзь не ў парозе, выбрала сабе месца на лаўцы Ганна Карпілава.

На дварэ была невысокая поўня, і святло месяца, якое трапляла праз вокны, коса ляжала на дошках падлогі, адбіваючы ледзь не карункавыя абрысы аконных рам. Паверхня месяца яшчэ нядаўна была ўся аранжавая, серабрыцца пачала якой паўгадзіны таму, бо святло не набрала пакуль таго зачараванага бляску, што стварае ўражанне, быццам знаходзішся ў нерэальным свеце.

Першая чвэрць перайшла ў поўню ўжо ці не на тры дні таму, але надвор'е мянялася марудна, быццам недзе страчаны былі законы фазавага пераўтварэння: толькі гэты, мінуўшы, дзень выдаўся наскрозь з сонцам; на ноч неба таксама першы раз засталося чыстым, і цяпер вось месяц шастаў за вёскай, якраз над ровам з глінішчам, зазіраючы ў цёмна-чырвоныя пашчы круглых пячурак.

Мужчыны, здаецца, перагаварылі ўжо ўсё, што хацелі і не хацелі, і ў чаканні Сідара Раўнягіна пастулова трацілі цікавасць адзін да другога.

Кузьма Прыбыткоў перастаў нават курыць, пачаў патроху драмаць на лаўцы. Парфён Вяршкоў тым часам талопіў у цёмную пустату позірк сваіх пацяжэлых вачэй і барабаніў пальцамі сагнутай у локці левай рукі па гладкім падаконніку. А Іван Падзерын выйшаў на колькі хвілін у двор, вярнуўся адтуль і сказаў, пацепваючы плячамі:

— Але ж і вечар сянні!

— Ета Чубар любіў за ваколіцу такімі вечарамі хадзіць, — млява ўсміхнулася на Іванавы словы Ганна Карпілава.

— Успомніла! — зарагатаў тады на ўсю калгасную кантору Іван Падзерын.

Ганна нечага зазлавала:

— Чаго ржэш? — і як з нянавісцю паглядзела на рахункавода.

Той праглынуў рогат, але пакпіў:

— Кажу, успомніла!..

Даволі было ўнесці ў кантору гэтую ўзбуджанасць, як зноў пачалася бязладная гаворка, якую спярша падтрымаў Парфён Вяршкоў, надумаўшы абараніць жанчыну.

— Прыемнае заўсёды прыемна ўспомніць, — падаў ён голас, — але скажу праўду — як быў я летася палявым сторажам, дак Ганну з Чубарам ніколі не бачыў, ета праўда. Другія хадзілі, а Ганны не бачыў.

— Дык навошта ёй было хадзіць за вёску, — не сунімаўся, як пакрыўджаны, Іван Падзерын, — калі ў яе месца хапала і ў амбары, на збожжы яно яшчэ лепей, чымся на тым сене.

— Ета ты так гаворыш, бо сам не паспытаў етага рабіць на тым збожжы, — сказаў Падзерыну Парфён Вяршкоў. — Пасля і на другі дзень зярняты з цябе будуць сыпацца.

Мужчыны зарагаталі.

Але Ганну, здавалася, ужо не кранала гэта — яна адно пакутліва сказала, звяртаючыся да Зазыбы:

— Адпусціў бы ты мяне, дзядзька Дзяніс, дамоў адсюль. Хрыстом-Богам прашу. А то нават не ведаю, як тама малыя мае.

Зазыба ад яе голасу плюснуў вачамі, быццам ачомаўся ці прагнаў ад сябе насланнё, а тады неяк нанава абвёў позіркам прысутных — наколькі хапала святла (і таго, што давала на кантору лямпа, і таго, што кідаў у вокны месяц).

— Нешта і праўда няма Сідара… — пашкадаваў ён.

— Можа, зусім не прыедзе? — падаў няхітрую думку Кузьма Прыбыткоў.

— Павінен прыехаць, — пачаў тады супакойваць дзядзькоў намеснік старшыні калгаса. — Я ж яму паперку напісаў, каб верна было.

— А калі ён лазню топіць для бабінавіцкага каменданта? — засмяяўся раптам Кузьма Прыбыткоў. — Яны ж тама, на сваіх пасёлках, прывыклі ўсякаму начальству дагаджаць. Дак, можа, і цяпера во забегалі, балазе начальства новае.

Нечакана Кузьмоў жарт выклікаў ва ўсіх рогат, нават Зазыба, да чаго ўжо маўклівы апошнім часам ды пануры, але і той

адпіхнуўся ад стала рукамі і, датыкаючыся спіной да тынкоўкі на сцяне, ажно закалаціўся ў сваім нягучным рогаце: у Верамейках наогул, быццам ад зайздрасці якой, мелі звычку злосна пацвельвацца з кулігаеўскіх і мамонаўскіх мужыкоў, можа, таму, што тыя багацей жылі нават у адным калгасе.

Насмяяўшыся ўволю, Зазыба выціснуў вялікім пальцам левай рукі слёзы з вачніц, спытаў Кузьму:

— Кажаш, лазню топіць для каменданта?

Але Кузьма ўжо нібыта засаромеўся сваёй дасціпнасці, сказаў, як перапрашаючы:

— Дак ета я…

— Давайце-ка пачынаць будзем без Сідара, — прапанаваў тады Парфён Вяршкоў. — А то ноч скора кончыцца.

— Трэба яшчэ трохі пачакаць, — паглядзеў на яго Зазыба. — Няхай хоць Хрысцінін хлопец вернецца. Тады будзем, няйначай, ведаць.

— А знаеце, каго я сустрэў сянні? — успомніў раптам Іван Падзерын. — Кулака таго з Гончы, што некалі вывезлі ўсю сям'ю.

— Ета каго ж? — выцягнуў шыю Кузьма Прыбыткоў.

— Да, мабыць, Шкроба, — падказаў Парфён Вяршкоў.

— Во-во! —падхапіў Іван Падзерын.

— Дак самога ай сына? — папытаў Кузьма Прыбыткоў і дадаў: — У Шкроба ж сын сямейны быў.

— Самога, — сказаў Іван Падзерын. — Ішоў каля Стаючага возера, відаць, на Гончу. Але як пабачыў мяне, дак запыніўся. Кажа, я цябе ведаю. Ну, мы і пагаварылі. Змарнелы такі, зарослы. Пытае, ці даўно я ў Гончы быў. Нядаўна, кажу. А што там новага, пытае. Як і паўсюды, кажу. А ён мне — пайду хоць з абідчыкамі сваімі паквітаюся.

— Ну і час настае… — пакруціў як у адчаі галавой Парфён Вяршкоў. — З кулакамі етымі таксама…

— Час якраз такі, каб пашкадаваць кулакоў, — кпліва ўсміхнуўся Зазыба.

Тады Кузьма Прыбыткоў паглядзеў задзірыста на Парфёна Вяршкова і сказаў:

— Ета Дзянісу дзякуй трэба сказаць от. Праз яго ў Верамейках раскулачаных не было.

Але Зазыба сам не захацеў Кузьмовай пахвалы.

— Пры чым тут Зазыба? — паморшчыўся ён і сказаў, нібыта ў разліку на кагосьці яшчэ, хто неўпрыкмет прысутнічаў у канторы: — У нас і папраўдзе кулакоў не было!

— Да ўжо ж! — як несвядома кіўнуў галавой Прыбыткоў.

— Але каб тады да замест Зазыбы хто іншы быў, дак знайшліся б і ў нас кулакі, — сказаў Парфён Вяршкоў. — Вон як у Бабінавічах. Тама, калі спатрэбілася, дак і незгаворлівыя серадднякі сышлі за кулакоў, абы аднаасобнікаў менш.

— А яно і трэба было б забраць таго-сяго з вёскі, — кінуў вокам на Зазыбу Кузьма Прыбыткоў. — Цяпер во спакайней жылося б.

Вядома, усе разумелі, каго меў на ўвазе рахункавод — таго ж Брава-Жыватоўскага, можа, нават Рамана Сёмачкіна, аднак гатовы былі паадварочвацца адзін ад аднаго, каб не большыць гаворкі, бо справа тычылася аднавяскоўцаў, а ў такіх выпадках верамейкаўцы звычайна давалі пасу: было ў вёсцы нешта як ад несвядомай кругавой парукі. Праўда, гэта магло не датычыць Брава-Жыватоўскага, бо той быў прышлы, але гады, што пражыў ён у Верамейках, таксама нязвяглівы характар, які ажно вунь як умеў вытрымліваць у патрэбных межах былы махновец, адыгралі сваё. Якраз па гэтай прычыне не прагучала па-належнаму ўжо і наступная заўвага Івана Падзерына, сказаная ў сувязі з Кузьмовымі словамі:

— От бачыце, а вы казалі пра грузінаў! Яно і беларусы няпроць калі… Нездарма ж Шкроб еты пагражае каму-небудзь кроў пусціць у Гончы, а не дак…

— Але і праўда, табе бытта крыві захацелася!.. — здзіўлена паглядзеў на рахункавода намеснік старшыні калгаса.

— Нешта Хаміч сянні дужа настырны, — азвалася тады ледзь не сонным голасам і Ганна Карпілава: яна была сцішылася адна на лаўцы, але ж у канторы паступова зноў рабілася голасна.

— А яшчэ Цукар Мядо-о-овіч! — пажартаваў Кузьма Прыбыткоў.

— Дак яму ці засталося ўжо таго мёду? — засмяяўся на гэта Парфён Вяршкоў. — Бацька ўвесь спажыў. Той дак і праўда быў і Цукрам Мядовічам. Здаецца, і праўду цярэбіць у вочы, а от жа неяк… далікатна ўсё, бытта пад цябе што сцеліць пры етым, як анёлу таму, калі з неба падае. Не, бацька яго мянушку ету па праву насіў, а Іван ужо не заслужвае — нейкі натапыраны, бытта шышка тая з хвоі.

— Ета ў яго, мусіць, ад дзеда, — нязлосна сказаў Кузьма Прыбыткоў, — ад Хомкавага бацькі. Той таксама жыў, як ты кажаш, бытта шышка натапыраная. А бацька Іванаў чалавек быў ласкавы.

Падзерын, апусціўшы ў нецярплівай усмешцы галаву, чакаў, пакуль выгаварацца мужыкі, каб усё ж давесці сваё — нечага

прычапілася да яго гэтая кроўная помста!.. Але раптам пад вокнамі калгаснай канторы пачуліся паспешлівыя крокі. Зазыба падсунуўся да акна, нагнуўся да шыбіны і засланіў рукой з левага боку ад сябе святло, каб паўглядацца на вуліцу.

— Нарэшце-такі, — з палёгкай сказаў Парфён Вяршкоў, думаючы, што гэта Сідар Раўнягін.

Усе заварушыліся, быццам ім патрэбна было з воза злазіць, але дарэмна. Замест Сідара ў дзвярах, калі адчыніліся напята, апынулася залітая месяцавым святлом нязграбная постаць Мікіты Драніцы. Мікіта затрымаўся трохі на самым парозе, стаўшы на яго абедзвюма нагамі, пасля нібы саскочыў на маснічыны і спыніўся пасярод канторы, паспяваючы адным часам пазнаць у прыцемках аднавяскоўцаў. Быў ён у звычайнай сваёй форме — тыя ж закарэлыя на запятках і на саюзках боты, якіх яму ставала, здаецца, на круглы год, калі яшчэ не болей, таксама доўгая фуфайка, пад якой нават штаноў не ўгледзець, і плісавая шапка, нібыта пабітая лішаём. Але гэты раз Мікіта чамусьці зусім не вушакоміўся — ёсць у Верамейках такое слова, значыць, не задаваўся, як то ўмеюць рабіць недалужлівыя людзі, затое паглядаў ён па баках з тою несхаванай сялянскай патурбаванасцю, калі кожнаму ўжо зразумела — няйначай, прыйшоў чалавек на выведкі.

— І ты, як тэй таго, тута? — казаў ён Парфёну Вяршкову.

— І я,— адказаў той.

— І ты, як тэй таго? — называў далей Мікіта Кузьму Прыбыткова.

— Як бачыш, — ківаў галавой стары.

Усе, каго Драніца надзяляў сваёй увагай, адказвалі яму з вясёлай прыжмуранасцю ў вачах, быццам распачыналі гульню і чакалі ад яе нейкай асаблівай уцехі. Нарэшце чарга дайшла да Зазыбы. Але Мікіта чамусьці не адважыўся папытацца ў таго — ці то сумеўся раптам, ці, можа, захрасла што ў горле. Тады Зазыба пазмоўніцку падміргнуў Мікіту і сказаў сам, маючы ў гэтым патаемны сэнс:

— Мы, бачыш, тута, а вы дзе?

— Мы? — ныкнуў галавой Драніца.

— У Брава-Жыватоўскага?

— Дак…

— Хто ж тама?

— Ну, Брава-Жыватоўскі, як тэй таго…

— Гэта мы ўжо знаем.

— Раман Семачкін…

— І пра гэта мы маглі здагадацца.
— Сілка Хрупчык…
— Гэта ўжо нешта новае!
— Тады, як тэй таго, Рахім, што ў Бабінавічах паліцаем. Дак прыйшоў як тэй таго, у госці. Раман казаў, што да Ганны во начаваць павядзе яго.

Ганна, пачуўшы гэта, не ўзбурылася, адно сказала, як пра нешта зусім вясковае:

— Няхай толькі напалохаюць мне дзяцей тама, дак!..
— Значыць, цябе яны паслалі сюды? — не зводзіў з Мікіты насмешлівых вачэй намеснік старшыні калгаса.
— Чаму ета яны? — незалюбіў Мікіта. — Сам ішоў міма, дак бачу, як тэй таго, цяпло ў вокнах.
— Не хітруй ужо, Мікіта, прызнавайся, — кінуў тады з лаўкі сваю заўвагу Парфён Вяршкоў.

Мікіту яўна прыпіралі да сценкі. Ён гэта адчуваў. Таму сказаў на ўвесь голас, бы вельмі пакрыўджана:

— Ну, як хочаце, — і павярнуўся ісці да парога. Але над сталом падняўся вялікім ценем Зазыба.
— Нікуды ты не пойдзеш, раз прыйшоў сюды! — ён не хацеў выпусціць Драніцу з канторы, каб той не ўзварушыў сваіх сабутэльнікаў раней часу. — Сядай во з мужчынамі да таксама пагаворы. Ты нават не здагадваешся, чаму мы сабраліся тут?
— Дак усе праўленцы!..
— А Кузьма во?
— Дак…
— А Парфён?
— Дак…
— Сядай, сядай! — ужо ледзь не хапаючы Драніцу за крыссё, казаў Зазыба. — Будзеш таксама голас мець, калі што якое.

Драніца муляўся, але не паслухацца не мог.

— Калі трэба, як тэй таго, — робячы выгляд, што з неахвотай даецца на ўгаворы, паціснуў плячамі ён.

А мужыкі, наадварот, засмяяліся — маўляў, не шлындай ад кампаніі да кампаніі.

Праз нейкі момант Парфён Вяршкоў падначыў Драніцу:

— Ты б расказаў, як тама ў Бабінавічах вам было з Брава-Жыватоўскім? Як немцы?

Але Драніца сцяўся ўвесь на лаўцы:

— Ніяк, як тэй таго…
— Чаму ета?
— Таму!

— Ладна, Мікіта, не будзь!..

— Што вы ка мне прысталі, як тэй таго? Вон Зазыба таксама ехаў праз Бабінавічы, дак і ён бачыў немцаў!

— Ён расказваў ужо.

Драніца недаверліва цыўкнуў вачамі — мусіць, яму не надта хацелася апавядаць пра свой добраахвотны паход у занятае немцамі мястэчка. Але ён добра ведаў верамейкаўскіх мужыкоў: раз тыя прычапіліся ўжо, то ўсё роўна на чым-небудзь заблытаюць. Напрыклад, на той жа торбе, якую выкапалі вясковыя хлапчукі тады на гародзе. А якраз гэтага Мікіта сама больш баяўся. Таму нічога не заставалася, як зрабіць згаворлівы выгляд.

— Дак мы тама кожны па сабе-е-е, — яўна адмяжоўваючыся ад Брава-Жыватоўскага, пачаў Драніца. — Ён жа мяне за перакладчыка, як тэй таго, браў. Але тама адзін пайшоў да каменданта, бо Адольф, як тэй таго, сам разумее па-нашаму. Я застаўся ля ганка. На вуліцы грузавікі нямецкія стаялі акурат. Дак я і застаўся, як тэй таго. Спярша боязна было — а раптам, як тэй таго, які дурны герман возьме да трахне ў жывот з аўтамата. У іх жа ва ўсіх аўтаматы, не тое што ў нашых салдат, як тэй таго. Дак і я, думаю, мабыць, дарэмна, як тэй таго, увязаўся за Брава-Жыватоўскім! Лепей дома б сядзеў! Але бачу, як тэй таго, немцы нават не зважаюць на мяне. Сядзяць сабе на мураве паўз платы, гергечуць, як тыя яўрэі, бывала, нават і мне зразумець цяжка, да ядуць нешта ў золаце. Ну, я тады, як тэй таго, і пасмялеў. Балазе галодны пабег з Брава-Жыватоўскім.

— Няўжо ў немцаў чаго папрасіў? — як не злякаўся Іван Падзерын.

— Так бы яны яму і далі! —ажно з зайздрасцю сказаў на гэта Кузьма Прыбыткоў.

Але Драніца запярэчыў:

— А можа б, і не пашкадавалі, як тэй таго! Падыходзілі ж мястачковыя падшывальцы, дак немцы ім давалі.

— Не, мусіць, усё ж пашкадавалі б, — пакруціў галавой Іван Падзерын, — бо… у золаце…

— Дак у іх жа, як тэй таго, усё загорнута ў золата, — ужо падскокваючы на лаўцы, пачаў даводзіць Мікіта.

Тады не ўтрымаўся Парфён Вяршкоў.

— Ета саўсім і не золата, — падаў ён свой усяведны голас. — Ета, мусіць, папера такая ў іх. Дак у яе яны і загортваюць… тама сыр, масла рознае… І не з золата яна, а як пасярэбраная.

— Ну, як на абразах, — падказаў Кузьма Прыбыткоў.

— Дак чорт жа яе ведае! — пачухаў патыліцу Драніца.

— Адным словам, пакаштаваць табе нямецкіх прысмакаў не давялося? — глянуў на Драніцу Іван Падзерын.

— Дак…

— А Брава-Жыватоўскаму? Яго ж хоць немцы накармілі?

— Не ведаю, як тэй таго. Але бытта не. Адно вінтоўку далі з патронамі бяльгійскімі, такія во шырокія на срачках, як тэй таго, да паліцаем залічылі ў Верамейкі. Кажа, скора хворму палуча.

— Да ўжо ж, як тэй таго, — уздыхнуў Кузьма Прыбыткоў, і ўсе раптам засмяяліся з гэтага пераймання.

На вуліцы зноў пачуліся крокі. Але гэты раз парог ужо сапраўды пераступіў Сідар Раўнягін.

— Цябе як чакаць, — сказаў з папрокам Зазыба, — дак хутчэй жабу ў Кулігаеўку пугаю гнаць.

— От, — махнуў рукой Сідар,— тута часам і не думаеш, а клопат цябе сам знойдзе. Так і ў мяне сянні. Карова была правалілася ў багну, што ля Святога возера, дак пакуль выцягнулі з гразі, усе вяроўкі парвалі ў карчах.

Выходзіць, і дакараць чалавека няма за што. Сідар падышоў да стала, сеў там спіной на кантору, засланіўшы ўсё святло,

— Чаго клікаў? — уставіўся ён на Зазыбу.

— Дак… — Зазыба таксама глядзеў на Раўнягіна.

— З калгасам трэба нешта рашаць во, — нібыта памагаючы Зазыбу, растлумачыў Кузьма Прыбыткоў.

Але Сідар нават не глянуў на старога, сказаў яшчэ да Зазыбы:

— Дак чаму б тады не склікаць агульны сход, раз ужо дайшла справа, каб распускаць калгас?

— Ніхто не збіраецца яго распускаць, — спахмурнеў Зазыба. — Пытанне аб роспуску мы не павінны ставіць. У іншых вёсках няхай робяць як знаюць. А мы свайго не будзем распускаць. Падзелім адно па спісках калгасную маёмасць. Проста будзе лічыцца, што раздалі яе на захаванне да прыходу Чырвонай Арміі.

Усе, у тым ліку і Парфён Вяршкоў, здзіўлена паглядзелі на намесніка старшыні калгаса.

— Гм, — усміхнуўся як збянтэжаны Кузьма Прыбыткоў.

Сапраўды, мудрэйшага нельга было прыдумаць: Зазыбава прапанова, па сутнасці, ратавала ўсё — як кажуць, і ваўкі маглі быць сытыя, і авечкі заставаліся цэлыя.

— А як прыйдуць нашы, — працягваў тлумачыць Зазыба, каб не пакінуць наперад чаго няпэўнага, — дак людзі і вернуць усё.

— Так яны табе і панясуць! —заёрзаў на лаўцы Мікіта Драніца. — Я верамейкаўцаў, як тэй таго, знаю! Будзеш пасля па дварах бегаць, як тэй таго, да па аброці збіраць!

Зазыба глянуў на яго спадылба, сказаў:

— Я таксама іх ведаю. Калі ў калгас ішлі, дак, здаецца, нічога не ўтойвалі.

— Тады от што, — паклаў руку далонню на стол Сідар Раўнягін, — вы нам аддасце тое, з чым мы прыйшлі да вас, калі далучаліся да калгаса. І зямлю, і маёмасць. А мы тама самі памяркуем, што да чаго.

Сідаравы словы выклікалі ў верамейкаўцаў рогат.

— Во куркуль! — пакруціў галавой Іван Падзерын.

— Як Жыватоўшчык кажа, як тэй таго, воўчы дух да лесу цягне, — пакпіў Мікіта Драніца.

— Вы са сваім Жыватоўшчыкам ужо абас… — злосна кінуў у адказ Сідар.

Тады раптам узбурыўся Парфён Вяршкоў:

— Пабачым яшчэ, як вы тама, на сваіх пасёлках, абас… А прапанова твая нам не гадзіцца!

— Дак…

Зазыба пакутліва наморшчыў твар:

— Ладна, перастаньце, мужыкі, бо яшчэ ж, можа, і чэрці сянні на кулаках не біліся, а вы… Парфён праўду кажа, — паглядзеў ён на Сідара, — прапанова твая нам не падыходзіць. Разам аралі, разам сеялі, разам і жыць павінны, а тама… Словам, заўтра перамераем жыта да пачнём. — Пасля гэтага перавёў позірк на Івана Падзерына. — Сядай во, Хоміч, бліжэй да лямпы да пісаць будзеш. Спярша пратакол, а тады спіскі трэба складаць.

Рахункавод дастаў з расчыненай шафы стос чыстай паперы:

— Як пісаць?

— А так от і пішы, — паказаў пальцам Зазыба зверху на аркушы паперы, — маўляў, праўленне калгаса на сваім пасяджэнні ад такога-та чысла адна тысяча дзевяцьсот сорак першага года пастанавіла раздаць сялянам калгасную маёмасць, у дужках — на захаванне, да прыходу Чырвонай Арміі.

— А от етага і не трэба пісаць, — спыніў Зазыбу Парфён Вяршкоў.

— Чаму? — хацеў не паслухацца Іван Падзерын. — Чаму гэта не пісаць?

— Дак не хачу, каб Зазыба павіс на той сасне, што за Кандрусевічавай хатай!

Кузьма Прыбыткоў таксама заварушыўся.

— Парфён праўду кажа, — падтрымаў ён Вяршкова. — Трэба памеркаваць.

— Ага, парахавацца трэба, — паклаў ручку пяром на чарніліцу-двухдонку Іван Падзерын.

— А што тута рахавацца! — з пагардаю ў вачах паглядзеў на верамейкаўцаў Сідар Раўнягін. — Ета Дзяніс не падумаў, што прымушае пісаць. Пратакол такая рэч — у яго нікому не забароніш глянуць, дужкамі не закрыешся, дак от і скажа хто, можа, той камендант — значыць, Чырвоную Армію чакаеце, хлеб для яе запасаеце? Ану-тка пакажыцеся тады, якія вы смелыя!

Але Зазыба крутануў галавой і настойліва патыцкаў пальцам у паперу:

— Пішы, Хаміч, пішы, як я табе кажу! Тута ўжо не схаваешся! Да й навошта?

— Дак вайна ж цяпера, — паціснуў у неўразуменні плячамі Кузьма Прыбыткоў— Нездарма кажуць, у голад людзі намруцца, а ў вайну налгуцца.

Усё гэта адбывалася ўчора, дакладней, сёння ўначы, а ўранку Зазыба таксама меў клопат падавацца за вёску ды мераць на палосы ў Паддубішчы калгаснае жыта.

Снедаў ён похапам, адно выпіў з акрайцам пазычанага ў Прыбытковых хлеба карэц халоднага, з сенцаў, малака. Марфа і яшчэ наважылася наліць яму — нават стаяла з гарлачом напагатове, але гаспадар як спаражніў карэц, то накрыў яго рукой.

Ранняя гамана на вясковай вуліцы хоць і надта нагадвала колішняе жыццё — у Верамейках гэтак бывала заўсёды, ж пачыналася жніво, аднак сёння ўсё здавалася калі зусім непатрэбным, то ўжо лішнім: чалавечыя галасы, беганіна ажно раздражнялі Зазыбу; у душы стаяла такое нядобрае пачуццё, быццам намеснік старшыні калгаса ў нечым падмануўся, быццам нешта не спраўдзілася, на што ён дужа разлічваў. Зазыба разумеў — людзі збіраліся і сёння рабіць тое, на чым трымаўся іхні жыццёвы ўклад, гэта значыць ісці ў поле ды прыбіраць хлеб, а вось жа варушылася ўсярэдзіне нейкая крыўда на іх, нібыта не з яго дазволу ўчора складаліся маёмасныя спісы. Дзіва, але Зазыбу ажно як хацелася, каб раптам здарылася, што ніводны чалавек з усіх Верамеек, таксама з абодвух пасёлкаў, не паказаўся на полі: тае бяды, што пераспелая збажына зачакалася людзей на нівах. І нядобрае пачуццё, і недаверлівасць, і крыўда на аднавяскоўцаў былі, можа, таму, што вельмі багата ўклаў Зазыба за гэтыя гады і душы свае, і сіл у калгас, і сёння людзі меліся пабурыць не толькі тое, што створана было калектыўнай працай і адзіным жаданнем, але і ягоную мару…

Калі Зазыба выйшаў у завулак, за глінішчам, над асмужанай зямлёй, стаялі ажно тры сонцы: адно — вялікае — пасяродку, два меншыя, акурат гумовыя мячыкі — па баках. Вялікае сон-

ца мела вакол сябе бліскучы, але як пашматаны круг, на якім і трымаліся два меншыя сонцы, — яно было звычайнае, такое, якім выглядае штодня, а тыя, што збоку, былі пафарбаваны ў чырвоны і блакітны колеры: чырвоны па баках, павернутых да вялікага сонца, блакітны — на адваротных. Зазыба нямала пажыў на свеце, амаль кожную раніцу глядзеў на ўсход, дзе цяпер віселі тры няроўныя сонцы, аднак раней нічога падобнага бачыць не даводзілася яму. Спярша Зазыба падумаў, што гэта здаецца толькі, няйначай, прывід, і ён пачаў плюскаць вачамі, матаць галавой, каб пазбавіцца яго, але дарэмна — сонцы быццам бы і ссунуліся трохі адно адносна другога, круг нават расплюшчыўся, аднак дзіўны малюнак не знік з неба. Тады Зазыба падумаў пра другое: значыць, нейкая прыкмета, кажуць, здараецца гэтак у часы бедстваў народных… Але якая—добрая ці благая? Сам ён не верыў у забабоны, аднак адразу прыгадаў — Марфа сёння перад самым Зазыбавым сняданкам стала расказваць у скрусе, што пасля дасвецця нібыта чула, як спявала на двары пеўневым голасам курыца. Гаворачы мужу пра гэта, яна ажно не ўтрымалася і заплакала, але хутка перастала, бо Зазыба паказаў тварам сваю нездаволенасць і пачаў паспешліва збірацца ў поле.

— Нешта ж во здарыцца, — казала ўжо з сухімі вачамі Марфа. — Раз яна запела не сваім голасам, дак здарыцца. Можа, з Масеем тама… А можа, з намі… А можа, з Марыляй… — І спытала у Зазыбы: —Як жа вы яе? Хоць пасялілі добра дзе, а то ўчора я пацікавіцца не паспела, дак?

— За поштай, у яўрэйскім доме пасялілі, — адказаў з неахвотай Зазыба.

— А чаму не ў самога Шарэйкі?

— Ну, так мы рашылі…

Марфа паглядзела недаверліва на мужа, уздыхнула. Тады Зазыба сам сказаў, каб неяк заспакоіць жонку:

— Дак гэта ж, можа, не наша справа. Ты ж не бачыла, якая спявала?

— Можа, й не наша…

Марфе нібыта ўжо і самой не хацелася гаварыць пра гэта.

— Дак навошта тады душу вярэдзіць? — буркнуў яшчэ Зазыба.

Але праз нейкі момант Марфа зноў сказала:

— Ат жа! — і махнула рукой. — Яны цяпера нешта саўсім распеліся, етыя куры… Во Куліна Вяршкова таксама казала, і ў іх бытта пела. — Памаўчала і дадала: — Канешне, каб ведаў, якая спявала, дак ужо не пашкадаваў бы па етакім часе. Можна было б пакласць на парог.

— А я так і не ведаю, як гэта вы, бабы, робіце, — усміхнуўся Зазыба. — Чуў, што на парог кладуць курэй, калі тыя співаюць не сваім голасам. Нават матка мая, помню, секла. Казалі тады, што памрэ нехта свой, а памёр Кузьмоў брат цераз дарогу. Да і то няскора.

— Дак, можа, не так што зрабілі, як трэба, — пачала тлумачыць Марфа. — Трэба спярша памераць самой курыцай, бы аршынам, ад кутняга месца да парога. Тады і стане ўсё ясна. Калі на парог ляжа галава, значыць, памрэ хто ў хаце, а калі хвост, то за домам ужо…

— Ну, а Куліна мерала? —спытаў, як жартуючы, Зазыба.

— Дак яна таксама не прыкмеціла, каторая співала.

— Ну, значыць, і не трэба думаць. Во ўчора сарока галаву дурыла пад вокнамі, а госця няма!

— Дак, можа, якая вестка будзе? Можа, пра Масея?

— Ат, — махнуў тады рукой Зазыба, каб папярэдзіць жончыны слёзы, — яшчэ невядома, каму лепей выйдзе, ці яму тама, ці нам во?

…Зазыба пачаў азірацца па баках, хацеў пабачыць каго, каб папытацца пра сонцы на небе, аднак ні ў завулку, ні на самой вуліцы ў Верамейках, як на тое, не было ні душы. Неўпрыкмет Зазыба засаромеўся — пэўна ж, гэта вярзецца яму! — і рушыў па завулку да глінішча, дзе па беразе над ровам ішла сцежка ў Паддубішча.

Зямля за кароткі пагожы час паспела ажно падшэрхнуць, нават ноч гэтая, здавалася, не лажылася сваёй халоднай вільгаццю на яе. Ісці па сцежцы было прыступна і лёгка. Па правы бок сцежкі, перад тым як даступіць туды палыну, расла нейкая паўзучая трава, падобная сваімі каробачкамі на плюшч, і калі Зазыба чапляўся халявамі ботаў за яе, то пад цёмна-зялёным кажухом чулася ледзь не змяінае шыпенне.

Чым далей адыходзіў ад вёскі выгінасты роў, тым меней траплялася ў ім круглых пячурак, вырытых глінакопамі. Але затое з кожным крокам роў усё больш мялеў, за яго дно пачынала чапляцца шыпшына, тады раскідзісты, як запрэжаны ў што, бружмель, і, нарэшце, здалёку кідаўся ў вочы брудна-ружовым цветам канапляны пасконнік.

Ніхто ў Верамейках не ведаў, якая сіла спершапачатку ўтварыла гэты роў, можа, некалі пеніўся тут ручай, але тады недзе павінен быў струменіць і ягоны выток. Між тым роў абрываўся, дакладней, пачынаўся раптоўна, на самым голым месцы, дзе не было ні крыніцы, ні нават звычайнай балацявіны. Няйначай,

ручай той — калі ён сапраўды пеніўся тут — выбіўся аднекуль знячэўку і таксама не па сваёй ахвоце, як непатрэбны і незаконны на гэтым свеце, схаваўся пад зямлю, а можа, не хапіла яго, і ён сцёк у лагвіну, якая па баравіковых верасах вяла скрозь лес да самае Бесядзі.

Зазыба тупаў па сцежцы і нібыта баяўся паглядзець на неба: у вачах як адбіліся тыя тры сонцы, дык і свяціліся, бы на экране, чырвона-сінімі плямамі недзе на задняй сценцы ў галаве. Але праз нейкі час сцежка вынырнула на так званую гуцянскую дарогу, што ішла ад коўрат на сярэдзіне вёскі, і тады Зазыба апынуўся адзін на адзін з усходнім небакраем, але трох сонцаў ужо не пабачыў. Як і звычайна, на небе было адно сонца. Прапаў кудысь і той круг, што блішчаў вакол яго і на якім трымаліся два меншыя сонцы. Затое вялікае сонца цяпер падпіралі чырвоныя слупы, і яно ляжала на іх, як казачная істота.

У Паддубішчы ўжо было поўна народу. Зазыба нават здзівіўся, што ў Верамейках яшчэ столькі яго: апошнім часам, як у восеньскую золь, усе сядзелі па хатах, таму можна было падумаць, што вёска апусцела не менш як напалову ад даваеннае. Недзе яно і сапраўды было так, бо мужчыны з вёскі пайшлі па колькіх мабілізацыях амаль усе, за выключэннем старых ды белабілетнікаў, але на поле выйшлі падлеткі — шаснаццаці-сямнаццацігадовыя хлопцы-камсамольцы, цяпер яны браліся быць замест бацькоў гаспадарамі, хоць пакуль і не адчувалі сябе вольна паміж дарослых, а стаялі пры боку сваіх мацерак, якія прывялі іх ледзь не сілком сюды.

Дзіва, але без абрадавай песні сёння таксама не абышлося — акурат у сапраўдныя зажынкі Рыпіна Ціткова сустрэла Зазыбу яшчэ на краі нівы:

А што ета ў полі гудзець?
Наш Зазыба-пасол ідзець,
Вясёлыя весці нясець!..

Старая пэўна блазнавала, спяваючы гэта, але Зазыба раптам нахмурыў лоб, ссунуўшы бровы на пераноссі.

— Ты яшчэ ў скокі пусціся! —сказаў ён.

Рыпіна адчула дакор у яго тоне, пляснула, бы вінаватая, рукамі:

— Дак ці ж ты забыў, Яўменавіч? Ета ж кажыннае лета так? Як першы сноп, дак і… Во раней дак і з гарэлкай нават хадзілі зажынаць. Бывала, першы сноп паставіш, а тады за пляшку адразу…

Жанчыны — іх стаяла багата тут з абодвух канцоў вёскі — засмяяліся з Рыпініных слоў, быццам таксама хацелі пераканаць у нечым намесніка старшыні калгаса. Але той не прымаў іхняй вясёлай узрушанасці. Як і ў хаце, калі снедаў, у душы яго зноў стаяла раўнівае пачуццё, і ён ажно не мог глядзець на знаёмых кабет, было жаданне не затрымацца каля іх і прайсці міма. Тым часам Рыпіна Ціткова не зводзіла з Зазыбы вінаватых вачэй.

— Дак ты ж і сам, — казала яна, — калі старшынёй быў ставіў гарнец бабам за першы сноп.

— Некалі я вам ставіў, а цяпера вы мне павінны паднесці, — як дзеля адчэпкі кінуў бабам Зазыба.

Па правы бок ад дарогі нехта варушыўся ў жыце — няйначай, ужо смурыжыў сярпом. Зазыба прыўзняўся на дыбачкі, каб угледзець.

— Ета Гаўрыліха, — падказалі кабеты.

Зноў сярод жанок пачуўся смех, а Драніцава Аксюта, якая стаяла на абочыне ў лапцях, сказала як у здаўнелую помсту:

— Прывыкла за мужыком уладаць, дак і цяпера закону няма ёй!

Зазыба ступіў на травяністы копчык і абочынай ўздоўж заплылай разорыны, ад якой пачынаўся засеў, падаўся да жанчыны, што, не зважаючы на галасы, то згіналася, то выпроствалася ў жыце. Сапраўды, то была Гаўрыліха. Пакуль верамейкаўцы збіраліся ў гурты ды гаманілі, абмяркоўваючы вясковыя навіны, а больш — тое, што павінны былі сёння рабіць, Гаўрыліха паспела нажаць снапоў на цэлы ўмалот на таку, займаючы паласу як найшырэй. Аксюта Драніцава дарэмна казала — жанчына гэтая ніколі не «ўладала», хоць была замужам за чалавекам, які доўгі час працаваў старшынёй суседняга з Верамейкамі сельскага Савета, бо ў хаце мела багата малых дзяцей, здаецца, пяцёра ажно, і ёй ці было калі нават адысці ад ночваў. Цяпер яна таксама была цяжарная. Але прыняла свой вывадак поўны, і дзеці, адно драбней за другое, распаўзліся ў забаве па калючым іржэўніку, а два большыя хлопчыкі — старэйшаму, Хведзьку, добра калі споўнілася чатырнаццаць гадоў — памагалі маці ў рабоце, вяжучы саламянымі перавясламі цяжкія снапы. Зазыба падышоў крокаў за шэсць ад Гаўрыліхі, пастаяў не падаючы голасу, колькі моманту, быццам хацеў паназіраць, як спрытна і нізка рэжа яна сярпом, пасля ступіў яшчэ трохі наперад і сказаў ціха, з папрокам:

— А Хадоска дак нават дачакацца не магла! Кабета глянула з-пад рукі на Зазыбу, выпрасталася.

— Дак… — вымавіла яна ў разгубленасці.

— Я кажу, не магла дачакацца, пакуль дзяліць пачнём, — сказаў другі раз Зазыба.

— А чаго мне чакаць? — раптам перамянілася ў твары Гаўрыліха і ўжо нібы зазлавала: — Чаго я з імі во дачакаюся? — Яна паказала на дзяцей. — Колькі ўхаплю сярпом, дак і маё!

— Як у той казцы, — усміхнуўся Зазыба, — колькі абягу зямлі, тая і мая.

Гаўрыліха не адказала. Апранутая, як назнарок, у лахманы, з вялікім жыватом, яна стаяла з растапыранымі рукамі на выжатым лапіку і падобна была на пудзіла, што выстаўляюць на гародах ад птушак. Меншыя дзеці яе тым часам абступілі ўжо намесніка старшыні калгаса і, ледзь не трымаючыся за боты, з цікаўнасцю пазіралі ўгору, нібыта лавілі пагляд ягоных вачэй.

Затое памочнікі матчыны стаялі наводдаль натапыраныя, мусіць, з крыўдаю думалі: маўляў, гэта крычыш ты на нас цяпер, бо бацькі няма, на вайне, а то б не пасмеў праганяць з поля!..

Зазыба і дагэтуль ішоў да Гаўрыліхі без малое злосці, проста хацеў паўшчуваць, што палезла з сярпом абы-куды, не падумаўшы, дзе выпадзе на яе двор паласа, а тут убачыў столькі дзіцячых вачэй і вачанят, скіраваных з дакорам і неўразуменнем на яго, і здрыгануўся сэрцам.

— Ну, а калі тваё што пажала во, да пападзе каму другому? — сказаў ён, тлумачачы.

— Як ета?

— Мы ж дзяліць зараз усё поле будзем… Калі табе паласа тута не выйдзе?

Жанчына адчула, што Зазыба сам ці не збянтэжаны гэтым, адпусцілася, памякчэла голасам.

— Неяк жа тады ў палажэнне трэба ўвайсці, — ужо лісліва пачала яна. — Не магу ж я з другімі раўняцца, бо дзяцей етых ажно во колькі, плойма цэлая, дак… Ты ж Гаўрылу майго ведаеш, помніш, дружылі дайжа?..

Мусіць, недалёка было да жаночых слёз.

— Не хвалюйся, не пакрыўдзім, — паспяшаўся тады супакоіць цяжарную кабету Зазыба. — Гаўрылавых дзяцей не дадзім у крыўду. Але жаць тута, Хадоска, перастань. Няма чаго надрывацца, бо невядома, каму пасабляеш.

Зазыба з вінаватым выглядам падміргнуў мурзатым Хадосчыным дзецям і бокам, баючыся наступіць на якога, выйшаў з іхняга круга, а тады расхінуў перад сабой сцяну вырослага, бы на кучках, жыта і рушыў па ім напрасткі да другой дарогі, што

была на краі нівы і аддзяляла яе ад свойскіх гародаў, утвараючы жытні трохкутнік. Зерне на каторых каласках у трохкутніку было ўжо аж чорнае, а з якіх дык і павыпадала на зямлю, і Зазыба са шкадаваннем падумаў, што сёлета не толькі не давядзецца як мае быць распарадзіцца ўраджаем, аднак і страціць багата яго. Тым не менш калоссе было тугое, у ім яшчэ хапала тае хлебнае важкасці, якую адчувае чалавек нават у часе хады, калі яно хвошча па твары, лапоча па закарэлым адзенні на грудзях.

Верамейкаўскія дзядзькі, сярод якіх стаялі і пасялкоўскія, адасобіўшыся ад жанок, гаманілі на дарозе, і Зазыбу, пакуль клычыў нагамі густое жыта, былі відаць іхнія галовы.

— Каторыя, мусіць, дак і начавалі тута! — усміхаючыся, сказаў Іван Падзерын, калі намеснік старшыні калгаса нарэшце выйшаў на абочыну.

Зазыба не абазваўся. Дагэтуль яму рупіла адно — дазнацца спярша ў дзядзькоў, ці бачыў хто нядаўна на ўсходзе тры сонцы, але Падзерын сваёй кплівай заўвагай, здаецца, выбіў з галавы запытанне. Зазыба павітаўся за руку з мужыкамі, скоса глянуў на Рахіма, які сядзеў на капцы, трымаючы на правым плячы вінтоўку. Няйначай, падумаў Зазыба, Раман Сёмачкін прывёў паліцэйскага сюды наўмысна, каб стварыць псіхалагічную насцярогу. Як і ў той дзень, калі верамейкаўцы першы раз пабачылі яго на бёрнах ля стайні, Рахім сядзеў абыякавы да ўсяго, але таксама з ранейшай зацятасцю на скуластым твары, акурат з насцярожанай рашучасцю — адно загадай яму, і ён зробіць усе, што трэба будзе: нездарма казалі ўжо, што Рахім паказаў сябе, можа, самым заўзятым паліцэйскім у Бабінавічах.

— Ну што, пачнём? — знарок весела кінуў мужыкам Зазыба.

— Да ўжо ж… — плаксіва пазіраючы нявыспанымі вачамі на сонца, матнуў галавой Кузьма Прыбыткоў.

Тады сказаў сваё Раман Сёмачкін:

— Мы яшчэ пабачым, як вы тама падзялілі ўсё!

— Рашылі правільна, — кінуў Раману Парфён Вяршкоў.

— Тады навошта было запірацца ў канторы? — пайшоў у наступ Сілка Хрупчык: гэтага, здаецца, больш за ўсіх укалола, што не паклікалі ўчора ў кантору.

Зазыба, хмурачы лоб, пачакаў, пакуль улягуцца незадаволеныя галасы, затым узяў з рахункаводавых рук складзеныя спісы, разгарнуў.

— Рашылі правільна, — павысіў ён голас, паўтараючы Парфёнавы словы, і дадаў: — Дзялілі на душы.

— Ета дзела! — заківаў галавой як узрадаваны Сілка Хрупчык.

— Узялі даваенныя спіскі, — гаварыў далей Зазыба, — да і прайшліся па іх, ад двара да двара.

— Значыць, і на тых давалі, каго няма цяпер у Верамейках? — здагадаўся і заплюскаў вачамі Раман Сёмачкін.

— І на тых, —не адрываючыся ад папер, адказаў быццам у задуманасці Зазыба.

— Дак чаму? — высунуўся наперад стары Ціток.

— Бо так справядліва будзе! — з незалежным выглядам буркнуў Парфён Вяршкоў.

— Але тады адны хлеб будуць есці, — як не закрычаў Раман Сёмачкін, — а другія дак зубы на паліцы трымаць?

—Во-во! —учапіўся за Раманавы словы Сілка Хрупчык, мусіць, шкадуючы ўжо, што незнарокам пахваліў быў праўленцаў. — Ета ж выходзіць, што Гапка Лапэзава атрымае паласу большую, чым Сілка. — Ён гаварыў пра сябе, як староннi. — У Гапкі трое сыноў, і ў Сілкі трое. У Гапкі мужык, Лапэза, а ў Сілкі жонка, Хрупчыха. Здаецца, па-вашаму так? Але Сілкавы дак усе дома, а Гапка цяпера адна на ўвесь двор!

— Гапкіны на вайне, — сказаў Парфён Вяршкоў. — І мужык, і хлопцы. Дык пра ета таксама не варта забываць.

— Але ж есці не просяць! —праця́ў яго раззлаваным позіркам Сілка Хрупчык.

— Нешта вы тута не дадумалі, —не пераставаў падаграваць вяскоўцаў Раман Сёмачкін: яму ажно не месцілася ў ватоўцы.

— Канешне, не дапёрлі, — бадай, не зусім свядома, але далучыўся да яго Ціток: старому, як напраўду, то ўсё роўна было, ён аднолькава меў бы ад дзяліцьбы пры ўсіх варыянтах, бо заўсёды жыў толькі з Рыпінаю.

З гаваркіх ды настырных адзін Мікіта Драніца не прымаў удзелу ў спрэчцы — круціў вялікай галавой, быццам не толькі недачуваў, але і да канца не разумеў аднавяскоўцаў, хоць Зазыба дагадваўся, што той, няйначай, пабег яшчэ ўначы з калгаснай канторы да Брава-Жыватоўскага, адсутнасць якога паміж людзей цяпер дзівіла.

— Не дадумалі, не дадумалі, — робячы нібыта здзіўлены твар, круціў галавой Раман Сёмачкін. — Яно ж праўду кажа Сілка, Лапэзіха пасля такой дзяльбы будзе хлебам раскідвацца, а Сілку дак хоць торбы заказвай шыць. — Ён павёў вачамі на Зазыбу. — Што на душы дзяліць будзем, на ета мы згодны, але толькі каб на тыя, якія дома цяпера жывуць.

— Будзем рабіць так, як надумалі на праўленні, — вяртаючы Падзерыну спісы, непахісна сказаў Зазыба.

Але Сілка Хрупчык не хацеў слухаць.

— Якое ў вас тама праўленне было! — з пагардай паморшчыўся ён.

— І праўда, тры чалавекі, дак ета не праўленне! — зноў падаў голас Ціток. — Во, бывала, пры Чубары!..

Здавалася, гэта найбольш узбурыла Зазыбу, і ён рашуча сакануў у паветры рукой:

— Раз вы лічыце, што намі былі дапушчаны парушэнні, дак завіце тады ўсіх сюды! Тута, ля гэтага капца во, будзе вам і агульны сход, і праўленне зараз!

## XII

Яшчэ дыхаў недзе доктараў мозг, а Чубар кінуўся ў роспачы, хоць, можа, болей са страху, на край схону — сціскаючы вінтоўку і зусім не адчуваючы яе ў руцэ, ён з'ехаў нагамі наперад па абрывістым схіле і апынуўся якраз на той дарозе, па якой прыйшоў з-за Бесядзі ваенурач. Патрывожаны пясок на адкрытым і выветраным схіле пасыпаўся ўніз, але Чубар шоргату не чуў: лучыў, як далей адбегчыся ад таго месца, дзе адбылося забойства. Пра тое, добра ён зрабіў ці не, стрэліўшы ў чалавека, які неспадзявана кінуўся наўцёкі, у галаве не стаяла, ды і ці можна было ў такім стане прыйсці да якой пэўнасці.

Хоць Чубар і ахоплены быў гарачай тлумнасцю, але дарогу выбіраў акурат, гэта значыць не памкнуўся праз увесь луг да ракі, дзе была Антонаўка, а цаляў у той бок, куды клаўся ягоны цень, якому ён, сігаючы з усяго спрыту, ледзь не наскокваў на галаву: наперадзе відаць быў невялікі, як астравок, бярозавы гай, мусіць, адзін з тых, што, уратоўваючыся ад плуга, часам застаюцца неяк паміж сенажаццю і ворнай зямлёй.

Нейкі час Чубар бег, нават не адчуваючы свайго цела. У вушах, можа, яшчэ ад стрэлу калыхаўся балючы звон. Здавалася, зусім дзеравянелі ногі. Але паступова замест гарачай тлумнасці, што засціла вочы, і гэтага звону, які ажно распіраў вушы, усярэдзіне, зусім як жывая, пачала варушыцца млосная прытарнасць, і Чубар, нібыта наперакор сабе запавольваючы бег, раптам паляцеў употырч у высахлую копанку, дно якой было зацягнута ліпучай цінай. Здарылася гэта ўжо амаль на краі лугу, калі да бярозавага астраўка заставалася не болей сотні метраў… Выбраўся Чубар з копанкі спалатнелы і абыякавы да ўсяго ад унутранай спустошанасці, акурат звер пасля хваробы ці залечвання ран. Хістка стаўляючы ногі і валочучы за рэмень вінтоўку па траве,

ён патупаў далей па лузе, беручы перад сабой за арыенцір белую кару маладых бяроз. Калі ён нарэшце апынуўся там, то адразу лёг грудзьмі на дол, паклаўшы правай шчакой халодную галаву на мяккі сівец. Праз колькі хвілін у галаве прасвятлела, быццам разднела дзе, і чырвоныя мятлушкі, што пырхалі дагэтуль перад вачамі, паляцелі прэч. Але па-ранейшаму грукала, быццам драўляным пранікам па зямлі, патрывожанае сэрца.

Сонца яшчэ стаяла высока, і кусты, што раслі навокал бярэзніку, не заміналі яму высвечваць крамяныя шапкі бардовых падасінавікаў, якія багата дзе выпіналіся з папараці, закіданай, быццам ад маразоў, леташнім хлабыззём.

Пра ваенурача, што паваліўся ад яго стрэлу на схоне, яшчэ амаль не думалася, можа, з тае прычыны, што гэтак выпетрала нечаканае нервовае ўзрушэнне. Чубар адно глядзеў перад сабой — паўзверх злямцаванага мурагу, бо нават заплюшчыць вочы не адважваўся, і ўсё, што трапляла ў поле зроку, успрымаў як нешта нерэальнае. Але вось на бярозавы вываранцень, што быў крокі за два ад яго, выпаўзла шэрая яшчарка, і тады Чубару, нарэшце, свядома кінулася ў вочы, што тая не мае хваста — няйначай, адкінула, трапіўшы нейкім чынам у небяспеку, затое цяпер стала падобна на жабу-рапуху: гэтак жа хаўкала ротам, трасучы адвіслым падбародкам, і бяздумна талопіла вочы. Чубару зрабілася гідліва глядзець на яе. Ён паварушыўся. Ды яшчарка не спалохалася, не саскочыла з вываратня. Тады Чубар адвярнуў ад яе галаву і ўжо не стрымаўся, павёў вачамі далей. Тут, на гэтым бярозавым астраўку, аказваецца, быў свой свет, сваё жыццё, і з’яўленне чалавека зусім не парушыла яго. І зноў, ужо другі раз за бясконца доўгі для яго сённяшні дзень, Чубар пачаў з цікавасцю назіраць за так званымі ніжэйшымі істотамі, жыццё якіх, можа, не менш было загадкавае і поўнае нягод ад людскога. Але цяпер гэтае міжвольнае параўнанне ў ягонай галаве набыло амаль закончаную асэнсаванасць, асабліва пасля таго, калі ўбачыў, як па камлі бярозы поўз угару рагасты вусень, які нават не здагадваўся, што з макаўкі за ім сачыў лесавы жаваранак…

Чубар ляжаў у здранцвелай нячутнасці свайго цела — дзіўна, але ўсё магутнае тулава яго нібы паралізавана было чым, і доўга не спрабаваў стаць на ногі. А як нарэшце падняўся, то адразу прыхінуўся плячом да дрэва. Ды дарэмна асцерагаўся — ногі ўжо моцна трымалі яго на зямлі.

Ад ракі, якая цякла ў гэтым месцы метраў за трыста, цераз кусты, тхнула ёдам.

Бярозавы астравок, на якім знайшоў Чубар часовы прытулак, ляжаў паміж лугам і яравым клінам; адразу за крайнімі дрэвамі пачынаўся здзірванелы ўзмежак, парослы быльнікам. Бадай, па ім і трэба было падавацца адсюль, бо, як Чубар разумеў сябе цяпер, да Верамеек заставалася кіламетраў трыццаць. Прынамсі, можна было не хваляваццa — Верамеек у кожным выпадку не праміне́ш нават з завязанымі вачамі, абы ішоў паўз раку. Да таго ж пільнай патрэбы адразу ісці ў Верамейкі не было, даволі спярша зайсці ў Мамонаўку да Аграфены Азаравай, а гэта ўжо скарачала ўвесь шлях кіламетраў на сем, бо да пасёлка вяла дарога проста з Малога Хоцімска.

Чубар, як і кожны так званы ўдзядзелы халасцяк, вядома, таксама не абыходзіўся без жанчын. Але хутчэй з тае прычыны, што даволі часта пераязджаў па рабоце з аднаго месца на другое, сувязь з жанчынамі была ў яго выпадковая, нават не пакідала глыбокага следу ў душы, не кажучы ўжо пра высокія пачуцці. Праўда, Чубар таксама перажыў сапраўднае каханне — не без таго, яму напаткаўся ў жыцці чалавек, які паланіў усяго. Было гэта першы год, калі вучыўся на саўпарткурсах. Там ён сустрэў прыгожую дзяўчыну, якую звалі Фаінай і якая перад тым працавала начальнікам палітаддзела машынна-трактарнай станцыі ў Аршанскім раёне. Ды каханне было нядоўгае: дзяўчына паехала аднаго разу да бацькоў і трапіла на чыгуначным пераездзе пад таварны цягнік. Жалобу па ёй Чубар насіў ажно колькі гадоў… Але выйшла пасля так, што стаў неразборлівы ў адносінах з жанчынамі — з якою лёгкасцю знаходзіў іх, з такою і разлучаўся. У Верамейках ён таксама перабраў нямала і сапраўдных, і саламяных удоў. Апошняй была мамонаўская Аграфена. Моцнага пачуцця да яе Чубар тады не меў, але наведваўся на пасёлак часта: умела сустракаць жанчына! Але цяпер, за час гэтай сваёй непрыкаянасці, адчуў раптам штосьці зусім новае да Аграфены. І не адзін раз па дарозе ўжо ўяўляў сабе, як прыйдзе, нарэшце, у Мамонаўку і ўзрадаваная Аграфена ўзбегаецца за гародамі, каб напаліць у лазні, пасля павядзе туды яго і стане голая ў самай гарачыні махаць над ім распараным венікам…

Схон, на якім зусім нядаўна разыгралася трагедыя, узвышаўся па правы бок, хапала адно павярнуць галаву, каб убачыць знаёмыя сосны на ім, але ў Чубара як не ставала рашучасці…

Пасля стрэлу ў вінтоўцы яшчэ заставалася гільза ў патронніку, і Чубар зусім самохаць кляцнуў затворам. Бліснуўшы, гільза скокнула ўгору, адляцела крокі за два ўбок. Парахавы дымок, які не паспеў вытхнуцца ўвесь, заблытаўся цяпер маленькім жоўтым воблачкам між зялёнай травы.

Час быў ісці далей. Чубар ступіў на ўзмежак і, не азіраючыся, зашастаў нагамі па быльніку, які ўжо стаў руды. Неўзабаве ўзмежак пашырэў і неяк амаль неўпрыкмет перайшоў у звычайны лог з пасохлай белай канюшынай. Лог быў аслонены — з аднаго боку, якраз ад Бесядзі, — ракітавымі кустамі, і чалавека нельга было ўбачыць з тых дзвюх вёсак. Але ж па гэты бок ракі маглі трапіцца другія вёскі…

Бадзянне па чужых ваколіцах шмат чаму навучыла Чубара. І хто-хто, а ён-то ўжо мог расказаць каму, як трэба прыходзіць у незнаёмыя вёскі, каб пазбегнуць небяспекі. Сам Чубар рабіў гэта цяпер звычайна надвечар, калі ў вёсцы наставала нарэшце стомленая сцішанасць. Але перад тым ён доўга цікаваў за вуліцай паміж сялянскіх двароў з якой-небудзь схованкі. Здавалася б, зусім няхітрая навука, аднак да яе Чубар даходзіў праз вялікую, амаль інстынктыўную насцярожлівасць. Праўда, тут маглі мець значэнне таксама асабістыя Чубаравы якасці. Але ўжо напэўна, што, насуперак ранейшым уяўленням, ён асцерагаўся прасіць сабе прытулку альбо кавалак хлеба ў так званых бедных ці багатых хатах. Самым надзейным было выбіраць у вёсцы тыя сялянскія двары, якія не кідаліся табе вонкавым выглядам. Гаспадары ў такіх хатах звычайна прымалі без асаблівай перасцярогі — не скардзіліся на нястачу, шкадуючы накарміць, і не паглядалі скоса, загадваючы наперад. І, бадай, самае павучальнае адкрыццё зрабіў Чубар тады, калі пераканаўся, што ў тых вёсках, дзе паспелі пабываць немцы і стварыць так званую адміністрацыю, акружэнцаў і розных «бадзяг» пасылалі калі не проста да бургамістра ці старасты, то ўжо да былой старшыніхі з кучай дзяцей, няйначай. Што да старасты ці бургамістра — тут, зразумела, брала сваё даўняя звычка вясковых людзей выбіраць на розныя кіраўнічыя пасады памяркоўных мужыкоў, каб не мець пасля лішніх згрызот (дарэчы, фашысты таксама спярша падтрымлівалі сярод сялян свабодную выбарнасць), а вось чаму накіроўвалі да «старшыніх», Чубар доўга не мог даўмецца.

Былі ў Чубара і іншыя назіранні над жыццём ва ўмовах акупацыі, хоць тая пакуль не лягла ўсім сваім цяжарам. Праўда, багата якія з гэтых назіранняў патрабавалі яшчэ праверкі. Аднак Чубара ўжо багата што пачынала бянтэжыць. Напрыклад, вельмі незразумелай была яму недаверлівая маўклівасць людзей. Чым далей ён адыходзіў ад лініі фронту на тэрыторыю, занятую ворагам, тым мацней адчуваў яе.

Прыгадваючы свае сустрэчы, з людзьмі, Чубар успомніў таксама, як прабыў адну раніцу сярод жней. Тыя завіхаліся з

сярпамі ля ўскраю лесу, жалі калгаснае жыта. Вёсачка, з якой яны былі, таксама стаяла пры лесе, але трохі наводдаль ад дарогі, што вывела Чубара на тое поле. Кабеты заўважылі чалавека з вінтоўкай, пасталі і пачалі ўглядацца з-пад локця. Першая да Чубара, калі ён спыніўся нарэшце на ржышчы, падышла рухавая і вясёлая з твару жанчына сярэдніх гадоў. Вочы яе, здавалася, ніколі не хмурнелі.

— Глядзіце, бабы, хто да нас прыйшоў! А мы думалі ўжо, адным векаваць давядзецца!

Яна акурат сыпала словамі. Смяялася сама і нібыта прымушала смяяцца другіх. Можна было падумаць, што сярод гэтых вясковых кабет, як у тым бабіным царстве, наогул была забаронена самота, а гаспадыні, як маладзейшыя, так і старэйшыя, яшчэ недзе да вайны папраганялі ад сябе мужыкоў.

Можа, зусім за лічаныя хвіліны Чубар быў і накормлены, і напоены, адно толькі спаць не пакладзены. Жанчына, што першая загаварыла з ім, была старшынёй мясцовага калгаса. Гаспадарку яна прыняла зусім нядаўна, можа, паўмесяца таму, а да таго была ў калгасе так званай незамужняй актывісткай. Чубар калісьці таксама нямала вылучаў такіх жанчын — за тое, што на сходах выбіралі членамі ў розныя камісіі, у вёсках іх называлі «членкамі»: напрыклад, Полька-членка, Лёкса-членка і г. д. Калі Чубар сказаў, што і ён працаваў старшынёй калгаса, жанчына ажно пляснула рукамі.

— Вось добра! Гэта ж вас як ветрам нагнала. — І пачала ледзь не ўсчуваць: — Хопіць ныкаць па кустах! Бярыце ад мяне калгас!

Чубар, блазнуючы, замахаў рукамі.

— Пашкадуйце! — Але тут жа зрабіў строгі твар, сказаў: — У самой жа, бачу, няблага выходзіць.

Жанчына пасля гэтага сумелася, задумліва ўздыхнула:

— Гэта здаецца. А як на паверку, то… Весялю-весялю сваіх баб, а самой тым часам ажно плакаць хочацца. Не, я папраўдзе, станавіся ў нас за старшыню. — Ёй, мусіць, лягчэй было звяртацца да Чубара на «ты». — І зброя вось у цябе… — Яна паглядзела на вінтоўку так, нібыта сапраўды надавала гэтаму рашаючае значэнне.

Чубар зноў паспрабаваў адбыцца жартам — маўляў, навошта яму другі калгас, калі ён ужо ўцёк ад аднаго? Тады жанчына павяла вачамі вакол, сказала:

— Ужо другі дзень жнём… калгасам… Чубар спытаў:

— А немцы?

— Яны ў нас яшчэ пакуль праездам усё. Чубар зноў спытаў:

— А як пажняце, а яны возьмуць ды забяруць зерне ад вас?

— Ім жа не забароніш! Раз прыйшлі, значыць…

— Тады навошта наогул жаць?

Але жанчына на гэта не адказала, адно з дакорам паглядзела на Чубара і зноў нібыта павесялела.

— Так вось калгасам і жывяце? — спытаў праз нейкі момант Чубар.

— А нам іначай не выпадае. Мужыкоў жа ў вёсцы зусім няма. Нават старых мабілізавалі. Засталіся адны дзяды. Дык што нам пасля, бабам, выдумляць? Будзем жыць як набяжыць.

Гаманілі яны гэтак доўга — Чубар давольны быў, што зноў прытарнаваўся на час да людзей, тыя таксама нічога не мелі супраць, наадварот, пры чужым ды неблагім чалавеку не толькі душу можна адвесці, а і працаваць быццам спарней…

Мясцовасць паўз Бесядзь была няроўная — то над усім узвышалася ўзлобкам, парослым драбналессем, па краях якога відаць пясчаныя плешавіны, акурат пасля апоўзняў, то цераз жоўтае поле нібыта прагіналася раптам, утвараючы глыбокую расколіну, якая нагадвала высахлую дзебру.

З адной такой дзебры нарэшце вынырнула стаптаная сцежка і павяла Чубара паміж кустоў па хвойніку, на краі якога скончыўся лог. Але ў тым месцы, дзе паабапал сцежкі стаялі — як падняць чалавеку руку — маладыя елкі, дарогу перагарадзіла вялікая, бы нацягнутая з суравых нітак павуціна, якая ў лясным сутонні, здавалася, блішчала. Чубар прыкмеціў яе яшчэ крокі за два і ажно спыніўся, як у той казцы. Павуціна, можа, ад парушанага паветра, калыхнулася. Як зачараваны, зрабіў Чубар яшчэ крок наперад. Гаспадара, які незнарок сплёў паміж елак гэты адмысловы карунак, не было дома. Адны ахвяры яго — мусіць, даўно не жывыя восеньскія мухі — віселі, заблытаныя на павуціне. «Значыць, даўно не хадзілі тут ні чалавек, ні звер», — падумаў Чубар. Ён наважыўся быў парваць локцем павуціну, каб пайсці далей, ды нечага стрымаўся, нібыта ў забабонным страху. Тады саступіў у малады хвойнік і, аберагаючы рукой твар, пачаў прабірацца скрозь яго, каб абмінуць павуціну і ўзысці пасля зноў на сцежку. Аднак ужо лягчэй было падраць на сабе адзенне, скрывавіць рукі і твар, чымся патрапіць на яе: дужа густа стаялі тут адна каля другой маладыя елкі. Таму Чубар збочыў яшчэ, дзе раслі вялікія дрэвы, і колькі часу вольна ішоў паміж імі. Убачыўшы чалавека, кінулася ад пагрызенага баравіка доўгая, быццам надвязаная чым, вавёрка. Недзе мякка зашпокаў па кары дзяцел. Нарэшце Чубар убачыў верасовую прагаліну, павярнуў

туды — прагаліна пэўна ўжо выведзе яго на сцежку. І праўда, не зрабіў ён і паўтараста крокаў, як вачам адкрылася сцежка. Яна ўжо выпрасталася і спускалася з горкі: там, над непрыкметнай рачулкай, якая, пэўна ж, упадала ў Бесядзь, былі перакінуты дзве кладкі. Вада ў рачулцы была чамусьці дужа цёмная, як палітая чым, і наўрад ці толькі цень ад кустоў ствараў гэтае ўражанне. Гледзячы пад ногі сабе, Чубар перайшоў кладкі, якія ажно ўгіналіся пад ягоным цяжарам. Густы хвойнік, па якім Чубар ішоў да самага лугу, тут канчаўся; адразу за кустамі на ўсю шырыню развіналася поле. Непадалёку на ім стаяла нейкая сядзіба — старая, з нізка пасаджанымі вокнамі ды памшэлай страхой хата, пад якой туліўся свіронак пры хляве, тады сад, што зусім не меў агароджы, і, нарэшце, так званы гарод, але ўжо абнесены шырокімі абапалкамі і сукаватым жардзём. Трохі наводдаль — як прабегчы на адным дыханні — кідаў на зямлю цень другі сад, аднак пры гэтым ніякіх гаспадарчых пабудоў не было. Тут, мусіць, стаяў населены пункт, які ці то пачалі звозіць, ды не скончылі, ці наогул людзі паехалі жыць адсюль у іншае месца.

Чубар ішоў і ўглядаўся ў сялібу — здаецца, небяспека не пагражала. На гародзе была пакапана бульба, а на голым месцы, з якога пазносілі бульбоўнік на плот, ляжаў вялікі гарбуз. На падворку, адкрытым з усіх бакоў, ганяліся адзін за адным маладыя пеўнікі — яшчэ з ломкімі, таму ажно непрыемнымі галасамі: такія асабліва смачныя бываюць з маладой бульбай, маласольнымі гуркамі і кропам… Але з-за хаты раптам выйшла на падворак накукшаная кабета — мажная, з мускуламі на шыі і зямлістым тварам. Яна нават не прыгледзелася да незнаёмага чалавека, а забухкала адразу, быццам у трубу, нізкім, акурат балотным, голасам:

— Ідзі адсюль, прахадзі, а то ў нас і без цябе ўжо хапіла!.. — І паказала рукой на сад.

І выгляд, і голас яе былі такія, што Чубар не мог памыліцца — гэтак яго не столькі папярэджвалі пра штосьці небяспечнае, што магло б здарыцца, калі ён сапраўды ўзыдзе на падворак, колькі праганялі, як таго каршуна, які пачаў кружыць над дваром, прэч.

Збянтэжаны, Чубар нават не ўсчынаў гаварыць. Моўчкі, быццам з падцятым хвастом абыходзіў сядзібу, адчуваючы, як на скронях набухлі жылы пад скурай.

Жанчына тым часам стаяла на падворку, цікавала спадылба за кожным Чубаравым рухам. У садзе, які абмінуў Чубар, стаялі вуллі. Каля абвошчаных лятковых шчылін там мітусіліся пчолы. Але на дрэвах пладоў не было — сёлета сад ялаваў. Адны

пабурэлыя слівы грувасціліся на напятых галінах, ды чырванелі на мяжы жытнёвага поля садовыя рабіны.

Не паспеў Чубар прайсці паўз сад — дарэчы, хацішчаў на полі было больш, можа, нават за дзесяць, але астатнія не мелі садоў, таму і не кідаліся вачам здалёк, — і падняцца на ўзгорак, што пачынаўся ці не адразу за жылой сялібай, як убачыў забітага ваўка. Той ляжаў на калёснай дарозе, ужо амаль на самым скрыжаванні, якое было ўтворана гэтай калёснай дарогай і бальшаком, што ішоў ад Бесядзі. Абмінуць ваўка не было як, і Чубар падышоў да яго зусім блізка. Забіты звер нечым, можа, сваёй прыгожай сівізнай, нагадаў раптам… ваенурача. Ад гэтага параўнання, а дакладней — ад гэтае недарэчнае згадкі, Чубар ажно заплюшчыў вочы і здрыгануўся. Аднак сівыя абрысы прывіду, прынамсі, так хацелася спадзявацца, яшчэ з большай выразнасцю адбіліся ў цёмным прадонні вачэй. Тады Чубар скочыў цераз ваўка і рынуўся на злом галавы па дарозе да бальшака.

Мусіць, як і ўсе больш-менш прыгодныя дарогі цяпер, бальшак таксама выглядаў наезджаным аўтамашынамі. Адно што не хапала сёння руху на ім. Але то з’ява была, відаць, часовая. І Чубар, як толькі выбег на крыжаванне, кінуў хуткім позіркам у два канцы бальшака. У тым канцы, дзе павінна была цячы Бесядзь, штосьці чарнела на абочыне, як абгарэлы карабок. Чубар прыўзняўся на дыбачкі, каб лепей бачыць, але пазнаць не пазнаваў: да карабка яшчэ было не меней паўкіламетра.

Супроць карабка, але па другі ўжо бок бальшака, высіўся над полем шырокім голлем дуб.

Як не ў палахлівым утрапенні, Чубар патупаў да Бесядзі, і неўзабаве яму стала відаць усё, што заставалася дагэтуль скрытым ад вачэй, — за ракой, на самым далёкім плане — шырокая лугавая пойма, за якой сінеў, быццам прарэзаны бальшаком, лес, пасля сама рака, цераз якую на другі бераг вёў па доўгім пясчаным насыпе драўляны мост, а тады ўжо і ўвесь гэты схіл са счарнелым карабком, што перш за ўсё кінуўся Чубару, калі ён апынуўся на скрыжаванні.

Чым бліжэй падыходзіў Чубар да карабка, тым выразней бачыў, што гэта стаяла падбітая нямецкая бронемашына. Яна была нахілена правым бокам у прыдарожную канаву. Мусіць, нядаўна на бальшаку адбыўся бой: на самай паласе дарогі жаўцелі круглыя лапікі зямлі, хтосьці засыпаў ямкі ад выбуху. Чубар павёў вачамі далей па схіле. Па правы бок за канавай тырчалі драўляныя крыжы — па тры ў двух першых радах, а тады яшчэ два. Нават на адлегласці можна было здагадацца, што пастаўле-

ны яны на варожых магілах: чырвонаармейцам крыжоў наогул не рабілі, а мясцовыя людзі хавалі нябожчыкаў з большай павагай, прынамсі, ніхто не дазволіў бы ставіць нячэсаныя круглякі з вузкімі дошчачкамі.

На крайняй дошчачцы, насупраць якой спыніўся Чубар, было выведзена бліскучай фарбай: «Werner Holzmacher, Leutnant, Kompanienfьhrer, des Granadierrgiments»*. Нават не ведаючы нямецкай мовы, Чубар разабраў па напісанні лацінскіх літар, што пад трыма іншымі крыжамі ў першым радзе ляжалі два Гансы, пасля Макс.

«Хто ж пабіў іх тут?» — з помслівай зайздрасцю падумаў Чубар і пачаў старанна азірацца, каб адшукаць яшчэ якія-небудзь сляды нядаўняга бою, а тады рушыў пад дуб, што стаяў наўскасок ад падбітай бронемашыны. Першае, што прыкмеціў Чубар, падыходзячы да дрэва, — гэта вялікую, з няроўнымі краямі адтуліну, якая глядзела, быццам акно ў хаце, на бальшак. Праз яе магла вольна праляцець птушка і не зачапіцца крыламі. У дрэве было дупло.

Чубар заглядзеўся на дуб і не заўважыў як наступіў правай нагой на мяккі грудок зямлі. Грудок быў насыпаны таксама нядаўна і акурат па чалавечым росце, калі палажыць таго ды выпрастаць. Мусіць, тут і знайшоў сабе спачын той, хто напаў на гэтым бальшаку на немцаў.

Чубар нагнуўся, зруйнаваў неасцярожны свой след на грудку і на колькі хвілін нібы схаладнеў над магілай. Хацелася ўведаць хоць што пра чалавека, які ляжаў у ёй. Але дарэмна. Ніякіх адзнак не было, па якіх можна зрабіць гэта. І тады Чубар падумаў, што гэтым часам неяк лёс дужа несправядліва паварочваецца да герояў: ворагаў, якія прыйшлі захапіць краіну і заняволіць яе народ, нават і ў зямлю хаваюць па-чалавечы, а людзі, якія абараняюць гэтую зямлю ад іх і гінуць у жорсткіх баях, застаюцца безыменнымі, добра яшчэ, калі захаваюцца сведкі ці ўдзельнікі гэтых баёў…

У дубе сапраўды было дупло. Але Чубар убачыў яго толькі тады, калі абышоў дрэва вакол. Дупло мела незвычайны выгляд — быццам хто выбраў цяслом у дубе сяродак ад поля, і цяпер там мог вольна стаяць чалавек. Зямля пад дубам ці не на два вяршкі ўгору была засыпана гільзамі, а той бок, якім дрэва

---

* «Вернер Хольцмахер, лейтэнант, камандзір роты грэнадзёрскага палка» (*ням*).

стаяла да бальшака, быў пасечаны скрозь кулямі — як кажуць, не хапіла б нават дзятлу дзе стукнуць дзюбай.

Чубар колькі часу патаптаўся на гільзах, а тады разважыў сабе — значыць, нейкі герой вёў па фашыстах агонь менавіта адсюль, і гэтая адтуліна з няроўнымі краямі служыла яму амбразурай.

Здавалася, апроч васьмі крыжоў, кучы страляных гільзаў ды магільнага грудка, нічога ўжо нельга было прыкмеціць тут. Але хапіла Чубару адно прайсці па ўзмежку, як у жыце трапілася на вочы жалезная ламачына. То быў ручны кулямёт сістэмы Дзегцярова. Перш чым закінуць яго сюды, нехта ў лютай злосці біў ім па зямлі і па дрэве, бо кулямёт ляжаў пагнуты, а каторых дэталяў, напрыклад, дыска-магазіна, спускавой рамкі з ручкай кіравання, правай сошкі, дык і зусім не было. Крокаў за пяць ад пакарабачанага кулямёта — і таксама ў жыце, раскінуўшы крылы, бы вялікая птушка, чарнела казацкае сядло. Чубар падышоў і стаў перад ім на калена, каб адшпіліць вайсковую торбу, прытарочаную да сядла, сунуў туды руку. У адной з перагародак пальцы намацалі прыліплую да адсырэлай скуры паперку. Асцярожна, каб не пакамячыць і не падраць, Чубар выняў яе і, прытуліўшы ствалом на сагнуты локаць вінтоўку, разгарнуў перад сабой. Літары, напісаныя хімічным алоўкам, зацяклі ў торбе, і прачытаць збольшага можна было толькі першы сказ, але таксама не цалкам, затым амаль усю сярэднюю частку тэксту ды ўвесь апошні сказ. Быў тут і подпіс. Аднак і ён зацёк у торбе, акрамя аднаго радка зверху: «Старшы палітрук…» Чубар пачаў разбіраць почырк. Гэта было, няйначай, баявое данясенне ніжэйшага па званню камандзіра вышэйшаму альбо проста лісток з запісной кніжкі. «Пасля таго, — сляпіў вочы Чубар, — як, па непацверджаных дадзеных, дэзерціраваў Мануйла, я прыняў камандаванне батальёнам, які на 10.00 6.8.41 г. займаў абарону…» — на гэтым першы сказ станавіўся неразборлівы, і Чубар зноў меў магчымасць чытаць тэкст з сярэдзіны: «…вызначыліся камрот 1, 2, 3 — Салаўёў, Зазуля, Рагімаў, чырвонаармейцы Прыходзька, Кажанаў, Леўчык, Боня, Гайдук, Аношкін…» — прозвішчаў перапісана было ажно колькі радкоў. Пасля іх тэкст зноў зусім не прачытваўся. Нарэшце ішоў апошні сказ пад подпісам: «Па дадзеных праведзенай разведкі можна меркаваць: праціўнік заўтра з надыходам раніцы пачне наступаць у паласе абароны батальёна на населеныя пункты Чудзяны, Вушак, у квадраце 62–35».

Чубар доўга глядзеў на заплямлены подпіс, сіліўся хоць што прачытаць, але дарэмна. Нарэшце склаў нанава паперку, сунуў назад у торбу, бо не адважваўся распарадзіцца ёю.

Зарупіла яшчэ, але ўжо быццам па абавязку, схадзіць да грудка, і Чубар неўзабаве патупаў туды, а там зняў з галавы мяккі, пашыты з зялёнага сукна, картуз і стаў над магілай, месцячы ў сэрцы чалавечы сум па загінуўшым.

Можа, таму, што ўжо столькі часу думалася пра адных забітых, зноў наперакор жаданню згадаўся ваенурач, нават не згадаўся, а быццам з туману выплыла ягоная кашчавая постаць. Галава доктарава за гэты час яшчэ больш пабралася ясвамі і стала зусім сівая, акурат у таго ваўка, што ляжаў на дарозе. Гэта было ўжо, няйначай, насланнё, быццам паступова сілу браў страх перад немінучай расплатай за нядаўні стрэл. Чубар падумаў пра гэта і скалануўся. А тады паспешліва накрыў сваю галаву картузом і вярнуўся паўз дуб у жыта.

Яму можна было ісці адсюль і па бальшаку, каб затым павярнуць на паўночны ўсход і ўжо не адцаляцца зашмат ад ракі. Аднак бучная збажына пакуль найлепш магла схаваць ад чужога вока.

Крокаў праз дваццаць Чубар убачыў на камлюкаватай зямлі чалавечыя сляды (нехта паклычыў жыта, пазначыўшы ледзь прыкметную сцежачку), а між слядоў — кроплі счарнелай крыві. Чалавек, які пакінуў гэтыя сляды, чамусьці наступаў больш на наскі, калупаючы імі, бы капытамі, закарэлы пясок.

Чубар падаўся па слядах.

Заўважыў ён чалавека не адразу: давялося нямала паўглядацца, да таго ж ляжаў той у зялёнай і кволай траве, якая кучомілася па самым нізе ў жыце, і адзенне яго колерам амаль зусім не адрознівалася ад гэтай травы.

Там, дзе ляжаў чалавек — то быў чырвонаармеец, жыта было ўсё выкачана. Няйначай, небарака доўга пакутаваў перад тым, як да яго назусім падступілася смерць.

Зямля вакол таксама была заліта чорнай крывёю.

Ляжаў чырвонаармеец на баку, падкурчыўшы ногі ў абмотках, рукі, запэцканыя крывёю, ён трымаў на жываце, дакладней, учапіўся імі за скрываўленую гімнасцёрку на жываце, а галава з расплюшчанымі і нібыта здзіўленымі вачамі, у якіх застыла, можа, учарашняе неба, была вымазана ў шэры, як глей, пясок.

Зброі пры чырвонаармейцу не было. Але затое з кішэняў тырчалі пучком доўгія макароніны, і кроў на іх мела яшчэ першародную і палохаючую чырвань.

«Значыць, старшы палітрук не адзін біўся там?» — азірнуўся Чубар на дуб і ўспомніў адразу пра ямкі ад выбухаў на бальшаку, што былі засыпаныя зямлёй: аднаму чалавеку, бадай, сапраўды не па сіле вытрымаць такі бой!..

Сёння Чубар, здаецца, першы раз на свае вочы бачыў вынікі вайны. Нават не вынікі, а ўжо, бадай, сапраўдную вайну з яе ахвярамі, бо дагэтуль — і тады, як пачалася яна, і тады, як дакацілася ад Сажа да Бесядзі, і, нарэшце, тады, як ужо даганяў сам, ідучы са Шпакевічам і Халадзілавым следам за фронтам, — ён пазнаваў яе нібыта здалёку. Але свежы могільнік, што вырас раптам ля бальшака, чыясьці безыменная магіла недалёка ад дуба, пасля гэты чырвонаармеец, які памёр ад ран, атрыманых у баі на бальшаку, а больш, мусіць, уласны стрэл на тым схоне гаварылі за тое, што Чубар ужо самым непасрэдным чынам сутыкнуўся з вайной. Цяпер яна станавілася і жахліваю яваю, і пачварным успамінам для яго.

## XIII

Сходу не склікалі.

Як толькі раззлаваны Зазыба загадаў збіраць да канца народ, што сышоўся к таму часу ў поле, Раман Сёмачкін і тыя, хто яго падтрымліваў, схамянуліся: галасы на сходзе ў сваёй большасці, напэўна, былі б пададзены за праўленцаў, бо рашэнне, якое прынялі праўленцы, адпавядала багата каму як у саміх Верамейках, так і на пасёлках.

— Дак ета тады, як хочаце, —разгублена паціснуў плячамі Раман Сёмачкін і, нібыта наеўшыся якой мыльнай травы, падаўся да Рахіма, няйначай, шукаючы абароны ў таго.

Ціток таксама як не закрычаў на Зазыбу:

— Да не трэба таго сходу! — Тым больш што старому і сапраўды ж аднолькава было б хоць са сходам, а хоць без яго.

Іншая справа — Сілка Хрупчык. У гэтага была вялікая сям’я, і яму хацелася неяк ускаламуціць ваду, каб паспрабаваць злавіць у ёй калі не цэлага шчупака, то ўжо хоць балабку тады. Але і Сілка даволі хутка адчуў, як можа абярнуцца справа на сходзе — мёду пэўна што не накатаеш, адно даастатку пчол раззлуеш, і адразу панікнуў, зніякавеў, ажно змяніўся ў твары, быццам пачаў прыслухоўвацца да нечага забалелага ўсярэдзіне.

Астатнія мужыкі, таксама і Мікіта Драніца, які нечага ў сваёй нязвыклай маўклівасці быў сёння як не падобны на сябе, зарагаталі — тады навошта было дарэмна на хвост станавіцца!

Але Зазыбу, здавалася, гэтай перамены ў паводзінах верамейкаўцаў мала ўжо было.

«А дарэмна, няхай бабы ім вушы пазатыкаюць лаянкай», — са злараднасцю падумаў ён пра тых, хто ўсчыніў сёння гэтую сварку, і з ранейшай упартасцю сказаў:

— Не, склікайце людзей, раз на тое! Ніхто вакол нават з месца не крануўся.

Тады Зазыба ссунуў бровы, загадаў Івану Падзерыну:

— Пакліч сюды жанок! — І паказаў на гуцянскую дарогу. — Да і ўсім гаварыце, хто стаіць дзе!

Бачачы, як упарта цяпер стаяў на сваім Зазыба, мужыкі з сарамлівай вінаватасцю заплюскалі вачамі — маўляў, з гэтым Раманам заўсёды ані прышыць, ані залатаць, ані палец абгарнуць.

Мікіта Драніца і той быццам занепакоіўся:

— Дык навошта, Яўменавіч? Раман, як тэй таго…

— Ета ён ляпнуў, бы з пастала, — палічыў патрэбным азвацца і Сілка Хрупчык.

— Ага, меле, як тэй таго, не падсяваючы.

Але Зазыба ўсё нібыта яшчэ не жадаў вырвацца з чортавых зубоў.

— Не, няхай ужо будзе па закону! — не слухаўся ён. Намесніку старшыні калгаса не тое каб вельмі хацелася распачынаць сярод поля сход ды хахлы вязаць у людзей, але матыліцу выгнаць з дапамогаю салдатак з такіх вось гарлапанаў, як Раман Сёмачкін, варта было б.

Тым часам Раман шаптаўся ўжо аб нечым ля капца з Рахімам, і той зіркаў, быццам запаленым позіркам, на верамейкаўцаў — маўляў, пакажы мне, каторага?!

Неразбярыха, пэўна што, зацягвалася ў полі, і Парфён Вяршкоў ляніва кратаючы сківіцамі, сказаў мужыкам:

— Во дастаімся тута, пакуль не возьме каго за жывот.

— Дак, як тэй таго…

Тады ступіў наперад Сідар Раўнягін — ён трохі спазніўся, а цяпер падышоў і ціха стаяў у натоўпе.

— Трэба ўважыць Мікіту! —зусім як недарэчы ўсміхнуўся ён і міргнуў правым вокам Зазыбу.

— Дак, як тэй таго…

— Ува-а-ажыць!.. — загаманілі адным голасам мужыкі. — Канешне, уважыць!.. Трэба ўва-а-ажыць!..

Але ў іх выходзіла гэта неяк несур’ёзна — быццам усёй вёскай у кульгавага кій адбіралі. Кузьма Прыбыткоў ажно паморшчыўся.

— Вам абы!.. —буркнуў ён і са злосцю торкнуў дубцом, бы казёл нагой, у пясок. — Пастойце во, дык дачакаецеся, пакуль, можа, і праўда, масол абрасце пер’ем у пячурцы.

— Гы-гы-гы…

Між тым жанчынам не застаялася адным на гуцянскай дарозе, і яны пачалі сыходзіцца купкамі, як у кірмашовы дзень, да капца.

— Што ж ета вы думаеце сабе сянні, мужчыны? — з дакорам загаварыла яшчэ здалёк Сахвея Меляшонкава — пасля таго як яна нарадзіла, салдатка была нібыта налітая нанава жыццёвай сілай. — Няўжо лічыце, што і ў нас часу багата?

— А куды табе цяпера дзяваць яго без Меляшонка? — кінуў ёй Іван Падзерын — гэты заўсёды, можа, таму, што некалі нажыў грыжу, пра якую ўсе ведалі ў вёсцы, не мінаў пры выпадку непрыстойна павыскаляцца з жанчынамі, быццам хацеў такім чынам пераканаць іх у адваротным.

Але Сахвея ссунула бровы:

— Ты не дужа клапаціся пра ета. Без цябе неяк патрачу. Лепей паласу во паказвай. А то мне яшчэ ж люльку трэба прыносіць да вешаць недзе!

— Бачыш, як ні круці, а папросіш…

— Дак ужо не цябе, — паспяшалася перабіць Падзерына Сахвея.

Услед за Сахвеяй пачалі абурацца кабеты:

— А і праўда, мужчыны, што ета вы сабе думаеце сянні?

Тады Зазыба ўзняў галаву, сказаў:

— Мужыкі от разважаюць, што сход калгасны трэба сабраць.

— Дак навошта?

— Бо не давяраюць праўленню.

— Чаму ета? — выйшла наперад Дуня Пракопкіна. — Мы ж сваімі вушамі чулі, бытта правільна зроблена!

— Правільна! Правільна! — узбурыліся навокал кабеты.

Зазыба пачакаў, пакуль яны сціхнуць, тады пачаў:

— Вы лічыце, правільна, а Сілка дак — не! — З усіх гарлапанаў ён выбраў чамусьці аднаго Хрупчыка.

— Етаму Сілку-мылку, — крыкнула з натоўпу Ганузя Падзерына, — хоць урві, да падай!

— Яны во тута пааставаліся, дак ім, канешне, — заківалі галовамі маладыя салдаткі. — Не трэба слухацца іх! Як парашылі на праўленні, так няхай будзе!

— А можа?.. — сіліўся перакрычаць кабет намеснік старшыні калгаса.

— Што можа?
— Дак…
— Ты таксама ўжо іхні бок бярэш?
— Ладна, сціхніце, — нарэшце зажмурыў вочы і падняў угору растапыраную далонь намеснік старшыні калгаса.
Але ўжо не лёгка было суняць кабет.
— Цыцце, бабы! —пачаў памагаць Зазыбу Парфён Вяршкоў.
Нарэшце спакой быў усталяваны, і ўсе — мужыкі і бабы — сталі чакаць, што скажа Зазыба. Але перад тым сваё слова сказаў яшчэ Кузьма Прыбыткоў. Водзячы галавой па жытнёвым палетку, стары пакыхыкаў, быццам прачышчаў гэтым горла, пасля прамовіў:
— Ета ж во пакуля мы мак таўчом, як камары, дак жыта і сыплецца на зямлю па зярнятку. Вецер калыша яго, а яно сыплецца. І не чутно. Ета ж не звон, каб на ўсю ваколіцу чуваць было…
— Яй-божачку ж, праўда! — падхапіла Кузьмоў дакор Рыпіна Ціткова.
Каб не даць узнікнуць нанава шматгалосаму пустамалоту, Зазыба глянуў на Рамана Сёмачкіна, які зноў далучыўся да калгаснікаў, а тады спытаў, быццам з усіх Раман быў самы найпершы чалавек у Верамейках:
— Як рабіць будзем? Са сходам ці без сходу?
— Як хочаце, — яхідна ўсміхнуўся Раман. — Я толькі пагляджу, колькі вы мне намераеце!
— Як і ўсім, — замест Зазыбы адказаў Парфён Вяршкоў.
— Дак у мяне ж цяпера яшчэ чалавек во! — паказаў Сёмачкін на Рахіма.
— Нічога, ён палуча пайком у бабінавіцкага Адольфа.
З гэтай Парфёнавай дасціпнасці сярод мужыкоў і кабет выбухнуў рогат, а Мікіта Драніца нечакана сказаў:
— Калі ўжо, як тэй таго, на Рахіма таксама даваць, дак яго паласу трэба кладаўшчыцы аддаць.
Верамейкаўцы пераглянуліся. Тады Драніца дадаў яшчэ:
— Снедаў жа сянні ён бытта ў яе! —І ўсміхнуўся, плюскаючы вачамі.
Тыя, хто прысутнічаў учора ў калгаснай канторы, успомнілі раптам, як гаварыў Мікіта, што Раман збіраўся павесці Рахіма да Ганны Карпілавай. Падзерын цяпер ажно змераў вокам паліцэйскага.
— Але такі карантыш да каб дагадзіў Ганне? — зарагатаў Падзерын. — Нешта не верыцца, каб ён саўсім дачакаўся снязданку! Не такія ў яе хаце не вытрымлівалі, а еты! — І зноў кіўнуў на паліцая: — Не, Рахіму са сваім заткалам дак хоць…

Жанчыны ад гэтай Іванавай гамонкі пачалі адварочваць галовы, а Раман Сёмачкін кінуўся напярэймы Падзерыну, каб абараніць паліцэйскага.

Тады павысіў голас Зазыба:

— Ну, от што, хопіць-ка нам блынды правіць! —Ён убачыў у натоўпе Розу Самусёву, спытаў цераз галовы: — А Ганна? Дзе гэта Ганна сянні?

— Дак не ведаю, — пацікнула плячамі салдатка.

— Во, а яшчэ амаль побач жывяце! — з дакорам сказала ёй Рыпіна Ціткова.

Тады людзі вакол, нібыта злоўленыя на чым, пачалі азірацца, няйначай, каб ведаць, каго яшчэ, акрамя кладаўшчыцы, няма сярод іх тут.

— Ты от што, — падумаўшы, сказаў Розе Зазыба, — пакуль мы да цябе дойдзем па спіску, дак сходзі ў вёску. Паглядзі, можа, тама… — Але не стаў дагаворваць, адно глядзеў пахмурна на паліцэйскага.

Сонца ўжо не толькі высока паднялося над зямлёй, але трохі збочыла на ўсходзе, каб паплысці па небе паўз вёску і ўвечары, перагарэўшы на гарачае вуголле, схавацца за возерам паміж зубцоў недалёкага лесу.

На траве блішчала, якая была з начы, вільгаць, а бульбоўнік, што пачынаўся па той бок гуцянскай дарогі, меў акурат падсвечаны выгляд і зелянеў так, што ажно рвала па-веснавому вочы.

Уласна, і жытнёвы палетак, і бульбяное поле ляжалі тут на самым хрыбце нейкага мясцовага ўзвышша, які ці быў нават пазначан дзе на тапаграфічнай карце агульнага карыстання. І калі Верамейкі са сваімі землямі размяшчаліся яшчэ амаль на аднолькавым узроўні з хрыбтом, то па правы бок узвышша мела круты схіл, які сыходзіў на роўны, нібыта ўкатаны, сухадол. Правей было зноў поле, але ўжо не верамейкаўскае. Тое належала адразу тром невялікім вёскам — Мяльку, Гарадку і Дзяржынню. Перад гэтымі вёскамі тануў у ранішняй смузе лес, што асланяў сухадол, удаючыся мысам, быццам карабель, у самую сярэдзіну яго.

Мікіта Драніца ведаў, што гаварыў, — і тады, у калгаснай канторы, і цяпер, у Паддубішчы: Раман Сёмачкін сапраўды вадзіў уначы Рахіма да Ганны Карпілавай.

Рахім прывалокся ў Верамейкі яшчэ задоўга да таго, як вярнуліся з Бабінавіч на возе Брава-Жыватоўскі і Зазыба. І калі перад заходам сонца Брава-Жыватоўскі нарэшце ўзышоў на свой двор, то Рахім, Раман Сёмачкін і Мікіта Драніца ўжо чакалі яго

на загавальні. Яшчэ не кончыўся Спас, і верамейкаўскія мужыкі былі апрануты па-святочнаму: у Мікіты Драніцы з-пад расшпіленай фуфайкі бялела вышываная чырвоным крыжам манішка, а Раман распалавініў вайсковую форму, у якой уцёк з дзеючай арміі, і замест гімнасцёркі надзеў бліскучую сацінавую кашулю са стаячым каўняром, падперазаўшы яе амаль на клубах кручаным поясам. Перад тым Мікіта Драніца збегаў — як на адной назе — у Дзяржынне да Хвядоса Стражэвіча, прынёс адтуль разбаўленага спірту. Хвядос быў даўні Мікітаў пастаўшчык. Але раней ён забяспечваў Драніцу больш самагонам, які яму неяк удавалася гнаць, хаваючыся ў кустах ад участковага міліцыянера. Тым часам у Бялынкавічах заўсёды працаваў спіртзавод. На ім выраблялі хоць і не зусім ачышчаны, але прыгодны для ўжывання спірт: даволі было разбавіць крынічнай вадой, як ён траціў ці не на семдзесят працэнтаў непрыемны пах і рабіўся падобны на гарэлку, ажно не кожны мог адрозніць ад «Маскоўскай». Вядома, у мірны час такім, як Мікіта Драніца, доступу на бялынкавіцкі спіртзавод не было, і калі здаралася, што ў верамейкаўскай краме па нейкай прычыне не хапала гарэлкі, то даводзілася здавольвацца Хвядосавай кустоўкай. Але перад адступленнем на тым тыдні чырвонаармейскіх часцей бялынкавіцкі спіртзавод таксама быў разбураны, а спірт, які яшчэ заставаўся ў склепе, было вырашана ўпотай выліць з цыстэрны, каб усмактала зямля. Ды не. Бухгалтар спіртзаводскі выдаў гэтую «патаемнасць» у Бялынкавічах свайму сваяку, а той шапнуў пра яго сяму-таму з добрых суседзяў І вось яшчэ да таго, як павернуты быў на цыстэрне з рамонкавым узорам венціль, на тэрыторыю завода сышлося багата народу з біклагамі, вёдрамі, збанамі, гарлачамі, слоікамі — хто які посуд здолеў вызваліць у гаспадарцы дзеля гэтакай справы. Назапасіў колькі вёдраў спірту сабе і Хвядосаў браценік; яго чэрпалі проста з лужыны, якая набягала на заводскі двор са склепа.

Неўзабаве добрая палова спірту ад Хвядосавага браценіка была перанесена ў Дзяржынне. А далей ужо свая хаманея — раз нешта апынулася ў Дзяржынні ў Хвядоса Стражэвіча, значыць, будзе яно і ў Верамейках, у Мікіты Драніцы, бо яны, апрача ўсяго, па якойсьці далёкай лініі лічыліся сваякамі таксама.

Пакуль мужчыны чакалі дамоў Брава-Жыватоўскага, Мікіта Драніца паспеў пахваліцца Раману, як яны выпілі яшчэ ў Дзяржынні па поўным карцы з Хвядосам і як ён, нягледзячы на ўсё, данёс адтуль бутлю ў Верамейкі і нават не разліў. І наогул, Мікіта ўжо ледзь не вышэйшасць сваю адчуваў над усімі, што

здолеў сёння расстарацца гэтулькі спіртнога: у бутлі змяшчалася літры чатыры, а Хвядос не пашкадаваў напоўніць яе па самае шырокае рыльца.

Брава-Жыватоўскі яшчэ ад варот адчуў Мікітаву ўзварушлівасць і па тым, як не месціўся Драніца ў скуры сваёй, зразумеў, што мужыкі на яго загавальні не так сабе, значыць, і сёння прыйшлі з выпіўкай. Але Брава-Жыватоўскі не спяшаўся ні з гаворкай да іх, ні з рукою. Спярша паставіў да плота — як гэта робіць пасля работы руплівы гаспадар з сельскагаспадарчай альбо цяслярскай прыладай — сваю вінтоўку, тады прагна, нібыта дражнячы гасцей, напіўся чарпаком з вядра, якое стаяла на лаўцы ля ганка, а ўжо затым здагадлівымі вачамі паглядзеў на Драніцу.

— Ну, што? Не адмовіў табе Хвядос?

— Дак, як тэй таго… — паказаў Драніца на бутлю, што ўвесь час стаяла на зямлі і была заціснута ў яго паміж ног.

Брава-Жыватоўскі здаволена пацёр адна аб адну свае вялікія рукі.

— Як тэй таго, дзеля Спаса!

Ці то сумысна, ці ў яго выходзіла так, аднак перамаўляўся Брава-Жыватоўскі пакуль з адным Драніцам, і гэта выклікала ў зайздрослівай душы Рамана Сёмачкіна непрыемнае, нават нейкае помслівае пачуццё', нібыта гаспадар ганьбіў яго перад Рахімам. Але рахунак Раман усё ж браў, здаецца, не столькі да Брава-Жыватоўскага, колькі да Мікіты Драніцы.

Брава-Жыватоўскі тым часам гукнуў з гарода сваю гаспадыню. Весела сказаў:

— Бачыш, хлопцы да нас прыйшлі, трэба Спас неяк правесці. Ты б сабрала чаго на стол.

Брава-Жыватоўскі гаварыў гэта голасам, які не дазваляў пярэчання, але Параска і сама кінулася выконваць мужаў загад 'з тою паспешлівай ахвотаю, якая бывае, калі людзі жывуць у добрай згодзе ці доўга не бачаць перад тым адзін аднаго: толькі на хвіліначку прыпынілася каля цэбра з зялёнай сечанкай ды развязала на спіне матузы фартуха, каб вытрасці з яго лебяду, якую нарвала на бульбянішчы. Брава-Жыватоўскаму таксама быццам не стаялася на месцы. Ён засігаў пад павець, да распрэжанага воза з сенам. Касіла сена Параска за Халахонавым хацішчам яшчэ, мусіць, тыдні са два, калі нават не спадзявалася на Брава-Жыватоўскага, які быў на фронце… Брава-Жыватоўскі цяпер падышоў да воза, сеў на дыбачкі, глянуўшы паміж колаў пад калёсы — ці хопіць месца, тады падскочыў і лёгка, быццам дзеля адной забавы, каб паказаць сваю дужасць, таркануў воз

правым плячом. Воз ад яго штуршка здрыгануўся, і сена зляжалымі пластамі, акурат шапка за шапкай, пачало паволі валіцца зверху на трэскі, вызваляючы калёсы па самыя гнушкі.

— Ты, як тэй таго, не падумаў, — гукнуў гаспадару пад павець Мікіта Драніца. — Трэба было б вынесці траву на сонца, можа ж, як тэй таго, сырая яшчэ?

— Дзе ўжо тое сонца? — смыкнуў шчакой Раман Сёмачкін, але не з таго, каб дагадзіць Брава-Жыватоўскаму: проста ўжо карцела хоць чым ды пярэчыць Драніцу.

— Дык уначы ж дажджу, як тэй таго, бытта не будзе, — недачуваў Раманавай злосці Драніца.

Брава-Жыватоўскі між тым зрабіў выгляд, што не слухае іхняе падказкі. Хвілін праз колькі ён выйшаў з-пад павеці, забраў ад плота вінтоўку.

Мікіта Драніца, які назіраў за гэтым, сказаў:

— Ты б, як тэй таго, хоць паказаў Раману патроны, а то ён, можа, яшчэ і не бачыў, якія яны, бяльгійскія, цяпера.

Але Раман Сёмачкін на гэта адно ўсміхнуўся:

— Дак яны во і нашы, рускія, не горай за вашы, бяльгійскія! — І паказаў кіўком галавы на трохлінейку, якую трымаў на ўлонні маўклівы Рахім.

— Дак, як тэй таго… А дзе ж ты сваю падзеў? Мусіць жа, таксама давалі?

— А чаму ты лічыш, што падзеў? — незалюбіў Раман. — Можа, мая таксама ляжыць змазаная. Выцягну во з-за страхі калі да…

Брава-Жыватоўскі тым часам стаяў пасярод заценёнага падворка і крадком зайздросціў Рахіму: маўляў, з чалавека гэтага ці звяжаш добры вузел, калі нешта спатрэбіцца, а ў Гуфельда сярод паліцэйскіх у гарнізоне ён карыстаецца найбольшым даверам! І ўжо невядома, чаму раптам прыгадаў выпадак, як у дзевятнаццатым годзе за Растовам яны вешалі на ўкапанай у зямлю чыгуначнай рэйцы бальшавіцкага камісара, татарына па паходжанню. Той таксама быў негаваркі і вельмі зацяты, адно крыкнуў напаследак: «Са-а-ба-кі!» Абознікі пасля расказвалі Брава-Жыватоўскаму, што камісар хоць і быў бальшавіком, але веры мусульманскай трымаўся строга — не еў сала і не піў гарэлкі.

«А як гэты?» — адвёў ад Рахіма Брава-Жыватоўскі вочы і стаіў у сабе ласкотную думку — маўляў, зараз паглядзім!

Пакуль Параска завіхалася ў хаце, збіраючы гасцям на стол, а самі госці сядзелі на загавальні, неба над Верамейкамі з цём-

на-блакітнага стала неўпрыкмет пазалочаным, пасля наогул як загарэлася ўсё: нарэшце хавалася за лесам сонца, якое за адзін дзень ужо ледзьве не вярнула тую цеплыню жнівеньскага лета, што была страчана ў непагадзі.

Над вёскай, акурат над мостам, які падзяляў яе на два канцы, ляцелі за возера, цяжка махаючы крыламі, вароны: птушкі таксама не хацелі абначыцца абы-дзе!

Над падворкам таўклі мак камары.

Раман Сёмачкін змераў вачамі жывы слуп, схіліў, бы певень да сонца, галаву.

— Ці будзем ета мы сёлета рабіць што па гаспадарцы? — успомніў раптам ён і падлашчыўся Брава-Жыватоўскаму: — Ты ж цяпера ў нас таксама начальства, дак трэба некаму каманду падаваць ужо. А то пагода настае, мы ўсё Зазыбавых слоў чакаем, бытта, апроч яго, і распарадзіцца ў Верамейках няма каму!

Але Брава-Жыватоўскі не падаў здаволенага выгляду — падкусіўшы, быццам у развазе, ніжнюю губу, ён пагіпаўся на падэшвах. а тады сказаў няпэўна:

— Зараз вось пакліча Параска да стала. там і пагаворым за чаркай. — І зноў звярнуўся да Драніцы: — Так, Мікітка?

— Дак ужо, як тэй таго!

Нарэшце Параска таўханула з хаты ў акне фортку, гукнула:

— Дак вядзі ўжо, Антон!

Брава-Жыватоўскі адразу паспяшаўся да высокага ганка і спыніўся там як гаспадар, прапускаючы паперад гасцей, якія заходзілі ў хату адзін за адным: першы, вядома, няўрымслівы ў прысутнасці Брава-Жыватоўскага Мікіта Драніца — абедзвюма рукамі ён моцна трымаў пад крысом фуфайкі цяжкую бутлю, за ім Раман Сёмачкін, тады Рахім. Мікіта Драніца паставіў у хаце бутлю на стол і нечага глянуў вінаватымі вачамі на гаспадыню, быццам асцерагаўся яе, хоць з усяе кампаніі адзін ён прыйшоў у госці, як кажуць, са сваім. Брава-Жыватоўскі зачыніў за сабой дзверы і, агледзеўшы застаўлены паліванымі міскамі стол, а тады — бутлю з разбаўленым спіртам, сказаў нібыта паміж іншым:

— Тут у нас столькі ўсяго, што наўрад ці здужаем мы гэта адны. — Стаўшы паліцэйскім, ён раптам памеў жаданне бачыць у сваёй хаце як пабольш верамейкаўскіх мужыкоў — ужо час быў неяк схіляць іх да сябе. — Можа, яшчэ каго паклікаць тады, га? — Разам з тым ён не траціў цвярозага пачуцця, бо наперад ведаў, што не кожны ў Верамейках цяпер кінецца нават на запрашэнне да яго.

— Можа, тады Сілку Хрупчыка? — зрабіў круглыя вочы Раман Сёмачкін.

Але ягоная прапанова раптам абурыла Мікіту Драніцу:

— Навошта нам, як тэй таго, Сілка тута? — Мікіта занепакоіўся не таму, што Брава-Жыватоўскі меўся частаваць Хрупчыка ягоным спіртам; Драніцу больш за ўсё бянтэжыла тое, што нікому іншаму, як яму, давядзецца яшчэ і ісці ажно ледзь не ў самы канец вёскі па Хрупчыка.

Брава-Жыватоўскі адчуў гэты сэнс Драніцавага пярэчання, таму, падтрымліваючы Раманаву прапанову, паспяшаўся адным часам заспакоіць і Мікіту:

— І праўда, чаму б не паклікаць нам Сіланція? Параска мая, няйначай, схадзіла б па яго?

Гаспадыня і тут нават не павяла брывом — паслухмяна накінула на галаву вялікую гарусоўку і, затрымаўшыся ўсяго на адзін момант супраць люстра, якое вісела на паклеенай шпалерамі сцяне, выкацілася з хаты.

Брава-Жыватоўскі паказаў гасцям на табурэты:

— Сядайце!

Вінтоўку сваю ён павесіў перад гэтым на цвік у прасценку паміж вокнамі, што выходзілі на падворак.

— Што гэта, кустоўка? — спытаў ён назнарок Мікіту, беручы ў абедзве рукі пузатую бутлю.

— Спірт, як тэй таго! Зноў спірту Хвядос наліў!

— Але ж разведзены, адна вада бытта, — пачаў пацвельвацца Раман Сёмачкін.

Тады Брава-Жыватоўскі кінуў вокам на абодвух:

— Нічога, што разведзены, булькае вось, як сапраўдны!

Падбадзёраны Мікіта Драніца кінуў Раману:

— А ты, як тэй таго, не пі тады, раз лічыш!

Брава-Жыватоўскі яшчэ на падворку адчуваў, што паміж Драніцам і Раманам Сёмачкіным быццам чарцяня якое бегаць пачало, таму цяпер паспрабаваў злавіць таго за нябачны хвост.

— Нешта вы як калгасныя пеўні, — засмяяўся ён, — лепей давайце вып’ем, пакуль дзяўбці адзін аднаго не пачалі.

Ён паказаў рукамі на поўныя шклянкі, а тады перанёс адну, чацвёртую па ліку, асцярожна цераз увесь стол, каб не скрануць кволы нават на вока каптарок, і паставіў перад Рахімам. Але той адмахнуўся. Зрэнкі яго вачэй пры гэтым загарэліся нейкай зусім нечалавечай злосцю. Брава-Жыватоўскі ажно збянтэжана ўскінуў бровы.

— Ты яго не руш з етым, — сказаў тады Раман. — У яго з етым… — І памахаў перад сабою рукой.

Брава-Жыватоўскі падняў сваю шклянку, пахмура сказаў:

— Нам болей будзе.

— Гы-гы-гы, — затрос галавой Мікіта Драніца.

— Ну, выпілі, — сказаў гаспадар.

Але Раман Сёмачкін быццам не пачуў гэтых слоў.

— Ты, вухаед, дужа не строй з сябе тута, — сказаў ён да Драніцы, — а то ж Рахім во не п’е, ён не паглядзіць, што твой спірт.

— Мусіць, танна ён абыходзіцца табе? — амаль ва ўпор, доўгім позіркам, паглядзеў нечага на Рамана Брава-Жыватоўскі.

— Не так мне, як Адольфу, — пажартаваў той.

— Ну-ну, — кіўнуў галавой Брава-Жыватоўскі. — Выпілі, Мікіта!

— Угу, як тэй таго…

Раман таксама не захацеў адставаць ад верамейкаўцаў.

— Во, хоць пап’ём цяпера сабе, — хукнуў ён ротам.

— А ты не дужа, як тэй таго, хукай, — параіў яму Драніца, — бо спірт.

— Ад спірту таго тута ўжо і пахнуць не пахне, — засмяяўся Раман.

— Але недарэмна гаварылі, — спаражніўшы сваю шклянку, успомніў Брава-Жыватоўскі, — на спіртзаводзе ў Бялынкавічах і на самай справе шмат хто…

— Блым-блым, як тэй таго, — па-блазенску апярэджваючы гаспадара, захітаў галавой Драніца.

А Раман дык ажно пазайздросціў:

— Во недзе раскашуюць цяпера ў Бялынкавічах!

Мікіта Драніца не мог дараваць за «вухаеда» Сёмачкіну, таму адразу ўчапіўся:

— А ты б, як тэй таго, не сядзеў на столі да таксама з вядром збегаў у Бялынкавічы.

Якраз гэтым Драніца, здавалася, даваў вялікі козыр Раману Сёмачкіну.

— Што ты плявузгаеш? — зрабіў той пагардлівую грымасу на твары. — Адкуль табе што вядома? Антон во таксама сядзеў, дак і пра яго будзеш? Ета табе…

Аднак Раману дагаварыць не дазволіў Брава-Жыватоўскі. Яму раптам не спадабалася, што той пачаў ківаць на яго.

Не перастаючы чаўкаць гурком, сказаў Сёмачкіну, каб адбіць на далей ахвоту:

— Толькі не трэба чапаць мяне — не блытай хрэн з… І наогул, што ў вас сёння за размова? Мы ж ці не збіраліся аб справах пагаварыць?

— З ім пагаворыш, з етым шпегам! —буркнуў тады Раман Сёмачкін.

Брава-Жыватоўскі паморшчыўся і нездаволена пацiснуў плячамі:

— Не трэба так!..

— Дак, можа, яшчэ і не ведаеш тады? — усхапіўся ўжо Раман.

— Чаго не ведаю?

— Да пра тое, што еты Мікітка твой, можа, пра цябе калі адпісваў у раён?

— Каму? — перавёў незразумелы позірк Брава-Жыватоўскі на ўнуранага Драніцу.

— Няхай сам скажа! — ужо ледзь не з радасцю крычаў Раман Сёмачкін.

— Дык на каго ты пісаў і каму? — спытаў у Мікіты Брава-Жыватоўскі.

Драніца злякнуўся:

— Не бойся, як тэй таго, на цябе я нікому не пісаў…

Але Брава-Жыватоўскі не верыў.

— Ну, до-о-о-обра-а, — неяк нутраным горлам выдыхнуў ён. — Зараз вось вып'ем яшчэ па адной, а потым ужо ты, Мікіта Ляксеевіч, усё па парадачку і раскажаш!

— Во-во! —не пераставаў злараднічаць Раман Сёмачкін.

Тады Мікіта Драніца, здаецца, пайшоў на самае апошняе — памкнуўся нагадаць Раману Сёмачкіну пра Домну Вароніну:

— А ты, а ты, як тэй таго!.. — Але ўголас усё ж не адважыўся ўспомніць пра забойства.

Брава-Жыватоўскі зноў пачаў наліваць з бутлі. Але рукі яго чамусьці цяпер былі не такія ўпэўненыя, як раней, і спірт з шырокага рыльца плёхкаўся на абрус.

Драніца тым часам лавіў здаровым вухам, як булькала вадкасць у шклянках, а сам быццам астываў і пакутліва думаў, што гэтак недарэчы ўсчаў спрэчку са звяглівым чалавекам: спярша ў іх абыходзілася аднымі кепікамі, а тады перайшло ў зацятае недалюбства, і вось, нарэшце, Раман нагадаў за сталом пра… ягоныя лісты. Нездарма ў Верамейках кажуць — лепей з Меляшонкам згубіць што, чым з Раманам знайсці дзе тое самае. Але гаворкі з Брава-Жыватоўскім, якая мелася адбыцца неўзабаве, Мікіта дужа не палохаўся. Перад Брава-Жыватоўскім ён быў усё' ж невінаваты. Мікіта не пісаў на яго, бо Брава-Жыватоўскі ў Верамейках ніколі не вытыркаўся, каб звярнуць на сябе чыю-небудзь увагу, і таму ніколі не быў патрэбны. Іншая справа Зазыба, Чубар, Ягор Піліпчыкаў, дырэктар сямігодкі Бутрыма,

нават участковы міліцыянер Ляўшоў. А гэты!.. І тым не менш Мікіту вывелі з раўнавагі Раманавы словы пра «шпега» — дужа не хацелася, каб цяпер, пры двух паліцэйскіх, пачалася гаворка пра торбу і пра тое, што ў ёй… Ну, няхай бы крычаў у прысутнасці аднаго Брава-Жыватоўскага, гэта б яшчэ так сабе, бо Жыватоўшчык, урэшце, свой чалавек, зразумее, а вось навошта было плявузгаць пры гэтым недарэку-татарыну? Мікіта ўжо гатовы быў варсануць чым душагуба. Разам з тым не мог дараваць ён і сабе, што нечага прынёс торбу з паперамі ў Верамейкі, нібыта ёй і папраўдзе не знайшлося іншага месца.

Падбіваў — ці, як гэта кажуць, вербаваў — на нячыстую справу Драніцу Злотнік, які быў раней начальнікам раённага аддзела НКУС. Невядома, па чыёй падказцы выбраў той менавіта яго, але Мікіта пачаў выконваць нязвыклае даручэнне нават без усялякае мужыцкае хітрасці. Не перастаў ён дасылаць свае лісты ў Крутагор’е і тады, калі, нарэшце, знялі з пасады Злотніка — за злоўжыванне службовым становішчам і няправільныя адносіны да савецкіх і партыйных кадраў, а начальнікам раённага аддзела НКУС паставілі Шчамялёва. У Верамейкі Шчамялёў таксама наведваўся, але даносаў ад Мікіты не толькі не патрабаваў, а і ні разу не пагаварыў з ім — здавалася, Шчамялёў нават не здагадваўся пра Мікітаву дзейнасць, а Драніца па-ранейшаму працягваў «збіраць весткі» на аднавяскоўцаў альбо заезджых людзей, нібыта памеў салодкі смак да гэтага і ўжо не ставала сілы адвыкнуць ад яго; праўда, быў і другі бок у гэтай справе — адпісваючы ў раён на людзей, ён адчуваў над імі, бадай, упершыню, сваю вышэйшасць, нібыта ў выніку гэтага меў над імі патаемную ўладу…

Ды дарэмна Драніца чарнеў цяпер душой — гаворкі пра злашчасную торбу паміж ім і Брава-Жыватоўскім не адбылося: раптам грукнулі дзверы, і ў хату, следам за Параскай, зайшоў Сілка Хрупчык. Хоць яго і чакалі тут, аднак ніхто не спадзяваўся, што можна гэтак хутка прыйсці з другога канца вёскі.

Брава-Жыватоўскі ажно пажартаваў:

— Ты, Сіланці, быццам нюхам аднекуль пачуў, што ў нас тут!

— Дак я ў праўленне хацеў, а Параска во перастрэла па дарозе. Ну, я й парашыў — дай, думаю, лепей да вас пакуль зайду.

— Няблага падумаў, — усміхнуўся Брава-Жыватоўскі. Ён усім выглядам паказваў што рады ў сваёй хаце новаму чалавеку, аднак Сілкава гаворка насцярожыла. — А што там, у праўленні? — спытаў ён, хоць і голас паспрабаваў захаваць абыякавым.

— Дак Зазыба нечага збірае ў кантору праўленцаў. І мужыкі нашы некаторыя падаліся ўжо туды.

— Ціка-а-ава! — наліваючы Хрупчыку ў шклянку спірт з бутлі і не ўзнімаючы ад яе вачэй, прамовіў Брава-Жыватоўскі.

Тады зварухнуўся Раман Сёмачкін:

— Праўда, ета ж некуды ці не ездзіў сянні Зазыба!

— Ездзіць-то ездзіў, — сказаў Брава-Жыватоўскі, — але ж не гаварыў, што думае збіраць праўленне.

— Дык вы што, разам з ім былі?

— З Бабінавіч ехалі.

— Ета ён, як тэй таго, вазіў у Латоку пляменніцу Марфіну.

— А табе ўсё ведама! —пакасіўся на зацкаванага Драніцу Раман.

— Баба, як тэй таго, казала.

— Ну, калі баба, — засмяяўся Раман. — У бабы ў твае дык, праўда, вочы як у савы. Нават уначы бача.

Брава-Жыватоўскі тым часам сядзеў і думаў. Але вось ён бліснуў вачамі іназнарок зусім бесклапотна махнуў рукой:

— Ат, няхай сабе праўленцы рахуюцца там, а нам спяшацца няма чаго! —Аднак тут жа глянуў на Мікіту Драніцу і як успомніў: — Хоць што я кажу! Мы ж можам зрабіць па-другому. Няхай ад нас пойдзе туды Мікіта!

— Толькі каб слухаў тама на абодва вухі, — засмяяўся, здаволены гаспадаровым рашэннем, Раман Сёмачкін.

Брава-Жыватоўскі падміргнуў Драніцу:

— Згода?

Мікіта не даў сябе ўпрошваць — адно перакуліў у рот папярад усіх сваю шклянку і, кусаючы на хаду ацеслы хлеб, спехам падаўся да парога: ён, бадай, з ахвотаю адмаўляўся ад далейшае выпіўкі, абы не даць магчымасці варушыць колішнія грахі.

Як не пад грукат дзвярэй выхлебтаў быццам не ўмеючы, першую шклянку Сілка Хрупчык. Яму адразу налілі другую.

— Частуйся, частуйся, — не шкадаваў дармаўшчыны Брава-Жыватоўскі, а Сілку неяк нязвыкла’ было чуць таго гэтакім тараватым.

Адсутнасць Мікіты зусім не адбілася на «застоллі». Неўзабаве верамейкаўцы зрабіліся п’яныя — хоць Хвядос і разбаўляў спірт у Дзяржынні адзін да трох, але і гэтая прапорцыя моцна біла па галаве, асабліва калі ўлічыць, што наогул цяжка было вызначыць нейкую пэўную мерку для ўжывання. Як і заўсёды здараецца ў такіх выпадках, у хаце пачалася бязладная гамана, якую маглі слухаць усяго два чалавекі — Рахім ды Параска. Нават Брава-Жыватоўскі, які не дужа дазваляў сабе распускаць язык, і той пачаў расказваць Сілку Хрупчыку і Раману Сёмачкі-

ну, як хадзіў першы раз да немцаў у Бабінавічы: яго ўжо нібыта чорт выклікаў на непатрэбную шчырасць, і ён стаў неўпрыкмет сабе пераказваць амаль слова ў слова тое, што апавядаў тады ў Бабінавічах каменданту. Брава-Жыватоўскі не бачыў як усё большыя рабіліся ад здзіўлення вочы ў ягонае жонкі і як яна, нарэшце, схапілася за галаву і хістка выйшла…

Скончылася за сталом гэтая спасаўская выпіўка тым, што Раман Сёмачкін неяк адчуў як надышоў позні час, і пацягнуў Рахіма за рукаў — хоць ён таксама быў п'яны, але не забыўся, што абяцаў павесці таго да Ганны Карпілавай.

— Ты нам ліні каліва ў якую пляшку, — папрасіў ён Брава-Жыватоўскага, — а то ў нас яшчэ сянні марцовыя справы з Рахімам.

Брава-Жыватоўскі нават не спытаў, дзе гэта, нацадзіў спірту ў паўлітровую бутэльку з недапітых шклянак і сунуў Раману ў кішэню.

Ганны Карпілавай не было дома — не вярнулася пакуль з калгаснай канторы, дзе яна прымала ўдзел у пасяджэнні праўлення, і Раману Сёмачкіну з яго цвярозым татарынам нічога не заставалася, як запаліць у чужой хаце лямпу і чакаць гаспадыню.

Дзеці — два хлопчыкі — былі паўскаквалі з лахманоў прачнуўшыся за дашчанай перагародкай, але неўзабаве сцішыліся: па-першае, адразу пазналі верамейкаўскага чалавека, а па-другое, ім наогул не за вялікую нечаканасць было бачыць у сваёй хаце знаёмых і незнаёмых дзядзькоў.

Раман выбавіў з глыбокай і перакручанай кішэні паўлітэрку, хацеў пашукаць у хаце заесці чым, аднак расчаравана паціснуў плячамі — наўрад ці пашанцуе, бо як і кожная ўдовіная хата, гэтая таксама палохала вока сваімі пустымі кутамі і голымі сценамі. Тады Раман зацята пабоўтаў перад сабой бутэльку, нібыта сіліўся ўбачыць там нейкі схаваны дасюль непарадак, а можа, нават цуд, затым з астылаю абыякавасцю паставіў на стол.

Сядзець ды чакаць гаспадыню проста так было ажно мутарна, і Раман неўзабаве пачаў нудзіцца, шкадуючы ўжо, што надумаў усё гэта.

Адчуваючы, што можа неўпрыкмет заснуць за сталом, Раман сказаў нягнуткім языком Рахіму:

— Дак, ета, глядзі ўжо, каб у нас усё… каб у нас ажур быў.

— Мая панімай, — падняў у адказ руку паліцай — на твары яго пры гэтым не расслабіўся ні адзін мускул.

— Ну, ну,—падахвоціў Раман, а сам абвіснуў ад п'янай знямогі, наваліўшыся грудзьмі на край стала.

Кнот у лямпе патрэскваў і не даваў на хату патрэбнага святла — можа, стаў закароткі, і гаспадыні давялося даліць у лямпу вады, бо газы ўжо не хапала ў вёсцы.

За перагародкай, тонка пасопваючы, спалі дзеці. Якраз у тым куце, дзе стаяў іхні ложак, нешта пачало шкрэбацца — няйначай, мыш: было чуваць, як яна перабягала з аднаго месца ў другое.

Раман ужо мармытаў у сне.

У Рахіма таксама закочваліся пад лоб вочы.

Пасля другіх ці трэціх пеўняў адчыніліся раптам дзверы, і парог пераступіла стомленая Ганна. Святло ў хаце яна заўважыла з вуліцы. І яшчэ там падумала: «Прывалакліся-такі!» Яна была падрыхтавана да гэтага Драніцам.

Татарын ажно ўпіўся вачамі ў яе. А Ганна прайшла за перагародку і нават не глянула на яго. Супакоеная, што дзеці спяць і што ўсё добра з імі, яна павесіла на цвічок хустку, а тады вярнулася на хату. Раман Сёмачкін к таму часу паспеў ужо прахапіцца — яго пакратаў за плечы паліцэйскі.

— Дак от, — павёў Раман да бутэлькі рукой, — дала б толькі заесці чым…

— Дзе я табе ета вазьму?

— Дак…

— Ідзі во сам на гарод да пашукай тама на градах чаго.

— Як ета ты жывеш, Ганна, што ў цябе і на зуб няма чаго палажыць? — прытворна здзівіўся Раман.

— А да мяне прыходзяць са сваёй гарэлкай і са сваёй капустай.

— Гм…

— От і гм!

— Мда…

— От і мда!

— Ладна, тады нясі хоць шклянку на стол. Я налью ўжо кроплю табе, так і быць, а ты як хочаш. Хочаш закусвай, а хочаш не. Я сваю долю дамоў панясу. З Хрысцінай во вып’ем.

— А ён? — кіўнула Ганна на паліцэйскага, які стаяў ледзь не па камандзе.

— Мусульма-а-нін, — пакруціў галавой Раман, — не п’е. — І хуценька дадаў: — Але навучым!

Ганна пасля гэтага ажно паглядзела на татарына: што ні кажы, а цікава бачыць мужыка, які не па хваробе зусім не бярэ ў рот гарэлкі! Але глядзець, як ёй падалося адразу, надта не было на каго — Раманаў сябра натапыраным і нібыта абгарэлым выглядам падобны быў у нязыркім святле лямпы на таго драўлянага

чалавечка, якога некалі знайшлі верамейкаўскія школьнікі ў сваім лесе і якога пасля забралі ад іх у горад, ці не ў музей нават. Ганне ад нечаканага параўнання зрабілася смешна, аднак яна, дзеля прыстойнасці ў хаце, здушыла яшчэ ўсярэдзіне няпрошаны смех, а цяпер адно спытала ў Рамана:

— Што ета ён у цябе нейкі?..

— А ты не будзь дурніцай, — ківаючы галавой над сталом, пачаў павучаць Раман. — Прывёў во табе чалавека, дак, глядзі, не дужа каб, а то!..

Ён, мусіць, палічыў ужо, што галоўнае гэтым зроблена, што нарэшце звёў Рахіма з Ганнай, і, не чакаючы, пакуль тая сапраўды прынясе шклянку, пачаў соваць бутэльку назад у кішэню. Тады абапёрся далонямі аб стол, пасядзеў колькі моманту над ім, выпрастаны ў гарбе.

— Ну, вы тута ўжо мілуйцеся, як і трэба, а я тым часам дамоў…

Але Ганна заступіла дарогу.

— Ты от што, — тупнула яна ў раптоўнай злосці, — забірай свайго паліцая да!..

— Аксціся, Ганна! — залыпаў вачыма Раман.

— Ты носа не настаўляй тута!

— Ну, чыстая дурніца, — ляпнуў сабе па клубах Раман. — Ета ж табе не абы-хто. Рахім — найпершы цяпера чалавек у воласці. Ведаеш нямецкага каменданта Гуфельда?

— Здаўся мне твой Гуфельд!

— Нядобра так, Ганна! —як не з жахам пакруціў галавой Раман. — Перад ранейшымі начальнікамі дак!.. А як цяперака во, дак!..

— Ладна, — не слухалася гаспадыня, — ты мне тута язык не глытай, а забірай свайго Рахіма да каціцеся яечкам!

— А ён жа табе можа якія хочаш падаркі прыносіць. Цэлае багацце пасля сабярэш.

— Дзе ета ён возьме цяпера тое багацце?

— Дак! — І Раман распасцёр перад сабой рукі, нібыта кажучы, што цяпер цэлы свет у іх.

— Не трэба мне ні ваша багацце, ні вашы падаркі. Мне спаць пара. А калі хочаш яго прыстроіць да каго, дак вядзі тады ўжо да Хрысціны сваёй.

— Ну, ты!

— П’яны, п’яны, а шупіш трохі, — засмяялася Ганна.

— А ты думала!

Нарэшце Раман выйшаў з-за стала і крадком, быццам сумысна блазнуючы, пачаў абыходзіць гаспадыню, каб пракласці сабе

шлях да дзвярэй. Тая, вядома, не стала лавіць за карак яго. Адно скрывіла, як ад болю, вусны ды пагардліва, нават перастаючы злавацъ, паківала галавой услед. На парозе Сёмачкін запыніўся, каб падміргнуць цераз плячо Рахіму — маўляў, а ты не варонь тут! Тады і Ганна павярнулася да Рахіма, крыкнула:

— Ну, а ты чаго зенкі вылупіў? — І ў гэты момант пачула, як ляснулі дзверы — Раман, уцякаючы з хаты, ужо недзе тупаў па маснічынах у сенцах.

Татарын між тым ад яе голасу нават не зварухнуўся — было такое ўражанне, нібыта яго паставілі, няйначай, сцерагчы яе.

— Цьфу, не чалавек, а чорт нейкі, — ужо пацішэлым галасам сказала яна. — Але стой сабе, можаш хоць скрозь усю ноч стаяць!

Зусім назнарок яна зрабіла колькі крокаў за перагародку і схілілася там над дзіцячым ложкам. Хлопчыкаў нават не пабудзіў матчын крык. У хаце было цёпла, і яны параскрываліся. Большы, Петрачок, закінуў сваю голую ручку на шыю брацiку, і Ганна прыбрала яе, паклаўшы пры боку ўздоўж цела. Шыя ў меншага хлопчыка пад рукой спацела, давялося абцерці яе рагом лахмана — дзеці гэтую ноч спалі абы на чым, бо сяннік іхні быў вытрасены і памыты, каб за жніво напхаць свежай саломай. Меншы хлопчык, часам яшчэ здаралася, цурбоніў пад сябе, таму Ганна памацала пад ім рукой. Але дарэмна непакоілася. Лахманы былі сухія. Тады яна ўзяла сына за ножкі, прыўзняла іх і выпрастала доўгую кашульку. Хоць у хаце і гарэла лямпа, аднак за перагародку святло не даходзіла, апрача як праз той занавешаны праём, што быў тут замест дзвярэй, і дзіцячыя тварыкі адно па-васковаму жаўцелі ў прыцемках. Ганна вельмі любіла сваіх хлопчыкаў Можа, своеасаблiва, не так, як другія маці сваіх. Але нават ёй іншы раз здавалася, што яна не аддавала ім усяе свае цеплыні, на якую тыя адны мелі падставу…

Ганна яшчэ больш нахілілася над ложкам, а тады аблакацілася неяк там і ўзяла ў далоні свой гарачы твар.

Неўзабаве пачуліся сцішаныя крокі. Ганна сцепанулася, спалохана павярнула галаву — паліцэйскі стаяў у праёме, трымаючы над сабой саматканую коўдру.

«Яшчэ мне етага не хапала!» — абурылася Ганна, але выпрасталася і, каб не патрывожыць дзяцей, самахоць падалася назад на асветленую палавіну хаты. Пакуль яна ішла туды, паліцэйскі адступаў перад ёю, але вось падскочыў і раптам накінуўся на яе, чапляючыся рукамі за грудзі. Ад яго рэзка патыхнула ў твар ёй гнілым і зусім не мужчынскім пахам, быццам чалавека толькі

што выпусцілі аднекуль з мышынае саламарэзкі. Рукі яго, акурат сляпуючы, сутаргава коўзалі па блузцы, спрабуючы знайсці разрэз на манішцы. Мусіць, паліцэйскі дужа хваляваўся, таму рукі яго былі нязграбныя, а кожнае дакрананне рабіла яе целу балюча.

Ганна не памылялася адносна таго, навошта прывёў Раман да яе гэтага чалавека. Але тое, што паліцэйскі нападаў гэтак, было ўсё ж нечакана. Колькі часу яна стаяла як прыморaная альбо ў здранцвенні, быццам сілілася і не магла даўмецца, што ад яе патрэбна цяпер і што яна павінна рабіць у адказ. Але паступова свядомасць вяртала ёй здольнасць разумець усё, і тады жанчыне стала брыдка за самое сябе; з пакутлівай прыкрасцю, якая адбілася нават на твары, яна намаглася сабрацца ўся і штурхнула татарына ў кут, дзе ў яе стаялі проста на падлозе чыгункі. Штуршок удаўся моцны, мусіць, яна такі сабралася ўся, бо паліцэйскі не паспеў утрымацца на нагах і адляцеў да самае сцяны, выцяўся там аб нешта хрыбцінай. Ад такое свае рашучасці Ганна збянтэжылася, але ўсяго на адзін момант, бо паліцай пружыніста ўскочыў на ногі і зноў падаўся наперад, шалёна бліскаючы зрэнкамі.

Можа, ад злосці, а можа, ад болю, калі ўдарыўся хрыбцінай, пальцы яго сталі цяпер больш учэпістыя, яны ажно праціналі яе цела; разяўлены рот цягнуўся да грудзей, намагаўся ўкусіць…

«Бог ты мой, што ета сяння на мяне наважджэнне такое?» — жахнулася Ганна і, нібыта паддаючыся татарынавай настырнасці і пэўна ўжо нечалавечай заюшанасці, пачала патроху адступаць да ложка, які стаяў з неразабранай пасцеллю пры сцяне паміж сталом і перагародкай. І тады заплакаў за перагародкай меншы хлопчык:

— Ма-а-ма-а-а…

Татарын раптам спыніў свой націск, а Ганна, нібыта ўспомніўшы аб нечым і адным часам жахнуўшыся гэтага ж, зноў штурхнула з усяе моцы гвалтаўніка. Дзіва, але гэты раз той таксама адляцеў — аж на сярэдзіну хаты, падкаўзнуўся там і гахнуўся ніцам на падлогу.

Малы яшчэ больш заплакаў за перагародкай. Тады прачнуўся — мусіць, ад ягонага плачу — і Петрачок.

— Мама! — паклікаў ён Ганну і, саскочыўшы з ложка, выбег з-за перагародкі на хату.

— Ідзі, дзіцятка, ідзі, спі, — сказала яму расчырванелая і запыханая Ганна, а сама не зводзіла вачэй з паліцая, які ўжо станавіўся на карачкі: ёй бы цяпер што-небудзь у рукі, але ўзяць нечага было.

Тым часам паліцэйскі гопнуўся на ногі і неяк утрапёна, нібыта аглавушчаны ці з вялікае п'янкі, павадзіў галавой па хаце, затым патупаў да ўслона, дзе ляжала яго вінтоўка. Бачачы гэта, Ганна яшчэ больш жахнулася, схапіла за плечыкі Петрачка і як не запіхнула за перагародку. Але паліцай нават не дакрануўся да зброі. Адно сеў на ўслоне ды насцярожана сцішыўся, нібыта атрымаў дазвол на перадышку.

Ганна таксама адышлася да ложка, спярша села там на самы край, а тады павярнулася бокам і ціха, без голасу, заплакала, уткнуўшыся галавой у падушку. Ёй шкада было сябе, якую няма каму нават абараніць, і таму ці мала хто можа рашыцца пакрыўдзіць. У горкай і бездапаможнай роспачы, здаецца, упершыню яна праклінала сваё так званае саламянае ўдоўства.

Лёс да яе чамусьці быў вельмі ж нелітасцівы — пра гэта звычайна перш за ўсё і лепш ад усіх ведаеш сам, а тут, у Верамейках, і кожны, каму не бракавала сэрца і розуму, мог паспагадаць, што жыццё ў маладой кабеты сапраўды не склалася па-людску, адно што Бог даў (калі гэта сапраўды неяк ад яго залежала) не апошнюю зусім прыгажосць, якую ці абмінала чыё вока, ды лагодную, быццам назнарок выхаваную душу, можа, якраз з тым, каб у ёй неўпрыкмет патаналі нават чужыя заганы: іншая справа, што Ганна сама не скардзілася ні на лёс, ні на жыццё, але то ўжо было, бадай, прычынай яе характару.

Бацька ў Ганны, Карпіла Самбук, быў чалавек, як кажуць, тутэйшы, хоць і не з Верамеек — жыў ён да хлопцавых гадоў па той, не лясны, бок Бесядзі, недзе за Вітунём, затое маці Ганчына паходзіла з мяшаных чарнігаўскіх хахлоў: браў яе бацька тады, як працаваў на будаўніцтве цяперашняй чыгункі Унеча — Орша, што павінна была найкарацей злучыць вугальны поўдзень краіны з другой сталіцай. Чыгунка пачыналася ад Унечы. Але да Оршы здолелі давесці яе толькі ў савецкі час. Тады ж, перад вайной з кайзерам (ды і ў самую вайну), будаўнікі паклалі рэйкі з таго канца адно да Клімавіч. Вядома, як і паўсюль на гэтакім будаўніцтве, землякопы і возчыкі з цяглом набіраліся найперш з навакольных вёсак — нарэшце тым, хто меў пільную патрэбу, хоць не трэба было ехаць далёка на заробкі, а то дзе яшчэ шукаць тыя цукровыя заводы ды шахты, і мужыкі з ахвотай (пакуль не пачалася гужавая павіннасць падчас вайны) наймаліся там на розныя работы, асабліва ў каго былі свае фурманкі. Падаўся на будаўніцтва чыгункі і Карпіла Самбук — гаспадарка ў іх была невялікая, і бацька з ёй упраўляўся адзін. Спярша арцель, да якой дзясятнік неўзабаве далучыў хлопца, вазіла пясок да чыгу-

начнага насыпу з-за Бялынкавіч, пасля арцельшчыкі пераехалі на работу да Суража, а ў пятнаццатым годзе сталі ездзіць па будаўнічы камень і па смалу бліжэй да Чарнігава. Там Карпіла Самбук і ўпадабаў сабе жонку. Здаецца, ці не за трэцім ужо разам прывёз яе ў Сураж, дзе тады быў на сезонным пастоі. Тут маладыя пражылі да таго дня, як былі спынены будаўнічыя работы на чыгунцы. Але дамоў, у сваю вёску, Карпіла не павёз цяжарную жонку, палічыў за лепшае падацца да жончыных бацькоў. Там, у вялікім сяле за Сновам, нарадзілася ў іх Ганначка. З таго часу, ажно да трыццаць трэцяга года, Карпіла Самбук і не наведваўся ўжо на радзіму. Прывёў яго зноў за Бесядзь голад, які пачаўся тады на ўсім поўдні, таксама і на Чарнігаўшчыне. Карпіла паклаў у мяшок найлепшыя рэчы, якія можна было абмяняць на харчы, дабраўся пехатою да Унечы, а адтуль паехаў далей цягніком па чыгунцы, якую некалі будаваў. Ён не дужа каб спадзяваўся на свае рэчы, затое меў надзею разжыцца збожжам, няйначай, у бацькоў ці родзічаў, што жылі ў вёсцы. Але напаткала няўдача — у вёсцы калгаснікі ўжо таксама ледзь перабіваліся з мякіны на лебяду, і толькі касцам — была ж Пятроўка, значыць, касавіца — да рэдзенькага крупніку давалі па кавалачку «пушнога» хлеба, які яны ўвесь прыносілі дамоў дзецям. Карпіла тады нібыта ўпершыню зразумеў, як далёка пайшоў голад. Аднак тут, у беларускіх вёсках, у адрозненне ад украінскіх сёл хоць не паміралі людзі… Адно што па ўсім наваколлі хадзіла багата старцаў, асабліва тых, што неяк датэпалі сюды з паўднёвых раёнаў. Тым часам Карпіла таксама павінен быў хоць што якое прывезці дамоў. І ён пацёгся са сваёй колішняй хаты па знаёмых вёсках, спрабуючы ўсё ж выменяць што на рэчы. У Прусінскай Будзе яму пашанцавала: тамашні аднаасобнік насыпаў у мяшок за пяць аршынаў сукна пуд грэчкі. Нарэшце можна было хоць з гэтым вяртацца назад. І ён перадаў цераз знаёмага мужыка бацькам, што пойдзе ўжо на станцыю, каб ехаць дамоў. Але на другі ці нават на трэці дзень небараку знялі нежывога з бярозы, што на Чортавай гары паміж Крутагор’ем і Збужарам. Ніхто не ведаў, чаму павесіўся чалавек, — дарэчы, яго ўсе называлі «ўкраінцам». Аднак прайшоў погалас, што перад гэтым яго «вадзілі» ў Крутагор’е ў міліцыю: казалі самыя дасведчаныя (а такія заўсёды знойдуцца), што «ўкраінец» нібыта ўкраў нешта ў Прусінскай Будзе… Як бы там ні было, а старшыні мясцовага сельсавета давялося выклікаць тэлеграмай Самбукову жонку з Чарнігаўшчыны. Прыехала з семнаццацігадовай дачкой Ганнай, калі мужа даўно пахавалі. Прыехаць неяк прыехала, а назад

вярнуцца ўжо не ставала сілы ў яе. Тады і прывёз Дзяніс Зазыба з Бялынкавіч у Верамейкі дзвюх незнаёмых жанчын, якіх падабраў нядужых на чыгуначнай станцыі.

У Верамейках ужо каторы год стаяла пустой хата — пераехаўшы жыць у другое месца, гаспадары, аднак, не прадалі яе, і Зазыба на сваю адказнасць пасяліў Карпілавых жанок у тую хату.

Але на гэтым пакуты не скончыліся…

І ўжо зусім як нешта надзвычай кашмарнае ўспаміналася Ганне тая вясенняя ноч, калі яна ішла ў вёску з хатомкаю бульбы на плячах, тады яшчэ была жывая маці, і дачка ратавала яе як магла. Хоць верамейкаўцы і дужа спагадліва ставіліся да іх, аднак жа маці пасля бацькавай смерці ўвесь час хварэла сама, і на Ганне адной ляжаў клопат пракарміць дзве душы, асабліва калі ўлічыць, што вынікі галоднага года не адразу мінуліся. Даць у хатомку бульбы паабяцаў дзяўчыне з калгаснага кагату палявы вартаўнік Пахом Палабок. І яна, дурніца, пайшла ўначы па ломкім лядку да кагату, бо не здагадвалася, чым павінна была заплаціць за бульбу…

Калі ўжо Ганна зацяжарала, Палабок спалохаўся, што ўсё можа высветліцца і наўрад ці даруюць тады яму ў вёсцы за гвалт над дзяўчынай, таму завербаваўся кудысьці на шахты і перавёз туды сям'ю.

Але Ганна не выдала, хто бацька яе большага хлопчыка, дарэчы, як не гаварыла таксама пазней, ад каго ў яе быў і меншы сын.

…У лямпе дарэмна выгарала газа, і Ганне шкада было яе, бо другім разам ужо не будзе чым нават пасвяціць дзецям за вячэрай, але яна не адважвалася тушыць святло: паліцай усё сядзеў на ўслоне, бы сыч, адно не кугакаў.

Няйначай, гэтая ноч была недзе на хуткім сконе, а Ганна яшчэ не прылягла нават на гадзіну. Але яна рада была, што хоць не захварэў меншы хлопчык — цяпер галава ў таго больш не гарэла, мусіць, усё ж перастаяў ён трохі на сонцы. Пасля ёй прыйшло ў галаву, што нядрэнна было б заўтра (калі ўжо не сягоння) таксама прачнуцца як раней ды разам з іншымі верамейкаўцамі пайсці ў поле… Чым больш галаву займалі звычайныя жыццёвыя турботы, тым далей яны адсоўвалі ад яе крыўду на лёс, які хвіліну назад здаваўся надта нелітасцівым; і неўзабаве Ганна неўпрыкмет забралася з нагамі на ложак і яшчэ больш неўпрыкмет заснула, хоць гэтаму працівілася ўсё, што было свядомага ў ёй. Яна не ведала, колькі праспала гэтак, але раптам пачала адчуваць, што на яе хтосьці наваліўся і душыць. Тады Ганна расплюшчыла вочы. Першае, што ўбачыла яна над

сабой, быў Рахімаў твар. Але не гэта было самае жахлівае — яна не магла паварушыць рукамі, бо тыя былі прывязаны дзягай да ложка. Змагацца з татарынам, пэўна, ужо не было як. Нават закрычаць Ганна не мела магчымасці: з-за перагародкі тады на яе голас прыбеглі б дзеці, а яна не магла дапусціць, каб тыя пабачылі яе ў такім стане…

Усю светлую раніцу затым Ганна прахадзіла па двары, бы апушчаная ў ваду.

Ёй нікога не хацелася бачыць. І нават тады, як з кожнае верамейкаўскай хаты пайшлі ў Паддубішча людзі, яна не памела ахвоты падавацца за імі.

Роза Самусёва, якую Зазыба выправадзіў з Паддубішча ў вёску, знайшла сяброўку ў хаце: Ганна сядзела, нібы адчужаная, ля акна і нават не павярнула галавы на Розіны крокі — няйначай, мала хто паверыў бы ў Верамейках, але Ганна перажывала гвалт над сабой, як самы вялікі здзек.

Роза паклала на плечы сяброўцы рукі, сказала:

— Ну, што ты?

Тая сцепанула плячамі, як ад холаду.

— А ў Паддубішчы збіраюцца па дварах жыта дзяліць, — сказала Роза яшчэ. Яна адчула ўжо, што з Ганнай нешта здарылася.

Ганна маўчала.

— А мяне па цябе Зазыба паслаў, — пачала паціху тармасіць Роза сяброўку за плечы.

І тады нарэшце Ганна паглядзела жоўтымі ад бяссонніцы вачамі, крыкнула:

— Ён бы лепей, Зазыба ваш!.. — Але не скончыла крыку і заплакала наўзрыд, скаланаючыся ўся.

Роза збянтэжана пастаяла над ёй, а тады з болем спытала, павышаючы голас:

— Ну што? Што здарылася?

Ганна раптам як ачомалася, перастала плакаць.

— Нічога, — сказала сумна.

— Можа, пакрыўдзіў хто?

— Не.

— Дак чаму тады сядзіш? Зазыба вон турбуецца, кажа, без кладаўшчыцы яму тама як без рук.

— Абыдзецца…

— Дак…

— А я думала, што вы ўсе — і Дуня, і Сахвея, і ты — во пайшлі ў Яшніцу.

— Дак забегалі ж сяннi з гэтым перадзелам!

У размове Ганна паступова спакайнела, і неўзабаве Роза сказала ёй:

— Дак бяры таксама серп, пойдзем у Паддубішча. А то паласу ўжо, можа, вызначылі.

— Я не пайду.

— Дак жа Зазыба наказваў!

— Ну і што?

— А тое, што я цябе нешта не разумею сянні!

— Ідзі, Роза, ідзі на поле, — уздыхнула Ганна, — а я сваю паласу паспею пажаць.

Роза спытала:

— Можа, і праўда паліцэйскі што?..

— Адкуль ета ведама?

— Дак…

— Тады не гавары абы-што!

— Ну і то ладна! Што сказаць Зазыбу?

— Анічога. Скажы, што прыйду.

Можа б, Роза пабыла даўжэй у хаце, але адчувала, што Ганна хацела як хутчэй застацца адна. Напаследак Роза яшчэ сказала:

— Можа, трэба што, дак…

— Ідзі, Роза, ідзі ўжо.

— А хлопцы твае дзе?

— Хто іх ведае! Можа, таксама пабеглі за ўсімі ў Паддубішча?

— Дак і табе няма чаго сядзець адной тута.

— Ладна, ідзі, Роза…

Ганна зноў павярнулася тварам да акна, а Роза пастаяла колькі момантаў за ёй, тады зусім ціха, быццам крадком, выйшла за парог.

За коўратамі, якія выводзілі за вёску на гуцянскую дарогу, яна дагнала Брава-Жыватоўскага. Ускінуўшы вінтоўку прыкладам на плячо, той ішоў, цямнейшы за хмару. Розін муж, Іван Самусь, даводзіўся Жыватоўшчыкавай Парасцы раднёй, таму Роза магла загаварыць па-свойску з Брава-Жыватоўскім нават цяпер, калі ён быў паліцэйскім.

— Што ета вы так позна, дзядзька Антон?

— Праспаў, — буркнуў Брава-Жыватоўскі. — А ты?

— Дак бегала во па Ганну Карпілаву. Зазыба пасылаў.

— Угу.

— Дак нешта не пайшла во.

— Ты не клапаціся пра Ганну, — павучальна сказаў Брава-Жыватоўскі. — Ёй і прынясуць, калі трэба.

— Што вы гаворыце, дзядзька Антон? — заступілася Роза за сяброўку. — Многа ёй нанасілі!

— А ты быццам ведаеш?

Брава-Жыватоўскі перайшоў на другую абочыну дарогі. Колькі часу яны ішлі моўчкі. Тады Роза сказала, нібыта хацела пахваліцца:

— А мы ўжо сянні збіраліся з бабамі ісці ў Яшніцу глядзець сваіх мужыкоў. Тама ж цяпера лагер ваеннапалонных. Дак, можа, і наш чый там. А тута Зазыба раптам падняў людзей!

— А я вось спаў сабе і не ведаў, што ўсе ў Паддубішча падаліся.

Але Брава-Жыватоўскі гаварыў няпраўду. Пра ўсё ён ведаў. Ды каб не ісці ўранні разам з усімі ў Паддубішча, на тое ў яго былі свае прычыны. Па-першае, Брава-Жыватоўскі разважыў наперад: яшчэ ж чэрці на кулачкі не пабіліся, каб яму шукаць сабе на лоб гузакоў, а вось як справа з падзелам калгаса будзе скончана ці хоць бы пачнецца па-сапраўднаму, тады і ён з'явіцца — і перад бабінавіцкім камендантам апраўданне ёсць, маўляў, без яго рабілі ўсё, і верамейкаўцам пакуль на мазоль не наступіш. Па-другое, штосьці незразумелае рабілася з жонкай. Учора ён сп'яну нагаварыў за сталом, а сёння Параска ажно не хацела глядзець на яго. З заплаканымі вачамі яна ныкала з кута ў куток па хаце і пачынала адразу галасіць, як толькі Брава-Жыватоўскі спрабаваў загаварыць з ёй. Ёй нечага пачало здавацца, што менавіта цяперашні яе муж, які, як высветлілася ўчора, служыў і ў белых, і ў махноўцаў, забіў на Грамадзянскай вайне яе Рыжанка. І яна ўжо адчувала вялікі грэх перад сваім першым мужам за тое, што пасля яго жыла з чалавекам, якога не толькі не ведала, але і магла цяпер падазраваць…

Калі Брава-Жыватоўскі і Роза Самусёва нарэшце прыйшлі ў Паддубішча, мужыкі, якія наразалі палосы, паспелі прамінуць па спіску як не сярэдзіну вёскі і ўжо ці не дзялілі палетак на канаплёўскія двары.

Брава-Жыватоўскі адразу падышоў да Зазыбы, спытаў:

— Мо забыў, пра што ўчора з табой гаварылі?

— Дак… — Зазыба ўзяў у Івана Падзерына спіскі і стаў шукаць там, памагаючы пальцам, наступнае прозвішча. — Калгаснікі там самі вырашылі, — дадаў ён праз нейкі момант, але галавы на Брава-Жыватоўскага не падняў, быццам зусім ігнараваў таго.

— Ну што ж, наракай пасля на сябе, — пагразіў тады Брава-Жыватоўскі.

## XIV

Сонца стаяла супраць верамейкаўскага кургана, а Чубару нейкі час здавалася, што яно меціла сесці ў тым месцы, дзе нядаўна ўзвышаўся маяк, таму нібыта спыніла свой рух па небе, як дзеля нядоўгай раўнавагі, каб потым лучыць акурат на жоўтую і бухматую седлавінку.

Жытнёвы палетак на схілах кургана быў скрозь пачапаны жнеямі, найбольш паўз гуцянскую дарогу, адкуль верамейкаўцы пачыналі мераць палосы, і цераз сухадол былі відны і снапы ў бабках, і кабеты, якія хапаліся жаць. Цікаваў Чубар з мыска таго лесу, што асланяў сухадол з усходу і што засціў верамейкаўцам адразу тры вёскі. Глядзець пад сонца з кожнай хвілінай рабілася цяжэй, бо гарачым бляскам ажно калола ў вочы, і Чубар, стоячы ў заценні дрэў, загароджаных спераду кустамі ядлоўцу, шкадаваў, што амаль немагчыма пры гэтакім святле адгадваць людзей — і тых, што былі ў Паддубішчы, і тых, што ўсё падыходзілі туды па дарозе з вёскі.

Калі Чубар гадзіну назад выйшаў на ўзлесак, тут і вачам яго адкрыўся гэты, пакошаны яшчэ ў чэрвені, сухадол, а за ім — знаёмы курган з цяперашнім чалавечым мурашнікам, у яго было такое адчуванне, быццам ён вынырнуў на паверхню вады, тоўшчу якой, лічы, ад самага дна, давялося прабіваць без жывога паветра ў распёртых грудзях.

Хоць Чубар і не адважваўся пакуль ісці да верамейкаўцаў, аднак патроху ўжо адчуваў тую ўтульную, як праз сон, палёгку і тое душэўнае, няхай нават часовае, заспакаенне, якія, не зважаючы ні на што, прыходзяць пад канец доўгай і невядомай дарогі. Можа, якраз таму, што Чубар быў у такім стане, але вострага эгаістычнага пачуцця, якое ўзнікае тады, калі чалавек, вярнуўшыся нарэшце дамоў, раптам пачынае свядома разумець, што ў процівагу яго спадзяванню там усё ідзе як і трэба, да таго ж без ягонага ўдзелу, — дык вось такога пачуцця ў Чубаравым сэрцы пакуль не было. Яно заварушыцца ўсярэдзіне пазней, як толькі стане да канца зразумела, што гэтым часам адбывалася ў вёсках па два берагі Бесядзі. А пакуль Чубар адно стаяў, углядаючыся наперад, ды быццам усё нанава і нанава перажываў сваю радасць, што гэтак шчасліва датупаў сюды. Калі ж пераставаў глядзець на жытнёвы палетак і пераводзіў позірк бліжэй, каб такім чынам расслабіць вочы, то кожны раз крокі за чатыры ад сябе бачыў, як трымцела, ажно ляскала круглай, нібыта бляшанай, лістотай маладая асіна, што вытыркалася сярод купы сасонак,

якія не паспелі падняць над зямлёй натапыраныя крыжыкі сваіх першых лапін. Ветру, бадай, не было, прынамсі, тут, у гэтым зацішку, які ахоўвалі разам і кусты, і дрэвы, аднак асіна чамусьці ніяк не магла суняцца, быццам была жывая і баялася чаго — здавалася, на яе дзьмуў хтосьці, схаваны, з вялікай пашчы альбо, яшчэ горай, падпякаў агнём ці труціў ядам карані ў чорнай глебе.

І кожны раз, як Чубар бачыў гэтую незразумелую ліхаманку няўдачлівага дрэва, яму рабілася не па сабе, карцела ступіць да яго і, шкадуючы, прытрымаць рукамі, каб памагчы супакоіцца…

Ужо зусім на сконе быў жнівень, бо тыя колькі дзён, якія заставаліся ў ягоным календары, ці маглі дадаць яшчэ што важкае на нябачныя шалі, на якіх і ўпрыкмет, і неўпрыкмет сіліліся падолець адно аднаго сёлетнія лета і восень, але ў наваколлі зноў было як улетку, нават там, дзе не пашархала вакол кустоў прыткая каса, па-ранейшаму чырванелі, жаўцелі і сінелі ў высокай траве лугавыя краскі. Пахла мёдам, нібыта паблізу дзе была пасека, хоць Чубар ведаў, што ніводнага вулля за паўтара кіламетра на ўсе бакі не павінна стаяць, значыць, усё яшчэ паўнюткія і моцныя былі меданосы, што як нанава пачыналі духмяніць пасля нядаўняе золі.

Нейк самахоць успомнілася раптам, што недалёка адсюль, на пячышчы, дзе ў старыя гады гналі каланіцу з бяросты, была верамейкаўская лупільня — станок з зубчатым колам і невялікая, аршынаў на пяць, хатка. Будавалі лупільню пры калгасе, але да Чубара, калі ў Верамейках кіраваў Зазыба: тады якраз выйшла забарона смаліць свіней, каб кожны гаспадар здаваў скуру дзяржаве. Але ж ці гэта сала ў вёсцы, калі без паджоўклае шкуркі, прапахлай саламяным дымам? І вось паступова, азіраючыся двор на двор, але не выдаючы адзін аднаго, верамейкаўцы занядбалі гэтай забаронай, прынамсі, за свае гады, якія пражыў у Верамейках, Чубар не помніць, каб хто-небудзь з калгаснікаў прывозіў па сваёй ахвоце на лупільню хоць заняпалага парсюка. Што ж датычыла калгасных, то тут рабілася ўсё па закону, як і належыць… Цяпер недзе хатка тая стаяла вольная, і ў ёй, няйначай, можна было перабыць да вечара.

А ўчора Чубар не збіраўся адразу ісці ў Верамейкі.

Яму рупіла тады пахаваць забітага чырвонаармейца, якога знайшоў ля бальшака ў жыце, і ён пайшоў дзеля аднаго гэтага ў вёску, што была таксама па правы бок ад ракі, каб папрасіць там у каго рыдлёўку. Але пажылы, з неспакойнымі вачамі селянін, якога Чубар сустрэў за дварамі, не пусціў назад аднаго — ці пашкадаваў, што незнаёмы чалавек знясе рыдлёўку з двара, ці сапраўды захацеў памагчы яму.

У Чубара было жаданне выкапаць магілу побач з тым пясчаным грудком, дзе, па ягоным меркаванні, ляжаў старшы палітрук. І ён сказаў пра гэта селяніну. А той нядобра пажартаваў, цыўкаючы вачамі:

— Ну, а як немцы паедуць зараз па дарозе? Мне-то яны што? Мне, можа, і нічога не будзе ад іх за гэта. Трупы ж усё роўна каму-небудзь трэба закопваць. А вось ты, што табе яны загадаюць, калі заспеюць з вінтоўкай?

Тады Чубар, як са злосці, вырваў з рук у селяніна рыдлёўку і моўчкі, націскаючы ботам на загнуты брыж, пачаў капаць зямлю проста ў жыце, крокі за два ад скурчанага чырвонаармейца.

Селянін трапіўся пранырлівы — не стаў чакаць, каб хутчэй падмяніць далакопа, а кінуўся адразу да бальшака, пабегаў там, быццам ганчак па слядах, і калі вярнуўся да Чубара, то ўжо нёс на сабе казацкае сядло.

— Вось, знайшоў! — сказаў ён, не хаваючы здаволенасці.

Але Чубар не павярнуў галавы і не паглядзеў на яго. Тады селянін зноў сказаў:

— З яго падэшвы — насіць не пераносіць. — І калупнуў чорным пазногцем крыло.

Чубар адчуў, што селянін будзе стаяць гэтак над ямай і гаварыць пра сядло бясконца, таму разагнуў спіну, паказаў на рыдлёўку:

— На-тка, пакідай і ты зямлю…

Селянін кіўнуў галавой:

— Угу.

Чубар выцер крысом талстоўкі гарачы лоб, сеў на жвір.

Селянін тут жа заняў яго месца ў яме, але перад тым як працаваць, спытаў:

— Ведаеш яго?

— Не.

— А то ж учора тут цэлы бой быў. Нездарма ж вунь крыжоў ля дарогі колькі. Бранявік таксама падбілі…

І ён пачаў расказваць, як чулі яны са свае вёскі гэты бой і як пасля туды наскочылі раз'ятраныя фашысты, пагражалі спаліць да аднае хаты, калі, не дай Бог, знойдуць у каго схаванага чырвонаармейца ці камандзіра.

Чубар слухаў селяніна і зноў нібыта шэрхнуў сам — надта багата давялося яму за адзін дзень наслухацца, пабачыць і перажыць, ужо не ўсё нават успрымалася так, як хацелася б таго нармальнаму чалавеку; ён сядзеў з апушчанымі плячамі, талопіў позірк на растапыранае сядло, якое абеглівы селянін клапатліва

паклаў зводдаль, але з усяго там выразна бачыў толькі шрамок, які быў зроблены пазногцем на крыле: скура жаўцела, як незагрубелая кара на сасне.

У яме скрыгнула раз і другі рыдлёўка па камені, і Чубар па гуку зразумеў, што селянін капае зямлю.

— Можаш узяць яго сабе, — быццам падахвочваючы таго, сказаў Чубар пра сядло.

Селянін выпрастаўся, бліснуў вачамі.

— Вось дзякуй табе! — У душы ён дагэтуль, няйначай, спадзяваўся, што сядло дастанецца яму, а як пачуў ад Чубара дазвол, то і наогул несхавана ўзрадаваўся.

— І торбу таксама бяры, — сказаў далей Чубар. — Там паперчына адна ёсць, дык не выкінь калі. Пасушыць трэба…

Хвілін праз колькі ён глянуў уніз, на самае дно:

— Бадай, хопіць ужо…

— А і дос, — не прымусіў сябе чакаць селянін. — Тут і зямлі яе столькі трэба.

Пакуль ён падчышчаў рыдлёўкай дно, Чубар падышоў да чырвонаармейца, бо падумаў абшукаць таго — калі раптам знойдуцца ў кішэнях якія дакументы, то і іх можна будзе сунуць у торбу, каб пасля, як вернуцца свае, паказаць каму трэба. Але ў кішэнях гімнасцёркі было пуста. Тады Чубар успомніў, што вайскоўцы звычайна хаваюць самае «найпершае» на выпадак смерці ў патаемную кішэньку, што на поясе штаноў. Ён адкінуў край закарэлай гімнасцёркі і далікатна, быццам то быў не мёртвы, а жывы чалавек, стаў мацаць пальцамі, складзенымі ў шчопаць, абапал брызентавага пасака. Тут таксама нічога не было. Заставалася абшукаць кішэні, з якіх тырчалі макароны. Чубар павярнуў мерцвяка дагары і, перасільваючы ў сабе гідлівы страх, але баючыся глянуць на зашклянелыя вочы, пачаў патрохі выграбаць макароны рукой. Кроў у кішэні нацякла густа, ды ўжо зусім засохла, нават пабралася шорсткімі камячкамі, таму цяжка было адрозніць, калі сыпаліся на зямлю пакрышаныя на дробныя кавалачкі і акрываўленыя макароніны, а калі сама зацвярдзелая кроў…

Селяніну, мусіць, няўцям было, чаму Чубар гэтак шнарыў па кішэнях забітага, бо раптам падаў як не насмешлівы голас:

— Што ў яго магло быць? Відаць, салдат жа… калі, вядома, не надзеў салдацкае…

Селянін вылез з ямы, атрос запэцканыя ў гліну картовыя штаны, якія дудурыліся ў яго, быццам у малога, на каленях, таксама падышоў да забітага. Чубар чакаў, што селянін сапраўды стане

ззуваць чаравікі, і рыхтаваўся ўжо накрычаць тады на яго, але той раптам здзіўлена войкнуў і сеў.

— Немцы! — шапнуў ён.

Чубар ад нечаканасці ледзь не ўсхапіўся, аднак стрымаў сябе і ў той жа момант кінуўся, бы малпа, на чатырох, да сваёй вінтоўкі, якую паклаў на кучомістую траву яшчэ да таго, як брацца за рыдлёўку.

— Не гоцай! — сыкнуў на яго селянін.

— Дзе яны? — шэптам спытаў Чубар.

— Не чуеш, па дарозе едуць!..

І праўда, на бальшаку гуло ўжо ад матораў, і гул, здавалася, станавіўся да неба, нават дзіўна, што Чубар не пачуў яго раней…

— Як думаеш, ці ўбачылі яны цябе?

Селянін у адказ адно зрабіў дурнаваты твар ды паціснуў плячамі. Гусіным крокам, каб не вытыркацца з жыта, Чубар вярнуўся да селяніна і, кладучыся, прыткнуўся левым плячом побач, акурат выконваў гэтым на агнявым рубяжы першую вайсковую каманду.

Ці то на твары ў яго была рашучасць, якая не пакідала сумнення, ці, можа, уражанне зрабіла тое, як браў ён, быццам напагатоўку, зброю, але селянін раптам ухапіўся за Чубараву штаніну і пачаў тармасіць:

— Ты што гэта надумаў? Хочаш пагубіць нас? Не страляй, кажу!

Чубар вырваў з рук штаніну, пасунуўся трохі далей. Да гэтага яму і ў галаве не стаяла страляць адсюль: па-першае, скрозь жыта не праглядваўся бальшак, на якім гулі машыны, а па-другое, станавіцца на ногі ды вытыркацца і зусім нельга было — не паспееш падняць вінтоўку, як цябе апярэдзяць. Тым часам побач, бы дакор, ляжаў мёртвы чырвонаармеец, які, мусіць, таксама мог адсядзецца ў гэтым жыце, каб толькі захацеў, а вось жа не стаў хавацца… Аднак Чубар ужо нібыта прырос да зямлі, і ў яго не было рашучасці выпаўзці на край поля альбо стаць на ногі…

Селянін не пераставаў кленчыць за спіной:

— Пашкадуй хоць мяне, раз пра сябе не думаеш. Што ты адзін зробіш ім, а сябе, ды і мяне вось, пагубіш… Можа, хочаш ляжаць, як гэты?

«Ды змоўкні ты!» — нарэшце з агідай падумаў Чубар, бо ў яго паднялося ўсё ўсярэдзіне супраць гэтага чалавека: захацелася нечакана выцяць кулаком наводмаш альбо піхнуць нагой, каб пакаціўся куды. Але ці гэта зробіш? Не хапала распачаць тут валтузню!.. І Чубар свядома рабіў выгляд, што не спяшаецца

страляць толькі таму, што ўважае селяніну, хоць самому было прыкра і сорамна — і за сваю нерашучасць, дакладней, страх, які ён мог апраўдаць і растлумачыць, і за забітага чырвонаармейца, які ўжо не меў такой магчымасці. Гэтая прыкрасць не пакідала Чубара ажно доўга: і тады, як зноў аціхла на бальшаку, і яны ўдвух — ён і селянін — амаль похапам апускалі на руках у магілу чырвонаармейца, а пасля закідвалі зямлёй, і тады, калі Чубар вырушыў з жыта і папраставаў да бакавой дарогі, мяркуючы выйсці да Бесядзі ў другім месцы.

Але ў той дзень, як на тое, Чубара чакала яшчэ адна сустрэча.

Кіламетраў праз колькі, ужо, бадай, у самыя прыцемкі, пазнаў на лясной дарозе, за распрэжаным возам, знаёмага чалавека. То быў бабінавіцкі яўрэй Хоня Сыркін, той самы бежанец, у хату якога Зазыба з Шарэйкам пасялілі Марылю.

Да вайны Сыркін працаваў нарыхтоўшчыкам спажывецкай кааперацыі, ці, як гаварылі мужыкі — каравачнікам, і яго добра ведалі ва ўсіх вёсках па Бесядзі, бо наведваўся ён са сваёй пукатай скрыняй, напіханай гарусоўкамі, гузікамі, грабеньчыкамі і яшчэ рознай патрэбшчынай, усюды, нават не мінаў заехаць за межы раёна. Тым часам у Бабінавічах, ды і ў бліжэйшых вёсках, ведалі яго і па другой прычыне: у Сыркіна была найтаўсцейшая сярод местачковых яўрэяў жонка. Сам ён ростам і плячамі не выйшаў, а жонку ўзяў як на дваіх, і калі, бывала, ішоў з Цыляй па мястэчку, то ў людзей на тварах узнікалі ўсмешкі. Праўда, знаёмыя ўсміхаліся заўсёды за вочы. Аднак у кірмашовыя дні цікаўныя вясковыя людзі хадзілі за імі ўжо ледзь не натоўпам. Адным словам, чалавек Сыркін сапраўды быў вядомы ў Забесяддзі, і Чубар, напаткаўшы, не мог не пазнаць яго нават далёка ад мястэчка.

У бежанства Сыркін паехаў у адзін дзень з іншымі бабінавіцкімі яўрэямі, балазе каня яму не трэба здабываць было, бо некаторым давялося выбірацца з мястэчка на валах, а то і на каровах, але ў дарозе здарылася няшчасце: у жонкі пачаўся цяжкі прыступ. Доктар, таксама бабінавіцкі яўрэй, які ехаў разам у бежанцы, не параіў везці Цылю далей: дрогкая дарога, да таго ж вельмі небяспечная, калі налятаюць самалёты, магла каштаваць хворай жыцця кожную хвіліну. Тады Сыркін даехаў з абозам да першай вёскі, якая трапілася на шляху, агледзеў млын, што стаяў наводшыбе, за невялікай рэчкай, і пачаў падганяць сыноў, каб тыя пераносілі з воза скарб усярэдзіну млына. Але выратаваць жонку не пашанцавала. Тая памерла акурат праз два тыдні, калі ехаць далей у эвакуацыю не было як: нямецкія войскі выходзілі

ўжо за Іпуць да Дзясны. І вось Сыркін з двума хлопцамі, аднаму з якіх, старэйшаму, споўнілася якраз у пачатку гэтага жніўня пятнаццаць гадоў, вяртаўся назад у Бабінавічы. Чубару сваё рашэнне падацца назад у мястэчка ён растлумачыў так:

— Ты паглядзі на мяне — морда, нікуды яе не схаваеш. Хоць тут мяне пазнаеш, што я яўрэй, хоць там. Дык няхай лепей здарыцца гэта там. Бог ведае, я нічога дрэннага людзям не рабіў…

Прыгнечаны горам (памерла жонка), няўдачамі (асабліва тады, як ужо на зваротнай дарозе нямецкі лётчык пацэліў у канёву галаву і воз з хатнім скарбам давялося цягнуць на сабе), а больш, можа, пакутлівым чаканнем, што яшчэ магло стацца наперадзе, Сыркін быў у роспачы, хоць знешне здаваўся спакойным. Але роспач яго лёгка адгадвалася і па тым, як са скрухай і жалем пазіраў ён на сваіх маўклівых сыноў, лупатых і кучаравых, з чырвонымі тварамі падлеткаў, і па тым, як гаварыў часам абы-што, нібыта пераконаны быў, што дагаджае гэтым кожнаму, хто мае хоць якую перавагу над ім.

Пакуль яны стаялі ды гаманілі ля воза, у лесе пацямнела больш, аднак не настолькі, каб не бачыць наперадзе сябе дарогу і ўсё, што магло рабіцца на ёй. Сыркін акурат па-сялянску паплюваў сабе на рукі, пацёр адна аб адну і, як навучаны карэннік, заняў месца ў аглоблях. Хлопцы яго таксама хуценька пасталі абапал. Утрох яны паднялі ўгору аглоблі за перакладзіну, прывязаную лейцамі. Большы хлопец вырас з бацьку, таму перакладзіна даставала яму да грудзей. Горай было ў прыпрэжцы малодшаму, які браўся па левы бок, — перакладзіны хапала гэтаму па самыя ключыцы, і небараку даводзілася альбо вісець на ёй, альбо ступаць на дыбачках з паднятымі рукамі.

Чубар зайшоў ззаду і таксама стаў памагаць каціць воз, беручыся папераменна то левай, то правай рукой за гнушку і тым жа часам перахопліваючы з аднае рукі ў другую вінтоўку. Хоць быў ён здарожаны, але цягавітасці пакуль хапала. Яму толькі не зразумела было, навошта Сыркін гэтак надрываецца, няўжо брудныя бэбахі сапраўды вартыя таго, каб нагнаць праз іх і сабе, і дзецям конскую зацінку? Яму нават карцела крыкнуць аб гэтым. Аднак гаворка адбылася толькі пасля начы. Сыркін спярша не надаваў ёй значэння: няйначай, было няўцям чалавеку, як гэта можна кінуць абы-дзе і абы-каму тое, што нажывалася па нітачцы гадамі!..

Тады Чубар больш настойліва і ўжо як са злосцю пачаў пераконваць, нават кпіць з Сыркіна:

— Ты са сваім дабром, як той мужык мілаславіцкі, хоць жыватом качацца згодны, абы сваё г… на чужым гародзе не пакінуць.

Здавалася, на Хоню нішто не магло падзейнічаць, ён адно хітра ўсміхаўся — маўляў, табе лёгка раіць, бо ў самога нічога няма. Але вось перавёў вочы на сваіх хлопцаў і раптам зніякавеў: у дакорлівых позірках абодвух сыноў убачыў, што тыя нібыта саромеюцца чаго, а да гаворкі паміж дарослымі прыслухоўваюцца з несхаванай надзеяй… Для яго гэта было як нечаканае адкрыццё: штосьці адразу абарвалася ўсярэдзіне, ажно плечы звяло быццам сутаргай, і ён няздольны стаў нават узбурыцца, каб прыструніць дзяцей.

— Вы думаеце, што я?.. Вы думаеце?.. Не, я не Гітлер вам, каб так!.. — усхваляванай скорагаворкай, але ўжо, няйначай, апраўдваючыся, вымавіў ён, тады падскочыў да воза, выхапіў з-пад лахманоў сякеру з новым, нешараваным яшчэ тапарышчам і сакануў у двух месцах па вяроўцы, якой накрыж было ўвязана радно з хатнім скарбам. Вяроўка адскочыла, як высушаная ды напятая на канёк балалайкі жыла. Але Сыркін на гэтым не спыніўся, а замахнуўся зноў сякерай і шыбануў яе ў вялікі каўбух, напіханы пярынамі, падушкамі і яшчэ ўсякай усячынай. Сякера ажно каўзанулася вастрыём па зашмальцаваным і вільготным ад халоднае ночы радне, затое распарола яго на цэлыя тры чвэрці ўдоўжкі і засела ўсярэдзіне па канец тапарышча. Сыркін ухапіўся рукамі за распораныя краі радна, як мог ірвануў па два бакі ад сябе. І раптам над возам, над дарогай і над палянай, на ўскраі якой стаялі, выбухнула і паляцела ўгору паскубанае пер’е, нібыта дасюль скрозь тут буяў дзядоўнік, які акурат даспеў, а цяпер вецер, што прарваўся аднекуль з поля, пачаў выдзімаць з лускаватых гарлачыкаў белы пух. Тым часам Сыркін не пераставаў шалець, трыбушыў і раскідваў вакол воза хатылі, скрынкі. Збоку здавалася, што рабіў ён усё як бы ў адпомсту: калі хацелі пабачыць гэта, то глядзіце ўжо!.. Але вось у руках у яго апынуўся ці не апошні хатыль з усяго скарбу — важкі і нібыта з якімі рэбрамі, і тады Сыркін раптам ачомаўся, быццам нарэшце зноў адчуў вагу, а праз яе і значэнне ўсім гэтым рэчам, што валяліся на паляне. Пастаяў так хвіліну ці дзве ў задумлівай збянтэжанасці, пасля хістка, бы выцягваў з багніва ногі, абышоў воз, каб сесці спераду на аглоблю. Аддыхваўся ён з гарачкі доўга і ўсё не хацеў падняць вочы. А як падняў, то гыркнуў на сыноў:

— Ну, дэрварт зіх дэм, шалапаі? — І ўжо другім голасам дадаў: —Ану гіб а кук, вос із дорт айерэ, аніт вэт дыр уйскумэн гейн он гейзн…*

* Ну, дачакаліся, блазнюкі?.. Але паглядзіце, што там ваша, а то без штаноў хадзіць давядзецца… (*Яўр.*)

Тыя паслухмяна, як наперагонкі, кінуліся падбіраць транты.

Сыркін смаркануўся на траву, паглядзеў прыжмуранымі вачамі на Чубара, які ўвесь гэты час стаяў крокаў за пяць ды спакойна, з усмешкаю на твары назіраў за ўсім. Сказаў:

— Можаш і ты сабе ўзяць што…

Чубар ад такой прапановы зарагатаў. Затым, ужо быццам спахапіўшыся, падышоў да Сыркіна, пакратаў рукамі за плечы.

— Пара ісці, Хоня! — І дадаў зусім весела: — Былі б жывыя косці, а на іх ужо што-кольвеч ды мусіць нарасці!

Сыркін уздыхнуў, але словам не азваўся. Пасядзеў, пакуль Чубар не зняў свае рукі з ягоных плячэй, тады падхапіў за самы вузельчык той хатыль, які браў апошні з воза, і пачаў прыспешваць сыноў.

…З тае паляны дарогу сюды, да Верамеек, паказаў ужо Хоня Сыркін: ездзіў той некалі ад вёскі да вёскі недарэмна, бо цяпер мог ісці за правадніка ў каго хочаш. Знаёмых у Сыркіна таксама хапала ў вёсках, але патрэбы пакуль не было ў іх, і яны — двое дарослых і двое падлеткаў — паспелі прайсці за першую палавіну дня нават нямераных трыццаць кіламетраў. Чубару падабалася, што Сыркін гэтак дасканала ведае мясцовасць — акурат мог спатрэбіцца і яшчэ калі. І Чубар спакваля пачаў гаварыць яму пра гэта. Аднак Сыркін з першага ж разу з недаверам паглядзеў на свайго спадарожніка, нібыта баяўся падману, хоць па вінтоўцы ў Чубаравых руках ужо мог бы здагадацца, што верамейкаўскі старшыня не так сабе заводзіць гаворку…

Перад самымі Верамейкамі яны пайшлі рознымі шляхамі: Чубар напрасткі, праз лес, каб выйсці на гуцянскую дарогу пасля і непрыкметна, а Сыркін павёў туды хлопцаў зусім у абход гэтага лесу.

Як прыйшло ў галаву, што недалёка, на пячышчы, ёсць хатка — лічы, гатовае прыстанішча, Чубару карцела падацца туды. Тым не менш ён, пакуль не рушыў з месца, нібыта раздумваў ці шкадаваў, што не ўсё за гэты час зглядзеў у Паддубішчы. І чым надаўжэй ён затрымліваўся, чым больш углядаўся ў знаёмыя краявіды, якія, бадай, упершыню па-сапраўднаму ўсхвалявалі яго, тым хутчэй забывалася, што было з ім у дарозе ад самага першага дня, прынамсі, ужо аддалялася яно на такую адлегласць, пры якой нават неадчэпны ўспамін пра забойства ваенурача не прымушаў скалынацца…

Неба сёння было чыстае. Гэта Чубар помніў яшчэ ад таго, як стаялі ў лесе, край паляны, а бабінавіцкі Хоня махаў ля воза сякерай, рашаючы сваё дабро. Але цяпер Чубар здзівіўся, калі

задраў галаву і ўбачыў над сабой замурзаны белымі пісягамі блакіт: акурат мастак паклаў там лёгкую грунтоўку на палатне.

Недзе ўжо Хоня Сыркін павінен быў вывесці на гуцянскую дарогу сыноў, ды пакуль не відаць было за лесам, і Чубар падумаў, што таксама пойдзе адсюль, як толькі пабачыць іх. Але раптам штосьці хруснула за дрэвамі. Чубар крута павярнуў у той бок галаву. І нічога падазронага не ўбачыў. Тады зусім блізка, можа, за пятнаццаць крокаў, задзогалі ногі — яўна ішоў міма вялікі звер альбо тупала капытамі жывёліна. Чубар выцягнуў шыю, адарваў абцасы ад прымятага балотнага моху. На луг выходзіў рагаты лось. За ім, неяк бокам, быццам на моцны вецер, тупала па зялёнай атаве маленькае ласянё. Дасюль сахаты вадзіў яго за возерам, па імшарах, а колькі дзён таму адшукаў дарогу і сюды, у гэты змешаны лес. Чубару не даводзілася бачыць жывых ласёў… А ласі тыя часам узышлі на сцежку, якая вяла да бульбянога поля. Там, у неглыбокай лагчыне, біла з зямлі, узятая ў дубовую кадушку, крыніца, і яны няйначай хацелі напіцца з яе. Па тым ужо, як вёў сахаты па сцежцы ласянё — зусім не насцярожваючыся, — можна было меркаваць, што рабіў ён гэта не першы раз тут.

Неўзабаве заўважылі ласёў і ў Паддубішчы. Чубару было відаць, як пасталі там верамейкаўцы сярод жыта і пачалі ўглядацца з-пад локцяў на невядомага прышэльца з малым, а нейкі мужчына нават кінуўся бегчы напярэймы. Чубару заманулася пазнаць яго. Але дарэмна. Здалёку відаць было, што чалавек нетутэйшы. Прынамсі, нікога ў Верамейках, таксама як і ў Мамойаўцы, у Кулігаеўцы нельга было параўнаць з ім. У руцэ незнаёмы (то быў Рахім) трымаў вінтоўку. Але Чубар не адразу прыкмеціў яе — падумаў, звычайны дубец. Спахапіўся ён тады, як чалавек ускінуў той «дубец» перад сабой ды стрэліў у сахатага. Стрэл выйшаў нечаканы і сухі, быццам паламалася што крохкае ад першага ж дотыку, але рэха, якое паляцела адтуль па ўзлеску, раптам кальнула Чубара ў сэрца. «Ах ты, падлюга!» — сціснуў ён вязанку пальцаў на сваёй вінтоўцы і паспяшаўся глянуць у той бок, дзе былі ласі. Куля Рахімава пацэліла ў самы раз, каб адабраць жыццё ў сахатага, і той ужо стаяў на пярэдніх каленях, апускаючы ў поўнай непрытомнасці галаву на тупкую сцежку. «Ах ты, падлюга!» — зноў вылаяўся Чубар і перавёў позірк на чалавека, які выпусціў кулю па сахатым. Але нават каб ён і рашыўся адпомсціць за прыгожага звера з магутнымі рагамі на галаве, то ўжо не было як: з Паддубішча да крыніцы спяшаліся верамейкаўцы… Затое цяпер Чубар меў магчымасць пазнаваць

сваіх калгаснікаў. Паперадзе, у расхрыстанай фуфайцы, бег, ажно як не каціўся па ўзгорку, Мікіта Драніца. Яго не паспявалі апярэдзіць нават падлеткі, якія ўслед за дарослымі кінуліся з усіх ног да крыніцы. Убачыў Чубар і свайго рахункавода Івана Падзерына. Той таксама спяшаўся паглядзець на забітага звера. Але крочыў ён пасярод жаночага натоўпу, быццам гэта кабеты абкружылі яго знарок і вялі на якую расправу… А Дзяніс Зазыба тым часам ішоў побач з Брава-Жыватоўскім. Па іхняй нетаропкай хадзе і па тым, як заўзята гаманілі аб нечым, Чубар мог пераканацца, што яны і ў галаве не мелі сабе спяшацца да крыніцы, няйначай, былі ўпэўнены, што без іх не пачнецца там ніякі фэст. За плячамі ў Брава-Жыватоўскага вісела вінтоўка. Чубар згледзеў яе і толькі цяпер успомніў — Брава-Жыватоўскага ж яшчэ ці не ў пачатку ліпеня бралі па мабілізацыі!..

Між тым пярэднія верамейкаўцы ўжо абступілі забітага лася. Нехта з дарослых, можа, шкадуючы, паспрабаваў злавіць растапыранымі рукамі ласянё, якое неспакойна мітусілася вакол, але тое не далося. Тады за ласянём пагналіся падлеткі. Ласянё адбеглася трохі на коўзкі сухадол. Але зноў не далося ў рукі. Тым часам і не ўцякала далёка. Адно рабіла, як птушка, кругі вакол натоўпу, пасярод якога на сцежцы ў лужыне крыві ляжаў лось. І толькі пасля, як хлапчукі моцна заганялі яго, яно павярнула шукаць ратунку ў лес.

Чубар адступіў далей за кусты ядлоўцу і, нібыта баючыся прапусціць галоўнае, талопіў вочы на тое, што адбывалася ля крыніцы, дакладней, чакаў, што мелася адбыцца там з прыходам верамейкаўцаў. Захоплены гэтым, ён нават не заўважыў, як трохі вышэй, на ўзгорку і таксама на нядаўні стрэл, выскачыў перадавы раз'езд нямецкай вайсковай часці, якая ўступала ў Верамейкі паўз хату Юхіма Кандрусевіча.

Канчаўся ўсяго толькі другі месяц вайны…

*1970*

## ПРАЗ ГАДЫ

Сонца хаваецца за лес чырвонае, як гарачае вуголле.

Мы сядзім з лесніком Даўгалёвым на паваленай сасне: у ёй была бортня і нехта паквапіўся на пчолы.

— От, слухай, — кажа ён і намацвае ў кішэні курыва, потым нейкую хвіліну важдаецца з ім і пасля працягвае: — Мяне звяла аднойчы нялёгкая дарога з чалавекам, перад якім я застаўся вінаваты. Праўда, даўно было…

Даўгалёў амаль усю вайну партызаніў — спачатку ў Мглінскіх лясах, а потым недзе ў Карпатах. Я ведаў гэта, бо часам, калі на яго штосьці находзіла, ён расказваў пра сябе. Але здаралася гэта рэдка.

— Напаткалі мы яго па той бок Беседзі, — гаварыў Даўгалёў. — Там ёсць вёска адна. Цяпер я ўжо не памятаю, як завецца яна. Але каб трапіў у тыя мясціны, дык знайшоў бы яе. Возера там адразу за гародамі. У жыцці так бывае, што і пахадзіў па свеце нямала, і пабачыў яшчэ больш — дзе толькі ні павадзіў і з кім толькі ні сутыкаў лёс, але адзін раз нешта ўрэжацца такое ў памяць, што потым заўсёды будзе з табой. Гэта, мусіць, залежыць ад таго, калі ды пры якіх абставінах што з табой здарыцца…

Даўгалёў зрабіў зацяжку і, не спяшаючыся выпускаць дым, пачаў аглядаць паляну, на ўскраіне якой мы сядзелі на камлі ссечанага дрэва. Я разумеў, яму патрэбны быў час, каб сабраць думкі ў адно.

— Слухай, — нечакана звярнуўся ён да мяне, — а ты ведаеш, што такое партызан сорак першага года?

Я кіўнуў галавой, але, па шчырасці, не зразумеў яго пытання. Я ніколі над гэтым не задумваўся. І мне зрабілася няёмка, тым больш што мой субяседнік усё не адводзіў ад мяне цікаўных вачэй, у якіх свяцілася прыхаваная радасць.

— Так!.. Так!.. — паўтарыў ён і, ужо не зважаючы на мяне, дадаў: — Гэта не тое што партызан сорак трэцяга года. Не, зусім не тое. Але пачакай…

Мы тады спяшаліся падрыхтаваць запасную базу. Туды павінен быў перабазіравацца наш атрад. Але да базы нашай заставалася прайсці па бязлессі амаль паўсотню кіламетраў. А ты ведаеш, што азначала ў тых умовах апынуцца на голым месцы? Хоць не соладка і ў лесе было, але ж лес, брат, ёсць лес. Кожнае дрэва здавалася сцяной, за якой можна ўхавацца. Праўда, не заўсёды яна ратавала нас, аднак, кажуць, салдат і за штык, калі прыпірала, хаваўся… І от гэта бязлессе!..

Даўгалёў ляпнуў сябе па патыліцы і крактануў, нібы сказаў гэтым: «Яно во куды ўссела нам!»

Сонца тым часам закацілася за лес, пакінуўшы за сабою адну мутную чырвань. На паляну асядалі прыцемкі. Недзе на расцяробах распачынаў сваю нудную музыку драч. У сасняку сакаталі сойкі.

— Трэба было перахітрыць немцаў, — працягваў Даўгалёў, — неяк заблытаць сляды ды за ноч адарвацца ад іх на такую адлегласць, каб не паспелі яны дагнаць да самага лесу.

І от выклікае мяне аднойчы Каротчанка. Здаецца, пад раніцу ўжо.

— Будзем адыходзіць, — кажа. — Ты пойдзеш на запасную базу. Чакай нас там дні праз два.

Я распытаў пра дарогу і папрасіў:

— Дайце яшчэ каго!

— Бяры… Цыркіна і Валяўку. — І ўжо калі я, развітаўшыся, пайшоў, ён затрымаў мяне, перадумаў: — Не, будзі лепш Канаплёва і Цыркіна. Камуністы абодва. Толькі ведай, што як бы ад сэрца адбіраю. Нягуста іх у нас. Але мы ўжо тут як-небудзь разам…

Калі ж сцямнела на другую ноч, мы былі ўжо недалёка ад Буды.

У мяне страшэнна ныла параненая рука. А тут яшчэ мы выкупаліся перад гэтым у нейкай захлюпанцы-рачулцы, яна спачатку здалася нам мелкай, але потым давялося плысці да супрацьлеглага берага ў адзенні.

А тым часам пачало падмарожваць. Кастрычнік ужо канчаўся. Стаялі халады. У сырым адзенні нельга было ісці.

— Эх, было не было, зойдзем у вёску, — адважыўся я.

Наколькі мудрае было маё рашэнне, ніхто не ведаў. Маўчаў Цыркін, маўчаў Канаплёў. Маўчалі і, ледзь пасоўваючы ногі, ішлі за мной.

На ўсю тую вёску толькі зрэдку ў каго свяціліся вокны. Ці людзі спаць рана клаліся, ці не ставала газы.

Спыніліся мы каля першай жа хаты. Канаплёў падышоў да цёмнага акна і асцярожна паляпаў па шыбіне. Ніхто не азваўся. Паляпаў другі раз, ужо мацней. Нарэшце ў акне паказаўся твар: чалавек паўглядаўся і адышоў. Мы падаліся да ганка. Але колькі ні чакалі ля дзвярэй, гаспадар не выйшаў. Давялося прамінуць яшчэ некалькі двароў і зноў барабаніць па цёмнай шыбіне.

— Ідзіце далей, — пачулі мы спалоханы жаночы голас. — Па гэты ж бок… праз пяць двароў… новая хата-пяцісценка.

Лубянела наша адзенне, стыла цела. Былі, здаецца, сярод сваіх, а дзверы не адчыняліся. Зрабілася крыўдна. Нібы нас выракліся…

Недзе недалёка пачуўся гук. Ён рос і насцярожваў. Нібы нацягваў хтосьці струну, якая гатова была лопнуць. І цяжка было адрозніць, адкуль гук ішоў: з неба ці з зямлі.

— Самалёты!.. — усклікнуў Цыркін, і я пачуў, як задыхаў ён, нібы чалавек скінуў з плеч цяжар.

Праз якую хвіліну і я ўпэўніўся, што набліжаліся самалёты… нямецкія… Яны ішлі на ўсход… А неба, спакойнае і лагоднае, свяцілася бяздумнымі зоркамі. І якой недарэчнасцю здаваліся на ім самалёты, ды яшчэ ў такі час, калі там павінны былі курлыкаць адны жуправы.

Самалёты ішлі на вялікай вышыні. Іх было многа. І яны неслі некуды смерць.

А ты ведаеш, як балюча стаяць от так і слухаць, разумеючы, што хутка дзесьці пачнуць сыпацца бомбы і што не адзін чалавек у гэты момант дажывае свае апошнія хвіліны? Балюча, брат, і крыўдна.

Немцы стаялі ўжо недалёка ад Масквы. Мы гэта ведалі. У атрадзе была рацыя, і кожны раз мы слухалі навіны з фронту. Яны суцяшалі мала…

Самалёты праляталі над вёскай. Цяпер яны гулі, страшна і назойліва.

Трэба было некуды падавацца. Аднак тая новая хата… Праз пяць двароў адсюль?.. Чаму гэта кабета адсылае туды?..

Асцярожна ступаючы па мёрзлай зямлі, мы адшукалі гэту хату. Але заходзіць было неяк боязна. Хто ведаў, што нас чакала там! Мы збочылі. Завярнулі ў завулак і выйшлі на выган. Там віднелася адрына. І мы ўжо рады былі хоць ёй. І што ты думаеш, і сюды нас не ўпусцілі. На гэты раз куры. Самыя звычайныя куры.

Раскудахталіся і не ўшчуклі, пакуль мы не выбраліся адтуль. Прыйшлося бегчы ад адрыны, як зладзеям…

Даўгалёў уздыхнуў з палёгкай, задумаўся.

— І ўсё ж мы выршылі зайсці ў тую хату… На сцяне на нейкай падстаўцы дыміў каганец. Зроблены ён быў з бляшанкі з-пад кансерваў. Калі мы пераступілі парог, маленькі агеньчык пачаў хліпаць, збіраючыся патухнуць.

Адчыніла нам невысокая прыгожая жанчына. Яна стаяла на падлозе босая і спакойнымі вачамі пазірала на нас, няпрошаных гасцей.

— От, завіталі, — сказаў я нерашуча і, чамусьці вінавата ўсміхаючыся, спытаў: — У хаце, апроч вас, ёсць хто?

— Дзеці і… пляменнік.

Я заглянуў за печ і ўбачыў за комінам дзяўчынку і хлопчыкаў. Яны пазіралі на мяне і ціснуліся адно да аднаго. У калысцы ляжала яшчэ і малое. Пляменнік, відаць, быў у другім пакоі.

Я сеў на лаўку ля стала. Насцярожанасць не праходзіла. Цыркін і Канаплёў засталіся стаяць у парозе.

— Немцы ў вёсцы ёсць? — спытаў я гаспадыню.

— Не.

— А паліцаі?

У гэты момант у пярэдні пакой выйшаў малады яшчэ чалавек, гадоў, можа, за дваццаць. Ён быў высокі і хударлявы, крыху ссутулены. Твар яго — бледны, прадаўгаваты і хмуры — спачатку не ўпадабаўся мне. Асабліва вочы — насцярожаныя, праніклівыя.

— Пляменнік, — ціха сказала гаспадыня.

Твар чалавека раптам прасвятлеў, зрабіўся нават прыемны, і я заўважыў, як з нейкай асаблівай удзячнасцю пагледзеў чалавек на жанчыну.

— А вы сядайце, — звярнулася гаспадыня да маіх спадарожнікаў—У нагах жа праўды няма. Колькі ні стой, а праўды не выстаіш.

Яна, гэтая жанчына, здавалася нейкай занадта мірнай і да ўсяго абыякавай.

Размова не клеілася. У хаце сышліся незнаёмыя. У той трывожны час ці мала чаго можна было чакаць: неўпрыкмет мы прыглядаліся да гаспадыні з пляменнікам.

Гаспадыня, напэўна, здагадалася, што госці яе галодныя, і паклала на стол кавалак сала і хлеб.

— А варанае паелі, — нібы просячы прабачэння, сказала яна.

Я пацікавіўся:

— Чаму гэта нас паслалі да вас?

— Хто ж гэта? — перапытала гаспадыня.

— Ды хоць бы і суседка ваша.

— А-а, Хвядосіха! — жанчына ўсміхнулася кволай усмешкай і дадала: — Напалоханыя людзі. Кожны ж дзень немцы каго-небудзь хапаюць. Асабліва хто прытулак партызанам ці акружэнцам дае. Вось і баяцца.

— А вы?

— А мяне і так, кажуць, расстраляюць. І дзяцей. Мой жа ў сельсавеце да вайны працаваў.

І раптам я збянтэжыўся. Маланкай жахнула думка —перада мною стаяў чалавек, які падрыхтаваўся ўжо да смерці. Здаровы, яшчэ не стары… і дзеці… І суседзі пагадзіліся з гэтым!.. «Мая хата з краю», — парашыў, відаць, кожны. Нарэшце я зразумеў і яе паводзіны, і яе ўсмешку, якую толькі што бачыў, — на ўсім ляжала адзнака асуджанасці…

— Ды вы не турбуйцеся, — схамянулася яна, нібы адгадаўшы мае думкі. — Не вы ў мяне першыя і, мусіць, не апошнія.

Я ўважліва паглядзеў на яе ўпершыню за ўвесь час. Мяне ўразілі яе вочы, чыстыя і пакорлівыя. Нават балюча зрабілася за іх. Хацелася закрычаць!..

Даўгалёў змоўк, нібы прыслухоўваючыся, як на бліжнім расцяробе запела перапёлка сваё адвечнае «спаць пара». Я сядзеў і баяўся паварушыцца, каб не парушыць цішыні. Мне не было відаць твару лесніка.

— Заснуць у тую ноч я не мог доўга, — загаварыў Даўгалёў. — Сон то ахінаў мяне, і я правальваўся ў небыццё, то зноў адступаў, і тады ў галаве роіліся думкі. Чуваць было, што не спалася і жанчыне. Яна варочалася на тапчане і ўздыхала.

Калі ўсе пазасыналі, я раптам адчуў, што нада мной нехта нахіліўся. Якраз тады, калі і мяне пачаў адольваць. сон. Я расплюшчыў вочы і ўбачыў твар гаспадыні…

— Я вам няпраўду сказала, — зашаптала яна. — Я таго чалавека не ведаю. Ён прыйшоў сюды незадоўга да вас. Яго таксама нехта паслаў. Можа, ён і не благі, але гэта не пляменнік мой… Я толькі таму, што няпраўду сказала.

Я ўскочыў на ногі і асцярожна, каб не нарабіць шуму, раскатурхаў Цыркіна; Канаплёў спаў у другім пакоі, з тым, каго нам выдала гаспадыня за пляменніка…

— Я табе, здаецца, ужо гаварыў пра партызан сорак першага і сорак трэцяга года? — звярнуўся зноў да мяне Даўгалёў. — Дык ты не падумай, што гэта так сабе. У сорак трэцім ужо і час і падзеі за нас былі. А ў сорак першым?.. Павылазіла розная

свалата ды пачала кусацца. Ад паліцаяў часам ратунку не было. Думаеш, свой жа, савецкі, а ён цябе прадасць і перапрадасць. Адзін такі прыстаў да нас, прыкінуўся сваім і навёў на засаду. Руку там і прашыла куля. Ледзь ураталіся. А тут гэты. Разбярыся, што ён за птушка…

— Выйдзем, — шапнуў я Цыркіну. Выйшлі на ганак.

— А той, аказваецца, не пляменнік ёй!

— А хто ж? — захваляваўся Цыркін.

— Не ведаю. Сказала, што прыйшоў перад намі. Сталі думаць.

— Трэба хутчэй ісці адсюль, — прапануе Цыркін.

— А калі ён не спіць?

— Тады… тады яго трэба…

— А як невінаваты?

Нарэшце парашылі не спускаць з яго вока. Трэ было дацягнуць да раніцы, а там — бог бацька. Так мы і спалі — спачатку я пільнаваў, потым — Цыркін. Канаплёва не будзілі, каб не выдаць сябе…

Пад раніцу я задрамаў. Разбудзілі мяне прыглушаныя галасы. Дыміў каганец, гаспадыня завіхалася ля печы; а Цыркін і той, незнаёмы, вялі гамонку.

— Тады я і пайшоў да шашы, — гаварыў незнаёмы. — Рух на ёй пачынаўся заўсёды з раніцы. Немцы не любяць ездзіць начамі. Спяць. — Голас яго быў прастуджаны, сіплы. — На гэты раз я выбраў сабе іншае месца, кіламетры за два ад таго. Стаў чакаць. Машыны ішлі адна за адной, а гэта мне не падабалася. Рызыкоўна было кідаць гранату. Наўрад ці ўдалося б выбрацца самому. Але і адкладаць да зручнага выпадку не хацелася. У мяне нібы рукі свярбелі. І вось раптам паток машын спыніўся. Тады праз некалькі хвілін і паказаўся гэты аўтобус…

Мусіць, размова іх пачалася даўно, і я прачнуўся пад канец яе. Аднак мяне яна зацікавіла і на гэтым. Чалавек гаварыў спакойна, без лішніх слоў. Можа, і сапраўды ён зрабіў нешта.

— А што ж сюды прывяло? — запытаў Цыркін.

— Шукаю вось. Можа, каго яшчэналучу. Аднаму ж цяжка і, калі хочаце, немагчыма…

Час быў збірацца ў дарогу, і я ўстаў. Цыркін выйшаў за мной у сенцы ўзрушаны:

— Ён такога нагаварыў!

— Ды чуў я.

— Ну і што?

— Нічога. Хто ён?

— Настаўнік, кажа.

І ўсё ж не пакідала сумненне. Пэўна, таму, што занадта многа непрыемнасцей выпала на нашу долю за апошні час… І я параіў:

— Трэба сачыць!

Мяне цяпер пачало непакоіць і тое, як нам удасца пазбавіцца ад гэтага чалавека. На базу я не меў ніякага права прыводзіць каго-небудзь, апроч нашых. Праўда, у той момант мне і ў галаву не прыходзіла, што ён мог папрасіцца да нас. Хоць усё і ішло к таму.

Спехам праглынуўшы разварыстую бульбу з агуркамі, якую падала на стол гаспадыня, мы падзякавалі як маглі і пакінулі гасцінную хату. Але з такім адчуваннем, быццам нарабілі ў ёй нейкай шкоды.

Цадзілася ўжо раніца. Рэдкія зоркі застылі на небе. Пахла дымам і яшчэ нечым смачным і знаёмым з дзяцінства: у вёсцы палілі печы.

— Таварышы, вазьміце мяне з сабой, — раптам пачулі мы голас нашага начлежніка. Чалавек, як відаць было, не думаў адступацца — выбег за намі на ганак.

Я раззлаваўся:

— Куды, у паліцыю? — і зрабіў крок да яго.

Ён прыціх ад нечаканасці, і я заўважыў як задрыжалі яго вузкія, з доўгімі пальцамі рукі — рукі інтэлігента.

— Чаму ў паліцыю? Вы ж не ў паліцыю ідзяце! — пачаў даводзіць ён. — А я адзін…

І тады я згадзіўся ўзяць яго з сабой, хоць і не збіраўся весці на базу. Згадзіўся, бо бачыў чалавека, прыгнечанага горам…

Але праз колькі крокаў я пашкадаваў, што згадзіўся. І не таму, што парушыў загад камандзіра. Не, не падумай. З гэтым можна было, урэшце, уладзіць. І, вядома ж, не таму, што мяне не пакідала сумненне. Здаецца, ранейшае прыкрае пачуццё неяк прайшло ўжо. А калі і не прайшло, дык прытупілася. Затое найшло іншае: як толькі выйшлі за вёску, то адразу ж адчулі, што чалавек, якога мы ўзялі з сабою, замінае нам. Нібы ўзваліў нехта на нашы плечы цяжкую, непатрэбную ў дарозе ношу.

Спадарожнік наш, мусіць, таксама зразумеў, што ён лішні сярод нас. Ён моўчкі тупаў услед і час ад часу чамусьці ўздыхаў. Ці гэта быў даўні смутак, ці яго сапраўды вельмі непакоіла становішча, у якое ён трапіў.

Тым часам развіднела. Вынырнула з-пад пагоркаў сонца. Мы ішлі міма вёсак. Людзей пакуль не сустракалі. Толькі чуваць было, як часам зарыпяць, абуджаючы ранішнюю цішыню, ва-

роты ды рыкне раз і другі карова. А раз неяк, калі мы праходзілі паўз гарод, увязаўся за намі сабака. Кідаецца і брэша на ўсю ваколіцу, быццам паказвае: «Вось яны, трымайце іх!»

А неўзабаве мы паслалі настаўніка ў вёску. Ён сам папрасіўся, бо некаму ж трэ было ісці разведаць. І пакуль ён хадзіў, перагаварылі між сабой.

— Навошта бралі яго? — учапіўся Канаплёў.

— Маўчы, — сыкнуў на яго Цыркін.

Па ўсім было відаць, што Цыркін апраўдваў мяне. Пэўна, размова з настаўнікам, якую яны вялі пад раніцу, уразіла яго. Таму я сказаў хутчэй дзеля Канаплёва:

— Хай ідзе. На базу, вядома, мы не пацягнем яго. Пачакае дзе паблізу, пакуль прыйдзе атрад, а там вырашым.

— Яшчэ невядома, ці вернецца ён цяпер, — агрызнуўся Канаплёў.

Але настаўнік вярнуўся. А перад вечарам мы былі ўжо непадалёку ад нашага лесу. Усё небяспечнае, здавалася, асталося ззаду. Мы з палёгкай уздыхнулі і зайшлі адпачыць у алешнік, што рос астраўком каля самай дарогі. За паўкіламетра адсюль была вёска. А збоку, крокаў якіх за дзвесце, зноў былі відаць кусты. Яны паўкругам агіналі вёску, не падступаючы надта блізка да яе, і цягнуліся некуды, аж пакуль ставала вока. Мы ляжалі на траве, якую абышла каса, і цешыліся думкай, што хутка ўжо скончацца дарожныя пакуты. І раптам пачулі галасы!.. З вёскі ішлі немцы. Іх было каля двух дзесяткаў.

Сядзець у алешніку не мела сэнсу. Ён быў вельмі рэдкі і да таго ж без лісця — восень стрэсла ўсё на зямлю. З дарогі нас мог заўважыць кожны, нават калі і не прыглядаўся б надта. Трэ было неяк дабегчы да кустоў. Але як ты памкнешся куды, калі наперадзе роўнае поле і бегчы давядзецца ўвесь час на вачах у ворага.

Мы нібы прыраслі да зямлі, разгубіліся. І раптам здарылася нечаканае: настаўнік амаль сілком выхапіў у мяне аўтамат, які я трымаў хворай рукой.

— Я застануся тут, — усхвалявана зашаптаў ён, і ў голасе яго пачулася рашучасць. — Я буду страляць, а вы — бяжыце.

Ён неяк вінавата ўсміхнуўся і адвёў свае сумныя, у акулярах вочы. Было відаць, як перасмыкнуўся і пабялеў яго твар.

«Навошта табе гэта?» — са злосцю падумаў я, але прамаўчаў, бо ў той момант сам не здольны быў прыняць якое-небудзь рашэнне: нібы адабрала розум.

Немцы між тым падыходзілі ўсё бліжэй. Яны гучна размаўлялі, відаць, не спадзяваліся напаткаць у прыдарожным алешніку ўзброеных людзей. Мы ляжалі і насцярожана чакалі, і от яны ўжо зусім блізка. І ўсё’ бліжэй, бліжэй…

Тады і грымнулі нашы стрэлы. Першы ўдарыў з майго аўтамата настаўнік, а за ім і мы: я з нагана, а Канаплёў і Цыркін з вінтовак. Немцы разбегліся і заляглі. Цяпер ніхто з нас, здавалася, і не думаў пакідаць алешнік. Але зноў пачуўся голас настаўніка. На гэты раз ён ледзь не крычаў:

— Што вы марудзіце!

— Не гарачыся! Будзем адыходзіць разам! — сказаў я, хоць ужо і не верыў, што гэта выратуе нас.

І мы ўсё адступалі і адступалі на край алешніку, не перастаючы страляць. І разам з намі быў настаўнік. І тады, у тую страшную і цяжкую для нас хвіліну, на мяне нечакана нахлынула цёплае, да болю шчырае пачуццё да гэтага чалавека, які па дарозе сюды, магчыма, насустрач смерці, моўчкі цярпеў і наш недавер да сябе, і абразлівую велікадушнасць.

Мне тады захацелася абняць настаўніка, папрасіць у яго прабачэння і… ці мала яшчэ чаго хацелася мне. Ды толькі не час быў.

То прыгінаючыся да зямлі, то раз-пораз падаючы, беглі мы да лесу, туды, дзе быў наш паратунак. Я дрэнна бачыў тое, што рабілася наўкол. А калі ўпаў і агледзеўся, паўзлі за мною толькі Цыркін і Канаплёў. Настаўнік застаўся ў алешніку. Ён па-ранейшаму біў кароткімі чэргамі з аўтамата.

І мы чакалі яго, аж пакуль не ўбачылі, што па алешніку ходзяць немцы…

*1961*

## ДЗІВАК З ГАНЧАРНАЙ ВУЛІЦЫ

У Залужжы мне сказалі: «А Дземідзёнак пайшоў ад нас. Яго ўжо няма ў гарадку».

Але ж куды падаўся Дземідзёнак?..

Можа, адзін я добра і ведаў гэтага чалавека.

Ён паявіўся ў нашым гарадку гады праз тры пасля вайны і пасяліўся ў хаце Дакуліхі, адзінокай старой, якая спачатку прыняла яго як кватаранта, каб мець за гэта на старасці якую капейку, бо яму ішла пенсія, але потым адмовілася ад тых грошай.

Я ж сустрэў Дземідзёнка, калі ён лічыўся ўжо на Ганчарнай вуліцы старажылам.

У нядзелю раніцай стаяў я на падворку і слухаў, як гудуць каля дзядзькавых вулляў пчолы.

— Дземідзёнак ідзе, — пачуліся раптам галасы.

Я азірнуўся і ўбачыў незнаёмага старога, які шыбаваў з клеткай у руцэ сярэдзінай вуліцы. Ён быў невысокага росту, згорблены, з белай бародкай і такімі ж белымі валасамі, што выбіваліся з-пад саламянага брыля. На незнаёмым была вылінялая сацінавая кашуля з манішкай, падпяразаная поясам з кутасамі, а на рубчыкавых штанах віднелася некалькі невялікіх латак. Стары хуценька перабіраў нагамі, быццам вельмі спяшаўся куды. Хадзіў ён на дыбачках, таму ўся яго шчуплая постаць у час хады падавалася наперад.

— Дземідзёнак!.. Дземідзёнак!.. — зноў пачуўся крык, і на вуліцу пачалі збягацца дзеці.

Але да старога яны не набліжаліся. Трымаліся крыху воддаль або ціснуліся за ім ззаду. А стары ішоў сабе ўздоўж вуліцы і, здавалася, не заўважаў іх. Тады я і прыгадаў, як у свой час таксама басанож бегаў з равеснікамі за дзівакаватым Цімкам. Цімка жыў на самым канцы Калгаснай вуліцы, але мы і туды забіраліся. І цяпер штосьці падобнае адбывалася.

«Неразумнае дзяцінства», — падумаў я.

А ўвечары, калі маці прыгнала карову з пашы, запытаў:

— Дземідзёнак… Хто гэта?..

— Як хто? Ну, Дземідзёнак і Дземідзёнак. У Дакуліхі жыве.

Было відаць, што яна не вельмі ахвоча да маёй размовы, але маўчаць не стала.

— І дзеці беглі за ім?

Я кіўнуў галавой.

— Паршыўцы! Лазой трэба сеч блазнюкоў! — Яна ўздыхнула і ўзялася пераплятаць свае косы. — Дземідзёнак такі ж, як і ўсе, чалавек. Праўда, можа, ён нейкі ўжо занадта дзівакаваты.

Маці скупілася на словы, і я адчуў, што яна больш клапацілася, каб сын яе не падумаў кепскага пра чалавека.

— Прыйшоў ён сюды аднойчы вясной і стаў жыць у Дакуліхі. А што за чалавек ды адкуль — каму рупіць. Ці мала людзей пасля вайны па наваколлі без прытулку хадзіла. Вайна нямногім так мінулася. І ў кожнага сваё гора. Можа, і яго гняздо параскідала. Ну, і прытупаў чалавек на нашу вуліцу дажываць свой век. Добра, што пенсія ў яго. Здаецца, і Дакуліха тады за гэтым пагналася…

Маці змоўкла. Ёй трэба было штосьці зрабіць у сенцах, і яна выйшла.

— А стары ён аказаўся ўвішны… Гэта я ўсё пра Дземідзёнка, — сказала яна, калі вярнулася. — Дык я кажу: Дакулісе на кватаранта пашэнціла. Бывае, дзянёк бегае вакол хаты, корпаецца то ў гародчыку, то двор падчышчае, ды і на вуліцы насупраць Дакуліхінай хаты не тое што ля іншых, — чыста. Здаралася мне заходзіць да іх. Ветлівы Дземідзёнак гэты. Толькі чамусьці неразгаворлівы. Панурыцца і маўчыць. Нібы кляймо на ім якое. Усё ж адзін ды адзін дзень пры дні. Але гэта б нішто яшчэ. Маўклівых на свеце таксама набярэцца, і, можа, больш чым гаваркіх. Ды прыспічыла яму па нейкай патрэбе пайсці ў нядзелю на рынак. То ніколі не хадзіў туды, а тут раптам пацягнула. Можа, што хацеў купіць сабе або Дакулісе. І вось якраз з таго часу чалавека быццам падмянілі. А ўсё з-за птушак. І хто іх там надумаў прадаваць, — сама не ведаю, бо ніколі ж раней я не заўважала, каб хто прыносіў птушак на рынак наш. Ну, там малако, яйкі, а то ж птушкі! Гандляваць птушкамі!.. Смяхоцце адно. Але ж ён купіў іх. І потым зачасціў на рынак. Убачыць птушку і купляе. А некаторым нібы аднаго гэтага і не хапала. Пачалі лавіць і прадаваць птушак. Сорам аж. Ну, а ён купляе іх і выпускае недзе.

Людзі тым часам языкі чэшуць:

— Дык ён жа перапрадае іх і гэтым самым вунь якую капейку зарабляе.

Ніхто ж не ведае, што небарака на сваю пенсію тых птушак купляе. Часам без куска хлеба бывае. Дакуліха сваім корміць. Нарэшце дайшло да таго, што пачалі прыносіць птушак яму дадому. Тады і не вытрымала Дакуліха. Спачатку сароміла, потым узяла палена ды аднаго прагнала з хаты, другога. Глядзіш, і перасталі хадзіць. Але ж стары не кінуў свой занятак…

З таго вечара я заўсёды выходзіў з хаты, калі чуў, як крычалі на вуліцы:

— Дземідзёнак!..

Дзеці кожны раз беглі за ім на рынак, і пасля я даведаўся, што яны былі таксама галоўнымі пастаўшчыкамі птушак.

Дземідзёнак хадзіў толькі пасярэдзіне вуліцы. Я прыкмеціў, што на ім заўсёды была адна і тая сацінавая кашуля, і праз некалькі дзён я ўжо мог сказаць, колькі на яго штанах накладзена латак. У нядзелю ён праходзіў паўз нашу хату двойчы — на рынак і адтуль. Пры гэтым ён ніколі не глядзеў па баках. Але аднойчы ён здрадзіў сваёй звычцы, калі гэта толькі было звычкай. Ён раптам паглядзеў на мяне. І, можа, таму, што для яго я

на гэтай ціхай вуліцы быў чалавек новы, ён нечакана зняў свой руды брыль і павітаўся. З таго разу ён ужо не праходзіў міма, каб хоць не дакрануцца рукой да свайго брыля. Рабіў ён гэта паспешліва, нібы шкадаваў патраціць на непатрэбную справу лішняга часу.

Паступова я пачаў лавіць сябе на тым, што ўжо не магу не думаць аб ім. Мяне неяк цалкам захапіў гэты пануры дзівак, і я, напэўна, шмат перажыў бы, калі б аднойчы ён не выйшаў на вуліцу са сваёй клеткай.

Што ж за чалавек ён?

У паводзінах Дземідзёнка мне хацелася бачыць адно звычайнае, няхай нават дзіцячае, захапленне адзінокага старога. Чамусьці не верылася, што ён вось так узяў ды ўзваліў на сябе клопат, які ў астатніх выклікаў спагадлівую ўсмешку. А можа, ён па прастаце сваёй адно палічыў за зло, а другое — за дабро і тады зрабіў свой дзіўны занятак — купляць і выпускаць на волю птушак — мэтай таго жыцця, якое яшчэ заставалася за ім, якое трэба было пражыць?

Мяне цягнула да Дземідзёнка, і я хутка гатовы быў разам з хлапчукамі бегчы за ім на рынак, хоць і лічыў, што яны гэтым крыўдзяць яго.

У далейшым амаль так і атрымалася…

Здарылася, што адзін раз Дземідзёнак не знайшоў на рынку птушак. Стары вяртаўся адтуль узрушаны.

Насупраць нашай хаты Дземідзёнак спыніўся. Ён пастаяў крыху непадалёку ад лаўкі, на якой я сядзеў, затым павярнуўся на Калгасную вуліцу. Тады я і рашыўся пайсці следам. Але ўсю дарогу, пакуль плёўся за ім, адчуваў, што раблю нешта не тое, і мне было сорамна.

Дземідзёнак між тым не звяртаў на мяне ніякай увагі. Стары, напэўна, нават не чуў за спіной маіх крокаў.

Тым часам кончыліся цагляныя будынкі, якіх тут панаставілялі за апошнія гады, і зноў пачаліся драўляныя хаты, як і на Ганчарнай вуліцы. Адно, што на Калгаснай яны былі ўсе новыя, бо ў вайну вуліца цалкам згарэла, і цяпер людзі адбудаваліся.

Неўзабаве Дземідзёнак нырнуў у чыюсьці фортку, і на вуліцы я застаўся адзін.

Час цягнуўся марудна, тым больш што я апынуўся ў такім становішчы, калі не ведаў, як жа паводзіць сябе далей. Самае горшае, чаго я баяўся, гэта — сустрэцца тут з Дземідзёнкам твар у твар, бо дагэтуль, хоць і няёмка мне было, але ж я мог яшчэ думаць, што ён не заўважыў мяне. Некалькі разоў я памыкаўся

было збегчы куды-небудзь, каб хоць на вочы яму не трапіць, але тая ж неадольная сіла, што пацягнула мяне сюды, цяпер трымала ля форткі, і я вагаўся ў нерашучасці, аж пакуль выйшаў Дземідзёнак з хаты. Было позна ўжо што-небудзь рабіць.

Дземідзёнак прайшоў моўчкі. Пакуль ён праходзіў міма, я стаяў, нібы вадой халоднай абліты.

У гэты момант з сенцаў выкацілася жанчына і гукнула праз двор:

— Колькі ён даў табе?

Адказаў ёй танклявы голас з хаты.

— А божухна! Дык ты ж танна аддаў! — заенчыла кабета.

— А што яны варты, вераб'і тыя, — спрабаваў нехта давесці.

— Варты! Варты! Закаркаў… Што табе, чужых грошай шкада? Не будзь дурнем. Хай пускае на вецер, калі ў яго многа іх!

Жанчына сказала гэтак і захіхікала, а мне, здаецца, упершыню зрабілася шкада Дземідзёнка.

Клетку з вераб'ямі — гэта былі сапраўды вераб'і — ён ледзь не прыціскаў да грудзей, быццам чалавек баяўся, што вось-вось падыдзе хто-небудзь і не падумае, адбярэ іх у яго.

Накіроўваўся ён за гарадок.

Выпускаў Дземідзёнак купленых птушак кіламетры за тры, там, дзе пачынаецца Зінкевічаў луг.

Свяціла яркае сонца, булькала ў рэчцы вада. Паветра тут было па-летняму настоена пахам красак, і некранутая яшчэ трава пагойдвалася пад сухім ветрам, і часам здавалася, што недзе на ўзлеску ледзь чутна калоцяцца блакітныя званочкі.

Я загледзеўся на гэтае ціхае хараство прыроды і не заўважыў, як нечакана перамяніўся Дземідзёнак. Стары раптам выпрастаўся, памаладзеў, і ўжо ад таго, ранейшага Дземідзёнка, нічога і не засталося. Ён з нейкім не па гадах дзіцячым захапленнем пазіраў услед сваім птушкам, якія, трапечучы крыламі, пырхалі з клеткі, і твар яго ўвесь свяціўся.

Нарэшце я ўбачыў чалавека, які перажываў вялікую радасць…

Дамоў мы вярталіся, як харошыя знаёмыя, аднак размовы ў нас не выйшла. Затое цяпер нішто ўжо не перашкаджала мне заходзіць да Дакуліхі.

Там я і даведаўся пра самае галоўнае.

…Да вайны Дземідзёнак жыў пад Вітунём, там, дзе Лясныя Дачы.

Служыў ён лесніком.

Сям'і ў яго не было — дачка, якой споўнілася пад тую пару, можа, трыццаць гадоў, жыла замужам у горадзе, і ў яе гадавалася свая дачка. Да бацькі яе, відаць, нішто не цягнула, і яна ні разу не надумала прыехаць.

Тым часам пачалася вайна. Спачатку нішто не патрывожыла Лясныя Дачы, полымя вайны шугала далёка ад іх. Але праз дні вайна дакацілася і да Вітуня. Уначы было відаць, як палыхалі пажары па той бок Дняпра; грымела і варушылася наваколле.

Праз Лясныя Дачы пацяклі людскія натоўпы.

Людзей збіралася так многа, што часам нават думалася, ці не зрушыла гэта з месца цэлага паўсвету. Людзі ішлі і ехалі ў копаці і пыле — бежанцы, чырвонаармейцы. І на абочынах дарог разам з пабітымі гаршкамі валяліся закарэлыя крывавыя бінты.

Леснікова старожка, у якой жыў Дземідзёнак, у тыя дні была поўна раненых.

Сам Дземідзёнак ад рання да вечара прастойваў ля дарогі і ўсё ўглядаўся ў людскія твары, спадзеючыся сустрэць сваіх.

І яму пашанцавала, ён дачакаўся — прыйшла дачка. Яна прывяла з сабой трохгадовую дзяўчынку, якая да гэтага толькі ад маці чула, што ў яе ёсць дзедка і што ён жыве недзе на беразе ляснога возера. І, хто ведае, можа, яна не раз уяўляла сабе таго дзедку чарадзеем, а на самай справе атрымалася, што гэта — самы звычайны дзед, якіх столькі дзяўчынка сустракала на сваёй вуліцы. Яна доўга з недаверам глядзела на старога, аж пакуль ён не ўзяў унучку на рукі. Дзіця так і заснула ў яго на руках — бруднае, схуднелае і стомленае, бо, відаць, за гэтыя дні нямала пратопала на сваіх ножках. А калі прачнулася, то быў ужо другі дзень і не было побач мамы. Дачка Дземідзёнка пайшла далей, туды, куды ішлі ўсе, а Аленку пакінула з дзедам. Хоць у яго і возера было прыгожае, якое чамусьці называлі Мёртвым, і лес стаяў кругом, Аленка плакала. Тады Дземідзёнак браў яе за ручку і вёў на дарогу, дзе па-ранейшаму ішлі і ехалі гнаныя горам людзі. Там яна суціхала.

А вайна падступала ўжо да самых Лясных Дач.

Паток бежанцаў патрохі радзеў, потым зусім спыніўся. І ў лесе ўжо сустракаліся пераважна толькі салдаты. Пасля і іх не стала, хоць яшчэ доўга чуўся пад Вітунём пошчак кулямётаў. Нарэшце настаў дзень, калі зрабілася ў наваколлі зусім ціха і на ўсе Лясныя Дачы засталіся толькі Дземідзёнак і яго ўнучка.

Рабіць цяпер не было чаго, ды і невядома, дзеля чаго будзеш рабіць, і Дземідзёнак сноўдаўся так па лесе, слухаў, як дзень за днём па-новаму пачыналі шумець хвоі: блізілася восень. Тады

і прыйшлі да яго зноў людзі. То былі партызаны. Спачатку яны жылі ў лесніковай старожцы, але з надыходам зімы, калі выпаў снег, перабраліся за Мёртвае возера.

Зіма тая выдалася лютая, снежная. Мароз лез ва ўсе шчыліны, і ў старожцы даводзілася круглыя суткі паліць у печы. Дзед з унучкай з нецярплівасцю чакалі цёплых дзён.

Але аднойчы ў старожку ўварваліся немцы.

— Партызан?

Дземідзёнак пацісnуў плячамі.

— Дзе хаваюцца партызаны?

— Не ведаю.

— Тады збірайся.

— А як яна? Адна застанецца? — Дземідзёнак паказаў на Аленку.

— Будзеш разумны, то не застанецца, — адказалі яму.

Старога пасадзілі на сані і павезлі ў Вітунь, а Аленку замкнулі ў старожцы.

Два тыдні яго вадзілі на допыт.

— Дзе партызаны? — пыталі кожны раз.

Дземідзёнак маўчаў. Тады яго кідалі на падлогу і білі. А ўначы, калі выпадала хвіліна заснуць, яму снілася ўнучка і тая прыцярушаная снегам сцежка, якая вяла паўз возера да партызанскіх зямлянак. Ён яшчэ спадзяваўся, што адтуль па гэтай сцежцы прыйдуць па дзяўчынку і з ёй нічога не станецца.

Два тыдні катавалі лесніка. І ўвесь гэты час ён мучыўся ад таго, што пакінуў дзяўчынку адну. Калі ж яго нарэшце выпусцілі на волю, то ён не знайшоў у сваёй халоднай старожцы ўнучкі. На падлозе ляжала адна скалелая сініца… Калі і як яна заляцела сюды, — Дземідзёнак не ведаў.

Да самага канца вайны заходзіўся ў горы стары ляснік. Колькі ні шукаў ён сваю ўнучку — знайсці не мог. Пасля вярнулася дачка. Пачуўшы страшную вестку, яна навалілася на лаўку і праплакала ўсю ноч. А раніцай пайшла.

Не мог, вядома, застацца ў старожцы і Дземідзёнак. Ён пакінуў Лясныя Дачы назаўсёды, каб нішто больш не нагадвала яму там аб непапраўнай страце.

…Дні праз два я паклікаў да сябе хлапчукоў і расказаў ім усё, што ведаў пра Дземідзёнка. Яны разышліся прыціхлыя, з апушчанымі галовамі. Мне здавалася, што гэтым самым я зрабіў нешта добрае, нават, калі хочаце, абараніў спакутаванага старога ад людской надакучлівасці.

Дзеці сапраўды больш не даймалі яго. Паступова перавяліся і птушкі на рынку. Неўзабаве іх ужо ніхто не прадаваў у гарадку, хоць Дземідзёнак па-ранейшаму бегаў туды са сваёй клеткай.

Падышоў час мне ад'язджаць, і я зайшоў развітацца з Дземідзёнкам. У сенцах мяне сустрэла Дакуліха.

— Ты можаш не заходзіць, — з дакорам зашаптала яна. — Чалавек вунь перажывае. А ўсё праз цябе. І навошта было гаварыць каму? Ён жа гэтымі птушкамі і жыў адно апошні час.

Дземідзёнак сядзеў насупраць акна. Ён не павярнуў галавы на мае крокі. І за тыя некалькі хвілін, якія прабыў я ў Дакуліхі, стары не прамовіў ніводнага слова.

Пакідаў я Дакуліхіну хату прыніжаны і разгублены.

...Я хацеў памагчы чалавеку загаіць рану. І так няўмела ўзяўся за гэта. Лепш бы не брацца зусім. Бо не кожная рана паддаецца лекам. Асабліва калі на душы...

З таго дня я Дземідзёнка не бачыў.

*1961*

## АПАВЯДАННЕ БЕЗ КАНЦА

На золку, калі яшчэ спявалі пеўні, я пакінуў Брады, каб да сонца выйсці праз дальні расцяроб да Пычава берага.

Дарога ішла паўз лясное возера. Летам па ёй амаль ніхто не ездзіў, таму каляіны пазарасталі высокай травой. Трава даставала да каленяў.

Можа ўжо гадзіну мае грудзі дыхалі халадком яснага ранння.

У густым ельніку, што стаяў паабапал дарогі, спрасонку валтузіліся сытыя дразды. Па-над возерам, у млявай шэрані, чубіліся галубы.

— Галубка, кума, ты будзеш мая...

Лес неўзаметку праганяў дрымоту.

Я моўчкі збіваў парусінавымі туфлямі халодную расу і ўсё спяшаўся.

Хутка павінен быў пачацца луг.

Але на Пычаў бераг трапіў не я першы. Чалавек, які паспеў туды раней, сядзеў нерухома каля самай вады, звесіўшы ногі, і зацята глядзеў перад сабой, быццам сіліўся разгледзець нешта на дне ракі. Побач ляжалі рыбацкія прылады — бляшанка з чарвямі і арэшкавае вудзільна. Леседзь хоць і была раскручана, але ён пакуль ні разу не закінуў вуды, бо бляшанка з чарвямі стаяла зачыненая. Рака дымілася цёплым туманам.

Учора гэтага чалавека бачыў я разам са старшынёй райвыканкома і дырэктарам саўгаса ў садзе. Шырока стаўляючы ногі, ён пахаджваў паміж дрэў, падпёртых калкамі, каб не ламалася ад яблыкаў сучча, і голасна смяяўся. Ва ўсёй яго постаці адчуваліся здароўе і тая абыякавая ўпэўненасць, з якой прывыклі ступаць па зямлі толькі нямногія людзі. Нават старшыня райвыканкома, які гаварыў яму пра нейкія справы, ідучы побач, здавалася, губляўся пад яго насмешлівым, трохі спагадлівым позіркам.

Ён быў чалавекам высокага росту, з шырокімі, крыху прыўзнятымі плячамі, з высокім ілбом і доўгімі, закінутымі назад валасамі, якія ўжо добра пасівелі.

Якраз і я апынуўся ля будкі вартаўніка. Стары Панаська сказаў:

— Бач, як перад гэтым Чыкілёнкам гнуцца... і наш і той раённы.

Стары дыміў люлькай і соннымі вачмі глядзеў у той бок, дзе за коўратамі сабраўся каля легкавушак натоўп.

— Ну і пралаза гэты Чыкілёнак, — дадаў стары.

Потым спытаў:

— А ты яшчэ не схадзіў да яго на паклон?

І, не чакаючы адказу, пахваліў:

— Ты гэта правільна, хлопец, робіш. Табе няма чаго знацца з ім.

Панаську быццам цягнуў хто за язык.

— Бацька яго, Іван Чыкіла, быў чалавек, — гаварыў Панаська. — Ігнаська таму і аддаў сваю Вольгу. Думаў, сын па бацьку. Яблыка ж, гавораць, падае недалёка ад яблыні. Але як часта людзі памыляюцца!.. Гэта аж вон куды закацілася. Нават дастаць цяжка.

Панаська гудзеў сваім нутраным — глухаватым, але яшчэ моцным голасам:

— І добра, што хоць Вольга не бачыць. Адпеклавала дзеўка сваё. Ды ён, мусіць, і не надумаўся б сюды, каб яна жыла. Не, што ні кажы, а Чыкілёнак гэты пралаза, брат. Во бачыш, як сустракаюць яго. Дамогся свайго. А нашы вочы вылупілі ды шапкі ледзь не ломяць. Сказана, дурні. Бо ў галаве замест мазгоў — падалікі. Ну і што, калі начальнік? Ды такога начальніка, як Чыкілёнак, калі па-людску рабіць, дык і блізка не трэба пускаць.

То было ўчора. А сёння Чыкілёнак выглядаў адзінока. Што прывяло яго на Пычаў бераг? Няўжо сапраўды тыя шчупакі, якія мне каторы дзень не давалі спакою?

Здалёку ён не чуў маіх крокаў. Не пайварушыўся і тады, калі я затупаў блізка.

Але я не шукаў з ім сустрэчы.

Зоркі тым часам тухлі на небе. Паказалася сонца. Спачатку яно высунулася адным сваім краем і стала падобнае на чырвоны шар, у які нехта неўзаметку дзьмуў збоку, і таму ён усё павялічваўся, узнімаючыся ўгору. Нарэшце гэты распалены шар адарваўся ад зямлі і закалыхаўся над ёю — вялікі, блізкі і разам з тым недасягальны. Сонца здавалася нейкім няпраўдашнім. Быццам яго намаляваў хто чырвонай фарбай ды павесіў там, дзе яно заўсёды ўзыходзіць, каб падманваць даверлівых.

— Гэта ты, Іваноў? — спытаў Чыкілёнак і не павярнуў галавы, напэўна, падумаў, што прыйшоў яго шафёр.

Я прамаўчаў.

Тады ён раззлаваўся:

— Ты што, не чуеш, Іваноў?

— Гэта не Іваноў, — адказаў я, каб неяк азвацца.

«Ну і пралаза гэты Чыкілёнак», — успомніў я словы старога Панаські.

Штосьці прыгожае і непрыгожае было адначасова ў яго твары. У шэрых і крыху раскосых вачах, асабліва калі ўсміхаўся, загараліся хітраватыя іскры. Але яны загараліся толькі на адзін кароткі міг.

Дзіўнымі якасцямі валодаў Чыкілёнак. Ён яшчэ не разгледзеў мяне як мае быць, толькі акінуў паспешліва позіркам. Ён яшчэ не сказаў нічога такога, каб запомнілася. І не зрабіў нічога, адно што ўзяўся за вудзільна. Але на Пычавым беразе захадзіла ўсё хадуном, зрабілася раптам шумна, быццам неспадзявана хто запоўніў, як пляшку, усю пустэчу, якая да гэтага была тут.

— А, рыбак, — гаварыў ён паблажліва, і я ўжо бачыў яго такім, якім быў ён учора ў садзе; быццам толькі што не сядзэў на Пычавым беразе адзінокі і заклапочаны чалавек, якога варта было пашкадаваць.

— Ты, мусіць, не адсюль? — І сам адказваў: — Канечне, не адсюль. А то ж я адразу цябе пазнаў бы, нягледзячы на тое, што ўжо дваццаць гадоў не быў тут. Я, брат, на пароду памятлівы. Дык я, малады чалавек, маю сказаць табе, што на гэтым Пычавым беразе…

Гаварыў ён спакойна, важна, уладна. І ўвесь час стараўся быць дружалюбна абыякавым.

Гаворкай сваёй ён нібы закалыхваў.

Ён меў нешта сказаць мне пра Пычаў бераг. Але ж я таксама меў што сказаць яму. Напрыклад, пра тое, як памірала яго жонка.

…Тым летам над тутэйшымі пясчанымі пагоркамі стаяла засуха. Яравыя гарэлі на корані, а жыта, пасмяглае, нізкарослае, было пустое.

Дажджы ішлі стараной.

Але прывіды голаду не палохалі людзей.

— Нябось, зямля вялікая, дзе-небудзь зародзіць, — гаварыў хто-небудзь, і ўсёй вёсцы перадаваліся яго спакой і развага.

— Хлеба прывязуць у краму…

Але пасля гарачыні, калі на зямлю прыходзіў вечар, нехта ўсё ж валачыў за вёскаю плуг, пракладваючы паўз гумны збавіцельную баразну; нехта насіў да возера чужы частакол…

Пясок на дарогах перагараў на мяккі прысак. Босаму на ім нельга было ступіць аднаго кроку — пякло. І калі з вёскі выязджала якая машына ці нават падвода, дык за многа вёрст было відаць кожнаму, бо адразу над усім, што рухалася па дарозе, павісала воблака пылу, якое паступова станавілася падобнае на клубы жоўта-белага дыму, што ўзнімаецца звычайна над стогам падпаленай саломы. Як у бяздонні, прападаў гук. Крычы не крычы, а цябе ўсё роўна ніхто не пачуе.

У такі вось дзень мне якраз і выпала ісці на Саматэвічы. Я выбраў дарогу самую кароткую. Гэта была палявая дарога, вузкая, ледзь не сцежка.

Ужо відаць было, як узвышаліся пасярод старых ліп купалы царквы — самай высокай будыніны ў наваколлі. Ужо не так многа заставалася прайсці. І я траціў, здаецца, апошнія свае сілы, каб па гэткай духаце хутчэй датупаць да мястэчка.

Наперадзе ішла нейкая жанчына, і мне ўвесь час хацелася дагнаць яе. Можа гэта была адзіная жывая істота, якую нешта змусіла ў неміласэрную гарачыню выйсці з дому. Але неўзабаве і яна схавалася ў жыце. Мне падумалася, што яна некуды збочыла, бо не ўсе ж людзі ходзяць у адну дарогу. Затое зусім не парадаваўся я, калі заўважыў жанчыну зноў. Яна ляжала на ўзмежку, галавою ў жыта, нібы шукала там паратунку ад спёкі. Ляжала на спіне, і рукі яе былі шырока раскінуты. Твар, увесь пасінелы, ён ледзь не свяціўся наскрозь, слаба крывіўся ад болю.

Я кінуўся да жанчыны і асцярожна прыўзняў яе за плечы.

— Дыхаць… дыхаць няма чым, — ледзь чутна сказала яна.

Збялелыя вусны яе дрыжалі.

«Памірае», — падумаў я і разгубіўся. Ад гэтага кроў хлынула ў галаву, сціснула скроні. Але я перамог нечаканую слабасць, якая можа больш ад гарачыні была, чым ад разгубленасці, узяў

на рукі хворую і панёс яе па дарозе, туды, дзе віднеліся купалы царквы.

Жанчына, здавалася, не дыхала. Твар яе пакрывалі кропелькі поту.

Я ўпарта нёс сваю нялёгкую ношу і з кожным крокам усё больш хваляваўся. Нарэшце мне пачало здавацца, што я не паспею дайсці да пасёлка і жанчына памрэ на маіх руках. Тады я паклаў яе ў жыта і пабег шукаць дапамогі, бо сам нічога не мог зрабіць — жанчына, наколькі я разумеў гэта, хварэла на сэрца, і яе ў дарозе, далёка ад дому, хапіў прыступ.

Я бег, і пот заліваў мне вочы. Дыхалася цяжка. У роце прагоркла.

— Каб не памерла, каб не памерла, каб не памерла, — нібы падлічваў я крокі, і гэта мяне падганяла…

Праз два дні я прыйшоў у бальніцу праведаць яе. Сястра, якая ездзіла тады з доктарам на машыне хуткай дапамогі па хворую, замест адказу паказала мне ў канец калідора. Там, насупраць акна, нехта стаяў у белым халаце. Бальнічны калідор быў доўгі, таму адразу цяжка было разгледзець чалавека. Але праз колькі крокаў я ўжо ведаў, што там стаяла жанчына. Толькі не тая, якую мне давялося ратаваць.

— Мама памерла, — яна ступіла насустрач і заплакала.

Ад яе слоў раптам заныла маё нутро. Заныла, засадніла. Але я ўсё ж пайшоў за дзяўчынай па калідоры, каб даслухаць, што яна гаварыла скрозь слёзы.

— Перад смерцю мама хацела бачыць вас. Гэта ж вы падабралі яе на дарозе ў той дзень. А вы ўсё не ішлі. І яна не дачакалася. Памерла. Дык я потым падумала, што вы яшчэ прыйдзеце. Мне сказаў доктар…

Я мог бы расказаць Чыкілёнку не толькі пра гэта. Але ён астатняе ведаў.

…У сорак першым Чыкілёнак пакінуў Брады, калі апошнія нашы часці перайшлі ля Вусаўкі мост. Дома заставалася цяжарная жонка.

Тады стаяла лета, а ўвосень жонка павінна была радзіць. І ён не павёз яе ў бежанцы — не параілі людзі. Але як толькі прыйшлі немцы, тыя ж самыя людзі разнеслі чутку:

— Бачылі Чыкілёнка ў Шурышчы!..

Суседзі пасля гэтага пачалі заходзіць у хату, робячы выгляд, што дарэмна Вольга хавае ад іх сваю тайну.

— Ты, дзеўка, пабойся Бога, не будзь такой скрытнай, — гаварыла кожную раніцу якая-небудзь Хвядосіха, калі Вольга ішла з вёдрамі да студні. — Ад людзей жа не век хавацца. Бачылі твайго ўчора!..

Вольга доўга не верыла людзям. Але з цягам часу і яна перастала спаць начамі. Чакала, што муж, калі ён сапраўды недзе паблізу, пастукае аднойчы ў шыбіну.

Нарэшце яе паклікалі ў камендатуру.

— Мы ведаем, што ваш муж хаваецца ў лесе, — ветліва ўсміхаючыся, сказаў камендант. — Ён збіраецца шкодзіць нам. Таму мы і паклікалі вас. Вы чакаеце дзіця. Дык перадайце свайму мужу, каб ён праз чатыры дні з'явіўся да нас. Вы павінны ўлічваць абставіны. Пераканайце яго.

Камендант пазваніў некуды і вылез з-за стала. Ён заставаўся ветлівы да канца:

— Назад вас павязуць на маёй машыне. Мы, немцы, любім гасціннасць. Але ведайце, праз чатыры дні я сам прыеду да вас. Канечне, таксама ў госці, бо я спадзяюся, што ніякіх непаразуменняў паміж намі не будзе.

Камендант стрымаў слова.

— Вы нас падвялі, шаноўная, — гукнуў ён яшчэ ад парога, і ў голасе яго не было ранейшай ветлівасці. — Дзе ваш муж? — ужо наступаў ён.

— Я не сустракала яго. Ён ніколі не прыходзіў дамоў. Мусіць, гэта людзі нагаварылі, што ён недзе тут.

Вольгу павялі да возера і паставілі там, крокаў за дзесяць ад берагу, у халодную ваду, як сказаў камендант, прымаць ванны.

На дварэ якраз была восень.

Пасля па Вольгу яшчэ прыходзілі з камендатуры. Але ў яе нарадзілася дачка. Раней часу.

Пасля пачалася хвароба. Камендантавы ванны так не мінуліся. Вольга застудзіла ногі, і ёй давялося вучыцца хадзіць нанава. Цяпер ужо разам з дачкой.

Тым часам вайна канчалася. Як і ўсе людзі, Вольга чакала свайго гаспадара, бо ўжо каторы год атрымлівала ад яго ў ваенкамаце па атэстату грошы. Зрэдку прыходзілі пісьмы. Муж пісаў, між іншым, што ніколі за вайну яму не выпала хадзіць паблізу Брадоў, і таму яго ніхто не мог бачыць у Шурышчы.

Але навошта было варушыць старое? Добра, што ўсё абышлося.

Так думала Вольга.

І вось аднойчы, здаецца, праз тры месяцы пасля вайны, калі жывыя вярталіся пад свае стрэхі, Вольга атрымала пісьмо. Яно было напісана чужой рукой.

Значыць, не ўсё яшчэ абышлося!..

Вольга чытала пісьмо і не давала сабе веры. Літары, выведзеныя жаночай рукой, скакалі перад вачмі, расплываліся. Пісьмо было кароткае. «Я не збіралася пісаць, — чытала Вольга. — Спадзявалася, што ён сам напіша. Ды ён усё адмаўляецца. Але ўжо не час маўчаць. У мяне ад яго будзе дзіця. Маё дзіця таксама мае права на бацьку. Таму я не пушчу яго ў Брады…»

Дачытаць да канца неставала сіл.

На другі дзень Вольга спехам сабралася ў дарогу…

Дом, у якім жыў цяпер яе муж, паказалі людзі. Але калі яна памкнулася было ўзысці па лесвіцы на другі паверх, яе затрымаў міліцыянер.

— Грамадзяначка, — сказаў ён, як мог, стрымана, — сюды вам не паложана. Я вось тут запішу вас, а вы пачакайце, можа хто выйдзе, тады я паклічу.

Вольга падалася назад і больш не спрабавала падыходзіць да дзвярэй кватэры. Яна толькі падумала, што вельмі ўжо неспадзявана перамяніліся часы і што яе жыццё цяпер, відаць, перакулілася назаўсёды. Асабліва бянтэжыў Вольгу гэты міліцыянер. Яго паставілі тут, здавалася ёй, дзеля таго, каб адгарадзіць іх, каб узвесці паміж імі яшчэ большую сцяну. Але яна хацела дачакацца свайго мужа. Яна павінна была расказаць яму, што перажыла праз яго за вайну… І таму засталася стаяць ля пад’езда.

Успомнілі пра яе пад самы вечар.

— А я і не здагадвалася, што ў вас хопіць смеласці так хутка прыехаць, — падышла да яе спакойная, яшчэ зусім маладая жанчына. Яна была вельмі прыгожая, гэта жанчына. Можа таму яна так спакойна і трымалася перад Вольгай. І хто ведае, можа яна адчула гэту сваю перавагу яшчэ задоўга да таго, як сустрэла Вольгу.

— Толькі я не ведаю, — пачала яна, — чаго вы сваёй паездкай дамагаецеся? Ён не хоча з вамі жыць. Дык што вам патрэбна? Вы нарэшце павінны зразумець, што ўжо не пара яму. У яго цяперашнім становішчы такая жонка будзе адно замінаць…

О, гэтая жанчына была занадта шчырая ў сваіх довадах. Яна нават не заўважала, як балюча даймала гэтым сваю маўклівую ахвяру.

— Я размаўляю з вамі як жанчына з жанчынай, — гаварыла далей яна. — Вы не крыўдуйце. Бо я магла нават не падысці да

вас. Вы ўпершыню апынуліся ў вялікім горадзе. Мужа няма дома, і наогул яго доўга яшчэ не будзе, дык я павінна паклапаціцца сама. І потым ён сказаў… Але ж лепш хадземце, я завяду вас да аднаго чалавека.

Вольга адчувала сябе дрэнна яшчэ з раніцы, калі прыехала на вакзал. Затым доўга стаяла ля пад'езда. А зараз гэта жанчына сваёй непадробнай шчырасцю адбірала ў яе апошнюю надзею. Неставала волі на супраціўленне. І яна пайшла следам, спярша па вуліцы, гарачай і дымнай, потым па нейкіх бясконцых калідорах, засланых прыгожымі дыванамі.

Цяпер Вольгу непакоіла ўжо іншае — каб не трапіць нечспадзявана на вочы свайму мужу, бо не хацелася, каб ён пабачыў яе поплеч з гэтай модна апранутай, выпешчанай жанчынай. У душы яна ўжо нават рада была, што яго не аказалася дома.

У кабінеце, куды яе прапусцілі адразу, — не абышлося без намаганняў спадарожніцы, — сядзеў, напэўна, той самы чалавек да якога яны ішлі.

— Дык чым я магу быць карысны вам? — пасадзіўшы Вольгу ў крэсла насупраць сябе, спытаў ён вялым голасам.

— Я прыехала да мужа, — і Вольга назвала прозвішча.

— Ну і што?

Чалавек, відаць, не зусім разумеў, чаго дамагалася ад яго гэта вясковая жанчына. Тады Вольга падала яму пісьмо, якое, уласна, і змусіла яе сабрацца ў дарогу. Ён чытаў тое пісьмо, а Вольга ўпотай выцірала слёзы.

— Так, — прамовіў нарэшце чалавек і зацікаўлена агледзеў Вольгу. — Я штосьці прыпамінаю. Але пачакайце. — Ён адчыніў шуфляду стала і дастаў адтуль сінюю папку. Доўга гартаў старонкі, чытаў паперкі, якія былі ўшыты ў папку, потым усклікнуў:

— Ага, вось яно!..

Ад гэтага воклічу Вользе зрабілася млосна. Сэрца раптам пачула штосьці нядобрае.

— Тут ёсць выпіска з метрыкі… Марына нарадзілася дваццаць шостага жніўня тысяча дзевяцьсот сорак другога года. Так?

— Так, — адказала Вольга, не разумеючы, куды хіліцца гаворка.

— Добра. Тады прачытаем, што піша ваш муж: «Мая жонка нарадзіла дзіця ад немца. Бо я пакінуў Брады ў ліпені сорак першага года, а Марына, гэта значыць мая так званая дачка, нарадзілася… што і пацвярджае метрыка… Таму я і не магу жыць разам».

У Вольгі пахаладзела на сэрцы.

— Гэта няпраўда, — захвалявалася яна. — Тут звычайная памылка. Так запісалі ў сельсавеце. Людзі могуць сказаць. Дачка нарадзілася якраз у сорак першым. І не ад якога немца. Гэта яго дзіця. Уся вёска ведае. Я толькі не дагледзела, як яны там запісвалі. Бо ці думаў тады хто!..

— Дапусцім, што вам можна паверыць, — спыніў яе той жа вялы голас. — Але ж і мужу вашаму я мушу паверыць. Тым больш, што дакументы пацвярджаюць. Вы толькі правільна зразумейце мяне…

Ён гаварыў і далей, але Вольга больш не слухала: сёння чамусьці ўвесь час угаворвалі Вольгу, каб яна нешта зразумела, і ніхто не разумеў яе…

Ужо каторы год Марына высаджвала на матчынай магіле барвіны.

Гэта магіла і мяне парадніла з Брадамі. Я палюбіў і ціхую раку, і лазнякі над ёю, і пясчаныя пагоркі, на якіх аж да самай восені хвалюецца пад ветрам жыта.

Мне палюбілася скупая прырода таго ўсходняга кутка Беларусі, дзе прамінула дзяцінства чалавека, які мне на ўсё жыццё стаў дарагі.

Я ніколі не спадзяваўся сустрэць тут Марынінага бацьку.

Зараз ён меў нешта сказаць мне пра Пычаў бераг. Але я пабрыў далей.

Над ракою па-ранейшаму дыміўся цёплы туман.

*1962*

## МАЦІ

Сонца амаль на вачах пабольшала, зрабілася чырвонае. На зямлі, ужо як на дрожджах, выраслі цені; на вадзе, на самай сярэдзіне возера, пераліваліся, бліскаючы пазалотаю лускі, быццам жыравалі там касякі маленькіх рыбак.

Над Бароўкай, двароў на сорак вёскай, якая падступалася паўкругам да возера (па адзін бок яго стаялі хаты, а па другі — лес), неўзаметку асядаў вечар.

З бярозавага балота, што пачыналася за ніжнімі бароўскімі гародамі, выпаўз туман, і пацягнула яго, як заўсёды, па тарфяным полі на мост, перакінуты цераз роў, які падзяляў Бароўку на два канцы — канаплёўскі іканчанскі. Але сёння туман быў рэдкі, як дым.

Аднекуль з далёкіх заток раптам прыляцелі дзве качкі-мацярухі і закружылі ў пары над возерам. Штосьці трывожыла птушак. І яны доўга кружылі так, баючыся апусціцца на ваду.

Была тая зацішная пара перад заходам сонца, калі ў вёску яшчэ не вярнуліся з поля каровы, а людзі, прыйшоўшы з работы (якраз за Доўгім логам кідалі ў гэты дзень стагі), паспелі ўгаманіцца.

У гэты час і прыйшла ў Бароўку старая Рэйдзіха.

Яе ўбачыла на гуцянскай дарозе Тараськова Ганна. Яна была за вёскай, у Чыкавых печах, зграбала там пад соснамі сухое шыгалле. Даўно ёй кінулася ў вочы адзінокая жаночая постаць на бязлюднай дарозе, але пазнаць, хто гэта, на ноч гледзячы, ішоў у Бароўку, доўга не ўдавалася. І толькі тады, калі Рэйдзіха павярнула на вузкую, утаптаную чалавечымі нагамі сцежку, каб паўз Чыкавы печы прайсці да выгану, па якім трапіш на бароўскую вуліцу, Ганна схамянулася.

— Божа мой… Гэта ж Рэйдзіха!.. — Яна адкінула ўбок граблі і ўтаропіла на яе свае здзіўленыя вочы, як на прывід які.

«І адкуль нясе старую нялёгкая», — падумала яна яшчэ праз момант і адчула, як у сэрцы шавяльнулася штосьці падобнае на прыкрасць.

Рэйдзіха таксама заўважыла Ганну. Яна спынілася крокаў за дваццаць і пазірала на яе, сляпуючы, з-пад рукі. Потым, ужо, мусіць, пазнаўшы, падышла бліжэй.

— Ганна!.. — сказала яна ціха, амаль прашаптала, і раптам заплакала, схапілася за фартух і пачала выціраць слёзы.

Згорбленая, маленькая Рэйдзіха стаяла перад Ганнаю босая — ногі былі парэпаныя, з пакручанымі пальцамі, як у вялікай птушкі, скінутай аднекуль з гнязда: яна цяпер чаплялася сваімі кіпцюрамі, каб перастаць нарэшце падаць, неяк затрымацца хоць тут, на зямлі. Палаплены зялёны андарак ледзь не даставаў ёй да пятак. Не была асабліва новаю і доўгая сацінавая кофта, якую Рэйдзіха насіла навыпуск, так, што з-пад яе толькі звісаў вышываны фартух. Затое на галаву была павязана прыгожая, яшчэ амаль не паношаная гарусоўка — чырвоная, з чорнымі махрамі.

Рэйдзіха ціха ўсхліпвала, а Ганна стаяла, бы скамянелая, і не ведала, што рабіць. Надта ўжо нечакана выйшла гэта сустрэча ў Чыкавых пячах. І трэба ж было здарыцца якраз, што не каму-небудзь — ці мала ў Бароўцы людзей, — а ёй, Тараськовай Ганне, давялося спаткаць Рэйдзіху. Але першыя словы Ганна вымавіла, на здзіўленне самой сабе, спакойна, без прытворства, нават трохі з радасцю:

— А я гляджу, хто гэта ідзе? Гляджу — і вачам не даю веры… Ажно гэта вы, цётка Матруна!

— Ды гэта я, Ганначка, я!.. — Рэйдзіха паспрабавала ўсміхнуцца, але ўсмешка ў яе атрымалася палахлівая і вымушаная. — Вось, прывалакла свае косці, — дадала яна і тут жа нібы спахапілася, папраўляючы сябе. — У Забор'е іду. Памаліцца трэба, свечку паставіць…

— Дык сёння ж, відаць, вы не паспееце туды.

— Не паспею, — згадзілася Рэйдзіха і ўзняла на Ганну свае заплаканыя вочы. — Скажы-тка мне, а гэта ці жывая, ці не, што каля Сёмкі Парашчынага хата стаяла? Ну, як яе? Дай Бог памяць… Аўдотка Мялехава!

— Не.

— І даўно?

— Пасля вайны адразу. Здаецца, на Пятра.

— Скажы-тка, а чаму б гэта яна? Не вельмі каб і старая была…

— Ды каб усё добра, то магла б яшчэ за комінам гадкоў пяць пасядзець. Але вайна, што зробіш…

— А я спадзявалася… значую ў яе.

— Ат, каб жа было толькі тае бяды, што начаваць дзе… У Бароўцы хат многа. Во колькі, глядзіце! — Ганна паказала рукой на вёску. — Ды хоць бы і да мяне зойдзеце. Хата вялікая і новая. На адну. Балазе адбудаваліся нанова ўсе.

Пачуўшы гэтыя словы, Рэйдзіха апусціла галаву. Старая ніяк не чакала, што Ганна раптам пакліча яе да сябе. І яна прыціхла, быццам задумалася, як ёй паставіцца да неспадзяванага запрашэння. Нарэшце сказала:

— Хай табе шчасця дае Бог… А што ж Іван твой?

— Не вярнуўся Іван. Адна пяклуюся.

Рэйдзіха ўздыхнула.

Ганна памарудзіла трохі, потым спытала:

— Ну, а як вы, цётка Матруна?

— Дзякаваць Богу, сыта, адзета. Не я пазычаюся ў людзей, а болей суседзі з добрым і благім да мяне. — Рэйдзіха гаварыла гэта і, здавалася, зусім не клапацілася, паверыць ёй Ганна на слова ці не; яна прайшлася хуценька да памшэлага пня, які вытыркаўся з-пад кучы шыгалля, і села там. — Дзіцёнка перабаблю, кашу на ксцінах паб'ю, на хаўтурках павыю — павыюць і па мне добрыя людзі, — старая зноў схапілася за свой фартух, але на гэты раз яна не заплакала. — Ну, дзякуй Богу, што ты развязала маё сэрца… з начлегам. От, ужо ніколі не думала,

што давядзецца напрасіцца да цябе. А гэта ты навошта? — Яна капнула нагой шыгалле.

— Трэба Ласюце пад бок паслаць, пакуль дажджоў няма.

— У цябе яна даўнавата?

— Не, пярвусцінка.

— Малако ж хоць дае?

— Трохі дае.

— То і добра.

Жанчыны разгаварыліся. Рэйдзіха неяк адразу паспакайнела. Вярнуўся неспадзявана ўнутраны спакой і да Ганны. У душы ў яе ўжо чамусьці не было таго ранейшага пачуцця да Рэйдзіхі, якое яна адчула, калі ўбачыла яе на гуцянскай дарозе, — яго быццам рукой хто адвёў.

У Чыкавых печах тым часам пашарэла. За Бароўкаю зайшло сонца. І тут, паміж рэдкіх дрэў пачаў распаўзацца сіні вячэрні змрок. На захадзе, там, дзе зусім нядаўна было відно сонца, ускочыла маленькае воблачка. Яно было падобнае нечым на белую авечку, якая адбілася ад чарады. Знізу на яго яшчэ кідала сваю чырвань нябачнае ўжо сонца, і таму здавалася, што яно крывавіць.

* * *

Тое, што Рэйдзіха нечакана заявілася ў Бароўцы, дзе яе ніхто ўжо не бачыў, можа, цэлых трыццаць гадоў, больш таго, дзе яе ніхто не спадзяваўся нават бачыць — пра яе даўно не ўспаміналі ў вёсцы, бо к слову неяк не прыходзілася, — дзівіла не толькі Тараськову Ганну: навіна за якую паўгадзіну абляцела ўжо сорак бароўскіх двароў, і ў кожнай хаце толькі і гаварылі пра гэта.

Начавала Рэйдзіха ў Ганны. Пасля вячэры на скорую руку — хлеб з малаком — яна яшчэ пасядзела трохі на лаўцы пад вокнамі: людзям лішні раз паказалася на вочы, потым папрасілася на спачын. Ганна палажыла яе за грубкай, на свежым, толькі што напханым сенніку. І Рэйдзіха варочалася на ім з боку на бок, шаптала замест малітвы ў падушку:

— Прытаміліся мае ножачкі, апускаюцца мае ручачкі, баліць маё ўсё цела… Пара спакой даць старым касцям…

Сёння ўвесь час — і тады, калі падышла ў Чыкавых печах да Ганны, і пасля, ужо ў вёсцы, калі сустракалася са сваімі былымі суседзямі, — яна чакала, што вось-вось людзі пачнуць гаварыць пра яе сына. Гэтага старая баялася больш за ўсё на свеце. Але Бог літасцівы быў, і ніводзін чалавек не напомніў пра яго. І цяпер

яна, лежачы ў пасцелі, употай радавалася і, можа, першы раз за ўсё доўгае жыццё, як ведала бароўцаў, у душы ўдзячна была ім за іх кароткую памяць.

Але ці такая ўжо кароткая памяць у гэтых людзей?

…У Рэйдзіхі калісь быў муж — Лазар Рэйда, чалавек чорны і хмуры, як асенняе неба; быў таксама ў яе і сын— Яшка, такі ж чорны і хмуры, але ростам трохі ніжэйшы, ды і сілы ў ім было меней, чым у бацькі. Людзі казалі, што чарната ім перадалася ад дзеда, які быў смалакурам, а хмурасць… тут ужо можна было рабіць любыя здагадкі. І ўсё ж, відаць, самае першае, на што кожны ківаў, дык гэта тое, што Лазар Рэйда амаль усё сваё жыццё правёў у лесе. У пана ён служыў леснікам, пры савецкай уладзе таксама быў на той жа пасадзе. І праз усё сваё леснікоўства ён заставаўся жыць з сям'ёй на адным месцы — пад Круглым, там, дзе пасярод сасновага бору стаяла леснікова хата, якую збудаваў для сваёй службы яшчэ пан Сарока, здаецца, ажно ці не прадзед апошняга бароўскага пана. Гэта — кіламетры за тры ад Бароўкі, і, можа, столькі было ад Круглага да іншых вёсак. Абход быў якраз самы большы з усіх. За дзень Рэйда толькі і паспяваў прайсці яго ўздоўжкі, так што ў чалавека, нават калі б ён захацеў, усё роўна не хапіла б часу, каб пабываць у знаёмых на вёсцы. Ды і сама служба вымагала якраз таго, каб ляснік паменш вадзіўся з мужыкамі, бо гэта ж менавіта ад іх паны і трымалі яго ў лесе. А Рэйда службу знаў. І нёс спраўна. За гэта пан яму нядрэнна плаціў, а мужыкі — клялі і не адзін раз спрабавалі пацэліць з ружжа ў яго шырокую спіну.

Тым часам вакол леснікова хаты, на лугах, на якіх стаяла некранутая трава, ад рання да позняга вечара бадзялася плойма кароў. Гэта была ўжо Рэйдзішына гаспадарка. Каровы пасвіліся амаль па ўсім Круглым адны, а ўвечары, як толькі ў лесе рабілася цёмна, яны вярталіся дамоў, ледзь не валакучы па зямлі вымі, прапахлыя малаком. І не знаходзілася на іх ні напасці якой, ні тых жа ваўкоў, што нападалі на худобу вяскоўцаў і быццам не мелі таго ж самага нюху на леснікоўвых кароў. Пану таксама не рупіла палічыць, колькі ў яго лесніка было кароў ды і коней, якіх той кожнае лета прадаваў цыганам. Пана цікавілі адны свежыя пні ў лесе. А іх, свежых пнёў, дык якраз і мала бачыла яго вока ў Рэйдавым абходзе, бо той трымаў мужыкоў у чорным целе — не даваў ім з панскага лесу ні сена, ні палена.

І праўда ці не, а паміж людзей ужо хадзіла чутка, што Рэйда неяк вёў гаворку са сваім панам, каб купіць у яго маёнтак. Так гаварылі ў Бароўцы. Але нічога з гэтага торгу ў іх не выйшла.

Тым больш што неўзабаве пачалася адна рэвалюцыя, потым другая, і пасля гэтай апошняй рэвалюцыі ніхто ўжо не збіраўся ні купляць, ні прадаваць зямлі. Пан раптам некуды падаўся ў губернскі горад, а зямлю яго ў хуткім часе падзялілі мужыкі. Панскі лес адышоў дзяржаве. А лесніком у ім астаўся Рэйда. Яго не зачапілі, і ён нёс сваю службу, як і раней.

Змены ў лесніковым жыцці адбыліся гадоў праз дзесяць. Раптам у лясніцтве нехта дакапаўся, што Рэйда прадаваў дзяржаўны лес, і яго прагналі з Круглага. Тады ён прыйшоў у Бароўку і стаў шныраць па ўсёй вёсцы, выглядаючы месца, дзе лепш пабудавацца. Але месца яму не знайшлося — проста ніхто не захацеў дзеля такога выпадку пацяснііцца, бо кожны меў на яго зуб за леснікоўства. І Рэйду нічога не аставалася, як паставіць сабе хату адразу за коўратамі, у канаплёўскім канцы, там, дзе да самых верхніх бароўскіх гародаў падыходзіць бальшак. Тут ён і дацягнуў да калгасаў. І калі сяляне пачалі ладзіць гаспадарку разам, ён пасміхаўся ўжо з іх, стоячы пасярод свайго двара, можа, самага ўпарадкаванага на ўсю Бароўку — кругом новай, на дзесяць акон, хаты была зроблена дашчаная агароджа, праз якую чужое вока не магло нават глянуць. У калгас Рэйда не хацеў ісці.

— Баронь Божа, — аднекваўся ён, — чужое піць і ад чужога карысць мець.

Ды, урэшце, Рэйду не вельмі і клікалі да сябе аднавяскоўцы, акрамя, вядома, начальства, якому патрэбны быў у калектывізацыі поўны працэнт. І вось гэты працэнт — ім цяпер стаў і Рэйдаў двор — не даваў выканаць план. Хто ведае, можа, якраз ён потым і вырашыў астатняе.

Аднойчы загарэўся калгасны кароўнік. Гарэў ён усю кароткую летнюю ноч, а раніцою, калі дым ужо рассеяўся, у Бароўцы паявіўся конны міліцыянер. Ён спачатку прагарцаваў па вуліцы на сваім вараным стаенніку, потым павярнуўся за коўраты, да Рэйдавай хаты. Там ён арыштаваў Рэйду і пагнаў яго пад наганам па пыльным бальшаку ў раён.

Роўна праз тыдзень пакідалі Бароўку і Рэйдзіха з сынам. Відаць, яны ‘спалохаліся, што будуць раскулачваць іхнюю гаспадарку, і заспяшаліся пагрузіць свае куфры на калёсы.

З таго часу Рэйдзіха ў Бароўцы не паказвалася.

Але ў сорак другім годзе паявіўся ў Бароўцы Якаў Рэйда. Ён наляцеў на вёску разам з карным атрадам, у чужой вайсковай форме з чарапамі на рукаве. Рэйдзішын сын, ціхі і непрыкметны чалавек, якога ніколі не было відаць з-за бацькавай спіны, апынуўся раптам у немцах. Стаяў здраднік поплеч з нямецкім

афіцэрам на высокім ганку былога калгаснага праўлення і зларадна пазіраў, як салдаты зганялі на пляц людзей з усяе Бароўкі. На гэтым пясчаным пляцы, дзе да вайны калгаснікі збіраліся пасля ўсходу сонца, каб атрымаць ад брыгадзіра нарад, цяпер была падрыхтавана вісельня. Каго надумалі немцы павесіць на ёй, бароўцы не ведалі аж да таго часу, пакуль не сышоў з ганка Якаў Рэйда. Ён падскочыў да старога Тараська і, штурхаючы аўтаматам у спіну, павёў яго да вісельні.

Тараська немцы павесілі. Але на гэтым яны не спыніліся. У той жа дзень згарэла ўся Бароўка. Рэйдзішын сын першы паднёс палаючы смаляк пад саламяную страху Тараськовай хаты. Потым яшчэ некалькі хат падпалілі нямецкія салдаты, якія хадзілі ўслед за ім. Астатняе дарабіў за іх вецер: якраз стаяў ветраны дзень, і полымя, пералятаючы, як жывое, з аднае страхі на другую, няшчадна зашугала па ўсёй вёсцы.

Пасля пажару Ганна, заходзячыся ў горы, хавала свайго бацьку. На папялішчы тым часам пагарэльцы пракліналі на чым свет стаіць і немцаў, і здрадніка, і маці, якая нарадзіла яго.

Якава Рэйду партызаны потым злавілі толькі на другое лета, калі быў разбіты пад Панькаўскай Будай карны атрад, у якім ён служыў з самага сорак першага года. Здрадніка прывезлі ў Бароўку і застрэлілі на краі бярозавага балота, там, дзе ледзь не круглы год цвякае пад нагамі ржавая вада.

* * *

Назаўтра, хоць ад стомы за ноч не ўляглася ламота ў касцях, Рэйдзіха ўсхапілася рана. Агледзеўшы з непрывычкі Ганніну хату, старая ўлезла ў свой шырокі андарак, потым асцярожна, каб не разбудзіць гаспадыню, прашмыгнула, як мышка, у сенцы, дзе на лаве стаяла кадка з вадой, апаласнула свой маршчыністы, рубцаваты твар і выйшла на ганак.

Туман яшчэ не паспеў зусім асесці, хоць на вёсцы яго і не было ўжо. Затое над возерам ён плаваў, як абястлушчанае малако: то паднімаўся, паказваючы цёмнае люстра вады, то апускаўся заслонаю, хаваючы ўсё ад вачэй. Лес, што падступаўся да возера з другога боку, здавалася, калыхаўся, стоячы на воблаках.

На ўсходзе па чыстым небе, толькі што адарваўшыся ад зямлі, узбіралася ўгору сонца. Але яно было нейкае цяжкое, бы перагружанае чым, і амаль не праменілася.

Вёска як бы драмала яшчэ. На вуліцы — ні душы. І толькі аднекуль здалёк далятала раз-поразу: лясь-лясь, лясь-лясь…

Хтосьці ладзіў касу.

Услед за Рэйдзіхай, праз колькі хвілін, на ганак выйшла з сенцаў гаспадыня. Ёй таксама не заспалася: як прагнала на ранкі за пастухом карову, дык ужо і не заплюшчыла ад таго часу вачэй.

— Благадаць тута, — пачуўшы крокі, прамовіла Рэйдзіха, і ў голасе яе прагучалі аднчасова ўсхваляванасць і зайздрасць. — Чыстая благадаць!

Ганна сцепанулася ад ранішняга халадку і, павярнуўшыся да Рэйдзіхі, можа, упершыню за ўвесь час, як давялося ім быць разам, уважліва паглядзела ёй у твар — зусім ужо стары, збляклы, з маленькімі вачмі, у пустэчы якіх правальваліся ўсе яе патаемныя думкі.

— А ў нас заўсёды так было, — азвалася Ганна і тут жа пашкадавала, бо падумала, што Рэйдзіха яе словы можа ўспрыняць як папрок.

Яна пачала лавіць сябе на той думцы, што ўжо каторую гадзіну, з самага ўчарашняга надвячорка, паводзіць сябе з гэтай жанчынай так, быццам у нечым была вінаватая перад ёй і цяпер аберагае яе ад усяго, што, крый божа, можа прычыніць знячэўку старой непрыемнасць.

Рэйдзіха не стала бавіцца ў Ганнінай хаце — праз які час пачала збірацца ў дарогу. Ганна не адгаворвала. Але перад тым як пераступіць парог і выйсці на вуліцу, старая раптам затужыла моцна і, уздыхаючы, захадзіла босая па хаце з кутка ў куток, як падстрэленая варона.

Ганна маўчала. Па праўдзе кажучы, у апошні момант ёй чамусьці ўжо нават хацелася, каб Рэйдзіха як хутчэй сышла з яе двара. Ёй здавалася, што, прымаючы Рэйдзіху ў сваёй хаце, яна тым самым рабіла нешта нядобрае ў дачыненні да суседзяў, хоць і ведала — ніхто не будзе дакараць яе, бо кожны на яе месцы зрабіў бы тое самае. Ды ці заўсёды дойдзеш да згоды паміж тым, што адчуваеш у сэрцы і што робіш? Але яна, вядома, таксама не падумала, каб хоць намёкам прыспешыць старую. Яна толькі сказала напаследак, што ў Забор'і, куды тая хацела падацца, царква ўжо даўно закрыта, бо спіўся поп, і туды цяпер ці варта ісці — адно нагам лішняе работы задасі. Рэйдзіха насцярожылася, кінула кароткі збянтэжаны позірк на Ганну і раптам зноў, як і ўчора, без дай прычыны заплакала, пачала камячыць у руках сваю гарусоўку, якую не паспела павязаць на галаву. Плачучы так, яна падышла да Ганны за крок і загаварыла скрозь слёзы. Гаварыла яна доўга, блытана, нават спачатку цяжка было дайсці да сэнсу яе слоў. Але пакупова Ганна ўсё ж зразумела, што

хвалявала старую: тая на прамілы бог, гатовая поўзаць ля ног, прасіла паказаць ёй… сынаву магілу.

…Да бярозавага балота Рэйдзіху павёў суседскі хлопчык, дзесяцігадовы Аўласаў Міцька. Яго ледзь угаварыла Ганна схадзіць туды з Рэйдзіхай. Рушылі яны па загароддзю, абыходзячы вёску з другога боку. Гэту дарогу выбрала сама Рэйдзіха. Ідучы ўслед за Міцькам, вакол якога круціўся вялікі чорны пёс, старая горбілася і спатыкалася, але ўсё прыбаўляла кроку, быццам уцякала куды, чуючы за сваёй спіной буру. Неўзабаве яны падышлі да бярозавага балота. Міцька трохі патупаў каля кустоў, потым спыніўся і з хлапечай абыякавасцю паказаў на дзірван:

— Недзе тут…

Сабака, пачуўшы гэтыя словы, успрыняў іх па-свойму, як каманду шукаць, і скокнуў да таго месца, куды паказаў рукою Міцька. Павіскваючы ад якойсьці незразумелай сабачай радасці, ён зашкроб сваімі вялікімі белымі лапамі па зялёным дзірване, і хутка з-пад яго вострых кіпцюроў пасыпаўся, як руда, балотны пясок. Але Рэйдзіха не дала капаць далей. Яна нечакана падскочыла да сабакі, пхнула са злосцю босай нагой і павалілася, бы падкошаная, на дзірван, прыпала да яго сваімі высахлымі грудзьмі. Яна не плакала. Затое часта і трывожна цяпер білася ў грудзях, гатовае вылецець адтуль назусім, яе кволае старэчае сэрца. Удары яго, напэўна, чуваць было нават праз тоўсты, паточаны чарвямі дзірван. Рэйдзіха штосьці шаптала, варушачы сухімі вуснамі. Рукі яе, жоўтыя і слабыя, сутаргава і бездапаможна коўзаліся па мокрай, яшчэ не высушанай ад расы траве, быццам намагаліся награбці на гэтым роўным шматгадовым дзірване магільны курганок.

*1963*

## БУЛЬБА

Уранні прыйшлі нашы — спачатку па Зацішанскім бальшаку прагрукаталі, ляскаючы жалезам, танкі, пасля, можа, праз паўгадзіны, з-за пагорка паказалася пяхота. Калоны пехацінцаў павольна спускаліся ў нізіну, што перад вёскай, і адтуль, расцякаючыся, як ручаіны вясной, па лясных і палявых дарогах накіроўваліся далей, да Беседзі. У вёсцы тым часам дагаралі хаты.

Ля вясковых могілак ужо бегалі артылерысты. Там спынілася гаўбічная батарэя, і артылерыйскія разлікі ўстанаўлівалі

гарматы, рылі акопы. За лесам, мусіць, ля самай Беседзі, за якой акапаліся немцы, — там цяпер была перадавая, — неўзабаве пачуліся густыя вінтовачныя стрэлы; часам адтуль даносіліся і кулямётныя чэргі.

Гулі матогы. І гэты гул іхні то нарастаў, нібы станавіўся сцяною, то заціхаў.

Па небе плылі нізкія хмары. Але дажджу не было. І ўжо каторы дзень. Відаць, хмары былі бясплодныя.

На папялішчы патроху сыходзіліся людзі. Ніхто не плакаў.

Не смяяліся і салдаты. Яны ішлі к Беседзі маўклівыя.

У сорак трэцім мы былі яшчэ зусім малыя, але запомнілі гэтых салдат… Мы — гэта Мішка Бычыхін, Санька Брылеў і я. У вёску тады мы першыя прыбеглі з лесу і ўжо цэлага паўдня сядзелі ў сасняку ля школы, запаліўшы вогнішча. Школа ўцалела. Немцы чамусьці яе не зачапілі. Можа, таму, што знаходзілася яна наводшыбе і была пад жалезным дахам. Паўз яе цяпер ішлі ў калонах салдаты. А мы сядзелі каля вогнішча і, як зачараваныя, моўчкі ўглядаліся ў іх загарэлыя, стомленыя твары. Мы былі дзеці, і ў кожнага з нас на вайне быў бацька. Дык і думалася — а можа, якраз тупае бацька вось так у страі і не пускаюць яго камандзіры дамоў, крый бог, пройдзе міма.

Верасень быў на склоне. Бярозы на бальшаку страсалі сваё апошняе лісце — рана яно пажоўкла. Вецер гнаў яго па полі, збіраў на ўскрайку лесу. Было няўтульна, нават холадна. На папялішчах, нібы шкілеты, дзе-нідзе стаялі адзінокія печы — тыя, што некалі клаліся без штандараў, адразу на зямлі. Печы былі яшчэ гарачыя.

Вогнішча наша дыміла, сіпелі дровы, часам да вогнішча падбягалі салдаты. Яны прыкурвалі «ад вугалька», гладзілі нас па галовах і, не распытваючы ні аб чым, спяшаліся даганяць сваіх. А гэтых «сваіх» было многа-многа!.. Нават здавалася, што якой-небудзь калоне канца-краю не будзе. Але праходзіў час, дарога раптам пусцела. Ды ненадоўга. Хутка зноў чуўся тупат. І зноў пад вокнамі школы пачынала калыхацца маўклівая шэра-зялёная салдацкая калона. Ляскалі кацялкі. У нашых салдат яны былі вялікія і круглыя, бы рондалі, і, пэўна, заміналі ў паходзе, б'ючы па баку. Здаралася, што салдаты ішлі невялікімі групамі. Але рэдка. Затое гэтыя амаль ніколі не абміналі нашага вогнішча. А пад самы вечар, калі пачалі ўжо грамыхаць ля могілак гаўбіцы, у сасняку, дзе гарэла вогнішча, спыніліся артылерысты. Іх было чалавек дваццаць, з адной-адзінай маленькай гарматкай, якую

цягнулі коні. Відаць, гэта была якаясьці батарэя, — можа, яна нядаўна выйшла з бою і засталася без гармат. Коней артылерысты не распрагалі: павесілі ім на галовы брызентавыя вёдры, і коні ляніва хрумсталі авёс.

Артылерысты былі вясёлыя людзі — не тое, што змардаваныя пехацінцы. Яны тут жа сышліся да нашага вогнішча, пачалі жартаваць, а адзін, чорны, мусіць, армянін — у рысах яго твару была дзіўная мешаніна дабрадушнасці і гарэзлівасці, — нібы прыліп да Санькі Брылева — дапытваўся, чаму ў таго рыжая галава.

— Выгарала, — казаў Санька.

Салдат паціскаў плячамі і хітра ўсміхаўся, пазіраючы на сваіх сяброў.

— На сонцы? — пытаўся ён.

— Ыгы. — Санька быў трохі старэйшы за Мішку і за мяне, але вельмі сарамлівы і нясмелы; салдаты лагодна смяяліся, а ён чырванеў, як дзяўчо. Затое самы наіўны сярод нас быў Мішка.

— У яго шапкі няма, — падказаў ён.

— Шапкі няма? — Чорны артылерыст раптам перастаў смяяцца, задумаўся на момант і неўзабаве зноў пырснуў ад смеху: — Эй, Сідараў, — гукнуў ён, — топай сюды!

Падышоў Сідараў — нізкі, але надта тоўсты салдат, апрануты ў зашмальцаваны бушлат, які ўжо, пэўна, не адзін раз гарэў у яго, бо на правым баку тырчала пабурэлая вата. Сідараў быў салдат у гадах — яго нават можна было палічыць за старога. Відаць, ён не любіў шумных кампаній, бо мы яго каля вогнішча за колькі хвілін бачылі ўпершыню — увесь гэты час чалавек праседзеў недзе пад сасной, схаваўшыся за гарматкай.

— Паслухай, Сідараў, — звярнуўся да яго чорны артылерыст, — вось гэтаму меднаму кацялку, — ён паказаў на Саньку, — патрэбна шапка. Ты разумееш, у яго няма шапкі. А ў цябе, Сідараў, дзве, пілотка і вушанка. Я ўчора бачыў вушанку ў тваім мяшку. Ты вытрас бы з яго, а? Ну, Сідараў, не будзь скарэдай, аддай хлопцу шапку.

Сідараў глянуў соннымі вачамі на Саньку, затым перавёў позірк на чорнага артылерыста.

— Дык я ж гэта для свайго сына, — неяк жаласна сказаў ён.

— Я так і знаў, што ты пашкадуеш. І калі ты толькі станеш чалавекам, Сідараў, а? Ну як ты аддасі сыну гэту шапку? Ты думаеш, што скора трапіш на свой Урал? Нам на той свет, братка, бліжэй, чым туды. Ах, Сідараў, Сідараў… — прытворна ўздыхнуў чорны артылерыст. — Каб я ведаў, што ты будзеш такі скупы, то не цягнуў бы цябе за вушы з таго балота. Помніш?

Сідараў, напэўна, помніў пра тое балота, але цяпер маўчаў, зыркаючы на бялявыя языкі полымя. Не хацелася яму аддаваць сваю вушанку чужому хлапцу. Але ж гэты чорны прыстаў… Смала, а не чалавек… Ды Сідараў, пэўна, не ўмеў і агрызнуцца добра. А тут яшчэ салдаты загулі:

— Аддай, Сідараў…

— Аддай…

— Навошта яна табе?..

— Сыну яшчэ лепшую знойдзеш…

— Пасля бою іх многа валяецца…

І скупы Сідараў не вытрымаў. Ён вярнуўся да воза, што стаяў непадалёку ад дарогі, пакапаўся там, дастаў памятую салдацкую шапку-вушанку і аддаў яе чорнаму артылерысту.

— Насі, Санька, — сказаў той і надзеў хлопцу на галаву шапку — яна была вялікаватая для Санькавай галавы і налазіла на вочы. — Насі, Санька, — паўтарыў ён і прытворна ўздыхнуў. — Насі і ўспамінай мяне. Чуеш? Мяне! Сідарава ўспамінаць няма за што. Гэта ж, калі б не я, не было б у цябе гэтай шапкі. Сідараў не даў бы. Гэта ўсё я.

Чорны артылерыст гаварыў сур'ёзна, але ў вачах усё яшчэ скакалі вясёлыя чорцікі.

Тым часам непадалёку загарэлася другое вогнішча — хтосьці запаліў яго там, нанасіўшы непрыкметна дроў. Салдаты адзін за адным пачалі адыходзіць ад нашага вогнішча. Толькі чорны артылерыст заставаўся з намі — здавалася, ён і не збіраўся пакідаць свайго месца. Але ж яго паклікалі.

— Схадзі па лейтэнанта, — сказаў яму салдат у накінутай на плечы ватоўцы.

— Куды гэта?

— Ву-у-нь, — салдат у ватоўцы паказаў у той бок, дзе знаходзілася гаўбічная батарэя, якая цяпер чамусьці не страляла.

— Тады айда, хлопцы!

Мы ўскочылі на ногі.

— Не бяры іх.

— Чаму? Там прыстрэлку правялі ўжо.

— Таму і не трэба іх весці туды, — злосна гыркнуў артылерыст у ватоўцы і тут жа палагаднеў, дадаўшы: — Цяпер немец можа батарэю нашчупаць.

Нам вельмі хацелася пайсці, пабыць на батарэі, і мы неўзлюбілі артылерыста ў ватоўцы, які не пускаў нас туды. Чорны артылерыст пайшоў адзін. Неўзабаве ён вярнуўся і прывёў адтуль двух афіцэраў — у аднаго з іх на пагонах было па тры

маленькія зорачкі, у другога — па адной. І вось той, што меў на пагонах толькі па адной зорачцы, сказаў свайму спадарожніку:

— Мая гаспадарка.

— І нішто сабе гаспадарка.

— Ну, ну, скажы… — «Гаспадар» неспадзявана тыцнуў кулаком пад бок свайму спадарожніку, і яны разам гучна засмяяліся.

— Эй, старшына!

Да афіцэраў падскочыў артылерыст у ватоўцы, выцягнуўся перад імі і зухавата казырнуў, паднёсшы руку да пілоткі.

— Друга сустрэў. Старшага лейтэнанта. Вось. Дык, можа б, ты, старшына, даў чаго-небудзь нам… пакуль немец маўчыць. Ці ёсць там яшчэ?

— Знойдзем, таварыш камбат.

Афіцэры накіраваліся да нашага вогнішча. Чорны артылерыст, што паспеў ужо за гэты час прычапіць да Санькавай шапкі зялёную зорачку, якую ён невядома калі выразаў з бляшанкі, пахваліўся:

— Глядзіце, таварыш лейтэнант, як мы тут хлопца прыбралі. — І паказаў на пачырванелага Саньку.

— Хто ж гэта яму ўдружыў такую?

— Сідараў.

— Сідараў? — здзівіўся малодшы лейтэнант.

— Глядзі ты! А я і не думаў, што Сідараў на такое здольны. Ажно смешна. Не, мусіць, гэта ты згвалціў яго. Скажы, ты?

— Не, ён сам. — Чорны артылерыст сказаў гэта і апусціў вочы.

— Ну, сам, дык і сам, — згадзіўся малодшы лейтэнант і растлумачыў: — Ёсць тут у мяне салдат. Кажуць, вайна людзей перарабіла. А Сідараў і на вайне застаўся скупярдзяем. У яго снегу леташняга не дапросішся.

Старшына прынёс плашч-палатку, разаслаў яе і пачаў «калдаваць» на ёй — спачатку паставіў кацялок, затым нарэзаў хлеб на тонкія лусты, пасля дастаў з кішэняў дзве гранёныя шклянкі і, павярнуўшы дном угору, апусціў іх перад афіцэрамі, сказаўшы чамусьці:

— Вось…

— Ведаеш, Аляксей Фаміч, — загаварыў раптам старшы лейтэнант, які амаль увесь час маўчаў, — усё хацеў я бульбы печанай наесціся. Думаў, прыйдзем на беларускую зямлю, накапаю дзе-небудзь бульбы і напяку на такім вогнішчы. Ажно не. Усё не збяруся. Ужо другі дзень на гэтай зямлі, а бульбы не паспытаў.

— Ну і жаданне ў цябе, скажу… дзіўнае.

— Дзіўнае? Але ж аднойчы як накармілі мяне печанай бульбай, дык і дагэтуль смаку той бульбы не забыў. Недзе пад Гомелем было гэта. У сорак першым. Астаткі нашага палка — усяго некалькі чалавек — выходзілі тады з акружэння. Ішлі мы ўсю дарогу галодныя. У вёсках немцы. Туды нам нельга заходзіць… Схопяць адразу. Так і бадзяліся галодныя, пакуль не натрапілі на хлапчукоў, такіх вось, — старшы лейтэнант кіўнуў галавой у наш бок. — Пасвілі яны цялят за вёскай і бульбу пяклі. Дык мы і наваліліся на іхнюю бульбу, ажно, небаракі, пячы не паспявалі. І вось з таго часу жыву надзеяй пакаштаваць калі-небудзь яшчэ печанай бульбы. Кажуць, беларуская нейкая асаблівая. Не ведаю, цяжка меркаваць мне, чалавеку, які нарадзіўся і жыў у пшанічным стэпе. Але, можа, і сапраўды смачней за яе нідзе не бывае.

— У цябе гэта псіхалагічны фактар.

— Можа. Але ў такіх, як я, ці мала гэтых псіхалагічных фактараў ад сорак першага засталося. Паверыш ці не, урэшце, як хочаш, справа твая, толькі нават раны ад сорак першага ныюць па начах мацней, чым тыя, што пасля былі.

— Ну, але. — Малодшы лейтэнант уздыхнуў, пасядзеў трохі, задумаўшыся, затым зусім вясёлым тонам сказаў: — Дык тады за чым затрымка, дарагі мой таварыш! Папросім, і гэтыя вось хлопцы зараз жа навалакуць сюды бульбы, колькі душа твая жадае. Хочаш, нават салдата магу паслаць. Тут жа зусім недалёка. Амаль побач.

Старшы лейтэнант адказаў не адразу. Ён колькі часу маўчаў яшчэ, нібы сапраўды раздумваў, як лепш зрабіць, — ці сягоння заняцца бульбай, ці адкласці на заўтра.

— Не, сёння позна ўжо. Я заўтра лепш прыйду. Як, хлопцы, будзе бульба?

— Будзе, — адказалі мы ледзь не ў адзін голас.

Старшы лейтэнант здаволена пацёр рукі і неяк радасна, амаль па-дзіцячы заўсміхаўся нам, паказваючы свае белыя зубы. Гадоў яму было, можа, якіх дваццаць пяць. Росту ён сярэдняга, шырокі ў плячах і тонкі ў поясе. Густыя русыя валасы яго святлейшыя нават за твар загарэлы, і гэта адразу кідалася ў вочы, асабліва калі ўлічыць яшчэ, што ў старшага лейтэнанта былі да таго ж цёмныя бровы і чорныя вейкі.

Недзе ў хмарах зайшло сонца, бо на дварэ неўзаметку пашарэла, і ўжо, пэўна, зусім няшмат заставалася да восеньскіх пацёмак. Перад вечарам нечакана зрабілася ціха кругом — нават перасталі страляць.

— Ну, вось і вайна скончылася, — прыслухаўшыся, сказаў старшына.

— Чаго захацеў! — Малодшы лейтэнант нejак нявесела ўсміхнуўся. — У нас жа з табой ёсць адна саракапятка. Дык ці можа здарыцца так, каб і яна ўцалела. Мы яшчэ заўтра яе дзе-небудзь пакінем, разбітую.

— Нічога, саракапятак зноў дадуць. Чаго-чаго, а гэтага… не пашкадуюць. Ох, і бярэ зайздрасць… — Але старшыня не дагаварыў, чаму яго бярэ зайздрасць.

— Ладна, старшына, — перапыніў малодшы лейтэнант. — Навошта скардзіцца і зайздросціць чужым. Ідзі, старшына. Далей я ўжо і сам здагадваюся, што да чаго тут. — Ён узяў з рук старшыны фляжку: — У вас там скора каша?

— Зараз будзем пачынаць.

— Не забудзь хлопцаў гэтых накарміць.

…Па зямлі плыў добры вечар, калі нарэшце была з’едзена салдацкая каша — прасяная, на сале. Мінула яшчэ гадзіна — і апусцеў сасняк, што каля школы. Артылерысты пастроіліся на дарозе і рушылі, ціха перагаворваючыся, услед за сваёй адзінай саракапяткай.

Начавалі мы ў школе. Але пакуль бавіліся з салдатамі ля вогнішчаў, з лесу вярнуліся сем’і, і ў школе ўсе класы былі заняты пагарэльцамі. Спаць давялося на падлозе. Парты, якія ўцалелі за два гады акупацыі, яшчэ ўдзень пазносілі ў адзін клас. Ды і засталося іх тут мала. Пры немцах у школе амаль ніякай вучобы не было. У верасні сорак першага староста хацеў было сабраць дзяцей, ды хутка мусіў адмовіцца ад сваёй задумы, бо не знайшлося настаўнікаў. Праўда, к зіме ў вёску прывалаклася аднекуль Моркаўка-Брыкікі — кульгавая выкладчыца геаграфіі. Яна і да вайны працавала ў нашай школе. Здаецца, тады і далі ёй такую мянушку — «Моркаўка-Брыкікі»; настаўніца не магла выгаварыць слова «буракі», у яе чамусьці атрымлівалася: «брыкікі». І вось гэтая Моркаўка-Брыкікі паявілася ў вёсцы. Але пры новай уладзе ёй удалося правесці ўсяго некалькі ўрокаў: аднаго разу да гаспадыні, у якой яна кватаравала, прыйшлі ўзброеныя людзі ў цывільным, можа, нават і партызаны, хоць іх тады ў нашых краях і не чуваць яшчэ было, — дык яны прыйшлі, паднялі з ложка Моркаўку-Брыкікі і павялі з сабой. З таго часу яе ніколі не бачылі. З таго часу і школа заўсёды пуставала.

Уначы пачаўся на Беседзі бой. Ля могілак грамыхалі, калоцячы зямлю, гарматы. Пад вокнамі школы, не заціхаючы, гулі машыны.

На Беседзі, гэтай невялікай воднай перашкодзе — рацэ, якую гарачым летам і курыца перайсці можа, немцы пратрымаліся ажно тры дні. Нечакана завязаліся ўпартыя баі. Наша пяхота многа разоў паднімалася ў атаку, але варожыя кулямёты, што стаялі на высокім правым беразе ад Малога Хоцімска да Белай Дубровы, кожны раз прымушалі яе адкаціцца назад, засесці ў сваіх акопах на ўскраіне лесу. На цёмна-зялёнай траве шырокага заліўнога лугу, што быў паміж лесам і Беседдзю, з кожнай новай атакай большала трупаў з пасінелымі тварамі. Нарэшце, недзе за Белай Дубровай камандаванне, пад прыкрыццём «кацюш», пераправіла цераз Беседзь танкавую брыгаду, і «трыццаць-чацвёркі», рухаючыся ўздоўж ракі з усходу на захад, узламалі нямецкую абарону.

Пакуль ішлі баі, мы — Мішка Бычыхін, Санька Брылеў і я — не адыходзілі ад вогнішча, якое ўсё палілі на адным і тым жа месцы. Па-ранейшаму паўз школу рухаліся к Беседзі войскі. А адтуль, пачынаючы з самае раніцы, везлі на машынах раненых. Вясковыя бабы падыходзілі паглядзець на іх і пасля плакалі, адыходзячы. Мы цярпліва сядзелі каля вогнішча і чакалі старшага лейтэнанта. У нас была напагатове для яго печаная бульба. Але старшы лейтэнант не прыйшоў…

*1963*

## У БАКУ АД ДАРОГІ…

Снарад упаў каля дарогі неспадзявана — прыляцеў аднекуль, і ніхто нават не пачуў. Асколкамі былі забіты чацвёра салдат з другога ўзвода і паранены ў жывот камандзір роты Сямён Кажанаў. Пакуль хавалі забітых, санінструктар перавязаў параненага.

Капітан ляжаў крокаў за сто ад дарогі, на паляне, куды яго перанеслі салдаты. Ён доўга не мог гаварыць, толькі стагнаў, хоць болю вялікага і не адчуваў: адно пякло ўсярэдзіне. Хацелася піць. І яшчэ хацелася пабачыць свайго палітрука.

— Дзе палітрук? — нарэшце спытаў ён і здзівіўся — голас дрыжаў і быў слабы.

Палітрук стаў у галавах.

— Ну вось, камандаваць я, відаць, не здолею ўжо, — сказаў камандзір роты. — Давядзецца вам. — Ён так і не паспеў прывыкнуць гаварыць свайму новаму палітруку «ты».

Палітрук пераступіў з нагі на нагу.

— Параненых многа? — спытаў Кажанаў.

— Толькі вы…

Капітан паварушыўся і застагнаў. Палітрук кашлянуў.

— Ну, што вы стаіце? Камандуйце! — нібы зазлаваў капітан.

— Але мы вас… вымушаны будзем пакінуць, — пачаў, збіваючыся, палітрук. — Санінструктар кажа, што браць вас у дарогу нельга. У вас такая рана… Трэба ляжаць… Толькі ляжаць!..

Капітан раптам адчуў, як недзе на патыліцы выступіў халодны пот.

«Значыць, я безнадзейны, — ужо са страхам падумаў камандзір роты. —Але ж як гэта!..» Яму зрабілася крыўдна, з кутка правага вока паказалася сляза і пакацілася, халодная, па бледнай шчацэ.

— Не трэба, Сямён, не трэба!.. — ціха сказаў палітрук і азірнуўся.

Тым часам падалі каманду.

— Ро-о-та, станавісь!

Салдаты загаманілі і пабеглі, як школьнікі, к дарозе. Палітрук паклаў побач з параненым палявую сумку, зверху — наган у расшпіленай кабуры.

— Недалёка ўжо вёска. Адтуль прыедуць і забяруць вас. Мы папросім. Абавязкова забяруць.

— Ладна, вядзіце людзей. Трэба хутчэй на левым беразе быць.

Палітрук пастаяў яшчэ трохі.

— Я тут палажыў ваш наган… вось, на сумцы… — сказаў ён напаследак і пайшоў.

Кажанаў памацаў правай рукой кабуру, выняў наган.

«Эх ты! — са злосцю чамусьці падумаў ён пра палітрука. — Толькі не, я хачу пажыць яшчэ, чуеш, палітрук! Я хачу пажыць!» І адкінуў ад сябе наган.

Неба, што вісела над палянаю, было чыстае, без аблачынак. Сямён колькі часу адчужана глядзеў на блакіт, потым заплюшчыў вочы. Ён баяўся смерці, чорнай, як ноч, якая збіралася праглынуць яго.

…Хтосьці тупаў паблізу — крокі былі асцярожныя і мяккія, быццам на паляне хадзіў звер. Туп-туп… шам-шам…

Сямён не варушыўся. Адольвала дрымота. Павекі былі цяжкія, як налітыя свінцом.

«Вось гэтак, напэўна, і паміраюць», — падумаў ён. Нарэшце расплюшчыў вочы і адразу ж убачыў незнаёмага салдата, які стаяў, павярнуўшыся спіной да яго. Кашляў. Салдат здрыгануўся,

уціснуў галаву ў плечы і застыў на момант на месцы, быццам чакаў удару.

— Ты адкуль? — Капітан аблізаў гарачым языком перасохлыя губы.

— Я?.. — Салдат павярнуўся: быў ён сярэдняга росту, малады — гадоў, можа, нямнога за дваццаць, чарнявы, з загарэлым круглым тварам.

— Ты…

Салдат паціснуў плячамі і разгублена ўсміхнуўся.

— А я думаў, што вы… — пачаў быў ён.

— Нежывы?

— Ага, — прызнаўся хлопец.

— А што, няўжо на мёртвага падобны стаў?

Салдат сумеўся.

— Маўчыш? Добра, не гавары. — Кажанаў рады быў, што побач апынуўся чалавек.

— Ты чаму адзін?

— Па мяне скора прыедуць.

Салдат насцярожыўся:

— Тады ляжы, а я пайду, — сказаў ён і падняў з зямлі Сямёнаў наган. — Твой?

— А дзе твая вінтоўка?

— Вінтоўка? — Салдат на момант задумаўся. — Там! — І ён махнуў рукой цераз плячо.

— Кінуў?

— А табе што?

Кажанаў паспрабаваў прыўзняцца на локцях, але страшэнны боль рэзнуў па жываце; капітан сцяў зубы, але не застагнаў. Перад вачамі паплылі кругі, у галаве зашумела; зрабілася моташна. Сямён счакаў трохі і ўжо слабым голасам сказаў:

— Дэзерцір!..

Пасля заплюшчыў вочы — боязна было заставацца на паляне аднаму. Мінала хвіліна, другая… Але салдат усё не адыходзіў.

— Не, ты ўсё ж скажы, капітан, чаму ты адзін ляжыш тут? — спытаў салдат.

— Я ж казаў, па мяне абяцалі прыслаць.

— Не, цяпер не дачакаешся. Немец кругом. Ты пра гэта ведаеш, капітан?

— Прышлюць…

— А-а-а, усё роўна, — махнуў рукой салдат. — Цяпер не да гэтага. — Ён раптам сеў на зямлю, выняў з кішэні махорку, загорнутую ў газету, пачаў закурваць. — Кажуць, рана ў жывот самая небяспечная бывае, — праз нейкі момант разважліва сказаў ён.

— У цябе вады не знойдзецца?

І раптам на дарозе, якраз насупраць паляны, неспадзявана спынілася машына: матор не выключаўся, ён гурчаў на малых абаротах. Салдат ускочыў, загарэлы твар яго прыкметна пабялеў.

— Гэта па цябе прыехалі, — неяк спалохана прамовіў ён.

Чакалі доўга. На паляну ніхто не прыходзіў.

— Схаджу пагляджу я, — нарэшце сказаў салдат, сунуў у кішэню Сямёнаў наган і знік паміж соснаў.

Неўзабаве на дарозе пачуліся галасы.

— Вы па капітана прыехалі? — пытаўся салдат.

— Які там яшчэ капітан?! — Голас быў сіпаты, як прастуджаны.

— Паранены.

— Цяпер параненых многа.

— Ты мне хвастом не віхляй!

— Пастой, пастой, а ты хто такі?

— Не твая справа! А раз ездзіш на санітарцы, дык і падбірай параненых.

— Няма куды.

— А я от зараз пагляджу.

— Не совай нос, куды не просяць! Кажу, не адчыняй!

— Не крычы!

— Цеплюкоў, вылезь ты ды дай гэтаму ў зубы. Дай, а то ў мяне адна рука занятая. Дай, пакуль я тут завінчу гайку.

Ляснулі дзверцы кабіны.

— Ты што гэта прыстаў як банны ліст? — пачуўся глухі бас. — Схавай свой наган!

— Ты мяне не палохай, — не здаваўся салдат. — Капітана забірай.

— Сказана, няма куды.

— А вы пакажыце, што везяце?

— Малая шышка, каб паказваць.

— Ну, тады далёка не ад’едзеце — страляць буду па колах.

— Цеплюкоў, адбяры ты ў яго пукаўку, — зноў умяшаўся сіпаты голас.

— Хай паспрабуе!

— І паспрабую.

Але да бойкі не дайшло. Хтосьці трэці сказаў:

— Кінь ты яго, Цеплюкоў. Сядай, паедзем. Як ты там, Трунаў, завінціў сваю гайку?

— Круці.

Машына газанула раз, другі, і шум матора пачаў аддаляцца…

Салдат вярнуўся на паляну злосны, у руцэ ён трымаў наган, які быў на ўзводзе.

— Гэта танкетка была, — схлусіў ён, мусіць, не здагадваючыся, што капітану было чуваць адсюль кожнае слова, якое толькі што гаварылася на дарозе. — А ты ж знаеш, там і месца няма, каб палажыць чалавека. А хлопцы, калі пачулі, што ты паранены ляжыш тут, усё думалі-гадалі, як узяць цябе. Ды каб жа месца было…

Ён гаварыў гэта, баючыся падняць свае вочы на параненага капітана. Кажанаў тым часам слухаў і маўчаў — на душы ў яго было прыкра і крыўдна. Салдат пачакаў трохі, пасля зноў загаварыў.

— А ты, капітан, не трывожся, — пачаў супакойваць ён. — Раз абяцалі твае, што прышлюць каго-небудзь, значыць, не падмануць. Гэта ўжо як заўсёды… Толькі ты не хвалюйся. Ляжы і не хвалюйся.

…Недзе ішлі і перагаворваліся людзі.

— Пархвен, трымайся дарогі, ступай збоч яе, — казала жанчына.

— Сказана ж было, што трохі воддаль…

Галасы раслі, набліжаліся. Сямён прыслухоўваўся, чакаў, пакуль людзі падыдуць. Нарэшце жанчына гукнула зусім блізка:

— Пархвен, ідзі сюды, знайшла!..

Спачатку на паляну выйшла жанчына. За ёй, праз якую хвіліну, паявіўся Пархвен. Жанчына была яшчэ маладая — высокая, спраўная. У руках яна трымала падушку, загорнутую ў паласатую посцілку. Мужчына выглядаў намнога старэй за яе і кульгаў на левую нагу — яна ў яго амаль не згіналася. На плячы ён нёс сякеру.

— А мы тут з ног збіліся, шукаем цябе, — сказаў, як знаёмаму, Пархвен, калі падышоў да параненага. — Сам жа хоць ці можаш падняцца?

Сямён пакруціў галавой.

— Ты што, не бачыш? — папракнула Пархвена жанчына. — Не да хадзьбы яму. — Яна палажыла на зямлю сваю ношу.

— Нічога, мы вылечым, — паабяцаў Пархвен. — Ты, Гапка, пабудзь з ім тут, а я пабягу, месца пагляджу.

— Мы вас будзем пераносіць адсюль, — сказала жанчына, калі засталася адна з параненым. — Можна было б і ў вёску, але ж вялей ад бяды далей. Ды нічога, вы не надта хвалюйцеся. Абы жывы былі, здаровы. Пасля перавязём вас у хату. Гэта толькі на пару якіх дзён вы застанецеся ў лесе. — Яна стала над капіта-

нам, і на твары яе была спагада да яго. — А Міцька па доктарку пайшоў. Тут недалёка. Кіламетры два якія прайсці. Гэта Міцька нам і сказаў, што вы тут. Прыйшоў і сказаў. А Вераніка хутка прыйдзе… Гэта я пра доктарку, — растлумачыла жанчына. — Міцька яе абавязкова знойдзе. Яна ў нас харошая і не пабаіцца прыйсці. Мы з ёй за братамі… абедзве… Дык мой запрошлым летам памёр… Узімку прастудзіўся, у паніўку праваліўся, а ў маі як лёг на пасцелю, то і не падняўся ўжо. А Веранікін Грышка цяпер недзе таксама ваюе.

Сямён маўчаў. Жанчына ўздыхнула:

— А самі ж адкуль будзеце?

— У Магілёве жыў.

— Глядзі ты, — нібы здзівілася жанчына.

Тым часам вярнуўся Пархвен. Ён прынёс дзве доўгія палкі, падняў посцілку з зямлі, разгарнуў, пакруціў у руках і пачаў майстраваць насілкі.

— Пархвен, — сказала жанчына, — а ён з Магілёва. Можа, і твайго Петрака калі бачыў? Ты пагаварыў бы з ім. Можа, і сапраўды бачыў.

— Можа, і бачыў, — згадзіўся Пархвен. — Але ты, Гапка, злітавалася б, памаўчала ўжо. А то любіш пагаварыць.

Насілкі Пархвен рабіў доўга — так здалося Сямёну. Стары крактаў, прымерваўся, ляпаў сякерай. Нарэшце Пархвен заторкнуў за вяроўчаты пояс сякеру і сказаў жанчыне:

— Гапка, бяры яго за ногі, а я пад пахі буду.

Клалі яны параненага на насілкі асцярожна, але боль прычынілі яму. І ён адчуваў гэты боль усю дарогу, пакуль яго неслі. Сціскаў зубы, стагнаў. Пакутліва перажываў любы штуршок. А штуршкоў было шмат за дарогу, бо Пархвен моцна кульгаў, і кожны яго крок аддаваўся нясцерпным болем у Сямёнавым жываце. Нарэшце штуршкі перасталі — насілкі былі каля будана, але паранены нечакана страціў прытомнасць і ўжо не чуў, як яго ўладкоўвалі ў будане. Калі ж да яго зноў вярнулася прытомнасць, ужо вечарэла. У будане была адна Гапка. Яна сядзела, схіліўшыся над ім, і выцірала мокрым ручніком яму твар.

— А мой жа ты родненькі, — узрадавалася яна. — Мы тут з Пархвенам не ведалі, што і рабіць… Штосьці доўга няма Міцькі… Дзе тая Вераніка?

— Піць… — папрасіў Сямён. Жанчына з палёгкаю ўздыхнула.

— Ды дам я табе піць! — Яна рада была, што чалавек нарэшце расплюшчыў вочы. — І есці Пархвен прынясе, скора ўжо прыйдзе.

Гапка дастала з-за спіны бутэльку з вадой і пачала паіць параненага, прыгаворваючы:

— Пі, родненькі, пі…

Але вада ў горла не ішла — халодная, яна расцякалася на схуднелым капітанавым твары, вылівалася на падушку. Чалавек пакутаваў ад смагі. Усярэдзіне ўсё, здавалася, перагарэла на попел, а ён не мог праглынуць ні кропелькі. Рыльца бутэлькі толькі коўзалася ды ляскала па зубах. Нарэшце жанчына адняла ад Сямёнавых губ ліпкую бутэльку, паглядзела на яе — ці многа чалавек адпіў, затым паставіла на ранейшае месца. Ручнік, якім яна перад гэтым выцірала Сямёнаў твар, ляжаў у яе на каленях. Яна ўзяла яго і зноў пачала выціраць рот, шчокі, лоб. Пасля паправіла падушку.

— Нічога, родненькі, нічога, — супакойвала яна. — Скора прыйдуць нашы, а ўжо ж не забавяцца, прыйдуць.

Але капітан быў надзіва спакойны. Мусіць, спакой да яго нечакана прыйшоў разам са слабасцю, якую ён адчуў толькі цяпер, у будане. Ляжаў, утаропіўшы позірк у вільчык будана, дзе праз ліпавае вецце праступалі блакітныя лапікі неба. Наўкола стаяла цішыня.

Змяркалася хутка. Наступала ноч. У будане ўжо ныў камар.

…Стары Пархвен, доктарка Вераніка і Міцька прыйшлі разам, калі ў лесе было зусім цёмна. Пархвен прынёс з сабой вялікі рабрысты ліхтар. Ён запаліў яго, і цемра адступілася ад будана.

— Ну, як вы тут? — спытаў Пархвен.

— Вады папрасіў ужо, — пахвалілася Гапка: яна толькі што вылезла з будана і стаяла, сашчапіўшы рукі, ля ўвахода.

— А вады дык і не трэба даваць было, — занепакоілася Вераніка. Голас у доктаркі быў грудны, ціхі; яна тут жа забралася ў будан і паклала сваю халаднаватую руку Сямёну на лоб. — Трэба яго з будана неяк вынесці. Тут няма дзе развінуцца. Дзмітрый Антонавіч, памажыце.

Чалавек, якога Вераніка назвала Дзмітрыем Антонавічам, прысеў на кукішкі, зазірнуў у будан, і капітан пазнаў у ім таго дэзерціра, з якім яны размаўлялі ўдзень. Толькі цяпер ён быў не ў вайсковым адзенні.

«Значыць, гэта той самы Міцька, пра якога гаварыла жанчына, — падумаў Сямён. — Ён і расказаў гэтым людзям пра мяне…»

Міцька ўсміхнуўся, паказаўшы свае няроўныя, са шчарбацінай зубы, і гарэзліва падміргнуў капітану.

— Трымайце, толькі асцярожна, — папярэдзіла доктарка.

З будана параненага выцягнулі на посцілцы. Перад буданом ужо ляжаў ахапак сена, які прынёс сюды з недалёкіх лугоў Пархвен. На сена цяпер і палажылі капітана. Доктарка памыла рукі — ёй палівала з гляка Гапка — і стала разразаць нажніцамі скрываўленыя бінты. За «асістэнта» ў яе быў Пархвен. Міцька не вытрымаў і адышоўся: яго палохала рана. Гапка таксама нядоўга трымалася — як убачыла жывот, на якім запяклася чорная кроў, то закрыла вочы рукой, ступіла колькі крокаў назад і нібы застыла на адным месцы, нават не паспрабавала выцерці слёзы, што каціліся з яе вачэй. Вераніка рабіла доктарскую справу моўчкі, толькі зрэдку кідала слова-другое. Адзін Пархвен гаварыў не змаўкаючы, быццам хацеў замовіць чалавека, што бездапаможна ляжаў перад ім на сене, адцягнуць яго ўвагу, прыглушыць боль.

— І ўсыпалі ж сягоння немцам чырвонаармейцы, — расказваў ён. — Ужо перад самым вечарам. Якраз калі я ішоў адсюль у вёску… страляніна была. Ну, думаю, не далей як ля ракі. А як пачуў пасля, дык і сапраўды там. Акурат ля ракі.

— Трымайце вышэй ліхтар…

— Нашыя з Ганчароў вярнуліся, бачылі. Кажуць, немцы пад'ехалі да ракі і спыніліся. Пакуль перапраўляцца на той бераг, пакупацца рашылі. Цёпла, нават машкары няма. Гагочуць, бегаюць голыя. Ажно не так-то яно выйшла.

— Падайце яшчэ бінту…

— Нейкая наша часць наскочыла на іх. Чырвонаармейцы раптам пайшлі, павалілі з лесу. Спачатку калолі штыкамі. Пасля страляць пачалі. Ад тых немцаў, што былі ў вадзе і на беразе, можа, ніводнага і не засталося. Але ж непадалёку, за Ганчарамі, стаялі яшчэ… Дык тыя і наваліліся на нашых.

— Адрэжце вось тут…

— Многа іх там было, ох і многа…

— Нажніцамі, дзядзька Пархвен… Смялей… Вось так…

— Таму і бой нядоўгі. Амаль усе чырвонаармейцы там і паляглі. Параненага камісара прынеслі былі ў Ганчары. Дык і яго немцы знайшлі, вывалаклі з хаты, і тых дваіх, што камісара хацелі схаваць…

— Вату…

— Расстралялі хлопцаў… Нават за вёску не выводзілі. Проста на вуліцы. Паставілі да сцяны… Камісар стаяць не мог, то ляжачага застрэлілі…

«Ці не мая гэта рота была? — падумаў капітан Кажанаў. — Якраз у тым месцы, паблізу вёскі Ганчары, рота павінна была выйсці да Дняпра».

Капітан добра запомніў гэты населены пункт. З учарашняга дня, калі ён павярнуў роту ад шашы і павёў ляснымі дарогамі, нейкія Ганчары — на карце яны былі пазначаны двума радамі чорных квадрацікаў і прамавугольнічкаў — сталі для яго нібы зямлёй запаветнай. Немцы разбілі стралковы полк, у які ўваходзіла рота, яшчэ на Бярэзіне. Але Сямёнава рота ў баях тады не ўдзельнічала. і Яе раптам чамусьці адвялі кіламетры за чатыры ад ракі, дзе праходзіла перадавая, і рота адступала амаль у поўным складзе — адзіная ўцалелая рота разбітага палка. Камандзір вёў салдат на ўсход па Магілёўскай шашы. Але за Бялынічамі, калі ўжо была пройдзена большая палавіна дарогі, раптам паявіўся незнаёмы генерал на грузавой аўтамашыне і пачаў накіроўваць войскі, якія рухаліся па шашы, на бакавыя дарогі. Высветлілася, што да Магілёва падыходзілі ўжо немцы. Перад кожным камандзірам, які меў хоць дзесятак байцоў, генерал ставіў задачу: выйсці як мага хутчэй на лінію Дняпра паміж Оршай і Магілёвам. Кажанаў таксама атрымаў ад генерала такі загад. Ужо к вечару другога дня рота павінна была прамінуць вёску Ганчары і апынуцца на левым беразе Дняпра — па той бок ракі, мусіць, збіралі войскі, каб затрымаць ворага. Але камандзір роты не дайшоў да Ганчароў Аднекуль прыляцеў гэты «дурны» снарад… Роту далей павёў палітрук Жбанкоў. Так, палітрук Жбанкоў… Яго прыслалі ў роту зусім нядаўна — ці прайшоў нават тыдзень. Загінуў Ігнат Раўнягін, і на яго месца прыслалі Жбанкова. Яны так і не паспелі сысціся за гэты тыдзень — камандзір роты і новы палітрук. Відаць, таму, што паміж імі заўсёды стаяла нядаўняя смерць Раўнягіна. Кажанаву чамусьці ўвесь тыдзень здавалася, што замяніць для роты Раўнягіна новы палітрук не здолее. І камандзір роты нават не хаваў гэтага ад Жбанкова — пры зручным выпадку стараўся падкрэсліць сваю абыякавасць да яго. І вось цяпер Пархвенаў расказ…

«Ах, палітрук, палітрук!..» Здаецца, Кажанаў першы раз за колькі дзён падумаў з сардэчнаю цеплынёю пра гэтага чалавека. Ён быў рады, што палітрук паказаў сябе такім баявым камандзірам. Цяпер капітан гатовы быў дараваць яму нават тое, што той пакінуў яго тут аднаго. Значыць, палітрук нікога не мог прысланы — проста не трапіў ні ў якую вёску.

«От жа я жывы, ляжу тут, і побач свае людзі, — без злосці думаў ён, — такія добрыя — і гэты стары кульгавы Пархвен, і гэтая Гапка, ласкавая вясковая жанчына, і доктарка, і нават незразумелы Міцька… Міцька-дэзерцір… А палітрук Жбанкоў недзе валяецца там, добра, калі немцы дазволілі пахаваць…»

Капітан, здаецца, ужо не меў аніякае крыўды на палітрука. Усё вырашыла смерць.

…На ноч з капітанам Кажанавым застаўся ў лесе Міцька. Пархвен, Гапка і Вераніка пайшлі дамоў адразу ж, як была зроблена перавязка. У будан параненага не сталі класці — пакінулі пад адкрытым небам: дажджу да раніцы не чакалі, ды і сам капітан пажадаў застацца на месцы, пад зорамі.

Перад адыходам доктарка адвяла трохі ўбок Міцьку і ціха сказала:

— Я нічым не магу памагчы яму. Тут патрэбна складаная аперацыя, а я не здолею зрабіць яе. Ды і няма дзе. Яго б зараз у шпіталь, там, можа, і далі б рады. Вось так… А вы ўжо, Дзмітрый Антонавіч, добра глядзіце тут. Я прыйду заўтра яшчэ.

Пасля перавязкі капітану нібы палепшала, прынамсі, так яму здалося. Ліхтар ужо не гарэў — яго патушыў Міцька і паставіў у будан.

— Каб не дражніць ваўкоў, — пажартаваў ён.

Ноч выпала цёмная, душная — дыхала нагрэтая за доўгі ліпеньскі дзень зямля. Кажанаў ляжаў і бачыў перад сабой неба, нават не само неба, а мроіва зорак. Іх панавысыпала ўгары, і ўсе яны былі чамусьці аднолькавыя — чырвоныя, нерухомыя. І толькі тады, калі Сямён вылучаў сярод іх адну якую і падоўгу ўглядаўся ў яе, яна нечакана пачынала мігаць. І так кожны раз — варта было ўтаропіць позірк, як зорка ажывала і нібы птушка, што трапляла з марозу ў цёплы пакой, трапятала крыламі.

Навокал будана тануў у непрагляднай цемрадзі лес. І не было чуваць у гушчары ніводнага чалавечага гуку.

Раптам захацелася пагаварыць. Але першыя словы сказаў Міцька — ён ляжаў на ватоўцы пад дрэвам, крокі за два ад будана.

— Вы не спіцё? — спытаў Міцька.

— Не…

— Вы сапраўды паверылі, што я дэзерцір?

— Салдат, які кінуў зброю і хаваецца, заўсёды для мяне дэзерцір.

— А я ж у салдатах і не быў. Тры дні як вярнуўся з астравоў.

— Адкуль?

— Ну, астравы ёсць такія… На Поўначы. Адбываў там, адным словам, трапіў па ўказу. «Указнік» я. Вы не ведаеце, што гэта такое? Хітры, скажу вам, указ. Дык мяне і завезлі па гэтаму ўказу на тыя астравы. І было б за што… А то ж спазніўся на гадзіну. Я на прамкамбінаце рабіў. Хадзіў туды кожны дзень. На кватэру не станавіўся. Вясной у нас тут заўсёды вадапол вялікі. Ну, і,

вядома, спазніўся. Пакуль перабраўся на крыгах цераз раку, то і спазніўся. Прыйшоў на камбінат мокры, руччом вада цячэ. І ўсё роўна не вераць. Дырэктар, можа б, і прасціў мне, але ж Падвозаў, начальнік аддзела кадраў… Яго нават дырэктар баяўся.

— І доўга быў там?

— А лічы, год цэлы там розуму набіраўся ды ў дарозе яшчэ каля месяца быў.

Міцька на хвіліну задумаўся.

— Эх і людзей там, — нарэшце сказаў ён. — Адны, канечне, сапраўды вінаватыя, а другія таксама ж, як і я. Быў там Андрэй Ваганаў, настаўнік з Варонежа. Дзіўны ён, гэты Ваганаў. Нас выпусцілі з лагера ў адзін дзень. Плылі па моры і ехалі мы да Масквы разам. Пра вайну пачулі яшчэ на баржы. Але не ведалі, што немец зайшоў далёка на нашу тэрыторыю. У цягніку ўжо людзі расказалі нам. Гляджу я на Ваганава, а той усміхаецца. Я і кажу яму: «Няўжо ты, Андрэй, рады?» А Ваганаў ківае галавой: «Супакойся, Міцька, — і ляпае мяне па плячы. — Гітлеру мы галаву скруцім, абавязкова скруцім, нікуды ён ад гэтага не дзенецца. Затое пасля адзін аднаму ўжо дарма не станем горла грызці. Паразумнеем».

— А Гітлеру мы сапраўды галаву скруцім, — сказаў Кажанаў.

— Далёка ён зайшоў…

— Другія яшчэ далей заходзілі. Напалеон нават у Маскву прарваўся.

— Але нашы ўсё лататы ды лататы. Гэта ж як я апынуўся ў вайсковым адзенні! То хадзіў колькі разоў у ваенкамат, не бралі. Як жа, вярнуўся з заключэння!.. Не давалі ў рукі вінтоўкі! А сёння пайшоў я загнаць карову ў статак, то сустрэлі мяне за вёскай нейкія. Раздзелі, разулі. Добра, што хоць не голага пусцілі, адзін аддаў сваё. Тады вы мяне і пабачылі ў вайсковым.

Міцька гаварыў яшчэ доўга, да самай поўначы, і нават не клапаціўся, ці слухае яго капітан.

…Уначы Міцька прахапіўся ад моцнага крыку. Крычаў капітан. Паранены кідаўся на сваёй пасцелі, трызніў, намагаючыся парваць бінты. Ён паміраў, і ніхто не мог памагчы яму.

Міцька схаваў пад ватоўку сваю галаву і плакаў наўзрыд ад таго, што быў бяссільны што-небудзь зрабіць для чалавека. Нарэшце, знясілены, заснуў. А калі прачнуўся, была раніца. Капітан Кажанаў ляжаў на сене і не дыхаў…

Над лесам падымалася сонца. Яно было мутнае, невясёлае, быццам праплакала ўсю ноч над чалавечым горам.

*1964*

# ЖЫВЕ Ў КРАЙНЯЙ ХАЦЕ ЎДАВА…

Васіля Антонавіча разбудзілі галасы: нехта праходзіў па сцежцы паўз хлеў, дзе спаў ён на сене — на дзвюх ношках малочнае брыцы, якую гаспадыня ўскінула пад самы вільчык, на сасновыя жэрдзі, — і засмяяўся на ўсю вуліцу.

Пасля пачуўся хваравіты кашаль.

І раптам нібы прарвалася ноч: прачнуліся па дварах сабакі, і злы, захлёбісты брэх падняўся да самага неба.

«Няўжо яшчэ так рана?» — здзівіўся Васіль Антонавіч і паднёс да вачэй руку, але малая фасфарычная стрэлка на гадзінніку падбіралася ўжо блізка да трох. Васіль Антонавіч паморшчыўся, паварушыўся на сваім лежаве і павярнуўся на спіну, падсунуўшы пад патыліцу абедзве далоні.

Угары, праз вільчык, выступалі на цёмным небе чырвоныя зоркі. Цэлае мроіва зорак. І адна — рухалася. Спачатку падалося, што гэта звычайная знічка, але яна ўсё не падала, плыла пацíху і не згарала.

«Спадарожнік!» — Васіль Антонавіч прыўзняўся, абапёршыся на рукі, сагнутыя ў локцях, і ўжо не лажыўся, пакуль не праводзіў цуд дваццатага веку за небакрай, што губляўся ў цемрыве за вёскай.

Унізе жавала сваю доўгую жвачку сонная карова.

Васіль Антонавіч сплюшчыў гарачыя павекі, паляжаў трохі, маючы надзею заснуць, але хутка адчуў, што ўжо не засне.

На душы было ў адзін час і трывожна і хораша.

…На гэтым паддашку Васіль Антонавіч апынуўся неспадзявана. Ён павінен быў начаваць сёння недзе пад яловымі шатамі на раскосах. Але чамусьці не прыйшлі хлопцы — рахункавод Загала, памочнік пацюпінскага ляснічага Аўдзей Храмянкоў і парткомаўскі інструктар Кузьма Старавойтаў. Учора, калі яны прыязджалі ў горад, то знарок заходзілі на кватэру да Васіля Антонавіча. Дома на той час была адна жонка. І яны перадалі праз яе, каб Васіль Антонавіч адразу ж падаваўся за раку і чакаў іх там, ля дубоў. Але дарэмна ён блукаў да самага вечара з рыбацкай торбай па сцежках, стаяў пад дубамі, пазіраючы з-пад рукі — сляпіла заходзячае сонца — на другі бераг. Ніхто не прыйшоў. І тады ён убачыў на кладцы жанчыну.

Кладка была клявая — хтосьці паклаў на козлы цераз рэчку дзве тонкія жэрдкі, і жанчына, босая, ступала па ёй асцярожна, далёка адставіўшы для раўнавагі левую руку. Правай яна тры-

мала, прыціскаючы да сябе, зялёны таз, у якім каптарком ляжала памытая бялізна. Жанчына не спяшалася. Гледзячы пад ногі сабе, яна спярша стаўляла на кладку адну нагу, на нейкі момант застывала на месцы, нібы раздумвала, затым узмахвала рукою, як птушка крылом, заносіла над вадою другую нагу і так паволі набліжалася да берага. Кладка пад ёю ўгіналася, пагойдваючыся.

Васіль Антонавіч глядзеў на жанчыну, і ў яго ўвесь час было такое адчуванне, што адна яна не пройдзе да канца, што ёй трэба памагчы — ступіць колькі крокаў насустрач, падаць руку.

Але жанчына і сама перайшла кладку.

Было ёй, можа, гадоў трохі за сорак — невысокая, зграбная; валасы ў яе былі заплецены ў касу і ўкладзены прыгожым вузлом на патыліцы; вочы — жывыя, зыркія.

Жанчына паставіла на траву таз, выпрасталася і абцягнула на сабе выліналую сукенку.

— Добры дзень, — сказаў Васіль Антонавіч.

Жанчына ўсміхнулася:

— А што гэта вы ўсё тупаеце тут? Сюды ішла — бачыла, і зараз вы. Мусіць, чакаеце каго?

— Адгадалі.

— Каго ж?

— Сваіх… сяброў-таварышаў. Збіраліся сюды разам. А вось няма. І сонца садзіцца, а іх няма. Пэўна, ужо і не будзе…

— Можа, і не будзе.

— Дык і я думаю — позна. Цяпер стаю вось, як той, што паміж трох дарог, а па якой ісці, каб бліжэй да вёскі, то і не ведаю.

— Здаецца, па гэтай бліжэй, — паказала жанчына на сцежку, якая вяла ад кладкі і гублялася ў алешніку. — Канечне, бліжэй.

— Што ж, — прытворна ўздыхнуў Васіль Антонавіч, — раз па гэтай…

Жанчына нагнулася, падхапіла таз, затым рашуча ступіла на сцежку і, не азіраючыся, пайшла. Ускінуў на плячо сваю торбу і Васіль Антонавіч. Неўзабаве ён дагнаў жанчыну, збочыў трохі і пакрочыў амаль поплеч, падмінаючы гумавымі ботамі траву.

Вёска была недалёка. Але па дарозе яны разгаварыліся і прыйшлі туды, калі непамерна выраслі цені і запозненыя вароны, часта-часта махаючы крыламі, спяшаліся некуды да сваіх гнёздаў; на другім канцы вёскі ўжо рыкалі ў статку каровы, і густы пыл, як першы саламяны дым на пажары, вісеў над хатамі.

Вёска была невялікая — адна кароткая вуліца. Па два бакі, пад вокнамі хат, стаялі нізкія, падобныя на вялікія шары, вербы.

— А вось і мая хата, — спынілася жанчына ля самае крайняе хаты, адразу ж на пачатку вуліцы, і папыталася: — У вас жа хоць знаёмы хто ёсць тут?

Васіль Антонавіч развёў рукамі, пажартаваў:

— Буду яшчэ шукаць. Пачну вось ад першых варот.

Жанчына паказала свае шырокія белыя зубы, кіўнула галавой:

— Тады хадземце… пакуль яшчэ стаім. А то варот у мяне няма, дык пасля не пачую.

Была яна ўся ўжо нейкая вельмі свойская.

Але ў хаце Васіль Антонавіч чамусьці доўга не мог разгаварыцца. Засаромеўся раптам. І, можа, нават таму, што ў хаце, акрамя іх, нікога не аказалася. Добра яшчэ, што гаспадыня неўзабаве выйшла і на падворку пачала нацягваць (ад сенцаў да хлява) тонкую, як шпагат, вяроўку — развешвала памытую бялізну.

Васіль Антонавіч сеў на табурэтку, агледзеўся. У хаце было чыста і ўтульна — да ўсяго дайшлі жаночыя рукі: сцены абклеены цвятастымі шпалерамі, на вокнах белыя фіранкі, нават дзверы занавешаны паркалёвай шырмай. Ад печы да сцяны была зроблена тонкая перагародка, якая падзяляла невялічкую хату на дзве амаль роўныя палавіны. Ложак, відаць, быў па той бок, за перагародкай, а тут, ля стала, стаялі яшчэ дзве табурэткі ды ўслон з шыракалістай пальмай, прыстаўлены да сцяны, што выходзіла вокнамі на вуліцу. Падлога была чыста вымыта, у парозе ляжаў акуратненька разасланы аер, ад якога ў хаце стаяў прыемны лугавы пах. На сцяне, як і ў кожнай вясковай хаце, вісела зашклёная рамка з фотакарткамі. На адной Васіль Антонавіч пазнаў сваю цяперашнюю гаспадыню. Мусіць, яна здымалася, калі была яшчэ зусім маладая: тады ў яе не было кос, а прычоску яна насіла гарадскую — каротка падрэзаныя кругом валасы; дзве густыя пасмы, хаваючы лоб, даставалі да самых брывей. На другой фотакартцы, паклаўшы правую руку на край стала, сядзеў малады чалавек у вайсковым. Былі ў рамцы і яшчэ нечыя фотакарткі, але часцей за ўсё адной пары — маладыя прыхінуліся адно да аднаго галовамі, і ў яе на каленях хлопчык з вялікімі вочкамі.

Васіль Антонавіч дастаў папяросы, наважыўся быў закурыць, але перадумаў. Гаспадыня тым часам управілася на двары, увайшла ў хату.

— Ну, як вы тут, нябось засумавалі?

— Што вы! Нахадзіўся за дзень, адпачываю вось.

— Дык тады пасядзіце яшчэ, падаю карову, павячэраеце.

— Дзякуй, навошта турбавацца? Я і так ужо нарабіў вам клопату.

— А-а, які тут клопат!

Жанчына дастала вілкі з-за печкі, адчыніла заслонку, спрытна выцягнула на чалеснік вялікі чыгун, падхапіла яго анучай і борздзенька панесла ў сенцы. Было чуваць, як яна там доўга ляскала вёдрамі, пасля зноў вярнулася ў хату, але ненадоўга — узяла штосьці на кухонным століку і выйшла. А неўзабаве яе голас пачуўся ўжо з вуліцы. Гэты голас увесь час нечым трывожыў Васіля Антонавіча. Пад вокнамі раптам затупала карова, пранесла па падворку свае адпілаваныя на канцах рогі і пацягнулася цераз плот па зялёны бульбоўнік, які яшчэ не паспеў адцвісці.

Васілю Антонавічу больш не сядзелася ў хаце. Ён узяў на пяколку запалкі, патрос карабок і выйшаў на ганак. Сонца ўжо закацілася за лес, і цяпер там, дзе яно дагарала нядаўна, нібы застыла нерухомая чарада пазалочаных аблачын. Па вёсцы стаяў прыглушаны гоман. На таўшчэзнай бярозе, што ўзвышалася трохі воддаль ад вясковых двароў, клекаталі, стоячы на шырокім гняздзе, буслы. Васіль Антонавіч сышоў з ганка, падаўся на вуліцу. Стаў там, закурыў, са смакам выдыхнуў густы папяросны дым. Калі перад гэтым ён ішоў за жанчынай у хату, то неяк нават не паспеў добра агледзецца. І цяпер ён бачыў усё нібы нават нанава: і пачарнелую ад дажджоў хату, і хлеў, і пусты падворак, пасярод якога чамусьці быў укопаны невысокі слупок. Паміж хатай і хлевам стаяў плот, скіданы з сукаватых макавак, а на ім, бліжэй да хаты, ляжаў пасохлы хмыз.

Якраз насупраць таго месца, дзе стаяў Васіль Антонавіч, вуліцу перайшла высокая мажная жанчына, акінула яго з ног да галавы сваімі прагнымі да навін вачамі і, шырока стаўляючы ногі, набутыя ў нейкія абрэзні, пашыбавала на ганак, але заўважыла гаспадыню, якая нечага корпалася ў гародчыку на градах, гукнула:

— Сонька? Што гэта бачу я? Ці не твой-та прыйшоў?

— Мой, ды не той, — весела азвалася гаспадыня. — Госць гэта.

— А-а-а, — быццам расчаравана сказала жанчына. — А я думала… Тады ладна, я гэта па дзелу к табе. Кропу ты абяцалася. Дык нарваць прыйшла. У мяне ж сёлета няма. Узышло каліў колькі, на венік нават не хопіць. А тут гуркі выбрала, паставіць трэба. Ужо і цэбрык выпарыла. Можа, да цёмнага яшчэ намачыць паспею.

— Дык хадзі, тут яго — заваліся, бяры колькі хочаш.

Жанчына пералезла цераз плот і пасунулася па мяжы. Спынілася пасярод град, зноў пачала гамонку. Але Васіль Антонавіч ужо не чуў, аб чым яна. Ён стаяў пад вокнамі як непрыкаяны і раптам засумаваў. Яму зрабілася не па сабе, падумалася, што дарэмна паспяшыў сюды, перабыў бы гэтую ноч і ў каго іншага, нават мог дачакацца ранішняга клёву пад тымі дубамі, куды рана ці позна Аўдзей Храмянкоў мусіць прывесці Загалу і Старавойтава. Цяпер Васіль Антонавіч ужо гатовы быў забраць з хаты сваю торбу і неяк развітацца з гаспадыняй, але замінала недарэчная далікатнасць.

Нарэшце гаспадыня выправадзіла сваю гаваркую суседку, падаіла, не заганяючы ў хлеў, карову і паклікала госця ў хату. Васіль Антонавіч зноў пераступіў парог, але гэты раз ужо нясмела, муляючыся, — яго ўсё не пакідала прыкрае адчуванне ніякаватасці, якое апанавала неспадзявана яго душу.

Улетку звычайна на вуліцы доўга трымаюцца шэрыя прыцемкі — сонца схаваецца, нават ружовасць непрыкметна расплываецца па небе, нібы датлее і ападзе, а на зямлі ажно колькі часу будзе, як у пахмурны дзень. І ў хаце тады не хутка цямнее.

Гаспадыня ўжо завіхалася каля стала — паклала сырыя яйкі, халаднаватыя, проста з градаў гуркі, паставіла гладыш з малаком і гранёную шклянку, пасля схадзіла за перагародку, прынесла адтуль крамны ручнік.

— Зараз вы і перакусіце, — сказала яна. — А то прывесці прывяла, а накарміць госця не спяшаюся.

— Вы дарэмна. У мяне тут, у маёй торбе, таксама ёсць…

— А дзе ж гэта вы чулі, каб у гасцях ды сваім абыходзіцца?

— Які я госць? Так, напрасіўся…

— А як жа — самы сапраўдны госць! А то я тут адна ды адна.

— Сядайце і вы. Ці ж я адзін…

— А вось запалю лямпу і сяду. Сяду абавязкова. Ды вы не чакайце мяне. Я зараз. Нам гэта яшчэ не правялі электрычаства. У суседніх вёсках ёсць, а нам чамусьці не праводзяць. Ды вы не саромцеся, сядайце бліжэй. Ну, а нашчот выпіць, то прабачайце. Чаго няма — таго няма. Гарэлкай не запасаюся. Праўда, што я кажу. Была адна пляшка, ад самае зімы стаяла, дык памагаў мне тут нядаўна чалавек, паставіла яму. Трэба ж аддзячыць.

— Выпіць і ў маёй торбе знойдзецца, — сказаў Васіль Антонавіч. — Збіраліся ж з хлопцамі… Мы аднойчы на вашай рэчцы былі. А сёння штосьці разладзілася рыбалка. Дамаўляліся адразу

пасля абеду сустрэцца, але не дачакаўся. Можа, і дарэмна. Што, калі яны зараз там?

— Ды якая ж уначы рыбалка! — пачала суцяшаць жанчына. — Цяпер да самага дасвецця рыба будзе спаць. Заўтра ўжо…

Лямпа гарэла, мігала зрэдку, і на сценах у хаце дрыжэлі сполахі.

Васіль Антонавіч еў — не спяшаўся, быццам смакаваў усё, што было выстаўлена на стол. Праз колькі хвілін спытаў:

— Вось гэтак адна і жывяце?

— Так і жыву. Праўда, нядаўна засталася адна. Дачка ў мяне, замужам… ужо. Маладзенькая, і дваццаці няма, але ж не дасі рады. Кажуць, у іх — любо-о-оў! Вунь яны! — яна паказала на фотакартку. — І сынок ужо, унучак. Але як пабраліся, то паехалі. А ў мяне тут ні роду ні агароду.

Яна ссунула густыя чорныя бровы і, аблакаціўшыся на стол, падперла далоняй шчаку: дзве дужкі-маршчыны, якія прытуліліся ў яе ля самага куточка рота, разгладзіліся, нават непрыкметныя сталі.

— Мы ж не туташнія, — сказала яна. — Жылі некалі ў горадзе, ды і ў вялікім горадзе. Муж у мяне ваенны быў. Толькі вяселле згулялі зімой, а ўлетку… вайна. А мне яшчэ хадзіць аж чатыры месяцы. Нюрку мы тады чакалі. Ну, не Нюрку, проста дзіця. Сашка мой на сына спадзяваўся. Узяў сабе ў галаву — сын ды сын, а я смяюся, кажу — не, дачка будзе, мне ўжо і бабка, суседка наша, напрарочыла — чакай дачку. Смяяліся, жартавалі, а тут — бах!.. Пачалося такое, што і пасюль не апомніцца. Ну, мой схапіў свой чамадан, заўсёды трымаў пад ложкам гатовы чамадан, дык схапіў ды ў часць, нават папрашчацца не паспелі па-людску. Думалася ж, ненадоўга. А яно як пайшло, то пагнала… аж на цэлае жыццё. Я спярша заставалася дома, пасля чую — немец падыходзіць ужо. Суседзі пачалі збірацца, ідуць, едуць. Сабрала і я свой вузельчык. Многа не панясеш, дзе там… Прыбілася да нейкага яўрэйскага абозу і падалася ў бежанцы… Ды што гэта я ўсё баюкаю вас? — спахапілася жанчына. — Вы ешце, закусвайце.

— Нічога, нічога, вы гаварыце…

Яна ўздыхнула, прыжмурыла вочы, быццам ратавалася ад святла.

— Як успомніш, то і цяпер хочацца плакаць, але слёз ужо няма. Даліся ў знакі тыя бежанцы. Чаго толькі не было. Нацярпелася. Адзін час я ўжо думала — ну, прападу. Але ў Барысаве

раптам сустрэў мяне знаёмы чалавек, яны з мужам маім служылі разам. Пытаюся, ці бачыў жа майго. Кажа — толькі ў той дзень, як вайна пачалася. Але на поезд мяне пасадзіў, здаецца, нават на апошні, які ад'язджаў з Барысава. Даехалі неяк да Оршы, а далей ужо і ехаць няма куды. На станцыі ўсё гарыць. Самалёты кружацца, бомбы кідаюць. Выгрузілі нас, пахадзіла я, пахадзіла ды і падалася сюды. Балазе, што блізка. А тут яшчэ дзядзька адзін пабачыў. Ён і нараіў мне гэтае месца. Прывёз у вёску, пасяліў да сябе, там я і прывяла на свет маю Нюрку. Пасля пабудавалі гэтую хаціну. Але гэта ўжо як немцаў прагналі. Тады ўся вёска нанава будавалася. Пагарэлі. Тут жа ў сорак трэцім усю восень баі былі, пасля і ў сорак чацвёртым ажно па самае лета не ўшчукала. Спалілі ўсё, перавярнулі. А мы ў зямлі пераседзелі. Я збіралася была ехаць адсюль, ды перадумала і засталася. Пачала будавацца, лесу ў той час давалі колькі хочаш, стала жыць. Забылася і на гора, на ўсё — абвыкла. У калгас пайшла.

— Ну, а муж? — спытаў Васіль Антонавіч ціха.

— О, я ж не сказала! — Жанчына страпянулася раптам, як патрывожаная птушка, вочы яе загарэліся, і яна паклала на стол — адну на адну — свае маленькія рукі. — Знайшоў мяне мой Сашка! І тут знайшоў! Але гэта ўжо ў сорак чацвёртым, пад самую восень. Прыбягае неяк дзяўчынка суседская, кажа, салдат пра вас, цёця, пытаецца. Бачу, аж сапраўды мой. Аказваецца, ад сястры дазнаўся, дзе я. Сястра мая, старэйшая, у Саратаве ўсю вайну прабыла. Як вызвалілі нас, я і напісала ёй. А Сашка якраз там пасля ранення лячыўся. Дык проста адтуль і паехаў. Адпусцілі яго. Паняньчыў дзён дзесяць, ды што я кажу — акурат дзесяць дзянькоў, сваю Нюрку і зноў на вайну. Пасля прыслаў адтуль два пісьмы, пісаў, што на Вісле стаяць, гэта недзе ў Польшчы, а потым ні слыху ні дыху. Праз месяц мне з часці пішуць — прапаў без вестак, так і цяпер у ваенкаматаўскай паперцы значыцца мой Сашка — без вестак прапаўшы. Спярша я ўсё думала, што, можа, у палоне дзе, але і з палону людзі вярнуліся, жывуць… Збіраліся тады мы тут з бабамі, кідалі пярсцёнак у шклянку з вадой, і я на свайго загадвала, дык усё мне труна на яго прыпадала.

Жанчына страсянула галавой, быццам адмахнулася ад насланння, сказала:

— А Нюру сама вырасціла, адна. — Памаўчала і павесялелым голасам дадала: — Нават учора яшчэ пісьмо прыслала. Піша, Васіль кажа, — гэта ўжо зяць мой, — забяром давай маму адсюль. А я як падумаю сваёй галавой, што некуды трэба падавацца, дык

ажно сэрца абрываецца. — Усміхнулася і зноў: — Тут жа, можа, усё маё і прамінула. Ды і Сашка ведае, дзе я…

Яна неяк вінавата паглядзела на Васіля Антонавіча, твар яе спахмурнеў, бы ад пакутлівай думкі:

— Што я хацела спытаць у вас…

Не дагаварыла і змоўкла, быццам збаялася, што пачуе не тое ў адказ.

— Але ладна. Вы мне ўсё ж скажыце. Ці можа так быць, што ён недзе жывы? Ну, скажам, папаўся ён тады ў палон той, а пасля яго не пусцілі ўжо?

— У гэтую вайну ўсяляк здаралася, — адказаў Васіль Антонавіч. — Нашы ваеннапалонныя траплялі і да сваіх, і да амерыканцаў з англічанамі. Гэта ўжо як выпадала. Калі лагер быў на той тэрыторыі, якую бралі мы, то да нас, а калі на той, па якой ішлі яны, да іх. Ну, і часта было так, што яны перашкаджалі нашым людзям вяртацца да сваіх, гвалтам затрымлівалі, нават…

— Я вось пра гэта і думаю! — раптам перабіла яго, узрадаваўшыся, жанчына. — У Манастыршчыне — гэта па той бок, кіламетраў якіх пяцьдзесят, — дык вярнуўся чалавек. А некалі ж прыйшла нават пахавальная, сям'я ўжо аплакала і супакоілася, думалі — усё, а ён узяў ды аб'явіўся. Васемнаццаць гадкоў быў на чужыне. І ў Англіі, і ў Амерыцы, пасля зноў прыехаў да немцаў, толькі не да нашых, а да тых, амерыканскіх, быццам на работу прыехаў наймацца. Ну, і ўдалося неяк яму там перабрацца цераз граніцу. Цяпер вярнуўся да сваіх, у Манастыршчыну. Таксама, як і вы кажаце, спярша ў палоне быў, а пасля, калі амерыканцы ўзялі, то запалохалі, не пусцілі дамоў. Можа, і мой дзе так…

Пасядзелі колькі часу ў насцярожанай цішыні. Гаспадыня, мусіць, чакала пачуць ад свайго госця яшчэ што-небудзь, але той маўчаў. Тады гаспадыня вылезла з-за стала, пачала прыбіраць посуд.

— Дзякуй за вячэру, — нарэшце сказаў Васіль Антонавіч.

— Няма за што.

На шыбіне цёмнага акна ўжо даўно білася сонная муха.

Хутка гаспадыня заглянула нечага за перагародку і сказала:

— Я вам пасцялю на ложку.

— Навошта, не трэба! — падхапіўся Васіль Антонавіч.

— Ды вы не думайце, у мяне чыста, — паспрабавала супакоіць яна.

— Я не пра гэта. Вы лепш уладкуйце мяне дзе на двары.

Жанчына раптам сумелася.

— Тады хіба на сене, — пачырванела яна. — Але ж на хаце ў мяне дык і сена няма. Ёсць трохі ў пуні, на закоцвінах.

— То і добра. Я там і пераначую.

— Тады хадземце. Адвяду вас, толькі ўжо не крыўдуйце, калі што там не так будзе.

Яна ўзяла з ложка вялікую падушку. На ганку прыпынілася на момант, дыхнула на поўныя грудзі і з хваляваннем у голасе сказала:

— Такая цяплынь!

Васілю Антонавічу захацелася пакланіцца жанчыне, але ён чамусьці не адважыўся схіліць галавы, хоць і добра разумеў, што пасля будзе заўсёды шкадаваць аб гэтым.

***1964***

## СУСТРЭЧА НА ПЕРОНЕ

Праз адчыненую брамку Максім выйшаў на перон. Было каля дзесяці гадзін — з гарадка аўтобус рушыў а палавіне дзясятай і свае тры кіламетры праехаў хутка, балазе, што спыняцца нідзе не давялося: да самага вакзала на шашы нікога не сустрэлі. Да прыходу цягніка яшчэ заставалася часу, і Максім захацеў абысці маўклівы прывакзальны сквер, абнесены чыгуннай агароджай. Білет на цягнік быў куплены. Максім не першы раз на гэтай станцыі і добра ведаў, што ля білетнай касы тут заўсёды таўкатня. Да адзінага акенца, загароджанага жалезнай рашоткай, сыдуцца ў апошнія хвіліны і тыя, што ад'язджаюць, і тыя, што праважаюць, стоўпяцца невядома чаго, і калі не праціснешся, то ўжо будзеш потым, высунуўшы язык, бегчы, каб на хаду ўскочыць на прыступку вагона. Праўда, на гэты цягнік білетаў у касе звычайна хапае — раён хоць і вялікі, але ад Суража на чыгунцы яшчэ два раз'езды, і тыя, каму бліжэй, падаюцца на Ліпаўку, на Журбін. Зараней браць білет Максіма навучыў сам начальнік станцыі, калі Максім паскардзіўся яму аднаго разу.

— Можна б міліцыянера паставіць, — развёў рукамі начальнік станцыі. — Але што зробіць міліцыянер тут? Вёска, дарагі мой, вёска ніякай чаргі не прызнае. — Ён павёў Максіма праз службовы ход і выбіў сам білет да Магілева. — А вы… не ведаю вашага прозвішча…

Максім сказаў.

— …Як будзеце ў нас другі раз, то не стойце там. Ідзіце сюды адразу. А то заказаць можна.

Але Максім пасля ўжо не хадзіў па білет праз службовы ход і тым больш не спрабаваў загаварыць з начальнікам станцыі…

Перад вечарам пабыў спорны дождж, і цяпер пад нагамі адчувалася сырасць. Максім самога дажджу не бачыў. Ён тады якраз сядзеў у кабінеце рэдактара — рыхтавалі вялікі артыкул у абласную газету і амаль ад самае раніцы не выходзілі з рэдакцыі. Хмара на гарадок найшла неспадзявана: свяціла нізкае сонца, і раптам у вокнах пацямнела. Запалілі святло. А сонца тым часам зайшло пад хмарай.

Пахла вуголлямі і садам. Але дыхалася лёгка і глыбока. Максім ішоў паўз агароджу спакваля. Плашч свой, які за ўсю паездку так і не давялося накінуць на плечы — кожны дзень над галавой было адно чыстае неба, — ён нёс на руцэ.

У глыбіні сквера хтосьці падладжваўся пад салаўя — свіст быў фальшывы, і адразу было відаць, што рабіў гэта чалавек. Можа, яму сумна стала без салаўя.

Максім любіў прыязджаць у гэты гарадок. Як надаралася ў аддзеле камандзіроўка, то браў яе і ехаў. Адсюль, з гэтых мясцін, была яго маці — мястэчка, у якім яна нарадзілася, знаходзілася кіламетраў за дваццаць. Але туды Максім ні разу не ездзіў. І не таму, што не выпадала як. Была свая прычына. Некалі маці яго выйшла замуж насуперак бацькавай волі, і той абмінаў яе аж усё жыццё — не хацеў бачыць; не адпусціўся стары нават тады, калі ў яе ўжо было чацвёра дзяцей. Жылі як чужыя. Так і памерлі абое — маці і Максімаў дзед, — не памірыўшыся. У гарадку цяпер жыла матчына сяброўка. Яны разам раслі ў мястэчку. Максім яшчэ з даўняга помніць, як яна прыязджала да іх і заўсёды казала, абы пераступіла парог:

— Твой куркуль усё злуецца. Надоечы я гэта сустрэла яго і кажу, што збіраюся да Аўгінні, дык ажно адвярнуўся. Ну і парода. Усе яны такія, адным помазам мазаныя. Шкада толькі маткі тваёй. Добрая жанчына была. Надта добрая.

Яна чамусьці кожны раз прывозіла з сабой яблыкі — ці гэта здаралася ўлетку, ці зімой. І, мусіць, таму Максім першы пачаў шкадаваць, як яна раптам перастала да іх прыязджаць.

— Гэта ж мяне тады не ўзлюбіў твой бацька, — прызналася старая Максіму, калі той ужо праз шмат гадоў сустрэў яе на вуліцы.

Жанчына вельмі радая была, што нарэшце пабачыла сына сваёй таварышкі, завяла Максіма да сябе і пачала частаваць

ліповым мёдам — яна сама была за пчаляра і даглядала тыя чатыры вуллі, што стаялі пад вокнамі хаты, у гародчыку.

— Ты, Максімка, еш, не лянуйся, — казала яна, пасадзіўшы яго за стол. — Дык гаворыш, што вы ўжо ўсе параслі і раз’ехаліся? І Пятрок, і Ларыса? А гэтая ваша, малая?

— Алёнка?

— Ну але.

— Ужо замужам.

— Ну во, бачыш!.. Скажы-тка… Дык я і кажу, матка ваша… Во ўжо хто нагараваўся то нагараваўся. Быццам на аднае тое гора і разлічана было. Спачатку са сваім бацькам у яе здарылася, а пасля і з тваім… Не, не павязло ёй. Як хочаш, а не такога б ёй мужа… Ты не крыўдуй на мяне, старую, што гэтак пра бацьку твайго. Але ж мы з тваёй маткай, ведаеш?

Для Максіма раптам нібы адкрыццём стала тое, што недзе ўвесь гэты час жыў чалавек, які шкадаваў яго маці. І нават цяпер у словах жанчыны ён не адчуваў нічога крыўднага для сябе. Наадварот, яму падабалася, як яна гаварыла пра маці — ціха і па-жаночаму ласкава. Максім, здаецца, дзеля аднаго гэтага і прыязджаў сюды так часта.

У скверы, недзе на самай сярэдзіне яго, свяціліся агні ліхтароў. Але тут, ля агароджы, было амаль цёмна. Максім не спяшаўся. Ён ішоў па вузкай асфальтавай дарожцы, і на душы ў яго было прыемна і хораша.

Тым часам на перон ужо сыходзіліся людзі — неслі свае чамаданы, клункі. Максім глянуў на станцыйны гадзіннік — да цягніка заставалася трохі больш за дзесяць хвілін. І раптам ён пачуў, як хтосьці побач гучна сказаў:

— Ну і што? Пачакаем!

Голас быў надзіва знаёмы.

Максім падняў галаву і не даў сабе веры — наперадзе ішла Галя Яленская. Яна ішла па дарожцы і вяла пад руку высокага мужчыну ў вайсковай форме. Але Максіма яшчэ не пазнала. Ад нечаканасці Максім нават разгубіўся, хацеў збочыць, ды не паспеў.

— Глянь! — усклікнула Галя. — Гэта ж Максім… — Яна ўтаропіла на Максіма вочы і выслабаніла сваю правую руку. — Ну, што ж ты стаіш? — з дакорам у голасе сказала яна і неяк нясмела зрабіла колькі крокаў да Максіма, узяла яго за руку і ледзь не пацягнула да свайго спадарожніка.

«Муж», — падумаў Максім.

— Лёня, гэта Максім Перавалаў, — сказала Галя і, мусіць, ад хвалявання стала паміж мужчынамі, пазіраючы то на аднаго, то на другога. — Ты ж помніш, я гаварыла. Пазнаёмцеся.

Ужо на пероне Галя спытала:

— Ты як гэта трапіў сюды?

Максім адказаў:

— А я тут часта бываю.

Галя здзівілася:

— Нават часта? — Яна паглядзела на Максіма. — Ах, так, я ўжо і забыла, што ў цябе такая работа!.. — І дадала: — А мы прыйшлі бацьку сустракаць.

— Тараса Антонавіча?

— Меўся прыехаць сёння.

— Даўно я не бачыў яго…

— Дык і пабачыш!.. Ты малайчына, што паказаўся на вочы нам.

— Не, зараз будзе мой цягнік.

— Магілеўскі?

— Так.

— А табе абавязкова трэба сёння ехаць?

Максім паціснуў плячамі.

Галін муж, які ўвесь гэты час маўчаў, пазяхнуў і сказаў:

— Ну, вы пагаварыце, а я зараз… Схаджу толькі ў вакзал, можа, газету куплю.

Калі ён адышоўся, Максім спытаў:

— А што? Муж твой і сапраўды вельмі чытае газеты? — І сам здзівіўся, што сказаў гэта ад нейкае яшчэ неўсвядомленае злосці.

— Ды кінь ты! — Галя тупнула нагой. — Лепш скажы, ці хочаш сустрэцца са сваім настаўнікам?

— Але ж мой цягнік…

— Значыць, не хочаш…

— Чаму ты так думаеш? Я вельмі хацеў бы пабачыць яго…

Над станцыйнымі забудовамі, што віднеліся за белымі рэйкамі, узыходзіў месяц — вялікі і круглы. Ён непрыкметна вынырнуў як з-пад зямлі і цяпер, нібы гарбуз увосень, ляжаў на даху. Недзе, яшчэ зусім далёка, крычаў спалоханай начной птушкай паравоз.

Галя стаяла насупраць Максіма і чакала адказу. Сярэдняга росту, стройная і прыгожая, у лёгкім бэзавым світэры, які нібы выточваў яе грудзі, яна нё зводзіла з яго сваіх вялікіх чорных вачэй. Твар у яе быў бледны, а паміж брывамі сабраліся пакут-

лівыя зморшчыны. Максім з любасцю глядзеў на яе і адчуў, як паступова штосьці вельмі сумнае бярэ яго за сэрца.

— Ты па-ранейшаму такая прыгожая, — уздыхнуў ён.

— Я даўно цябе не бачыла, — сказала яна.

У гэты момант захрыпеў на ўвесь перон дынамік, што вісеў непадалёку на драўляным слупе:

— Граждане пассажиры, будьте внимательны и осторожны, на второй путь прибывает поезд номер восемьдесят шестой, следующий по маршруту…

Максім падаў руку:

— Вось… бачыш. — Памаўчаў трохі, стрымліваючы дыханне. — А трэба ж столькі табе сказаць!..

— А я табе ўсё хацела падзякаваць, што навучыў мяне цалавацца, — раптам сказала яна і засмяялася, адкінуўшы галаву назад, але смех яе быў штучны.

Максім таксама засмяяўся — словы яе былі для яго нечаканыя і нават дзіўныя.

— Не такая ўжо складаная навука, — падладжваючыся пад яе штучную весялосць, адказаў ён. — Мог бы навучыць хто-небудзь іншы. Так што дзякаваць і няма за што…

Яна сумелася. Максім гэта адчуў і паправіўся.

— Нас жа заўсёды клікалі жаніхом і нявестай, — дадаў ён.

— А ты яшчэ не забыў?

— Не.

— Праўда?

Рукі Максімавай Галя не выпускала і ўсё трымала ў сваёй — мяккай і цёплай.

— Ты даруй мне, гэта я так, пажартавала.

— І я таксама…

З шумам, цяжка аддыхваючыся, падышоў цягнік. Вагоны адзін за адным паволі праплылі за паравозам і, ляснуўшы буферамі, спыніліся. Максім пашукаў вачамі нумар вагона, які быў насупраць.

— Сёмы, — падказала Галя.

— О, мне трэба ў дзесяты. — Максім азірнуўся і спытаў: — Куды ж гэта падзеўся твой муж?

— Сапраўды, дзе ён? — здзівілася Галя.

— Ну што ж, чакаць не будзем. Рады быў сустрэць цябе. Бывай.

— А можа, не паедзеш, а? — нібы спахапілася Галя і зноў пачала ўпрошваць Максіма. — Тата ж пакрыўдзіцца, калі я скажу, што ты быў і не захацеў сустрэцца. Застанься, Максім!..

І зноў у яе паміж брывамі сабраліся тыя пакутлівыя зморшчыны, а Максімава сэрца, як і некалькі хвілін назад, заныла, засаднiла. Хлопцу раптам зрабілася шкада самога сябе. Ён нічога не адказаў ёй, прамаўчаў, але і не рушыў з месца. Усё стаяў і думаў: «Ты, мусіць, і не здагадваешся, як не хочацца мне цяпер ехаць адсюль. Я даўно чакаў гэтай сустрэчы…»

Цягнік тым часам пастаяў на станцыі і ціха крануўся. Праплыў апошні вагон. Чырвоны агеньчык на ім трывожна міргнуў, пачаў аддаляцца і нарэшце знік за будынкамі.

Максім і Галя маўчалі. Яны раптам адчулі сябе вінаватымі, быццам зрабілі штосьці нядобрае: стаялі, апусціўшы галовы, і баяліся падняць адзін на аднаго вочы.

Вярнуўся Галін муж.

— Вы не паехалі? — здзівіўся ён і ў голасе яго Максім пачуў нездаволенасць.

— Не! — Максім хацеў яшчэ сказаць, што ён перадумаў, бо хутка будзе Тарас Антонавіч, які столькі гадоў быў яго настаўнікам, але змоўчаў. «Навошта хлусіць, — рашыў ён. — Усё роўна ж не паверыць. Дык навошта гаварыць».

Галін муж адышоўся крокі за тры, стаў збоку недавольны і, мусіць, ад хвалявання пачаў падцягвацца на насках, ляскаючы па асфальце абцасамі.

Колькі хвілін не гаварылі. Маўчалі. І гэтае маўчанне было непрыемнае для ўсіх, абразлівае. Нарэшце Максім спытаў:

— Дзе цяпер Тарас Антонавіч працуе? Галя схамянулася і, кінуўшы нядоўгі позірк на мужа, адказала:

— А ён на пенсіі. — Яна ўжо, здаецца, была спакойная.

Ды размовы на гэты раз не выйшла. Абодвух збянтэжыла маўклівая постаць Галінага мужа.

А неўзабаве падышоў і той цягнік, на якім меўся прыехаць Тарас Антонавіч. Але дарэмна яны падоўгу ўглядаліся ў людзей, якія выходзілі з вагонаў. Галінага бацькі сярод пасажыраў не было.

Максім адчуў, у якое няёмкае становішча ён трапіў, і, каб суцешыць сябе, сказаў:

— Што ж, не прыехаў сёння — сустрэнеце заўтра. Загаварыў таксама і Галін муж.

— Вы прабачце нам, — павярнуўся ён да Максіма, — але мы не можам вас запрасіць да сябе. Мне трэба на дзяжурства.

На шырокім татарскім твары яго Максім лёгка прачытаў злараднасць.

Галя было запярэчыла:

— Цябе ж капітан Каралёў замяніў. Няхай ён да канца і дзяжурыць. Навошта перабіваць, мы ж яго прасілі…

— Гэта ўжо мая справа, — груба перапыніў яе муж.

Галя неяк сцялася ўся і балюча закусіла ніжнюю губу, — здавалася, вось-вось з яе вачэй пацякуць слёзы.

Максім памкнуўся да яе, але зрабіў усяго адзін крок — стрымаўся. Галін муж заўважыў гэты яго рух, чамусьці ўсміхнуўся і казырнуў:

— Прашу прабачыць, — ён крута, па-вайсковаму павярнуўся і рушыў да брамкі, кінуўшы на хаду: — Галя, пойдзем дамоў, у нас зусім мала часу.

Галя здрыганулася, спалохана паглядзела на мужаву спіну і правяла левай рукой па сваім твары. Максім ступіў наперад, узяў яе руку ў сваю.

— Табе трэба ісці, — сказаў ён.

Яна з нейкаю крыўднай пагардай глянула на яго, вырвала сваю руку і пабегла да брамкі. Максім застаўся стаяць на пероне.

«Трэба хутчэй адсюль ехаць, — рашыў ён. — На першым жа таварняку».

Быццам аднекуль здалёк прыляталі і адляталі гукі: абрыўкі слоў, паспешлівыя крокі людзей… Максім стаяў і думаў пра чужое няшчасце, якое так неспадзявана зрабілася сваім, і яшчэ пра тое, што неспакойнай і часам недарэчнай бывае радасць.

*1964*

## НАРОДНЫ КАМІСАР

Сцежка вяла ад прыстані ўгору, і я неўзабаве перайшоў па дашчаным мастку глыбокую аўражыну, на дне якой цёк ледзь прыкметны ручай. Далей сцежка ішла праз гароды, дзе расла бульба і былі грады з высокай бурачнай батвой. З узгорка ўвесь гарадок быў як на далоні. Раней такія гарадкі называлі пазаштатнымі. Цяпер — гарадскімі пасёлкамі. Белы будынак, які я ўбачыў яшчэ з парахода, аказаўся школай. Трохі воддаль узвышалася пажарная каланча. Гэта быў самы цэнтр гарадка. А ўжо ад цэнтра разыходзіліся вуліцы з драўлянымі дварамі. Уласна кажучы, вуліца тут была адна. Пачыналася яна ля самага моста, што вісеў над ракой, пасля паварочвала ўправа, абмінаючы вялікі сад. У цэнтры яна шырэла, пераходзячы ў пляц з невялічкім скверыкам. Ад пляца ішла паўз раку і рабіла тыя ж павароты.

Гэтую, галоўную вуліцу ў колькіх месцах перасякалі яшчэ вуліцы, але канчаліся яны хутка, заходзячы апошнімі дварамі ледзь не ў самую збажыну, што расла на ўзгорках аж да лесу, які сінеў кіламетры за тры. Сам гарадок мне падабаўся — можа, перш за ўсё сваёй разамлелай цішынёй і тым нязвыклым для гарадскога чалавека напаўвясковым спакоем, які, бывае, спачатку цяжка ўспрыняць — так і здаецца, што ўсё наўкола знаходзіцца ў сне: заснула яшчэ не за нашай памяццю і дасюль ніяк не прачнецца. Над гарадком, нягледзячы на паўдзённую спёку, ад якой паветра пагусцела, стаяў прыемны пах рошчыны, кропу і цвілой вады.

Праз паўгадзіны я ўжо стаяў ля ганка на адным двары і размаўляў з гаспадыняй. З выгляду яна здавалася мне настаўніцай, але якая ўжо адвучыла сваё, бо ўзрост у яе быў пенсіённы, альбо проста канторшчыцай, але якая яшчэ не забылася, што некалі была гімназісткай. Была яна не па гадах стройная, ніколечкі не атлусцелая, не па-нашаму ахайная, і, можа, адным ужо гэтым выклікала да сябе павагу і прымушала гаварыць з унутраным хваляваннем. Яна нават не даслухала мяне, далікатна і зразумела ўсміхнулася, акінуўшы ўсяго кароткім позіркам блізарукіх вачэй — добрых і трошачкі насмешлівых.

— Што ж, і нам весялей будзе. Пажывіце ў нас. Вось вам ключ. — Яна дастала з сумачкі ключ і падала мне. — Адмыкайце кватэру і займайце бакавы пакой. Уладкоўвайцеся, як вам будзе зручней. А мне даруйце. Спяшаюся. К вечару і Аляксей Васільевіч прыедзе. Гэта муж мой. Адным словам, ключ у вас.

— Дзякуй, — сказаў я.

— А вы спачатку, малады чалавек, пажывіце, пасля дзякаваць будзеце.

Яна падышла да форткі, узялася за клямку. Тады я кашлянуў і, нібы між іншым, сказаў:

— Мне б таксама трэба ісці. — У самы апошні момант я раптам нечага сумеўся — відаць, бянтэжыла тая прастата і лёгкасць, з якой я атрымаў у свае рукі ключ ад чужой кватэры.

Жанчына падняла здзіўлена бровы.

— А вы гэта дарма, — з жартаўлівым дакорам сказала яна; падумала трохі, паківала галавой — вочы яе ў гэты час сталі яшчэ больш насмешлівыя. — Тады давайце ключ. Я сама пакажу ваш пакой. А то, бачу, так і прастаіцё тут, на двары. Эх вы!.. — Яна, мусіць, ужо мела на ўвазе не аднаго мяне. — І як вы будзеце жыць на свеце?

Праз калідор, які меў выгляд вясковых сенцаў, — квадратны, застаўлены старымі куфрамі, мы прайшлі ў пярэдні пакой. Па-

сярэдзіне яго, на падлозе, ляжаў пацёрты прадаўгаваты коўрык, якога хапала аж да канапы, што стаяла ля сцяны паміж занавешаных вокнаў. Была тут і вялікая шафа з люстрам. Паміж шафай і сцяной стаяў нізкі, старадаўняй работы стэлаж, на дзвюх паліцах якога блішчалі фольгай і золатам кнігі. А ўжо з гэтага вялікага пакоя мы трапілі ў другі — маленькі, у якім ледзь памяшчаліся стол, крэсла і жалезны ложак, засланы суконнай коўдрай. Стол быў пастаўлены насупраць акна, упрытык да падаконніка; на стале стаяла гліняная паліваная ваза з кветкамі.

— Ну, вось вам, — сказала гаспадыня, — стол пісьмовы і крэсла.

Яна пастаяла яшча.

— Забыла папярэдзіць. Вы ж, мусіць, і на раку пойдзеце? То ад нашага дома туды дзве дарогі. Вось глядзіце, — і яна паказала ў акно, дзе паміж платоў віднелася пясчаная сцежка, — гэта адна, сюдой мы ходзім і па ваду, там студня, але цяпер пакуль лепей не хадзіць па гэтай, бо пчолы пакусаюць. У нас тут, у суседа, пчолы, дык ён катаў мёд, патрывожыў іх. І яны цяпер лютуюць, ужо былі пакусалі дзяўчынку адну, ажно ў бальніцу вазілі. Так што лепш не хадзіць па гэтай дарозе. Я вам пакажу другую.

Гаспадыня растлумачыла ўсё і пайшла, а я запіхнуў пад ложак чамадан свой, павесіў плашч на спінку і, адчуўшы адразу стому, сеў на крэсла, паклаў пацежалелыя рукі на стол. У доме настала спакойная цішыня. Сонца свяціла ў глухую сцяну, і ў пакоях было нават па-летняму халаднавата. Я расчыніў акно і адчуў, як тхнула з вуліцы гарачым паветрам.

Акно з майго пакоя выходзіла ў невялікі сад, які цягнуўся вузкай палоскай да самага зялёнага выгану з круглай лужынай пасярэдзіне. У канцы саду, ля плота, стаяла пад саламянай страхою лазня. У садзе гэтым акрамя яблыняў была таксама адна груша, якая ледзь не стукалася сваім голлем у шыбіны, але расла яна трохі збоч, злева, і не замінала глядзець. Пад грушай стаяў стол, на якім ляжалі падалкі — нехта пазбіраў!

Я доўга, з нейкай лянівую абыякавасцю глядзеў на шырокія дрэвы, на густое зялёнае лісце, папудранае пылам, на яблыкі, якія яшчэ не паспелі і якія адным выглядам сваім наганялі аскоміну, на грушы, якія пабрала ўжо чырвоная сыпка, на пабялелы блакіт, што млеў угары над невысокім драўляным домам і ціхім садам. Затым падняўся з крэсла, яшчэ раз агледзеў пакой, дзе павінен быў цяпер жыць, і выйшаў у пярэдні пакой. Мяне адразу ж зацікавілі кнігі на стэлажы. Я пачаў аглядаць. Былі тут акрамя

разрозненых (ад 17-га да 25-га) тамоў Леніна выбраныя творы Фрунзе, Брэм — «Жыццё жывёл», «Жыццё птушак» і «Звяры лесу», розныя слоўнікі, пачынаючы ад тоўстага арфаграфічнага, затым васьмітомнік Ключэўскага, гісторыя Турчыновіча, тры кнігі Халіфмана і некалькі сучасных раманаў. Падбор кніг быў не выпадковы. І неўзабаве я ўжо з нейкім неўсвядомленым адчуваннем, якое межавалася, можа, нават з захапленнем, чакаў сустрэчы са сваім гаспадаром. Але ў той вечар Аляксей Васільевіч прыйшоў дамоў позна. Пакуль Ядвіга Антонаўна — так звалі гаспадыню — недзе хадзіла па справах, я паспеў схадзіць на раку і папрацаваць за сталом. Нарэшце лёг на ложак, не запальваючы святла. У чужых людзей мне было спакойна. Я пражыў у іх усяго паўдня, але гэтага паўдня ніхто не назаляў мне і, вядома ж, не таму, што нікога не было ў доме. Не, проста, відаць, тут была акрамя ўсяго яшчэ і звычайная чалавечая… ну… прыстойнасць, ці як гэта. Гаспадыня тупала па двары, брала вёдры ў калідоры. Пасля доўга размаўляла з некім пад вокнамі. І, мусіць, было ўжо гадзін адзінаццаць, як у пярэднім пакоі раптам пачуліся мужчынскія крокі, шчоўкнуў уключальнік, і святло пырснула ва ўсе бакі, перасекла амаль па дыяганалі пакой мой (дзвярэй сюды не было, адна палатняная шырма вісела на дзвярным праёме) так, што сталі відны паклееная шпалерамі сцяна ледзь не да самае столі, левы куток стала. Начны матылёк рынуўся з вуліцы на зыркае святло і замітусіўся па пакоі — то залятаў на відную палавіну, то губляўся ў цемнаце, і тады было чуваць, як біўся ён мяккімі крылкамі аб сцяну над маім ложкам.

Чалавек загаварыў і запоўніў сваім раскацістым голасам усю кватэру.

З калідора падала голас гаспадыня.

Аляксей Васільевіч сказаў цішэй:

— Прабач… Я забыў… Прабач.

А яшчэ праз момант спытаў:

— Ты ж хоць яго прывячала ўжо?

Пэўна, гаворка ішла пра мяне, але мне не чуваць было, што адказвала гаспадыня, — з калідора голас яе да мяне амаль не далятаў.

Нарэшце Аляксей Васільевіч выключыў святло:

— Раз ты кажаш, то будзіць не станем. Няхай спіць. Павячэраем адны. — І дадаў: — Пад грушай.

Неўзабаве пад акном пачуліся крокі. Блiснула, загарэлася святло. У маім пакоі зноў стала відна, але цяпер святло ўпала

ўжо на сцяну, да якой быў прыстаўлены ложак: на асветленую частку столі ляглі карункавыя цені ад грушавага голля.

Трэба было зачыніць акно — не хацелася стаць непатрэбным сведкам пры чужой размове, якая мелася адбыцца за вячэрай, але я не хацеў выдаваць сябе — яны ж паміж сабой парашылі, што я сплю, — і таму сарамліва астаўся на ложку.

Вячэралі гаспадары моўчкі і доўга. Нарэшце Ядвіга Антонаўна спытала:

— Як жа табе з’ездзілася?

— Няблага. Зрабіў усё.

— Вось будуць рады бабы… асабліва Тунцэвічыха…

— Тунцэвічысе хацелі даць пяць метраў, але я ўжо да канца заўпарціўся. Далі сем. Якраз хопіць на падруб і… Я глядзеў яе хату. Там ажно некалькі вянкоў трэба мяняць. Грыбок паеў.

— Цяпер яна памяняе…

— Лесу хопіць. Памаўчалі.

— Але бяда тая, што хутка не адным гэтым жанчынам спатрэбіцца лес. Я неяк размаўляў з Болбасам. Аказваецца, у нас тут у вайну шмат пагарэла вёсак. Будаваліся тады — абы вылезці з зямлянак. Пад дажджом. У снег. З мокрага дрэва. Не паспявалі нават акарыць бервяно. Дык ці ж такая хата доўга стаяць будзе?

— Я ж табе, здаецца, пісала?

— Не ўсё да мяне даходзіла. Бывала, прыйдзе пісьмо, а радкі — выкраслены. Іншы раз не ведаеш, пра што і пісьмо тое.

Пад грушаю зноў настала цішыня. Я ўжо быў задрамаў, але Аляксей Васільевіч нечакана сказаў:

— Дык вось Болбас і гаворыць — будавацца трэба, а лесу няма. Не паспелі і азірнуцца, як спляжылі. А пройдзе яшчэ год-два, пачнецца такое… Можа, таму яны і ашчадныя цяпер. Не, гэта цэлая праблема… Вялікая праблема. Яе, відаць, трэба рашаць не ў райвыканкоме і не ў аблвыканкоме. Добра, няхай будаўнічага лесу няма. Але ж тады трэба навучыць тутэйшых людзей будавацца з іншых матэрыялаў. Неяк жа жывуць людзі ў іншых месцах, дзе наогул лесу няма і не было. Трэба толькі навучыць людзей.

Ядвіга Антонаўна ўздыхнула, і муж, нібы спахапіўшыся, ласкава спытаў:

— Стамілася?

— Не, гэта я ўспомніла. — Памаўчала і дадала: — Прыходзіла Селязнёва, яна думала, што ты ўжо ў сталіцу паехаў.

— Заўтра паеду.

Праз нейкі час гаспадыня занепакоілася, пачала састаўляць посуд.

Падняўся з-за стала і гаспадар. За акном калыхнуліся цені. Святло пад грушай пагасла, і мой пакой патануў у цемнаце.

Назаўтра я прачнуўся позна: ужо даўно была раніца. Заспаны, выйшаў на ганак.

— Добрай раніцы, — убачыла мяне гаспадыня — яна была на гародзе. — Як вам спалася ў нас?

Я павярнуўся на яе голас, падзякаваў.

— Пачакайце, я вас пакармлю, — усміхнулася яна.

Але чакаць амаль не давялося. Неўзабаве мы сядзелі за круглым сталом — яна глядзела на мяне сваімі мрыйнымі вачамі і карміла: падала яешню з цалкоў, тварог на сподку і шклянку салодкага малака.

— А Аляксей Васільевіч зноў паехаў, — сказала яна, нібы просячы прабачэння. — Ён у мяне непаседа. Учора ў раён ездзіў, а сёння… Пенсіянер, дык што яму. Мы цяпер абодва на пенсіі. Я адвучыла сваё… А ён і адседзеў.

— Як гэта?

— А так, як і людзі. — Гаварыла яна без злосці ў голасе і ценю на твары. — Мой у Мінску яшчэ з таварышам Фрунзе, Міхайлам Васільевічам, працаваў. Абое Васільевічы. Пасля наркомам быў. Ну, а пасля… адседзеў вось, прыйшоў — і на пенсію па старасці. Здавалася б, адпачываць трэба, а ён кідаецца, як галодны, на работу. Балазе, што часу шмат. А ў людзей клопатаў шмат, а часу няма, вось яны і ідуць да яго. Учора памагаў лесу даходзіць нашым жанчынам, з суседняй вёскі. З будаўнічым лесам у нас цяжка. Па разнарадцы толькі. Дык ён спярша дабіваўся ў вобласці, каб дадаткова далі, пасля — у райвыканкоме. І далі. З ім тут лічацца. — Яна прастадушна засмяялася. — Як жа, былы нарком! І людзі мясцовыя пра гэта ведаюць. Вось і ідуць. А Аляксею Васільевічу быццам аднаго гэтага і не хапала. Ажно памаладзеў. Вось і сёння паехаў, здаецца, у архіў, пасля — у міністэрства.

Яна пасунула бліжэй да мяне сподак з тварагом, весела сказала:

— Вы ешце, ешце, калі ласка!

Затым паклала рукі перад сабой — адна на адну.

— А я, як падумаю, дык гэта ж усё роўна — ці ён бы, седзячы ў кабінеце, памагаў людзям, ці так вось, як цяпер. У нас тут суседка ёсць, Каця Селязнёва. Пражыла амаль дваццаць гадоў

побач, думалі — звычайная жанчына, пакалечаная, а цяпер, як сама расказвае, дык, выходзіць, гераіня. Партызанка. Адна нямецкую камендатуру ўзарвала. Палічылі, што загінула. А выйшла — жывая. З канцлагера вярнулася. Пасля вайны была хацела аб’явіцца, паехала ў сталіцу, да сваіх былых камандзіраў, але штосьці ў яе там здарылася. Гаварыла, што не пабачыла тады сваіх камандзіраў. Прасядзела ў прыёмных пакоях, а ў кабінет ні да аднаго не трапіла. А як было там — невядома. Тады ўсякае магло быць. Разгубілася, прыехала і стала жыць тут. .Чалавек ёй харошы знайшоўся. Пажаніліся. Дзяцей ужо амаль вырасцілі. Цяпер Каця надумала пенсію даходзіць. А даведак няма. Дык Аляксей Васільевіч і паехаў за гэтым. Кажа, архівы партызанскія падыме, можа, пагаворыць і з яе камандзірамі.

Ядвіга Антонаўна заўсёды гаварыла пра свайго мужа з нетаропкаю любасцю ў голасе і з тою прыгожай прыстойнасцю, якія магчымы, мусіць, толькі ў іхнія гады. І я паступова пачаў заўважаць, што ў ёй неяк непрыкметна для чалавечага вока спалучаліся і прыроджаная інтэлігентнасць і сялянская спагадлівасць, адным словам, было ў ёй штосьці адначасна і ад настаўніцы і ад вясковай кабеты, асабліва гэта адчувалася ў гаворцы.

Яна была яшчэ зусім маладая, калі пайшла за Аляксея Васільевіча. Здарылася гэта ўлетку семнаццатага года. Тады Аляксей Васільевіч працаваў у Мінскім Савеце. Маладая настаўніца адразу далучылася да падзей і прайшла разам з мужам, бальшавіком, па гарачых дарогах рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны. Пасля зноў вучыла дзяцей, а калі ў трыццаць сёмым пасадзілі Аляксея Васільевіча, падалася сюды, у ціхі гарадок на Бярэзіне. Тут жыла яе сяброўка па гімназіі. Тая дачулася пра яе бяду і запрасіла беспрацоўную жонку «ворага народа» да сябе. Удзвюх яны і пражылі шмат гадоў у гэтым доме. Ядвіга Антонаўна паступова ачуняла, пачала працаваць. Пасля вайны памерла сяброўка. Але праз некалькі гадоў вярнуўся рэабілітаваны Аляксей Васільевіч. Яму прызначылі пенсію, давалі кватэру ў Мінску, але яны адмовіліся.

Пра свае пакуты Ядвіга Антонаўна звычайна гаварыла з неахвотай, і то, можа, толькі таму, што часам пытаўся я. Больш яна любіла гаварыць пра свайго Аляксея Васільевіча. І слухаць яе нельга было без зайздрасці: яна ведала ўсё, літаральна ўсё пра свайго мужа.

Паступова ў маім уяўленні складваўся вобраз Аляксея Васільевіча — чалавека з кагорты шчырых наркомаў ленінскай гартоўкі.

Прыехаў ён з тае паездкі аднойчы ўранні, і тады я першы раз убачыў яго. Быў ён моцнага складу, шыракаплечы, вышэй сярэдняга росту, і з твару нечым нагадваў пажылога акцёра — пасівелага, з сумнымі запалымі вачамі, але з выгляду яшчэ — на пэўнай адлегласці — як маладога…

Я сустрэў яго з радасцю, быццам даўняга знаёмага. Сказаў усміхаючыся і, як мне здавалася, па-добраму, па-дамашняму:

— Нарэшце, Аляксей Васільевіч, скончылася ваша камандзіроўка.

Ён паглядзеў на мяне як бы здзіўлена і расслаблена, але здаволена засмяяўся:

— Камандзіроўка!.. Ну, вядома ж, камандзіроўка! Ваша праўда, камандзіроўка…

Памаўчаў і дадаў:

— М-да, у мяне зацягнулася камандзіроўка. Адбыццё адзначана, а прыбыццё — не. Адной, апошняй пячаткі на маім камандзіровачным пасведчанні яшчэ няма.

Ён сеў на канапу, развязаў гальштук і расшпіліў верхні гузік.

— А мы ўжо тут прачакаліся, — сказала Ядвіга Антонаўна.

Аляксей Васільевіч пацёр адна аб адну рукі:

— Схадзіла б ты паклікала Кацярыну. Я ёй прывёз і даведку і… ведаеш, што яшчэ? Навіну! Хутка ёй павінны ўручыць узнагароду. Аказваецца, яе пасмяротна ўзнагародзілі ордэнам Леніна. Цяпер ёй ад журналістаў не адбіцца. Сенсацыя.

*1965*

## ІШОЎ НА ВАЙНУ ЧАЛАВЕК

Ігнат скідаў за дваром апошнюю капу сена і, разгарачаны, увайшоў у сенцы, пастаяў там, пакуль не звыкліся вочы з лёгкім змрокам, і толькі пасля ўжо ўзяўся за конаўку, што вісела на сцяне над лаўкай, на якой стаялі вёдры з вадой. Вада ў адным вядры была халодная — мусіць, нядаўна з крыніцы, і зубы Ігнатавы адразу зайшліся. Ён пачаў піць маленькімі глыткамі. Піў доўга, смакуючы, і ўвесь час адчуваў, як паступова астывала нутро.

Адчыніліся дзверы, і Ігнат пачуў за спіною жончын голас:

— Гэта ты, Ігнась…

Здавалася, сказана было звычайна, як гаварылася, можа, мільён разоў, але Ігнат раптам адчуў у голасе трывогу. Ён глянуў цераз плячо і ўбачыў заплаканы жончын твар.

— Што з табой?

Тая сцепанулася, датупала, як не свая, да лаўкі, ля якой стаяў Ігнат, усё яшчэ трымаючы конаўку ў руцэ, і спынілася побач, баючыся падняць вочы.

— Што здарылася, Анюта?

— Ды яшчэ нічога. — Яна ўздыхнула. — Ну, што мы тут стаім, хадзем у хату.

Ігнат паціснуў плячамі і, калі вешаў на цвічок конаўку, не мог суняць дрыготкі ў пальцах.

На стале ў хаце ляжала паперка, напісаная ад рукі. Ігнат заўважыў яе адразу. Падышоў, паглядзеў — павестка.

— Даўно прынеслі?

— А ўжо ў гадзіне, — адказала жонка і заплакала наўзрыд.

Ігнат узяў павестку, пачаў чытаць: «Згодна тэлефанаграме з ваенкамата Вы абавязаны з'явіцца заўтра, г. зн. 16.7, к 11 гадзінам раніцы на прызыўны пункт. З сабой мець лыжку, кружку, харчоў на двое сутак, дзве пары бялізны. Старшыня с/с Апанасенка». Ігнат пакутліва наморшчыў лоб і зноў стаў чытаць спачатку: чамусьці з аднаго разу да яго быццам бы і не дайшоў сэнс — мусіць, перашкаджаў жончын плач. А плакала жонка ўжо, як па нябожчыку. Гэта і бянтэжыла Ігната, і злавала. Нарэшце Ігнат сказаў:

— Што ўжо тут галасіць! І так, дзякаваць Богу, ажно вунь колькі пабыў лішняга. Другія і гэтага не мелі.

Ігнат нават усміхнуўся, але і сам адчуў, што ўсмешка ў яго выйшла сумная: што ні кажы, а на вайну ісці — не жыта малаціць. Ігнатавы аднагодкі даўно ўжо ваявалі — пайшлі яшчэ па першай мабілізацыі, і ў вёсцы мала пра каго з іх ведалі: прыходзілі пісьмы ад старэйшага Цішкавага сына, які быў недзе інтэндантам, ды яшчэ ад двух ці трох чалавек, што прызываліся пад самы канец года. Ігната дагэтуль не бралі праз хворую нагу — як прастудзіў яшчэ пазалетась, цягаючы брэдзень па тонях, то і не праходзіла. Сёлета нага паправілася — дала жонка рады, націраючы бадзягай. Прызнацца, дык Ігнату часам ніякавата было: выходзіла, што збіраўся прасядзець вайну дома. Сёй-той нават коса пачынаў глядзець на яго. Але сам Ігнат увесь час жыў у чаканні — разумеў, што гэтае вайны хопіць на ўсіх. І таму павестка для яго была не такая ўжо нечаканая. Можа б, нават не выклікала і такой душэўнай трывогі, каб не плакала жонка.

Ігнат пастаяў трохі задуманы і сказаў, каб толькі не маўчаць:

— Не плач, Анюта.

— Ты ўжо і паплакаць мне на даеш, — з дакорам сказала яна, але пацішэла, быццам спалохалася чаго.

Тады Ігнат, расчулены, падышоў да яе, узяў за плечы. Яна прытулілася да мужа ўсім целам, схаваўшы заплаканы твар у яго на грудзях.

— Дзе ж гэта нашы дзеці?

— Што дзецям, — уздыхнула Анюта. — Бегаюць недзе.

— Толькі ты не плач ужо.

— А я і не плачу, — сказала і зноў заплакала.

— Ну вось… — Ігнату хацелася хоць нечым суцешыць Анюту, але не хапала слоў; больш таго, ён ужо разумеў, што ніякія словы не памогуць — можа, хіба паспрабаваць заняць яе работай: — Патрохі ўжо збірала б мяне…

Яна насцярожылася ўся.

Ігнат падаўся да акна, сеў там на табурэтку, што стаяла бліжэй да стала, і раптам пачуў стому ў нагах.

Да вечара было яшчэ далёка, і ён успомніў, што на двары валяюцца граблі; пачаў дні два таму, але тады палічыў, што паспее. Дарабіць бы хоць цяпер. Але праз якую хвіліну падумаў пра сынавы боты, не папраўленыя ад самай вясны. І яшчэ ён падумаў, што не паспеў сёлета падважыць хату, каб замяніць два струхнелыя вянкі. Аказваецца, у яго было столькі работы, да якой не дайшлі рукі, і цяпер гэта пачынала непакоіць, ажно няёмка станавілася перад жонкай — гэта ж ёй давядзецца займацца ўсім. «Нядобра неяк выйшла», — падумаў ён.

Тым часам з вуліцы прыбеглі дзеці: сямігадовая дачка і сын, загарэлы і ладны ўжо хлопчык. Мусіць, яны пачулі ад некага, што бацька ідзе на вайну, бо сын падышоў і спытаў:

— Тат, і табе на вайну?

— Ага, сынок, і мне. — Ігнат паставіў паміж сваіх каленяў хлопчыка.

— Вось добра, што і ты ідзеш на вайну! — узрадаваўся сын.

— Значыць, добра? — усміхнуўся Ігнат.

— А што? У Віцькі Панаськавага бацька на вайне, у Мішкі Блінава — на вайне. Адзін ты не на вайне. Яны дражняцца і гуляць да сябе не прымаюць. Цяпер я ім пакажу!

— Ну і дурны ж ты, Пецька, — азвалася раптам дзяўчынка.

— Сама ты дурная!

— Ладна, не сварыцеся, — сказаў бацька. — Ты, Надзька, большая, гэта праўда, але ж Пецька мужчына. Цяпер ён у доме будзе і за сябе і за мяне. Так, Пецька?

— Праўда.

— Шкадаваць будзеш і мамку і Надзьку?

— Буду.

— Тады, брат, лезь пад тапчан, пашукай там свае боты, паглядзім.

Але заняцца ботамі не давялося. Раптам грукнулі ў сенцах дзверы, і ў хату ўвайшоў старшыня калгаса — аднарукі Пахамок.

— Здароў, гаспадыня, — павітаўся ён, пераступаючы парог.

— Здароў, дзядзька, — адказаў замест жонкі Ігнат.

— Чуў я, брат, чуў. — Старшыня падышоў і паціснуў Ігнату руку, хоць уранні яны і бачыліся. — Гэта я ў сельсавеце быў, там і пачуў. — Пахамок дастаў з кішэні бутэльку, паставіў на стол. — Вось была адна, вып’ем з табой. Каб час, то недзе б самагонкі нагналі. На фронт таксама па-людску трэба выпраўляць…

Ігнат вінавата ўсміхнуўся:

— Каб жа знаццё, то і сам бы нешта прыдумаў.

Забегала па хаце гаспадыня — пачала збіраць на стол.

Старшыня доўга маўчаў, нарэшце сказаў:

— Быў і ў мяне адзін сапраўдны мужчына, а цяпер… — і махнуў рукой. — Ты вось што, Ігнат… Але ж дзе там…

Пахамок адкаркаваў зубамі бутэльку.

— Налівай ты, — сказаў ён Ігнату.

Гарэлка была цёплая. Піць яе было нядобра. Але хутка Пахамок захмялеў і звесіў над сталом пацяжэлую галаву.

— Каб гэта на мой розум, — гаварыў ён, — то я ўжо цябе, Ігнат, браць і не стаў бы. Тут, брат, такая справа. Фашыста, канечне, з нашай зямлі трэба гнаць. І гэта павінны рабіць мужчыны. Факт. Але ж і без хлеба ты яго не прагоніш. Салдата перш накарміць трэба, каб ён галодны не быў, а потым ужо і пасылай у бой. А хто той хлеб рабіць будзе? Яго ж і пасеяць трэба, і сабраць. Не, адны бабы фронт як мае быць не накормяць. Таму вось я і кажу: даюць жа бронь на заводах, дык чаму б і ў нас не даваць. Не, гаспадарка без мужчын — што тое вяселле без музыкі. Гэта ж каб хто пахадзіў хоць адзін тыдзень у маёй, старшынёўскай, скуры, то…

Пахамок раптам падняў прыжмураныя вочы на гаспадара, утаропіўся сваім цяжкім позіркам і спытаў:

— Як думаеш, хутка ўжо немца вытураць?

— А вось паеду, пабачу — тады і скажу.

— Жартуеш, Ігнат…

— Хопіць ужо, што жонка плача.

— Жонка няхай плача. Жонкі заўсёды плачуць. Яны нават і тады плачуць, калі на абавязковую выпраўляюць.

Пахамок падняўся, абапіраючыся на руку, пачаў развітвацца.

— Пра астатняе ты не турбуйся. Заўтра каня дам, завязуць цябе да ваенкамата як мае быць.

— А вось каня дык і не трэба. Заўтра ж сена з далёкага лугу вазіць. Лепш пасылай ты ўсе падводы туды. Чаго добрага — яшчэ дажджы пойдуць, паплыве сена.

— А як жа ты?

— Так вось, як стаю.

Старшыня паківаў галавой і, хаваючы вочы, сказаў здаўленым голасам:

— Дзякуй, Ігнат… Здаецца, адзін ты мяне і разумееш…

Да самага вечара ў Ігнатавай хаце не зачыняліся дзверы.

Уначы Ігнат ажно колькі разоў прачынаўся — сон быў трывожны, кашмарны; нарэшце яму і зусім не заспалася, і ён доўга ляжаў з расплюшчанымі вачамі, успамінаў.

Чамусьці прыгадаўся адзін выпадак, з якім у Ігнатавым жыцці было звязана не толькі адчуванне прыкрасці. Тады быў галодны год і па зямлі хадзіла многа жабракоў. Бывалі дні, што стаялі напята дзверы: не паспее адзін выйсці з хаты з міласцінай — парог пераступае другі. Ігнат тады не быў аддзелены, жыў у бацькоў, і вось аднойчы, якраз у абед, калі толькі што паселі ўсёй вялікай сям'ёй за стол, хтосьці пастукаўся ў хату. Маці як стаяла ля печы, так і адчыніла дзверы. Увайшоў пажылы ўжо мужчына, чамусьці ў зімовай шапцы. Ён трохі пастаяў моўчкі ў парозе, пасля сеў, не пытаючыся, на лаўку. Чалавек быў галодны, пра гэта казаў увесь выгляд ягоны, а больш за ўсё — вочы з ліхаманкавым бляскам. Але за стол яго не пасадзілі. Можа, небарака чым не спадабаўся маці, бо ў хаце камандавала яна і да стала магла запрашаць толькі адна. І не запрасіла. Так і праседзеў галодны чалавек на лаўцы, пакуль сям'я абедала. З-за стала вылазілі, бы прысаромленыя, і толькі пасля таго як пайшоў жабрак з хаты, Анюта — тады маладая яшчэ нявестка — сказала з дакорам:

— Чалавека не накармілі…

Ёй ніхто нічога не сказаў, нават свякроў змаўчала на той раз. Але з таго дня нібы хто паганы прабег паміж жанчынамі, і Ігнат мусіў прасіць раздзелу.

Эх, Анюта, Анюта…

Ігнат слухаў, як роўна дыхала яна, прытуліўшыся да бока, думаў і шкадаваў яе: нялёгка аставацца адной, маючы на руках дваіх дзяцей, ды яшчэ з яе характарам — надта далікатным і разам з тым непадатлівым.

Адно суцяшала Ігната: пражылі яны гэтыя дзесяць гадоў па-чалавечы і цяпер не было за што дакараць сябе.

Пра сябе Ігнат чамусьці не думаў, быццам усё гэта не датычылася яго, быццам не яму заўтра наканавана было пакінуць дом. Больш таго, Ігнат паступова пачаў лавіць сябе на тым, што непрыкметна стаў ужо глядзець на самога сябе неяк збоку, як на чужога. І тады ён паціху, каб не разбудзіць жонкі, злез з ложка, адзеўся і выйшаў на ганак.

Над вёскай плыла старожкая ноч. Ветру не было. Але ноч, здавалася, дыхала. Пахла пахаладзелая ўжо зямля. І ва ўсім наваколлі стаяла такая ціша, што нават чуваць было, як гойсалі за дваром, па аўсе, зайцы, наядаючыся пра запас, на цэлы неспакойны дзень.

Ігнат, як, можа, і ўсе вясковыя людзі, прыроду любіў амаль несвядома і без слоў, і ўсё ж яму раптам падумалася, што заўтра ён ужо не будзе бачыць і чуць такога хараства, і наогул яму прыйшло ў галаву… Але ж якраз пра гэта і не варта было думаць, каб даастатку не развярэдзіць душу.

Тым часам усхапілася жонка, і Ігнат пачуў, як яна выйшла ў сенцы. Ён сам расчыніў перад ёю дзверы і сказаў:

— Паспала б лепей…

— Ды што ты мяне ўсё шкадуеш! — нібы зазлавала яна, потым ступіла яшчэ крок і, застагнаўшы, павісла ў яго на шыі.

Ігнат спачатку доўга цалаваў змакрэлы ад слёз жончын твар, адчуваючы, як налівалася млявай пяшчотаю цела, пасля падхапіў яе на рукі — якая яна ў яго лёгкая! — і, асцярожна ступаючы, панёс па сходках.

На шырокім выгане, што быў паміж полем і гародамі, усімі праскамі лета пахла ў копах лугавое сена.

…Праводзіць Ігната ўранні сышлася ўся вёска. А Ігнат быў спакойны, як зямля пасля дажджу, і нават жартаваў, хоць гэта яму не кожны раз і ўдавалася. Не спяшаючыся, ён абыходзіў па адным сваіх аднавяскоўцаў, трос ім рукі і сарамліва чырванеў: яму было трохі не па сабе ад таго, што праз яго да коўрат сабралася столькі народу. Жонка больш не плакала. І гэта падабалася Ігнату. І толькі пасля таго, як ужо развітаўся з усімі і пайшоў, паскараючы крок, па дарозе, ён пачуў за спіною немы плач. Бабы суцяшалі жонку, паціху перагаворваліся і не пераставалі глядзець на дарогу, па якой ішоў на вайну яшчэ адзін чалавек.

*1965*

## САМЫ ШЧАСЛІВЫ ЧАЛАВЕК

Сонца забарылася нечага і пакуль разлівала па небасхіле адну ружовую чырвань. Была нядзеля, і ніхто не адважваўся парушаць ранішняй цішы. Толькі днявальныя ляніва сноўдалі паміж парусінавых палатак, падчышчалі, мякка шоргаючы мётламі, пясчаныя лінейкі, налівалі ў дубовыя двухдонкі халодную ваду.

Ад дзяржаўнай граніцы, што была не больш як за паўтара кіламетра ад лагера, сёння чамусьці не далятала ніводнага гуку, які мог бы насцярожыць чалавека.

Палаткі стаялі ўздоўж самай шырокай, пасыпанай жвірам лінейкі. У рэдкім тумане яны нагадвалі нечым парусы, што паднялі над сваімі лодкамі рыбакі, перад тым як адплысці ад берага.

Аляксей Балаш стаяў пад абшарпаным, выцвілым грыбком і чакаў, пакуль чырвонаармеец Казакоў, з якім яму выпала гэты раз дняваліць, падмятаў пляцоўку. Казакоў павінен быў стаць замест яго пад грыбок. Але той усё, нібы наўмысна, марудзіў, і Аляксея гэта злавала.

Аляксей не вытрымаў, гукнуў:

— Варушышся ты там, як мяла!

— А што? — пазяхнуў Казакоў.

— Можа, яшчэ і памагчы?

— Я сваё сам зраблю…

Абодва злавалі ціха, каб не разбудзіць каго.

Нарэшце вынырнула з-за пагоркаў сонца. Макаўкі маладых сасонак — смалістыя шышкі, што не паспелі задзеравянець, — заблішчалі, як пазлацаныя, і першыя промні нячутна скочылі на пахаладзелую зямлю. Тады скалыхнуўся, нібы ад ветру, туман, які плаваў на ўзлеску, стала відно, як там, дзе яго секанулі сонечныя промні, замітусіліся драбнюткія пылінкі.

Аляксей зняў з пояса нож, аддаў Казакову.

— Цяпер ты загарай, — засмяяўся ён. — Ды глядзі, каб нос зноў не аблупіўся.

Аляксей прайшоўся па лінейцы, размінаючы ногі, адшпіліў полаг палаткі — там соладка спалі, пасопваючы, таварышы. Аляксей пастаяў, паглядзеў, але зноў зашпіліў полаг. Яму раптам не захацелася лезці ў палатку з цяжкім паветрам, і ён адышоўся, сеў на лаўцы.

Мусіць, Аляксей ужо апошні раз быў за днявальнага. Праз тыдзень у яго канчаўся тэрмін службы — бралі яго ў армію не тады, як і аднагодкаў, і дэмабілізоўвалі не ўвосень, як звычайна,

а ўлетку. Гэта яго радавала. Не тое каб служба ў цяжар была — проста хлопец спяшаўся дамоў.

Яшчэ нядаўна шмат гаварылі пра вайну, і Аляксей палохаўся, што яго дэмабілізуюць раней, чым пачнецца яна. У іхняй сям'і ўсе мужчыны былі на вайне: дзед — на японскай, бацька — на германскай, старэйшы брат таксама ваяваў — Аляксей ведаў, што ордэн брат атрымаў за Іспанію. Аляксею таксама хацелася мець ордэн — было такое тайнае жаданне. Тым больш што вайну ён уяўляў сабе такою, якой паказвалі яе ў фільмах. Нават думалася, больш таго — хлопец быў упэўнены, што ў вайне ўдзел прымуць, можа, адны толькі пагранічнікі — за якое даабеддзе, калі пачнецца раніцой, яны разаб'юць немцаў, а там падымецца рабочы клас у самой Германіі, і тады… Хто ведае, можа, гэта самы зручны выпадак паквітацца з фашызмам! Але чатырнаццатага прыйшлі газеты, і там чорным па беламу напісана, што Германія таксама няўхільна захоўвае ўмовы савецка-германскага пакта аб ненападзенні, як і Савецкі Саюз… Пасля гэтага на граніцы нібы паспакайнела, чуткі і сапраўды больш не «мусіраваліся» — у арміі проста было забаронена гаварыць аб хуткай вайне, — і чырвонаармейцы перасталі падазрона прыслухоўвацца да гулу матораў, які ўвесь час даносіўся з таго боку.

* * *

Дзяжурным па лагеры быў Аляксееў зямляк, капітан Сітны, і Аляксей пазнаў яго па голасу, як той загаварыў з днявальнымі. Аляксей ведаў яго малодшага брата — вучыліся разам, нават у адзін дзень прызываліся, — і праз таго Сітнага пазнаёміўся з гэтым. Яны часта размаўлялі, і Аляксей ніколі не адчуваў над сабой капітанавай вышэйшасці. Паміж імі заўсёды была зямляцкая прыязнасць. Сітны нават чырванеў, калі чырвонаармеец Балаш выцягваўся перад ім.

Сітны падышоў і да Аляксея.

— Адстаяў сваё?

— Так точна.

Сітны ўсміхнуўся:

— Нябось адна твая нага яшчэ тут, а другая ўжо на Волзе?

— Цяпер паеду, таварыш капітан.

— Зайздрошчу я табе…

— Праўда?

— Праўда, Алёшка…

Памаўчалі. Тады Аляксей сказаў:

— Сёння ж самая кароткая ноч.

— Але.

— Ды сонца неяк не спяшаецца ўгору, нібы хто стрымлівае яго…

Капітан Сітны паглядзеў на гадзіннік:

— Хутка ўжо чатыры.

— Учора Максім прыслаў ліст — яго таксама пускаюць дамоў.

— Мы, здаецца, таксама…

— Што, зноў у Баранавічы?

— Тут пакідаюць адзін батальён.

— Правільна, раз не патрэбны, навошта трымаць…

— А ты і сапраўды думаеш, што не патрэбны мы тут? — раптам зірнуў Аляксею ў вочы Сітны.

— Калі верыць паведамленню…

— Вось, вось!.. Калі верыць!

Аляксей пацiснуў плячамі.

— Паслухай, Алёшка, мы з табой камуністы і будзем шчырыя ў нашай гаворцы, раз яна пачалася. — Сітны нібы зазлаваў. — Я не баюся ні за цябе, ні за сябе. Але баяцца, што і дрэва мае вушы, таксама не трэба. Вядома, там, наверсе, відаць лепш… Але ж учора начальнік палітаддзела ездзіў да пагранічнікаў. Тыя гавораць зусім адваротнае. Немцы рыхтуюцца да вайны і вось-вось пачнуць. Так і лезуць да нас, адных правакацый не злічыць…

— Значыць, пісалі няпраўду?

Сітны сумна ўсміхнуўся:

— Цяпер нават можна пачуць, што ёсць усялякая праўда. Але ж гэта хлусня. Усім вядома, што праўда ніколі не рабіла шкоды.

Капітан развітаўся і пайшоў — у яго хапала клопатаў па дзяжурстве. Аляксей застаўся адзін. Капітанавы словы неяк непрыемна закранулі яго, і ён нібы ўпершыню адкрыццё для сябе зрабіў, што капітан Сітны ведае штосьці такое, чаго не ведае чырвонаармеец Балаш.

Аднекуль прыляцеў дзяцел і сеў на сасну, што стаяла крокаў за дзесяць ад палатак.

— Стук-стук-стук, стук-стук-стук…

На зямлю пачала церушыцца сасновая кара.

«Канаплянік», — падумаў Аляксей. Праз хвіліну на кусце жавіны, што буяў ля дашчанае сцяны ротнай капцёркі, запела берасцянка:

— Пінь-пінь, пінь-пінь…

Песня была звонкая, бадзёрая:

— Фыю… фыю… фыю…

— Ля-ля-ля, — не змаўкала берасцянка. — Дзі-дзі, дзі-дзі, ві-чую, ві-чую…

Аляксей ажно заслухаўся.

Уставала раніца…

* * *

Недзе далёка наперадзе вухнула раз, пасля другі, трэці… Аляксей нават пачуў высока над галавой характэрны шорах снарада. Але шорах гэты дайшоў да яго свядомасці як скрозь сон, быццам было нейкае соннае замарачэнне. Нават калі ўжо і за спіной у яго, можа, кіламетраў за пяць якіх, вухнула колькі разоў, ён не падумаў, што гэта рвуцца снарады. Тады загрымела зусім блізка, і Аляксей нарэшце ўскочыў, спалоханы, але не паспеў зрабіць і двух крокаў, як перад вачамі бліснуў агонь, падкінула крайнюю палатку. Другі снарад расшчапіў сасну, на якой сядзеў жвавы канаплянік, якраз пасярэдзіне, і дрэва абрынулася, падмінаючы пад сябе палаткі. Але Аляксей ужо не чуў, як валілася дрэва, ён нават не чуў, як па лагеры рваліся адзін за адным снарады. Ён нібы аглух — адразу залажыла вушы, але тым не менш ён нейкі момант яшчэ стаяў, здранцвелы, і толькі пасля ўпаў ніцма.

Снарады калацілі зямлю доўга. Аляксей баяўся паварушыцца і ўвесь сціскаўся ад жаху, як камякі балюча білі па спіне, — яму здавалася, што гэта не камякі, а асколкі сякуць цела.

Артналёт скончыўся раптоўна, таксама як і пачаўся. Аляксей, яшчэ не верачы сабе, падняўся спачатку на карачкі, пасля стаў, хістаючыся, на ногі; твар яго ў гэты момант быў як у нежывога. Здранцвенне праходзіла паступова, але і пасля таго як ён пачаў азірацца па баках, пад каленкамі дрыжала і к горлу падступала моташнасць.

Палатак другога батальёна як і не было. Усё пераварочана — копаць, кроў ды пашматаныя чалавечыя целы.

Менш дасталося першаму батальёну, палаткі якога стаялі трохі ніжэй. Там цяпер бегалі напаўраздзетыя чырвонаармейцы, чуліся каманды. Ля штабных баракаў ужо выстрайваліся роты. Аляксей таксама падаўся туды. Але крануўся з месца, як п’яны. Да яго адразу падскочыў нейкі камандзір, сунуў у рукі вінтоўку, сумку з патронамі і піхнуў у строй. Тым часам начальнік палітаддзела дывізіі, надзіва спакойны, хоць і бледны, з кропелькамі поту на скронях, штосьці гаварыў чырвонаармейцам — Аляк-

сеева глухата яшчэ не прайшла, і ён дрэнна чуў. Нарэшце начальнік палітаддзела падаў каманду, і чырвонаармейцы, адразу парушыўшы строй, пабеглі, трымаючы вінтоўкі ў руках, па лясной дарозе, якая вяла ад лагера праз лес на граніцу, дзе не праставала грамыхаць і адкуль даносіўся шум блізкага бою.

Аляксей бег амаль апошні. Ён увесь час бачыў перад сабой то белыя, то зялёныя спіны чырвонаармейцаў. Бегчы было лёгка, нягледзячы на тое, што сумка з патронамі адцягвала плячо. Чым хутчэй Аляксей бег, тым больш рабіўся спакойны. І не было ў яго душы ніякага страху. Але неўзабаве Аляксей адчуў, як тупы боль праця́ў яго нагу, і ён закульгаў, пачаў паступова адставаць ад чырвонаармейцаў. Праз нейкі момант ён ужо адзін кандыбаў па дарозе, але ўсё яшчэ спяшаўся.

Немцаў Аляксей убачыў на вялікай круглай паляне, якую абступалі з усіх бакоў густыя лазовыя кусты. Немцы ішлі насустрач яму і стралялі з аўтаматаў. Яны нават не цэліліся, проста стралялі перад сабой і ішлі на ўвесь рост. Аляксей кінуўся на зямлю і папоўз да невысокага пня, які ўбачыў збоку, крокі за тры ад сябе. Першага свайго стрэлу ён не пачуў, толькі заўважыў, як паваліўся на зямлю шыракаплечы, рослы немец. Ад гэтага Аляксею стала радасна, і другога немца ён ужо браў на мушку з вясёлаю злосцю, падобнай на ўдачлівую зухаватасць: Можа, таму, што фашысты былі зусім блізка, страляў ён без промаху. Спачатку ворагі разгубіліся, нават запыніліся на момант, але затым зноў рушылі наперад, падыходзячы ўсё бліжэй і бліжэй да Аляксея. А Аляксей страляў па іх і страляў без продыху. Нарэшце патроны скончыліся. Тады Аляксей дастаў з сумкі, што ляжала побач, запасную абойму, глянуў на патроны і не спяшаючыся пачаў пераздараджаць. У гэты момант ірванула зямлю. Аляксей адчуў, як штосьці моцна штурханула яго, ён ударыўся галавой аб пень і выпусціў з рук вінтоўку.

* * *

Апрытомнеў Аляксей, можа, праз гадзіну. На паляне ўжо не было немцаў. Адны забітыя валяліся на пажухлай траве, і апошні немец ляжаў усяго крокаў за трыццаць ад пня, з-за якога страляў Аляксей.

Панавала глухая цішыня.

Галава Аляксея была як налітая, і ўсё кружылася, хілілася да зямлі. У целе адчувалася незвычайная лёгкасць і слабасць. Зліпаліся павекі, быццам перад сном пасля малацьбы.

Аляксей яшчэ раз акінуў позіркам нерухомыя постаці на паляне і раптам па-сапраўднаму зразумеў: гэта ж ён палажыў столькі ворагаў!

«А дзе ж астатнія? — падумаў ён. — Іх жа было больш. — І тады Аляксей нягучна, як хапіла сілы, засмяяўся, у галаве з'явілася радасная здагадка: — Значыць, яны павярнулі назад! Значыць, атака адбіта!» І чым даўжэй Аляксей прыслухоўваўся да цішыні, тым больш рады быў гэтай сваёй здагадцы, хоць яна ўжо і не надта вялікім адкрыццём была для яго, бо па-іншаму ён нават і не ўяўляў сабе зыходу першага бою. Цяпер яго хвалявала і радавала тое, што і ён, Аляксей Балаш, чырвонаармеец другога батальёна трыста сорак чацвёртага палка, мае непасрэднае дачыненне да сённяшніх падзей. На душы, нягледзячы на шматлікія раны, было хораша, і Аляксей адчуваў сябе, можа, самым шчаслівым чалавекам.

Яму балела, і ён не мог паварушыцца, толькі часта паднімаў галаву, глядзеў перад сабой і ўсё чакаў санітараў. Але санітары не ішлі, і Аляксей траціў прытомнасць, потым зноў ажываў, клікаў слабым голасам санітараў і дзівіўся, чаму не ідуць па яго.

Апошні раз да яго вярнулася свядомасць у канцы дня, у той момант, калі на паляне спыніўся вялізны крыты грузавік. З грузавіка выйшлі трое ў такіх жа мышастых мундзірах, якія былі і на тых, што ляжалі на паляне. Гэта прыехала пахавальная каманда. Але Аляксею ўжо дрэнна бачылася, у галаве ўсё блыталася і нельга было сабраць у адно думкі. Аляксей канаў, і яму здавалася, што на паляне варушыліся не немцы, а вялізныя дымчатыя жабы. Некалі гэтыя жабы не давалі Аляксею спаць — за дваром у іх была сажалка, і жабы заўсёды квакалі ўлетку на ўсю моц. Аляксей набіраў у кошык камення, насіў да сажалкі і кідаў яго ў ваду. Жабы на нейкі час, напалоханыя, сціхалі, але як толькі Аляксей адыходзіў ад сажалкі, зноў пачыналі квакаць. Гэта яго злавала… І цяпер вось вярзлося…

* * *

Аляксей ужо не дыхаў, калі крокі за чатыры ад яго спыніліся салдаты з пахавальнай каманды: адзін — кароткі, тоўсценькі і малады, а астатнія два немцы — пажылыя ўжо, амаль аднаго росту. Немцы прыйшлі паглядзець на тое месца, адкуль уранні стралялі чырвоныя. Яны спадзяваліся ўбачыць разрытыя акопы і шмат забітых, але на краю паляны не відно было ні акопаў, ні забітых, акрамя аднаго, які ляжаў, скурчаны, за пнём.

Немцы былі расчараваны.

Малады сказаў:

— Горача, — і расшпіліў мундзір. — А ён, аказваецца, быў тут адзін… — Сеў трохі воддаль на пясчаную купку, выпрастаў сваю правую нагу і, сунуўшы руку ў кішэню, дастаў адтуль блішчасты губны гармонік.

— Не трэба, Курт, — скрывіў твар пажылы немец.

Курт злосна паглядзеў на яго, колькі разоў падкінуў угору гармонік свой, затым нечакана перакуліўся цераз спіну, ускочыў, бы малады мядзведзь, на ногі і пабег прэч, туды, дзе стаяў грузавік.

— Гэй, вы! — крыкнуў ён. — Скідайце шапкі! Хаця не… лепш скідайце!.. — Але Курт не дагаварыў і весела, як вар'ят, зарагатаў, мусіць, са свае выдумкі.

Тым часам другі немец сказаў:

— Відаць, і яго трэба закапаць…

— Можна і закапаць.

— Тут нядоўга. Закідаем зямлёй, і ўсё.

— Але ж па рыдлёўку трэба ісці ажно да машыны!

— Тады не будзем.

— Так, усіх не закапаеш. Колькі іх яшчэ будзе, пакуль Маскву тую забяром.

На паляне загурчаў матор. Вясёлы Курт вырульваў на дарогу. Яму карцела як хутчэй выбрацца з гэтага лесу куды-небудзь на шумную шашу, дзе рухаліся на ўсход калоны войск, тым больш што на гэтай паляне ўжо не было чаго рабіць: дамавіны стаялі адна на адной у кузаве грузавіка. Дзве былі пустыя — канчаўся толькі першы дзень вайны, і драўляных скрынь, прывезеных ажно з Германіі, яшчэ хапала на ўсіх забітых.

*1965*

## НА ПЫЛЬНАЙ ДАРОЗЕ

Машына імчыць праз стэп па шырокай пыльнай дарозе. На заднім сядзенні, адкінуўшыся на спіну, Антон Ягоравіч Шасцярнёў. На пярэднім, поплеч з брытагаловым шафёрам, другі Шасцярнёў — сын Антона Ягоравіча — Васіль. Ён, як і бацька, вышэй сярэдняга росту. На выгляд мае гадоў дваццаць пяць — дваццаць сем. У яго дробныя, вельмі рухомыя рысы твару з высокім, крыху сціснутым на скронях ілбом, гладкая, амаль жаночая шыя і тонкія белыя рукі з доўгімі пальцамі.

Бацька і сын маўчаць.

Шафёр трымае на чорнай, шышкаватай баранцы руля вялікія спакойныя рукі і не спускае з дарогі лянівых вачэй.

Антон Ягоравіч глядзіць на сына і ўвесь час бачыць адны адтапыраныя вушы з мяккімі, як падушачкі, мочкамі, на якіх, бы на марозе, выступіў белы пух, ды яшчэ патыліцу.

Сына Антон Ягоравіч не чакаў да сябе. І таму разгубіўся, калі той пазваніў учора.

— Гэта Шасцярнёў? — спытаў на другім канцы дроту незнаёмы голас.

— Шасцярнёў.

— Добры дзень, бацька!

Трубка памаўчала трохі, і Антон Ягоравіч зноў пачуў:

— Гэта Васіль… Я праездам у вас. Заўтра буду ў Крапоткіне.

— Тады я вазьму машыну і па цябе прыеду, — сказаў Антон Ягоравіч.

У трубцы ляснула — сынаў голас прапаў недзе, але Антон Ягоравіч не адняў ад вуха трубкі і яшчэ доўга слухаў, як на лініі перагаворваліся тэлефаністкі.

І вось цяпер Антон Ягоравіч едзе ў машыне на мяккім сядзенні і амаль з жахам думае, што гэтак ужо вырас Васіль, хоць ён у яго і трэці, — старэйшыя даўно зажылі сваімі сем'ямі. Мусіць, і гэты таксама.

Так, у Антона Ягоравіча трое дарослых сыноў… Ад першае жонкі. Мікола, Пецька… І гэты. Антон Ягоравіч глядзіць на яго, пакутліва думае і паступова пачынае разумець, што амаль усё пасляваеннае жыццё баяўся гэтай сустрэчы, хоць і добра ведаў, што некалі яна адбудзецца. Сын абавязкова прыедзе. І не Мікола, і не Пецька. А менавіта малодшы, Васіль.

Машына калываецца па выбоінах. Чуваць, як пад коламі хрустае дарожная галька.

У даўгаватае люстэрка, што над ветравым шклом, відаць шэрыя сынавы вочы, якія то патухаюць пад доўгімі вейкамі, то ўспыхваюць трывожным бляскам.

…Апошні раз Антон Ягоравіч бачыў малодшага сына… Але ж ад апошняга разу Васіль чамусьці добра і не запомніўся. Затое не забывалася тая цёмная ноч у сярэдзіне лета, калі вярталіся з бежанцаў: непадалёку ад Клінцоў немцы самкнулі клешчы і ў акружэнні, разам з вайсковымі часцямі, апынуліся бежанскія абозы. Давялося павярнуць назад. Наўкол палыхалі пажары, а ў лесе скрозь усю ноч было цёмна, і толькі пад ранне патрохі пазначылася пад нагамі дарога. На вазах была раса. Нямазаныя

калёсы гучна рыпелі, і, пэўна, здалёку магло здавацца, што гэта недзе ляцяць над зямлёй жураўлі. Нарэшце вазы цяжка выпаўзлі з лесу, і стомленыя коні спыніліся на скрыжаванні дарог перад вялікай вёскай, якая патанала ледзь не па самыя стрэхі ў густым, нерухомым тумане. Адна дарога вяла на Вішанькі. Антон Ягоравіч узяў за аброць свайго каня і павярнуў на тую дарогу.

Развітаўся ён з сям'ёй, калі ўжо на ўсходзе пачырванела.

Да Вішанек аставалася вярсты дзве.

— Пабудзі хлопцаў, — сказаў Антон Ягоравіч жонцы, якая моўчкі, зажмурыўшыся, тупала за возам: згаварыліся загадзя — у вёску Антон Ягоравіч не будзе заходзіць.

Жонка страпянулася, на момант сцялася і раптам забедавала, заплакала ўголас, закалаціўшыся ўсім целам.

— Сціхні, не трэба так, — папрасіў Антон Ягоравіч.

І яна паслухалася — быццам праглынула свой плач. Антон Ягоравіч падышоў да воза, дастаў вінтоўку, якою ён абзавёўся па дарозе і якая ляжала пад скарбам, і пачаў сам будзіць сыноў. Большыя два падхапіліся адразу. Бацька нязграбна абняў іх амаль сонных, нахіліўся над меншым. Той ляжаў на возе, загорнуты ў кажух, і, здавалася, не дыхаў.

— Васіль… Васё-ё-ок, — паклікаў бацька.

Сын не паварушыўся.

Тады Антон Ягоравіч адгарнуў барадою аўчыну і пацалаваў сына ў твар.

— Няхай спіць, — сказаў ён.

Але маці параіла:

— Лепш пабудзі, а то прачнецца — будзе слёз, дый…

Антон Ягоравіч падумаў і зноў ціха гукнуў:

— Вася… Васілё-ё-ёок!

Але сын не прачнуўся.

— Не, няхай спіць.

— Ды ўжо няхай, — уздыхнула маці.

— Дык вы ж тут, хлопцы, памагайце матцы, — сказаў Антон Ягоравіч сынам. — Вас жа вунь колькі, ажно трое! А яна — адна будзе…

Антон Ягоравіч прытуліў жонку:

— Ну, едзьце… А я тут пагляджу…

І доўга яшчэ стаяў на дарозе, чакаў, пакуль схаваецца за паваротам воз. Пасля закінуў на плячо вінтоўку, падвесіў на рэмень падсумак з патронамі, але не паспеў ступіць і дзесяці крокаў, як пачуў за спіною дзіцячы крык:

— Та-а-а-та-а-а!..

Нешта шмякнулася аб зямлю ў прыдарожных кустах, залапатала крыламі разбуджаная птушка.

Антон Ягоравіч азірнуўся — па ранішняй шэрані, спатыкаючыся, бег да яго меншы сын, якога перад гэтым нельга было дабудзіцца. Белагаловы, босы, у расхрыстанай кашульцы, даганяў бацьку. Нарэшце падбег, задыханы, спыніўся і з вачамі, поўнымі слёз, выцягнуў перад сабой сціснуты кулачок.

— Што ты, сынок?

Хлопчык раскамечыў кулачок, і тады на яго вузенькай далоні Антон Ягоравіч заўважыў блішчасты вінтовачны патрон з белай куляй, на самай дзюбачцы якой былі два цёмныя паяскі.

— Вазьмі, — сказаў хлопчык. — Гэта я… утаіў… Дастаў з тваёй кайстры і ўтаіў…

Ён пацёр, як ад камароў, адна аб адну ногі, вінавата апусціў галаву.

— На, вазьмі, — жаласна паўтарыў сын. — Вазьмі свой патрон. Мама кажа, што ты на вайну ідзеш.

Антон Ягоравіч сціснуў малога за худыя плечы, падняў угору і, з заміраннем сэрца, патрымаў колькі часу на руках.

Патрон той пасля ён доўга насіў асобна, у кішэні — усё бярог, адкладваючы на «апошні выпадак». Але «апошняга выпадку» не здарылася.

А ў тое ліпеньскае ранне Антон Ягоравіч пайшоў на ўсход. Лінію фронту яму ўдалося перайсці недзе паміж Рослаўлем і Бранскам. Уласна кажучы, ніякае лініі фронту там яшчэ не было. Проста немцы не паспелі авалодаць трактам, што вёў на Тулу. Уздоўж яго бранскія і арлоўскія калгаснікі накапалі траншэяў, акопаў, і наша камандаванне сцягвала туды войскі. Але на рубяжы пакуль стаялі асобныя батальёны, якія займалі пазіцыі паблізу вёсак. У размяшчэнне аднаго такога батальёна і выйшаў Антон Ягоравіч. Яго затрымалі артылерысты на беразе рэчкі, здаецца, Угасці. На дошчачцы, што была прыбіта на коўратах, было напісана: «Сбор отступающих групп, одиночных бойцов и командиров в лесу у оборонительного рубежа» — і памкамузвода, украінец, спытаў:

— А вы хто? Баец? Камандзір?

— Дэзерцір, — падказаў няўрымслівы канваір, малады чырвонаармеец, які прывёў Антона Ягоравіча ў вёску.

— На дэзерціра гэты выпадак не падобны, — усумніўся памкамузвода. — Хутчэй ён дыверсант. Але раз так, то вядзі да штаба. Хай начальства разбіраецца.

Стомлены камандзір батальёна трохі паслухаў атарапелага Антона Ягоравіча і, не ўзяўшы нават у рукі ягоных дакументаў, параіў:

— Тут, непадалёку, апалчэнцы полк свой фарміруюць. Вам, мусіць, туды і трэба.

У наступленне немцы перайшлі ў пачатку жніўня. Семнаццаць дзён кідалі яны свае часці ў атакі. Над перадавой амаль круглыя суткі віселі самалёты з жоўтымі крыжамі. Антон Ягоравіч быў у апалчэнні. Здаецца, на пяты дзень цяжка параніла камандзіра роты, і Антона Ягоравіча прызначылі на яго месца.

Зноў у Вішанькі Антон Ягоравіч трапіў у сорак чацвёртым годзе, калі ехаў са шпіталя ў сваю часць. Фронт тады стаяў кіламетраў за сто на захад ад вёскі — на беларускай Проні. Ужо чацвёрты год ішла вайна.

Там, дзе некалі была пяцісценная хата Шасцярнёвых — зрубленая ў лапу, на сямёра акон з двума высокімі ганкамі, — Антон Ягоравіч убачыў папялішча і дзве груды пакрышанай цэглы: ад печы і грубкі-ляжанкі. У зале валяліся зялёныя камякі расплаўленага аконнага шкла. Тырчалі, як дзіды, абвугленыя штандары. Вакол папялішча ўжо буяў палын, з-пад бярвенняў-недагаркаў нясмела падымалася глухая крапіва, нават парос палявы хвошч. На былым падворку ўсё яшчэ ўзвышалася знаёмая лістоўніца, але і яе не абмінуў пажар — ніжняе голле паўсыхала, зялёная пакуль была адна макаўка, ды і тая пачала ўжо вянуць: мусіць, хапіла сокаў, каб зазелянець апошні раз.

Усе ў вёсцы жылі ў зямлянках. Зямлянкі былі зроблены на скорую руку, і вёска стала падобна на вялікія могілкі.

Антон Ягоравіч пастаяў на сваім хацішчы, агледзеўся.

За гародам, на якім цвіла бульба, дыміла вогнішча, і Антон Ягоравіч рушыў туды. Ля вогнішча быў адзін Васілёк. Бацьку ён пазнаў адразу. Але Антону Ягоравічу чамусьці здалося, што сын быццам бы не надта рады сустрэчы — усмешка, якая паявілася на ягоным замурзаным твары, была кволая, як у хворага. Хлопчык нават не кінуўся бацьку на шыю. Ён толькі падняўся на ногі і, схіліўшы набок галаву, часта-часта заплюскаў павекамі.

— А мамка не ведала, што ты прыедзеш, — нарэшце сказаў ён.

Бацька пагладзіў сына па галаве.

— Дзе ж яна?

— Пайшла, — сын апусціўся на каленкі і пачаў мяшаць трэсачкай у кансервавай бляшанцы. — Пайшла з хлопцамі ў Халявічы. Можа, прынясуць адтуль бульбы. Халявічане не пага-

рэлі… дык прадаюць. А ўчора мы па твайму атэстату атрымалі за гэты месяц пяцьсот рублёў. Мама казала, што якраз на пуд бульбы хопіць. Цяпер усё дорага.

Гаварыў ён зусім як дарослы, з нейкаю ляніваю разважлівасцю, быццам з неахвотаю, і гэта ўразіла Антона Ягоравіча, нават збянтэжыла.

Хлопчык пераламаў хварасціну, заціснуў у ёй бляшанку і выняў з агню. Вада перастала кіпець, астаялася, і тады на дне бляшанкі Антон Ягоравіч убачыў зусім зялёныя жытнія зярняткі. Яны адно трохі распарыліся: жыта ў полі толькі-толькі пачало наліваща.

— Ого, ды ты, хлопец, не благі кухар!

Але сын, мабыць, не зразумеў бацькавага жарту — паглядзеў сваімі шэрымі запалёнымі вачамі і спытаў з нейкай глыбока схаванай унутранай трывогай, падобнай на шкадаванне:

— І ты хочаш есці?

Бацька на момант сумеўся, сціснуў зубы і адчуў як пад скурай на шчоках па два бакі захадзілі тугія жаўлакі.

— Кінь ты сваё варыва, — сказаў Антон Ягоравіч сыну. — Хадзем у зямлянку, у мяне тут, у чамадане, ёсць не такая яда!

Сын паверыў — спачатку выліў на зямлю мутную ваду, пасля размахнуўся і кінуў у агонь бляшанку.

— Але ж нашы не скора прыйдуць, — занепакоіўся ён. — Хоць што я кажу, там іх, можа, ужо хто пакарміў. Я таксама хацеў пайсці, але мамка не пусціла, сказала — не дайду. — І раптам спытаў: — А ты што, тата, маёр?

— Ага, маёр.

— Я і генерала бачыў.

Ён строс рукою вуголле, якое напрыліпала да кароткіх штанін, падраных на каленках, і пайшоў да зямлянкі. Ногі ў яго былі распухлыя. Ішоў ён па сцежцы так, быццам было яму мулка, быццам баяўся наступіць на што.

Нарэшце машына праязджае паўз вялікі сад, што расцягнуўся на цэлую вярсту па левы бок дарогі, і міма нейкага збудавання, падобнага на акведук, выносіцца на шырокую плаціну, паднятую над ракой. Васіль паварочвае галаву і доўга глядзіць на правы бераг, парослы чаротам. Антон Ягоравіч таксама нейкі час пазірае на раку, пасля пачынае неспакойна варушыцца і гаварыць:

— На хутары Ілаваеўскім цётка твая жыве… Прося… Пераехала з Вішанек.

— Дзе гэта?

— Не вельмі далёка. Можа, заедзем?

— Не.

Бацька яшчэ хвіліну-другую спадзяецца, што сын перадумае, але той ужо глядзіць толькі на спакойную шырокую раку, у якой вада чамусьці здаецца зялёнай. І бацька зноў бачыць у даўгаватым люстэрку, што прымацавана над ветравым шклом, сынаў твар — нахмураны, з чорнымі ссунутымі брывамі, якія ледзь не сыходзяцца на пераноссі.

…Дэмабілізавалі Антона Ягоравіча неспадзявана. Раптам выклікалі ў аблваенкамат — ужо другі год, як пасля вайны ён быў у раённым ваенкамаце на Каўказе, — і сказалі:

— Нарэшце, таварыш Шасцярнёў, вы паедзеце дамоў. Вас дэмабілізуюць. А то засядзеліся, а сям'я там нябось даўно чакае.

На развітальнай вечарынцы знаёмыя афіцэры пілі спірт і жартавалі, а самому Антону Ягоравічу было сумна. Можа, толькі цяпер ён па-сапраўднаму і адчуў, як нечакана абарвалася яго па-новаму прывычнае жыццё — так, прывычнае, бо за паўтара мірныя гады ён ужо прывык і да сваёй немалой пасады, і да гарадской кватэры. Праз ваенкамат нямала прайшло дэмабілізаваных афіцэраў, і Антон Ягоравіч бачыў, як па-рознаму яны ставіліся да перамен — адны з неахвотаю расставаліся з усім вайсковым, і гэтым ён па-свойму спачуваў, другія, наадварот, былі рады, што нарэшце становяцца цывільнымі, але гэтых ён амаль не разумеў. Пра сябе ён чамусьці не думаў. Яму здавалася, што ўсе гэтыя пертурбацыі яго не закрануць. Таму вельмі разгубіўся, калі пачуў пра сваю дэмабілізацыю ў аблваенкамаце. За сталом цяпер сядзеў маўклівы. Яму нават дзіўна было, што ўсё гэтае «насілле» адбываецца пад такі вясёлы шум. Здавалася, што ў гэтым шуме шмат няшчырасці і шмат хто са знаёмых пасміхаецца з яго.

У той вечар Антон Ягоравіч многа піў і многа думаў. І вынікам гэтага было тое, што нарэшце ён пераканаў сябе ў самым істотным для яго — калі б не надумаліся звальняць яго ў запас, то дамоў, у Вішанькі, ехаць яму не абавязкова было б, бо ніштó яго не цягнула туды, а сям'ю, на благі канец, можна перавезці заўсёды, хоць вялікай патрэбы і не адчуваецца: Антон Ягоравіч гатовы быў лічыць, што для яго настаў час, калі дазволена «пагуляць на волі».

Былыя саслужыўцы адвезлі Антона Ягоравіча на «вілісе» на станцыю, пасадзілі ў вагон. Нехта прыхапіў з сабой бутэльку, і пакуль стаяў поезд, выпілі яшчэ па шклянцы, пасля павыходзілі

з вагона і доўга курылі на пероне. Нарэшце поезд ляснуў буферамі, Антон Ягоравіч на хаду ўскочыў на падножку. У купэ было амаль пуста, толькі на адной верхняй паліцы спала жанчына. Антон Ягоравіч паваліўся на ніжнюю полку, стомлена, да хрусту ў касцях, выпрастаўся і заснуў. Прачнуўся ён ужо недзе паблізу Растова. У купэ сядзела, мусіць, тая самая жанчына, што спала ўначы. Антон Ягоравіч схадзіў памыцца, падсеў да акна. Галава пасля выпіўкі балела, на душы было прыкра. Цяпер, як ніколі, Антон Ягоравіч адчуваў сябе адзінока, зусім не заўважаючы, што сваімі «чорнымі» думкамі сам наганяў гэтую адзіноту.

Жанчына была гадоў на дзесяць маладзейшая за Антона Ягоравіча. Выгляд у яе быў здарожаны, і таму не паддаваўся вызначэнню дакладны ўзрост, хоць і без таго было ясна, што да трыццаці ёй яшчэ трохі не ставала. Неўзабаве яны разгаварыліся і ўжо да Растова ехалі, як добрыя знаёмыя. Антон Ягоравіч раптам на час забыў і пра сваю адзіноту, і пра сваю крыўду. Яму зрабілася нават хораша.

Звалі яго спадарожніцу Валянціна Захараўна, і хутка Антон Ягоравіч ужо клікаў яе проста Валяй. Яна адкрыта глядзела на яго сваімі вялікімі вачамі, смяялася сваім мяккім, аксамітавым смехам і ўсё пагладжвала левай рукой сваё аголенае правае плячо — белае і гладкае.

У Растове Валянціне Захараўне трэба было выходзіць, і Антон Ягоравіч памог сабраць рэчы.

— А што, калі і мне пахадзіць па Растову, — быццам спахапіўшыся ў апошні момант, сказаў Антон Ягоравіч.

Валянціна Захараўна ўскінула на яго свае блакітныя вочы і сказала зусім весела:

— Вы ж, мусіць, самі сабе камандзір!

— Значыць, запрашаеце, Валечка?

— А чаму б і не! — нібы ад здзіўлення, паціснула яна плячамі. — Пакажу вам Растоў. Дарэчы, у мяне і кватэра свая.

І самае галоўнае — Валянціна Захараўна не распытвала, жанаты ён ці халасты, адкуль і куды едзе, што збіраецца рабіць. Адным словам, Антон Ягоравіч раптам знайшоў сабе ўцеху і затрымаўся ў дарозе ажно на цэлы тыдзень.

У Вішанькі ён прыехаў трохі супакоены. Але спакою хапіла ненадоўга. Пахадзіў колькі дзён «па начальству» і зноў пачаў думаць, што вакол шмат няшчырасці і што кожны гатовы пасмяяцца з яго: як жа, зноў у старшыні сельсавета! Асабліва моцнае стала гэтае недарэчнае адчуванне ў ягонай душы пасля сустрэчы

з Чарчуліным, даўнім сваім знаёмым, які да вайны часта бываў у Вішаньках упаўнаважаным па розных кампаніях.

— Ты не надта слухайся іх, — казаў Чарчулін. — Хадзі, спрачайся, дамагайся свайго. Пад ляжачы камень вада не заплыве. Ай-я-яй! —Чарчулін цокаў языком, ледзь не ў роспачыківаў галавой. — Я табе, дарагі мой Шасцярнёў, выдам адзін сакрэт. Будзем лічыць, што ты тут пакуль чалавек новы. Дармо што тутэйшы. Цяпер у раёне ўсё па-новаму пайшло. — І пачаў наступаць Антону Ягоравічу на мазоль. — Партызаны захапілі ў раёне ўсю ўладу. Пакуль мы на Берлін хадзілі, яны тут паасядалі, і цяпер іх нічым не выкарчуеш. Як прыйшла рэгулярная армія, так і засталіся тут, пахапалі партфелі. Ну, а цяпер старыя кадры вяртаюцца. Дык каму хочацца месца сваё аддаваць? Вось так, дарагі Антон Ягоравіч! Сітуацыя, скажу табе. Схадзіў бы ты яшчэ да першага.

Першы сакратар райкома, аднарукі і, відаць, хворы чалавек, прыняў Антона Ягоравіча ветліва, уважліва паслухаў, сумна ўсміхнуўся.

— Дарма гэта вы, таварыш Шасцярнёў. Нам цяпер патрэбны людзі во як! — Ён пакратаў рукою сваю кадыкаватую шыю. — Але я не разумею, чаму ўсе дэмабілізаваныя афіцэры павінны шукаць сабе месца ў горадзе. Вы ж самі, пэўна, паспелі ўжо ўбачыць, што ўсё яшчэ разбурана — адны папялішчы наўкол. Тут жа франтавая паласа была. Дык трэба ж неяк жыццё па-чалавечы пачынаць. Людзей з зямлянак выводзіць, здаецца ж, і ваша сям’я яшчэ ў зямлянцы жыве. Ну, а наконт… А наконт большай пасады, то ўрэшце ў нас яны амаль усе выбарныя. Папрацуйце, таварыш Шасцярнёў, у вёсцы, камуністы паглядзяць на вас, можа, выберуць і на маё месца. — Ён зноў усміхнуўся. — А вы кажаце — партызаны, франтавікі. Ды і не адны вы. Але што гэта за размежаванне? Калі хочаце ведаць дакладна, то я і не франтавік, і не партызан. Хаджу без рукі яшчэ з Грамадзянскай.

З райкома Антон Ягоравіч выйшаў як бы прысаромлены. Але спаслаўся на тое, што яшчэ не адпачыў. Пасля пачаў знаходзіць іншыя адгаворкі.

Напісаў у Растоў.

Валянціна Захараўна адказала тыдні праз тры. Але на канверце адрас быў не растоўскі — кароткае пісьмо прыйшло з Краснадарскага краю. «Мне пераслалі Ваша пісьмо знаёмыя, — пісала Валянціна Захараўна. — Па мяне прыязджаў у Растоў мой брат, і я цяпер жыву разам з ім. Дарэчы, я расказала яму пра Вас. Калі Вы ўсё ж не ўладкаваліся там, то прыязджайце да нас.

Брат кажа, што работа тут знойдзецца. На першы час ён можа ўзяць памочнікам да сябе. Яго памочнік якраз на павышэнне пайшоў — забралі ў другі раён…»

Пісьмо гэта неспадзявана і вырашыла ўсё. Антон Ягоравіч раптам сабраўся і паехаў. А жонцы і меншаму сыну — самы большы к таму часу ўжо служыў у арміі, а сярэдні, Пецька, вучыўся ў тэхнікуме ў Магілёве — сказаў, што паедзе пашукае добрага месца і, калі яму спадабаецца там, прыедзе забярэ іх…

* * *

І вось цяпер малодшы сын, якога Антон Ягоравіч некалі, шмат гадоў таму ашукаў і, мусіць, дзеля «кар'еры» баязліва пакінуў у нястачы, сядзіць перад ім. Кар'еры Антону Ягоравічу не ўдалося зрабіць: ён «замёрз» на адным месцы. І вось цяпер тут сын… Антон Ягоравіч разумее, што ім як хутчэй трэба пагаварыць — тады, можа, не будзе ўжо гэтай пакутлівай і зацятай маўклівасці, якая прымушае сціскацца сэрца. Але як падступіцца да яго, з чаго пачаць, пра што гаварыць, Антон Ягоравіч не ведае.

А машына тым часам, узнімаючы пыл, няспынна імчыць праз стэп.

*1965*

## ШЧАСЛІВАЕ МЕСЦА

Вясна ў той год была ўзялася вельмі рана. У пачатку сакавіка снег пачарнеў, і пад ім захлюпала вада. Ледзь не над самай зямлёй павіслі, як налітыя, хмары. Адвячоркамі над вёскамі слаўся не то дым, не то туман. Дзьмуў едкі, густы і парывісты вецер. За колькі дзён на рэках паадмывала ад берагоў лёд. Здавалася, вось-вось пачнецца крыгаход. Але неспадзявана пахаладала, і вясна спярша паспакайнела, пасля зусім нібы заснула: ці то ў яе сіл не хапіла, каб саўладаць з гурбамі снегу, ці то яна нарэшце зразумела, што перабрала меру, хапіла цераз край — не ў час пачалася. Снег бадай за адну ноч, пабраўся бліскучай скарынкай. Лёд на рэках зрабіўся крохкім — не ступіць нагой. Неба зноў ачысцілася ад цяжкіх хмар, паднялося над зямлёй, стала высокае. Пачарнелыя дарогі перасталі пахнуць, пакарабаціліся. А наогул дарогі — так, як сабе ўяўляюць людзі, — папсаваліся: па мелкаводных рэках, што без мастоў, ужо нельга было перабрацца на другі бок ні на падводзе, ні на машыне; нават пешкі мала хто

адважыцца. Не пазайздросціш небараку, які астаўся на такі час дзе-небудзь за ракой. Звычайна бездараж зацягваецца надоўга, і тады даводзіцца адно сядзець ды чакаць.

Але мне не было як чакаць — я ўжо даўно, яшчэ некалькі дзён таму назад, павінен быў вярнуцца ў горад. І не мог. Спярша спадзяваўся, што хутка сыдзе лёд і мяне перавязуць цераз раку на лодцы, а там ужо я і сам дабяруся да станцыі — нават на сваіх дваіх, калі не пашанцуе пад'ехаць. Адным словам, першыя дні, як пачалася вясна, была яшчэ надзея. Пасля, як раптам пахаладала і над зямлёю зноў закружыліся белыя мухі, і яе не стала. Адно, што я зрабіў, — гэта падаўся бліжэй да ракі, да знаёмага школьнага апальшчыка і кожную раніцу, калі той збіраўся тапіць свае печы, ішоў за ім у школу, каб адтуль званіць у калгасы, саўгасы, — абы тэлефон дзе быў. Думалася, што некаму ж таксама зарупіць на той бок. Але ўсе далікатна спачувалі мне, а памагчы — не памаглі. Тым часам я дзіву даваўся: у гэтым жа міжрэччы, дзе я апынуўся па службе, столькі людзей, дык няўжо ні аднаму чалавеку не трэба ехаць за раку? А людзі рабілі сваю справу і, здавалася, зусім не зважалі на тое, што гэтак перамянілася надвор'е. Наадварот, я паступова пачаў здагадвацца, што яны, мусіць, і не паверылі ў такую раннюю вясну: як гэта — вясна ў пачатку сакавіка? Але мяне ўсё ж выручыў знаёмы ляснічы. Аказваецца, надышоў час палучкі, і ў лясніцтве чакалі бухгалтара з лясгаса. Пераправіць яго цераз раку браліся леснікі.

— А заадно і вас перакінем на той бераг, — паабяцаў ляснічы. — Бухгалтара даставяць да ракі на машыне, якраз, дарэчы, пад'едзеце. Адным словам, прыходзьце ў лясніцтва.

На другі дзень не паспела яшчэ добра развіднець, а я быў у лясніцтве. Ляснічы, грузны, чырванашчокі і шыракаплечы чалавек гадоў пад сорак, ужо сядзеў у акаваным вазку і ледзь стрымліваў за лейцы маладую, бы наглянцаваную кабылу, якой ні хвіліначкі не стаялася ў аглоблях. Я таксама сеў у вазок і яшчэ не перастаў варушыцца на сене — усё ўсаджваўся, як кабыла рванула з месца і, выгінаючы шыю, памчала нас па дарозе, што агінала вялікі сад, затым пакручаста збягала з горкі і цераз мост выходзіла на бальшак, абсаджаны з двух бакоў старымі бярозамі, на якіх ужо не было макавак. Кабыла прытка секла падковамі малады лядок на дарозе, а пад палазамі хрусцеў шарон.

Бальшак быў роўны, без калдобін і ўхабаў, вада ў каляінах за апошнія дні паспела вымерзці, і застаялая кабыла, адчуўшы волю, бегла лёгка, прыгожа раскідваючы пярэднія ногі.

Неўзабаве бальшак скончыўся, і дарога пайшла праз сасновы лес. На дрэвах снегу не было. Снег ляжаў толькі на зямлі, але ён быў нібыта пафарбаваны, амаль фіялетавага колеру, і ўвесь пабіты, бываспаваты, — гэта як падалі з лапінаў камякі.

Мусіць, ляснічы быў чалавек неразгаворлівы, і мы доўгі час ехалі моўчкі. І толькі пасля таго, як я неяк пахваліў кабылу, ён павярнуўся да мяне і сказаў:

— Данска-а-а-ая. Памаўчаў і зноў сказаў:

— Гэта нам у лясгас аднекуль з данскіх стэпаў прыгналі. Цэлы табун. Дык і мне вось дасталася. Хацеў жарэбчыка, але не далі. А на кабыле доўга не паездзіш.

Вазок раптам страсянула на павароце, ён нахіліўся набок, нават праехаў колькі метраў на адным полазе, але ляснічы ўмомант паспеў звесіць нагу і не даў перакуліцца яму.

Кабыла адчула, што з намі нешта здарылася, стала як укопаная і па-разумнаму скасіла нібы заінелае вока. Ляснічы ад задавальнення ажно засмяяўся:

— Малайчына! Другая б упудзілася, а гэтая… Каняка! — Ён штурхануў вазок і сказаў: — Нават шкада будзе… Ці ж ад жарабкоў яе ўсцеражэш? — Але прагучала гэта так, быццам ляснічы сказаў: «Ці ж ад ваўкоў яе ўсцеражэш?»

Гадзіны за паўтары мы прамінулі лес і ўехалі ў вёску. Сустрэў нас там рыжабароды ляснік у жоўтых бахілах. Ён зняў з галавы шапку, падобную на старую магерку, неяк смешна пакланіўся, не гледзячы на нас, і на ходу спрытна ўскочыў на палазы ззаду, учапіўшыся сваімі чырвонымі ад холаду рукамі ў высокую і пакатую спінку вазка. Калі мы нарэшце дабраліся да ракі, там ужо гатова была пераправа: цераз усю раку, калі не лічыць падмытыя берагі, быў прасечаны лёд, каб магла праплысці лодка. Машына з бухгалтарам яшчэ не прыязджала. Леснікі — іх на гэтым беразе было чалавек дзесяць — сядзелі ля вогнішча на кучы саломы, курылі, а як убачылі ляснічага, разам падняліся, пачалі падыходзіць да яго і вітацца за руку, кідаючы на мяне цікаўныя позіркі, у якіх можна было прачытаць адным часам і зайздрасць і рэўнасць.

Ляснічы спытаў:

— Няма яшчэ нашага Пятрычанкі?

— Ды штосьці няма, —адказаў за ўсіх той самы рыжабароды ляснік у жоўтых бахілах.

Нехта падкінуў саломы ў агонь. Яна падыміла белым дымам і ўспыхнула раптам, пачала на вачах чарнець.

Усе — і леснікі, і мы — пасталі вакол вогнішча, выстаўляючы рукі да агню і адварочваючы твары.

Ля берага, у вялікай проламцы, гойдалася паціху дашчаная лодка, пашпакляваная і прасмоленая.

Але бухгалтар прыехаў к абеду. Мяне леснікі павезлі на той бок толькі пасля таго, як убачылі лясгасаўскую машыну. Малады хударлявы шафёр, які нават не вылез з кабіны, чамусьці не стаў чакаць, пакуль перавозілі бухгалтара, і хуценька развярнуў машыну.

— Вы таксама хочаце ехаць? — спытаў ён.

— Ага, да станцыі, — сказаў я.

— Тады нам не па дарозе. — Ён ужо хацеў зачыніць кабіну, але перадумаў і пачаў такім тонам, быццам прасіў прабачыць: —У мяне пуцёўка… У Чэрыкаўскае лясніцтва. А гэта зусім у другі бок. Так што… — Нарэшце ён ляснуў дзверцамі, пасядзеў нейкі момант у кабіне і зноў высунуў галаву: — А вам на якую станцыю? Можа, усё роўна на якую?

— Ды мне абы на станцыю, — нявесела ўсміхнуўся я. — Адтуль я ўжо дабяруся…

— Ладна, сядайце. — Шафёр дружалюбна кіўнуў галавой.

Спярша мы ехалі палявымі дарогамі, і шафёр, абмінаючы замёрзлыя лужыны, усё хмурыў твар, пасля, кіламетраў якіх праз сорак, узбіліся на шашу — шафёр тады павесялеў, стаў насвістваць нейкую мелодыю, а я, закалыханы на выбоінах, на роўнай дарозе раптам пачаў драмаць.

Калі шафёр нарэшце павярнуў на абочыну і затармазіў машыну, сонца, якое выбліснула ўжо, павісла над лесам, што віднеўся здалёку па левы бок ад шашы. Наперадзе быў Сож. Да яго мы не даехалі, можа, метраў дзвесце, бо да моста нельга было прабіцца: на шашы, упрытык адна да адной, стаялі машыны.

— Пробка, — уздыхнуў шафёр, пачухаў пад шапкаю галаву і падміргнуў мне. — А наогул-то, дзе пробка, там паблізу і пляшку шукай. Вы пахадзіце тут, разамніцеся, зрэшты, тут і «чайхана» ёсць, ву-у-унь яна, а я схаджу паглядзець, чаму такі затор.

Я нейкі час тупаў вакол машыны і ўсё глядзеў, ці не ідзе шафёр. Але той не спяшаўся. Машыны на шашы не рухаліся. Тым часам захацелася есці, і я не вытрымаў, зрабіў, як раіў шафёр, — пайшоў у «чайхану». Гэта была звычайная закусачная, якіх шмат ля вялікіх дарог, з буфетам, дзе пад пукатым шклом выстаўлены на сподках смажаная салака і вінегрэты, з квадратным, ледзь не на ўсю сцяну акном, адкуль афіцыянткам павары

падаюць гуляшы, ну і, вядома, з бакоўкай — невялічкім, сталоў на сем, зальчыкам. Людзей у закусачнай было многа, відаць, пераважна шафёры з тых машын, што стаялі ў чарзе на шашы, і я хацеў павярнуць ужо назад, калі ўбачыў у самым кутку адно свабоднае месца. Падышоў, сеў, не пытаючыся, і папрасіў афіцыянтку, каб прынесла другое і чаю. За сталом сядзела трое: адзін з іх быў, пэўна, шафёр, другі, можа, таксама, як і я, пасажыр, а трэці — мажны, з вялікай паголенай галавой марак. Неўзабаве першыя два даелі сваё, разлічыліся з афіцыянткай і выйшлі. За сталом асталіся адны мы. Патрохі я пачаў прыглядацца да свайго суседа. На выгляд ён меў гадоў трыццаць сем, быў шырокі ў касці і чысты з твару. На ім быў марскі кіцель, з рукавоў якога вытыркаліся беласнежныя манжэты шаўковай кашулі, і зялёныя ватнікі, усунутыя ў чорныя валёнкі. Шынель — таксама марскі — ляжаў, складзены папалам, на спінцы крэсла і паблісквaў гузікамі. Крыху прыжмураныя карыя вочы яго мне здаліся чутачку стомленымі. Але адчуваў ён сябе за сталом спакойна, як дома.

Нарэшце афіцыянтка прынесла на алюмініевым падносе гуляшы, паставіла талеркі на стол. Мужчына пачакаў, пакуль адышлася афіцыянтка, і дастаў, нібы змоўшчык, з ватнікаў бутэльку каньяку. Паглядзеў трохі на яе.

— Выпі са мной, таварыш, — сказаў ён і наліў дзве поўныя шклянкі.

Запрашэнне было нечаканае, і я сумеўся.

— Адным чаем у дарозе не абыдзешся, — усміхнуўся чалавек і пагледзеў мне ў вочы: позірк яго быў мяккі і прыязны, быццам ён даўно ведаў мяне.

І я пасаромеўся адмовіцца.

Паступова мы разгаварыліся.

Чарэнда — так назваўся новы знаёмы — пасля дэмабілізацыі (на флоце ён даслужыўся да капітан-лейтэнанта) два гады плаваў на цеплаходзе па Волзе.

— А цяпер вось перавёўся сюды. Буду плаваць па Сажы. — Ён паставіў пад стол пустую бутэльку, адсунуў убок талеркі і аблакаціўся, падпёршы далонню паголеную бараду. — Учора быў у Гомелі, у параходстве, далі мне там судна — чалавек дваццаць на борт буду падымаць. Чакаю навігацыі.

— На Волзе нябось прастору больш было! А Сож… Што гэта вас прымусіла памяняць месца?

Марак кіўнуў галавой:

— А можа, яшчэ вып’ем, а? Каньяку, праўда, ужо няма. Гэта я ў Гомелі браў бутэльку. Думаў, з новымі знаёмымі вып’ю. Але знаёмых яшчэ не паспеў займець. Ты вось, таварыш, першы.

— Не, не трэба.

— Чаму, таварыш?

— Яшчэ мне дарога вялікая, — прытворна ўздыхнуў я.

Чарэнда недаверліва паглядзеў на мяне, але махнуў рукой:

— Ладна. Усё роўна ўсю яе не перап’еш. Гэта я на Поўначы да градусаў прывык трохі. Цяпер, мусіць, адвыкаць давядзецца.

У закусачнай стаяў шум ад людскіх галасоў, людзі ўвесь час уваходзілі і выходзілі, але да нас чамусьці ніхто не падсядаў.

Чарэнда расшпіліў каўнер кіцеля і, нібы спявак, памасіраваў пальцамі на шыі скуру.

— М-да, Волга, Сож… — сказаў ён. — Ты вось пытаеш чаму? Вядома ж, не з-за правіннасці памяняў я месца. А Сож гэты ваш я не сённяшнім днём… Ён як прывід стаў для мяне. Я болей па снах яго ведаю.

Мне падалося, што на момант чалавек нечага зазлаваў.

— Можа, недзе тут мая дачка жыве… калі, канечне, жывая… Дык я вось і прыехаў, каб знайсці яе.

І ён пачаў расказваць.

— Я ж не заўсёды быў мараком. На флот трапіў пасля. Ужо ў сорак другім, калі ваяваў на Карэльскім. А спярша служыў у Лапічах, у мотамеханізаваным палку. Гэта тут, недалёка, калі ведаеш, за Асіповічамі. Раней там кавалерыя стаяла, а ўжо незадоўга перад вайной «чырвоных казакоў» пасадзілі на машыны.

Чарэнда сашчапіў кулак, чамусьці доўга глядзеў на яго, быццам вывучаў, пасля пацёр кончыкамі пальцаў сваю поўную шчаку і, мусіць, ад унутранай усхваляванасці сарамліва ўсміхнуўся.

— Мяне накіравалі ў Лапічы малодшым палітруком, бо я скончыў ваенна-палітычнае вучылішча. Спадабалася мне ў Лапічах — ваенны гарадок добры, вадасховішча блізка. У нядзелю можна ў горад паехаць: хочаш у Асіповічы, хочаш у Бабруйск. Але хутка я і сям’ю прывёз. Кватэру нам далі. Жонка ў мяне настаўніца па адукацыі была, але пакуль не рабіла ў школе, глядзела за малой — дачцэ нашай тады яшчэ не споўнілася і двух. Вось я ўспамінаю тое жыццё наша і думаю: кажуць, сумна жыць у ваенным гарадку, а нам не было сумна. Ужо дзела мінулае, жонкі няма, а я папракнуць сябе нічым не магу — справядлівы быў да яе, і яна ўсё рабіла так, каб не сорамна было нават за саміх сябе. Пахвалюся, харошая мне жонка дасталася, таму такое і жыццё было. Вось паглядзі, таварыш…

Марак дастаў з бакавой кішэні скураны бумажнік, выняў з яго фотакартку, пажаўцелую на краях, і падаў цераз стол мне.

— Прыгожая, — сказаў я.

— Прыгожая, — ціха выдыхнуў ён.

З фотакарткі на мяне глядзела кучаравая маладая жанчына з тонкімі рысамі твару. У яе ўсё было правільнае, можа, акрамя толькі высакаватага лба. Але выразныя вочы, якія трохі гуллі- ва — так, прынамсі, тады здалося мне — пазіралі спадылба, змазвалі і гэтую, бадай адзіную, няправільнасць на яе твары.

Я доўга глядзеў на фотакартку, нарэшце аддаў яе і зноў сказаў:

— Прыгожая…

— І дачка падобная на яе.

Ён і сам доўга не зводзіў вачэй з жончынай фотакарткі. Затым акуратна паклаў у бумажнік.

— Але сам я не бачыў, як жонка загінула. Расказвалі знаёмыя. Іх тут, на Сажы, бамбілі, калі ехалі ў сорак першым з Лапічаў на машынах. Эвакуіраваліся. Самі мы выступілі на захад з гарадка яшчэ ў той дзень, як пачалася вайна, а жонак ужо адтуль вывозілі без нас, пасля. Само сабой, і мае падаліся на ўсход. Ды недзе тут, на Сажы, калону іхнюю і разбамбілі фашысты. Я нават не ведаю дакладна, дзе гэта было. Мала хто ўцалеў тады са знаёмых, а шафёра, на машыне якога ехалі мае, я ўсё ж знайшоў. Адразу пасля вайны. Ён і расказаў. Жонку маю — бачыў ён сам — забіла асколкам, а дачка засталася жывая. Падабраў яе тады на шашы хтосьці з мясцовых. Значыць, дачка мая павінна недзе жыць. Так я думаю. Не можа быць, каб сярод людзей ды згубілася. Пасылаў я на пошукі паперы, але нічога суцяшальнага не атрымаў. Цяпер вось і сам прыехаў.

Чарэнда заварушыўся на крэсле, выцягнуў пад сталом ногі.

— Ты ўжо, таварыш, даруй мне, што я так расказваю, — уздыхнуў ён. — Гэта ўжо як хвароба, калі доўга ходзіш па дактарах — расказваеш усім, хоць, можа, не кожнаму гэта і цікава. Але даў я сабе, таварыш, задачу адшукаць дачку. Чуе маё сэрца, жыве яна недзе тут сярод людзей добрых. Таму вось і памяняў я Волгу на Сож, а цеплаход на маленькі абшарпаны параходзік, на якім сапраўднаму мараку, па праўдзе кажучы, сорамна і на палубе стаяць. Але дачакаюся вады, стану за штурвал. Не можа быць, каб аднойчы яна не ўзышла на мой параходзік. Не, не праміне. Тут жа паблізу чыгунак няма. Дарога адна — па Сажы. А я пазнаю дачку сваю адразу. Яна ж так падобна была яшчэ тады на сваю маці.

— Дачку вы абавязкова знойдзеце, — сказаў я.

— І ты так лічыш, таварыш? — нібы не паверыў маім словам Чарэнда.

Я развёў рукамі — маўляў, па-другому тут і быць не можа.

— Паслухай, таварыш, а ты прыязджай сюды, ну, хоць бы і гэтым летам. А можа, адразу, як лёд сыдзе, а? Парыбачым…

Я паабяцаў і развітаўся — ужо заходзіла сонца, залiваючы нясмелай пазалотаю вокны. Але ні ў тое лета, ні ў наступнае я не сустракаўся з Чарэндам. Тым часам пачаў паступовa забываць і пра яго, і пра раннюю вясну, што неспадзявана заспела мяне ў міжрэччы.

На параходзе плыць па Сажы мне давялося ажно праз колькі гадоў. Тады я і пачуў зноў пра Чарэнду. Недзе паміж Кармой і Слаўгарадам невялічкі рачны параход, які гнаў ад сябе да берагоў пакорлівыя хвалі, раптам нечакана даў тры доўгія гудкі на ўсю моц. Рэха разляглося над плёсам, шуганула праз лугі да асмужаных бароў і там, знясіленае, згубілася.

Малады механік, што якраз падняўся на палубу, пацёр з задавальненнем рукі, шырока ўсміхнуўся:

— Шчаслівае месца!.. Для нашага карабля шчаслівае. Таму і вітае гудком. І так заўжды: туды едзем — пратрубім, і адтуль. Капітан наш тут знайшоў сваю дачку. Ад самае вайны шукаў і знайшоў. Пазнаў якраз на гэтым месцы.

— А як прозвішча вашага капітана? —не ўстрымаўся я.

— Чарэнда, — адказаў механік.

— Чарэнда… Ну, вядома ж, Чарэнда! — усклікнуў я. Механік здзіўлена паглядзеў на мяне.

— Вы яго таксама ведаеце? Але ж Сяргей Васільевіч цяпер у адпачынку. Паехаў на поўдзень. І Наташу з сабой павёз, — сказаў механік.

А я пашкадаваў, што не магу пацiснуць капітану руку, паглядзець, які ён бывае шчаслівы.

*1965*

# ЗА СТО КІЛАМЕТРАЎ НА АБЕД

Нам было ў той час па дзесяць гадоў — адным трохі болей, другім трохі меней. І мы былі дзеці вайны. Але тады мы амаль усё ведалі, і мне часам здаецца, што ведалі куды больш, чым нават цяпер, калі нам па трыццаць ужо. Напрыклад, мы без памылкі маглі яшчэ на падлёце пазнаваць па гуку самалёты — «нашы» і «не нашы». Ведалі, якія кулі ў што пафарбаваны — звычайныя, разрыўныя, бронеразрыўныя, бранябойныя, трасіруючыя… Цяпер ужо адно цяжка пералічыць, а тады мы ведалі, па чым якою куляю страляць: калі хочаш, каб галаву раскяпіла, заганяй у ствол патрон з разрыўной; калі з’явілася неабходнасць прашыць што наскрозь, то выбірай бранябойную кулю; ну, а калі проста трэба забіць чалавека (а ў вайну, як я помню, чамусьці забівалі адных людзей), то пашукай у абойме самую звычайную — гэта лёгка ўдавалася, бо звычайныя кулі не фарбаваліся… Я не кажу ўжо пра знакі адрознення, што насілі салдаты і афіцэры любой краіны, якая мела вайсковыя часці на Усходнім фронце: нямецкай (гэта, вядома, у першую чаргу), затым іспанскай, італьянскай, венгерскай, фінляндскай, румынскай, славацкай… Але мы не толькі адрознівалі варожых салдат па вайсковай форме, а і ведалі, як да каго падыходзіць. Ніколі, здаецца, не баяліся мы вясёлых італьянцаў. Тым часам славакі, якія таксама ваявалі супроць «нашых», маглі нават пакарміць нас — «славянскіх дзяцей». А галодныя мы, здаецца, былі заўсёды: то харчу не хапала, то солі (не пасаліўшы — не з’ясі), то яшчэ якой трасцы. Таму і выходзіла, што ў вайну нам мала калі даводзілася ўволю пад’есці. Праўда, быў адзін час, калі мы таксама раскашавалі. Гэта ўвосень сорак трэцяга года, як вярнуліся нашы. Баі на нашай рацэ ішлі нядоўга — за тры дні ўсё было скончана, і немцы адышлі да Прапойска. Але яшчэ да самага канца чэрвеня наступнага лета мясцовасць наша заставалася прыфрантавой, і праз вёску, спаленую да хаты (людзі перабраліся ў зямлянкі), часта праходзілі на фронт і з фронту розныя часці. Здаралася, што чырвонаармейцы спыняліся на вялікі прывал — проста на вуліцы, паміж зямлянак, — і тады пачынала дыміць кухня, дражнячы пахам усю згаладалую вёску. Варылі нашы салдаты звычайна прасяную кашу на сале, часам макаронавы суп з бульбай. І мы заўсёды чакалі, пакуль салдаты пад’ядуць. Былі ўпэўнены, што ў катле застанецца і на нашу долю. Ды не мала, а добрая палавіна катла. Тады мы падыходзілі да кухні са сваім посудам — хто з бляшанкай, а хто з чыгунком ці махоткай, — і

повар раздаваў астатак ежы. І толькі пасля ўжо, як падраслі, мы нарэшце зразумелі, чаму заўсёды ў катле заставалася палавіна кашы і чаму ніколі не падыходзілі да кухні нашы маткі: яны былі таксама згаладалыя, як і мы, і ў тыя хвіліны, калі салдаты «прымалі ежу», сядзелі ў зямлянках і чакалі, пакуль прыйдуць ад кухні дзеці. Але настаў час, і наша лафа кончылася. Фронт адышоў далёка на захад. Салдаты больш не спыняліся ў вёсцы. А мы па-ранейшаму хацелі есці. Як заходзіў год за год, так і голад за голадам ішоў. Ужо было каторае лета, а мы ўсё яшчэ, здзіраючы на лузе пучкі са шчаўя (на хлеб), успаміналі, як праз вёску «праходзілі нашы і везлі за сабой зялёныя кухні». Каб хоць трохі пад'есці, мы, здаецца, гатовы былі ісці на край свету. Але ніхто з нас тады не ведаў, ці ёсць хлеб і на краю свету… І ўсё ж мы аднаго разу схадзілі. Праўда, не на край свету, а ўсяго за сто кіламетраў. Можа, меней. Тады ніхто не мераў тыя кіламетры.

Павёў нас Васіль Карапет. Прозвішча ў яго было другое, а Карапетам чамусьці звалі. І не наш ён быў спачатку — прыезджы. Прывёз яго і старэйшую сястру таксама бацька іхні да нас у вёску, у тую ж восень, як прыйшло вызваленне ад немцаў: тады да нас наогул шмат прыязджала людзей — ці свае вярталіся з бежанцаў, ці проста знаёмыя з франтавых раёнаў ехалі да знаёмых, каб перажыць цяжкі час, нягледзячы нават, што пагарэлі мы. Дык Карапетаў бацька таксама прывёз сына і дачку (маці ў іх не было ўжо) і пасяліў у зямлянку да сляпой Вулькі, якая жыла на той вуліцы, што ля возера, а сам пайшоў у ваенкамат прызывацца ў армію. Звычайна прыезджыя не збіраліся доўга ў нас заставацца — прыязджалі адно перачакаць. Але пасля ўжо адны асядалі назусім — што доўга ездзіць, усюды аднолькава, — другіх жа цягнула ўсё ж «радзіма». А Васілю з сястрой не было куды падавацца. Бацька іх загінуў яшчэ на Проні, і яны жылі ўсё ў той жа сляпой Вулькі. Жылі — гаравалі. Нарэшце старшыня сельсавета дапісаўся некуды, у вёску прыехала камісія і забралі спярша сляпую Вульку ў дом інвалідаў, пасля Васіля — у дзіцячы дом, але не ў свой, раённы, што знаходзіўся на чыгуначнай станцыі, а чамусьці павезлі ажно за Унечу, пад самы Старадуб. Сястру Васілёву ў дзетдом не бралі, бо яна ўжо мела на той час пятнаццаць гадоў, значыць, нявеста, скончыла сем класаў і працавала ў калгасе. Прызнацца, мы дык трохі пазайздросцілі Васілю: будзе хлопец жыць там на ўсім казённым, і, галоўнае, галадаць ужо не давядзецца — у вёсках гаварылі, што ў дзіцячых дамах даюць фасолю і амерыканскія кансервы. І таму ўсе былі надта здзіўлены, асабліва мы, яго таварышы, калі ў чэрвені,

гэта ў самую крапіўную Пятроўку, нечакана з’явіўся ў вёску Васіль Карапет. Адзеты ён быў сапраўды ў казённае — плісавы касцюмчык з пацёртымі каленкамі, картузік, нават парусінавыя туфлі на нагах меў, але з твару, ж кажуць, з’ехаў на мыла і стаў худы, больш ахлялы, чым нават некалі ў вёсцы.

— Што гэта ты, Васіль, так?.. — пыталіся ў яго.

Але Васіль не быў ахвочы да размоў, і калі адказваў каму, то чамусьці чырванеў, быццам у яго хацелі выведаць тайну. Затое цяпер хлопец вельмі шчыраваў па гаспадарцы: насіў з лесу яловую кару, каб перакрыць Вулькіну зямлянку, у якой усё яшчэ жыла сястра, хадзіў ажно колькі разоў з мужчынамі касіць — не баяўся надарваць па малалецтву пуп, адным словам, рабіў усё з выглядам раптам пасталелага чалавека, які недзе пахадзіў ужо і паразумнеў. Часам нам, яго аднагодкам, ажно няёмка было — Васіль вунь укалвае ў калгасе разам з дарослымі, а мы лайдачым. Ды і маткі нашы, дакараючы нас, Васіля ў прыклад пачалі ставіць. Здавалася, Васіль ужо не збіраўся вяртацца ў свой дзіцячы дом. Хадзілі чуткі, што Васіля возьме да сябе жыць Наста Барысёнкава, маўляў, гады праз тры, калі хлопец падрасце, муж нядрэнны з яго будзе. І мы адчувалі, як паступова Васіль нібы аддаляўся ад нас. Паміж сабой, у сваёй кампаніі, мы часта смяяліся з Васіля, асабліва нас хвалявала тое, як Васіль пойдзе жыць да Насты, але пры ім мы ніколі не дазвалялі сабе нічога такога, што б пакрыўдзіла яго. Аднагодак — аднагодкам, сябар таксама сябрам, а круглы сірата — гэта ўжо нешта такое, чаго мы не зведалі пакуль, бо ў нас шмат у каго не было бацькаў, затое былі маткі, тым часам у Васіля была адна сястра, якая сама яшчэ не стала на ногі. І вось аднаго разу мы наважыліся ў лес — на былой Ігнацькавай пасецы падраслі ў гнёздах дразды, ужо можна было смажыць іх (голад —не цётка, і мы тады часта забіралі з гнёздаў кілаватых птушанят). Запрасілі з сабой і Васіля. Спачатку хлопец нібыта памуляўся, гаварыў, што яму некалі, пасля згадзіўся.

На пасеку мы прыйшлі рана, яшчэ на траве ляжала раса, але птушаняты сядзелі толькі ў адным гняздзе, у трох іншых мы засталі адзін птушыны памёт, бо нехта апярэдзіў нас. Нам было мала птушанят з аднаго гнязда — не пад’ясі, толькі раздражнішся, — і мы велікадушна махнулі рукой на іх: няхай становяцца падлёткамі. Вядома, нас трохі бянтэжыла няўдача, думалі, наедзімося, а тут… І нехта ўспомніў:

— Ля Карнеевай крыніцы таксама дразды вядуцца!

Да Карнеевай крыніцы (так называлася ўрочышча, дзе некалі Карней, чалавек з нашай вёскі, выкапаў студню, якая пасля пяском заплыла) было далёка, кіламетраў пяць, можа, нават з гакам, і асаблівага імпэту паведамленне гэта не выклікала ў нас: па-першае, трэба ажно вунь куды тупаць, а па-другое, ніхто не быў упэўнены, што нам павязе, — а раптам і там ужо хто-небудзь пабраў драздоў. Тады неспадзявана падаў голас Васіль Карапет:

— Хочаце наесца?

— Хочам.

— Дык хадземце са мной. У дзетдом.

— Ого! Гэта ж надта далёка!

— А мы лесам пойдзем. Пасля можна чыгункай. Дзе-небудзь у Журбіне сядзем на таварняк, праедзем за Унеч. А там ужо рукою дастаць можна.

Васіль сядзеў на высокім бярозавым пні, паточаным чорнымі мурашкамі, здавалася, быў да ўсяго абыякавы і назнарок не глядзеў на нас — маўляў, не маленькія, думайце. Мы доўга стаялі ў нерашучасці, смурыжылі адна аб адну ногі, адганяючы камароў-крывасмокаў.

Нарэшце нехта спытаў Васіля:

— А чым нас там пакормяць?

Той нават не ўсміхнуўся:

— Па крайняй меры, кансервы дадуць.

З намі ў лесе было двое малых — Сцёпка Кажанок, які яшчэ не хадзіў у школу, і Хала (хлапчук не выгаварваў слова «сала», у яго заўсёды выходзіла «хала», таму і празвалі так). Але дамоў мы паслалі аднаго Кажанка, толькі наківалі, каб трымаў да вечара язык за зубамі: як спахопяцца, на ноч гледзячы, маткі, тады і прызнавайся, няхай дарма не хвалююцца, скажы, што мы пайшлі праводзіць Карапета ў дзетдом.

Калі выходзілі з Ігнацькавай пасекі, сонца ўжо было далёка ад таго месца, дзе вынырала ўранні; яно вісела, усё прамяністае, без кропелькі чырвані, над бярозавым гаем, што ажно сінеў па той бок калгаснага поля, якое горбілася ля самай вёскі і паступова распасціралася за бальшаком, адкрываючы далягляд. У лесе яшчэ адчувалася ранішняя прахалода, зрэдку, калі чапляўся хто за куст, пырскала на твары раса, але і раса і прахалода былі ўжо як падагрэтыя — на зямлю паступова асядала духата, якая запаўняла сабою, дзе толькі можна, пустату. Нават дыхаць цяжка станавілася. У лесе пахла растопленай смалой. І ўсё жывое хавалася ў цень. Адны нястомныя жаваранкі, якія то раптоўна падалі з вышыні, то зноў узляталі над полем угору, званілі ў

пабялелым, быццам выцвілым, небе, і іх чуваць было нават тады, калі дарога збочвала ў самы лес, ды весела, як на пажары, ціўкалі на бярозах, што раслі паабапал палявых дарог, вераб'і.

На высушаных сонцам лясных палянах ужо ваўсю цвіў жоўты святаяннік, а на папарах, што былі на ўзлесках, адразу за межавымі канавамі, калыхаліся мяккія мяцёлкі палявога хвашчу, падобныя на маладыя лістоўніцы; побач з даўганогімі сухавейкамі, якія нядаўна распусціліся ля дарог, адцвітаў залацісты расходнік; на званках зарніц, што не хацелі расчыняць свае чырвоныя зеўранкі, гулі басістыя чмялі, апяразаныя чырвонымі і жоўтымі паясамі; быў якраз той час, калі цвілі амаль усе лугавыя і палявыя краскі і калі, нягледзячы на сухмень, трава стаяла яшчэ мяккая і зялёная; затое на пясчаных пагорках, паміж вёскамі, скрозь шапталася пасмяглае і пустое жыта…

Спачатку мы ішлі шумна, быццам не верылі яшчэ самі ў тое, што задумалі, пасля аціхлі, і гадзіны праз чатыры, калі праміналі ўсе знаёмыя вёскі, што былі на дарозе, убачылі саламяныя стрэхі невялікай, двароў на паўсотню, лясной вёскі.

— Панькоўская Буда, — пазнаў вёску Васіль Карапет. Мы здзіўлена пераглянуліся — Буда гэтая належала ўжо зусім да другога сельсавета. Адна дарога адсюль вяла на чыгуначную станцыю Бялынкавічы, да якой было яшчэ нямала кіламетраў, а другая — на паўстанак Журбін. Мы выбралі другую дарогу — на Журбін— і пашыбавалі двума ланцужкамі па абочынах, палохаючы ў зялёным верасе вяртлявых яшчарак і крыклівых сарок, якія пырхалі ўслед за намі па сасонніку. За пагоркам, як схавалася з вачэй вёска, угледзелі раптам чалавека. Той ішоў таксама абочынай, але не спяшаўся, і неўзабаве мы здагадаліся, што гэта немец, — як і ў акупацыю, ён быў у прывычнай для нас пілотцы, у мышастым мундзіры, але без пагонаў, і на нагах замест ботаў меў драўляныя стукалы. На плячы ў яго вісела вялікая торба, пашытая з плашч-палаткі. У торбе нешта было, хоць і небагата, яна зусім не адцягвала плячо, і немец ішоў лёгка. Мы не здзівіліся, калі ўбачылі немца, бо ведалі, што на чыгунцы — ад Бялынкавіч да Суража — палонныя немцы ўкладвалі шпалы, ім таксама жылося галодна, і сёй-той з іх хадзіў па вёсках. Дзіва, але спагадлівыя беларускія бабы падавалі такім немцам — і бульбу і хлеб, што самі мелі. Тым часам у нашу вёску палонныя немцы не заходзілі, разумелі, што ў пагарэльцаў харчам не разжывешся, ды і небяспеку, відаць, адчувалі: а раптам нашы бабы даўжэй помняць ліха! Таму хадзілі яны больш па тых калгасах,

дзе нічога не згарэла і людзі жылі трохі лепей, нягледзячы, што засуха ўжо каторы год нікога не мінала.

— А ў яго ежа ў торбе! — шапнуў малы Хала.

— Праўда! — нібы спахапіліся мы, неспадзявана ўзрадаваныя.

Усе спыніліся і, сабраўшыся пасярод дарогі вакол Васіля Карапета (ён ужо стаў у нас як бы важаком: урэшце за ім жа пайшлі!), утаропіліся адзін на аднаго. Ніхто нічога не гаварыў — стаялі і маўчалі, а на тварах ва ўсіх блукала адна і тая ж усмешка, зразумелая кожнаму. Нарэшце Хала зноў сказаў:

— Яй-бо, ён штосьці нясе ў торбе!

І гэта нібы падагрэла ўсіх.

— Адбяром, — махнуў рукою Васіль Карапет.

У нашых вачах, мусіць, як у ваўчанят, заблішчалі злосныя агеньчыкі — надта хацелася есці. А наперадзе, як на тое, ішоў з торбай палонны немец. Хто ведае, можа, гэты немец якраз паліў нашу вёску…

Змова выспявала хутка. Пакуль немец, нічога не падазраючы нават, узнімаў драўлянымі стукаламі на дарозе пыл, паміж намі было вырашана наскочыць на яго ззаду і выхапіць торбу. Мы не баяліся, што немец будзе супраціўляцца. Не той час. Цяпер ён — палонны. Так яно і выйшла. Немец адразу пачуў за спіною тупат ног, але павярнуўся толькі тады, як мы апынуліся побач і Васіль Карапет першы ўчапіўся ў торбу. Пасінелы немцаў твар перасмыкнуўся ад нечаканасці, а ў вачах застыў на нейкі момант жах. Можа, немец падумаў, што мы зараз будзем біць яго, але як толькі зразумеў, што нам патрэбна яго торба, то адразу выпусціў яе з рук. І мы, абмінаючы яго з двух бакоў, пабеглі па маладым сасонніку следам за Васілём, які нёс на спіне торбу, бы воўк авечку.

Немец не багата чаго выхадзіў — з торбы мы вытраслі на траву дзесяць сырых бульбін, два акрайцы пушнога хлеба, які ад дотыку рассыпаўся ў руках, ды яшчэ палавіну яешні, можа, з чыйго святочнага стала. Вядома, нам гэтага было мала. І мы раптам абурыліся. Пачалі лаяць няўдалага немца за тое, што той не здолеў выпрасіць у будзянскіх баб хоць бы з пуд бульбы.

Бульбу мы папяклі на вогнішчы, хлеб падзялілі пароўну і смакавалі ў накладку з яешняй, запіваючы балотнай вадой, якую насілі да вогнішча ў шапках. Калі нарэшце ўзбуджанасць прайшла і ўсё было з’едзена, пачалі спрачацца паміж сабой, бо некаторым ужо здавалася, што трэба павярнуць назад: сёння

хоць трошкі ды паелі, а далей — яшчэ на вярбе грушы. Але паслухаліся ўсё ж Васіля, якога, мусіць, вельмі цягнула ў дзетдом, і перад самым вечарам, калі сонцу заставалася прайсці па небе яшчэ некалькі крокаў, каб схавацца за лес, забраліся на дах апошняга вагона пасажырскага цягніка, што прыпыніўся на паўстанку Журбін на цэлую хвіліну. Тады шмат хто ездзіў на дахах вагонаў, асабліва вясковыя бабы і падлеткі. Удзень звычайна на станцыях такіх пасажыраў зганяла з дахаў чыгуначная міліцыя, але ўночы ехалася спакойна, адно трэба было сцерагчыся, каб не зачапіла чым ды не скаціцца з даху. Ратавалі нас вентыляцыйныя трубы, якія вытыркаліся над вагонамі. Мы трымаліся за іх аберуч, калыхаліся разам з вагонам на пакатым даху і перамагалі ў сабе сон. Паабапал чыгункі праплывалі ў цемнаце сонныя вёскі, рэдка дзе свяціліся ў вокнах адзінокія агні. Мерны перастук колаў заглушаў сабою ўсе навакольныя гукі, а сустрэчны вецер, які раптам адчулі мы на даху, напінаў адзенне і быццам спрабаваў выціснуць з арбіт вочы; па твары балюча секла вуглем, што ляцеў разам з дымам ад паравоза.

Да самага Старадуба не было патрэбы даязджаць нам. Васіль ведаў, што дзетдом знаходзіўся на паўдарозе ад Унечы, тады, як праедзеш ужо раку Жэча.

— Там нават станцыя Жэча, — сказаў Карапет.

Але як ты з даху вагона даведаешся ўначы, дзе тая станцыя? І мы пасля Унечы пільнавалі першую раку. Ад той ракі затым ужо шукалі Васілёў дзетдом.

Прыйшлі мы туды блізка к абеду. Змарнелыя, але прыйшлі. Дзетдом стаяў на ўзгорку пасярод былога панскага саду, размяшчаўся ў драўляным будынку, які нядаўна паднаўлялі — яшчэ здалёку кідалася ў вочы свежаачэсанае бярвенне. Сад быў абнесены высокай агароджай з абапалак, і пры варотах, што перагароджвалі дарогу к дому, стаяла сабачая будка. Была яна пустая — толькі доўгі паржавелы ланцуг валяўся на зямлі, і Васіль, які адчуў сябе нарэшце дома, растлумачыў нам:

— Спусцілі Белага. Ганяе цяпер недзе вясковых гусей. Тут недалёка сажалкі. Дык мы таксама крадзём там качак і смажым пасля. Але каб не бачылі выхавацелі. А то данясуць Івану Мікітавічу, ён у нас добры, але ўсе яго баяцца. Дзесяць медалёў мае ды яшчэ цэлую нашыўку за раны, — Васіль ужо паводзіў сябе так, быццам гэта ён не з намі прыехаў сюды, а сустрэў ля варот і цяпер вядзе ў дзетдом. — Але вы не палохайцеся, — гаварыў ён, падбадзёрваючы нас. — Галоўнае, як дамаўляліся: вы — круглыя сіроты, нават не ведаеце, дзе жылі да вайны, а

да гэтага вуркаганілі на чыгунцы, і вось я вас сустрэў там. Калі прагаворыцеся — не паверацць, і тады ўсё прапала. Так і кажыце — сіроты, вуркаганілі…

Тым часам мы не надта разумелі, чаму павінны хлусіць, тым больш што не збіраліся заставацца ў дзетдоме, але камандаваў Васіль, і нам нічога не заставалася рабіць, як слухацца: урэшце, ён нас падбухторыў, дык няхай цяпер даводзіць усё да канца.

Васіля дзетдомаўцы пазналі яшчэ ля варот. Былі яны нейкія лянівыя, быццам зачаўраныя, і пазіралі на нас даволі абыякава. Толькі адзін дзетдомавец, высокі і рыжы, можа, адных гадоў з намі, падышоў да Васіля, цыркнуў пад ногі і знарок на ўвесь голас прывітаўся:

— Здароў, бадзяжка! — Ён неяк па-смешнаму наморшчыў рабацiністы твар, пацапаў рукою пухлую, як падушачка, мочку левага вуха і спытаў, кіўнуўшы на нас:

— А гэта што за пацаны?

— Ды вось, прывёў, — адказаў Васіль, апускаючы вочы; ён пастаяў трохі, быццам саромеючыся свайго ўчынку, пасля ўзяў рыжага дзетдомаўца за плячо, адвёў убок і пачаў нешта гаварыць яму на вуха; рыжы ўважліва слухаў, кідаў кароткія позіркі на нас, ківаў, мусіць, згаджаючыся ў нечым з Васілём, сваёй пастрыжанай пад машынку галавой. Нарэшце абодва яны падышлі да нас, і рыжы дзетдомавец сказаў важна, быццам ад яго ўсё тут залежала:

— Ладна, ідзіце купацца. — Ён абвёў нас яшчэ раз позіркам сваіх зачэпістых вачэй, у якіх цяжка было нават вызначыць колер —ці то шэра-зялёныя, ці то зусім жоўтыя. —І вы таксама. А мы з Васілём у кантору пойдзем. Трэба пагаварыць з начальствам. Ды глядзіце, каб чыстыя былі. А на абед сёння будуць буракі.

Дзетдомаўцы пры гэтым дружна засмяяліся — мусіць, ім добра знаёмы былі буракі.

Але нам адразу не пашанцавала. «Праваліў» нас той самы Хала, якога спачатку не хацелі браць у дарогу. Перад абедам усіх нас як навічкоў павялі ў канторку і пачалі запісваць у кніжку — прозвішча і імя. Бухгалтар дзетдома, пажылы дзядзька ў круглых акулярах, сапраўды дапытваўся пра ўсё — ці ёсць у нас бацькі і ці помнім, дзе нарадзіліся, адным словам, рабіў сваю справу з уніклівасцю чалавека, якому не надта хацелася браць на ўлік яшчэ некалькі едакоў. І вось калі да стала, заляпанага чарнілам, падышоў Хала, а бухгалтар задаў першае пытанне, здарылася самае прыкрае: хлапчук раптам спалохаўся і захныкаў бо небараку

здалося, што запісваюць яго, каб пакінуць у дзетдоме назаўсёды, і ён ужо ніколі не пабачыць ні маткі, ні брата меншага. Пасля гэтага бухгалтару няцяжка было разгадаць наш намер — толькі задаў яшчэ, быццам дзеля прыліку, некалькі пытанняў і выставіў за дзверы ўсіх нас разам з Васілём і рыжым дзетдомаўцам, які дапамагаў нам.

Васіль са сваім сябрам адразу ж некуды пайшлі, раззлаваныя, паабяцалі, што знойдуць самога загадчыка, Івана Мікітавіча, і мы доўга чакалі яго ў садзе, дзе на яблынях, паміж лісця, віселі ўжо ладныя яблычкі, затым пацягнуліся за вароты і селі там, пад агароджаю, у цяньку. Патрэбна было нешта прыдумаць. Да вечара яшчэ можна было дабрацца да станцыі, але ўжо не хапала сіл на дарогу — вось каб пад'есці; злаваліся, лаючы на чым свет стаіць Васіля Карапета, што прывёў нас сюды: ніхто нам не збіраўся даваць таго абеду, на які спадзяваліся. Мы гатовы былі накінуцца на Васіля, але той быццам назнарок і носа не паказваў. Адказваў за ўсё малы Хала — затуканы намі, ён сядзеў, прыгнечаны, воддаль, на самым санцапёку.

Дзетдомаўцы між тым паспелі ўправіцца з абедам, і ў садзе ўжо чуваць былі іхнія галасы. Але мы, здаецца, не надта зайздросцілі ім: сядзелі, як у здранцвенні, а ў нашых галовах плавала густая гарачыня, і, можа, ад гэтага ў полі, якое адразу было за садам, лёталі чорныя мухі. Становішча склалася амаль ахавае, як кажуць, было-было дый пагоршала. Заставалася толькі адно — на першы выпадак зрабіць набег на чый-небудзь гарод, хоць што там у чэрвені паспела вырасці…

Але з саду раптам выбег Васіль Карапет. Быў ён спацелы і нібыта разгублены. А як убачыў нас ля агароджы, стаў адразу вясёлы — значыць, шукаў нас.

— Во дзе вы! — усклікнуў ён.

Тым часам мы не падзялялі ягонай радасці і працягвалі сядзець, нават не паварушыліся. Тады Васіль вінавата ўсміхнуўся і паказаў рукой на вароты:

— Знайшлі Івана Мікітавіча! Вунь, ідзе…

Сапраўды, да нас разам з рыжым дзетдомаўцам падышоў высокі мужчына, гадоў за сорак; адзін рукаў дыяганалевай гімнасцёркі яго быў пусты, але не звісаў, а быў заторкнуты на баку за шырокі камандзірскі рэмень; над правай кішэняй гімнасцёркі залаціліся і чырванелі стужкі, якія былі нашыты адна над адной, — за лёгкія і цяжкія раненні; мусіць, адна стужка «замяняла» руку; непрыгожы даўгаваты твар, з адтапыранымі

вушамі і шырокім носам, быў нахмураны, а ў вачах, вялікіх і быццам адчужаных, стаяла неадольная скруха.

Загадчык дзетдома чамусьці нават не паглядзеў на нас, калі спыніўся блізка, адразу ўтаропіў позірк некуды ў поле, над якім трымцела перагрэтае паветра. Мы думалі, што ён пачне нас лаяць. Але Іван Мікітавіч раптам закашляўся і з дакорам сказаў глухім голасам:

— Ну, што вы расселіся тут? Ідзіце абедаць!..

*1966*

## ДЗІЧКА

Гэтым летам памёр апошні вугольшчынскі аднаасобнік — па сельсавецкіх кнігах Андрэй Яўстратавіч Хрупакоў, а па-вугольшчынску проста Хрупак. Быў ён чалавек мнагадзетны: меў, здаецца, ажно сямёра хлопцаў. Паступова яны раз’ехаліся — адны падаліся на шахты, другія завербаваліся некуды, — і, можа, дзесятак гадоў Андрэй жыў адзін: жонка падбілася на лядах, якія карчавалі адразу пасля вайны, і аддала богу душу яшчэ да таго, як падраслі самыя меншыя. Хрупак сабраўся быў другі раз жаніцца і адзін час хадзіў у «кавалерах», але неяк за паўгода пастарэў і забыўся пра жаніхоўства. Спярша пахадзіў трохі, стогнучы, з кійком па Вугольшчыне — усё хацеў прадаць у калгас зямлю сваю, — а пазалетась раптам заняўся промыслам — гнаць у старых напаўразваленых печах дзёгаць з бяросты ды развозіць яго на сваёй аднаасобніцкай шкапе па навакольных вёсках, бо на тавар быў такі попыт: ад самае вайны, як падарвалі смолзавод, ніхто і не смалакурыў у наваколлі. Хрупак ехаў і па дарозе заснуў, не патушыўшы самакруткі. І вось спачатку на калёсах загарэлася салома, пасля ўспыхнула вопратка — прасмоленая і прашкіпінараная ватоўка. Мусіць, чалавек так і не прачнуўся як мае быць, сканаў не ў сваёй памяці. Знайшлі яго пад ранне, ужо нежывога, пасярэдзіне дарогі — як зваліўся з абгарэлых калёс, так і ляжаў нерухома, скурчаны. Прывезлі яго ў вёску на калгаснай падводзе. Сыноў не сталі чакаць. Проста не ведалі, куды пасылаць па іх. Суседзі дасталі з вышак гатовую труну, якую зрабіў Хрупак на сваю мерку наперад, і пахавалі ў той жа дзень адразу пасля паўдня, калі спала гарачыня. На пахаванне народу прыйшло шмат, ледзь не з кожнае вугольшчынскай хаты. Бабы ківалі галовамі — усё жахаліся, якою смерцю памёр

чалавек. Былі і з іншых вёсак — ужо сама смерць Хрупакова, незвычайная і страшная, збірала ў той дзень на могілкі. Хадзіў туды і Залуцкі.

Залуцкі не быў блізка знаёмы з нябожчыкам і размаўляў з ім усяго адзін раз, ды, напэўна, і бачыў толькі тады, як размаўляў, але многа чуў пра яго і быў таксама ўражаны яго смерцю.

Сустрэў ён яго аднойчы ў пачатку восені ў Шацікавай выгары. Было гэта на сконе дня, Залуцкі спяшаўся ў вёску, бо да канцавых двароў патрэбна было прайсці завідна яшчэ кіламетры тры. І раптам пачуў, як недзе збоку, можа, крокаў за сто ад дарогі, зашумела дрэва, быццам на яго наляцеў моцны вецер ці хто пачаў трэсці. Залуцкі спыніўся, каб паслухаць. А шум то сціхаў, то зноў усчынаўся, але ненадоўга, і ўжо праз нейкі момант Залуцкі зразумеў, што рабіў гэты шум чалавек. Напрасткі было не прадрацца скрозь ажыннік і густыя арэхавыя кусты, і Залуцкі павярнуў назад, каб трапіць на сцежку, якая агінала балоцвіну, парослую з краёў асакой. Неўзабаве ён выйшаў на паляну. На паляне стаялі калёсы і пасвіўся, навязаны на калок, гняды конь. Залуцкі падышоў да калёс. Конь падняў галаву, пакасіўся на незнаёмага чалавека і фыркнуў. Залуцкі наўмысна кашлянуў. Але ніхто не азваўся. Чалавек пэўна заўважыў староннягa ці не адразу ў той нават момант, як Залуцкі паказаўся на галым месцы, бо перастаў трэсці дрэва, і цяпер сядзеў там, не варушыўся, можа, цікаваў з вышыні. Хвіліны праз тры зноў зашумела — на краю паляны раптам здрыганулася высокае, вілаватае дрэва і закалацілася ледзь не да самых карэнняў. Штосьці густа пасыпалася з яго галін на зямлю. Залуцкі падышоў пад самае дрэва. Гэта была лясная яблыня-дзічка, і пад ёй, на траве, валяліся ляскоўкі. Увосень, калі капаюць бульбу, такія яблычкі бываюць жоўтыя і нават смачныя, але цяпер пад яблыняй ляжалі адны зелянкі. Навошта чалавек страсаў іх?

— Што з імі рабіцьме? — задраўшы галаву, гукнуў Залуцкі.

Яблыня перастала шумець. Нездаволены голас спытаў зверху:

— Курыць маеш?

— Маю.

Зашамацела лісце, і Залуцкі ўбачыў прадаўгаваты твар пажылога чалавека, на якім вылучаліся запалыя вочы і шырокі, з тоўстымі губамі рот. Гэта і быў Андрэй Хрупак. (Праўда, Залуцкі пра гэта дазнаўся многа пасля.)

— Злазьце, — махнуў да сябе рукою Залуцкі, — перакурым.

Чалавек трохі памарудзіў, быццам памеркаваў, і пачаў спускацца, чапляючыся за галінкі, уніз. Нарэшце ён ухапіўся

рукамі за апошні сук, павіснуў на момант і тады ўжо скокнуў на зямлю. Быў ён высокага росту, ссутулены. Гадоў меў, мусіць, за паўсотню. Насіў пацёрты скураны картуз на рухавай галаве і парваныя гумовыя боты на цыбатых нагах. Рукі і твар нібы закапцелыя, і адзенне, памяты картовы касцюм, таксама: акурат вясковы механізатар.

Залуцкі дастаў з кішэні пачак з папяросамі.

— А махры, выпадкам, няма?

— Няма, — адказаў Залуцкі.

— Махра, яна мацней прадзірае, — растлумачыў Хрупак.

Адышліся да калёс, селі на аглоблі, закурылі. Залуцкі зацягнуўся дымам і, выпускаючы яго, спытаў:

— Дык што з імі будзеце рабіць? — І паказаў рукой пад дрэва.

— Есці, што ж яшчэ можна з імі, — зрабіў здзіўлены выгляд чалавек.

— Але ж гэта як воміга. Дзіўна, як яны адпадаюць, зялёныя такія,

— Не вельмі яны ўжо і зялёныя, — не згадзіўся Хрупак. — Улежацца ў саломе. А на зіму — у бочку. Не садзіў, не расціў, а мочаных яблык ад пуза.

— Але ж яны і на дрэве даспелі б…

— Гм, — скептычна ўсміхнуўся Хрупак. — Будзеш чакаць, то, можа, і не дачакаешся. Думаеш, адзін я ведаю пра гэтыя яблыні? Пра іх усе ведаюць. Не, тут — хто першы. Дык няхай буду я першы. Гэта няважна, што ранавата. Праўда гніла, ды богу міла — яна пад елкай і сасонкай начавала, а мы асінку тады ды ліпку гладалі.

Залуцкі пакруціў галавой — мудрагеліста гаворыць чалавек.

— Можа, даў бы яшчэ адну папяросу, — папрасіў раптам Хрупак.

Залуцкі падаў увесь пачак, але Хрупак выняў толькі адну папяросу і паклаў сабе за адтапыранае вуха.

— Цяпер курыва да самага дому будзе, — з задавальненнем сказаў ён. — Вось зараз зграбу гэтую вомігу, як вы кажаце, ды хутчэй дахаты.

Мусіць, Хрупак спадзяваўся, што і Залуцкі падымецца з ім разам, пойдзе сабе. Але той, быццам і не спяшаўся, застаўся сядзець на аглоблі. Хрупатку гэта не спадабалася — ён засоп, ссунуў свае абгарэлыя бровы і, не гаворачы больш ні слова, узяў з калёс пусты мяшок. Падбіраў ён яблыкі спакваля, спачатку валачыў за сабою мяшок, а як толькі пацяжалела, то паставіў яго

пад яблыняй і пачаў зграбаць яблыкі ў картуз і высыпаць затым у мяшок. Кружыў ён пад дзічкай доўга і ўсё моўчкі.

Тады загаварыў Залуцкі:

— А што гэта? Лісце — быццам у свойскага дрэва, а плады?..

— Гэта і ёсць свойскае дрэва. Яблыня, — з прыкметнаю злосцю ў голасе адказаў Хрупак. — Была свойская, а стала не свойская. Здзічэла. Як пакінулі людзі, то і здзічэла.

— Даўно?

— Што даўно?

— Не жывуць тут?

— Даўно, як з хутароў ссялілі, з таго часу і не жывуць. А ты хто ж будзеш? Можа, новы аграном?

— Не.

Але Хрупак быццам не пачуў, што адказаў Залуцкі.

— Ты не думай, што я на калгасным. Конь у мяне свой.

— Хто ж гэта цяпер у вёсцы свайго каня мае?

— Той, хто заўсёды меў, той і цяпер без каня не жыве.

— Значыць, ты аднаасобнік?

— А што? Залуцкі ўсміхнуўся:

— Нічога, але я, грэшным дзелам, думаў, што аднаасобнікі пераводзіліся.

— Не перавядуцца, пакуль не перавядуць іх, — здзекліва сказаў Хрупак і раптам зусім раззлаваўся: — Ды, зрэшты, хто ты такі, каб перад табой вылузвацца?

Калі па-разумнаму, то Залуцкаму хоць цяпер варта было б падняцца ды пайсці сваёй дарогай, каб не пасварыцца з чалавекам, тым больш, што ўжо станавілася цемнавата на паляне, але тое, што Хрупак немаведама чаго пачаў злавацца, якраз і стрымала.

І ён сказаў, спрабуючы надаць сваім словам жартоўны тон:

— Мы яшчэ не паспелі пазнаёміцца, а ўжо быццам як сварымся.

— Няўжо? — здзіўлена ўсклікнуў Хрупак, і Залуцкі адчуў у яго здзіўленае прытворства. — А я і не заўважыў. Тады як хутчэй трэба мірыцца. Шкада вось толькі, што няма пляшкі.

Чалавек спрабаваў куражыцца, і ад гэтага Залуцкаму зрабілася прыкра, — і пажылы мужчына раптам на яго вачах стаў ледзь не блазнам.

Нарэшце Хрупак пазбіраў ляскоўкі, узваліў хатомку на плячо і лёгка панёс яе да калёс. Залуцкі падняўся з аглоблі, хацеў адысціся ўбок, але Хрупак спытаў:

— Можа, нам па дарозе?

— Мне ў Баравец, — сказаў Залуцкі.

— Тады якраз палавіну дарогі праедзеш. Вядзі каня.

Залуцкі адвязаў каня, прывёў і паставіў у аглоблі.

Але запрагаў сам гаспадар: Залуцкі ажно залюбаваўся, як Хрупак спрытна закладаў у гужы дугу і пасля адным махам зацягнуў супоню, упершыся каленам у клешчы, пры гэтым у яго руках не было нічога лішняга. Ужо на калёсах Хрупак спытаў Залуцкага:

— Нешта я ніяк не прыпомню. Чый ты там, у Бараўцы?

Залуцкі ўсміхнуўся:

— Прыпомніць цяжка. Нават немагчыма. Я ў зяцях там.

— У прымаках ці як?

— Проста ў зяцях. Лічуся зяцем у цёшчы.

— У каго?

— У Домны, што з Прусіна.

Хрупак павярнуўся тварам да Залуцкага і з цікавасцю, быццам упершыню ўбачыў, паглядзеў яму ў твар.

— У яе ж, здаецца, двое. Дык каторы? Той, што на прамкамбінаце работае? — спытаў ён.

— Не.

— А-а-а, ведаю. Чуў і пра вас. І жонку вашу ведаю, — перайшоў ён на «вы». — І, наогул, усю сям'ю ведаю. З цесцем вашым, нябожчыкам Цімохам Лук'янавічам, амаль усю Грамадзянскую прайшоў. Як Шчорс сюды да нас прыйшоў з Унечы, так мы і пайшлі з ім.

— Шчорс? — здзівіўся Залуцкі.

— Шчорс. Да Унечы ж ад нас рукой падаць. Вось і прыходзіў ён Саматэвіцкую рэспубліку падаўляць. Была такая рэспубліка ў Саматэвіцкай воласці. Багацеі стварылі на чале з местачковымі эсэрамі. Узброілі вясковую галоту вінтоўкамі, якія на складзе вайсковым былі, і падбухторылі на тую рэспубліку. А якая рэспубліка? Проста не хацелі даваць хлеба новай уладзе. Але Шчорс іх там хутка пакараў. Стрэліў некалькі разоў з гармат, і мужыкі паразбягаліся.

Дарога па выгары была няроўная — то на выбоінах, то на пясчаных купках, — і калёсы ўвесь час калываліся, таму ехаць было дрогка, асабліва на голых дошках. Да таго ж па твары балюча хвастала голле, і Залуцкі адно рабіў, што слухаў свайго спадарожніка ды ўхіляўся, каб не зачапіцца за які-небудзь сук. Але хутка здагадаўся — прыхінуўся спіной да мяшка з яблыкамі

ды так і сцішыўся. Спадарожнік яго тым часам падганяў каня і не пераставаў гаварыць: раптам ён нібы палагоднеў.

— Я тады малады быў. Якраз падрос, а Шчорс набіраў да сябе вясковых хлопцаў. Запісаўся і я. Цэлы ўзвод нас сабраўся. А камандаваў цесць ваш. Справядлівы чалавек быў. І тады, і пасля, калі ўжо дырэктарам у Бараўцы быў.

Залуцкаму, вядома, прыемна было слухаць добрае пра свайго цесця, якога ён, праўда, ніколі не бачыў — той загінуў у сорак першым, пры адступленні на Смаленск, але, пэўна, самае цікавае з усяго, што ён цяпер пачуў, было тое, што расказаў яго спадарожнік пра сябе: гэтакі закаранелы аднаасобнік, прынамсі, так здалося Залуцкаму, і раптам — былы чырвонаармеец славутага Шчорса. Неяк не стасавалася адно да аднаго, і Залуцкі асцярожна спытаў:

— Цікава, а чаму ж вы не паступілі ў калгас? Кажаце, ваявалі за савецкую ўладу і вось быццам і не разам з савецкай уладай…

Хрупак ад гэтых слоў раптам сцяўся ўвесь, і без таго ссутуленая спіна яго згорбілася, быццам навалілася на чалавека што; мінуў усяго адзін кароткі момант, і Хрупак крута, усім корпусам, павярнуўся да Залуцкага, і тады Залуцкі ўбачыў у ягоных пачырванелых вачах пагарду да сябе і агіду.

— І не адзін раз ваяваў! — ускіпеў Хрупак. — Я за гэтую вашу ўладу і ў Грамадзянскую, і ў нямецкую наваяваўся!

Залуцкі адчуў, як спярша прыкрая чырвань заліла яму твар, а затым дробна-дробна стала торгацца нейкая жылка над правым вокам — з ім гэтак здаралася, калі пасля раптоўнай збянтэжанасці звычайна пачынала разбіраць злосць.

— А чаму гэта «вашу»? — націскаючы на апошняе слова, зусім спакойна, можа, нават занадта злавесна, працадзіў скрозь зубы Залуцкі.

Але Хрупак не адвярнуўся і не адвёў вачэй.

— Чаму, пытаеш? — заёрзаў ён на калёсах. — Ды таму, што многа вас тут ходзіць вось, разумнікаў! Не паспеў сесці на воз, а ўжо сам кажа — «быццам і не разам з савецкай уладай…» А што ты шупіш?

— Даруйце, але я не зусім гэта меў на ўвазе, калі гаварыў так.

— Няма чаго даравaць! Я ўсё жыццё пра гэта чую: толькі плявузгаюць, не разам! Як ваяваць за .савецкую ўладу, то разам, а як што-небудзь, то не разам. Во што значыць захацець жыць па-свойму! Быццам парушына на воку ў дурняў стаў. А я, можа, і не іду ў ваш калгас таму, што мне дазваляе савецкая ўлада і

без калгаса жыць. Што я там, у калгасе, не бачыў? Там і без мяне хапае. А я заваяваў сабе права жыць сваім дваром яшчэ ў васямнаццатым. Тпр-р-ру! — ён спыніў каня і паказаў пугаўём на альховыя кусты. — Злазь! Цяпер сам дойдзеш!

Залуцкі саскочыў, як укушаны, з калёс і саступіў на абочыну, каб не зачапіла воссю. На душы зрабілася брыдка і неспакойна — мусіць, адным часам і за няўдалую размову, якая так неспадзявана скончылася, і за тое, што спадарожнік яго — і там, на паляне, і цяпер, як ужо ехалі, — злаваўся і плёў абы-што, прынамсі, так здавалася Залуцкаму. Разам з тым з’явілася таксама і разумная нездаволенасць сабой — раптам немаведама чаго пачаў «пароць гарачку» ды сварыцца, замест таго каб гаварыць .разважліва і, урэшце, пераканаць чалавека! Але Залуцкаму, бадай, сёння ўпершыню выпала гаварыць на такую «далікатную» і адказную тэму, і яму было крыўдна і сумна ад таго, што паміж людзей яшчэ жыве такі вось натапыраны і разлютаваны селянін, і, можа, людзі нават не ведаюць пра гэта.

Хрупак тым часам выцяў лейцамі свайго лянівага каня, і калёсы, падскокваючы на выбоінах, затарахцелі па вузкай дарозе, заціснутай з абодвух бакоў альховымі кустамі.

Сцежка, якую неўзабаве адшукаў Залуцкі паміж кустоў, вывела яго на край поля, дзе на ржышчы скрозь валялася паклычаная камбайнам салома. На полі яшчэ было як відна, і на захадзе, дзе зайшло сонца, не паспела дагарэць над лесам цёмна-сіняе неба. Залуцкі ўзышоў на самы горб няроўнага поля, з-за якога выступалі вільчакі баравецкіх хат, і азірнуўся назад. Трохі ў нізіне патанала ў шэрых прыцемках Шацікава выгара, парослая маладымі ліпамі, арэшнікам і вольхай. Адтуль не далятала ніводнага гуку. Толькі нейкая вялікая адзінокая птушка цяжка махала крыламі, быццам ляцела на вецер.

Але самае галоўнае пра вугольшчынскага аднаасобніка Залуцкі пачуў пасля, можа, праз год ці нават болей. Расказаў яму настаўнік Панас Ігнатавіч Зазыба, чалавек разважлівы і разумны, які скончыў некалі ў Рагачове настаўніцкую семінарыю і зарабіў у Бараўцы пенсію. Раптам па вёсцы пайшоў пагалосак — Андрэй Хрупак прадае калгасу сваю зямлю.

— Значыць, знямогся, — сказаў Панас Ігнатавіч. — Раз Хрупак надумаў адмовіцца ад свае зямлі, значыць, яна яму стала непатрэбная:

— Пастойце, а ці не той гэта Хрупак, што са мной размаўляў у Шацікавай выгары? — схамянуўся Залуцкі, — Там, на паляне, расце яблыня. Можа, ведаеце, на дварышчы, дзе хутар быў?

— Вядома, той. Болей тут ва ўсім наваколлі ўжо няма аднаасобнікаў.

— Дык ён ляскоўкі абтрасаў. Казаў, што яблыня здзічэла. І яшчэ ён казаў, што ў Шчорса ваяваў.

— Гэта праўда, ваяваў. І ў Шчорса ваяваў, і ў партызанах ужо ў гэтую вайну быў.

— Але надта дзіўны чалавек. Лаяў усіх і ўсё.

— Гэта, мусіць, ад зайздрасці ў яго. Калгаснікі сталі лепей жыць за яго, вось ён і лаецца. А то, бывала, усміхаўся і жабракамі называў — маўляў, вось вам як не лавіцца. Цяпер пацягайце на сабе і барану, і плуг. А наогул, чалавек ён… ну, адным словам, не шкодны, ці як гэта называецца. Гэта калі не ведаючы паслухаць яго, дык жахнуцца можна. А ўсё пакутуе праз «сваю зямлю». Як ухапіўся за яе пасля рэвалюцыі, то ўжо і не захацеў выпусціць з рук. Страх у ім перад зямлёй. Гэта як хвароба. І пачалася яна, мусіць, яшчэ тады, калі дзіцем хадзіў «пасабляць» людзям. Бацька яго зямлі мала меў, адзін шматок, а дзяцей напладзіў, дык дзе ты іх накорміш! У сям'і толькі і размоў было што пра зямлю. А тут савецкая ўлада спярша дала зямлю, пасля быццам бы і назад адбірае. У калгас трэба ісці. А хто яго ведае, той калгас? І вось замест таго каб спярша вылечыць Андрэеву хваробу, каб ён не баяўся за сваю зямлю, яму прапаноўваюць аддаць тую зямлю ў калгас.

Панас Ігнатавіч паглядзеў у вочы Залуцкаму, усміхнуўся.

— Я трохі ведаю гэтага Хрупака. Жыву тут не першы год, ды і так, здаралася, сустракаў. Жонка яго адразу пасля вайны памерла, дзеці на руках засталіся, а я якраз сакратаром тэрытарыяльнай партарганізацыі быў. Сустрэў неяк на вуліцы яго, пачаў гаворку — як, маўляў, мадзееш, Андрэй, цяжка, мусіць, аднаму такую араву даглядаць? Павесіў галаву: «Цяжка, — кажа, — вельмі цяжка!» Ды я і па вачах бачу: цяжка чалавеку. Гавару яму: «Давай, Андрэй, падавай заяву ў калгас, неяк разам там з людзьмі і агораеш сваё гора».

Ён паслухаў і сумна ў адказ: «Не, у калгас я не пайду, пра гэта не варта нават і балакаць». Але я спытаў яшчэ: «Скажы, Андрэй, няўжо ў цябе ніколі не ўзнікала жаданне кінуць сваё аднаасобніцтва ды ў калгас падацца?» — «Узнікала, — кажа, — але то было даўно і таму будзем лічыць, што няпраўда». А я паверыў яму. Вядома, з'яўлялася такое жаданне. І не адзін раз. Але, мусіць, заўсёды знаходзіліся прычыны, якія стрымлівалі яго. У трыццатым, калі калгасы стваралі, раптам надумалі раскулачыць яго, нават завезлі ў Магілёў, але ні гаспадаркі, ні

сям'і не зачапілі, бо нічога кулацкага, вядома, у яго не было. Але самога ў турме трохі патрымалі. Д'ябал яго ведае, што яму інкрымінавалі, можа, нават проста з вачэй хацелі падалей прыбраць: як-ніяк, а былы дабраволец, чырвонаармеец упіраецца, не хоча ў калгас, падае гэтым дрэнны прыклад. А пакуль Андрэй вярнуўся з «камандзіроўкі» сваёй, калгас быў арганізаваны. Аднаасобнікам устанавілі цвёрдае заданне. Атрымаў такое заданне і Андрэй. Пачухаў галаву, але што зробіш. З норавам ён быў яшчэ і тады. Ды і тое, што ваяваў у Грамадзянскую вайну, адвагі яму прыбаўляла. А тут яшчэ, як на зло, адразу пасля калектывізацыі галодны год настаў, ды не адно лета. Тым часам аднаасобнікам быццам і нішто сабе — жывуць і не наракаюць: ні на нішчымніцу не скардзяцца, ні пазычаць не пазычаюцца. Дзіва, дый годзе! Выходзіць, што Андрэй Хрупак не прагадаў. На язык ён быў востры, ну і давай пасміхацца. З таго часу і пачаў Андрэй хадзіць у «контрыках». Згарыць у калгасе гумно — аднаасобніка Хрупака на допыт. Здохне на калгаснай ферме карова — зноў на Андрэя гатовы віну ўскласці. Так прасцей, не трэба галавы ламаць. Добра яшчэ, што ваш цесць, Цімох Лук'янавіч, заступаўся, не даваў свайго былога чырвонаармейца зусім у крыўду, а то б не здабраваць небараку.

Панас Ігнатавіч памаўчаў трохі.

— Вось вы сказалі. пра яблыню, што ў Шацікавай выгары. Помню, стаіць там на хутарышчы яблыня. Здзічэла. Здавалася б, ненатуральна, свойская яблыня не можа перарадзіцца, а вось жа перарадзілася. Дык нешта падобнае здарылася і з Андрэем Хрупаком. Цяпер ён хоча прадаць сваю зямлю ў калгас. Смешна. Але няхай сабе. Купіць бы яе ў яго, хоць зямля ў нас не прадаецца і не купляецца. Вызваліўся б з яе ланцугоў, можа, паспакайнеў бы.

…Зямлю ў Хрупака калгас, вядома, не купіў. Але абрабляць яе Хрупак больш не стаў. Так яна і пуставала, пакуль гаспадар смалакурыў ды развозіў па вёсках дзёгаць і шкіпінар. Жыў ён цяпер на калёсах. На калёсах і смерць прыняў.

*1966*

# ВЫПАДАК У ВЁСЦЫ КАПРАНАЎКА

У Пацавай Слабадзе «газік» наш пераехаў па мастку Олу, адну са шматлікіх у тым краі рачулак, што ў вярхоўі заўсёды нагадваюць больш ручайкі, таксама парослыя аерам і шыракалістым дзягілем, і палявой дарогай пакаціўся да Баравіцы. Там недзе дарога гэтая павінна была вывесці нас на шашу, якая ішла з Бабруйска ў Магілёў Шафёр дарогу ведаў, і мы цяпер ехалі з тым спакоем, які дазваляе адчуваць сябе вольна і трохі абыякава да ўсяго, што мінаеш па шляху. Палявыя дарогі цяпер звычайна пабіты коламі грузавікоў бо нават вясковыя людзі, спрадвечныя пешаходы, адвыкаюць хадзіць, хоць бы і за тры кіламетры, у суседняе сяло, і таму рэдка дзе можна пабачыць сцежкі ад чалавечых ног, але гэта была без вялікіх выбоін; «газік» адно пагойдваўся ды часам амаль нячутна калываўся з боку на бок, калі выпадала калдобіна, можа, пасля нядоўгіх дажджоў. Дзень быў на сконе, і сонца свяціла ў машыну праз шкло па левы бок, адкідваючы рухавы і няправільны цень на жытнёвае поле, якое ўжо каторы дзень красавала.

Джагараў, яшчэ малады з выгляду «каўказец», браў мяне ў гэтую паездку свядома — даўно гразіўся: пакажу, маўляў, табе тваю Магілёўшчыну знутры, адвязу ў самае кубло. Здавалася б, мне, карэннаму беларусу, паказваць яму сваю зямлю, аднак у жыцці бывае інакш. Вось ужо без малога трыццаць гадоў, як Джагараў жыве ў нас. Прыехаў сюды маладым лейтэнантам служыць у Ломжу, тады амаль на граніцу, і тут пачаў вайну. Пасля ўзначальваў партызанскі атрад, брыгаду. А ў сорак чацвёртым, ужо камандзірам батальёна 129-й Арлоўскай стралковай дывізіі, фарсіраваў Днепр, пасля Друць. Можа, якраз апошняя акалічнасць была прычынай, што чалавек паехаў цяпер менавіта ў міжрэчча, на Друць, якая багата каму тады далася ў знакі: тут, на балоцістых берагах яе, шмат пралілося крыві…

Ветру не было, і жыта паабапал стаяла на ўвесь рост, хоць яшчэ і не дужа высокі. Ва ўсім адчувалася надвячэрняя стоенасць. Жаўранкі, якія ўдзень звычайна лунаюць угары, непаддатныя воку, цяпер віселі амаль над самай зямлёй, трапечучы крыламі і выпростваючы ногі, нібыта баяліся чаго ў жыце і таму не адважваліся сесці. Смуга, што вісела цэлы дзень над палеткамі, апала, і навокал паветра было празрыстае, як восеньская вада ў неглыбокіх рэках.

Неўзабаве наперадзе паказалася шаша. Яе лёгка было пазнаць па прысадах.

Амаль не змяншаючы хуткасці, шафёр крута павярнуў «газік» на шашу, і той як не заспяваў коламі па натопленым і бліскучым асфальце.

— У Чачэвічах пераедзем мост цераз Друць, — сказаў Джагараў, — а там ужо недалёка будзе.

Мы збіраліся заначаваць у Магілёве.

На аўтобусным прыпынку, што на абочыне, убачылі чалавека.

— Возьмем? — не паварочваючы галавы, кіўнуў шафёр.

У машыне было месца, і чалавек не мог замінаць нам. Шафёр спыніў «газік», адчыніў з правага боку дзверцы і, аблакаціўшыся на вольнае сядзенне, спытаў:

— Куды?

— Туды, — махнуў рукой чалавек, паказваючы наперад; здавалася, ён застаўся абыякавы да таго, што мы раптам спынілі машыну; быў ён сярэдняга росту, старых гадоў, і гэта кідалася адразу, хоць паголены твар надаваў маладжавасці і постаць была яшчэ не зусім старэчая — стаяў чалавек на нагах, як кажуць, моцна, не сутуліўся; надзеты быў у напаўвайсковую форму: ялавыя боты, звычайныя салдацкія галіфэ і гімнасцёрка, паверх якой апрануты быў цывільны пінжак з чорнага сукна; шапку, пашытую з самаробнага палатна, чалавек трымаў перад сабой у апушчаных руках, свецячы тым часам вялікім плешам.

— То сядай, — паклікаў шафёр.

— Ды я ўжо, мусіць, аўтобуса дачакаюся, — адказаў чалавек.

Шафёр пацiснуў плячамі — маўляў, бываюць жа дзівакі — і ляснуў дзверцамі. Тады чалавек нібы спахапіўся, зрабіў колькі крокаў да машыны, спытаў сам:

— Куды вы?

— А ты куды? — ужо не гледзячы на яго, усміхнуўся шафёр.

— Да самага горада, — сказаў чалавек і заглянуў праз пярэдняе акно ў машыну.

— І нам да самага горада, — быццам дражнячы чалавека, сказаў шафёр.

— То, можа, і праўда возьмеш?

— Я ж кажу, сядай.

— Але каб сапраўды да горада? — нібыта не паверыў чалавек.

— Міма горада не паедзем, — пажартаваў Джагараў.

Чалавек нарэшце паслухаўся, націснуў на ручку, пацягнуў на сябе дзверцы. Але ўсё ж пастаяў яшчэ ў нерашучасці, пазіраючы на шашу, адкуль меўся ехаць аўтобус, і толькі тады палез у машыну, прыкрыўшы папярэдне шапкай галаву.

— Доўга муляешся, — сказаў шафёр, мацаючы рукой, ці шчыльна зачыніліся дзверцы. — Быццам цешчу чакаеш ці, наадварот, уцякаеш ад яе.

Чалавек з гэтага засмяяўся.

Тады шафёр пажартаваў яшчэ:

— Калі сапраўды баішся, то можаш супакоіцца. Цяпер ні адзін аўтобус за намі не ўгоніцца.

— Дык гэта і пастухова Ганна разумее, раз на легкавушцы.

Чалавек сказаў якраз так, як гаварылі некалі ў нашай вёсцы: была нейкая дурная Ганна ў пастуха… І я спытаў:

— А сам што, тутэйшы?

— Не, я са Шклова, — адказаў чалавек.

— Дык мы амаль землякі!

— Адкуль жа? — павярнуў галаву чалавек.

Я сказаў.

— Не тое каб дужа землякі, але ж… — Чалавек усміхнуўся.

У маладога ў яго, мусіць, вочы мелі блакітны колер, але цяпер былі амаль выцвілыя.

Ён паўглядаўся ў нас, адвярнуўся, і мы паехалі далей. Шаша была роўная.

У канавы, што паабапал яе, кладіся на ноч цені.

Сонца ўжо было вялікае і чырвонае; яно нібыта бегла цяпер па небакраі, хаваючыся за пагоркамі, выныраючы зноў, і калі шыбавала над далёкім лесам, то здавалася, што яно губляе там, чапляючыся за макаўкі дрэў, кавалачкі сваёй чырвані.

Шафёру нечым адразу ўпадабаўся новы спадарожнік, і ён, як выруліў на сярэдзіну шашы, пачаў пазіраць на яго з загадкавай усмешкай, якая, як у чалавека намнога маладзейшага і здаравейшага, межавала недзе з паблажлівасцю; да таго ж, мусіць, надакучыла ехаць моўчкі, хацелася пагаварыць. І вось з гэтай усмешлівай, але не крыўднай паблажлівасцю ён пачаў што называецца, варушыць старога. Але выходзіла ў яго гэта няўклюдна. Увесь час гаворка коўзалася вакол той жа цешчы, якую выдумаў хвілін колькі назад сам шафёр і якой нібыта баяўся наш пасажыр. І тым не менш чалавек адказваў яму амаль на кожнае слова і таксама жартаваў. Тады сказаў:

— Відна, у цябе ў самога злосная цешча і ты сам баішся яе. А я ўжо, брат, сваіх пагубляў усіх. І цешчу і жонку. А дзеці не вярнуліся з гэтай вайны.

Гэтых слоў дастаткова было, каб шафёр пацішэў раптам.

— А сам от ездзіў зараз у Капранаўку, — пачаў стары праз нейкі момант. — Гэта, калі бачылі, тая вёска, дзе вы падабралі

мяне. Дык от ездзіў… — Ён правёў далонню левай рукі па твары. — Прычына была, каб ехаць. — І незразумела ўсміхнуўся сам сабе. — Гэта ж калі расказаць, дык і паверыць можна не паверыць. Магіла мая там. Ужо без малага пяцьдзесят гадоў. Якраз будзе ў гэтыя во Каляды пяцьдзесят. Дык от ездзіў на магілу. Спярша думаў, можа, няма яе, ужо столькі ж часу з таго прайшло, а выходзіць — ёсць. І ўсё як належыць. І помнік з цэменту, і надпіс з маім прозвішчам…

Нас зацікавіла гэтая дзіўная патаемнасць. Захацелася даведацца пра ўсё. Ды пасля апошніх ягоных слоў мы ўжо не ведалі, як падступіцца: пачутае адным часам і бянтэжыла, і выклікала далікатную насцярожанасць. Але выйшла ўсё як належыць. У чалавека, мусіць, у самога з’явілася патрэба выгаварыцца.

— Было дзела, — пакруціў ён галавой.

Мусіць, чалавек яшчэ пакуль знаходзіўся пад уражаннем зусім нядаўняга, таго, што перажыў сёння, але пачынаў ужо паступова жыць успамінам.

— Думалася, што забыта ўсё, — разважаў ён, — а выйшла наадварот. Праўда, сам я не забываў ніколі, што недзе ў мяне ёсць магіла. Але палохаўся наведацца ў вёску. Гэта ж нібы з таго свету з’явіцца. А цяпер от адважыўся. Можа, таму, што стары стаў, на жыццё пачаў глядзець з другога канца. Ну, і з’ездзіў от. І нічога, ведаеце, страшнага не адбылося. Пахадзіў вакол магілы, паглядзеў…

Наперадзе шаша была перагароджана — нанава залівалі асфальт, і мы павярнулі направа, каб аб’ехаць. Машына закалыхалася на шырокіх каляінах, узнімаючы за сабой пыл. Аб’езду было кіламетры тры, але дарога ўвесь час ішла паўз шашу, рэдка калі аддзялялася ад яе. Чалавек, мусіць, палічыў, што на дрогкай дарозе лепей памаўчаць. І колькі часу пазіраў праз ветравое шкло на пашарэлыя краявіды. У адным месцы, на шырокай лагвіне, парослай вербалозам, пасвіліся коні. Там ужо гарэла зманлівае вогнішча, ля якога завіхаліся два чалавекі — пэўна, калгасныя ці саўгасныя конюхі; яно яшчэ толькі займалася, таму адно дыміла.

— Але тады ў гэтых мясцінах была зіма, — нарэшце парушыў маўчанне спадарожнік. — Ішла Грамадзянская вайна. А я служыў у трыццаць пятым бранявым атрадзе імя таварыша Муралава. Вы, мусіць, нават і не ведаеце цяпер, хто такі Муралаў? Гэта найлепшы таварыш Леніна. Уладзімір Ільіч асабіста даў нашаму бронеатраду яго імя. На ўсіх браневіках было напісана яно.

— Можа, Муранаў? — спытаў тады я, нагадаўшы аднаго з актыўных удзельнікаў рабочага руху, бальшавіка, дэпутата Дзяржаўнай думы.

— Не, — не згадзіўся са мной стары, — я добра памятаю, што наш атрад называўся імем таварыша Муралава.

Упэўненасць, нават запальчывасць, з якой гаварыў пра гэта стары, не пакідала сумнення, прынамсі, пярэчыць было дарэмна.

— Тады белапалякі хацелі прарваць наш фронт, — гаварыў тым часам чалавек, — і таварыш Ленін накіраваў сюды наш бронеатрад. Сам праважаў нас. Мы былі забяспечаны ўсім. Па загаду Леніна нам выдалі кажухі, валёнкі, шапкі-вушанкі. Шафёры мелі скураныя касцюмы, а кулямётчыкі — ватныя. Адным словам, правадыр паклапаціўся пра нас, асабліва не пашкадаваў патронаў і гранат. А для рухавікоў замест бензіну даў спірт. Маторы працавалі на ім. Дык от. Пагрузілі нашы браневікі на чыгуначныя платформы, падрыхтавалі нас у дарогу. Прыехаў і сам Ленін. Дужа ён спадзяваўся на нас. Атрадаў такіх у Чырвонай Арміі небагата было, таму ён і сказаў, выступаючы, што спадзяецца на нас і што мы пагонім белапалякаў да самай Аршавы. Адным словам, праводзіў нас Уладзімір Ільіч на фронт, як і належыць правадыру ўсёй рэвалюцыі. Паехалі мы, значыць, на платформах па чыгунцы праз Воршу на Магілёў. У нашым атрадзе былі амаль адны «фіяты». Без гармат, толькі кулямёты «максімы». Было некалькі і «гарфордаў». Тыя мацнейшыя, на іх стаялі нават трохдзюймовыя гарматы. Але іх было больш у другім атрадзе. І от прыехалі мы ў Магілёў. Стаўкі тады ўжо не было ў ім. Выгрузілі нас з платформаў, дазволілі пастаяць колькі гадзін непадалёку ад станцыі. Нарэшце паступіла каманда рухацца да Бярэзіны. Якраз па гэтай вось шашы. Праўда, тады яна не такая была.

Чалавек дастаў з кішэні пачак, адарваў ад складзенай газеты на самакрутку і насыпаў махоркі. Пасля доўга, нібыта маючы асаблівую здаволенасць ад гэтага, круціў цыгарку. Рукі ў яго дрыжалі, шафёру кінулася гэта ў вочы, і ён ажно прыпыніў «газік». Але чалавек не захацеў, каб праз яго спыняліся на дарозе, сказаў:

— Ты давай едзь.

Ён прыкурыў ад запалкі, выпусціў у расчыненае акенца дым.

— Значыць, рушылі мы…

— З Магілёва, — падказаў шафёр.

— Ага, з Магілёва, — кіўнуў галавой чалавек. — От зараз мы будзем праязджаць міма Чачэвіч, а я гэтыя Чачэвічы помню яшчэ з таго часу. Капранаўка ад іх вярсты дваццаць дзве будзе. Дык от у Капранаўцы і здарыўся той выпадак. Але Уладзіміра Ільіча мы ўсё ж не падвялі. Добра-такі пахадзілі на сваіх браневіках амаль па ўсім польскім фронце. Праўда, на Аршаву не пайшлі

тады. Каманды такой не паступіла, сілы было малавата. Яшчэ ж Урангеля не дабілі. Гэта пасля ўжо на Аршаву пайшлі, калі з Крыма войскі вярнуліся. Але мы сваю справу зрабілі. Наш трыццаць пяты бронеатрад нагнаў-такі жаху на легіянераў. Экіпажы падабраліся хвацкія. У нашым «фіяце», напрыклад, было пяцёра. Пімен Магільніцкі таксама, як і я, шафёр, два кулямётчыкі ды камандзір. Абодва кулямётчыкі і камандзір загінулі на Бярэзіне. Засталіся мы з Піменам ды яшчэ шафёр на аўтамашыне, што вазіла за намі боезапасы. Праўда, і ў браневіку ў нас хапала гранат і патронаў. А страляць з кулямётаў мы таксама ўмелі з Піменам. Так і мяняліся — то ён вядзе бранявік, а я за кулямётам сяджу, то я вяду бранявік, а ён з кулямёта па легіянерах страляе. І от аднаго разу атрымліваем каманду накіравацца ў Капранаўку. Тады якраз палякі было памелі верх над намі. А што за Капранаўка тая, не ведаем жа. Паказалі нам яе на карце ў штабе, паглядзелі — аказваецца, звычайная вёска. Ну, каманда ёсць каманда. Трэба выконваць. У штабе меркавалі, што легіянеры ад Бярэзіны будуць рухацца да Друці, і мы павінны былі перакрыць дарогу, не даць зайсці далёка ў тыл нашым. Выехалі мы з атрада, які к таму часу парадзеў — некалькі браневікоў было падбіта, — дык выехалі мы гэта з атрада ўранні. Маразы стаялі калядныя. Удзень яшчэ нічога, сонца тады, помню, свяціла днём, але ўначы было холадна сядзець пасярод брані, нават калі і матор працаваў. Часам грэліся спіртам. А ў нас хапала яго. Гаручае ж — адзін спірт.

…Мы ўжо ехалі зноў па шашы.

Сонца паспела схавацца за небакраем, і ў палях, што ляжалі навокал, пачалося сутонне. Але неба на захадзе яшчэ не патухала. Калі машына нарэшце ўз’ехала на мост цераз раку і міма пабеглі парэнчы, спадарожнік наш заварушыўся, паглядаючы на ваду са свайго боку, тады азірнуўся, нібыта схамянуўшыся.

— А вон і Чачэвічы былі, — сказаў ён амаль узрадавана.

Вялікая вёска, падобная на мястэчка, знікала з вачэй за паваротам.

— Абодва мы, — працягваў гаварыць роўным голасам чалавек, — і Магільніцкі і я, канчалі школу на вадзіцеляў бронемашын у Рослаўлі, калі там яшчэ пры цару стаяла шаснаццатая запасная брыгада. Дык от у шаснаццатай брыгадзе была свая школа. Магільніцкі быў старэйшы за мяне, здаецца, гадоў на пяць, меў сям’ю і вельмі хацеў застацца жывым на вайне. Мы з ім пасябравалі яшчэ ў імперыялістычную, пасля і ў Грамадзянскую давялося разам ваяваць.

Ён знарок глыбока пакашляў нібыта хацеў надалей сабрацца з думкамі.

— Я ўжо, здаецца, казаў, — пачаў зноў, — што на Бярэзіне загінулі і абодва кулямётчыкі нашы, і камандзір. Дык от трэці, той, што на машыне за намі ездзіў з боезапасамі… Як цяпер помню, Запекіным звалі. Канечне, бронемашына не тое, што звычайны аўтамабіль. Гэта калі трэба, то падвезці боезапасы там, ці што, але ж і гэтага рабіць дужа не даводзілася яму, бо гармат на «фіяце» не было, снарадаў не трэба, а патроны для двух кулямётаў заўсёды ляжалі ў браневіку. Таму Запекіну, здаецца, ні аднаго разу і не прыйшлося трапіць пад кулі, усё адстойваўся па тылах. Я гэта гавару к таму, што Запекіна мы амаль не ведалі, адно калі на платформе ехалі да Магілёва, а то ён усё сам па сабе. І от мы трапляем у Капранаўку. Вёска была і па тым часе зусім невялікая. Выбралі сабе хату на краі вёскі, каб за шляхам добра глядзець, а бранявік свой і аўтамабіль са скрынямі ў двор, балазе вароты шырокія. Гаспадар, мусіць, нішто быў, але загінуў на імперыялістычнай. Засталася ў доме адна яго баба, маладая кабета, нават не паспела радзіць мужыку сына. Так і жыла адна. Узрадавалася — як-ніяк, а мужыкі. Магільніцкі таварыш быў строгі — яно і правільна, бо свая сям’я недзе дома. Затое Запекін захацеў знайсці да яе ход адразу. Але яна нешта не прыняла яго. Усё частавала мяне. Жывём мы гэта ў яе адзін дзень, другі. Палякаў не відно. 1 са штаба ніякіх чутак няма. Пайшоў трэці дзень. Якраз перад Вадохрышчам, канчаліся Каляды. Мы, вядома, з Магільніцкім не адлучаемся з дому, бо нельга, а Запекін пад вечар пайшоў некуды. Мы і не заўважылі, як ён адчыніў бак у браневіку і наліў адтуль у вядро спірту. Больш таго, даліў, каб мы не спалохаліся, вады ў бак. А вада ж цяжэйшая за спірт, таму адразу на дно асела. З гэтага ўсё і пачалося. Бачым у прыцемках — коннік скача. Аказваецца, да нас новы загад са штаба вязе: трэба пераязджаць з Капранаўкі ў другую вёску.

— Далейшыя ўказанні, — кажа, — атрымаеце пасля.

Мы, вядома, салдаты рэвалюцыі. Не паспеў коннік ад’ехацца ад вёскі, як пачалі збірацца ў дарогу.

— А дзе ж Запекін? — пытаецца Магільніцкі.

— Ды, мусіць, на той канец вёскі пайшоў, — падказвае гаспадыня.

Магільніцкі ажно лаяцца пачаў.

— Добра, — кажа мне, — ты праграvай матор і выязджай на дарогу, вунь да тых дрэў, а я зараз пашукаю Запекіна.

І пабег па вёсцы. А я тым часам да браневіка. На дварэ мароз. Да жалеза дакрануцца нельга. Але матор завёўся хутка. Пачаў развітвацца з гаспадыняй, тая абшчапіла мяне за шыю і плача горкімі слязьмі, хоць паміж намі нічога і не было такога. Нарэшце адпусціла. Я сеў у бранявік, як і дамоўлена было з Магільніцкім, выехаў за вёску. Стаў там паміж дрэў. Шлях адтуль відаць наскрозь. Сяджу гэта ў браневіку, чакаю Магільніцкага і Запекіна, а машыны ўсё не відно. Матор на малых абаротах гурчыць. І раптам — чмых, чмых. Пачмыхаў гэтак і заглух. Я — туды, я — сюды, галавы ніяк не знайду сабе. Каб жа ведаў, што нехта вады ў бак наліў, то рады даў бы. А то ж не ведаю. Пакуль спірту ў карбюратары хапала, матор працаваў, а як вады налілося, заглух. Дастаткова было адно спусціць ваду, але гэта і ў голаў не прыходзіла. Пабегаў я вакол браневіка, пабегаў ды зноў усярэдзіну. Не зачыняюся, усё пазіраю на вёску, чакаю Магільніцкага. І раптам бачу скрозь імглу, як нейкая калона рухаецца па шляху. Паварочваю вежу. Настаўляю кулямёты на калону. Але чыя яна? Можа быць і свая, можа быць і чужая. Тым часам калона ўсё бліжэй і бліжэй. Я за ёй на ўсе вочы сачу, пачынаю падлічваць па тэлеграфных слупах адлегласць. Адзін слуп, другі, трэці… Налічыў, здаецца, дзевяць. Ужо і не ведаю, як тады выйшла, але здагадаўся, пэўна, што гэта легіянеры. Ну, я на свой страх і рызыку і ўдарыў па іх з кулямёта. Не чакалі яны, мусіць. Пасыпаліся, як боб, хто куды. Але больш чамусьці падалося іх адразу да вёскі. Яшчэ няблага відаць было, і я не даваў ім наблізіцца да вёскі. Ажно не заўважыў, што па шляху легіянеры таксама крадуцца да браневіка. Тады я перасеў да другога кулямёта і таксама пачаў страчыць. І цяпер ужо выразна пачуў польскае «пся крэў». А ў душы, паверце, ні страху, ні хвалявання. Злосць ды акрыленасць нейкая — здаецца, ніколі яшчэ такое не здаралася са мной у баі. Але ж сілы няроўныя, я і сам гэта разумею; тым больш — чую, як па брані кулі цокаюць ужо амаль з усіх бакоў. Значыць, абкладаюць мяне, бяруць у кальцо. Да таго ж у браневіку ўжо дыхаць няма чым. Прыходзіць думка, што бранявік недзе загарэўся. Тады я сваю ў кішэні па гранаце, бяру таксама ў рукі, адчыняю люк, саскокваю на снег. І як толькі вывальваюся на снег, адчуваю ў назе боль. Мусіць, параніла, думаю. Варушу нагой — не. Нагу не зачапіла. Бранявік таксама стаіць. Я прыціскаюся да снегу, пачынаю азірацца і бачу, як наўскасяк, проста да браневіка, бягуць трое легіянераў. Падхопліваюся і шпурляю адну за адной гранаты. Легіянеры падаюць. Але і каля браневіка бухкае граната. Значыць, ле-

гіянеры ўжо зусім блізка. І тады я вырашаю прабіцца скрозь іхнія ланцугі. Лепей, канечне, падавацца туды, дзе разарвалася граната. Можа, там, акрамя тых трох легіянераў, якія пагінулі ад асколкаў, нікога няма. Асцярожна, нібыта яшчарка, адпаўзаю ад браневіка. Дзіўна, але мне шанцавала ў тую ноч да канца. Незаўважаны, я прапоўз паміж легіянераў, якія зусім не чакалі ад мяне такога спрыту, і ўранні ўжо быў у Чачэвічах, дзе стаяў у той час чырвонаармейскі атрад, таксама, мусіць, заслон.

— Ну, а далей што было? — спытаў шафёр.

— Пра далейшае мне расказваў ужо Магільніцкі. Мы сустрэліся з ім ажно праз два гады, калі вайны не было. Ён застаўся тады жывы і ваяваў да канца Грамадзянскай. Але не на нашым браневіку. Наш бранявік белапалякі закідалі гранатамі і спалілі.

Чалавек змоўк, і мы доўга чакалі, пакуль ён збярэцца гаварыць.

— Магільніцкі тады хутка знайшоў Запекіна, — бліснуў вачамі наш спадарожнік, — але пакуль яны ішлі па вуліцы, на шляху пачаўся бой. Да браневіка мне ўжо нельга было падступіцца. Адно што Пімен паспеў зрабіць, дык гэта пасадзіў Запекіна ў машыну і паказаў дарогу, якая вяла з вёскі ў другі бок. Трэба было ратаваць боезапасы. Сам Магільніцкі застаўся ў вёсцы. Капранаўку легіянеры занялі, але назаўтра іх адтуль выбілі чырвонаармейцы. Магільніцкі таксама памагаў ім — у яго ж былі з сабой гранаты і рэвальвер. Пімен мяне — так ён думаў — пахаваў тады. Ад браневіка ж нічога не засталося, адзін попел ды кавалкі жалеза, якія разляцеліся ад выбуху ва ўсе бакі. Цяжка было паверыць, што я ўцалеў. Таму Магільніцкі набраў попелу — рашыў, што я згарэў, — і пахаваў з усімі ўрачыстасцямі.

Як ні трымаўся ўвесь час чалавек, але пад канец голас яго стаў глухі і невыразны, нібыта душыла што.

— От як яно было, а раскажы каму, то могуць і не паверыць.

— На вайне бывала ўсякае, — сказаў Джагараў каб падтрымаць чалавека. — Я сам нямала паваяваў таму ведаю.

— Але ж гэта даўна-а-а-а… — чалавек цяпер нібы пераконваў нас. — Лічыце, што вы першыя пачулі пра ўсё. Патрапілася так, што з вамі сёння паехаў адтуль. Неяк не стрымаўся, загаварыў.

— А як у Капранаўцы? Як сустрэлі вас? — спытаў шафёр.

— Я там не аб’явіўся, бо навошта? Даўніна ж… Пахадзіў вакол магілы, паглядзеў на вёску. Хацеў знайсці двор сваёй былой гаспадыні, але вёска стала зусім не тая, што была тады, і знаку ад двара не засталося. Можа, і самой гаспадыні даўно няма.

У Магілёве мы запрасілі старога пераначаваць разам. Але той адмовіўся. Сказаў:

— Няма з сабой ніякіх дакументаў, каб прасіцца ў гасцініцу.

Можа, і сапраўды ў яго не было з сабой даведак, але хутчэй за ўсё чалавек проста не захацеў пабыць з намі. Гэтак бывае звычайна з людзьмі маўклівымі і замкнутымі ад прыроды: раптам, можа, у хвіліны найвышэйшага ўнутранага ўзрушэння, яны выказваюць табе ўсё, што не могуць ужо ўтрымаць у сабе, а пасля нібыта спахопліваюцца, і тады настае незразумелая адчужанасць. Але напаследак ён яшчэ спытаў мяне:

— Дык, кажаце, таго, Ленінавага таварыша не Муралавым звалі? —і зноў запярэчыў: — Не, я як цяпер помню, наш трыццаць пяты бранявы атрад называўся імем таварыша Муралава!..

Мы паціснулі адзін аднаму рукі, і ён пайшоў па асветленай электрычнымі ліхтарамі вуліцы.

Быў яшчэ вечар, і горад жыў сваім звыклым жыццём, з мітуснёй і шумам.

Недзе ў людскім натоўпе, непрыкметны нікому, ішоў наш знаёмы.

*1969*

## ЗА ТРЭЦІМ РАЗАМ

Пра гэта расказваў майму знаёмаму, быламу старшыні сельсавета, ажно тры разы адзін і той жа чалавек. А знаёмы ўжо мне, калі ездзілі нядаўна ў Латакі.

— Няйначай, — казаў ён, — чалавек той, можа, і сам не помніў, што раней гаварыў. Цяпер яго няма на свеце.

Быў ён у нашых Латаках прышлы, а з'явіўся тут недзе адразу пасля вайны. Звалі яго Парфёнам, і прозвішча ён меў зусім мясцовае — Канапелькін. У Латаках з такімі прозвішчамі было ажно ці не дзесяць двароў. Прынамсі, я добра помню цяпер, як у першую за вайною восень хадзіў ён па нашай вёсцы ўжо брыгадзірам, з «казой» на плячах. Мне чамусьці найчасцей выпадала бачыць Парфёна, калі ён шыбаваў з самага канца вёскі, дзе жыў, у Чыкавы печы. Там знаходзіліся так званыя наддаткі, гэта значыць, палосы, якія яшчэ ў дваццатыя гады наразалі сялянам з панскай зямлі да асноўных надзелаў. Спярша зямля там была ворная, але гадоў праз колькі, здаецца, са згоды ўсяе вёскі, залужэла, і пры калгасах на ёй ужо разлівалася шырокае

мора каляровай аўсяніцы. Не чапалі ў Чыкавых печах зямлю і ў акупацыю, калі зноў дзялілі палеткі на двары; няйначай, шкода было людзям пазбаўляцца багатай сенажаці, густога травастою, дарма што зноў усё перамералі на палосы. Але гэта так, паміж іншым.

Цяпер я спрабую хоць збольшага прыгадаць тое, што ведаў пра Парфёна Канапелькіна. Так, сапраўды, ён быў, як кажуць у нас, прышлы. Але ж не прымак, дакладней, не прыставаў да нашай кабеты, каб завесці сям'ю, хоць у вёсцы пасля вайны хапала і вольных удоў, і маладых дзяўчат, якія паспелі падрасці, і перастарак, якія патрохі дзічэлі без жаніхоў-аднагодкаў, што пайшлі па мабілізацыі ды не вярнуліся зноў. Парфён прывёў аднекуль чужую маладзіцу, вядома, для нас чужую, прывёў ледзьве не за руку, і менавіта маладзіцу, калі можна сказаць так, бо акрамя таго, што была яна маладая і прывабная, здаецца, яшчэ і ні разу не насіла ў сабе малое. Дзеці ў іх з Парфёнам з'явіліся ўжо ў Латаках. Два хлопцы. Цяпер і іх няма ў вёсцы, падаліся кудысьці ладзіць уласнае жыццё ў другое месца, таксама як і няма Парфёнавай жонкі — не захацела заставацца адна, адразу па мужавай смерці паехала ці то да кагосьці з сыноў, ці, можа, нават туды, адкуль браў яе Парфён.

Так і не стала яшчэ адной сям'і ў Латаках, жыла, а цяпер няма. Адзін успамін сярод людзей застаўся ды Парфёнава магіла.

Калі здараецца, што я трапляю ў Латакі, то кожны раз хаджу таксама і на могілкі. Звычайная жыццёвая з'ява. У кожнага чалавека такі абавязак ёсць. Хтосьці ляжыць-спачывае з блізкіх ці родзічаў. Тады не абмінаю я і Парфёнаву магілу, тым больш што знаходзіцца яна пры самай сцежцы, што вядзе адразу з вясковай вуліцы. Нават без сыноў, без жонкі магіла заўсёды дагледжана — на Радаўніцу, да абеду, людзі кожны раз наогул папраўляюць магілы, каб не збуцвелі дачасна, не зраўняліся з зямлёй. Не забываюць, вядома, і Парфёнаву, як і свае, засцілаюць ручніком і ставяць бліжэй да крыжа міску з аладкамі ці яшчэ з якой такой стравай, няйначай, усё яшчэ верачы, што душы нябожчыкаў і праўда маюць у гэтым патрэбу.

Месца для апошняга спачыну Парфёну было выбрана блізка да партызана, што пахаваны тут улетку сорак другога года. Я і таго партызана помню, маладога і кволага, яшчэ амаль падлетка; толькі помню не жывога — куля дагнала яго недзе на пераправе праз Бесядзь, але паколькі партызанскі атрад тады стаяў непадалёку ад Латакоў, у Шурышчы, хаваць забітага прывезлі ў нашу вёску. І, можа, таму, што ляжаць яны, Парфён і той партызан,

блізка, амаль побач, то і на памяць на могілках прыходзяць разам, услед адзін за адным. Дзіўна, аднак бываць мне тут паступова становіцца няцяжка, а хутчэй за ўсё з тае прычыны, што каля гэтых магіл нічога не трэба гаварыць, ніхто не вымагае ні споведзі, ні апраўдання. Да таго ж адсюль, ад гэтых дзвюх магіл, адкрываецца трохі ў нізіне ледзьве не ўся вёска, якую адразу можна пабачыць, і стары бальшак, па якім прыйшло ў Латакі і адышло зноў у свет багата народу. Па гэтым бальшаку прыйшоў у сорак пятым і Парфён Канапелькін. Быў ён адзеты ў адно летняе, бо на дварэ стаяў яшчэ жнівень, але вяскоўцаў вельмі ўразіла раптам, што разам з выцвілай, моцна паношанай салдацкай гімнасцёркай меў чалавек на сабе шыкоўныя генеральскія штаны, на якіх кідка вылучаліся шырокія чырвоныя лампасы, хоць і не надта чыстыя. Выгляд гэтых лампасаў проста-такі збянтэжыў нашых мужыкоў, бадай, нават падумалася сямутаму — няйначай, сапраўдны генерал неспадзявана завітаў у глухую і далёкую вёску, дарма што не на аўтамабілі. У кожным разе, чырвоныя стужкі на дыяганалевых штанах прыцягнулі да сябе ўсю ўвагу тых, каму давялося ў той дзень пабачыць незнаёмага чалавека на вуліцы, ды так прыцягнулі, што ажно мала кім была прыкмечана маладзіца пры ім. Самому мне не выпала тады сустрэць іх, таму прыгадваю гэты момант я па ўспамінах другіх людзей, але, відаць, і праўда яно было так, бо толькі пасля ўжо, дні праз два ці тры, выявілася нарэшце, што ў прышлага чалавека да таго ж вельмі прывабная жонка, ад якой не адвесці вачэй. Сам Парфён меў характар шырокі, трохі бунтоўны, усё роўна як нават крыклівы, бо іншы раз, асабліва ўвечары, калі чалавек бываў выпіўшы, ягоны голас пачуць можна было ажно з другога канца вёскі, якая разлеглася, па старых мерках, на цэлыя дзве вярсты; яна ж, ягоная жонка, заставалася заўсёды ціхая і роўная, акурат назнарок у процівагу мужу, нібыта саромеючыся яго няўрымслівасці. Дарэчы, звычайна такім вось чынам і падбіраюцца для добрага жыцця пары, можна сказаць нават, для зайздроснага. А зайздросціць Канапелькіным усё-ткі было ў чым, найперш, той прыстойнасці, якой вылучаліся іх адносіны паміж сабой і з суседзямі, атрымлівалася неяк так, што мала хто ведаў, як жылі гэтыя людзі, хоць яны і не зачыняліся ні ад кога, і не таіліся. Ну, калі і не зайздросціць, то браць прыклад з іх, пераймаць у іх было што, няйначай.

Першы дзень, як прыйшлі Канапелькіны ў Латакі, ніхто не ведаў тым больш не здагадваўся, чаго з’явіліся яны тут. Перабылі ноч у старога Піліпчыка, проста папрасіліся абначыцца, як гэта

і здараецца ў падарожных людзей, у першай жа хаце, якая кінулася ім, а тады Парфён пайшоў у сельсавет, узяўся на вайсковы ўлік, а гэтым нібыта прапісаўся на сталае жыхарства. Але пасля не стаў туляцца па чужых хатах, вывез лес, які яму выпісалі ў Панках, пачаў будаваць сваё жытло. Удзень працаваў у калгасе, бо спраў па брыгадзірстве хапала, ну, а на золку, хоць, бадай, больш у вечаровае сутонне, ляпаў сякерай па зрубе, што вырастаў вянок за вянком на выгане паміж вёскай і Чыкавымі печамі. Мала чаго адступіў Парфён ад таго месца і як складваў хату на мох, балазе што і пасунуцца дужа не было куды… Далей ужо належала б рабіць расцяроб. Хата атрымалася ў яго звычайная, як і астатнія ў Латаках, бо тутэйшыя мужыкі, маючы зусім пад бокам колькі хочаш лесу, тым не менш чамусьці не замахваліся на вялікія палацы, можа, у двух ці трох гаспадароў, калі прайсці з канца ў канец вёску, і ўбачыў бы нешта незвычайнае ў гэтым сэнсе. А так — будаваліся хоць і трывала, але захоўваючы сялянскую прастату, якая з'яўлялася своеасаблівай мерай: самым прыгожым будынкам была школа, што спярша называлася школай сялянскай моладзі, пасля — сямігодкай.

Словам, была для чалавека чужой наша вёска, зрабілася сваёй; не было сям'і ў дэмабілізаванага салдата, хутка з'явілася сям'я. Але вось генеральскія штаны, пакуль будаваўся, Парфён знасіў — працёр у шмат якіх месцах, запэцкаў смалой, так што і глядзець ужо не было на што. Дзіўна, але ў Латаках людзі шкадавалі Парфёнавых штаноў якія, як аказалася, былі ў яго адны: хто з усмешкай шкадаваў, таксама, як і ўсміхаўся тады, калі ўпершыню ўбачыў лампасы на прышлым чалавеку, хто па-сапраўднаму, можа, зразумеўшы нарэшце, што, няйначай, не толькі напаказ насіў ён іх. Ну, а як разжыўся радавы салдат імі, адкуль яны дасталіся яму, — невядома. Гэтая акалічнасць з'яўлялася тайнай, на якую, здаецца, нават ніхто не квапіўся, бо зрэзаў жа ён з гімнасцёркі тыя некалькі чырвоных і залацістых нашывак, што меў права насіць за цяжкія і лёгкія раны свае. Тым не менш, жыла ў гэтым чалавеку і нейкая… ну, ці то пахвальба, ці то яшчэ штосьці такое, што можна назваць іншым словам, больш далікатным, аднак атрымаць тую ж праўду — не заўсёды мог Парфён устрымацца, каб нечым не выдаць сябе, дакладней, не вылучыць сярод іншых. Так пачулі аднойчы вясковыя і пра тое, што ён… герой. Ні больш, ні менш. Генеральскія штаны яшчэ маглі дараваць яму, тут куды ні ішло. Але ж герой!.. Праўда, у вайну ўсе былі героі. Найперш, канечне, тыя, што палеглі ў бітвах… Бо ў кожнай пахавальнай, якія прыходзілі з фронту,

пісалася: «Ваш сын (муж) … загінуў смерцю героя…» Іначай тады не гаварылі над магіламі і не пісалі ў пахавальных… А ці ж той, хто прайшоў вайну і застаўся жывы, не быў таксама героем?.. Таму і адносіны да героя, геройства былі асаблівыя. У кожным разе, пасля вялікага і ўсенароднага гераізму людзі нібыта саромеліся гаварыць так, ужываць словы, якія гучалі аднымчасам і высока, і звычайна. Іншая справа тыя, хто сапраўды атрымліваў гэтае званне паводле Указа Вярхоўнага Савета…

Адным словам трапіў Парфён наш са сваім геройствам на языкі, пачаліся кепікі — за вочы, а то і ў прысутнасці, дарма што быў ён пры пасадзе, гэта значыць, у тых умовах не бяспраўным чалавекам, у якога хапала сродкаў прымусіць прыціхнуць хоць каго. Асабліва, бывала, пасміхаліся з брыгадзіра браты Варывончыкі. Іх жыло трое ў Латаках. І ўсе яны былі нежанатыя. Але ўсе як адзін былі таксама і лайдакі, нават разам узятыя — лайдакі і задзіры. У чым гэта выяўлялася? Мяркуйце самі. Папершае, працаваць у калгасе ні адзін з іх не хацеў. І Парфёну шмат каштавала голасу, каб іншы раз вытурыць на работу. За гэта яны і не любілі брыгадзіра. Прызнацца, ён іх таксама не шанаваў. Спытаеце — чым жылі Варывончыкі? Звычайна. Зрабілі самагонны апарат і давалі яго па чарзе тым, хто рашчыняў брагу. А былі і такія ў Латаках, што самі баяліся гнаць самагон, няхай нават і патрэбу мелі ў ім, тады прасілі заняцца гэтым братоў Варывончыкаў, і тыя ў прысутнасці гаспадароў ціснулі за адпаведны рахунак «кустоўку». Але быў у іх і іншы занятак, праз яго яны і падтрымлівалі сваё матэрыяльнае існаванне. Напрыклад, яны ўтрох вельмі ахвотна прымалі ўдзел ва ўсіх вяселлях, якія спраўляліся не толькі ў Латаках, а і ў чужых, нават дужа аддаленых вёсках, лічы, на краі свету. Раней людзі чамусьці казалі — вяселле без бойкі, гэта не вяселле: нібыта маладыя ад ціхага вяселля блага жыць стануць. Таму і запрашалі на вяселлі братоў Варывончыкаў, каб тыя знарок задраліся сярод званых гасцей ды распачыналі бойку, а там ужо ў ёй прымуць удзел усе, у каго рукі свярбяць. Між тым у канцы бойкі заўсёды высвятлялася, што найбольш даставалася ў такой справе самім жа Варывончыкам. Яны доўга хадзілі пасля з сінякамі. Аднак да наступнага вяселля ачуньвалі, тым больш што ў прамежках паміж вяселлямі зноў знаходзіўся занятак — гнаць па найму самагон. Зразумела, што з такімі людзьмі Парфён, на якім ляжала шмат клопату па слабасільнай тады калгаснай гаспадарцы, міру не меў, хоць, праўда, зацятых адносін таксама не дазваляў

сабе. Тым часам з саміх Варывончыкаў, як кажуць, запыт невялікі. Яны Парфёна не шкадавалі. Але як прывыклі вяскоўцы да ягоных генеральскіх штаноў, так паступова прывыклі і да таго, што выдаваў сябе за героя. Жыццё ёсць жыццё. Усё ў ім прыціраецца, шурпатасць страчваецца, многае прыглушаецца, а тоесёе і зусім забываецца. Аднак самому Парфёну нешта карцела ў душы з гэтым геройствам, ён усё» неяк спрабаваў даказаць людзям яго, хоць гаварыў цяпер пра гэта рэдка, часцей, калі яно само злятала з памякчэлага языка; як мне думаецца, чалавек хацеў, каб яму нарэшце сапраўды паверылі. Між тым што было лягчэй зрабіць, як паказаць свае ваенныя адзнакі. І вось аднаго разу я напаткаў яго ў Чыкавых печах. Ён быў там адзін, сядзеў пад бярозай, што стаяла на правай абочыне бальшака, які вёў з Латакоў на Мядзведзі.

— Я люблю часам прыйсці сюды, каб пасядзець тут, — прызнаўся ён. — От паслухай, як яна шуміць. Ні адно дрэва ўздоўж гэтага бальшака больш не шуміць так.

Тая бяроза, пад якой сядзеў Парфён, і на самай справе жыла нейкай трапяткой таямнічасцю, што, нібыта вадаспад, сцякала з вяршыні неўпрыкмет сюды, на зямлю.

Мы колькі часу сядзелі моўчкі, акурат для прыліку, і слухалі гэты дзіўны самагуд, тады разгаварыліся.

Парфён чамусьці ўсе расказваў пра вайну, быццам не адбывалася ў жыцці іншага, быццам на ёй у яго ўсё сышлося. Зрэшты, у тыя гады не адзін ён кідаўся ў падобныя ўспаміны. Вайной пакуль, бадай, жылі усе былыя салдаты, дарма што хапала спраў і без яе на зямлі.

Расказваў Парфён пра тое, як трапіў на вайне ў сорак першым спачатку пад Маскву, як страціў там дзве рабрыны з левага боку; як пасля доўга ляжаў у шпіталі, недзе на Каўказе, не мог выпрастацца, стаць роўна, але паколькі не было куды падацца далечвацца, — раён у Арлоўскай вобласці, дзе знаходзілася яго вёска, апынуўся к таму часу пад немцам, — то заставаўся амаль цэлага паўгода на адным месцы; затым у сорак другім годзе прымаў удзел у няўдалай аперацыі на Бранскім фронце, калі 13-я армія спрабавала ліквідаваць самы нязручны выступ, што клінам удаваўся ў лінію нашай абароны, і тут яго раніла, не абышлося і на гэты раз, аднак няцяжка, ва ўсякім выпадку, цяпер Парфён не столькі доўга ляжаў і не вельмі балюча сябе пачуваў, дарма што куля прайшла краем левага лёгкага; у сорак трэцім заспеў ён бai на Курскай дузе і з 3-й арміяй Гарбатава прыйшоў сюды,

на нашу Бесядзь: якраз помніў з той восені і Латакі, і Мядзведзі, і Сілічы, і Відуйцы, і Саматэвічы… Пакуль апынуўся ў Германіі, у самым логаве, зноў атрымаў раны — адну цяжкую, ад якой засталася кантузія, а дзве так сабе. Пра іх Парфён і гаварыць надта не пачынаў, толькі нагадаў, акурат спахапіўся…

Тады ж ён расказаў першы раз і пра галоўнае.

— Дарэчы, тут у вас, на Бесядзі, мы аднойчы немца ўзялі ў палон, — сказаў ён, усё роўна як паміж іншым, прынамсі, так мне здалося, бо адразу ж перайшоў на другое, стаў раптам даводзіць, што ў сорак трэцім годзе, калі наступалі, у Латаках нібыта болей хат было; мы ўзялі ды пералічылі іх разам, прайшоўшы на памяць вёску з канца ў канец; аказалася, наадварот, пасля вайны стала больш, і якраз усяго на адну, на ягоную; ён нечага ажно засмяяўся з нашага пераліку, пакруціў галавой, акурат ад вялікага здзіўлення — маўляў, а мне вось убілася ў галаву.

І тым не менш пра немца, якога ў сорак трэцім на Бесядзі «ўзялі ў палон», Парфён усё-ткі расказаў, але трохі счакаўшы. І расказаў сам, я не напамінаў і не прасіў аб тым.

Сонца тады ўжо садзілася на лес, вечарэла, хоць было гэта ўлетку, і нам не мела сэнсу спяшацца, бо кожны разумеў, што перад тым, як назусім усталявацца цемнаце, над зямлёй яшчэ доўга будзе плаваць сутонне. Уздоўж аўсянага поля, якое пакуль не пачало астываць ад расы, але ў якое ўжо недзе збягаліся з блізкіх падлескаў згаладалыя за дзень зайцы, каб гойсаць потым скрозь ноч тут, мы падаліся адзін за адным смурыжыць нагамі быльнёг на мяжы ад бальшака да крайніх двароў. Парфён там жыў, а мне тым часам усё роўна было, якісці — дарогі да сярэдзіны вёскі заставалася аднолькава хоць з бальшака, хоць з гэтага канца…

…Парфён, які тупаў паперадзе, спатыкнуўся раптам на скрытай ямцы, сказаў нязлосна «цьфу!», акурат адкараскваючыся ад нячыстай сілы, тады выбіўся з мяжы, ступіўшы на абочыну, пачакаў, пакуль я апынуся разам, і загаварыў:

— Мы таго немца ўзялі недзе за Саматэвічамі. Гэта я як цяпер помню. Плаваў туман уранні па бульбянішчы, нават, здаецца, трохі імжыла. Дык ён і выйшаў з таго туману на дарогу. А перад тым усю ноч гарэла кіламетры за тры вёска. Занялася яна не ў часе бою. Бой ужо аціх тады, хоць фронт пакуль і не зрушыў з месца. Канчаткова мы выбілі фрыцаў толькі к вечару наступнага дня. А ў тую раніцу маўчалі абодва бакі — і наш, і варожы, бо пачынаць нанава не мела сэнсу з-за туману. Пры тумане, калі

ён закрые зямлю, надта не наваюеш. Іншая справа, засяродзіць войскі, падцягнуць бліжэй да варожых пазіцый. Праўда, працiўніку таксама ніхто не забараняе зрабіць тое самае. Словам, туман ёсць туман. На вайне небяспечны для кожнага. У ім не толькі машына, але і чалавек становіцца бездапаможны і невідушчы. Мусіць, таму і немец той заблудзіўся. Ну, мы і пераанялі яго як след. Узрадаваліся, пасля адразу неяк і зазлавалі, балазе палонных у сорак трэцім, хто не ваяваў пад Сталінградам, яшчэ не часта даводзілася бачыць. Гэта пазней, у сорак чацвёртым, іх цэлымі калонамі можна было браць ды абяззбройваць. А ў сорак трэцім немец заставаўся бадзёры і нязломны, дарма што зазнаў і Маскву, і Сталінград, і Курскую дугу… Ну, вось… Дык я ўжо казаў, што перад гэтым праз усю ноч гарэла нейкая недалёкая вёска. Тады якраз самы час падпальшчыкаў настаў, салдаты іх называлі «факельшчыкамі». Палявая паліцыя пры сухапутных войсках стварала цэлыя каманды, каб, адступаючы, спапяляць усё, што здольна было гарэць і разбурацца. І нашы салдаты, калі здаралася, заставалі такіх на месцы злачынства, расстрэльвалі без суда і следства. Можа, нават на гэта загад быў. Сказаць цяжка, бо не ведаю. Але што не каралі адзін час байцоў якія распраўляліся з факельшчыкамі, знаю дакладна. Пра гэта паміж салдат гаворка адразу пракінулася б, калі б пакаранне раптам каму выйшла, няхай нават на другім фронце. Вось мы і ўявілі сабе, што наш немец таксама з каманды падпальшчыкаў. Таму мы яго тут жа і прыкончылі, проста на дарозе. Са мной якраз аўтамат быў, то я першы падняў і выпусціў імгненна чаргу. Пасля ўжо другія дабівалі.

— А ён і праўда з такой каманды быў?

—— Хто ж цяпер скажа, нам тады так здалося. Бо пёрся па бульбянішчы з таго боку, дзе ападала зарыва.

Перад самай вёскай мы падалі адзін аднаму руку — Парфён Канапелькін і я, развіталіся, сказаўшы напаследак нейкія самыя звычайныя словы, як гэта і водзіцца, калі чалавек з чалавекам мае магчымасць сустракацца амаль штодня. Акрамя таго, звычайнымі словамі, таксама як і звычайнымі паводзінамі пры расстанні, мы нібыта назнарок падводзілі нябачную рысу пад тым, пра што хвіліну назад гаварылі.

Між тым, жыццё ў Латаках ішло і далей сваім парадкам. Прынамсі, праз нейкі час у мяне з галавы зусім выпаў гэты Парфёнаў расказ. Але гадоў праз колькі Парфён зноў успомніў пры мне той выпадак. Цяпер я нават схільны думаць, што адбылося

гэта безадносна да таго, першага разу, прызнацца, ужо даволі даўняга, калі ішлі мы з ім паўз аўсянае поле. Не выключана магчымасць, што ён забыў да гэтага часу, што ўжо аднаго разу гаварыў пра немца, якога забілі з ягоным удзелам на тутэйшай дарозе ў сорак трэцім годзе, бо, мяркуючы па той акалічнасці, як ён пачаў нанава гаворку, можна было заключыць, што так яно і атрымалася на самай справе. І гэты, другі раз, нам таксама выпала апынуцца адзін на адзін, хоць зусім пры іншых абставінах — ехалі на возе з кірмашу, што наладжваўся ў Саматэвічах.

— Ведаеш, — сказаў ён зусім ціха, падалося, нават цяжка, нібыта ў прыгнечаным стане, — нейкія нядобрыя сны прыходзяць апошнім часам. Раней, бывала, дзівіўся, чаму другія людзі расказваюць, што бачылі ў сне тое і тое, а мне хоць бы што прыйшло. Жыў неяк без сноў, нібыта ў жыцці маім не было ні радасці, ні засмучэння, якія б усхвалявалі раптам ды пачалі не даваць спакою па начах. Ці, можа, не па гэтай прычыне сны здараюцца?

Я засмяяўся:

— Думаю, што… якраз па гэтай. Няйначай, сон з'яўляецца вынікам ранейшага клопату, які адольваў ці адольвае чалавека. У кожным разе, я недзе чытаў пра гэта.

— Але ж бываюць і прарочыя. Ну, тыя, якія потым спраўджваюцца. Я па маёй бабцы мяркую — убачыць, напрыклад, у сне, што выпаў зуб, прачнецца і скажа: памрэ нехта з вёскі. Глядзіш, сапраўды праз дзень-два нябожчыка на могілкі нясуць. Магла нават адгадваць, свой ці чужы памрэ. Я ўжо не помню цяпер, па якіх прыкметах яна рабіла гэта, але таксама і такія яе словы пацвярджаліся, быццам у ваду жанчына глядзела.

— Дык і табе перадаліся яе прарочыя сны? — зноў чамусьці засмяяўся я.

— Не, —матнуў галавой Парфён, — справа не ў гэтым. Я пра другое хацеў сказаць. Мы некалі тут вось, паміж Палужам і Бесяддзю, застрэлілі на дарозе немца. Было гэта, як разумееш, у вайну. Мы якраз праходзілі тады па вашай мясцовасці. Наступалі з Курскай дугі. Дык я і ў баях на Бесядзі ўдзельнічаў. Як цяпер помню, пачаліся баі тут дваццаць восьмага верасня. Ну, вось і захапілі мы таго немца. І расстралялі. А цяпер ён кожны раз у сне на мяне падае. Падае з працягнутымі рукамі, і я прачынаюся. І расказаць пра свой сон нікому не магу.

Парфён падагнаў лейцамі каня, затым дадаў, нібыта хацеў удакладніць ці апраўдацца:

— Але ж не адзін я страляў у яго. Стралялі і другія, Можа, мае кулі і не патрапілі. А от жа… у сне ён чамусьці на аднаго мяне падае…

Канечне, мне адразу на памяць прыйшоў ранейшы Парфёнаў расказ. Але я прамаўчаў, што ўжо аднойчы чуў яго. Разам з тым цяпер мяне неяк уразіла Парфёнава вінаватасць. Паглядзеў на яго збоку. Гэта ўжо быў зусім не той чалавек, што прыйшоў некалі адразу пасля вайны да нас у Латакі. Стаў ціхі і сумны, з упалымі шчокамі і з жаўтаватай скурай на твары. Жыццё на тое і мае ў сваім распараджэнні час, каб перайначваць нас на свой капыл: маладога чалавека робіць старым, прыгожага — непрыгожым, дужага — нямоглым. Парфён таксама не выключэнне, падумаў я.

А ён яшчэ сказаў:

— Пасылаюць мяне зноў у бальніцу. На праверку. То забяры мяне неўзабаве адтуль. Ты ж на сваім матацыкле часта бываеш у раёне.

Вядома, я з ахвотай кіўнуў галавой, маўляў, не турбуйся.

Але зрабіць гэта доўга не выпадала. Спярша сам Парфён марудзіў з ад’ездам на лячэнне, а там дактары ў сваю чаргу, як бывае, за яго ўзяліся. Словам, прамінула нямала часу, пакуль яго адпусцілі адтуль.

Дзіўна, але бальніца яго не палохала, наадварот, чалавек нават пажвавеў, стаў нібыта ранейшы, і ўсё пытаўся па дарозе дамоў, як ён цяпер выглядае.

— Добра, — казаў я, і ён рабіўся яшчэ больш весялейшы.

— Вось прыеду дамоў, — казаў Парфён, — і зраблю адну добрую справу. І наогул, я цяпер паклаў сабе за мэту — штодня рабіць хоць па адной добрай справе.

— А то ты іх не рабіў дасюль?

— Не, тут іншае. Тут зусім іншае. — А што іншае — не гаварыў, усё роўна як пакідаў на самы паследак.

Дарога была пясчаная, пасля нядаўняга дажджу, і матацыкл гурчаў натужна, заглушаючы часам нашу размову, якая ўсчыналася на кароткі час, затым аціхала. Але і гэты раз Парфён здзівіў мяне. І, мусіць, найбольш за ўсе разы. Мы тады выехалі з лесу, наперадзе вырасла вёска, здаецца, Папаратня.

— Во тут во, дзе мы едзем зараз, — паказаў ён, перасільваючы голасам і вецер, і незмаўкальны залівісты матор, — апынуўся я некалі сведкам, як расстрэльвалі ў вайну чалавека. — І далей ні слова, быццам зацяўся.

А я тым часам падумаў — адкуль у яго гэтакая забыўчывасць, нават— дзіўнае ўсёдараванне, якога не павінна быць у адносінах

да таго нашага мінулага. Але чамусьці таксама не сказаў. Адклаў на другі раз. Толькі другога разу ўжо не было…

У тое ж лета Парфён памёр. Калі вясковыя кабеты абмывалі нежывое, халоднае цела, то вельмі бедавалі, шкадуючы чалавека: колькі на ім адкрылася ран і як ён дасюль увогуле жыў з імі… І яшчэ адна акалічнасць выклікала здзіўленне ў вяскоўцаў, што сышліся на пахаванне: каля Парфёнавай труны ўсе ўбачылі нарэшце шматлікія яго ўзнагароды, сярод іх — дзве салдацкія Славы. Відаць, трэцяя недзе згубілася, не знайшла Парфёна.

*1984*

## КОНІ

Некалі мяне ўгаворвалі напісаць пра конюха нарыс. Але я не напісаў. І кніга тая ў Магілёве выйшла без майго нарыса. У мяне ў бібліятэцы яна ёсць. Часам, калі яна трапляецца на вочы, я бяру яе ў рукі, гартаю старонкі і кожны раз бачу недзе на сярэдзіне нарыс пра таго конюха, але напісаны другім аўтарам, і мне становіцца ад гэтага нібыта ніякавата. Ніякавата не таму, што не здолеў тады напісаць, ніякаватасць ад іншага — ад таго, што не зусім тое пра яго напісана. Хоць, вядома, гэта таксама адноснае — тое, не тое, проста я напісаў бы іначай пра таго чалавека.

А так — я ездзіў тады на конезавод. Было гэта зімой, у самыя сумёты, калі нічога цікавага, здавалася б, не магла даць паездка. Уласна кажучы, яна і не дала. Мы пахадзілі з конюхам па стайні, падзівіліся на коні; я запісаў іхнія клічкі, радаслоўную, узятыя ад бацькоў і набытыя якасці; сёе-тое занатаваў на паперы пра самога конюха — дзе нарадзіўся, дзе працаваў дагэтуль, чаму пераехаў з добрага калгаса сюды на конезавод…

— Так выйшла, — сказаў ён.

Яго звалі Антонам, а тады пачаў тлумачыць: сапраўды, ён атрымаў Героя яшчэ ў калгасе, але пасля шмат што памянялася ў жыцці, галоўнае ж — звяліся паступова ў гаспадарцы коні; вось ён і працуе ўжо колькі гадоў тут, на конезаводзе.

Матэрыялу, які сабраў я ў часе камандзіроўкі, хапала для нарыса, нават дадумваць мала што спатрэбілася б, але я адразу ўжо ведаў што пісаць не стану. І не таму, што штосьці мне не спадабалася ў самім чалавеку ці ў ягонай справе. Не. Антонавы коні былі гладкія і прыгожыя, з доўгімі, усё роўна як знарок вырашчанымі грывамі, і сам Антон прыгодны быў у героі;

праўда, можа, залішне гаваркім здаўся, але гэтая акалічнасць не выклікала ў мяне адмоўнага пачуцця, не кажучы ўжо аб непрыязнасці. І тым не менш, паўтараю, пісаць нарыс я не стаў. Цяпер хочацца тлумачыць гэта рознымі прычынамі, першая сярод якіх з'яўляецца і самай простай, бо сапраўды лепей было б прыехаць на конезавод улетку, як кажуць, пабачыць усё на прыродзе, з табуном і начлежным вогнішчам… Між тым была яшчэ адна прычына, гэта я магу сказаць сёння дакладна, можа, нават і самая важная, якая канчаткова паўплывала на маё рашэнне; яна дзейнічала хутчэй за ўсё несвядома, але дзеянне яе было падобна на пах, што адбівае ў чалавека смак ад нечага надоўга, а то і назаўсёды. Зразумеў я гэта потым, бадай, ужо гадоў праз колькі, як з'ездзіў на той конезавод другі раз.

Але растлумачыць апошнюю прычыну якраз цяжэй. Нават не ўпэўнены, ці зразумелае будзе тлумачэнне. А справа ўся ў конскіх клічках, у тых імёнах, якія насілі гэтыя жывыя, не дужа вольныя істоты; так, у імёнах, але таксама і ў словах адной частушкі, што прыйшла тады на памяць у канюшні. Праўда, ведаў я з яе ўсяго адзін радок — аб тым, што «конная Будзённага» некалі «пайшла на каўбасу». І ўзнік ён у памяці па асацыяцыі, калі Антон назваў Рулетам самага грывастага жарабка пегай масці. Так яно і склалася адно ў адно, як наўмысна — спярша Антонава апраўданне, што, маўляў, коні ў калгаснай гаспадарцы звяліся, таму давялося пераязджаць сюды, затым гэтая конская клічка — Рулет, пасля даўняя частушка, якая засталася ў памяці маёй, няйначай, ад вайны, з часу нямецкай акупацыі. І ўсё гэта, кажу, сышлося разам, стаўшы своеасаблівай псіхалагічнай перашкодай. Да таго ж я помніў яшчэ, як пасля вайны ўжо сапраўды забіралі з калгасаў коні не куды-небудзь, а на «загатжывёлу».

Другі раз паехаў я на конезавод сапраўды ўлетку. Але хутчэй за ўсё не таму, што нарэшце рашыўся напісаць пра Антона. Няйначай, што абяцаў у першы прыезд наведацца на конезавод і другой парой, балазе, што моцна запрашаў тады дырэктар, маўляў, улетку ў пойме Віхры куды прыгажэй, чым зімой, і зноў жа — як гэта чалавеку, які змалку прывык ганяць коні на начлег, не хочацца пасядзець сярод ночы ля вогнішча… Так што спакуса для другой паездкі была і без таго.

Пойма Віхры, яе выгляд у чэрвені месяцы сапраўды пацвердзіў усё, чаго можна было наперад чакаць: злева скрозь распасціраліся заліўныя лугі, шчыльна парослыя пярэстым каляровым разнатраўем, якое здалёку чамусьці здавалася ажно сінім, нават фіялетавым, нібыта іх, тамашнія лугі, займала ад краю да краю

адна аўсяніца; справа, па другі бок ракі, высіўся стромы бераг з белымі вымоінамі пяску на адхонах, што нагадвалі паўночныя дзюны; а па-над тым берагам, як акінуць вокам у два канцы, нібыта вытыркаліся аднекуль з глыбіні зямлі няроўныя камяніцы старажытнага горада, можа, самага ранняга ў нас.

У другую паездку ў мяне часу было больш, чым тады, калі наведваўся на конезавод у лютым месяцы. І яго траціў як хацеў, балазе цяпер не быў абмежаваны ніякімі акалічнасцямі, якія б звязвалі рукі — як кажуць, свая воля і свая няволя, а тут ахвота. Знаходзячы кожны раз хоць якую прычыну, проста для сябе, удзень я смурыжыў паміж лозамі густую, акурат авечая скура, траву; часам, усё роўна як зачараваны, падоўгу ўзіраўся цераз раку ў сцішаны горад, думаючы чамусьці — і зусім не з-за ўвагі да гісторыі — больш пра тыя далёкія часы, калі татара-мангольская конніца, дакаціўшыся сюды ад самай Волгі, не раз і не два таптала гэтыя лугі і заўсёды заканчвала тут, на Віхры, няўдачай свой чарговы набег; а ўначы мы з Антонам сапраўды палілі вогнішча, кожны раз выбіраючы не так для сябе, як для табуна, новае месца, хоць у выбары і існавала заканамернасць, нават не заканамернасць, называць наш выбар такім чынам было б занадта, — проста кіламетры за тры ад Віхры выбівалася аднекуль з сярэдзіны «святая» крыніца, і мы ўзялі сабе за звычай браць з яе ваду на гарбату. Чаму гарбату? Гэтае слова першы сказаў Антон, а я пасля не стаў гаварыць звыклае «чай», так і павялося паміж нас — гарбата ды гарбата. Ну а чаму крыніца святая? Таксама тлумачэнне знайшлося.

— Ат, — махнуў рукой Антон, калі я пацікавіўся гэтым, — папы недзе агледзелі яшчэ ў старыя часы, пасля зруб узвялі. Раней нават імшу правілі каля гэтай крыніцы. Цяпер гэта звычайны калодзеж. Ну а вада ў ёй сапраўды смачная. У кожным разе незвычайная. Нешта ў ёй ёсць такое, што адрознівае яе ад іншых. Ці мала за жыццё давялося піць з якіх крыніц, а гэта…

Вада і праўда была цудоўная, калі можна ўвогуле так гаварыць пра ваду. Пахучая, акурат разварыстая, з яе атрымлівалася чай-гарбата. Але ў тым, што гарбата выходзіла такая, вінаваты быў, канечне, Антон. Ён умеў варыць яе, іначай не скажаш, бо чалавек варыў гарбату, а не заварваў: клаў у вядро цэлы ахапак, загорнуты ў марлю, розных траў, які, можа, аднаму яму і вядомы, доўга трымаў на ціхім агні, пасля адцэджваў і ўжо затым разліваў па кубках. Пілі мы ягонае пітво няспешна і моўчкі, акурат насцярожвалі спалохаць штосьці, да таго ж заўсёды без цукру, як юшку. І калі я не вытрымліваў, пачынаў хваліць гарбату, Антон

адно ўсміхаўся ды чамусьці з палёгкай уздыхаў, прамаўляючы сваё звыклае «ат», у якім кожны раз чулася то своеасаблівае адмаўленне чагосьці, то, наадварот, амаль поўная згода, і мне, прызнацца, спярша не адразу ўдалося адчуваць гэтую розніцу. Акрамя ўсяго іншага, Антон цяпер зусім непадобны быў на сябе, на ранейшага. І не падобны перш за ўсё’ сваёй неразгаворлівасцю. Калі зімой ён быў залішне гаваркі, ажно мітуслівы, нібыта хацеў знарок спадабацца, дык гэты раз яго акурат падмянілі, можа, ён нават і ў галаве ўжо не меў, што я прыязджаў некалі пісаць пра яго. Словам, чалавек раптам зрабіўся, няйначай, самім сабой. Падрыхтаваўшы гарбату, Антон звычайна садзіўся на грудку, крокаў за колькі ад вогнішча, але не на такое адлегласці, каб схавацца ў змроку. Я заўсёды бачыў яго ссутуленую постаць і гарбаносы профіль, даволі было дзеля гэтага адно кінуць у той бок позірк; дзіўна, але і ўначы я часта адчуваў ягоную жывую прысутнасць, дастаткова было, напрыклад, прачнуцца, як ён тут жа не спаў маючы клопат пасвіць коні і мяне губляць з поля зроку. З гэтага повада ён неяк сказаў:

— Вы не зважайце, што я часта прачынаюся. Я наогул вельмі чуйна сплю. Конюх інача не можа. Яму нельга. Ну а яшчэ… Такім вось чынам я даўжэйшым раблю сваё жыццё. І ноч амаль не спіш, і дзень працуеш. Таму і здаецца, што доўга і даўно ўжо жывеш на свеце. А той чалавек, які ночы прасыпае, адным днём жыве, яму і жыццё падаецца кароткім. Я гэта зразумеў зусім нечакана, на поўдні, калі ездзіў туды па пуцёўцы. Ляжаш, бывала, з вечара, а прачнешся толькі ўранні. Ні клопату табе ўначы, ні трывогі. Ну і спіш таму моцна. У выніку ноч — адно імгненне несвядомае, на жыццё застаецца толькі дзень. А ў мяне тут — і ноч, лічы, свядомае жыццё, і дзень.

Я, канечне, пасмяяўся з гэткага спосабу падоўжваць жыццё. Ён таксама пасмяяўся разам са мной, усё роўна як за кампанію, але нічога не збіраўся мяняць у сваім распарадку. Дакладней, у сваім ладзе жыцця: заставаўся такім жа чуйным па начах і руплíва-гаспадарлівым удзень, калі амаль не выходзіў са стайні. Я ўжо казаў, што цяпер, улетку, ён быў нешматслоўны, гэта так, аднак разам з тым гэта не азначала таксама, што мы не размаўлялі з ім увогуле. Наадварот, гаманілі шмат, праўда, найчасцей урыўкамі, як бы нечакана, і я нарэшце, здаецца, ужо ведаў пра яго ўсё ці амаль усё, што можна было ведаць пра прыстойнага чалавека. Ведаў нават больш таго. Асабліва часта ён успамінаў сваіх дачок. Іх у яго было дзве. Адна замужам жыла ў Клайпедзе, за мараком рыбалоўнага флоту, але няўдала, з мужам у яе завяліся нелады,

і бацька перажываў за сваю малодшую, казаў што трэба з’ездзіць туды, быццам ад ягонай паездкі сапраўды залежала нешта. І ўсё-ткі не гэтыя размовы, не гэты клопат змусілі мяне і сёння ўспамінаць пра Антона, праз шмат гадоў.

Аднойчы пад ранне, калі чырвонай мярэжай запалаў на ўсходзе світанак, а над пясчанай выспай, на якой мы тады абначыліся, аціхнуў вецер, каб неўзабаве зноў пачацца на краю старой дзебры, конюх ускінуўся раптам, ускрікнуў:

— Коні?

Дзіўна, але вочы яго былі цяпер быццам невідушчыя, свяціліся аднымі бялкамі, як у старца. Між іншым, коні былі побач, адзін нават стаяў бадай каля самага вогнішча, пакрытага попелам.

— Вось яны, коні, — сказаў я ціха, каб не разбудзіць яго, бо падумаў, што чалавек ускочыў у сне.

Але Антон сам хутка ачомаўся, сказаў вінавата:

— Гэта я так. Праснілася раптам. А ўжо здавалася ж, што пазбавіўся ад гэтага.

— Ад чаго пазбавіўся?

Ён памуляўся трохі, усё роўна як яму цяжка было на штосьці рашыцца, тады расказаў. Уласна кажучы, ягоны расказ і растлумачыў усё астатняе.

Здарылася гэта ў мінулую вайну. Антон партызаніў. Але ў партызаны прыйшоў з нямецкага палону, якраз супроць першай ваеннай зімы. Праўда, гэтая акалічнасць нічога не значыла ў ягоным расказе. Галоўнае, што Антон быў у партызанах і аднойчы апынуўся ў варожай блакадзе. Іх, партызанаў, тады было трох, на конях. І выбрацца з варожага кола можна было толькі праз раку, якая агінала ў тым месцы бярозавы гай. Але коні заміналі партызанам. З імі немцы ўбачылі б адразу партызан. І яны прывязалі свае коні да бярозаў, а самі папаўзлі праз травяністы луг да ракі. Ім тады пашанцавала. З блакады яны выбраліся ўплаў, не выклікаўшы ў немцаў нават падазронасці. Але назад, у той бярозавы гай, дзе былі пакінуты прывязаныя коні, ніхто з трох не трапіў. Па-першае, доўга трымалася варожая блакада, па-другое, немцы прымусілі партызанаў, у тым ліку і Антона, адступіць далёка ад таго месца, дзе стаялі коні. І калі нарэшце Антон вярнуўся ў бярозавы гай, коні былі нежывыя — выскублі не толькі ўсю траву пад нагамі, але і абгрызлі кару на дрэвах…

З тых дзён прамінула шмат часу, але Антон успамінаў пра мёртвых коней надзвычай цяжка.

Я доўга сядзеў трохі здалёк ад яго, маўчаў. Вочы яго зноў зрабіліся відушчымі, але цяпер ён часта-часта пацепваў плячамі, быццам моцна празябнуў без палаючага вогнішча. Дык хіба ж мог ён не стаць конюхам?

Вецер, што заціхнуў на нейкі час паміж Віхрой і выспай, дзе мы з Антонам выбралі гэты раз начлег сабе, зноў пачаў варушыць траву навокал; ад ракі тым часам пацягнула новай, ужо начной, нейкай колкай свежасцю…

Я цяпер, праз гады, адчуваю той вецер на сваім твары. Асабліва калі бачу коні.

*1994*

# ОСЦЕЙ — АЛЬГЕРДАЎ УНУК

*Гістарычная згадка*

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### КАРЦІНА І

1382 год. Да бранскага князя Д з м і т р ы я, сына Альгерда Літоўскага, спешна прымчаўся з Кіева ягоны брат У л а д з і м і р. К гэтаму часу Бранск ужо таксама ці не дваццаць гадоў належаў Вялікаму Княству Літоўскаму.

У л а д з і м і р. Я загнаў не аднаго каня, каб пабачыцца з табою, брат Дзмітрый.

Д з м і т р ы й. Чаго-чаго, а коней у мяне хапае, дарагі Уладзімір. Назад паскачаш на маіх.

У л а д з і м і р. Дзякую, брат. Але мае таксама адсапнуцца.

Д з м і т р ы й. З таго часу, як пачуў ад тваіх вершнікаў, што ты гэтак нечакана выбраўся з Кіева, усё думаю: чаго б?

У л а д з і м і р. Мае дружыннікі бачылі па гэты бок Ітыля тахтамышавых татар.

Д з м і т р ы й. Дзе ў наш час не ўбачыш татарына?

У л а д з і м і р. Ты не так зразумеў!.. Тахтамыш вядзе свае ўлусы на Масковію.

Д з м і т р ы й. Вось яно што!

У л а д з і м і р. Так, брат.

Д з м і т р ы й. Але ж усе казалі, што татары пасля Данской бітвы моцна знясілены. Яшчэ ж і двух гадоў не прайшло. Мне здавалася, што…

У л а д з і м і р. Нам усім здавалася, што татары не хутка ачомаюцца. Асабліва, відаць, здавалася гэта майму цёзку, данскому герою. А Тахтамыш, бачыш, паспеў расправіцца і з Мамаем, і войска вакол сябе сабраць.

Д з м і т р ы й. Дарэчы, а што з Мамаем?

У л а д з і м і р. У Кафры загінуў. Усё чакаў дапамогі ад генуэзцаў. А тады пакончыў з сабой. Калі, вядома, генуэзцы не зрабілі гэтага, каб дагадзіць новаму валадару.

Д з м і т р ы й. А гэты Тахтамыш?

У л а д з і м і р. Наколькі мне вядома, ён таксама належыць да нашчадкаў Чынгісхана. Уладу на Ардзе яму дапамог захапіць Тамерлан.

Д з м і т р ы й. Значыць, татары два гады таму назад нічому не навучыліся? Зноў хочуць валадарыць на Русі?

У л а д з і м і р. Выходзіць, так.

Д з м і т р ы й. Не ведаеш, з нашым братам, вялікім князем Ягайлам, Тахтамыш не парываў сувязі?

У л а д з і м і р. Перад тым, як ехаць да цябе, брат, я накіраваў да Якава ў Вільню дасведчанага чалавека. Але не стаў чакаць, пакуль той вернецца. Паспяшаўся сюды, у Бранск.

Д з м і т р ы й. Дзякуй, брат.

У л а д з і м і р. Бо як ад Бранска, так і ад Кіева да Вільні далеч, чым ад таго ж Ітыля. Калі не сёння, то заўтра татары ўжо, няйначай, пачнуць шнарыць паўз паўднёва-ўсходнія межы Вялікага Княства. А гэта значыць — падзеі не абмінуць ні Бранска, ні Кіева. І нас з табой першых закране новая вайна паміж татарамі і маскавітамі. Мы з табою, брат, заўсёды ў асаблівым становішчы. Мы — на пагранiччы. Адно і глядзі, каб татары не паблыталі рускія і літоўскія ўдзелы. Таму і палітыка ў нас павінна быць у гэтай справе асаблівая. Прынамсі, не зусім такая, як у Вільні. Дзе цяпер Андрэй?

Д з м і т р ы й. Наколькі мне вядома, заняты Полацкам. Ты ж, нябось, чуў, як абышліся сёлета палачане з нашым братам Скіргайлам?

У л а д з і м і р. Шкада, што нас у нашага бацькі вельмі многа. З аднаго боку добра, калі на свеце ты не адзін, з другога ж… Дзе набрацца было тых удзелаў, каб задаволіць усіх сыноў? Ды і дочкам трэба было выдзеліць пасаг. Таму і ўзнікае варожасць.

Д з м і т р ы й. Але ж мы з табой, брат?..

У л а д з і м і р. Хвала Госпаду, паміж намі сапраўды нічога нялюдскага няма. Мы з табою жывем, як брат з братам. Але ж у мінулую вайну, што ўсчалі паміж сабой маскоўскі князь і ардынскі хан, ты з Андрэем свае палкі вадзілі на дапамогу Дзмітрыю, а я быў з Ягайлам, які меўся прыняць удзел у вайне на баку Мамая.

Д з м і т р ы й. Так, мы з Андрэем тады моцна дапамаглі маскоўскаму князю. Яшчэ не вядома, ці меў бы ён магчымасць без нас называцца данскім героем.

У л а д з і м і р (*смяецца*). Цікава ведаць, ці здолеюць нашы нашчадкі зразумець гэты час? Ягайла ж таксама не без дай прычыны павеў нас на Няпрадву.

Д з м і т р ы й. Ну, там усё было проста. Галоўную ролю ў той бітве адыграла адзіная вера. І маскоўскае войска, і наша, якое прывялі мы з Андрэем, і, нарэшце, Ягайлава, у тым ліку і тваё, амаль цалкам складаліся з праваслаўных.

У л а д з і м і р. Нездарма ж нават Алег Разанскі не адважыўся прыйсці на дапамогу татарам.

Д з м і т р ы й. А як ён цяпер зробіць? Ён жа, здаецца, вярнуўся ў Разань?

У л а д з і м і р. Кажуць, што зноў перакінуўся да татараў, паказвае ім на рэчках пераходы.

Д з м і т р ы й. Але ж ён клятву даваў маскоўскаму князю?

У л а д з і м і р. Яму таксама цяжка жыць паміж Масквой і Ардой. Каб дабрацца да Масквы, татары змушаны па землях ягонага княства спярша прайсці. Дык кажаш, Андрэй у Полацку?

Д з м і т р ы й. Здаецца, так. Я ж не дагаварыў табе, брат. Палачане ганебна абышліся з нашым братам Скіргайлам. Пасадзілі яго задам наперад на кабылу і вывезлі пад рогат такім чынам з горада, прызваўшы на княжанне Андрэя. Вось і шалее цяпер Скіргайла вакол Полацка. Папрасіў дапамогі ў Лівонскага ордэна. Ужо каторы месяц магістр Конрад Радэнштэйн трымае Полацк у аблозе, так што, брат, Андрэй сёння невядома дзе. Прынамсі, ён не дарадчык… А вось што нам рабіць?..

У л а д з і м і р. З гэтым я і прыехаў, Дзмітрый. Нам з табой несці адказнасць за тутэйшыя парубежныя землі Вялікага княства.

Д з м і т р ы й. Адно, што нам невядома, як самі маскавіты ставяцца да Тахтамыша. Ці збіраюцца выступаць супраць новага ардынскага хана. Асабіста нам з табою, брат, не зашкодзіла б ведаць, якія захады ў гэтай сітуацыі будзе рабіць наш брат, вялікі князь Ягайла, — незалежна ад таго, якую б самастойную пазіцыю мы з табой, князь Уладзімір, не займалі, сыходзячы з канкрэтных абставін.

У л а д з і м і р. Слухаю, брат.

Д з м і т р ы й. З усяго вынікае… Словам, трэба дачакацца твайго ганца з Вільні. Ты яму даваў такі наказ — вяртацца ад вялікага князя адразу сюды?

У л а д з і м і р. Так.

Д з м і т р ы й. Значыць, неўзабаве мы будзем мець адказ ад Ягайлы?

У л а д з і м і р. Так, Дзмітрый, так.

Д з м і т р ы й. Тады будзем разважаць далей. За тыя дні, як станем чакаць твайго чалавека з Вільні, мае людзі збяруць дакладныя звесткі і пра дарогі Тахтамыша па Масковіі, і пра настрой князёў, падначаленых данскому герою. Зрэшты, трэба ведаць, што намерваецца рабіць у Маскве Дзмітрый.

У л а д з і м і р. Разумна кажаш, брат. Разумею.

Д з м і т р ы й. А як згодны ты са мной, то… Словам, паколькі рашэнне мы павінны прыняць разам, то ты мусіш згадзіцца і на тое, каб застацца ў мяне на некалькі дзён. Спадзяюся, у Кіеве без цябе пакуль абыдуцца?

У л а д з і м і р. Хто цяпер можа сказаць пэўна? Гэта будзе залежаць ад таго, як стануць разгортвацца падзеі ў Масковіі.

Д з м і т р ы й. Зразумела, брат. Але я меў на ўвазе… Ну, сам ведаеш што?..

У л а д з і м і р (з усмешкай). Не, на стол мой у Кіеве ніхто не замахваецца.

Д з м і т р ы й. Значыць, ты можаш на колькі дзён затрымацца ў Бранску!

У л а д з і м і р. Дзеля справы, брат, дзеля справы.

Д з м і т р ы й. Яно і пагасцяваць у нас не лішне было б табе. Княгіня будзе рада. Цяпер і Осцей у горадзе.

У л а д з і м і р. Малады князь у замку?

Д з м і т р ы й. Так.

У л а д з і м і р. Колькі ж гэта яму гадоў?

Д з м і т р ы й. Дваццаць мінула.

У л а д з і м і р. Малады яшчэ. Хоць што я кажу! Наш бацька нас у дваццаць гадоў лічыў ужо самастойнымі, даваў удзелы.

Д з м і т р ы й. Гэта праўда.

У л а д з і м і р. Але паслухай яшчэ, Дзмітрый. Чаму маўчыць вялікі маскоўскі князь? Ён жа ведае пра нашы добрыя адносіны да яго?

Д з м і т р ы й. Мяне гэта таксама здзіўляе. Вось ты пытаўся пра князя Осцея. А ці не накіраваць нам яго, пакуль што да чаго, у Маскву? Звычайна гэткае ў традыцыях добрых адносінаў паміж суседзямі. Бацька наш, Альгерд, аднойчы рабіў нешта падобнае, каб давесці сваю прыхільнасць. Няхай і маскоўскі князь гэта адчуе ад нас праз Осцея.

У л а д з і м і р. Дзіўлюся твайму розуму, брат.

Сцэна мяняецца.

## КАРЦІНА II

Дзмітрый Данскі з вялікай княгіняй Яўдокіяй вяртаецца ў крамлёўскія палацы з ютрані. Да іх далучаецца Уладзімір Андрэевіч, па прозвішчу Храбры, якое ён атрымаў за заслугі ў бітве з Мамаем на Куліковым полі.

Дзмітрый Данскі. Спадзяюся, брат таксама паспеў памаліцца? Мы з супругай…

Уладзімір Андрэевіч (*як не перапыняе вялікага князя*). Так, адстаяў ранні абедзень, вялікі князь.

Дзмітрый Данскі. Але, бачу, на душы тым не менш спакою няма?

Уладзімір Андрэевіч. Адкуль яму быць, спакою? Я з навіною да цябе, брат.

Дзмітрый Данскі.То кажы.

Уладзімір Андрэевіч. Але ж… (*Быццам вінавата глядзіць на жонку вялікага князя.*)

Дзмітрый Данскі. Гавары!..

Уладзімір Андрэевіч. Цесць твой перакінуўся на бок Тахтамыша!

Дзмітрый Данскі. Аўдоццін бацька? Ніжагародскі князь?

Уладзімір Андрэевіч. Так, ніжагародскі князь Дзмітрый. І сыноў сваіх, Васіля і Сямёна, прымусіў кланяцца ардынскаму хану.

Дзмітрый Данскі. Гэта дакладна?

Уладзімір Андрэевіч. Чуткі правераны.

Дзмітрый Данскі (*да жонкі, вялікай княгіні Яўдокіі*). А ты што скажаш?

Яўдокія. Не можа гэтага быць!

Уладзімір Андрэевіч. Сястра, я праўду кажу. Здрадзіў нам твой бацька, ніжагародскі князь. Цяпер за ім пабягуць на паклон да ардынскага князя іншыя рускія князі.

Яўдокія (*адхрышчваецца*). Цур-цур-цур!..

Дзмітрый Данскі. Значыць, немалая пагроза ад цяперашняга нашэсця?..

Уладзімір Андрэевіч. Тахтамыш для нас страшней чым Мамай. Дарэмна мы думалі, што Кулікоўская перамога назаўсёды абараніла нас ад усходніх варвараў.

Дзмітрый Данскі. Мяркуеш, што следам за цесцем маім, Дзмітрыем Канстанцінавічам, іншыя князі таксама пабягуць да хана?

Уладзімір Андрэевіч. Пасля Мамаевага нашэсця княства наша абяссілена… Думаеш, Алег Разанскі зноў падаўся на бок татараў так сабе?

Дзмітрый Данскі. Цяпер многім заманецца паследаваць ягонаму прыкладу. Няўжо настаюць старыя часы? Няўжо зноў давядзецца адкупляцца ад татараў? Няўжо зноў будуць ездзіць па ярлыкі ў Сарай?

Уладзімір Андрэевіч. Будуць, брат, будуць, калі не пачнуць рыхтавацца да абароны. Трэба зноў кінуць кліч па ўсёй рускай зямлі аб небяспецы. Няхай збіраюцца ў Маскву пешыя і конныя, як і ў часы Мамая.

Дзмітрый Данскі. Трэба б параіцца з маскоўскімі баярамі.

Уладзімір Андрэевіч. Чаму толькі з маскоўскімі?

Дзмітрый Данскі. З астатнімі сустрэцца мы не паспеем. Але што Літва? Што Ягайла?

Уладзімір Андрэевіч. У літоўскім княстве таксама неспакойна. Наш сябра Андрэй Альгердавіч абараняе ад Лівонскага ордэна Полацк.

Дзмітрый Данскі. А што іншыя Альгердавічы? Бранскі ды Кіеўскі? Дзе Баброк?

Уладзімір Андрэевіч.У гэтых адзін з намі клопат. Я так думаю. А вось Ягайла?..

Дзмітрый Данскі. Што нашыя паслы ў Вільні? Маўчаць?

Уладзімір Андрэевіч. Так. Але наўрад ці адважыцца Ягайла другі раз адкрыта далучыцца да ардынцаў. Яму хапіла васьмідзясятага года.

Дзмітрый Данскі. Дзе цяпер Тахтамыш?

Уладзімір Андрэевіч. Пераправіўся з дапамогай Алега Разанскага цераз Аку. Здаецца, наважваецца рушыць на Серпухаў…

Дзмітрый Данскі. Дык гэта ж?..

Уладзімір Андрэевіч. Так, вораг амаль што каля парога Масквы!

Дзмітрый Данскі. А мы?

Уладзімір Андрэевіч. А мы не гатовы выступіць супраць яго.

Дзмітрый Данскі. Праклятыя татары!

Уладзімір Андрэевіч. Я вось аб чым падумаў, брат…

Дзмітрый Данскі. Ну, кажы.

У л а д з і м і р  А н д р э е в і ч. Я знаёмы з настроямі нашых маскавітаў. Шмат у каго — каша ў галаве. А некаторыя гатовы аддацца на літасць татараў. Моцная абарона Масквы цяпер мала верагодная.

Д з м і т р ы й  Д а н с к і і. Што ты прапануеш?

У л а д з і м і р  А н д р э е в і ч. Табе трэба выехаць з Масквы.

Д з м і т р ы й  Д а н с к і. Куды?

У л а д з і м і р  А н д р э е в і ч. Хоць бы і ў Кастраму. Каб туды склікаць войска і адтуль ужо дапамагаць сталіцы. Давядзецца адтуль здымаць асаду Тахтамыша.

Д з м і т р ы й  Д а н с к і.А хто ў Маскве застанецца? Ты?

У л а д з і м і р  А н д р э е в і ч. Не, мне таксама лепей за ўсё быць за яе межамі. Напрыклад, каля Волака. Там я хутчэй збяру войска.

Д з м і т р ы й  Д а н с к і. Тады хто ж у Маскве будзе? Што людзі пра нас скажуць? Маўляў, пакінулі рускую сталіцу на гвалт?

У л а д з і м і р  А н д р э е в і ч. У Маскве застануцца… мітрапаліт Кіпрыян і яна вось… (*Паварочваецца да вялікай княгіні.*)

Д з м і т р ы й  Д а н с к і. У цябе ў галаве замуцілася, брат.

Я ў д о к і я. А дзеці нашы? Што з імі? Дзе яны будуць?

У л а д з і м і р  А н д р э е в і ч. Я таксама пра гэта…

Д з м і т р ы й  Д а н с к і. Значыць, пра дзяцей маіх?.. Словам?.. І што?

У л а д з і м і р  А н д р э е в і ч. Калі не пакінуць іх у Маскве…

Д з м і т р ы й  Д а н с к і. Цяпер разумею. Іначай пра іхняга бацьку падумаюць як пра ўцекача… Што ты скажаш на гэта, княгіня?

Я ў д о к і я. Уладзімір праўду кажа — я павінна заставацца ў Маскве з дзецьмі, калі ўжо так… Калі іначай нельга…

Д з м і т р ы й  Д а н с к і (*камусьці з баяраў*). Сходзі па мітрапаліта. А мы пойдзем у палаты. Трэба склікаць ваяводаў.

У л а д з і м і р  А н д р э е в і ч (*да вялікай княгіні*). Ты, сястра, тут нядоўга адна будзеш. Але ведай — без нас з Дзмітрыем Маскве цяжка стане. А без цябе — яшчэ цяжэй. Ты пры нашай адсутнасці — яе надзея.

Я ў д о к і я. Не гавары так напышліва, брат. Думаеш, я не здагадваюся, што ты ў заложніках пакідаеш мяне і маіх дзяцей?

У л а д з і м і р  А н д р э е в і ч. Табе, сястра, няма чаго баяцца. Ні Дзмітрый, ні я ні на хвіліну не будзем забываць пра цябе і пра тваіх дзяцей. Ды і бацька твой…

Я ў д о к і я. Сам жа кажаш, бацька мой — здраднік.

Уладзімір Андрэевіч. Але ж якраз гэта і можа паспрыяць, калі раптам узнікне небяспека. Каму ж заступіцца за дачку, як не бацьку?

Дзмітрый Данскі. Дарэмна ты яе палохаеш, брат. Яшчэ ж нічога не вырашана. Трэба дачакацца мітрапаліта, а тады станем раіцца з баярамі, ваяводамі.

Уладзімір Андрэевіч. Глядзі, князь, не было б позна.

## КАРЦІНА III

Зноў Бранск. Альгердавічы — Дзмітрый і Уладзімір — нарэшце дачакаліся вершніка з Вільні.

Уладзімір (*да ганца*). Што прывёз, баярын, з Вільні?

Ганец. Можна лічыць, князь, што самога сябе.

Дзмітрый. Кажы выразней, баярын.

Ганец. Вялікага князя пабачыць не давялося.

Уладзімір. Што так?

Ганец. Ягайла слухае салаўёў у пушчы.

Дзмітрый. І што з таго?

Ганец. Мяне ў пушчу не пусцілі.

Дзэмітрый. І чым жа тлумачылі гэта ў Вільні?

Ганец. Казалі — чакаць, каб не перашкаджаць слухаць салаўёў. Але колькі чакаць? Пра гэта вось ніхто і не казаў. Таму я палічыў неабходным рушыць у Бранск.

Уладзімір. Ты правільна зрабіў, баярын. А то мы тут ужо і так цябе зачакаліся. Але скажы, ці паведамлялі пра цябе вялікаму князю?

Ганец. Так, князь. Я прасіў аб гэтым і ажно настойваў.

Дзмітрый. Якаў заўсёды любіў гуляць у палітыку. А тут — нешта зусім незразумелае. Можа, ён таксама не чакаў, што новы ардынскі хан адважыцца на паход у Масковію.

Уладзімір. Здаецца, так. Але ж навошта яму з намі гуляць? Мы не можам сядзець тут ды чакаць. Нам у першую чаргу патрэбна пэўнасць на падзеі. Гэта ў Вільні можна хітрыць ды марудзіць, а тут, на самай далёкай мяжы вялікага княства, неабходна як найхутчэй вызначыць свае адносіны і да Масквы, і да Сарая.

Дзмітрый. Мяркую, брат, што нічога новага Ягайла не стане выдумляць. Ён будзе трымацца дагавору з татарамі і пры Мамаевым пераемніку. Іншая справа, ці рушыць ён свае войскі на дапамогу?

У л а д з і м і р. Цікава, што цяпер думае пра ўсё гэта Баброк на Валыні?

Д з м і т р ы й. Хоць часу і няма ўжо, але ўсё-ткі трэба накіраваць вершнікаў і на Валынь, і ў Смаленск.

Г а н е ц (*да Уладзіміра*). Куды загадаеш ехаць, князь?

У л а д з і м і р (*з усмешкай*). Ты гэтак выяўляеш сваю неадкладную гатоўнасць, баярын, што нават адпачынку не просіш. Хіба штаны не баляць?

Г а н е ц. Хвала Госпаду, гэты раз неяк абышлося без усяго, што ўскладніла б паездку. Так што, я гатовы зноў сядаць у сядло, князь.

У л а д з і м і р. Але пачакай. Ты не ўсё яшчэ расказаў.

Г а н е ц. Пытайся, князь.

У л а д з і м і р. Дапусцім, цябе Ягайла не захацеў бачыць. Больш таго, нават не даў ні пісьмовага, ні вуснага адказу на маё запытанне. Але ж у цябе былі вочы і вушы. Што ты сам чуў і бачыў у Вільні.

Г а н е ц. Вільня без вялікага князя як нежывая. І цяперашні наш тутэйшы клопат там, здаецца, нікога не ўсхваляваў. Прынамсі, войска вакол сталіцы не збіраецца, каб рушыць у паход.

Д з м і т р ы й. А дзе-небудзь у іншым месцы?

Г а н е ц. Не чуў.

Д з м і т р ы й. Добра. Тады скажы, баярын, што гавораць у Вільні пра цяперашнюю полацкую варожасць?

Г а н е ц. Брат ваш, Скіргайла, нядаўна быў у стольным горадзе. Тады ў Вільні знаходзіўся і вялікі князь. Але як яны парашылі абысціся з палачанамі і вашым братам Андрэем, ніхто не ведае. Ва ўсякім выпадку, Скіргайла адкрытай падтрымкі ад Ягайлы не атрымаў супроць Андрэя.

Д з м і т р ы й. Зразумела. Таму Скіргайла звярнуўся да Лівонскага ордэна?

Г а н е ц. Але ваш брат Андрэй у сваю чаргу звярнуўся за дапамогай да Ноўгарада.

У л а д з і м і р. Куды б ты хацеў ехаць?

Г а н е ц. Лепей на Валынь, князь, да Баброка. Бліжэй будзе к дому, да Кіева.

У л а д з і м і р. Добра, ступай.

Д з м і т р ы й. А навошта нам пасылаць вершніка ў Смаленск?

У л а д з і м і р. Да князя Святаслава?

Д з м і т р ы й. Так.

У л а д з і м і р. А як без яго вырашаць такія справы? Дый да князя Андрэя дарога адтуль верная.

Д з м і т р ы й, Ну, то няхай і едзе Осцей у Маскву праз Смаленск. Сам жа кажаш, дарослы ўжо. Дзяржаўныя справы даручаць пара.

Сцэна мяняецца.

## КАРЦІНА IV

На маскоўскіх вуліцах віруе людскі натоўп. Тут, бадай, усе саслоўі. Шмат п'яных. Здаецца, ні на кога няма ўправы. Але сёй-той спрабуе завалодаць увагай натоўпу. Сярод іх і суконшчык А д а м.

А д а м (*ужо надрываючы голас*). Браткі!.. Людзі мае дарагія!.. Трэба ісці мацаваць сцены гарадскія! Зноў татары ідуць на Маскву!..

Г о л а с з н а т о ў п у (*падазронага выгляду*). А што табе, больш за ўсіх трэба? Князь вунь жа збег? І брат яго, храбры, таксама, кудысьці падаўся!

А д а м. Хіба ж без князя нам горада не шкода?

Г о л а с з н а т о ў п у (*нядобра*). Ты спярша скажы, дзе князь Дзмітрый са сваім братам?

А д а м. Яны на сваёй княскай службе! Войска збіраюць па ўдзелах.

Г а л а с ы з н а т о ў п у. То-та што па ўдзелах! А дзе дасюль вочы ды вушы былі? Героі, маць іх так!.. Героі!.. Адзін праляжаў п'яным усю бітву на Куліковым полі, а другі!.. Цяпер вось сварацца паміж сабой. Хто большы герой. І аднаму нечага не хапае, і другому

Б а я р с к і с ы н (*прыходзіць на дапамогу суконшчыку Адаму*). Што ты з ім валынку ўсчаў? Не бачыш, што сяму-таму варта праспацца тут? А браты памірыліся. Яшчэ пасля Благавешчання. Цяпер паміж імі, як і раней, моцная дружба

Г а л а с ы з н а т о ў п у. Ага, як паміж катом і сабакам! Прыкусі язык! Ты князя нам падавай, калі такі разумны!

Б а я р с к і с ы н. Вам мала княгіні? Княгіня ж з дзецьмі засталася ў Маскве! І мітрапаліт нікуды не рушыў.

Г а л а с ы з н а т о ў п у. Баба меч у руку не возьме! Баба на адно толькі і прыгожа! Га-га-га!

А д а м. Ну вось што, маскавіты! Пара канчаць гэты разгул! Недзе ўжо ў Серпухаве татары! Хіба вам не шкада жытла свайго ды дзяцей? А жанок?

Г о л а с  з  н а т о ў п у. А хіба князю сваіх не шкада было, калі з Масквы ўцякаў?..

А д а м. Дурная твая галава! Ніяк ты не возьмеш у яе, што і Дзмітрый Іванавіч і Уладзімір Андрэевіч паехалі войска збіраць.

Б а я р с к і  с ы н (*набліжаецца да Адама*). Хто будзеш?

А д а м. Суконшчык.

Б а я р с к і  с ы н. Хадзем да ваяводы. Там цяпер такія людзі, як ты, вось як патрэбны! (*Паказвае рукой па горле.*)

Абодва выходзяць з натоўпу.

КАРЦІНА V

Начлег дзесьці ў вярхоўі Віхры. Тут — малады літоўскі князь О с ц е й, знаёмы кіеўскі  б а я р ы н, нейкія людзі, няйначай, з княскай світы. Вогнішча то ўзлятае, то зноў спадае.

Б а я р ы н. Во, спадзяваўся трапіць дамоў па дарозе на Валынь, а тут загад другі выйшаў — суправаджаць цябе ў Маскву, княжыч.

О с ц е й. Ты раней тут бываў?

Б а я р ы н. Некалі ехаў па гэтай дарозе. Мы тады з князем сваім таксама ў Смаленск з маскоўскай дарогі зварочвалі. Глухія мясціны, кажу табе, княжыч. Гэта цяпер Амсціслаў гэты нашаму княству ўжо колькі гадоў зноў належыць, а так пад Масквой часцей бывае.

О с ц е й. Дык кажаш, у Маскве ўжо здаралася бываць?

Б а я р ы н. І са сваім князем, і з дзедам тваім, Альгердам. Рашучы быў чалавек, твой дзед Альгерд, а наш вялікі князь. За ім згледзець іншы раз цяжка было. Але калі ўжо слова казаў, то па ім і рабіў. Гэта ж як было апошні раз з Масквой?

Да вогнішча падышоў  д р у ж ы н н і к. Размова паміж маладым князем і кіеўскім баярынам перапынілася.

(*Да дружынніка.*) Ты не дужа клапаціся пакуль. Мядзведзі цяпер, як і добрыя людзі, спяць. Гэта калі пад ранне.

Д р у ж ы н н і к (*перапытвае*). Га?

Б а я р ы н. Кладзіся спаць. Няма чаго лішне клапаціцца. Кажу, мядзведзі таксама цяпер недзе спяць.

Д р у ж ы н н і к. Га, так, так! Гэта над рэчкай пастаяў.

Б а я р ы н. Што над ёй стаяць. Цячэ, і ўсё. Кладзіся спаць. (*Да князя Осцея.*) Дык я не дагаварыў, княжыч. Вялікі князь тады

быў, здаецца, не дужа зварушлівы. А тут з Масквы пахвальба прыйшла. Нібыта маскоўскі князь стаў пагражаць Вільні, што пойдзе паходам, каб узяць пад сябе Віцебск, Полацк і Кіеў. Прыслаў дзеду твайму крэмень, трут і шаблю: моў, Масква мае намер у светлую нядзелю пахрыстосавацца з вялікім князем літоўскім у Вільні агнём і жалезам Альгерд не стаў чакаць Светлай нядзелі і тут жа выступіў у сярэдзіне Вялікага посту, узяўшы з сабой маскоўскіх паслоў; затым адпусціў іх, сказаў: буду ў Маскве з чырвоным яечкам хутчэй, чым гэтая паходня згарыць; так што скажыце вашаму князю ў Маскве — яму не спатрэбіцца ў Літву ісці. Сказаў гэтак і зрабіў — у Велікодны дзень маскавіты ўжо ўбачылі яго на Паклоннай гары. Ёсць такая гара ў Маскве. Яе не абмінуць, як са Смаленска ісці ў рускую сталіцу. Я пакажу табе.

О с ц е й. І што далей?

Б а я р ы н. А тое, што маскоўскаму князю нічога не засталося, як прасіць міру.

О с ц е й. Ну так, усе войны, усе паходы канчаюцца мірам. А скажы мне, баярын, чаму паміж праваслаўнымі хрысціянамі гэткая зацятасць?

Б а я р ы н. Дзе? У нас?

О с ц е й. Не ў нашых землях, здаецца, хвала Богу. А вось Вільня ніяк не дамовіцца з Масквой, дарма што вечны мір не раз абедзве дзяржавы заяўлялі?

Б а я р ы н. О, княжыч, гэта аднаму Усявышняму вядома. Не будзем умешвацца ў яго волю і ўладу. Прынамсі, сёння. Пара і нам спаць, а то хутка світанак. Цёмныя ночы заўсёды канчаюцца раптоўна. А паразважаць будзе часу. Я і сам часта задаю сабе гэтае пытанне.

Баярын кідае на вогнішча вялікае палена, тады нацягвае на сябе радно бо ўжо недзе святлее жнівеньская ноч.

## КАРЦІНА VI

На другі дзень, пад вечар, узмыленыя коні Осцея і яго спадарожніка кіеўскага баярына нарэшце апынуліся ў двары смаленскага князя. С в я т а с л а ў І в а н а в і ч сам сустрэў ганцоў. Стрымаў за цуглі каня маладога князя, пачакаў, пакуль той выпрастае ногі ды саскочыць з сядла.

С в я т а с л а ў (*паказваючы на кіеўскага баярына*). Твой чалавек?

О с ц е й. Не. Гэта кіеўскі баярын. Уладзімір цяпер у Бранску. Дык баярын суправаджае мяне.

С в я т а с л а ў (*з усмешкай*). Не за свата?

Б а я р ы н. У нас справа ў Маскве.

С в я т а с л а ў. Што ж, справа дык справа.

О с ц е й. Едзем да князя Дзмітрыя ў Маскву.

С в я т а с л а ў. Вялікі князь недзе пакінуў Маскву.

О с ц е й. Як гэта пакінуў? Кажуць, манголы зноў наступаюць.

С в я т а с л а ў. Твая праўда, княжыч. Але праўда і тое, што маскоўскага князя няма ў стольным горадзе. Учора тут, у Смаленску,, быў твой дзядзька Андрэй з Полацка, якраз ён і казаў. Дарэмна вы не пасяшаліся, а то б заспелі. Ну ды што цяпер! Хадзем, княжыч, у пакой. Гэй, там, прымайце маладога князя! А можа, спярша ў лазню?

Б а я р ы н. Калі можна, князь, то не адмоўлюся.

С в я т а с л а ў. Вось і добра, баярын. А мы тут пакуль паспеем перакінуцца з княжычам словам.

Кіеўскі баярын адыходзіць следам за кіеўскім служкам.

(*Да Осцея.*) А я ўсе чакаю, што ты вось-вось пастукаешся ў вароты, каб узяць з майго двара нявесту. Добра, не саромся. На ўсё свой час. Цяпер і праўда не да вяселля. Што ж у цябе за справа ў Маскве?

О с ц е й. Быць пры вялікім князю ў гэты цяжкі час. Няхай Дзмітрый Іванавіч ведае, што і Бранск, і Кіеў на яго бок стануць у цяперашняй барацьбе з татарамі. Хацелася б ведаць, князь Святаслаў, чыйго боку трымаешся ты?

С в я т а с л а ў. Мы з Андрэем, тваім дзядзькам, таксама выступім на баку маскоўскага князя, дарма што Андрэй моцна заняты ў Полацку. Полацк усе яшчэ ў аблозе. Але лівонскаму магістру зламаць супраціўленне палачанаў не ўдасца. Так што, калі не сёння, то заўтра аблога будзе знята. Мяне тым часам не гэта непакоіць. Дзе прападае маскоўскі князь? Чаму не гучыць па ўсёй Русі ягоны голас? Бо ўжо зусім недалёка да ўсеагульнай здрады. А што калі па прыкладу ніжагародскага князя ды іншыя рускія князі пабягуць да Тахтамыша? І брат ягоны, Уладзімір Андрэевіч, маўчыць. Няўжо паміж імі ўсё яшчэ не сціхла сварка?

О с ц е й. Я не надта шмат ведаю пра гэта.

С в я т а с л а ў. Не могуць падзяліць славы!.. Дарэчы, той славы, якую твае дзядзькі таксама заваявалі. Масква заўсёды ў гэтым сэнсе справядлівасці не ведала. Усе на сваю амбіцыю

чапляла, як на той хвост, дарма што кожны раз і саюзнікаў мела, і дарадцаў. Ды годзе, хопіць пра гэта. Раскажы, што ў Бранску?

О с ц е й. Цяпер там дзядзька Уладзімір знаходзіцца.

С в я т а с л а ў. Ну, пра гэта ты ўжо, здаецца, казаў.

Смаленскі князь і Осцей паціху накіроўваюцца да чырвонага ганку, галасы іх цішэюць.

## КАРЦІНА VII

Крамлёўскія палаты. У вялікай княгіні Я ў д о к і і м і т р а п а л і т К і п р ы я н.

К і п р ы я н. Кепска, княгіня, зусім кепска. Муж твой, вялікі князь Дзмітрый, дарэмна паспадзяваўся на сваіх ваяводаў. У Маскве ніхто нікога не хоча слухаць. Няма моцнай рукі. Таму і да абароны горад не рыхтуецца. Болей і нам тут не варта заставацца. Бяры сваіх дзяцей ды едзь да мужа. Кажуць, ён недзе…

Я ў д о к і я. Так я, ведаю. Учора была граматка. Ён у Кастраме.

К і п р ы я н. То едзь, княгіня, у Кастраму. Я блаславаўляю. Мне таксама няма чаго тут затрымлівацца. Яшчэ дзень-другі пачакаю, а тады з Богам падамся ў Цвер.

Я ў д о к і я. Хто ж застанецца ў Маскве?

К і п р ы я н. Масква застаецца на Промысле Божым. Я сёння ехаў сюды, у Крэмль, каля заходняй вежы, то людзі бягуць з горада, са скарбам.

Я ў д о к і я. А тут мы яшчэ прыклад пакажам. Не, не, без мужняга дазволу няма як самаўпраўствам займацца.

К і п р ы я н. Я ж блаславаўляю! Хіба гэтага мала?

Я ў д о к і я. Не ведаю, мала ці багата, але аслухацца мужа?.. Дзе ж гэта відана?

К і п р ы я н. Але заўтра будзе позна! Тахтамыш стане на варотах горада!

Я ў д о к і я. Ты, уладыка, бачу, не верыш, што абаронцы знойдуцца?

К і п р ы я н. Даруй мне, княгіня, але Маскву ўжо хоць цяпер бяры голай рукой. Няма каму ўзначаліць абарону яе.

Я ў д о к і я. Тады трэба паклікаць каго збоку.

К і п р ы я н. Усе бягуць да Тахтамыша. А пачалося з твайго бацькі і тваіх братоў.

Я ў д о к і я. Я не абараняю сваіх. Але ж і ты, уладыка!.. Гаворыш, як чужы!..

К і п р ы я н. Так. Я ў вас чужы. Але мы адной веры. І вашыя татары — таксама мае ворагі. Аднак заставацца ў Маскве не буду. Ад нехрысцяў усяго можна дачакацца.

Я ў д о к і я. Рабі, як знаеш, уладыка. А мне дазволь падумаць.

## КАРЦІНА VIII

Зноў маскоўская вуліца.

Г а л а с ы з н а т о ў п у. Здрада, маскавіты, здрада! Мітрапаліт уцякае з Масквы! Пацукі пакідаюць палаючыя амбары! Трэба злавіць Кіпрыяна! Няхай з намі тут прападае! Так ты і дагнаў яго! Можа, даўно ўжо недзе за гарадской заставай! Дагнаць, не пускаць!

Натоўп кідаецца ўздагон па вуліцы.

## КАРЦІНА IX

Князь О с ц е й і кіеўскі б а я р ы н, трымаючы ў руках коней за цуглі, са скрухай глядзяць услед маскавітам.

Б а я р ы н. Час ад часу не лепей.

О с ц е й. Ды ўжо ж, баярын. Такога пабачыць у Маскве не спадзяваўся.

Б а я р ы н. Дарэмна ехалі, князь. А ўсё таму, што не паслухаўся мяне. Ды і Смаленскі князь рацыю меў. Трэба было шукаць Дзмітрыя недзе ў іншым месцы. А цяпер што?

О с ц е й. Выконваць волю бранскага і кіеўскага князёў, маё месца побач з маскоўскай княгіняй.

Б а я р ы н. Думаеш, яна яшчэ тут?

О с ц е й. А зараз мы спытаем. (*Бачыць чалавека — гэта суконшчык Адам.*) Гэй, падкажы, добры чалавек…

А д а м. Адкуль ты ўзяў, што добры? Цяпер добрага чалавека і са свечкай цяжка адшукаць. Але што табе?

Б а я р ы н. Пра што тут людзі гаманілі? Куды гэта яны?

А д а м. Мітрапаліта пабеглі лавіць. Кажуць, Маскву пакідае.

Б а я р ы н. А вялікая княгіня? Дзе яна?

А д а м. Здаецца, яшчэ ў Маскве. Але таксама нібыта наважылася ўцякаць.

Б а я р ы н. А вы? Што вы?

А д а м. Як гэта — што мы?

Б а я р ы н. Ну, маскоўскія людзі?

А д а м. Месію чакаем. Свой князь збег кудысьці, дык чужога чакаем.

Б а я р ы н (*глядзіць на Осцея*). А яна вось і ёсць, тая месія.

А д а м. Няўжо князь?

Б а я р ы н. Самы сапраўдны князь.

А д а м. З якіх жа?

Б а я р ы н. З літоўскіх.

А д а м. Не, літоўскаму не паверацьу нас. Але чым д’ябал не жартуе? Я таксама з Літвы, аднак жа прыжыўся тут. Наведайцеся да вялікай княгіні. Без яе дазволу народ наўрад ці стане выбіраць новага ваяводу. (*Глядзіць на Осцея.*) Нешта ж ты дужа малады, хлопча. Меч хоць моцна трымаеш? Значыць, з літоўцаў? Наш?

Осцей адно стаіць ды ўсё роўна як ніякавата ўсміхаецца. Сцэна мяняецца.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### КАРЦІНА X

Пакой вялікай княгіні ў Маскве. Тут з ёй нейкі р о д з і ч. Але не бацька, не брат Сямён, не другі брат Васіль. Проста родзіч, які, няйначай, з’явіўся ў Маскву з місіяй.

К н я г і н я. Бачыш, мне б спярша папытацца ў цябе пра бацьку, братоў, але не магу. Душа халоднаю зрабілася да іх. Гэта ж дадумацца — здрадзіць сваёй зямлі!

Р о д з і ч. Не здраджвалі яны, княгіня, сваёй зямлі. Не адракліся, наадварот, ратуюць яе такім чынам.

К н я г і н я. А вялікаму князю ў веры змяніць? Гэта вам не здрада?

Р о д з і ч. Апошні час так павялося на рускай зямлі, што князі, каб захаваць свае ўдзелы, перадаваліся мацнейшым уладарам. Прыйшоў гэты Тахтамыш, вось і пабеглі зноў амаль усе, дарма што пасля Мамая ўжо здавалася — прыгнёт татарскі скончыўся і ардынскія ярлыкі непатрэбныя сталі. А тут…

К н я г і н я. Што тут?

Р о д з і ч. Часы памяняліся. Ардынцы зноў у сілу ўзяліся.

К н я г і н я. Гэта не яны ў сілу ўзяліся. Гэта мы абяссілелі. Колькі народу паклалі толькі на Доне. А да гэтага?

Р о д з і ч (*уздыхае*). Так, матухна, ва ўсе часы нам нялёгка было і жыць, і служыць. Але не думай пра бацькаву здраду. Некалі сама зразумееш.

К н я г і н я. Нічога я не зразумею, Восіп, акрамя таго, што зямлю сваю трэба бараніць, які б ні быў моцны вораг. Таму я ўсёй душой на баку свайго мужа Дзмітрыя, які недзе збірае войска. А з Масквы я нікуды не паеду. Так і скажы бацьку. Няхай на ім праклён будзе.

Р о д з і ч. Ты дужа строгая да яго, княгіня. Адпусціся душой. І ў Маскве заставацца нельга. Мітрапаліт жа паехаў у Цвер.

К н я г і н я. Мітрапаліт у нас чужы чалавек. Збоку. І зусім не рускі. Я казала яму ў вочы. А мне ехаць адсюль не выпадае. Я мужаву волю берагу.

Р о д з і ч. Глядзі, дачакаешся бяды. І за дзяцей страшна, і сама з такім вось характарам лішні клопат будзеш мець. І не толькі ад татараў, але і ад сваіх. А што татары, возьмуць Маскву, ніякага сумніву няма. Гэта справа толькі часу. Я трохі пахадзіў па гарадскіх вуліцах — ні парадку, ні жадання абараняцца. А ваяводы? Якія гэта ваяводы? Ды ў іх ужо цяпер паджылкі дрыжаць, а як крывы меч татарскі ўбачаць?

К н я г і н я. Вось бы і застаўся, Восіп, памагаць нам тут. Некалі ж быў неблагі ваяр.

Р о д з і ч. Усе мы, матухна, некалі былі скакунамі. То я пайду.

К н я г і н я. Так і перадай майму бацьку — я здраднікам зямлі рускай не помач. А ўжо што будзе, тое і будзе!..

Родзіч выходзіць. Вялікая княгіня яшчэ стаіць у задуменні колькі часу, тады кліча дзяцей.

Толькі што быў ваш дзядзька Восіп. Казаў, што дзед нас чакае ў Ніжнім.

Дзеці маўчаць.

Я вас не прымушаю дарэмна. Але ж ўсё-ткі не магу не сказаць. У дзеда мы цалейшымі будзем.

С т а р э й ш ы  с ы н (*выходзіць наперад*). Мы будзем трымацца бацькавай волі!

К н я г і н я. Ну што ж, вы самі свой лёс выбіраеце, дзеці.

Сцэна мяняецца.

## КАРЦІНА XI

Княгіня Я ў д о к і я яшчэ ў сваім пакоі. У суправаджэнні ахоўніка заходзіць суконшчык А д а м.

К н я г і н я (*да яго*). Ты нават у такі час, як цяпер, не кідаеш свайго рамяства, суконшчык? Я ўжо і не ведаю, як мне быць? Здаецца, не да новых убораў?

А д а м (*нізка кланяецца*). У мяне, княгіня, да цябе гэты раз не суконная справа. Сукно пачакае, пакуль вялікі князь вернецца. А вось…

К н я г і н я. Ну, ну, гавары, суконшчык. З чым ты прыйшоў?

А д а м. На тваім ганку цяпер чакае малады літоўскі князь, а з ім — кіеўскі баярын. Хочуць да цябе, княгіня, раз Дзмітрый Іванавіч пакуль адсутнічае.

К н я г і н я. Хто такі? Як зваць?

А д а м. То ўжо твая справа, княгіня, распытваць, а я просьбу ўважыў. Паабяцаў прывесці да цябе, паколькі раней не адзін раз бываў тут са сваім таварам.

К н я г і н я (*крычыць праз дзверы*). Гэй, там! Паклічце да мяне літоўскага князя!

Заходзіць О с ц е й. За ім — кіеўскі б а я р ы н.

А д а м. Ну, то я пайду.

К н я г і н я. А й ты пастой, раз прывёў. Я цяпер княгіня безабаронная. Так што…

О с ц е й. Вялікая княгіня!..

К н я г і н я. Ты лепей спярша скажы пра сябе — хто, адкуль, чаму ў такі страшны час апынуўся ў Маскве?

О с ц е й. Я — унук Альгерда Літоўскага. Цяпер еду з Бранска, з пасольствам да вялікага князя маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча. Маю сказаць яму ад князёў Кіеўскага, Бранскага і Смаленскага, што яны на яго баку супроць Тахтамыша.

К н я г і н я. А Полацкі князь, Андрэй?

О с ц е й. Полацк цяпер у аблозе. Але неўзабаве яна скончыцца. І тады дзядзька мой Андрэй Альгердавіч далучыцца.

К н я г і н я. Значыць, нашы ранейшыя сябры за нас, рускіх?

О с це й. Так.

К н я г і н я. Хвала Госпаду! Здаецца, першая добрая вестка!

О с ц е й. Але я не знайшоў у Кастраме Дзмітрыя Іванавіча. Таму прыехаў у Маскву. Сказалі, што ты, княгіня, тут. Так што,

прымай на службу, пакуль што да чаго. А са мной вось (*паказвае*) кіеўскі баярын, дружыннік князя Уладзіміра.

К н я г і н я. Добры воін?

О с це й. Добры і надзейны.

К н я г і н я (*уздыхае*). Добрых вояў у нас цяпер на Маскве не хапае. А можа, гэта Божы Промысел, што вы апынуліся ў Маскве? Дарэчы, як яна вам?

О с це й. Парадку няма. А так…

К н я г і н я. Скажы лепей, князь, моцнай рукі няма. А парадак навесці можна. Татараў на дарозе бачылі?

Б а я р ы н. Ды ўжо вакол Масквы шнараць малымі раз’ездамі.

К н я г і н я. Вось што, хлопцы-малойцы, я вам адвяду паблізу пакой, каб адпачылі з дарогі, а ўвечары прашу на раду да нашых маскоўскіх ваяводаў, пакуль тыя яшчэ не разбегліся канчаткова. І ты, суконшчык, прыходзь. Чула я пра твае адданыя прамовы на вуліцах. Цяпер кожнае добрае слова, як лыка ў страку. Ну, то да вечара, князь…

О с ц е й. Осцей…

К н я г і н я. Так, Осцей. Але чыйго ж ты бацькі будзеш дзіця?

О с ц е й. Усе мае дзядзькі, Альгердавічы, лічаць мяне за свайго сына.

К н я г і н я. Няйначай, шчаслівы расцеш? Дзядзькоў у цябе багата. А ўдзел маеш?

О с ц е й. Чаго няма — таго няма.

К н я г і н я. Вядома, сірата. Затое героем ніхто не забароніць стаць.

## КАРЦІНА XII

Недзе на дарозе з Серпухава на Маскву галоўны лагер Тахтамыша. У белай вежы разам з ім ардынскія мурзы.

А д з і н з т а т а р а ў (*укленчвае перад ханам*). О, вялікі і мудры! Масква чакае цябе! Учора былі адчынены ўсе вароты! Багатыя людзі бягуць з рускай сталіцы. Мы зноў уначы завезлі туды некалькі бочак п’янага зелля. Недзе з раніцы сёння на вуліцах Масквы зноў суцэльнае п’янства. Любяць рускія людзі пакрычаць у п’яным выглядзе.

Т а х т а м ы ш. Значыць, вароты ў Маскву адчынены?

А д з і н з м у р з а ў. Так, вялікі хан. Пара займаць Маскву.

Т а х т а м ы ш. Мне не сама Масква патрэбна. Мне патрэбны ў ёй жах, які там распаўсюджваецца. Помніце, зноў авалодаць

Руссю, каб яна надоўга падпарадкавалася нам, можна толькі праз жах. Рускія павінны заўсёды баяцца нас, вялікіх маголаў. Так што, дадзім для пашырэння жаху ў Маскве яшчэ дзень-два, а тады ўжо рушым туды свае ўлусы. Што яшчэ новае ў рускай сталіцы?

М у р з а. Прыехаў ад парубежных Альгердавічаў малады князь па імені Осцей.

Т а х т а м ы ш. Хто ж яго прыслаў?

М у р з а. Князі Бранскі і Кіеўскі. Ёсць звесткі, што з імі ў змове і князь смаленскі Святаслаў.

Т а х т а м ы ш. Ад вялікага князя Ягайлы што-небудзь было?

М у р з а. Ягайла, як і заўсёды, хітруе.

Т а х т а м ы ш. Нічога, гэты раз мы і хітрасць ягоную скарыстаем. Я — не Мамай. Гэта той меў дурноту спадзявацца на літоўцаў на Куліковым полі. Літоўцы, вядома, прыйшлі, але не да яго, а да маскоўскага Дзмітрыя. Не, мы не станем гэты раз чакаць літоўцаў. Але трэба апярэдзіць і бранцаў, і смаленцаў, і кіяўлян. Ды і палачанаў. Дык што гэты малады літоўскі князь у Маскве робіць? Як яго? Осцей?

М у р з а. Нашы людзі сочаць за ім. Быў у вялікай княгіні.

Т а х т а м ы ш. Яна ўсё яшчэ ў Маскве?

М у р з а. Так.

Т а х т а м ы ш. Цікава.

М у р з а. Усё спрабуе арганізаваць абарону сталіцы.

Т а х т а м ы ш. У бабы валасы доўгія, а розум кароткі. Так было, так і будзе. Дык што малады літоўскі князь?

М у р з а. Па ўсім відаць, што маскоўская княгіня яго прыручае. Ці не хоча вылучыць сярод ваяводаў, якіх мы моцна-ткі палохаем? Цяпер ужо сярод іх, здаецца, ніводны не рвецца ў галоўныя. А гэты літвін можа спакусіцца на лаўры героя.

Т а х т а м ы ш. Таксама дурны, бо малады. Нічога, будзе добрым для мяне амаматам. Дружына ў яго вялікая?

М у р з а. З ім у Маскву прыехала дзесяць вояў.

Т а х т а м ы ш. Дзесяць — не цьма. Клічце рускіх сюды.

Заходзяць рускія князі, ваяводы, баярскія дзеці. Кланяюцца.

Праз два дні рушаем на Маскву!

Г а л а с ы. Пара, даўно пара, вялікі хан.

КАРЦІНА XIII

Масква. Княгіня Я ў д о к і я, О с ц е й, кіеўскі б а я р ы н, суконшчык А д а м, в а я в о д ы, б а я р ы.

К н я г і н я. Князь Осцей прыехаў да нас ад удзельных парубежных літоўскіх князёў. Прывёз іхнюю прыязнасць да бяды і падтрымку. Князі бранскі, кіеўскі хоць сёння гатовы выступіць на дапамогу.

А д з і н з п р ы с у т н ы х. Што нам літоўскі князь? Ты лепей скажы, княгіня, дзе твой муж, а наш вялікі князь Дзмітрый Іванавіч?

К н я г і н я. Усё яшчэ недзе ў Кастраме.

А д з і н з п р ы с у т н ы х. От бачыш, вялікі князь у Кастраме, а ты нам яшчэ пра нейкага князя!

К н я г і н я (*нібыта не пачула*). Я вось пра што падумала, ваяводы і баяры. Ці не прасіць нам маладога літоўскага князя таксама ўзяць на сябе клопат па абароне горада.

А д з і н з п р ы с у т н ы х. Няхай скажа.

К н я г і н я. Гавары, князь.

О с ц е й. Я аб’ехаў са сваімі дружыннікамі Маскву. Вядома, ні пра якую абарону ў горадзе ніхто не дбае. Паўсюдна паміж маскавітаў непадпарадкаванне, гульба.

А д з і н з п р ы с у т н ы х. Пра гэта ўсім вядома. Гавары: што думаеш?

О с це й. Трэба навесці ў сталіцы парадак. Усіх вольных неабходна накіраваць на ўмацаванне гарадскіх сценаў. Тым часам служылыя павінны стаць пад старыя і новыя сцягі, стварыць палкі.

А д з і н з п р ы с у т н ы х. А што рабіць з тымі, што бягуць з горада?

О с ц е й. Няхай бягуць. Але калі самі не хочуць абараняць сталіцу, няхай аддаюць на абарону сваю маёмасць.

А д з і н з п р ы с у т н ы х. А калі хто не стане аддаваць?

О с ц ей. У таго — гвалтам забіраць. Сёння ж неабходна таксама стварыць штаб абароны з усіх саслоўяў. Таму няхай звоніць апошні раз вечавы звон. Такія пытанні з народам трэба вырашаць. Пасля ўжо настане час адзінаначалля.

А д з і н з п р ы с у т н ы х. А што скажа на гэта вялікі князь, як вернецца?

Осцей не рашаецца гаварыць. Тады нібыта ачуньвае вялікая княгіня.

К н я г і н я. Дзмітрый Іванавіч, ваш князь, а мой супруг, усё ўхваліць, што пойдзе на карысць барацьбы з іншавернікамі. Мая ў тым парука. Але скажыце, што вы думаеце пра тое, што гаварыў тут малады князь.

А д з і н з п р ы с у т н ы х. Сказаць — адно, зрабіць — усім другое. Калі гэтак талкова думае, то няхай і робіць. Усё роўна на падобнае няма каму рашыцца. Але, княгіня, будзеш тады адказваць пры народзе за яго, раз прапанавана.

К н я г і н я. Гатова ручацца.

А д з і н з п р ы с у т н ы х. Дык што, даверымся чужаку? Ганьба, якая ганьба! Быццам сваіх, рускіх князёў, не было?

К н я г і н я. Пара канчаць звадкі! Яны на Маскве дужа зацягнуліся перад тварам небяспекі. Да раніцы трэба заняць конным і пешым усе валы ўздоўж горада, загарадзіць вароты, рагаткі паставіць. З Богам!

Вялікая княгіня першая выходзіць з палаты. За ёю — натоўп.

Г а л а с ы. І адкуль у нашай княгіні ўзялася такая спрытнасць? Гаворыць, што той герой яе альбо ваявода. Дзе цяпер герой? Шукай ветру ў полі. Як лічыш, паспеюць нашы маскавіты адумацца, пакуль татары не захапілі горад?

## КАРЦІНА XIV

Між тым, ардынскае войска ўжо на падыходзе да Масквы было. Т а х т а м ы ш а неслі пад каляровым балдахінам. Адзін з ягоных м у р з а ў падскочыў да хана, кінуўся на калені.

М у р з а. О, вялікі і мудры!

Т а х т а м ы ш (*прыўзняў каляровую бачыну*). Што там яшчэ?

М у р з а. Маскавіты за гэтую ноч пазасланялі свае вароты. Рагаткі скрозь стаяць. Воіны з пікамі ды сякерамі.

Т а х т а м ы ш. А вежы? Вежы таксама ўмацаваны?

М у р з а. На вежах таксама стаяць узброеныя маскавіты.

Т а х т а м ы ш. Калі гэта яны паспелі зрабіць? І хто?

М у р з а. Кажуць, у рускай сталіцы з’явіўся нейкі літоўскі князь.

Т а х т а м ы ш. Чаму твае людзі не перахапілі яго па дарозе?

М у р з а (*нікне галавой*). Вінават, о вялікі!..

Т а х т а м ы ш. А ведаеш, што мы робім з вінаватымі? (*Да стражы*.) Гэй, забярыце яго адсюль!

Стража накідваецца на мурзу, валачэ прэч. Мурза ўпіраецца, штосьці крычыць.

(*Услед.*) Шайтан! (*Тады падзывае да сябе другога военачальніка, доўга маўчыць, ажно пакуль не спахопліваецца, што войска таксама спынілася.*) Затрымлівацца больш не станем. Не можа таго быць, каб маскавіты сапраўды паспелі ўмацаваць горад. За адну ноч ды за адзін дзень? Не, такога не бывае. Як думаеш, мурза?

В о е н а ч а л ь н і к. Мурза Кіркіль дарэмна раіў, хан, пачакаць з подступам да Масквы. Плод не заўсёды падае з дрэва, нават калі і саспее. Дзеля гэтага трэба калаціць грушы.

Т а х т а м ы ш. Заменіш мурзу Кірківля. Я павінен кожную хвіліну ведаць, што робіцца ў Маскве. А таго літоўскага прыблуду, які прыйшоў на службу да маскавітаў, неабходна злавіць і прывезці да мяне ў мяшку. Мы павінны адвучыць бадзягаўліітоўцаў паказваць свой дзікі характар ды ўмешвацца ў нашы тутэйшыя справы. Нябось, дзядзьку свайго, вялікага князя Ягайлу, не спытаў!

В о е н а ч а л ь н і к. Слухаю, о вялікі і магутны!

Т а х т а м ы ш. А мурзу Кірківля закідайце пры гэтай дарозе камянямі. Мне не патрэбны нядбайныя слугі. Але каб кожны воін кінуў у яго камень.

## КАРЦІНА XV

Масква. Млын на Няглінцы. Тут князь О с ц е й. З ім суконшчык А д а м. Доўгі ланцуг з зернем. Сяляне навакольных вёсак прывезлі па просьбе гараджан маладое жыта на памол. З'яўляецца кіеўскі б а я р ы н.

Б а я р ы н (*да князя Осцея*). Жадаючых пакінуць Маскву, князь, не ўбавілася. Расстаюцца з маёмасцю, але рвуцца вонкі.

О с ц е й. Бяды з гэтага вялікай не будзе, калі мы адпусцім людзей з горада Колькі народу звялі ў палкі сёння?

Б а я р ы н. Усіх, хто пажадаў. І яшчэ ўсе ідуць.

О с ц е й. Бачыш, людзей у Маскве хапае для абароны яе. А ў палкоўнікі трэба смялей выбіраць дзяцей баярскіх. Цяпер трэба баяцца доўгай асады, калі наступае голад. Таму няхай маскавіты пакідаюць горад. Галоўнае, каб маёмасць па сваёй ахвоце аддавалі на агульную справу.

Б а я р ы н. З гэтым на выездах, здаецца, строга.

О с ц е й. Яшчэ стражэй, баярын, яшчэ стражэй! Што відаць з маскоўскіх сценаў?

Б а я р ы н. Кругом дымы стаяць.

О с ц е й. Значыць, Тахтамыш блізка. Трэба і нам падавацца да войска. А тут, на млыне, няхай пакуль пабудзе Адам. Хутка яму замену прышлём. Ірвецца таксама ў бойку.

Б а я р ы н (*глядзіць на суконшчыка*). А што, князь, чым не воін?

О с ц е й. Галоўнае, што таксама наш, рускі літвін.

Б а я р ы н. Ды ўжо ж…

О с ц е й (*да суконшчыка Адама*). Мы адсюль з баярынам заглянем на бойні. А ты глядзі, каб муку акуратна на амбары вазілі? Запасы спатрэбяцца. Тахтамыш не на адзін дзень да Масквы падступаецца.

А д а м. Добра, князь. Але доўга не трымай мяне тут. Мне таксама хочацца жывот свой пакласці за веру й айчыну.

Осцей ад'язджае. Да суконшчыка Адама падыходзіць чалавек, на ім мяшок ад пылу.

Ч а л а в е к. Хто гэта быў?

А д а м. А табе ўсе трэба ведаць? Гаспадар мой.

Ч а л а в е к. Як таму, што бачыў недзе яго. Ці не літоўскі князь, што гэтак неспадзявана стаў у нас за галоўнага ваяводу?

А д а м. А хоць бы і ён.

Ч а л а в е к. Ты б параіў князю, каб пасцярогся. Шнырылі тут сёння нейкія сябры млынаровы. Ён жа таксама татарын, млынар наш. Дык чуў, як адзін казаў яму, моў, загадана літоўскага князя ўкрасці. Балазе без вялікай дружыны паўсюль ездзіць. Так што, падумай.

## КАРЦІНА XVI

Палаты вялікай княгіні. У яе — князь О с ц е й.

К н я г і н я. Дабрынёй і разважлівасцю ты, князь, нечакана зачараваў нашых гараджан. А можа, і праўда чараўнік?

О с ц е й. Усяму прычыны, княгіня, твой давер да мяне. Да таго ж, вашы маскавіты дужа зняверану ў сабе былі. Таму вось і паверылі ў цуд.

К н я г і н я. Хіба што!.. Кажуць, паблізу Масквы ўжо бачылі маголаў.

О с ц е й. Так, княгіня. На серпухоўскай дарозе іх найбольш. Але яшчэ не ўся сталіца ўзята ў аблогу. Ёсць вольныя і ўезды, і выезды.

К н я г і н я. Скажы, князь, Тахтамыш знянацку не захопіць горад?

О с ц е й. Ужо не, княгтня. А то я жахнуўся быў, калі трапіў сюды. Здаецца, народу ўжо ўсе роўна было — пагражаюць татары ці не. Усе ганяліся за мітрапалітам.

К н я г і н я. Я не ўхваляла ягоны ад'езд. Але ж у яго свая ўлада. Дык кажаш, князь, сталіцы нішто не пагражае?

О с ц е й. Падзеі толькі пачынаюцца, княгіня. Заўтра мы ўбачым са сцен татарскую раць. Але нашы воі ўжо моцна трымаюць зброю ў руках. Хвала Госпаду, што па гарадскіх складах шмат засталося і мячоў, і дзідаў яшчэ ад Мамая. Цяпер мы ствараем харчовыя склады. Добра, што час такі — на гародах у слабодах зеляніны хапае, буракоў, рэдзькі. Пабываў я і на млынах, і на бойнях. Вось толькі пякарняў мала ў Маскве.

К н я г і н я. Трэба хлеб пячы па дварах. Выдаваць гаспадарам муку. Ці хапае ж для ўсяго гэтага спраўных людзей?

О с ц е й. Масква ж не абязлюдзела дашчэнту. Якраз дзелавыя людзі і застаюцца ў горадзе.

К н я г і н я. А што, князь, сёй-той яшчэ спрабуе пакінуць нас.

О с ц е й. Так. Нават нягледзячы, што маёмасць даводзіцца здаваць на карысць абарончай казны.

К н я г і н я. Чаго толькі не робіць з людзьмі страх!

О с ц е й. Твая праўда, княгіня, у страха вочы вялікія. Але не пакрыўдуй на мяне. Паколькі ў горадзе, можна лічыць, усё асталявалася, ці не падумаць нарэшце і табе, матухна княгіня, пакінуць гэтыя палаты?

К н я г і н я. Князь, што гэта прыйшло ў голаў табе? Я мітрапаліту ў гэтым адмовіла! Вось ужо ад каго гэтакай парады не чакала, дык гэта ад цябе, князь. На сябе вунь які цяжар усклаў, а мне ганьбай пакрыць сябе раіш!

О с ц е й. Я гэта таму, княгіня, што з табой дзеці. І справы ў нас не без твайго ўдзелу паправіліся. І выезды з горада яшчэ ёсць вольныя. Напрыклад, на тую ж Кастраму.

К н я г і н я. Хопіць ужо выганяць мяне да мужа! Муж сваё робіць, я — свае. Не так жа ён пакінуў мяне тут? Усявышні, няйначай, падзяліў такім вось чынам паміж нас агульны клопат. Лепей скажы мне, князь, ці наладжана сувязь з вялікім князем у Кастраме? Ды і брату ягонаму, Уладзіміру Андрэевічу, варта

было б паведаміць, што ў нас тут з’явілася надзея на абарону. Няхай паспяшаюць на выручку

О с ц е й. Баяры сёння тым і займаліся, што пасылалі ва ўсе бакі ганцоў. А я склаў лісты ў Смаленск, Бранск і Кіеў.

К н я г і н я. Што б мы рабілі без цябе, князь. Няйначай, сапраўды нам паслаў цябе Бог.

О с ц е й. Але тым не менш, мне будзе неспакойна ад таго, што вялікая княгіня з дзецьмі застаецца ў асадным горадзе!..

К н я г і н я. Няхай у цябе пра гэта галава не баліць. Досыць, што я ганьбы нацярпелася праз бацькаву здраду. Калі што, то і людзі мяне не асудзяць, і дзеці зразумеюць. Да таго ж, я раілася з імі. Ніхто не азваўся за ўцёкі з Масквы.

О с ц е й. Як знаеш, княгіня. Можа, я і праўда чаго не разумею. Але мне пара да Серпухоўскіх варот. Там кавалі з раніцы жалеза плешчуць.

К н я г і н я (*хрысціць літоўскага князя*). Няхай цябе шануе Бог, князь. Мы будзем маліцца і за нашу агульную справу, і за цябе. Для гараджан таксама варта было б адчыніць цэрквы, няхай памоляцца за перамогу рускай зброі.

О с ц е й. Амін!

## КАРЦІНА XVI!

Маскоўская вуліца. Князь О с ц е й з кіеўскім б а я р ы н а м спяшаюцца на край горада. І раптам аднекуль з’яўляюцца лютага выгляду людзі, накідваюцца з ятаганамі на нашых знаёмых. Першага налётчыкі абступаюць баярына.

Б а я р ы н (*адбіваючыся*). Зважай, князь!

Князь адскоквае ўбок, выхоплівае меч.

О с ц е й. А ну-тка, ну-тка!

Меч у ягоных руках рухаецца спрытна, і неўзабаве ўжо адзін з нападаючых падае на дашчаны насціл. Кіеўскі баярын таксама параніў кагосьці.

А д з і н з н а п а д а ю ч ы х (*крычыць*). Сетку давайце, сетку! Зараз мы гэтага літоўскага выскачку, як суслікa, схопім!

Але на выручку князю Осцею нечакана паспявае суконшчык А д а м. З ім — літоўскія дружыннікі. На зямлі ляжаць трупы.

Б а я р ы н (*да суконшчыка*). Адкуль ты?

А д а м. Хіба важна адкуль? Галоўнае — у час.

О с ц е й. Ты ведаеш гэтых людзей?

А д а м. Татарскія лазутчыкі. Я за імі на млыне сачыў. Добры чалавек там падказаў, што маюць намер захапіць цябе, князь, каб адвезці ў лагер Тахтамыша.

О с ц е й. Значыць, і рыбацкая сетка для гэтага спатрэбілася. Ну, дзякуй табе, суконшчык. Каб не ты, то невядома яшчэ, каму цяпер ляжаць бы на гэтых маскоўскіх дошках.

## КАРЦІНА XVIII

Белая вежа Тахтамыша. Тут вялікі х а н, ягоныя м у р з ы, рускія з д р а д н і к і.

Т а х т а м ы ш (*седзячы за нізкім дастарханам, але без ежы*). Мне даносяць, што сёння ўжо ідаць Маскву.

Х т о с ь ц і з р у с к і х з д р а д н і к а ў. Так, о вялікі хан!

Т а х т а м ы ш. І ніякіх войск перад Масквой?

З н а ё м ы в о е н а ч а л ь н і к. Маскавіты заперліся ў сваёй сталіцы.

Т а х т а м ы ш. Чым болей іх там збярэцца, тым для асады лепей.

Х т о с ь ц і з р у с к і х з д р а д н і к а ў. А можа, яны яшчэ перадумаюць. Можа, сёння ж здадуцца на літасць тваёй моцы, о вялікі!

Т а х т а м ы ш. Ды мне яшчэ ўчора гэтак здавалася. Але гэты літоўскі князь… Літоўцы ўвогуле мне шкодзяць. У Ягайлы знайшлі прытулак мае лютыя ворагі — родзічы Мамая. Мурзы яго ў прырубежных княствах ледзь не зубамі клацаюць у наш бок. Цяпер гэты малады недарэка. Нябось, таксама лаўры героя мрояцца.

Т о й ж а р у с к і з д р а д н і к. Молада-зелена. Маскавіты ўхапіліся за яго, як за апошні паратунак. Ім нічога не заставалася больш. Да таго ж вялікая княгіня…

Т а х т а м ы ш. Возьмем рускую сталіцу — аддам яе замуж за самага брыдкага мурзу.

Усе смяюцца.

(*Да мурзы-военачальніка.*) Ты ж абяцаў, хан, што літоўскі князь ужо сёння тут будзе?

В о е н а ч а л ь н і к. О, вялікі і мудры! Па ўсёй Маскве нашыя людзі дзейнічаюць, рыбацкія сеткі з сабой носяць…

Т а х т а м ы ш. Што з таго, што твае людзі па Маскве без карысці бадзяюцца?!

В о е н а ч а л ь н і к. Будзе карысць, вялікі хан!.. Клянуся алахам!

Т а х т а м ы ш. Глядзі, мурза, не з тым жартуеш!

В о е н а ч а л ь н і к. Учора і сёння ўжо трох маладых князёў з Масквы прыцягнулі, але сапраўднага ўсе не ўдаецца злавіць. Кажуць, і адзін раз спрабавалі сетку накінуць на яго, і другі, але дарэмна: вёрткі, шайтан. Да таго ж, як адразу адрозніш? Усе яны, што літоўцы, што рускія, на адзін твар.

Т а х т а м ы ш. Урэшце, не так шайтан страшны, як яго малююць. (*Да рускіх*.) Так, здаецца, на Русі гавораць.

Г а л а с ы. Так, так, о вялікі!

Т а х т а м ы ш. Дзе цяпер знаходзіцца цесць данскога героя, ніжагародскі князь Дзмітрый?

Колькі крокаў наперад робіць нейкі татарскі службовец.

С л у ж б о в е ц. Рухаецца следам за тваёй ханскай вялікасцю ў абозе.

Т а х т а м ы ш. Ён мне неўзабаве спатрэбіцца. А цяпер — мая воля вам і войску, якое наперадзе ў вас. Сёння ж да вечара ўзяць рускую сталіцу ў аблогу. І каб не адзін пацук адтуль не выслізнуў вонкі. Якое сёння чысло?

С л у ж б о в е ц. Па нашым календары…

Т а х т а м ы ш. Не трэба мне нашага… Тут і зоркі і ўсе астатняе дзейнічае па іхнім календары.

С л у ж б о в е ц. Па іхнім — дваццаць трэцяга жніўня.

Т а х т а м ы ш. Познімся, познімся! Трэба як хутчэй канчаць справы на Русі. Кажуць, год сёлетні неспрыяльны будзе. А тут ужо восень. Па начах чуваць, як угары на наш Ітыль ляцяць адсюль птушкі.

Х т о с ь ц і з р у с к і х. Гусі, журавы…

Т а х т а м ы ш (*усміхаецца, як у незразумелай радасці*). Так, так — гусі, журавы. Смачныя яны на дастархане. Але ваш хан тым не менш усё яшчэ на Русі. Старыя людзі некалі расказвалі, як запазніўся некалі Бату тут. Цяжка было па разводдзю выходзіць дамоў. Шмат коней і воінаў дарэмна палегла. Так што заўтра пачынаем галоўную бітву ў гэтым паходзе. Рускія павінны ведаць, дзе знаходзяцца іхнія валадары.

Г а л а с ы. О так, вялікі і мудры!

Т а х т а м ы ш (*да военачальніка*). Паляванне на літоўскага князя не спыняць. Хачу паглядзець на незвычайнага хвалько, які асмеліўся кінуць рукавіцу вялікаму золатаардынскаму хану.

В о е н а ч а л ь н і к. Слухаю і падпарадкоўваюся, о вялікі і магутны!

Т а х т а м ы ш. І яшчэ. Сачыць, каб Дзмітрый маскоўскі не рушыў войскі на дапамогу Маскве. Ягоны брат, Уладзімір, таксама недзе блізка бадзяецца. Не варта забываць тым часам і пра бранскага князя, кіеўскага, смаленскага… Сёння яны ўсе яшчэ чакаюць, што будзе, але як толькі мы напаткаем тут перашкоды ды затрымаемся, заварушацца,势ануць спяшацца ратаваць сталіцу. Спадзяюся, усім зразумела гэта?

Г а л а с ы. О так, вялікі і мудры!

Т а х т а м ы ш. Тады за справу!

Папіхаючы адзін аднаго, татарскія мурзы і рускія здраднікі выходзяць.

## КАРЦІНА XIX

Князь О с ц е й і кіеўскі б а я р ы н паблізу ад маскоўскага Крамля. Тут жа і суконшчык А д а м, але ўжо ў баявых даспехах.

О с ц е й. Але ты мне, баярын, не да канца расказаў, як дзед мой Альгерд прыносіў на Паклонную гару некалі велікоднае яечка.

Б а я р ы н. Калі тут было ўспамінаць пра гэта? Адно толькі і робім, што адбіваемся ўвесь час ад нейкіх цёмных людзей. Ну і паляванне хтосьці наладзіў на цябе, князь, акурат на таго вепра.

О с ц е й. Я і сам дзіўлюся Але думаю, што гэта Тахтамыш недзе трывогу забіў. Яму цяпер я, бы костка ў горле. Думалася, што Масква будзе ў п’яным выглядзе трызніць, ажно пакуль ён не апынецца ў Крамлі. А тут раптам вароты перад ім пазачынялі.

А д а м. Нечакана і даволі трывала. Вось толькі не паспеў я надзець у новае сукно створаныя палкі. Толькі па зброі і пазнаеш вайсковага чалавека.

О с ц е й (*з усмешкай*). Ну то як, баярын, мой дзед у тутэйшы Крэмль велікоднае яечка насіў?

Б а я р ы н. Ды проста. Маскоўскі князь убачыў на Паклоннай гары літоўскія войскі — міру папрасіў. А дзед твой, моў, згодны. Тады ўвайшоў з баярамі сваімі ў Крэмль, ударыў дзідай у сцяну на памяць і ўручыў чырвонае яйка маскоўскаму князю.

Але сам я ў той раз не хадзіў з тваім дзедам на Маскву. Можа, гэта ўвогуле выдумка.

О с ц е й. Няхай хоць і выдумка, але прыемна.

Б а я р ы н. Каму што. Кожны свайго чыну шукае. Вось ты без бойкі і пагрозы Маскву пад сваю ўладу ўзяў.

О с ц е й. Гэта ўлада неспадзявана на мяне звалілася. Ды як кошка са страхі.

Б а я р ы н. Новая справа — новы клопат, князь: пільнуйся цяпер здрады. Калі што якое, маскавіты выкупяцца тваёй галавой перад маголамі.

О с ц е й. Згубіўшы галаву, па валасах не плачуць, баярын. Здаецца, так гавораць па нашай Русі.

Б а я р ы н. Але ж таксама непарадак. Іхняя Русь, наша Русь. Некалі сапраўдны русін цяпер у Кіеве іншы раз хутчэй завецца літоўцам Чым гэта растлумачыць, князь?

О с ц е й. Пра гэта толькі вешчыя людзі ведаюць. Няйначай, і ў кніжках ёсць. Ды калі іх чытаць. Час ужо і нам далучацца да вояў.

Ідуць далей.

## КАРЦІНА XX

У адной з вежаў Крамля. Заходзіць князь О с ц е й са сваімі спадарожнікамі.

А д з і н з м а с к о ў с к і х в а я в о д а ў. Мы ўжо зачакаліся цябе, князь.

О с ц е й. Я — ад Серпухоўскіх варот. Там ужо татары на сваіх зварушлівых конях, здалёк. А самыя адважныя да сценаў падскоквалі. Чамусьці пытаюцца, дзе вялікі князь?

В а я в о д а. Я чуў. Гэта старыя вoі. Можа, яшчэ з Мамаем прыходзілі, бо па-нашаму размаўляюць.

О с ц е й. Як у нас справы, ваявода?

В а я в о д а. Здаецца, нядаўні страх у горадзе мінуўся ўжо. Людзі падня́лі галовы. Была б дадатковая зброя, можна б яшчэ два папкі сабраць. Няхай бы стаялі ў запасе.

О с ц е й. Але добраахвотнікаў не варта адсылаць назад дамоў. Сёння адны стаяць з мячамі на сценах, заўтра там другія зоймуць іхнія месцы.

В а я в о д а. Так, князь. Гэта ўжо як правіла. Але ў горадзе яшчэ шмат розных бадзяг, нават шаек. Табе хадзіць небяспечна.

О с ц е й. Пакуль адбіваемся. (*Паказвае на сваіх спадарожнікаў*.)

В а я в о д а. Да пары, да часу. Але ж тваё месца тут, князь. Абаронай Масквы будзем кіраваць адсюль.

О с це й. Трэба паклапаціцца пра вялікую княгіню.

В а я в о д а. Так, князь. Мы ўжо распускаем чуткі, што яе ў горадзе няма. Паехала да мужа.

О с ц е й. Не на шкоду гэта?

В а я в о д а. Цяпер і сам не ведаеш, што на шкоду, а што не. Мы тут з баярамі падумалі, што на карысць.

О с ц е й. Ваша княгіня, вам і клопат пра яе мець. А я ёй не здраджу.

Сцэна мяняецца.

КАРЦІНА XXI

Недзе ў абозе Тахтамыша аціраецца ніжагародскі князь Д з м і т р ы й К а н с т а н ц і н а в і ч. З ім каля паходнае фуры — ягоныя с ы н ы, чэлядзь. Князь карыстаецца воляй, на якую яшчэ не пасягае ардынскі хан.

Д з м і т р ы й (*развважае перад сынамі*). Даншчыкам быць — гэта адно. Хто на Русі ў апошнія гады не плаціў ардынцам. Нават Аляксандр, які пабіў на Чудскім возеры крыжакоў, ездзіў у Сарай выслужваць ярлык. Дык дзе цяпер нам? Ну, пабілі Мамая. Ну, падалося, што вольнымі сталі. Але ці надоўга?

С ы н В а с і л ь. Затое хоць на адзін год, аднак на Русі волю адчулі.

Д з м і т р ы й. У чым ты яе бачыў, тую волю?

С я м ё н. У тым, што болей татарын не здзекаваўся.

В а с і л ь. Усё-ткі ёсць розніца ў тым — аддаваць чорту лысаму ці яшчэ каму шкуркі, якія ў куфрах часцей гніюць, ці здзек на сабе адчуваць. Ты, бацька, вырас у залежны час. А цяпер нас прымушаеш ардынскаму хану служыць.

Д з м і т р ы й. Нічога вы не разумееце. Што здзек, што прымус — адно і тое ж. Мне вунь зяцю свайму, Дзмітрыю Іванавічу, не заўсёды хочацца да зямлі кланяцца.

С я м ё н. Як там сястра наша?

Д з м і т р ы й. Хто кажа — у Кастраму, да мужа нарэшце падалася, хто кажа —у Маскве.

В а с і л ь. Пры жывым бацьку ды здаровых братах сіратой сябе пачуваць? Як гэта? Я іншы раз думаю, дарэмна ты нас, тату, пасылаў найперш да ардынскага хана.

Д з м і т р ы й. Ну, ты! Прыкусі язык! Каяцца надумалі?

С я м ё н. Каяцца — не каяцца, але грэшныя думкі часам узнікаюць: замест таго, каб у гэтым ханскім абозе, як у калчане тырчаць, дык лепей у Маскве дзе-небудзь на вале з дзідай стаяць.

Д з м і т р ы й (*уздыхае*). Неразумныя вы ў мяне яшчэ. Знаходзячыся тут, я ратую тым самым і вотчыну нашу, Ніжні Наваград, і сястру вашу, якую няведама дзеля чаго данскі герой адну з дзецьмі пакінуў. Мы яшчэ клопат будзем мець з гэтым, калі Тахматыш Маскву захопіць. Я ўсё думаю, якую ўмову ён паставіць перад намі за сястру. Няйначай, камусьці з вас давядзецца ў Арду надоўга паехаць.

Дзмітрый абводзіць дапытлівым позіркам сыноў. Тыя маўчаць. Заходзіць ханскі п а с л а н е ц.

П а с л а н е ц. Бачка-князь, вялікі хан патрабуе твайго прыезду ў галоўную вежу.

Д з м і т р ы й. Ну вось, і да нас чарга дайшла, сынкі. Збірайцеся. А там — што наканавана, таго не мінаваць.

У паходнай княжацкай фуры хтосьці пачынае хныкаць, здушваючы ў сабе плач.

## КАРЦІНА XXII

Ужо ці не трэці дзень ідзе аблога Масквы. Каля Флароўскіх варот князь О с ц е й, кіеўскі б а я р ы н, іншыя воіны. Толькі што адбіты чарговы наступ маголаў. Але дзеля гэтага палку, які абараняе Фларoўскія вароты, давялося рабіць вылазку за сцены горада. Цяпер харобрыя русічы вяртаюцца назад. Нясуць забітых, вядуць параненых. Князь Осцей кідаецца да суконшчыка А д а м а, які ўзначальваў вылазку.

О с ц е й (*да Адама*). Бачыў, бачыў! Малайцы, яшчэ дзве такія вылазкі за вароты, і ў Тахтамыша не застанецца тут вояў.

А д а м (*паказвае на забітага татарскага мурзу, якога прынеслі з таго боку*). Вазьмі, князь, як першы мой падарунак табе. Кажуць, самы любімы ханскі мурза.

О с ц е й. Дзякуй, дарагі мой суконшчык і брат. На тваім рахунку яшчэ многа будзе такіх перамог. Але ж вас багата палегла ў гэтай вылазцы?

А д а м. Так. Ваяводу свайго мы таксама страцілі.

О с ц е й. Полк каля гэтых варот узначаліш ты. Заўтра галоўны прыступ. Татары пойдуць на ўсё, каб зламаць супраціўленне. Мы з баярынам — у галоўную вежу.

Князь Осцей і кіеўскі баярын з малой дружынай знікаюць.

## КАРЦІНА XXIII

Стаўка Тахтамыша. Х а н ужо траціць усходнюю стрыманасць. Ускоквае з дывана, крычыць на прысутных.

Т а х т а м ы ш. Чацвёрты дзень, а Масква яшчэ не ўзята. Хто мне абяцаў, што яна саспела і гатова ўпасці да ног пераможцы?

В о е н а ч а л ь н і к. Мы робім усё, на што здольныя твае воіны, о вялікі і мудры! Будзем штурмаваць рускую сталіцу, пакуль не звядуцца людзі і не рассыплюцца сцены!

Т а х т а м ы ш. Але што мне скажа вялікі Тамерлан, калі да яго вушэй дойдзе, што я дарэмна пад Масквой палажыў лепшае ардынскае войска?

Военачальнік маўчыць.

Маўчыш? Што ж, сабаку — сабачая смерць!

Военачальніка хапае ханская варта, валачэ з вежы.

Хто заўтра павядзе на гарадскія сцены маіх адважных маголаў?

З натоўпу выступае малады мурза.

М а л а д ы  м у р з а. Я, о вялікі і мудры!

Т а х т а м ы ш (*неяк зніякавела глядзіць на маладога рызыканта, тады згаджаецца, толькі дадае*). І не баішся смерці?

Дзіўна, але гэтае рашэнне дзейнічае на ўсіх прысутных; і мурзы, і рускія здраднікі пачынаюць пакідаць стаўку.

(*Да сваёй варты.*) Прывядзіце Ніжагародскага князя. Я па яго пасылаў.

Заходзіць цесць вялікага князя маскоўскага.

(*Да Дзмітрыя Ніжагародскага.*) Бачыш, зоркі здраджваюць мне пад Масквой. Сёння яны спрыяюць маскавітам. (*Пільна глядзіць, як рэагуе рускі князь.*) Ды яшчэ нейкаму літоўскаму смаркачу. Ты ведаеш яго?

Д з м і т р ы й. Не. Там, у Альгерда, столькі было дзяцей, што яны наўрад ці і самі разабраліся, хто ёсць хто. Але сыны мае з ім сустракаліся. Старэйшы мой якраз ягонага года.

Т а х т а м ы ш. Тым лепей. Спадзяюся, мая цяперашняя няўдача не перапалохала цябе? Наша дамова застаецца ў сіле. На Ніжні Ноўгарад і на ўсё княства тваё ніхто не стане пасягаць. Ну а што датычыць данскога героя, дык ён твой зяць. Неяк разберацеся. Хоць гаварыць падобнае не ў нашых магольскіх звычках, але дачка твая аказалася большым героем, чым зяць.

Д з м і т р ы й. Бог яму суддзя. Навошта зваў, вялікі хан?

Т а х т а м ы ш. Хачу перамовы пачаць з Масквой. На гэта ёсць прычыны. Цяпер я не стану пра іх табе гаварыць, але возьмем на сябе клопат падрыхтаваць пасольства. З маімі мурзамі да Масквы пойдуць твае сыны, раз адзін з іх ведае літоўскага князя, ад якога цяпер у рускай сталіцы шмат што залежыць.

Д з м і т р ы й. Слухаю, мой уладар.

Т а х т а м ы ш. Няхай паслы скажуць маскавітам, што я іх люблю, як добрых сваіх падданых.

Д з м і т р ы й. Ці добра гэта — цяпер пра падданых?

Т а х т а м ы ш. Думаеш, лейчыну пад хвост падсунем?

Д з м і т р ы й. Пасольства — рэч далікатная.

Т а х т а м ы ш. Ну, тады неабходна пачаць з таго, што я ўвогуле люблю іх. І не хачу ваяваць з імі. Мой вораг — адзін вялікі князь. У нас да яго свае рахункі. І як толькі жыхары Масквы паслухаюцца ды выйдуць за вароты з дарункамі, я загадаю сваім ардынцам адысці ад сцен. Сам жа наведаю горад, абыду, вазьму ў ім, што мне належыць, і здыму канчаткова аблогу, каб вярнуцца на свой родны Ітыль. Але няхай паслы скажуць маскавітам і пра маю самую важную ўмову — рускае пасольства павінен узначаліць малады літоўскі князь. Зразумела? Яму гонар, а мне ўцеха.

Д з м і т р ы й. Спадзяюся, што мае сыны зробяць сваю справу.

Т а х т а м ы ш. А як нашай справе падумаюць здрадзіць? Гэта яны тут, пры табе, паслухмяныя, а волю пачуюць?..

Д з м і т р ы й. Хто ж стане падобнае рабіць, калі гаворка пойдзе пра мір?

Т а х т а м ы ш. Ну, пакуль да сапраўднага міру дойдзе, у маскоўскіх рэках вада сплыве. Галоўная задача цяпер пераканаць маскавітаў, што я прывёў свае ўлусы ў сярэдзіну Русі, каб збіць з іхняга вялікага князя пыху пасля Дона. Да іх жа, саміх жыхароў маскоўскай сталіцы, нічога ні злога, ні патаемнага не маю. Няхай расчыняюць вароты, выходзяць і ўваходзяць праз

іх, у маіх маголаў ёсць чым гандляваць. Словам, хачу, каб усё было, як пры Бату.

Д з м і т р ы й (*ківае галавой*). Вялікі хан быў…

Т а х т а м ы ш. Мне таксама ягоная слава патрэбна. То як? Бярэшся, князь Дзмітрый, наладзіць пасольства? Хіба табе не хочацца глянуць на ўнукаў?

Д з м і т р ы й. Быў адтуль перабежчык, мой чалавек, дык таксама сведчыў. Але ні з дачкі маёй, ні з унукаў ніводнага воласа не ўпадзе? Пацвярджай зноўку, хан, каб мне пасля галаву сваю не драць кіпцямі.

Т а х т а м ы ш. Мне вялікі князь патрэбны, а бабы ды дзеці!..

Д з м і т р ы й. Ну, раз ты да мяне з дабром, вялікі хан, то я табе паслужу яшчэ. Будзе табе пасольства, наперадзе якога выйдзе літоўскі князь.

Т а х т а м ы ш. Ты разумна гаворыш, князь. Няхай наперадзе рускага пасольства выйдзе літоўскі князь як герой цяперашняй маскоўскай абароны. І няхай галоўная сустрэча паміж абодвума пасольствамі пройдзе па гэты бок маскоўскіх умацаванняў. Так і скажы тым, хто ўвойдзе ў наша пасольства: у Крамлі не затрымліваецца. Крэмль для стэпавых наезнікаў — пастка. Ну, а цяпер ідзі, князь. Мне патрэбны такія-сякія распараджэнні і сваім мурзам даць.

Сцэна мяняецца.

## КАРЦІНА XXIV

Маскавіты зноў адбілі чарговы прыступ ардынцаў. Падобна, што мала хто не ўдзельнічаў у ім. У штабную вежу, якую мы завём па-тагачаснаму галоўнай, сыходзяцца разгарачаныя рускія военачальнікі. Стомленасць бярэ сваё, Здаецца, ужо не хапае энтузіязму.

А д з і н з в а я в о д а ў (*да князя Осцея*). Яшчэ адзін такі прыступ, князь, і ў нас не будзе каго ставіць на сцены.

О с ц е й. Так, цяжка, ваявода. А маголы, нібыта грыбы ў лясах падмаскоўных растуць, — усё валяць адтуль сотнямі, валяць. Вось што добра, ваявода, дык добра: нашы ворагі паспяваюць падбіраць сваіх забітых. А нашы амаль усе ляжаць па той бок гарадскіх сценаў. Смярдзяць, ужо даўно дыхаць няма чым.

В а я в о д а. Трэба, князь, пахавальныя каманды пасылаць на месцы боек паміж вылазкамі.

О с ц е й. Але воінаў на гэта не варта занараджаць. Няхай звычайныя маскавіты займуцца такой справай. Затое — плаціць ім належыць.

В а я в о д а. Па колькі?

О с ц е й. А не багата будзе, ваявода, нават па рублю серабром? У нашай жа казне, здаецца, грошай яшчэ хапае. Ну, тых, маёмасных, што па страху застацца ў Маскве некаторыя не шкадавалі.

В а я в о д а. Я распараджуся, князь. Але ці не падумаць нам вось аб чым. Паколькі страты ў нашых палках вялікія, ці не паспрабаваць нам яшчэ стварыць хоць бы два. Зброя ўсё больш і больш вызваляецца. Мёртвым яна не патрэбна.

О с ц е й. Распарадзіся, ваявода. А я тым часам адскочу да Фляроўскіх варотаў, пагляджу, як там ідуць справы.

В а я в о д а (*усміхаецца*). Нешта князь упадабаў тыя вароты?

О с ц е й. Палкоўнікам там мой зямляк. Помніш, суконшчык Адам.

В а я в о д а. Талковы ваявода з яго выйдзе, талковы. Аднак даруй, князь. Забыў сказаць. Недзе на серпухоўскай дарозе загінуў твой другі зямляк — кіеўскі ваявода. Там было горача.

О с ц е й (*халадзее душой і целам*). Якая бяда! Якая бяда! А я гляджу каторы час ужо — чаму яго не відаць?

В а я в о д а. Пасечаны татарскімі ятаганамі.

О с ц е й. Мы ж з ім ад самага Бранска, як сябры-таварышы!

В а я в о д а. Не смуткуй, князь, і ў нас лёс — яшчэ многіх давядзецца аплакваць.

У вежу, дзе яны размаўляюць, прыбягае ратнік.

Р а т н і к. За сценамі татары трубяць. Гаварыць хочуць.

О с ц е й. Хіба мала яны ўжо чаго нагаварылі нам? Нябось, зноў пагражаць стануць?

Р а т н і к. Штосьці не падобна, князь. З імі рускія баяры нават, здаецца, сыны ніжагародскага князя.

О с ц е й. Вось што, ваявода. Скачы туды, паслухай, а тады мяне знойдзеш ля Фляроўскіх варотаў.

В а я в о д а. Добра, князь.

Разыходзяцца.

## КАРЦІНА XXV

Т а х т а м ы ш з маладым в о е н а ч а л ь н і к а м і незнаёмым м у р з о й. Акрамя іх у вежы — ніводнага чалавека.

Т а х т а м ы ш. Нашы спробы захапіць Маскву не прыводзяць да станоўчых вынікаў. Аказваецца, горад пры выглядзе небяспекі на шмат што здольны. А самае галоўнае — калі ўжо здаецца, што не будзе каму абараняцца, найперш, не знойдзецца каму ўзначаліць абарону, знаходзіцца нейкі прыблуда, авантурыст і аматар паказаць сябе і ратуе становішча. (*Да свайго маладога военачальніка.*) Дарэчы, гэты літоўскі князь твайго ўзросту. Выклікаў бы ты я'го на паядынак?

В о е н а ч а л ь н і к. Трэба было гэта зрабіць напярэдадні аблогі. Цяпер — позна.

Т а х т а м ы ш. І ты б перамог літоўскага князя?

В о е н а ч а л ь н і к. Так, вялікі і магутны!

Т а х т а м ы ш. Чаму ж тады Маскву не ўзяў? Клятву даваў?

В о е н а ч а л ь н і к. Рускія кажуць, што з маладым літоўскім князем у рускую сталіцу Алах з неба сышоў.

Т а х т а м ы ш. У рускіх свой Бог. Цікава, гэты літоўскі князь адной веры з маскавітамі?

В о е н а ч а л ь н і к. Відаць, так, уладыка; хіба ж так сабе ім Алах памагае?

Т а х т а м ы ш. Помніш, пра што ўчора гаварылі мы з табой?

В о е н а ч а л ь н і к. Помню.

Т а х т а м ы ш. Тады ідзі. Рашай сваё жыццё сам. А далей мне хвалькі-мурзы не патрэбны. Час звяртацца да дыпламатыі.

Малады военачальнік на каленках і на далонях падаецца задам да выхаду з вежы.

Таксама малады хвалько, што той літоўскі князь. Але ўчора я даверыў яму чарговы наступ на горад, бо ў галаве ўжо меў іншае. Слухай мяне, мурза. Табе я давяраю сёння найбольш чым каму. То слухай. У Маскву адышло маё пасольства. Я прапаную рускім мір.

М у р з а. Надоўга на Русі затрымлівацца небяспечна. Асабліва пад Масквой. Кругом балоты. Зіму наша конніца тут не перазімуе. Няма дзе пасвіць коней. А сена рыхтаваць позна. Ужо восень. Яшчэ некалькі дзён гэтага месяца — і восень. А там — снег па калена, рэкі стынуць ды і паляўнічыя каманды наўрад ці справяцца з сваёй задачай насушыць мяса.

Т а х т а м ы ш. Значыць, мір?

М у р з а. Калі іначай нельга, о мудры і справядлівы!

Т а х т а м ы ш. Але ж не ўзяць Маскву — ганьба?!

Мурза не ведае, што адказаць, таму маўчыць.

І ўсё ж мы заваюем Маскву. Ты, мурза, мне дапаможаш апынуцца ў Маскве, а там я ўжо буду ведаць, каму які суд вяршыць. Наша пасольства будзе дамагацца ад рускіх, каб тыя выслалі за вароты сваё, на чале з літоўскім князем. І вось тады ты зробіш галоўную справу. Выхапіш свой ятаган і тут жа прыкончыш літоўскага князя. Вароты пры гэтым будуць адчынены, і мае воіны пры ўзніклай паніцы прарвуцца праз іх у горад. Потым ужо няхай рускія колькі хочуць наракаюць, але не на мяне. На свайго вялікага князя, які перад ардой віну мае за спробу непаслушэнства. Табе ўсё зразумела, мурза?

М у р з а. Так, о вялікі і мудры!

Т а хт а м ы ш. Тады тваё месца сярод першых людзей майго пасольства. Будзь напагатове…

М у р з а. Слухаю, о вялікі і справядлівы!

Выходзіць.

## КАРЦІНА XXVI

Каля Фдароўскіх варот полк суконшчыка Адама. Тут палкоўнік.
Падыходзіць князь О с ц е й.

А д а м. Як мне часам не хапае тут цябе, князь!.. Падумаў нават, ці не запрасіць дамоў. Нават бы лазню нацяплілі.

О с ц е й. Хіба ў Маскве ёсць у каго лазні? Казалі, што тутэйшыя людзі ў печах на саломе прэюць?

А д а м. Нашы з табой землякі, як і дома ў сябе, будуюць лазні. Маскавіты таксама паступова да іх прывыкаюць. Дык як, пасылаць з наказам, каб увечары можна было папарыцца? У мяне венікі ёсць. І леташнія, і сёлета нарэзаў. Балазе ў Маскве і дубоў, і бярозаў хапае.

О с ц е й. Гаспадарчы ты чалавек, Адам. Вось прагонім татараў ад Масквы, папрашуся да цябе на пастой.

А д а м. Міласці прашу.

Падбягае вайсковец.

В а й с к о в е ц. Князь, мяне ваявода паслаў адшукаць цябе. Татары з мірным пасольствам да нас. Цябе завуць.

О с ц е й (*усё роўна як расчаравана да суконшчыка*). Ну вось, папарыліся ў лазні! Але лаўлю цябе на слове.

Адыходзіць.

## КАРЦІНА XXVII

На гарадской сцяне каля Серпухоўскіх варотаў шмат вояў, проста цікаўных гараджан; тут знаёмы ваявода; лёгка ўзбягае па трохі адхоннай строме князь О с ц е й. Глядзіць уніз па той бок сцяны.

В а я в о д а. Хочуць гаварыць з табой, князь.

О с ц е й. Я — князь Осцей. Што вам трэба?

А д з і н з п а с л о ў. Наш вялікі і мудры хан не хоча дарэмна праліваць кроў маскавітаў. Мы — з мірнымі прапановамі да цябе.

О с ц е й. Якія ж у вас прапановы?

Т о й ж а п а с о л. Мы ўжо гаварылі.

О с ц е й (*глядзіць на ваяводу*). Сапраўды, вартыя прапановы?

В а я в о д а. Падобна, што Тахтамыш просіць міру. Хоча, каб два пасольствы — і наша, і ягонае — сышліся на нічыйнай тэрыторыі.

О с ц е й. Трэба склікаць раду. Няхай баяры рашаць. Як скажуць, так мы з табой, ваявода, і зробім. Але ўсё-ткі Тахтамыш здрыгануўся?!

В а я в о д а. Так, наша ўпартасць, а самае галоўнае — наша здольнасць наладзіць абарону, пераканалі яго, што Масква не па зубах яму. Цяпер трэба глядзець, каб яны не абдурылі нас. Татары — народ крывадушны.

О с ц е й. Скажы ім, ваявода, што нам неабходна параіцца з лепшымі людзьмі горада.

Малады літоўскі князь прамаўляе гэта і тут жа спускаецца ўніз.

## КАРЦІНА XXVIII

Рада ў маскоўскім Крамлі. Тут б а я р ы, в а я в о д ы, б а я р с к і я д з е ц і, в о е н а ч а л ь н і к і. Князь О с ц е й сядзіць пры стале. Большасць з прысутных стаяць.

А д з і н з б а я р а ў. Не падабаецца ва ўсім гэтым тое, што татары ўжо нават прадугледзелі кожнаму з нас месца ў пасольстве. Першаму ісці за вароты князю Осцею, затым святарам, а ўжо ўзброеным воям тупаць недзе ў канцы.

Д р у г і   б а я р ы н (*відаць, ваявода, бо ўзброены, як след*). Але ж адмовіцца ад перамоў нам таксама не выпадае. Можа, памарудзіць з імі трэба? Паглядзець, якія наступныя захады зробіць Тахтамыш?

Я ш ч э   а д з і н   б а я р ы н. М-так, усё гэта так. Татары, няйначай, спяшаюцца хоць якім чынам развязацца з Масквой. Не стануць жа яны зімаваць на Русі, дарма што багата нашых князёў зноў прадалося ім. Тым часам нам тут таксама раскашаваць не выпадае. Разбіць у чыстым полі мы не здолеем сваіх цяперашніх ворагаў, дзеля гэтага трэба сабраць усю Русь, а хто яе збярэ. Усё яшчэ ні вялікага князя з яго вайсковай дапамогай не чуваць, ні брата ягонага, Уладзіміра Андрэевіча. Так што думаць варта, а спяшацца адмаўляць татарам у міры неразумна будзе.

К а м а н д у ю ч ы   в а я в о д а. Твая праўда, ваявода. Што тут гаварыць. Але князя Осцея ў пасольства не варта ўключаць. Пайду к татарам я. Вось, ты, ты, святары, некаторыя спрактыкаваныя ратнікі ды вартыя таго гараджане. Як, князь Осцей?

О с ц е й. Не, мае сябры-таварышы па ратнай справе, якая раптоўна напаткала мяне тут. Чую я сэрцам, што павінен прайсці на гэтым шляху ўсё — ад першага кроку да апошняга. Так што, паслужым яшчэ Маскве і нашай праваслаўнай веры.

П е р ш ы   б а я р ы н. Твая мудрасць, князь, прымушае схіляць перад табой галаву. На тым і парашылі.

Пачынаюць разыходзіцца. Сцэна мяняецца.

## КАРЦІНА XXIX

Як і хацелі татары, рускае пасольства рушыла за Серпухоўскія вароты на чале з князем Осцеем. Выхад пасольства нагадваў тэатральнае дзейства, за якім назірала мноства маскоўскага народу. За варотамі абодва пасольствы пачалі сыходзіцца. Тады і выскачыў наперад падгавораны Тахтамышам мурза. Бліснуў у ягонай руцэ ятаган, і маладая галава літоўскага князя Осцея, таленавітага абаронцы Масквы ад татарскага нашэсця ў 1382 годзе, праз два гады пасля Кулікоўскага пабоішча, паляцела пад ногі даверлівых маскавітаў. Татары хлынулі праз вароты, а ўжо к вечару таго дня горад апанавала роспач, і пад дашчанымі пераходамі цурчэла чалавечая кроў. Вялікаму маскоўскаму князю Дзмітрыю, які пасля адыходу татараў вярнуўся ў Маскву, давялося таксама заплаціць ажно 30 000 рублёў серабром за кожнага пахаванага гараджаніна. Больш аніякіх звестак пра маладога літоўскага князя Осцея, Альгердава ўнука, у аўтара няма…

Канец гістарычнай згадкі.

## ПЕРШЫ ЎСПАМІН

Двойчы браўся я за сваю біяграфію. Адна недзе згубілася ў студэнтаў. Другая атрымалася доўгая, не падыходзіць да такой кнігі[1]… Вось трэцяя.

І так, нарадзіўся я 21 снежня 1934 года ў вёсцы Вялікі Бор Магілёўскай вобласці. Праўда, да нейкага часу днём нараджэння маім лічылася 5 кастрычніка. Атрымалася гэтак з-за таго, што згубіліся метрычныя даведкі ў час вайны. Ну а пасля вайны трэба было мець новыя дакументы, і на медыцынскай камісіі ў Касцюковічах мне чамусьці вызначылі днём нараджэння 5 кастрычніка, здаецца, не без маёй падказкі. Справа ў тым, што па расказах маці я ведаў, што нарадзіла яна мяне недзе пасля Юр'ева дня, а мне чамусьці доўга здавалася, што Юр'еў дзень бывае ў пачатку халадоў. Напэўна, я і прагаварыўся на медкамісіі пра гэта…

Але вось мінулі гады, людзі пакрысе ачомаліся пасля вайны, пачалі думаць нават пра дні нараджэння, пачалі адзначаць іх. Натуральна, збіраў і я сваіх сяброў у сябе ў кватэры 5 кастрычніка. Аднойчы прыехала з вёскі ў такі вечар маці, Хадоска Ігнатаўна. Бачыць, у доме застолле, пытаецца: чаму, з якога выпадку? Так і так, кажу, у мяне ж дзень нараджэння, дзякуй, што і ты не палічыла за цяжкасць прыехаць. Не, кажа яна, ты не ў гэты дзень нарадзіўся; ты нарадзіўся ў трэцюю пятніцу апошняга месяца, перад Новым годам, здаецца, дваццатага альбо дваццаць першага чысла… Застолля мы з жонкай, канечне, не адмянілі, але на другі дзень я ўсё ж накіраваўся ў бібліятэку, папрасіў прынесці падшыўкі газет за снежань месяц трыццаць чацвёртага года, І сапраўды, мацярынская памяць аказалася моцнай — трэцяя пятніца ў гэты год у снежні прыпадала на 21-е.

Нашы вясковыя мацяркі не вельмі адукаваныя жанчыны, добра, калі іншыя ў прыходскую школу месяц-другі хадзілі, а то пры

савецкай уладзе лікбезканчалі. Ды і то не ўсе. Дзе ім дакладны падлік ведаць. Добра, калі расплывістым літарам навучыліся. Да таго ж у нас у сям'і дзяцей было шмат. Я, напрыклад, нарадзіўся чацвёртым, а пасля мяне яшчэ тры сястры і брат на свет з'явіліся. Зразумела, што ўтрымаць у памяці нават дні нараджэння такой плоймы было цяжкай справай, асабліва без папер, якія згарэлі ў час пажару ў вайну. Але мая маці, аказалася, утрымала. З таго памятнага яе прыезду я і пачаў новы адлік свайго жыцця, хоць дакладна яшчэ і цяпер не ведаю — ці гэта было 20 снежня, ці 21-га, бо нарадзіўся я ўсё-ткі, па словах маці, недзе ў сумежжы старых і новых сутак…

Вёска наша, дзе я нарадзіўся, невялікая, сядзіб на сто, але гэта калі па даваенным падліку браць; цяпер жа ў Вялікім Бары наўрад ці за паўсотню хат. Але пабудавана яна ў прывольных мясцінах, між чыстых рэчак і светлых азёраў, на заходняй ускраіне вялікіх Бранскіх лясоў, якія ў нас і цяпер чамусьці завуцца Мглінскімі. Тут граніца Беларусі — і старая, і новая. Яна так і застаецца нерухомай на працягу многіх стагоддзяў. У гэтым кутку зямлі, як жартуюць мае землякі, можна слухаць па вечарах галасы і беларускіх, і рускіх, і ўкраінскіх дзяўчат. І адлегласці адсюль адметныя — амаль аднолькава нам і да Масквы, і да Мінска. Таму і адыход людзей з Вялікага Бора заўсёды быў па двух напрамках: у Маскву і Мінск; я маю на ўвазе тых, хто заканчваў сямігодку і падаваўся са школьнымі атэстатамі шукаць шчасця гарадскога жыцця; працаваць жа мае землякі — хто больш просты — ехалі на шахты Данбаса. З вёскай у мяне звязана ўсё дзяцінства — памятаю яе з добра адбудаванымі дварамі; летам скрозь чамусьці сонечную; зімой — занесеную глыбокімі снягамі; з бурным паводкам увесну; здаецца, такіх багатых снягоў і такога шумнага паводку ўжо і не надаралася больш бачыць у жыцці. І заўсёды ў вёсцы нашай панавала шматлюддзе.

Вядома, у гэтым святле маіх успамінаў у многім вінавата дзяцінства, але, можа, яно і сапраўды так было, таму што будаваўся Вялікі Бор марудна і грунтоўна, як усё наўкола, з прыцэлам на доўгае жыццё ўсіх пакаленняў, не думалася, напэўна, тады людзям, што ўвесь набытак можа пайсці прахам і ўмомант… Я чамусьці лічу, што будавалася вёска сапраўды марудна. ёсць дакументы, якія сведчаць, што два з паловай стагоддзі таму назад на беразе нашага безыменнага возера стаяла ўсяго чатыры хаты. Значыць, за два стагоддзі дабавілася не так і многа. Хоць не ў гэтым справа, і я, відаць, дарэмна ўдаюся ў падрабязнасці, успамінаючы вёску, — даваенная і ваенная яна цалкам апісана ў

цыкле маіх раманаў, які пачаўся «Плачам перапёлкі». Прыдумана толькі назва — Верамейкі.

Вайна мне запомнілася выразна. Часам нават здаецца, што падзеі тых гадоў адклаліся ў памяці мацней за ўсё. Можа, таму, што пасля вызвалення ўсе ў вёсцы жылі ўспамінамі пра вайну, а потым, яшчэ ў маладыя гады, пачаў я пісаць пра яе. Вось і атрымалася такая несуразмернасць і спрасаванасць часу, з яго пякучымі падрабязнасцямі.

Раён наш быў заняты немцамі ў сярэдзіне жніўня. Да гэтага вайна ўжо разбурала ўсё навокал каля двух месяцаў. Нарэшце пачалася і ў нас акупацыя, якую нездарма параўноўваюць з цёмнай ноччу, хоць на самой справе ночы, як я памятаю, тады амаль заўсёды былі ў зарніцах: то недзе грукатаў бой. то зусім ціха займаліся і дагаралі вёскі. Горш стала, калі пачаліся карныя экспедыцыі, праз якія немцы імкнуліся знішчыць партызан і падпарадкаваць мясцовае насельніцтва. У час адной з такіх экспедыцый у сорак трэцім годзе вакол Вялікага Бора згарэла шмат вялікіх і маленькіх вёсак. Хаты карнікі спальвалі разам з людзьмі. Яшчэ і цяпер у вачах стаіць той чорны, амаль маслены дым і чуваць пах гарэлага чалавечага мяса… Карныя экспедыцыі паўтараліся часта. Немцы давалі ім прыгожыя назвы: «Балотная кветка», «Паўночнае ззянне», «Рэгата»…

І ўсё ж, што найбольш запомнілася з вайны? Бежанства…

Яшчэ фронт стаяў на Дняпры і па Сажы, а па нашых лясных і прасёлачных дарогах, як чароды асенніх птушак, цягнуліся на паўднёвы ўсход конныя абозы з хатнім яўрэйскім скарбам. Доўга чуліся па начах рыпенне колаў, чалавечая гаворка і дзіцячы плач. Але вось зрушыўся фронт, затрымаўся на некалькі дзён за тры кіламетры ад нашай вёскі на Бесядзі, зноў не ўстаяў, і 132-я дывізія, якой камандаваў генерал Бірузоў, пачала адступаць. Тады і мы пагрузілі свае пажыткі на воз, прывязаўшы да яго карову Красулю. Уласна, з усёй вёскі на эвакуацыю адважыліся толькі дзве сям’і — наша і яшчэ адна, старшыні суседняга Макранскага сельскага Савета Хведара Рацэева. Ехалі паволі, цяжка і апасліва. І ўвесь час разам з адступаючымі чырвонаармейцамі, якія раз-пораз чамусьці стараліся выпрагчы з аглобляў нашага каня. забраць яго. Але бацька кожны раз выцягваў з воза сваю вінтоўку, якую хаваў пад рагожай, і салдаты тут жа астывалі, угаворвалі адзін аднаго кінуць, не звязвацца. Так мы і даехалі амаль да Унечы, вузлавой чыгуначнай станцыі, дзе мелі намер сесці на поезд. Аднак немцы паспелі туды раней, давялося вяртацца. Бацька прайшоў з намі дарогу і назад, потым кіламетраў

за сем ад Вялікага Бора развітаўся, пайшоў назад, на ўсход, цяпер ужо па занятай немцамі тэрыторыі. Вядома. што ў такіх вандроўках нам давялося пабачыць нямала — і народу. знаёмага і незнаёмага. і шмат чаго іншага. што спадарожнічала вайне, — забітых людзей. кароў, коней, а галоўнае — гэта быў мой першы выезд далёка за межы роднай вёскі, да гэтага не даводзілася яе пакідаць, добра, калі ўдалося два ці тры разы з'ездзіць з аднавяскоўцамі на кірмаш у мястэчка. Потым, ужо дарослы, я праехаў па дарогах нашага бежанства, быццам спадзяваўся адшукаць даўнія сляды…

І яшчэ. Ужо другі год ішла вайна. Лясы былі запоўнены партызанамі. І нямецкія самалёты ледзь не кожны дзень рабілі налёты на партызанскую зону, якая далёка распасцерлася, па абодва бакі ад унутранай граніцы, зрокава адзначанай хутчэй на картах, чым на зямлі. І людзі тут не вельмі лічыліся — дзе рускія вёскі, дзе беларускія. Да нас заўсёды ў пасляабедзенны час прылятаў двухфюзеляжны «фоке-вульф», быццам і сапраўды «прыпісаны» нямецкім камандаваннем да адной мясцовасці. Але тое, што ён наведваўся рэгулярна, давала магчымасць прыстасавацца да яго. І сяляне з карысцю для сябе рабілі гэта. ва ўсякім разе ахвяр рабілася ўсё меней, хоць хаты па-ранейшаму заставаліся безабароннымі, успыхвалі то адна, то другая ў кожны налёт. Аднойчы ўсюдыісны «фока», ці, як мы называлі яго — «рама», застаў мяне ў полі, я бег да маці, якая з меншымі дзецьмі палола проса. Пачалася пагоня — жалезнай птушкі за васьмігадовым хлапчуком. Мне добра быў вітаць зрэзаны шлемам твар нямецкага лётчыка, ухмылкі яго, зубы. Ён увесь час спрабаваў загнаць мяне, узяць у прыцэл. аднак дарэмна — ці то цэль была занадта малая, ці то я сапраўды так круціўся і своечасова падаў, што кулі толькі шлёпаліся ды ўспорвалі вакол мяне зямлю. Заходзячы зноў і зноў насустрач сваёй ахвяры, самалёт рабіў шырокія кругі над полем, і я за гэтыя некалькі хвілін паспяваў ускочыць на ногі, каб адбегчы ці ўбок, ці наперад — накірунак угадваўся інтуітыўна і тым не менш, як цяпер здаецца, даволі удала. Ва ўсякім разе «гульня» гэтая скончылася на маю карысць, тым больш што я ўвесь час меў на прыкмеце невялікі роў пасярод поля, амаль шчыліну, і, нягледзячы на тое, што пятляў. з кожным кідком набліжаўся да яго. пакуль, нарэшце, не ўпаў на дно. Але і пасля гэтага немец не пакінуў мяне ў спакоі — пачаў кружыць над ровам, выглядаючы, быццам каршун, ахвяру, стараючыся дастаць з кулямёта: бомбаў у самалёце, відаць, не было. а можа, ён проста не хацеў траціць іх. ашчаджаў для лепшага выпадку.

Дзіўна, але ад узрушэння я раптам заснуў у сваім надзейным сховішчы і ўжо далей нічога не памятаў.

Бацька мой да вайны працаваў старшынёй сельсавета. І ўсім у вёсцы чамусьці здавалася, што ён застаўся ў раёне партызаніць, казалі, што кожную ноч прыходзіць дадому. Але на самой справе гэта было не так. Расстаўшыся з намі, ён зноў накіраваўся ў бок Унечы, выйшаўшы за лінію фронту недзе за Дзясной. А нас ім моцна палохалі, людзі быццам вырашылі, што сям'я старшыні сельсавета пры новай уладзе стане першай. а можа, і адзінай ахвярай. У нас і карову ў першых немцы забралі, і конь нам не дастаўся, калі дзялілі ў вёсцы калгасную маёмасць, у тым ліку зямлю і скаціну. Затое нам яшчэ доўга ў тую восень давялося даглядаць параненых і галодных чырвонаармейцаў, якія выходзілі з акружэння, сустрэцца з першымі партызанамі. Гэта цяпер усё забылася, зраўнялася. А трэба ж бачыць розніцу паміж партызанамі сорак першага года і партызанамі сорак трэцяга. У сорак трэцім ужо многія стараліся ўступіць у партызанскія атрады, нават паліцаі шукалі сувязі з партызанамі, тады як у сорак першым мала хто адважваўся пусціць чужога чалавека ў хату. Вось і прымала мая маці ўсіх бяздомных, у тым ліку і першых партызан, якія прыходзілі ў вёску з лесу. Аднавяскоўцы проста пасылалі іх да нас — маўляў, ідзіце, там вас прымуць. Дарэчы, пра гэта ў мяне ёсць апавяданне — «Праз гады»… Часта будзіла нас маці сярод начы і адводзіла. хаваючыся ад суседзяў. у лес. каб схаваць ад наехаўшых паліцаяў ды немцаў.

У вайну хапіла ўсім — і дарослым. і дзецям… На вайну прыпала толькі тры няпоўныя гады майго жыцця, але якраз яна стала галоўнай падзеяй, якая вызначыла на доўгі час маю творчасць. Пра той час напісаны раманы, апавяданні, п'есы, кінасцэнарыі. Было б, напэўна, дзіўна, калі б я прайшоў міма яго. Часам мне здаецца, што з тэмай вайны я занадта звязаў сябе, і кожны раз думаю, што вось гэты твор пра вайну ў мяне апошні. Ды не атрымліваецца. І не толькі ў мяне.

Чаму ж мы ўсё яшчэ пішам пра Вялікую Айчынную? Напэўна, таму, што мінулая вайна з яе жахамі і крывёй — гэта такая з'ява, над якой сапраўды не ўладарыць час. Ну а для нас, малалетніх, і таго больш — яна нас зрабіла не ў меру дарослымі, дазволіла зазірнуць за такую рысу, дзе пераблыталася рэальнае і тое, што цяжка ўявіць. Нават хто быў у той час свой, а хто — чужы мы яшчэ доўга будзем разбірацца. Да таго ж. вопыт мінулай вайны — гэта і навука на будучыню. Мне ўжо неаднойчы даводзілася пісаць пра гэта. Бо нашы паражэнні на

першым этапе вайны зусім не заканамерныя. Магло быць іначай, калі б усё ў даваенным жыцці ішло толкам. Дзіўна, але снежань месяц, у якім я нарадзіўся, і трыццаць чацвёрты год якраз і сталі пярэдаднем самых вялікіх няшчасцяў, якія балюча і надоўга адгукнуліся ў краіне, — раптам у Смольным адбыўся злашчасны стрэл, і крымінальна-працэсуальны кодэкс напоўніўся зменамі па разглядзе спраў аб тэрарыстычных арганізацыях і тэрарыстычных актах; слуханне справы дапускалася ўжо без удзелу бакоў, а касацыйныя абскарджанні, як і падачы хадайніцтваў аб памілаванні, і зусім не прымаліся… Дорага абышлося гэта народам сацыялістычнай краіны і Чырвонай Арміі… Акрамя таго, на тэме вайны мы ж вырашаем і сучасныя задачы — ідэйныя і эстэтычныя.

Калі ж гаварыць адносна беларускай літаратуры. то праглядваецца і яшчэ адзін аспект у гэтым. Усе ведаюць, што ў мінулую вайну ў зямлю ў нас лёг кожны чацвёрты чалавек. Але мала хто памятае цяпер, што і ў папярэдніх войнах мы неслі страшныя страты. Напрыклад, паводле некаторых падлікаў, у вайне з Напалеонам у беларускіх губернях загінуў кожны трэці, у першую імперыялістычную — кожны пяты… Аднак справа тут зусім не у падліках, не ў арыфметыцы. Справа ў літаратуры, якая не адлюстравала тагачасную рэчаіснасць, яе проста не было. Многія літаратуры выявілі вузлавыя моманты ў гісторыі сваіх народаў, а наша — не. І раптам у гэтую вайну беларусы нібы пачалі зноў складвацца ў штосьці цэлае, пэўнае — цяпер ужо ў свядомасці іншых народаў, іншых людзей, якія бачылі нас у вайне; аказалася, што ёсць і такі народ. як беларусы. які да гэтага часу амаль не праяўляў сябе або. дакладней, не даваў моцна аб сабе знаць. Мне здаецца, што наша літаратура, якая стала к таму часу дастаткова развітай, адчула гэта і пачала ўзмоцнена працаваць над тым, што яна спазнілася зрабіць раней, гэта значыць паказваць чалавецтву новы для яго народ. Натуральна, было б дарэмна прэтэндаваць на гістарычную праўдзівасць такіх разважанняў, але сярмяжная праўда ў іх ёсць.

Словам, літаратуры яшчэ пісаць і пісаць пра мінулую вайну, а беларускай — тым больш.

Усходнія раёны Беларусі былі вызвалены ад захопнікаў увосень сорак трэцяга года. Вёску нашу перад гэтым спалілі карнікі. Мы перабылі гэты час ў лясах, слухаючы, як набліжаецца, грукочучы, фронт. Першае, што я ўбачыў у вёсцы, калі нас прывяла маці, — знаёмага яўрэя. Той сядзеў на пажарышчы з нашым дзедам, Ігнатам Міхайлавічам, і пра нешта гаварыў:

аказваецца, ён пакідаў перад эвакуацыяй на захаванне ў дзедавай клеці свае пажыткі, якія не мог узяць у далёкую дарогу, і цяпер на пажарышчы хацеў атрымаць іх назад…

Баі на Бесядзі працягваліся не доўга, здаецца, у тры дні ўсё было скончана, і армія рушыла далей на захад, нарэшце спынілася зноў паміж Сажом і Дняпром, а мы прыняліся будаваць на зіму зямлянкі, з якіх потым выбіраліся доўга і цяжка. У новую хату, напрыклад, наша сям'я перайшла толькі ў пяцідзясятым годзе. Бацьку мы з вайны да сябе не дачакаліся.

Я ўсім у жыцці абавязаны маці. Многім таксама абавязаны дзеду, Ігнату Міхайлавічу Кажанову. Быў ён чалавек моцны. пражыў каля ста гадоў, у апошні год жыцця касіў, умеў абіраць пчаліныя раі, славіўся ў наваколлі выдатным пасечнікам. Адзін раз на год уся вёска хадзіла да яго па мёд. і ён даваў яго без грошай. А між тым ледзь не пацярпеў у дваццаць дзевятым годзе за сваю руплівасць і стараннасць. Пачалося раскулачванне, і яго чамусьці накіравалі ў турму ў Магілёў, прытым гаспадаркі не кранулі, сям'ю таксама пакінулі ў вёсцы. «Насякомых» ён там пакарміў дастаткова. Сам пра гэта гаварыў. І ўвогуле любіў расказваць. як яму ўдалося адтуль выйсці.

Прыйшоў аднойчы ў камеру чалавек у пацёртай скуранцы, спытаў, хто і чаму сядзіць. Дайшла чарга да дзеда. «Кулаком палічылі», — сказаў яму Ігнат Міхайлавіч. «А што ў цябе ёсць у гаспадарцы?» — спытаў чалавек. «Тое і тое», — маўляў. «Дык які ж ты кулак? Па ўсім ты — серадняк. Ідзі ты дадому, стары». — І загадаў адчыніць дзверы камеры.

Ужо, лічы, перад самай смерцю Ігнат Міхайлавіч расказаў і пра нашу радаслоўную па сваёй лініі, якую, пэўна, я адзін цяпер і ведаю збольшага; ва ўсякім разе ні браты мае, ні сёстры пра яе доўга не здагадваліся. Можа, таму, што не ў модзе. Аказваецца, прадзед яго быў незаконным сынам мясцовага пана Г-га. Я потым прасачыў па архіўных дакументах, адкуль узяліся ў нашых краях Г-кія. Выяснілася, з часоў князя Пацёмкіна, якому дасталося Крычаўскае графства пры першым падзеле Рэчы Паспалітай. Святлейшы прадаў некалькі вёсак з мужыкамі ў сваім графстве маладому афіцэру. Пры гэтым амаль нечакана.

Пра гэты кур'ёзны выпадак ёсць у кнігах і няма патрэбы расказваць. Але радаслоўную сваю ўсё ж варта прывесці тут. Паўтараю, яна вядома мне толькі са слоў дзеда, як сямейнае пытанне. Дык вось, служыла ў Г-кіх пакаёўкай прыгожая дзяўчына, родам, здаецца, з вёскі Віхолка, што непадалёк ад Краснай Гары, якая называлася раней Паповай. Гэта на Браншчыне. Звычная справа панам — спакушаць маладых сялянак. Так і з'явіўся на

свет мой прашчур, названы Іванам. Не кожны памешчык трымаў у сваім доме пазашлюбных дзяцей. Аддалі і маленькага Івана на выхаванне ў Вялікі Бор, напэўна, спраўнаму мужыку. Там ён і вырас. Праўда, доўга не жыў, хоць і паспеў ажаніцца, узяўшы жонку сабе з мястэчка Саматэвічы. Быў у іх сын. А ў таго свой сын, Міхалка, мой прадзед.

Звычайная прыгонная гісторыя. І як быццам не да твару шукаць родзічаў у «тым баку», аднак недарэмна кажуць — з песні слова не выкінеш.

Пасляваеннае жыццё ў нашых пясчаных, неўрадлівых мясцінах было цяжкае. Ды яно, як высветлілася для мяне потым, і ўсюды не песціла людзей. Ніяк не выходзіць з галавы шмат гадоў, напрыклад, такая карціна: ужо студэнтам універсітэта прыязджаю ў вёску на зімовыя канікулы і бачу, як выносіць з паўпустой хаты падатковы інспектар за нядоімкі нашу швейную машынку… Пра тое жыццё ў мяне напісана нямала апавяданняў. Яны выдаюцца часта, і я іх употай люблю, калі правамерна гаварыць так. Ёсць і п’еса «Дзівак з Ганчарнай вуліцы», пастаўленая ў адным з тэатраў Мінска. Але пісаць пра яго, пра тое жыццё, усім нам яшчэ трэба шмат, каб не толькі праўдзіва адлюстраваць, а і «перапісаць» дрэнныя кнігі, якія ляжаць дарэмным грузам на стэлажах бібліятэк. Увогуле-то, у прынцыпе, нельга наноў ні вайну первояваць, ні жыццё па-іншаму пражыць, а з кнігамі варта нешта падобнае рабіць. Бо акрамя Фёдара Абрамава ўспомніць тут па-сапраўднаму мала ёсць што.

Сямігадовую школу я закончыў у сорак дзевятым годзе. І далей вучыцца не імкнуўся, таму што школ сярэдніх у раёне было мала, здаецца, усяго дзве. Думалася ўладкавацца ў жыцці іначай. Але маці настаяла, каб я нёс атэстат у Саматэвічы, за восем кіламетраў. Яна сама павяла мяне туды і сама гаварыла з дырэктарам школы. Той прыняў мяне ў восьмы клас ужо звыш спіса. Затое вучыўся я і там старанна, хоць і не хапала часу на ўрокі — паспрабуй, адмерай за дзень па восем кіламетраў туды і назад, ды яшчэ ўвосень, басанож прахалодную Бесядзь, ды адзін: але вось што суцяшала ў дарозе — ні ваўкі, ні вясковыя зладзеі мяне ніколі не кранаалі, ведалі, як кажуць, у твар.

У аўтабіяграфіях звычайна пісьменнікі ўспамінаюць, як пачыналі пісаць. Вершы я пачаў друкаваць у газетах у сярэдняй школе. Прозу — пазней. Мне, пэўна, пашанцавала з прыкладам — у Саматэвічах нарадзіўся і правёў дзіцячыя гады вялікі савецкі паэт Аркадзь Куляшоў. Чытаючы яго вершы, паэмы, я раптам сапраўды зразумеў, што гаршкі не багі абпальваюць, вельмі ўжо моцна была прывязана творчасць Аркадзя Аляк-

сандравіча да родных мясцін, быццам ён увесь час хадзіў з тапаграфічнай картай сярод знаёмых людзей уздоўж Бесядзі, ад вытокаў яе да вусця. Гэта вучыла мяне разумець літаратуру і надавала смеласці пісаць самому. Цяпер я хаджу са сваёй «тапаграфічнай картай» па тых мясцінах.

Вядома, што часцей я пішу пра мінулую вайну. Менш даводзіцца кранаць сучасную тэму. І ўвесь час нашу ў душы намер напісаць раман з далёкай гісторыі. Цяпер гэта ўжо пэўна — калі ўдасца ўзяцца за работу, то ў цэнтры падзей у рамане паўстане кіраўнік народнага паўстання ў першай палове васямнаццатага стагоддзя Васіль Вашчыла. Да нядаўняга часу пра яго мала было вядома ў гістарычнай літаратуры. Нават у нашай нацыянальнай энцыклапедыі сказана толькі наступнае: «Вашчыла Васіль (г. н. і см. невядомы), кіраўнік антыфеадальнага паўстання сялян Крычаўскага староства… У канцы 1743 года ўзначаліў узброенае паўстанне сялян… У бітвах пад Крычавам і в. Царкавішча войскі Радзівіла разбілі дрэнна ўзброеныя сялянскія атрады і жорстка расправіліся з паўстанцамі. Вашчылу ўдалося вырвацца з рук карнікаў і ўцячы ў Украіну. Далейшы яго лёс невядомы». Цяпер я маю следчую справу Вашчылы, якая вялася ў Кіеве. Яна праляжала ў архіве роўна 240 гадоў, да яе аж да апошняга часу не дакранаўся ніводны гісторык. Вось ужо праўду казаў паэт, што мы лянівыя і нецікаўныя. Відаць, гэтае даўняе пушкінскае выказванне сёння найбольш датычыць пакуль нас, беларусаў…

Вядома, адной следчай справы для буйнога гістарычнага твора не хопіць. Спатрэбіцца яшчэ нямала працы, каб дасканала вывучыць і наблізіць былую эпоху, затуманеную і часам і чалавечай абыякавасцю. Але вяртаць былую эпоху — гэта ўсё роўна, што падымаць з марскіх глыбіняў даўно патанулыя караблі: і абшыўка трашчыць, і перакрыцці ламаюцца…

І тым не менш літаратура павінна і абавязана вяртацца да памяці пакаленняў. І ўвогуле — у нашых шматлікіх размовах пра сучасную літаратуру мы неяк, вольна ці міжвольна, звужаем паняцце сучаснасці. спрабуючы ўціснуць яго ў храналагічныя адрэзкі гістарычнага часу і забываючы пра тое, што існуе яшчэ час мастацкі. А гэта куды шырэй, бо ў кожным чалавечым лёсе існуе нябачна, але даволі адчувальна тая жывая ніць, якая спалучае ў адно розныя часы. Чалавек жыве не толькі цяперашнім, ён жыве і перспектывай будучыні, і памяццю мінулага.

Чалавечае жыццё складаецца з ланцуга падзей, вялікіх і малых. Некаторыя з іх нават не заўсёды можна лічыць фактамі жыцця, нягледзячы, што і яны нейкім чынам закальцаваліся на яго дрэве. Сабраць і асэнсаваць усе іх самому немагчыма. Таму

ў першым маім успаміне і атрымалася. як я адчуваю, несуразмернасць звенняў у гэтым ланцугу.

Відаць, меў падставу Л. М. Талстой, які падзяляў жыццё чалавека на сямігоддзі, дакладней, сваё жыццё так дзяліў, кажучы пры гэтым, што «адпаведна сямігоддзям цялеснага жыцця чалавека, якія прызнаюць нават і некаторыя фізіёлагі, можна ўстанавіць і сямігоддзі ў развіцці жыцця духоўнага». У мяне такіх адрэзкаў было пакуль сем. Пагадзіцеся, няшмат. Два сямігоддзі пайшлі на вучобу. Адно — на дзяцінства. Астатнія — на работу. Напісаў манаграфію пра добрага чалавека. этнографа і фалькларыста Нікіфароўскага; выдаў тры раманы, некалькі кніг апавяданняў, публіцыстыкі і крытыкі; прымаў удзел у стварэнні шасцісерыйнага тэлевізійнага мастацкага фільма «Руіны страляюць…». Прайшоў і праехаў шмат вялікіх і малых гарадоў; бачыў мноства рэк. такіх, як Ніягара, Гудзон, Вісла, Дунай, Днепр, Амур і Усуры… Стаяў на беразе трох акіянаў. Абляцеў вакол за два пазы ледзь не ўвесь зямны шар. Пры гэтым амаль кожны год прымушаў сябе паспяваць і ў свой Вялікі Бор, зірнуць на чыстую Бесядзь, якую некалі ў восеньскую сцюжу пераходзіў басанож. Цяпер яе ваду замуціў Чарнобыль… А ў Вялікім Бары аднаго цэзію ляжыць у зямлі каля 15 кюры на квадратны кіламетр…

*1986*

## БАБРУЙСКІ КАЦЁЛ

Гэту назву я запісаў толькі 23 сакавіка. Прыходзіла яна павольі, у ходзе ўсёй перадвыбарчай кампаніі, але з’явілася ў галаве няйначай па асацыяцыі з падзеямі, якія разгортваліся тут у 1944 годзе ў аперацыю «Баграціён»…

Канешне ж падзеі не сумяшчальныя, і назва сапраўды паходзіць толькі ад знешняй асацыяцыі. Можна было б назваць нататкі зусім проста — «Як выбіраўся…».

Я нічога не мяняў у нататках. Толькі нанава прачытаў, каб паправіць скарапіс, звычайныя памылкі ды выкінуць паўторы, якія амаль непазбежныя ў дзённікавым жанры.

*9 сакавіка.*

Прыехаў у Бабруйск. Мала што змянілася ў гэтым краі з лютага па сакавік. Можа, толькі лапікі снегу ў палях выклікаюць новыя ўражанні…

Зіма сёлета сапраўды сіроцкая.

У Бабруйску вылучылі мяне кандыдатам у народныя дэпутаты СССР. 26-га адбудуцца выбары. А цяпер — перадвыбарчая кампанія.

Акруговы сход праходзіў яшчэ ў мінулым месяцы, 10 лютага. Жадаючых стаць кандыдатамі ў дэпутаты набралася тады, здаецца, чалавек шэсць. Адзін рабочы сам адпрасіўся, а пяцёра, у тым ліку я, галасаваліся. Дзевяцьсот чалавек вырашалі кандыдацкі лёс. Праз тайнае галасаванне прайшлі двое.

З акруговага сходу найбольш запомнілася атмасфера непрымання «чужога», нават знаёмыя партыйныя работнікі пазбягалі трапляць насустрач. Яшчэ — стрыманыя твары старэйшых людзей, разгарачаныя — у моладзі, якая гатова была гэтаксама глядзець на цябе, каб нават раптам распрануўся ды пачаў танцаваць на сцэне. Дзіўна, але беспадстаўных абяцанняў, на якія надзвычай здольныя некаторыя кандыдаты, найбольш жадала якраз маладая частка прысутных у аўдыторыі. Увесь час бянтэжыў мясцовы шавінізм. Маўляў, навошта нам «чужы», будзем галасаваць за «свайго». А той «свой», намеснік генеральнага дырэктара аднаго з заводаў, вельмі ж удала падаграваў «страсці». Дакладней, не ён, а ягоныя прыхільнікі. Ва ўсялякім выпадку выбаршчыкі пачалі ўсміхацца мне, «чужому», толькі пад канец дня, пасля таго, як выступіў з так званай праграмай і адказаў на мноства пытанняў…

Прызнацца, калі б зараней ведаў, што з гэтымі выбарамі выпадзе столькі душэўнага напружання, нават непрыемнасцей, то не даваў бы згоды вылучацца. Па-першае, справа новая — сёлетнія выбары… пры вялікай галоснасці ды дэмакратыі, па-другое, нікому ты ў гэтай перадвыбарчай кампаніі непатрэбны…

Пачаў я гэтую перадвыбарчую кампанію ў Польшчы. Выступаў там на дзвюх сустрэчах з выбаршчыкамі. І вось цяпер такія сустрэчы пачнуцца ў Бабруйску.

І тады, 10 лютага, на сходзе, калі выступалі выбаршчыкі, і цяпер, з папярэдніх размоў з людзьмі, даводзіцца рабіць вывад, што Бабруйск вельмі абыякавы да словазлучэння «нацыянальная культура»… Здаецца, у гэтым сэнсе 573-я акруга самая цяжкая, можа, на ўсю Беларусь. Між тым канкурэнт мой (ці як гэта называецца цяпер) ужо даўно вядзе перадвыбарчую кампанію, да таго ж, як кажуць, па ўсіх правілах барацьбы; давераных асоб ён таксама падабраў па сабе; словам, баяздольная каманда… Раней мы гэты тэрмін ужывалі толькі ў дачыненні да выбараў за мяжой… А тым часам усіх нас усё жыццё вучылі быць сціплымі…

Першая сустрэча мая з выбаршчыкамі сёння — у канструктарскім бюро сельскагаспадарчага абсталявання. Канструктары — народ дапытлівы, пісьменны, у меру раззлаваны. І калі паслухаць іх, то нібыта галоўная праблема тут — як знішчыць бюракратаў. Я б і рады быў падказаць, як знішчаць іх, але не ведаю. Незнішчальнае племя яны! Да таго ж трэба адрозніваць бюракрата ад сумленнага прадстаўніка ўлады, кіраўніка завода ці ўстановы. Відаць, найменш бюракратаў цяпер у сельскай мясцовасці. Там людзей проста дзеляць на добрых і дрэнных. Прынамсі, спрадвеку было ў вёсцы так.

Як я зразумеў, у гэтым канструктарскім бюро сярод праблем таксама такая — малыя аклады ў параўнанні з іншымі катэгорыямі работнікаў… Паўсюль чалавек імкнецца да адноснага дабрабыту… Таму амаль усеагульная раздражнёнасць супроць кааператываў.

Многія кааператывы сапраўды разбэшчваюць людзей і настаўляюць супроць улады…

Дзіва, але гэты раз нават у Польшчы, адкуль я вярнуўся на пачатку месяца, не адчувалася такой раздражнёнасці людской супроць існуючых парадкаў, як адчуваецца яна тут, у нас…

Учора, у жаночае свята, прыязджала дачка з мужам у госці да нас. Прывозілі Іванку. Нахадзіліся мы з ім па кватэры і намілаваліся! Бываюць жа светлыя плямкі ў жыцці!..

*10 сакавіка.*

Уранні, перад выездам у Глускі раён, В. Юшкевіч браў у мяне інтэрв’ю для мясцовых газет. Справа ў тым. што адным інтэрв’ю абысціся тут нельга — у кожным раёне свае праблемы: эканамічныя, нацыянальныя, экалагічныя і гэтак далей. Таму зрабілі праграмы асобна для кожнага раёна, якія ўваходзяць у Бабруйскую тэрытарыяльную выбарчую акругу.

Увесь час цяпер дарога. Усё новае, і да ўсяго трэба прывыкаць. Нядобрае адчуванне бывае, калі раптам прачынаешся ўначы ад шуму за акном і доўга цяміш, дзе гэта ты сёння…

Ужо свеціць сонца. Да паездкі заставалася трохі часу. І я пахадзіў па горадзе — уздоўж ракі, па магазінах… Нават пры гэтым сонцы дымна тут. Над горадам стаіць чадлівая смуга… А бабруйчане пытаюцца: што рабіць нам з гэтым? На 17 сакавіка тут, здаецца, склікаецца сесія гарадскога Савета па праблемах экалогіі. Добра было б, каб дэпутаты па-сапраўднаму паставіліся да праблемы і нарэшце запатрабавалі ад кіраўнікоў горада, ад

кіраўнікоў заводаў, прадпрыемстваў спыніць забруджваць горад, атручваць людзей.

У мяне сярод папер ёсць даныя Камітэта па ахове прыроды, якія прымушаюць трывожыцца за людзей…

З Бабруйска на Глуск ёсць карацейшая дарога, але мы падаліся па Слуцкай шашы, а тады недзе за Глушай павярнулі налева. Неўзабаве праз раку Пціч паказаўся Глуск. Па краях яго дымілі трубы фабрык, маслазавода… Мне чамусьці заўсёды думалася, што Глуск — гэта маленькае балотца на зямлі беларускай… Можа, уражанне такое засталося ад даўняга наведання яго, у часы, калі даводзілася адбываць студэнцкую практыку ў газеце «За Радзіму». Тады і дабірацца да Глуска было нялёгка. Ды і сам пасёлак быў вельмі несамавіты пасля вайны… Помню з таго руіны касцёла… Цяпер Глуск пасвятлелы, ёсць вялікія цагляныя дамы, а найперш звяртаюць на сябе ўвагу заасфальтаваныя вуліцы. Людзей тут жыве небагата, таму і мітусні на вуліцах, у магазінах не бачна. Вось калі ўжо ўвечары гараджане пайшлі ў кінатэатр «Арыён», дзе ладзілася сустрэча, у цэнтры стала людна. Пабывалі мы перад вечарам у кніжным магазіне. Шкада, што не знайшлося кніг, а то б няблага пагандлявалі імі ў пасёлку сёння.

Акрамя гарадской сустрэчы з выбаршчыкамі, была яшчэ сустрэча ў так званай лясной школе, калектыў якой вылучаў мяне кандыдатам у дэпутаты.

Многа было пытанняў і ў лясной школе, і ў кінатэатры. Парадавала выступленне мясцовай настаўніцы А. Марціновіч. Некалі, будучы студэнткай БДУ. яна пісала дыпломную па маіх апавяданнях.

Вячэралі мы ў Глуску. У рэстаране. Адразу, яшчэ з першага паверха, у вочы кінуўся прыгожы інтэр'ер. Месца ў рэстаране таксама хапала. І стравы на стол былі пастаўлены смачныя, асабліва дранікі. Але калі даведаліся, што ў рэстаран перароблена царква, апетыт адразу прапаў…

Касцёл у Глуску немцы разбурылі, царкву — час і людзі, а найперш іхняя нядбайнасць і яшчэ чортведама што!..

Паступова складваецца ўражанне, што многія людзі ставяцца да выбарчай кампаніі як да інтэркамедыі. Робяць сур'ёзны выгляд пры ўсім гэтым, а на справе… Бяжы , конік, пакуль не ўпадзеш… Альбо танчы сабе, танчы, а мы паглядзім…

Я меў намер уранні занесці ў гэты сшытак лічбы па экалогіі ў мясцовым рэгіёне. Але ж найбольш жахлівае тут, здаецца, бамбардзіровачная авіяцыя, што размяшчаецца на вайсковым

аэрадроме паблізу горада. Увесь час, як мы ехалі з Глуска, так званыя «бігфаеры» ўзляталі ў цёмнае неба і зноў з тым жа вялікім грукатам сядалі на зямлю…

*11 сакавіка.*

Сёння ў горадзе ўсё роўна як цемнавата. Хмары на небе,і брудная, як імжа, смуга над дахамі дамоў.

У суботу людзі дажылі да выхаднога дня, гэта як свята. Але я па сваіх дамашніх — па жонцы і дачцэ — ведаю, колькі выпадае на гэты дзень працы!.. Калі б ад мяне залежала, то ў суботу б забараніў праводзіць усялякія грамадскія зборы. Працуй, чалавек, па дому, раз у другі дзень не маеш магчымасці, адпачывай…

Можа, таму, што і іншыя людзі гэтак думаюць, на сустрэчу ў музычную школу бабруйчан прыйшло нямнога. Ды і арганізатары, відаць, не надта стараліся сабраць іх, дарма што нас пераконвалі, што інтэлігенцыя — а сустрэча была наладжана з інтэлігенцыяй — паваліць валам…

Было выступленне таксама і ў мастацкім політэхнічным вучылішчы. Тут дзейнічаюць нейкія сілы, якія звязаны з мінскім Народным фронтам… Адна бібліятэкарка проста спрабавала наладзіць абструкцыю… Маўляў, што вы ўсе адно разважаеце, час ужо да канкрэтнага пераходзіць, пара ўжо ўрэшце сказаць, што вы можаце даць тутэйшаму народу… У зале звычайна прысутнічаюць людзі розныя… Былі ў вучылішчы сёння і такія, якія гатовы былі падтрымаць абструкцыю (калі можна сказаць усё-ткі так). Але верх узяў канструктывізм… Эмоцыі былі прыглушаны, пачалася сур’ёзная размова.

У рэстаране ў Бабруйску працуе цікавы чалавек — Мадэст Вульфавіч. Я неяк у часе абеду разы са два пахваліў стравы. Тады і пачуў — дык іх жа задумвае і гатуе повар, які некалі карміў сталінскіх маршалаў! Сапраўды, Мадэст Вульфавіч аказаўся чалавекам вельмі цікавым, разумным і ласкавым.

Увечары, чамусьці ажно ў 20 гадзін, амаль нечакана паехалі на сустрэчу з выбаршчыкамі ў Гарбацэвічы.

І заўтра таксама вось гэтак — работа, работа… Цяжка, але ж была б гэта сапраўдная работа! А так — барацьба…

Дарэчы, з вясковымі людзьмі, з рабочымі гаварыць лягчэй — няма ў іх той бязмэтнай злосці, што скрозь выплёскваецца цяпер у асяроддзі так званых канторшчыкаў, якія завуць сябе інтэлігенцыяй. Я ўвесь час успамінаю бібліятэкарку з мастакоўскага політэхнічнага вучылішча… Гэтак не паважаць пісьменніка… Амаль ці не крычала: «Я ўсё роўна прагаласую за вашага супрацоўніка!» Хоць мы пасля сходу нібыта і паразумеліся з ёю ў

гаворцы на калідоры, але я так і не спытаў, чаму раптам у яе з’явілася амаль адкрытая нянавісць. Пісьменнік і кніга — гэта ж у ідэале яе, можна сказаць, любоў!..

Тутэйшае начальства ўвесь час хоча правесці сумесную сустрэчу, сумесны сход двух кандыдатаў у дэпутаты. Але чамусьці выбірае месца ў «маім раскладзе». Між тым практыкі сумесных выступленняў няма. Мы ж ужо «состязались» на акруговым сходзе!

*12 сакавіка.*

Перад тым як ехаць у Асіповіцкі раён, адбылася сустрэча з выбаршчыкамі ў вайсковай часці.

З вайскоўцамі таксама не цяжка адчуваць сябе. Афіцэры — разумныя, салдаты — дысцыплінаваныя, хоць у вялікай зале нібыта і нязручна было ім сядзець. Маладыя ж, няўрымслівыя. Начальнік палітаддзела пажартаваў з гэтага: яны, маўляў, лепей сябе адчуваюць у страі ды калі яшчэ на марозе.

К вечару кожны раз стамляешся. Нават змена краявідаў і новыя твары не здымаюць стомленасці. Ды і то сказаць — даўно я ў дарозе, спярша ў Польшчы, цяпер вось тут.

Газеты чытаць не паспяваю, радыё няма калі слухаць, нават тэлевізар, які стаіць у пакоі, мала ўключаю.

Думаць надта таксама няма калі — адно прыстасоўваешся ўвесь час да новай аўдыторыі, да новых людзей і па ладу жыцця, і па прафесіі, і па псіхалогіі.

Тым жа часам за межамі Бабруйскага, Асіповіцкага і Глускага раёнаў штосьці таксама адбываецца!

Дамашнія на маю барацьбу за дэпутацтва глядзяць абыякава. Магчыма, нават не спачуваюць. Зрэшты, можа і так быць, што ўзводжу я сваёй гэтакай падазронасцю на іх дарэмшчыну…

Аказваецца, большая палова вайсковых выбаршчыкаў маіх сапраўды знаходзіцца ў Польшчы. Шкада, што не было магчымасці дабрацца да іх у нядаўнюю паездку. Думалася, што са штаба групы войск хтосьці прыедзе ў Беласток ці ў Варшаву ды забярэ мяне, але ніхто пра гэта не паклапаціўся. Тым часам мой канкурэнт нібыта скрозь пагойсаў па тамтэйшых гарнізонах. Ён і тут не прапускае ніводнай магчымасці, каб паказацца ў людным месцы.

У вайскоўцаў таксама свае праблемы. Гэта адчувалася і па тых пытаннях, якія яны задавалі на сустрэчы ў гарнізонным Доме афіцэраў, і па размовах адзін на адзін. Праблемы, праблемы, праблемы… Хто вырашаць іх будзе? Спадзявацца толькі на дэпутатаў?

Дзіўна, але на выканаўчыя, партыйныя органы скаргаў мала. Скаргі на жыццё ўвогуле, на праблемы ўвогуле і на нейкае начальства ўвогуле, якое не хоча ісці насустрач народу, не спяшаецца ладзіць для яго добрае жыццё. Таму іншы раз складваецца ўражанне, быццам хтосьці сапраўды знарок перашкаджае ўсталяванню нармальнага дабрабыту, значыць, ажыццяўленню эканамічнай рэформы, аграрнай праграмы і гэтак далей.

Цікава, калі людзі нарэшце самі зразумеюць, што яны на самой справе яшчэ не гатовы да гэтакай галоснасці, да гэтакай дэмакратыі.

Адвучыліся мы размаўляць з людзьмі, не ўмеем пытацца ў людзей. І, пэўна, не хутка навучымся.

Па дарозе ў Асіповічы паказалася сонца. За Бабруйскам яно зыркае і ласкавае.

На палях ужо моцна зелянее рунь.

Лясы наўкол яшчэ ціхія, але, здаецца, падрыхтаваліся да вясны. Неўзабаве набрыняе жыватворнымі сокамі зямля, і тыя памкнуцца ўгору па дрэвах і травах.

Між тым на рэках сёлета даўно няма лёду.

Што будзе далей з вясной, затым з летам?

Нязвыклую пагоду сёлетнюю дасведчаныя людзі тлумачаць надзвычайнай актыўнасцю сонца, нібыта падобнае не здаралася ўжо гадоў дзвесце.

Не ведаю, ці занатавана ў сшытку, аднак жа ўчора на сустрэчу з творчай інтэлігенцыяй з'явілася мала творцаў… На пустых месцах шмат дзе бялелі лісткі маёй праграмы, дарэчы, якая надрукавана дужа дрэнна. Па-мойму, выбарчыя кампаніі прайграюцца з-за дрэнна надрукаваных праграм…

У Асіповічах апеку ўзяў нада мной першы сакратар гаркома. Між тым часцей і часцей прыходзіць у галаву думка, што ўсё будзе залежаць ад людзей, асабліва ад старых, якія наўрад ці ўцямяць сабе ўрэшце, за каго ўсё-ткі трэба галасаваць і як паводзіць сябе з бюлетэнем — каго выкрэсліваць, каго пакідаць, і ўвогуле, ці трэба брацца за аловак…

На паваротцы ў Асіповічы я ўспомніў. як шукалі мы калісь з шафёрам адсюль дарогу на Ялізава. Там гарком збіраў чарговы семінар партыйных работнікаў, і мяне папрасілі выступіць перад імі, расказаць аб літаратуры, культуры… Але ж дакладную дарогу мы тады ўсё ж знайшлі.

Вечар у Асіповічах праходзіў у Доме культуры. Дом стары, не дужа ўтульны, аднак народу сабралася многа, месцы былі заняты.

Каманда майго канкурэнта па выбарах ужо следуе за мной паўсюль. Збівае групы ў зале, наладжвае абструкцыі. прысылае амаль абразлівыя запіскі, якія напісаны паўсюль — і ў Глуску, і ў Бабруйску, і ў Асіповічах — адным почыркам.

Прычапіліся нейкія маладыя людзі да Міхаіла Міхайлавіча Анікеева — маўляў. чаму тут, на сустрэчы з Чыгрынавым, людзей многа, а ў Дараганаве, дзе выступаў ягоны канкурэнт, было не так многа. Дзівакі! У Гарбацэвічах я выступаў амаль пры пустой зале.

*13 сакавіка.*

Уначы балела сэрца, доўга не спалася. А тым часам мае давераныя асобы разам з гаркомамі. райкомамі праграму выступленняў ускладняюць і ўскладняюць. Ужо няма калі падыхаць на поўныя грудзі. Канечне, кандыдат у дэпутаты па цяперашнім часе павінен дайсці да кожнага выбаршчыка. Але як? Якім чынам? Для гэтага неабходна адводзіць на перадвыбарчую кампанію не менш паўгода. Патрэбны таксама сродкі. А на іх дзяржава не дужа шчодрая. Акруговыя камісіі падказваюць кандыдатам — прасіце ў тых калектывах, дзе вас вылучалі. А што будзеш прасіць у школы, у тэхнікума ці маленькай фабрыкі?

Па тры выступленні ўдзень — гэта замнога. Урач у бальніцы, жанчына, мне колісь сказала, прачытаўшы ў газеце, што і я выбіраюся: «Навошта гэта вам, Іван Гаўрылавіч?»

Сёння за вокнамі даўно ўжо грукоча горад. Але калі быць дакладным, то ён зусім мала калі засынае. Такое ўражанне, што аўтамашыны тут гойсаюць уначы нават больш, чым удзень, быццам тут сапраўды патаемнае начное жыццё.

Учора мне расказалі. як канкурэнт дабраўся ў Польшчу. Аказваецца, з генералам, што праходзіць у Бабруйску па нацыянальна-тэрытарыяльнай акрузе, паляцелі туды разам на вайсковым самалёце. Таму вайскоўцы ў Польшчы не сустрэлі мяне ні ў Беластоку. ні ў Варшаве, дарма што была папярэдняя дамоўленасць. Выходзіць, усё проста — навошта быў трэці там?

Ай і людзі, ай і норавы! Як хутка змаўляюцца яны дзеля свае справы! Бачыце, генералу патрэбны галасы ў Бабруйску, дык чаму не дамагчыся іх такім чынам?

Урэшце я пераказваю тое, што пачуў. А як яно на самой справе, пакажа час.

З даверанай асобай (бачыце, як гучыць!) М. Сальнікавым мы наведаліся сёння на фабрыку мастацкіх вырабаў.

Фабрыка невялікая. Вырабляюць на ёй шмат чаго, дакладней, шыюць, плятуць: прыгожыя сукенкі, кашулі; плятуць з суровых нітак адмысловыя сувеніры ў разнастайным выглядзе, пачынаючы ад конікаў… У Бабруйску фабрыка мае свой магазін — філіял мінскай «Паўлінкі».

Пасля сустрэчы з выбаршчыкамі ў цэху — а тут таксама працуюць пераважна жанчыны, нават не пераважна, а толькі жанчыны — галоўны інжынер фабрыкі павадзіла па паверхах. Добра было б, каб і гэтую фабрыку неяк узяць пад апеку Фонду культуры…

Сёння я меў ужо трохі часу пагартаць мясцовую газету «Камуніст». Дагэтуль здавалася, што ўсё жыццё ў горадзе круціцца вакол кандыдатаў у дэпутаты, вакол выбарчай кампаніі. Так, гэта ёсць. Але ж у людзей, аказваецца (калі меркаваць па газеце), хапае тут і іншага клопату: у тэхнікумах адбываюцца чарговыя выпускі навучэнцаў, на заводах выпускаюць па плане прадукцыю, у гарадскім Таварыстве кнігалюбаў адбываецца канферэнцыя; на бюро гарадскога камітэта партыі абмяркоўваецца пытанне аб стане і мерах па ўдасканаленні ідэйна-выхаваўчай работы; у гарвыканкоме ідзе падрыхтоўка да сесіі па экалогіі і гэтак далей.

Што значыць — свае клопаты!.. Свае шоры!.. Асабліва калі не маеш часу азірнуцца навокал, пабачыць, што робіцца ў горадзе, на вёсцы…

У гэтай жа гарадской газеце, гэта значыць у бабруйскім «Камунісце», змешчаны такі вось сатырычны верш:

**Сябры**

За столік селі, заказалі
Салянку і з курэй булён.
І ўзялі лыжкі з нецярпеннем…
Вось падсілкуюцца, маўляў.
— Але ж, — заўважылі ў здзіўленні, —
Абед не з тых, як бачна, страў?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Быў у булёне пух курыны,
А ў салянцы — пара мух.

Дарэчы, я дасюль успрымаў тутэйшага Мадэста Вульфавіча за звычайнага, хоць і адмысловага кухара. А цяпер падказалі: ён — загадчык вытворчасці.

Сонца ўсё свеціць на вуліцы і свеціць. Але ўспомнілася раптам з учарашняй паездкі ў Асіповічы. Перад Домам культу-

ры стаіць бяроза, а з падрэзанай галіны капае бярозавік; увесь асфальт пад дрэвам мокры ад соку… Значыць, кляновік ужо адышоў. Цячэ бярозавік. А ў лесе, дзе мы спыняліся па дарозе ў Асіповічы, ніводнага карыта пад бярозамі. ніводнага слоіка, ніводнага цэлафанавага мяшэчка…

Я ўсё думаў, як пройдзе сённяшняя сустрэча ў Доме афіцэраў у Бабруйску. Выйшла проста: не мая была сустрэча з выбаршчыкамі, а сустрэча двух кандыдатаў. Так зладзілі гарком і акруговая выбарчая камісія гэтую сустрэчу…

Нарэшце за колькі дзён уключыў тэлевізар. Пачалася «Калыханка». Іванка, відаць, глядзіць яе ў Мінску. Вельмі ён стаў прыслухоўвацца да такіх рэчаў! Расце хлопчык!

Дзіўна, што нават пасля вячэры сёння ўдалося паглядзець праграму «Время».

*14 сакавіка.*

Шафёр сказаў, што дарогу ўчора, трынаццатага чысла, перабягала шмат кошак. Але не чорных. Звычайных, шэрых. Тым часам дзень прайшоў нармальна. Хваляванне было, вядома. Напрыклад, з-за таго, што выступленне перад выбаршчыкамі горада мясцовае кіраўніцтва (а ўзяла на сябе ініцыятыву нібыта акруговая камісія) наладзіла сумеснае. Не ведаю, можа, так і трэба паводзіць сябе кандыдату, што лезці ва ўсе шчыліны. Між тым на сустрэчы нічога страшнага не адбылося, асаблівых выпадаў каманда не зрабіла супроць мяне, хоць і ганіла праграму. Дый, нарэшце, канчаткова на тым сходзе высветлілася, што да мяне цікавасці ў бабруйчан цяпер больш. Аб гэтым можна меркаваць па пытаннях, колькі іх паступіла з залы і якія яны. У шуфлядзе маёй сабралася вельмі многа запісак, па якіх можна зладзіць якую хочаш сустрэчу, нават пісьменніцкую.

Учора сёй-той званіў з Мінска. Здаецца, толькі ў Вярхоўным Савеце БССР мяне чакаюць пільныя справы. Адтуль увесь час звоняць і дамоў, і ў Фонд культуры.

Газеты мясцовыя — і гарадскія, і раённыя — часам змяшчаюць сёе-тое на сваіх старонках пра кандыдатаў. Але ў Бабруйску на першых старонках часцей з’яўляецца канкурэнт…

Найбольш мяне бянтэжыць тут, у гэтым горадзе, глухая абыякавасць да культуры. Дзівакі! Думаюць, наядуцца да самай дыяфрагмы і шчасця дасягнуць!..

Учора адзін чалавек з узнагароднымі планкамі на грудзях так і сказаў мне: хто вы — матэрыяліст ці ідэаліст? На дадзеным этапе, сказаў я, ідэаліст, насуперак марксізму, бо людзей ратаваць

трэба ад бездухоўнасці, бескультур'я і гэтак далей; ратаваць трэба людскія душы.

Кажуць, што Адамовіч[1] назваў неяк Беларусь «Вандэяй». Але ж калі і ёсць дзе ў Беларусі Вандэя, то ў Бабруйску… Культурная.

Учора я сустрэў тут С. Карпава, былога дырэктара тэатра імя Дуніна-Марцінкевіча. Некалі з ім моцна расправіліся — на калегіі Міністэрства культуры, дзе я таксама членам, разглядалася пытанне аб становішчы ў гэтым тэатры; члены калегіі ўзялі бок галоўнага рэжысёра Каваліка, а, відаць, дарэмна. Ва ўсякім выпадку ў цяперашняй размове з Карпавым я недзе зразумеў, што мы тады на калегіі паддаліся эмоцыям і не зусім правільна паступілі. Але ж дзе быў да таго сам Карпаў? Чаму не падышоў, не расказаў аб сапраўднай сітуацыі ў тэатры? Падыходзіў жа яго сапернік, галоўны рэжысёр!

Цяпер Карпаў без работы. Хоча ўладкавацца дырэктарам Дома культуры на шынным камбінаце. Трэба неяк памагчы яму ў гэтым і мне, раз ужо я ў горадзе тут і сустрэў яго.

Між тым у бабруйскім тэатры справы не наладзіліся. І спектакляў добрых няма, і парадку.

Даўно нічога не снілася ўночы. А сёння раптам убачыў, як капае з белага драўлянага язычка на бярозе сок…

Цікава, ці ёсць якія рэжучыя прылады ў шафёра? Варта было б пакаштаваць па дарозе бярозавіку.

Па тэлебачанні ўсе гавораць пра выбары, пра выбары… І ніхто дакладна не ведае, як іх праводзіць. У Камітэце абароны міру ўчора не дабралі ажно двух дэпутатаў. Ім належала выбраць на пленуме сем, а выбралі пяць. Затое ў савеце калгасаў было вылучана якраз столькі, колькі і належала па так званай квоце.

А мне сёлета выпадае выбраць ажно некалькі дэпутатаў — па акрузе ў Мінску, па Саюзу пісьменнікаў і па Фонду культуры. Канешне ж, недарэчнасць.

Я іншы раз думаю — запісаць бы сюды мае адказы на пытанні, што задаюць на сходах у пісьмовай форме альбо вусна. Нават цікава было б дастаць цяпер некаторыя запіскі з шуфляды стала ды рэстаўрыраваць адказы на іх. А можа, і варта зрабіць гэтак? Але ж дзе знайсці таго часу? Я гэтыя накіды пісьмовыя раблю замест адпачынку.

Па тэлевізары зранку перадаюць спектакль пра Мальера.

А тым часам цяперашняга арганізатара маіх выступленняў М. Ф. Сальнікава ўсё няма. Ведаць бы, што я вольны да абеду, з'ездзіў бы ў лес.

Сват у Старых Дарогах няйначай таксама чакае гэтыя дні мяне ў госці, бо ад Бабруйска туды зусім недалёка. Прынамсі, я абяцаўся прыехаць, ды ўсё не выберу акенца.

Адзін з герояў п’есы пра Мальера раптам сказаў цяпер вось:«Падман заўсёды ў пашане».

Ці не з’яўляецца аўтарам гэтай п’есы М. Булгакаў?

Выраз — класічны. Але ці заўсёды класіка мела рацыю? У кожным разе з гэтага поваду хацелася б паразважаць. І ў рэшце рэшт прыйсці да высновы, што ў падмане сапраўды штосьці заўсёды заключаецца такое, што часта яго лічаць ледзь не выратавальным сродкам, дарма што з’ява гэтая ўвогуле амаральная і ў асяроддзі сумленных людзей заўсёды павінна быць непрымальнай; яе трэба саромецца ўсім людзям; чым далей адыходзіць будзем ад падману адзін аднаго, грамадства, тым больш будзем станавіцца людзьмі. Я і ў гэтай вось цяперашняй выбарчай кампаніі хацеў найперш шукаць у чалавеку чалавечае, тое, што зрабіла яго homa sapiens іначай навошта было падавацца з прымітыву ў высокаарганізаваную істоту?

Тым часам у народзе кажуць і такое — на падмане далёка не паедзеш. Народ усё-ткі ў цэлым разумнейшы за адну, нават самую разумную асобу.

Сёння ўдалося пагартаць цэнтральныя і рэспубліканскія газеты. Жыццё віруе ў краіне. Ідзе падрыхтоўка да чарговага Пленума ЦК КПСС. У «Советской Белоруссии» змешчаны матэрыял з нарады ў Савеце Міністраў БССР па выніках чарнобыльскай катастрофы. Даныя «Советской Белоруссии» я выкарыстоўваў сёння ў выступленні ў політэхнічным вучылішчы шыннікаў імя Чарняка, Героя Савецкага Саюза, які здзейсніў свой подзвіг у мінулую вайну непадалёку ад Бабруйска.

Пасля таго як разышліся мае будучыя выбаршчыкі з залы, падышла адна жанчына, суровая з выгляду, усё роўна як злосная, сказала: «Да сённяшняга дня я збіралася галасаваць за мясцовага нашага чалавека, а цяпер буду за вас. Спадабалася мне, што вы шукаеце чалавечнае ў чалавеку». Мусіць, яна выкладчыца тут. Я не паспеў спытаць, бо пачалі падыходзіць іншыя кабеты і дзядзькі. Многа пакінуў аўтографаў на так званых вымпелах.

Сонца і сёння ўвесь дзень не ўтрымалася на небе. Яно вось гэтак і робіць — іншы дзень узыдзе, павісіць над зямлёй, а тады раптам пачынае брацца смугой, высокія і суцэльныя хмары паступова захінаюць яго… Да авіятараў, дзе сёння яшчэ трэба выступіць, давядзецца ехаць, здаецца, па дажджы.

Пазваніла сюды ў гасцініцу Людміла Прохараўна. Усе там нашы, у Мінску, жывыя-здаровыя. Іванка, сказала, чакае дзеда.

А можа, і праўда чакае. Усё-ткі ён сапраўды расце.

Заўтра пачатак цяжкой работы пасля абеду. Можа, пашанцуе выехаць на якую гадзіну з горада ў лес.

З М. Ф. Сальнікавым працаваць лёгка. Прынамсі, здаецца, лягчэй, чым з папярэднімі даверанымі асобамі.

Увечары зноў выпала магчымасць пасядзець перад тэлевізарам. Але па ім паказваюць толькі адну праграму — першую ўсесаюзную; кажуць, што ў Бабруйску ідзе таксама беларуская праграма, аднак мой апарат чамусьці не прымае яе.

Ужо колькі часу сяджу, а перадача ўсё пра Англію і пра Дублін. І я чамусьці ніяк не ўцямлю, у чым яе сэнс: што значыць — прапусціць галоўнае…

У гэтую хвіліну мэр Дубліна якраз гаворыць: «Я ўсё думаю, ці рушыла за апошні час чалавецтва наперад?»

Сапраўды, ці рушыла?

Але ж як спакойна, калі не дужа настаўляеш лакатарам вушы ды талопіш на ўсё вочы: у праграме «Время» сёння паказалі каля 40 кітоў, якія самі выкінуліся на бераг і паміралі… Шкада людзей, якія дарэмна гінуць, шкада таксама і жывёлін.

Заўтра ў Беларусі, паказвае тэлебачанне, тэмпература +5. +7.

А якая была сёння?

Пасля праграм «Время» і «Прожектор перестройки» паглядзеў мастацкі фільм «Адзінокі голас чалавека».

*15 сакавіка.*

«Чалавек, які ніколі не злуецца, — проста дурань. Чалавек, які здольны прымусіць сябе не злавацца дарэмна, — мудрэц».

Гэта напісана ў адной з газет. І далей у ёй змешчана такое: «Ніколі не збірайце ў сабе на людзей зла, нават калі яны зрабілі вам непрыемнасць. Зло падобнае пары, можа разарваць вас саміх».

«Шкадаванне аб страчаным дарэмнае».

«Кожны з нас штосьці страчвае на жыццёвым шляху. Мы павінны прывыкнуць да страт».

Няйначай мне таксама трэба прывучаць сябе да паражэння ў гэтых выбарах. Усё-ткі мясцовы шавінізм моцная рэч. У цяперашніх умовах ён амаль неадольны.

Трэба нарэшце ўсвядоміць, што акруга Бабруйская пакуль не для інтэлігентных кандыдатаў. Дарэчы, штосьці падобнае мне сказаў адзін чалавек у Асіповічах.

Вядома, сумна разумець гэта яшчэ да канца выбараў, аднак…

У сувязі з гэтым мяне пачынае хваляваць і вось якая акалічнасць: не перабольшыць бы выдаткі на выбарчую кампанію…

Мае памочнікі, здаецца, не зусім адчуваюць гэту маральную небяспеку.

А вось яшчэ адна згадка-выпіска: «Каго больш за ўсіх павінен хваляваць той факт, што кожны год у зямную атмасферу выкідваецца прыкладна 145 мільёнаў тон двухвокісу серы, 250 мільёнаў тон пылу, 70 мільёнаў кубаметраў газу, каля мільёна тон злучэнняў свінцу? Што да іх плюсуюцца дзесяткі тон фтористых і хлорыстых злучэнняў? Што больш за сто розных рэчываў ідэнтыфікаваны ў якасці забруджвальнікаў паветра, а многія з іх таксічныя?»

Якраз амаль аб гэтым увесь час і гавару тутэйшым людзям. Гавару і пра Чарнобыль, пра страшэнныя вынікі той нядаўняй катастрофы. Але ўспрымаецца ўсё як штосьці дужа далёкае, дарма што і верагоднае. Чарнобыльская радыяцыя для Бабруйска — не грозны вораг. Яна недзе там, далей.

Дарэчы, сонца сёння зусім не паказвалася. Гэта к таму, што я. здаецца,заўсёды гляджу ў акно — ёсць сонца на небе ці не. Неяк весялей становіцца чалавеку з сонцам. Асабліва калі чакаеш сапраўдную вясну.

Між тым сёння пакуль аніякіх тэлефонных званкоў, быццам ужо і работы няма, быццам ужо і выбары прайшлі…

Што ж, едзем за горад!

Думалася, што ў лесе будзе яшчэ ціха. Не пачуеш ані звера, ані птушкі. Нават вецер не парушыць цішыні, акурат як у той раз, калі мы спыняліся паўз лясной дарог'і ў Асіповічы.

З таго часу мінула ўсяго некалькі дзён. Але як перайначылася жыццё ў лесе. Загаманіла птаства, асабліва моцна падаваў голас юрок. Збіраюцца ў зграі крумкачы — лётаюць, крумкаюць па-вясенняму, няйначай бяруцца парамі, каб неўзабаве сесці на гнёзды.

На мурашніку пад сонечным угрэвам ляніва варушацца мурашкі. Вытыркаецца з зямлі сваімі вострымі макавымі галоўкамі сон-трава…

Бярозавік таксама цячэ… Прынамсі, за гадзіну па кроплі паступова з адной бярозы напоўнілася цэлая бутэлька. Але на смак ён не вельмі салодкі.

Ад шашы мы далёка не ад'язджалі. Але ў дзвюх вёсках, тым не менш, пабылі. Звычайныя бязлюдныя вёскі з вялікімі скірдамі дроў каля парканаў. На гародах сям-там ужо нацягнута плёнка на парніках.

Пасярод лесу, трохі воддаль ад вёскі, здаецца, Слабодкі. убачылі вялікія могілкі. Дакладней сказаць, яны займаюць вялікую плошчу. Але дагледжаныя магілы можна пералічыць

на пальцах. Там, дзе дагледжаны яны, ёсць сучасныя помнікі з прозвішчамі. Але скрозь — салдацкія ўдовы, якія дажылі да старых гадоў… Марыля Цыбулькіна ды Марыля Наздра, а далей — Ганна Парушкевіч…

Жахліва хадзіць па такіх могілках. Адразу прыходзіць думка — навошта тады чалавеку было ўвогуле жыць, калі пасля яго нават магілы надоўга не застаецца?

Няма каму жыць у вёсцы, няма каго хаваць на вясковых могілках…

Мне заўсёды было шкада салдатак, якія не дачакалі мужыкоў з вайны. Як жахліва ім, напэўна, жылося! Але цяжэй глядзець цяпер на іх адзінокія, нікому не патрэбныя магілкі…

Апошнім часам высунуты лозунг: зямля — сялянам! Дык, яна, гэтая зямля наша, сялянам была аддадзена ў выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі… Цяпер трэба ўжо думаць, дзе знайсці тых сялян, якія б узялі зямлю.

А мне ж даводзілася бачыць і добрыя фермы, і руплівых фермераў.

Стаіць сабе някепскі дамок пасярод палёў, каля яго гаспадарчыя пабудовы; у загоне — тэхніка; а каля ганка прыпаркаваны ўласны легкавы аўтамабіль; ад гэтага ж ганка асфальтаваная дарожка кіруецца да вялікай шашы; у дамку, тым часам, газ для кухонных патрэб і гарачая вада… Мый посуд, прымай душ, ванну пасля працы…

А мы хочам па-ранейшаму трымаць селяніна ў брудным кароўніку, у абы-якой хаце і гэтак далей. Нават пра грамадскую лазню не ўсюды паклапаціліся, не тое што пра гарачую ваду ў доме.

Дарэчы, сёння пачаўся Пленум ЦК КПСС па аграрным пытанні. Дойдуць там нарэшце да розуму ці не? Галоўнае, каб сродкі, якія будуць выдаткоўвацца на сельскую гаспадарку (будзем так гаварыць), калі-небудзь дайшлі да селяніна. Здаецца, у гэтым вырашэнне Харчовай праграмы.

Выступленні сёння былі на заводзе сельскагаспадарчага машынабудавання і ў адной з сярэдніх школ з мастацкім ухілам выхавання і навучання. Чамусьці ў Бабруйску скрозь за мной вандруюць эканамісты. Нават у школу адзін такі прыйшоў, усё дапытваўся, як я буду змагацца з каманднa-адміністрацыйнай сістэмай. Нарэшце і я спытаў яго: «А як вы змагаліся б, каб вас выбралі дэпутатам?» — «Грашыма, — адказаў ён, — не даў бы ёй грошай». Словам, скрозь канторшчыкі, якія цяпер займаюцца ў краіне вялікай дэмагогіяй. Між тым эканоміка наша «опрокинута» ў першую чаргу па віне эканамістаў, якія

блыталі людскія розумы, а разумнага падыходу да вырашэння эканамічных праблем давесці не здолелі… Мой канкурэнт па выбарах таксама эканаміст.

*16 сакавіка.*

Званіў з Асіповіч Я. Ф. Урублеўскі. Туды прыехалі памагаць мне выбірацца Д. Бугаёў і А. Пісьмянкоў. Што ж, няхай паагітуюць. А то мне ўжо ўсё гэта абрыдла.

Відаць, у Бабруйску цяжка захаваць аб'ектыўнасць… Мала пра мяне агітацыйнага матэрыялу ў горадзе, усё роўна як яго хаваюць ад выбаршчыкаў. Праўда, гэта можа толькі здаецца. Але ў гарком, у акруговую камісію паступаюць такія тэлефонныя званкі…

Хтосьці прынёс у гасцініцу штотыднёвік наш пісьменніцкі «Літаратура і мастацтва», а мне яго перадала прыбіральшчыца, жанчына, якая часта, калі выпадае хвіліна, размаўляе са мной. На першай старонцы партрэт і сёе-тое з праграмы… Хоць увогуле… Ці мае права ўсё, што мы, кандыдаты, спрабуем даводзіць сёння, дык ці мае права гэта называцца «праграмай»?

Хутчэй бы дамоў! Ужо нават давераная асоба майго канкурэнта ўчора ў школе ўзмалілася: «Хто прыдумаў гэты перадвыбарчы марафон? Хто кіруе ім?»

Сапраўды, мусіць, толькі ў 573-й акрузе гэтакае робіцца.

Прагледзеў нарэшце 10-ты нумар «ЛіМа». Усе старонкі там запоўнены клопатам пра культуру, пра гісторыю, пра мову… Тут, у Бабруйску, толькі пачынаеш пра гэта згадваць, як канторшчыкі пачынаюць чмыхаць… Адна экзальтаваная кабета крыкнула ўчора на заводзе: «Дайце нам спярша наесціся, пасля гаварыце пра культуру!» Я прыгледзеўся пасля да яе — не ўспомніць яна пра культуру нават пры моцным дабрабыце…

Да чаго дайшлі людзі ў век нявер'я!

Сёння ідзе дождж. Ён яшчэ вельмі патрэбны зямлі, якая даўно пазбавілася снегу. Лічы, яго сёлета зусім не было, таго снегу. А зямлі патрэбна вільгаць: і каб наталіцца, і каб ачысціцца… Вялікі кругазварот. Разумець бы яго той жанчыне з завода сельгасмашын… Нельга ўсё жыццё ўцякаць. Няважна ад чаго, але ўцякаць… У тым ліку і ад культуры. А тым больш свядома не прымаць яе альбо не дапускаць да яе.

*17 сакавіка.*

Здаецца, ужо ногі не хочуць хадзіць, а рукі пісаць. Нават, прызнацца, штаны часам баляць ад бясконцага сядзення то ў машыне, то на сцэне…

Сёння пятніца. Па-ранейшаму ідзе дождж. Як кажуць, не відаць ні неба, ні зямлі, дарма што дождж нагадвае звычайную імжу…

Па ўчарашніх выказваннях на сходзе ў Ялізаве адчулася, што ніхто яшчэ як след не пазнаёміўся з дакладам М. С. Гарбачова на пленуме па сельскай гаспадарцы. Усё яшчэ людзі пытаюцца ў кандыдатаў, як ладзіць далей аграпрамысловы комплекс, каб мець прадукты на стале. А можа, гэта проста ўсенародная гульня ў галоснасць, у дэмакратыю: маўляў, пагавары сам і тым часам дай пагаварыць мне.

Адзін пажылы выбаршчык доўга пытаўся: якія былі ленінскія нормы партыйнага жыцця, бо ленінізм дайшоў да нас у сталінскай інтэрпрэтацыі.

Сапраўды, з часу выхаду ў свет кароткага курса ВКП(б) прамінула ужо шмат гадоў, але схемы і догмы, якія ў ім знайшлі сабе месца, аказаліся надзвычай жывучымі. Але хто сёння вось так, без вялікай тэарэтычнай падрыхтоўкі па гэтым пытанні дасць вычарпальны адказ аб ленінскіх нормах партыйнага жыцця? Відаць, багата пройдзе часу пакуль ранейшую навалач свежыя вятры прагоняць…

Я ўсё-ткі сапраўды выбраў час наведацца ў Старыя Дарогі. Пастаяў каля сватавых вокнаў, паглядзеў, але чалавечага твару ў іх не пабачыў: і Таццяна Аляксандраўна і Ілья Яўменавіч недзе на працы.

Аказваецца, па дарозе з Бабруйска ёсць і Новыя Дарогі і Старыя Дарогі (гэта дзве вёскі), а ўжо затым пачынаюцца сапраўдныя Старыя Дарогі (горад).

Мне вось падумалася: дарэмна сярод маіх давераных асоб (а іх належыць кандыдату ажно дзесяць) няма эканаміста…

Зараз пайду абедаць, а тады — у Асіповічы, на кардонна-рубероідны завод.

Між тым на бабруйскіх заводах рабочых на сустрэчах амаль не відаць: усё тыя ж канторшчыкі…

Сакратар парткома на заводзе сельгасмашын сумна сказаў: «Рабочыя ж працуюць…» Але ім 26 сакавіка трэба будзе таксама галасаваць!.. Як ім тады разабрацца, за каго кідаць у выбарчую скрыню бюлетэнь?

А перадвыбарчы марафон, які хтосьці ўвесь час падганяе, працягваецца. Штосьці мне не верыцца, што тыя рабочы і начальнік рудніка, што балаціруюцца ў Старых Дарогах (партрэты іх наклеены скрозь па горадзе), таксама гэтак выступаюць па два разы, а то і па тры кожнага дня, сноўдаючы з раёна ў раён.

*18 сакавіка.*

Я ўжо, здаецца, казаў, што пад маімі вокнамі тут уваход у рэстаран і мінулую ноч нейкая кабета лямантавала там ледзь не да самай раніцы.

Па тэлевізары, між тым, нейкі вучоны расказвае ў гэты момант пра пчаліны мёд, пра яго лекавыя якасці…

У крэпасці вайскоўцы добра сустрэлі мяне. Зала была поўная.

З крэпасці па вялікім дажджы вярнуліся ў гасцініцу. Тут ужо чакала мяне Л. П. Дома ў нас усё добра.

Мінскія сябры жадаюць мне поспеху ў выбарах — усім жа цікава, што з гэтага ўсяго сёлета будзе.

У Гніламёдава ў «Сельской газете» тым часам парэзалі артыкул, тлумачачы, што пра аднаго кандыдата даваць артыкулы не рэкамендуюць. Трэба адразу пра двух. Але хто не рэкамендуе? Я ж не заводскі эканаміст, а пісьменнік, пра якога газеты і часопісы заўсёды змяшчалі артыкулы, рэцэнзіі, творчыя партрэты… Значыць, хтосьці ведае пра ўсе нашы планы, калі дарэчы такі выраз і ўплывае на ход выбарчых спраў у Бабруйску нават праз Мінск.

Пасля абеду ездзілі на сустрэчу з выбаршчыкамі ў Лапіцкі сельсавет, гэта на Асіпоўшчыне. Быў дождж, людзей сабралася небагата. Але там далучыліся да нас Д. Бугаёў і А. Пісьмянкоў.

Калі ўвечары лёг спаць, званіў у пакой гасцінічны нейкі добразычлівы выбаршчык, з ім размаўляла Л. П.: казаў, што ў горадзе амаль не відно агітацыйнага матэрыялу майго, паўсюды толькі Б.; дрэнна, на яго думку, працуюць мае давераныя асобы, — так чалавек сказаў.

Я толькі цяпер пачынаю разумець, што ад каманды ў такой справе шмат залежыць і недаацэньваць гэтага нельга: страты ўжо цяпер навідавоку.

Я. Ф. Урублеўскі расказаў, як праходзіць перадвыбарчая кампанія ў іншых акругах на Магілёўшчыне. Канешне, такой мітусні і знарочыстасці, як тут у нас, здаецца, няма нідзе, але ў Шклове адзін кандыдат у дэпутаты нібыта палохаў мясцовае начальства: «Як я — сірата, то мне ніхто не памагае, а як ён вялікі начальнік (гэта яго канкурэнт), то за яго ўсе; вось паеду да Генеральнага сакратара..» А на таго Генеральнага сакратара на самога народ наракае: маўляў, наладзілі ў сябе ў ЦК нейкія дзіўныя выбары; няхай бы да народа ішлі, няхай бы народ іх выбіраў; маўляў, спалохаліся народа… Нездаволена некаторыя гавораць і адносна таго, што «не перастаюць чапіцца да Ельцына…».

*19 сакавіка.*

Пасля двух дажджлівых дзён сёння зноў выбліснула сонца.

Прыехаў з Масквы В. Юшкевіч. Там, у СФК, выбралі народным дэпутатам СССР М. А. Савіцкага… Моцна супраціўляліся некаторыя сілы з Беларусі гэтым выбарам…

Нават тут да мяне запіскі прыходзілі: навошта Беларускі фонд культуры вылучыў Савіцкага кандыдатам у народныя дэпутаты?

Сёння я выступіў перад ветэранамі вайны і працы ў гарнізонным Доме афіцэраў, а таксама ў клубе (ён знаходзіцца на заводзе імя Леніна) яўрэйскага таварыства.

Часу пісаць не было.

*20 сакавіка.*

Здаецца, 20-е чысло — першы дзень у часе выбарчай кампаніі, калі я зранку не ведаю, што буду рабіць удзень. Парадак выступленняў па раёнах на гэты тыдзень (а зараз панядзелак) ці то яшчэ зусім не выпрацаваны, ці то не ўзгоднены паміж Бабруйскам, Асіповічамі, Глускам… Найменш, бачыце, даводзіцца выступаць у Глускім раёне… Увесь час мяне трымае ў сілавым полі Бабруйск, зрэдзь выпускаючы таксама ў Асіповічы, дзе перадвыбарчыя страсці, бадай, кіпяць не менш, чым тут. Там прыхільнікі другога кандыдата (а няхай і першага, па алфавіту) усё бяруць загрудкі райком, маўляў, Ч. ствараюцца ў раёне лепшыя ўмовы… Штосьці не адчуваю я іх, тых лепшых умоў.

Бабруйску 600 гадоў. Па такім узросце горад з насельніцтвам 300 тысяч чалавек павінен ужо быць сфарміраваны ва ўсіх адносінах. І тым не менш, акрамя вялікіх заводаў, якія варта, альбо закрываць з-за шкоднасці, альбо па-сапраўднаму рэканструяваць, гэты старажытны горад нічога, па сутнасці, не мае. Я з асаблівай пільнасцю пагартаў кнігу «Бабруйск», што выдадзена да гарадскіх угодкаў. Здаецца, пра ўсё ў ёй напісана — і пра гісторыю горада, і пра прамысловасць, і пра культуру, як яе разумеюць тут; успомнены людзі, якія адыгралі выдатную ролю; расказана ў кнізе таксама пра карысныя выкапні і прыроду; словам, здаецца, пра ўсё-ўсё. Аднак агульнага ўражання пра горад няма. Гісторыка-культурны воблік Бабруйска адсутнічае. Бадай, яно і на самой справе так. Раней мы шмат пацвельваліся з гэтага горада на Беразіне, як з яўрэйскай сталіцы. Але ж і яўрэйскай сталіцай Бабруйск не стаў. Нават яўрэяў цяпер тут не дужа людна. А храмаў іхніх зусім не відаць. Мясцовае яўрэйскае таварыства праводзіць сваю культурную работу ў клубе завода імя Леніна. Учора там удзень адбылася сустрэча Мінскага та-

варыства яўрэйскага, што адкрылася пры Беларускім фондзе культуры, з Бабруйскім яўрэйскім таварыствам Мінчане прывезлі сюды выдатны канцэрт: літаратурна-музычную кампазіцыю. Удзельнічалі ў ёй Рыгор Рэлес, выдатны яўрэйскі пісьменнік; таксама скрыпач, народны артыст рэспублікі Леў Гарэлік; узначальваў брыгаду, калі можна назваць яе так, Май Вульфавіч Данцыг, старшыня Мінскага таварыства і выдатны беларускі мастак, прафесар. На пачатку той сустрэчы далі слова мне, дзе я павітаў гэтую новую і, здаецца, вельмі канструктыўную па цяперашнім часе з’яву.

Літаратурна-музычная кампазіцыя была зладжана вельмі прафесійна і па змесце, і па форме. Мы з Л. П. праслухалі яе да канца. Склалася ўражанне, што яўрэям, калі будуць на тое спрыяльныя ўмовы, калі будзе, нарэшце, працягвацца перабудова, найхутчэй, чым іншым, удасца аднавіць сваю разбураную культуру: у іх моцны кадравы пласт, які цяпер працуе ў іншых культурах, але гатовы ўзяцца і за сваю. Многія яўрэі ў часе канцэрта сядзелі ў зале са слязамі на вачах. Вядома, старыя. Але было на сустрэчы нямала моладзі, нават дзеці. І адзін маленькі яўрэйчык павітаў артыстаў на сваёй мове…

Між тым Л. П. прывезла з сабой з Мінска табліцу маіх біярытмаў. Недзе яна зрабіла такую табліцу. Дык па гэтай табліцы на гэтым тыдні ў мяне самы нізкі ўзровень інтэлектуальных сіл, але патрохі павышаецца фізічны тонус і эмацыянальны… Стан інтэлекту лічбы сапраўды паказваюць самы нізкі. Крытычныя дні ў гэтым месяцы, здаецца, мінулі ўжо, аднак трэба асцерагацца 25 сакавіка, 29-га і асабліва 30-га.

Верыш ва ўсё гэта альбо не верыш, аднак пры такім жыцці, якое цяпер у мяне, насцярожвацца мусіш…

Думаў я, што апошні тыдзень перад выбарамі прынясе палёгку. Але дзе там. Толькі што паказалі графік выступленняў да 25 сакавіка, і ў маіх вачах зноў пацямнела. Добра, што хоць сёння не вялікая загружанасць у гэтым сэнсе.

Маіх партрэтаў на выбарчай акрузе няма. Усё другі кандыдат. Яго каманда апантана прагне перамагчы. Ну, а далей што? Свежыя кандыдаты ў дэпутаты яшчэ не ўяўляюць сабе адказнасці, якая настане потым: паабяцаць і не выканаць — гэта страшней за ўсё. Тады дэмагогію людзі ў разлік не возьмуць.

Паказалі мне сёння «Сельскую газету», дзе была зроблена кастрацыя артыкула У. Гніламёдава. Некаторым дужа хочацца зраўняць усіх. Такой непавагі да сябе як да пісьменніка я яшчэ, здаецца, не сустракаў…

Над горадам стаіць смуга, але сонца патроху разганяе яе.

Сёння панядзелак, тэлевізар маўчыць. Беларускай праграмы я даўно ўжо не бачыў. Ды і тое сказаць — перадачу пра мяне камітэцкае начальства не дазволіла стварыць…

Пахадзіў трохі па горадзе: дзень светлы, зрання яшчэ прахалода пануе на вуліцах. Шмат у якіх магазінах прадаюць добрых атлантычных селядцоў, таксама марожаную рыбу; па кааператыўнай цане лёгка купіць тут каўбасу; ёсць на лядах яблыкі; казаў хтосьці раней мне, што вокам не ўбачыш у Бабруйску такія прадукты, як маянэз; ёсць сёння ў прадуктовых магазінах і маянэз; ляжаць пад шклом куры, свежыя галовы; шмат markрознага печыва… І шмат разам з тым незадаволенасці. У чарзе людзі бурчаць… Пэўна, час такі настаў, што без гэтага не абысціся: доўга ж, вельмі доўга маўчалі!.. Адсюль і незадаволенасць, цяперашняя ўсямодная — і ранейшым, нават зусім даўнім, і сучасным… Учора была адна запіска да мяне ў часе сустрэчы: дзе кормяцца члены гаркома?

Але ж нямала незадаволенасці на кіраўніцтва, на стан рэчаў дарэмнай. Часам незадаволенасць гэта выяўляецца па прынцыпе: бачыш воўка ці не ў аблаве, але ўсё роўна крычы — ату яго!

Над уваходам на выбарчыя ўчасткі паўсюды чырвоныя палотны: 26-га ўсе на выбары. Але маіх партрэтаў, ну тых, што надрукаваны на самаробных плакатах, на вуліцах няма. Дарэчы, як няма партрэтаў і таго генерала, што балаціруецца па нацыянальна-тэрытарыяльнай акрузе…

Сёння я на паўдня пакінуты маімі памочнікамі сам-насам. І, ведаеце, няблага пачуваеш сябе ў такім стане.

Думаю, што асноўны стрэс настане 27 сакавіка (а можа, яшчэ і 26-га, цяпер жа падліковыя камісіі пачынаюць працаваць рана). А там — новае жыццё! Галоўнае — не паддацца зноў якой-небудзь спакусе, што часцей не ад цябе нават залежыць… Пара аддацца цалкам пісьменніцкай справе. Нават ад работы ў Фондзе варта патроху вызваляцца. А то я думаў, што хоць тут мая работа па-сапраўднаму будзе ацэнена так званай грамадскасцю. Ды дзе там? Адзін шыз увогуле аб’явіў галадоўку, пакуль я ездзіў з Я. Вайтовічам ды У. Гілепам па Польшчы.

Няйначай хтосьці хоча мець надзейную ўстанову, пячатку, рахунак, бланкі і гэтак далей. Таму рвецца да ўлады ў Фондзе, дэстабілізуючы ў ім абстаноўку, якая дасюль была спакойная і канструктыўная.

Але ж да стваральнай працы ў нацыянальнай культуры неабходна быць падрыхтаваным. Многія з нас далёка не канструктыўныя людзі і па сваёй прыродзе, і па светапоглядзе, многія з нас — дэструктыўныя, вельмі хочацца сяму-таму адпомсціць

суседу ці знаёмаму іа свае няўдачы ў жыцці; замест таго, каб увесь час насіць усярэдзіне злосць ды хаваць яе да пары да часу, трэба працаваць, працаваць сціснуўшы зубы. Няма вялікага без гэтага малога — паўсядзённай працы, якая можа выяўляцца ў розным выглядзе, у розных формах.

Пішу гэта і лаўлю раптам сябе на думцы — ці не станаўлюся вось такім чынам яшчэ адным маралізатарам?

Але чым жыве сёння свет? Газет у кіёсках купіць не ўдалося. Тэлевізар чалавечага голасу таксама не падае, толькі трашчыць сабе. І я ўсё не маю магчымасці спытаць у мясцовага кіраўніцтва — як прайшла сесія гарадскога Савета па экалогіі? Праблем жа ў Бабруйску шмат!

Сустракае мяне ўвечары на вуліцы незнаёмы чалавек, усміхаецца як трэба, тады пытае: «Вы, таварыш Чыгрынаў, яшчэ ў Бабруйску?» — «Так», — адказваю я. «Дарэмна вы марнуеце час. Ехалі б дамоў, бо ўсё роўна не пераможаце ў нас. У нас тут свой патрыятызм». Дзіва што! Мясцовага шавінізму тут сапраўды даволі, бо патрыятызм без сапраўднай культуры не бывае.

Няйначай чалавек прысутнічаў на нейкім сходзе, дзе я выступаў, таму пазнаў на вуліцы. Аднак мог бы і змаўчаць на ноч.

Тым часам можна падумаць і так: мне іхні мясцовы патрыятызм не падабаецца, тым больш што на гэта ёсць прычына, але ж і ім, бабруйчанам, наўрад ці спадабаецца, як прачытаюць некалі пра маё вызначэнне іхняга патрыятызму: мясцовы шавінізм.

Выступаў я сёння ў цэху Бабруйскай швейнай фабрыкі імя Дзяржынскага. Мае памочнікі тым часам прыехалі з завода сельгасмашын: аказваецца, тут амаль у гэты ж час выступалі ажно два кандыдаты у дэпутаты — генерал і намеснік дырэктара завода.

Цяпер я канчаткова пераканаўся, чаму мяне не сустрэлі ў Польшчы на вакзале вайскоўцы. У Паўночнай групе войск у той час трэці кандыдат сапраўды непатрэбны быў…

Відаць, усё-ткі меў вялікую рацыю той незнаёмы чалавек, які ўчора спытаў на вуліцы: «Вы, таварыш Чыгрынаў, яшчэ ў Бабруйску?..»

*21 сакавіка.*

У сем гадзін хтосьці пазваніў па тэлефоне. Я ўзяў трубку — толькі дзінькнула. Патроху пачаў збірацца на дзень. Настрой чамусьці паганы, можа, таму, што сніліся благія сны…

Відавочна, што з прыездам трэцяга кандыдата сюды (праўда, ён ідзе па асобным бюлетэні, выбіраецца па нацыянальна-тэры-

тарыяльнай акрузе: можна ўявіць сабе, па такой акрузе балаціруецца не беларус, да таго ж вайсковец) перадвыбарчая кампанія моцна ўскладнілася. Ад нечаканага альянсу генерала і намесніка дырэктара завода ў многіх бабруйчан, якія прысутнічаюць на сходах, вочы лезуць на лоб… Начальства мясцовае таксама, здаецца, канчаткова страціла сваю аб'ектыўнасць. Нарэшце на тварах з'явіліся несхаваная радасць і ўзрушанасць…

Цікава, як і калі прайграюцца выбары? Таксама, як і вайсковыя бітвы. Дык апошнія прайграюцца далёка ад месцаў правядзення іх.

Прайграў я, відаць, таксама не ў Бабруйску свае выбары, а ў той жа Лягніцы…

Кажуць, сакратар Першамайскага райкома нават адкрыта заклікае партыйных работнікаў праводзіць агітацыйную работу супроць Чыгрынава…

Вось ужо праўда дык праўда — іх многа, а я адзін!..

Пазваніла з Мінска Л. П. Даехала яна дамоў у нядзелю прыстойна. Яшчэ ў той жа вечар наведалася ў Вяснянку. Іван убачыў партрэт мой на вымпеле, сказаў: «Дзе-дзя». Але няйначай па нейчай падказцы…

Газета «Камуніст» надрукавала сёння маё інтэрв'ю. Бабруйская ж раённая газета «Трыбуна працы» змясціла амаль такое ж інтэрв'ю 16 сакавіка, у чацвер.

Тым часам газета «Советская Белоруссия», якую я купіў у кіёску ўранні, змясціла вынікі выбараў дэпутатаў ад партыі. Лігачоў атрымаў больш за ўсіх галасоў супроць — ажно 78; Якаўлеў — 59; Гарбачоў — 12; Рыжкоў — 10…

Зноў дзень выдаўся сонечны. Хтосьці ў кафэ сёння ў часе сняданку насіў букет сон-травы. Значыць, расцвіў наш беларускі падснежнік…

У дванаццаць (да 13-ці) гадзін пабывалі мы на заводзе гумавых вырабаў. Якія цудоўныя людзі там — рабочыя!

Было сярод іншых і такое пытанне: ці не здаецца вам, што ў Бабруйску да вас нядобра ставяцца, што да вашага канкурэнта мясцовыя ўлады адносяцца лепей?

Цікавыя на заводзе маладыя рабочыя. Пасля сустрэчы яны нават да выхаду з завода праводзілі нас. І ўсё гаварылі, гаварылі. І пра дэмакратыю, і пра галоснасць… Праўда, што пра гэта ўсё цяпер умеюць гаварыць. Але хлопцаў хвалюе і такая праблема — як захаваць памяць грамадскую, як зберагчы помнікі гісторыі і культуры…

Апошняй сёння адбылася гаворка ў рэдакцыі газеты «Камуніст». Сюды прыйшлі таксама супрацоўнікі «Трыбуны працы».

Некалі ў «Камунісце» працавала багата пісьменнікаў, у тым ліку такія, як М. Лынькоў, Б. Мікуліч…

*22 сакавіка.*

На вуліцы ідзе дождж. А я збіраюся на сустрэчу ў тэатр імя Дуніна-Марцінкевіча.

Раптам пазванілі з завода (па вырабе скур), што ў 12 гадзін трэба выступаць. Але ж чатыры выступленні на дзень? Хто гэта вытрымае, які чалавечы арганізм?

Генерал, між тым, выступіў у акрузе чатыры разы і паляцеў сабе ў Польшчу.

Прыязджаў сёння ў Бабруйск Мікалай Чаргінец, і мы з ім неблагі вечар наладзілі — вечар-сустрэчу з моладдзю горада. Было на вечары шмат людзей, было многа пытанняў, маладых усмешлівых твараў. Прызнацца, я не дужа верыў, што столькі збярэцца на вечар маладога люду.

Былі і людзі Б. Асабліва даймаў бруднымі пытаннямі выкладчык аднаго з тэхнікумаў.

Мікалай Іванавіч начаваць паехаў у Мінск.

Заўтра ўранні, здаецца, спярша трэба будзе ехаць у Асіповічы. Але сёння на вечары з моладдзю Бабруйска мне вельмі дапамагаў адказваць на пытанні адзін малады хлопец. Цікава ведаць, хто ён?

*23 сакавіка.*

Уласна кажучы, нататкі гэтыя можна канчаць, калі не здарыцца чагосьці нечаканага альбо вартага запісу.

Ехаць дамоў буду заўтра, 24-га.

Дык дзе ўсё-ткі прайграюцца бітвы? Відавочна адно, што прайграюцца яны няйначай яшчэ задоўга да таго дня і таго месца, дзе адбываюцца.

Між тым усе мы дасюль хацелі больш дэмакратычных выбараў. Значыць, нават накладныя выдаткі гэтай выбарчай кампаніі пойдуць на карысць грамадству.

Аказваецца, жыццё ў кожнай сваёй праяве сапраўды вельмі павучальнае. Шкада толькі, што гэта ягоная школа адбірае час і здароўе і такім чынам скарачае справы і само жыццё…

10 гадзін уранні.

Што ж было самае непрыемнае ў выбарчай кампаніі? Стаяць перад людзьмі і думаць — калі гэта я здолеў разладзіць людское жыццё ў краіне, падарваць эканоміку і разбурыць культуру? Бо з

другіх гэтага не пыталі. Іх са мной не было. Таму пыталі з мяне, няйначай атаясамліваючы недзе з усімі іншымі бюракратамі. А я ж усё жыццё пісаў: апавяданне за апавяданнем. раман за раманам, п'есу за п'есай. Значыць, не ўсе іх чыталі!..

*1989*

## ХТО ПОЙДЗЕ ДА НЕФАРМАЛАЎ

Толькі на краі Беларусі, нібыта ў прамыінах, якія ўтварылі няўшчуканыя дажджы, што доўжыліся, бадай, болей за тыдзень, дык толькі на краі Беларусі, дзе пачынаюцца літоўскія палеткі, дарэчы, такія ж, які і беларускія, паказалася зямля, скрозь у вялікіх, рознакаляровых і шматстайных лапіках. Ад беларускай мяжы яшчэ не відно літоўскіх хутароў — яны там, дзе Куршская каса і далей, да самага латышскага ўзбярэжжа. Нашы землі — беларускія і літоўскія — у прыгранiччы аднолькавыя па выглядзе, па беднасці і па багацці… Чаму раптам на першым месцы беднасць? Можа, таму, што праз усё жыццё, да самага сталага ўзросту, спадарожнічала мне беднасць. Часам людзі ўспамінаюць заможнае даваеннае жыццё, але і з таго жыцця маё дзяцінства вынесла нястачу, вядома, непараўнальную з сапраўднай нястачай, якая была пасля; і ўсё-ткі дастатку, як кажуць рускія, немагчыма прыгадаць сёння з таго даваеннага жыцця, чамусьці помніцца пракіслая рэдкая бульба надвечар і добра, калі забеленае варыва, якое цяпер у нас завецца «шчамі», ды бульбяныя скрылі; мяса і рыбу амаль не ўспамінаю на нашым стале, вакол якога сядала, акрамя бацькі і маці, пяцёра; сярод іх я, можна сказаць, сярэдні, бо перада мной у нашай сям'і было два хлопцы і пасля мяне хлопец і дзяўчына; і тым не менш, вялікую рыбіну помню — сома. Яго неслі туманным ранкам у вёску мой бацька і яшчэ адзін чалавек, Сіманёнак, вясковы прапойца, які не прапускаў ніводнай кампаніі, нават калі гэта датычыла звычайнай талакі; сом быў вялікі, даставаў ад чалавечых плячэй да зямлі, як смажылі сома, як елі яго і колькі ў нас сядзела гасцей за сталом тады, таксама не ўтрымала памяць, адны расказы засталіся пра тое, дзе злавілі велікаборскія мужыкі вялікую рыбіну: быццам бы сом нейкім чынам сам выкінуўся на водмель на Доўгай (так звалася ў нас вялікая лукавіна насупраць Клеявіч, вёскі, а найперш старажытнай людской стаянкі, дзе археолагі знайшлі косці маманта і шмат яшчэ чаго ад чалаве-

чага жытла) і нема енчыў скрозь усю ноч, пакуль не вызвалілі яго з палону; вызвалілі, вядома, на смерць і на спажыву. Затым былі зусім галодныя гады пасля мінулай вайны, якую мы завём Айчыннай. Здавалася б, голад найбольш павінен быў адчувацца ў вайну, але ж — не. Падзяліўшы калгасныя палеткі, мужыкі ў нас, дый не толькі ў нас, можна сказаць, раскашавалі; спярша з таго ўраджаю, што быў вырашчаны калектыўна, пасля з таго, што сеялі і жалі на сваіх, аднаасобных палосах. Прынамсі, тады нават з нішчымніцай у нас не жылі, дарма што хваліцца ваенным часам усё роўна як і грэх, тым больш што недасол на стале адбіваў смак ад стравы. Гэта мала сказаць — недасол, проста, падоўгу не было ў гаспадарцы ані драбка, ані шчопця солі, ужывалі замест солі мінеральныя ўдабрэнні, якія прадавалі на чыгуначнай станцыі ў Бялынкавічах немцы; харч ад мінеральных удабрэнняў атрымліваўся горкі, дарма што іх вельмі вымочвалі, кіпяцілі, каб пасля даліваць у тое ж варыва. Але няхай яе, тую беднасць!..

Тым больш калі ляціш у сучасным самалёце. Не ведаю, як каму, а мне заўсёды было надзвычай цікава глядзець на зямлю са шматметровай вышыні: яна там, унізе, пакорлівая і падрабязная. Так, менавіта падрабязная, злашча што выраз гэты — падрабязная — наўрад ці дакладна перадае сэнс; між тым уся справа, уся сутнасць у параўнанні. Помню, як быў здзіўлены я, калі даўным-даўно, яшчэ ў маладосці, убачыў з двухкрылага самалёціка вяроўку, на якой нейкая кабета вяла з вёскі карову… Пасля гэтага я ўсё часцей і часцей пачаў прыглядацца зверху да зямлі, нібыта чытаць нанава яе прасторы, каб нанава пазнаваць. І зноў дзіва — чамусьці раптам зрабіў для сябе адкрыццё, дзе яго не павінна было быць, у кожным разе, так мне цяпер здаецца: аказваецца, з самалёта, калі ляціш на невялікай вышыні над лесам, таксама вельмі добра праглядваецца зямля, нельга там схавацца, у тым лесе, ад вачэй зверху. А дзіва было якраз у тым, што ў вайну я адзін раз хаваўся ад самалёта ў лесе, думаў тады, што гэта мяне і выратавала… Мы, жывучы на зямлі, не толькі шмат што не ўлічваем у дачыненні да неба, але і памыляемся… Усе мы на зямлі безабаронныя і кволыя… Пакуль толькі пад зямлёй нас не відаць. Толькі там мы можам схавацца. Бадай, толькі той раз, калі ўсвядоміў збольшага гэта, пачаў разумець радок з яршоўскай казкі: проціў неба — на зямлі…

Вось і цяпер думаў схавацца на беразе Рыжскага заліва ў знаёмым пісьменніцкім доме, дзе іншы раз няблага працавалася, але дзе там! Не паспеў узысці па нізкім трапе ў «АН-26», як акурат

самахоць вярнуліся штодзённыя згрызоты; пачало рупіць і адно, і другое, а ўсё чужое, не маё, гэта значыць не пісьменніцкае; і гэтак здараецца ўжо амаль кожны раз, калі пускаюся на ўцёкі; нездарма таму апошні час пачынаю лавіць сябе на думцы, што неяк непрыкметна, сам таго не ўсведамляючы, моцна задаўжаў людзям… Калі толькі паспеў? І ў каго пазычаўся, каму падраджаўся? А ўсё няйначай з тае прычыны, што чужы клопат, чужы цяжар гэтаксама вагу вялікую маюць, як і свой, можа, нават большую.

Стварылі мы пры Фондзе культуры, напрыклад, новы кааператыў, у які аб’ядналіся архітэктары. Жанчыны (а ў кааператыве сапраўды ўсяго адзін мужчына) былі ўдзячны нам, што далі работу. А цяпер раптам ад іх пасыпаліся скаргі, маўляў, і тое не так, і іншае патрабуе лепшага; ды і ўвогуле «Народны фронт раіць (гэта са слоў архітэктараў-кааператыўшчыкаў) нам паўстаць супроць Фонду культуры». А што азначае «паўстаць», сказаць жанчыны не могуць, дый не здольныя яны нешта пэўнае ўцяміць у цяперашніх грамадскіх адносінах. Адна злосць — і таму, што справа не атрымліваецца, і таму яшчэ, што дачыненні людскія вельмі моцна ў апошні час ускладніліся; вось і выплёскваецца з сярэдзіны скразная злосць. Шкада будзе, калі і гэты кааператыў, як кааператыў «Няміга», створаны трохі раней, давядзецца закрываць. (Нядаўна «Няміга» дала ў «Вячэрнім Мінску» аб’яву, што «прадае скуры для пашыву верхняга адзення»). Дык хіба ж мне займацца такімі пытаннямі? Асабліва калі ўлічыць, што неабходна ўжо сёлета брацца за рэканструкцыю фабрык, а іх у нас, у Фондзе, дзве — Бабруйская і Маладзечанская.

Шмат і іншага клопату ў Фондзе, дальбог жа, не культурнага, тым больш не пісьменніцкага, нават наадварот.

Гэта што датычыць Фонду культуры. А ўчора ж газеты надрукавалі склад Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па падрыхтоўцы Закона аб статусе моў, на якіх размаўляе насельніцтва ў нас, значыць, беларускай, рускай, яўрэйскай, украінскай, татарскай, літоўскай, польскай… Здаецца, на большае нас не хапіла. Другіх жа моў мы ў Беларусі, бадай, не займелі. Калі Пастаянная камісія па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета на сваіх пасяджэннях пачала скіроўваць (псіхалагічна) думкі грамадскасці на тое, каб сапраўды надаць беларускай мове статус дзяржаўнай, то была выказана прапанова аб стварэнні групы, якая б падрыхтавала закон. Але ў нас заўсёды так: пагоняць зайца па крузе — выйдзе слон; пагоняць гэтага слана далей па тым жа крузе — выскачыць заяц (дарэчы,

амаль што так казаў я і на адзінаццатай сесіі Вярхоўнага Савета БССР у канцы ліпеня). Дык вось, з тае нашай групы ў інстанцыях нарадзілася камісія ажно ці не з пяцідзесяці чалавек. А людзі цяпер чытаюць прозвішчы членаў камісіі, пацiскаюць плячамі (не ўсе ім падабаюцца, не ўсім давяраюць), звоняць, лаюцца; прапановы Пастаяннай камісіі аб статусе патанаюць не толькі ў груваcткай структуры новай камісіі, але і ў яе мэтанакіраванасці, якая дужа няпэўна сфармулявана ў загалоўку. Але неяк жа будзе!

Бачыце, гэта таксама згрызоты! І самае няўцешнае тое, што можна пералічваць іх амаль бясконца…

Я ўжо недзе ў падобных сваіх запісках, ну, такіх, як гэтыя, што вяду цяпер, адзначаў, што жанр іх, калі дзённікавыя нататкі правамерна адносіць да літаратуры, як і ў тканіне, лёгка дазваляе мяняць аснову і ўток, нават не мяняць, дакладней, пераналаджваць; ні ў аповесці, ні ў рамане, ні ў п’есе звычайна не адважваешся парушаць плынь апавядання, а тут сягай сабе думкай куды хочаш. Так і выходзіць у мяне сёння — пачаў з таго, што бачыў з ілюмінатара самалёта беларуска-літоўскае прыгранічча, затым узяўся расказваць, як падабаецца мне глядзець увогуле на зямлю зверху, чытаць яе нанова, і зусім непрыкметна, хутчэй за ўсё — нечакана, перайшоў да розных жыццёвых згрызотаў, спрабуючы ўмясціць у гэта слова і жыццёвы клопат, і надзённыя праблемы, звязаныя з працай, і ўсё іншае. Відаць, дала адчуць сябе не толькі звычайная чалавечая нястрыманасць у разважаннях, аднак у не меншай ступені няйначай таксама дало адчуць сябе памкненне ўнутрана выгрузіцца адразу, як кажуць, за адно прысяданне да пісьмовага стала.

Дык вось з гэтай маёй цягай назіраць зверху за зямлёй… Над Рыгай пралятаць ужо даводзілася не адзін раз, праўда, кіруючыся заўсёды з Масквы, а не з Мінска. Але ніколі не шчасціла дасюль бачыць, як імкне наша Заходняя Дзвіна, а па-тутэйшаму — Даўгава, у мора. Чалавеку рэдка калі шанцуе паглядзець і на выток адной і той жа ракі, і на вусце. А мне выпала гэта радасць. Пабачыў, дзе ўзнікае Дзвіна-Даўгава, дзе губляецца. Тым часам сваю родную Бесядзь пакуль ведаю толькі па вытоку ды сярэднім цячэнні.

Над Балтыкай, між тым, ужо другі дзень вісяць дажджлівыя хмары. Зямля змакрэлая ўся. Мора пахмурае, хоць хвалі невялікія, пялёхкаюцца ледзьве-ледзьве. Гэта кінулася ў вочы яшчэ з самалёта. Акурат такімі ж яны, амаль сталёвымі, павольнымі, паказаліся праз якую гадзіну на зямлі. Хоць сёння субота, але надвор’е не пускае людзей далей парога, таму пляжы пустыя, рэдка дзе рухаюцца ўздоўж берага постаці.

Што мора вечнае, гэта ўсе ведаюць. Але ж вечны няйначай і гэты змакрэлы пясок на ягоным беразе, падобны на жвір. Можа, таму раптам прыйшло ў галаву: колькі чалавечых ног тапталася па ім, колькі слядоў адбілася тут, колькі іх змыла вада — адны назаўсёды, другія… Зрэшты, і тыя і другія змыты назаўсёды. Іншая справа, што некаторым людзям, таксама як і мне вось, лёс дараваў вярнуцца сюды, аднавіць свае зноў…

Заўтра шостае жніўня.

* * *

Дзіўнае адчуванне ўзнікае блізка ад мора, калі нарэшце трапляеш да яго, але тым часам не маеш магчымасці апынуцца ў хвалях. У нас жа, у кантынентальных еўрапейцаў, мора найперш асацыіруецца з гэтым, бо большая частка людзей менавіта таму і падаюцца сюды, на Балтыку, ці ў адваротны бок, на поўдзень, у Крым ды на Каўказ. Але ў жніўні на Балтыцы часта ідуць халодныя дажджы.

Сёння мы трапілі пад такі лівень у Маерах, але зноў жа дзіўнае ўспрыняцце было: дождж ідзе, а табе не страшна. Пасля Чарнобыля стала жахліва знаходзіцца пад дажджом, які ў кожную хвіліну здольны прынесці з сабой радыяцыю. Многія ў нас, у Беларусі, якраз і трапілі ў восемдзесят шостым годзе пад радыеактыўныя дажджы. А можа, і цяпер трапляюць, бо чацвёрты блок няйначай яшчэ дыхае. Такія ходзяць у народзе чуткі. Спецыялісты ж маўчаць на гэты конт, прынамсі, хоць нават і яны не могуць тэарэтычна адмаўляць небяспеку. Як кажуць, было-было дый пагоршала!.. Дасюль ішлі на людскія галовы жоўтыя дажджы, зялёныя, сінія… Цяпер — радыеактыўныя!..

Між тым вакол беларускай зямлі ўжо з цяжкасцю дыхаюць Ровенская атамная, Смаленская, Літоўская… Хвала богу, што хоць латышы, а найперш даўнія нашы сябры латгальцы, з якімі даводзілася і ў гісторыі жыць і гісторыю дзяліць, не падсунулі са свайго боку суседзям такую ж страшэнную пагрозу.

Тут, у Дубултах, даволі часта ўзнікае гаворка пра чарнобыльскія справы. Хутчэй за ўсё таму, што прыехаў сюды з Украіны Юрый Шчарбак, які шмат піша пра нашу сумесную трагедыю, выступае па радыё, тэлебачанні. Я пры такіх размовах звычайна маўчу, бо па ўсім бачу — для многіх гэта звычайная публіцыстыка, дакладней, тэма. А ў мяне радыяцыяй вёска засыпана. Вакол Вялікага Бору таксама няма жывога месца: падлягаюць высяленню ў першую і ў другую чаргу Мамонаўка, Вуглы, Вё-

тухна, Дзяражня, Вусаўка, Зарэчча, Гутка… Хоць што значыць у першую чаргу? Раз чалавек не можа вырошчваць для сябе на сваім агародзе гуркі, бульбу, то як яму і колькі яшчэ чакаць сваёй чаргі? А ў Вялікім Бары якраз гэтак цяпер і ёсць — 14,7 кюры на квадратны кіламетр. Ды не ў адным Вялікім Бары. У Саматэвічах — 32,5. І шмат дзе ў другіх вёсках — вялікіх і малых. Але высветлілася для многіх такая радыяцыйная сітуацыя толькі нядаўна, праз тры гады пасля аварыі. Між тым край наш, амаль усё Прыбесяддзе, як цяпер стала вядома, засыпаны быў не ў красавіку, а ў чэрвені ці ліпені. Гэта і дасюль вялікая тайна — калі на ўвесь абшар той, на два бакі ракі, былі пасаджаны з дапамогай нейкага цяжкага парашка (кажуць, алюмініевага) заражаныя чарнобыльскія хмары. Хмары тыя плылі на Маскву, вось іх і перанялі нейкія нягоднікі па дарозе, выкарыстаўшы цяжкія рэчывы. І недзе ж сёння жывуць сабе — і тыя, хто аддаваў загад садзіць хмары, і тыя, хто выконваў загад. Амерыканскі лётчык, што скінуў бомбу на Хірасіму, пад канец жыцця страціў розум. Няўжо нашых не крануць пакуты сумлення?

Вёска — гэта малая радзіма. Страціць яе — усё роўна што страціць вялікую Радзіму.

Вось ужо каторы год даводзіцца жыць з такім шчымлівым і амаль бязвыхадным пачуццём.

Няйначай што і чацвёрты раман я ўсё не магу скончыць праз гэта — дзеля чаго ў такім разе пакутавалі ў Забесяддзі мае героі, за што змагаліся? Каб страціць усё па дурноце (калі не горай) нейкага інжынера ці акадэміка?

У святле чарнобыльскай трагедыі шмат што будзе пераасэнсоўвацца ў жыцці беларусаў. Гэта трагедыя яшчэ раз пацвердзіла простую ісціну, што сярод людзей сапраўды жывуць людзі дурныя і злыя…

Сесія нашага Вярхоўнага Савета, што адбылася 28–29 ліпеня, пашырыла ўяўленне аб радыяцыйнай абстаноўцы: аказваецца, пацярпелі не толькі Магілёўшчына і Гомельшчына, аднак часткова і Міншчына, Гродзеншчына, Брэстчына. Кажуць, што толькі ў Віцебскай вобласці засталіся чыстымі некаторыя раёны, здаецца, Ушацкі, Глыбоцкі, Верхнядзвінскі, Чашніцкі…

У жахлівы век мы жывём. У Янкі Купалы ёсць такія радкі: «Раскрыйся нанова магіла — страшней цябе людзі і свет».

Я напісаў быў драму пра вынікі чарнобыльскай трагедыі. У штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» быў змешчаны пралог. Тым усё і скончылася. Новыя звесткі аб становішчы з радыяцыяй прымушаюць карэнным чынам перапрацаваць драму.

Я сказаў тут, што ўкраінец Шчарбак піша пра чарнобыльскія падзеі. А што ж мы, беларусы? А нам проста не давалі раскрыць рота. У мяне асабіста выкідвалі кавалкі з артыкулаў пра Чарнобыль. Не давалі сказаць слова па тэлебачанні, па радыё… Дзіўна, аднак яшчэ зусім нядаўна, гэтым годам, пры вялікай галоснасці, калі друкавалася ў «Полымі» драма «Чалавек з мядзведжым тварам», Галоўліт забараніў «разгалошваць», што ў Бранскай вобласці на зямлі, а ўжо, бадай, і глыбока ў зямлі таксама ляжыць чарнобыльскі стронцый.

Між тым сёння дзень Хірасімы. Божа ж мой, якой далёкай і якой незразумелай увесь час была яна!

Дарэчы сёння і Дзень чыгуначніка ў нашай краіне. Хтосьці няйначай у сувязі з гэтым абураўся, расказваючы ў вестыбюлі, як дамагаўся цяперашні міністр Конараў стаць міністрам. Першы раз на Вярхоўным Савеце СССР кандыдатура яго не прайшла. Тады чыгуначная мафія пачала ціснуць на народных дэпутатаў, каб нанова разгледзець пытанне, нават пагражала ўраду забастоўкай… Што, калі гэта праўда? А між тым многае з таго, аб чым гавораць у горадзе, звычайна пасля спраўджваецца.

Метраў за дзвесце ад нашага Дома творчасці, якраз насупраць, цячэ рака Ліелупа. Кожны раз, выходзячы на яе бераг, прыгадваеш, што недзе тут утапіўся Д. Пісараў. Відаць, цяпер ужо ніхто не ведае дакладна, дзе тое месца на рацэ, бо іначай знайшоўся б за сто гадоў чалавек, які б прыцягнуў аднекуль сюды камень, каб пазначыць хоць такім чынам тую даўнюю трагедыю.

Ці праходзяць яго цяпер у школе? У мае часы, здаецца, не было Пісарава ні ў хрэстаматыі па рускай літаратуры, ні ў вучэбным дапаможніку да яе, адно ўпамінанне. Чарнышэўскага мы вывучалі грунтоўна, Дабралюбава — таксама, а Пісарава — не.

Дзіўна, але можа прыйсці ў галаву, што гэтаму вялікаму крытыку і публіцысту (а ён сапраўды вялікі) не даравалі чагосьці, бо нездарма ж валадар думак некалькіх пакаленняў расейскай моладзі дзевятнаццатага стагоддзя, адзіны крытык, публіцыст, чые выбраныя творы нават у дарэвалюцыйнай Расіі выходзілі не менш за пяць разоў, перастаў хваляваць нас. Няўжо мы з яго выраслі? Дакладней, перараслі?

Няпоўны Збор твораў Пісарава выходзіў у савецкі час у канцы пяцідзесятых гадоў. Гэта былі гады майго студэнцтва. Здаецца, сярэдзіна хрушчоўскай «адлігі». І мы тады, маладыя людзі, шмат чыталі, шмат спрачаліся; уласна кажучы, якраз у тыя гады мы, найбольш вясковыя хлопцы, станавіліся пісьменнымі людзьмі.

Таму я і цяпер помню, як у 55-м годзе выйшаў першы том Збору твораў Пісарава. З многімі артыкуламі нельга было не згадзіцца. Ад іх зыходзіла свежасць думак, а галоўнае — яны былі сучаснымі, хоць некаторыя вызначаліся відавочнай імператыўнасцю, нават наіўнасцю. Уражвала, напрыклад, як Пісараў ставіўся да Пушкіна. Але найбольшае разуменне Пісарава прыйшло пазней, калі чытаў успаміны нарадавольцаў, асабліва Пляханава. Нават ягоная парадаксальнасць не бянтэжыла — трэба ж было неяк абуджаць грамадства на роздум. У артыкуле «Прагрэс у свеце жывёл і раслін» ён сам спрабаваў растлумачыць «накладныя выдаткі» сваёй творчасці: «Я менавіта таго і хачу, каб мой артыкул абудзіў у чытачоў цікаўнасць, але не задаволіў бы яе цалкам, няхай ён убачыць, які разумны Дарвін, няхай адчуе, што я няздольны перадаць тое ўражанне, якое робіць чытанне самой кнігі, і ў выніку гэтага аблае мяне ды возьмецца за сачыненні самога Дарвіна. Мэта мая будзе ў гэтым выпадку збольшага дасягнута».

Ленін уключыў Пісарава ў той спіс, па якім належала ў новай Расіі ўзводзіць помнікі рэвалюцыянерам, дзеячам навукі, культуры. Няма ў Савецкім Саюзе помніка Пісараву. Нават на беразе Ліелупы, дзе ён утапіўся, няма ніякай адзнакі…

Думаецца, што ўсесаюзны Дом творчасці ў Дубултах мог бы таксама насіць імя гэтага выдатнага рускага крытыка і публіцыста, якому не суджана было доўга жыць. Гаворачы так, я зусім не хачу прыменшыць імя вялікага Райніса. Райніс, як кажуць, дома.

За два дні, якія амаль непрыкметна прайшлі тут, паспеў абысці знаёмыя мясціны. Юрмала мала мяняецца. Можна сказаць, зусім не мяняецца. Але па-ранейшаму прывабная. Новым з'яўляецца ў горадзе чырвона-бела-чырвоны сцяг, што калышацца на высокім шпілі аднаго з гатэляў. Здаецца, вышэй за яго ў сённяшняй Юрмале нічога няма.

Увечары ў праграме «Время» паказвалі, як японскія дзеці ў Хірасіме, у дзень атамнай бамбардзіроўкі сорак пятага года б'юць па два разы падвешаным білам у вялікі звон… Але ў які звон трэба ў нас біць? Дзе ён, той звон? У якую галаву біць, у якое сэрца? І ці будзе каму праз пяцьдзесят гадоў гэта рабіць? Бо выбух рэактара ў Чарнобылі — не тое, што выбух атамнай бомбы ў Хірасіме!

* * *

Сёння нарэшце выблiснула сонца. Але вецер па-ранейшаму халодны, нават стаў халаднейшы, чым раней, і мора раптам усх-

валявалася. Тутэйшыя людзі кажуць, што цяпер гэта не надоўга: надвор’е яшчэ пацешыць. Такія прыкметы.

За дарогай, у парку, дзе засталіся някошаныя лужкі, скрозь усю раніцу чуваць, як хтосьці мянташыць касу. Пакосіць-пакосіць, а тады зноў бярэцца за мянташку, шоргае адмыслова па лязу, кідаючы навокал знаёмыя з дзяцінства, таму ажно шчымлівыя гукі.

Латышскія газеты тым часам пішуць пра «цяжкія крокі перабудовы ў рэспубліцы». Вось даныя з паведамлення Дзяржкамстата ЛатССР. Хоць у першым паўгоддзі і працягваўся працэс структурнай перабудовы эканомікі і пераарыентацыі яе на сацыяльныя патрэбы, але такога як трэба ўжо цяпер павелічэння вытворчасці тавараў народнага спажывання не адбылося, таксама як не надта ўзраслі аб’ёмы рознічнага тавараабароту і платных паслуг. Недастатковымі тэмпамі развіваецца навукова-тэхнічны прагрэс, што адмоўна ўплывае на эфектыўнасць вытворчасці, узмацненне яе інтэнсіфікацыі. Фінансавае становішча рэспублікі і грашовае абарачэнне застаюцца напружанымі. І гэтак далей, і гэтак далей.

У газеце «Советская Латвия» прыведзена колькасць насельніцтва Латвіі: 2 мільёны 682 тысячы чалавек. Сярэднемесячная заработная плата рабочых і служачы.х складае да 249 рублёў. аплата працы калгаснікаў даходзіць да 255 рублёў.

У гэтым жа нумары газеты змешчаны артыкул акадэміка В. Штэйнберга «Партыя нясе адказнасць перад народам». Немалая колькасць камуністаў сёння, сцвярджае акадэмік, «сядзяць на двух крэслах» і чакаюць, чым усё гэта скончыцца, і толькі затым прымуць рашэнне — заставацца ў партыі ці пайсці з яе. Партыя зараз моцна аслаблена. Па розных прычынах, у тым ліку і таму, што ў ёй апынуліся людзі зусім не гатовыя да якіх-небудзь паваротаў у жыцці, адстойваць справу партыі ў любых умовах. Некаторыя гэта ўсвядомілі, таму выходзяць з партыі…

Насустрач пленуму ЦК КПЛ газеты друкуюць таксама палемічныя заметкі з прычыны праекта праграмы «Да чаго імкнецца кампартыя Латвіі?».

У рэспубліцы, на мой погляд, ёсць праблема перспектыўнага плана. Гэта — узаемаадносіны з Саюзам ССР, з КПСС. Латвійскія таварышы ў гэтай праблеме вылучаюць некалькі варыянтаў. Першы — уціхаміранне палітычных апанентаў; выразнасць палітычных фармуліровак, якія дапускаюць дыяметральна супрацьлеглыя тлумачэнні. Другі варыянт — далейшае развіццё палажэнняў палітычнай дэкларацыі «Аб дзяржаўным суверэні-

тэце Латвіі», ініцыятарам прыняцця якой выступіла партыйная група дэпутатаў Вярхоўнага Савета Латвіі.

Хранічная хвароба партыйных дакументаў, якія прымаюцца на самым высокім узроўні, у іх шматслоўі і багацці агульнавядомых альбо бясспрэчных ісцін. Дакументы гэтыя дапускаюць неадназначную інтэрпрэтацыю, што стварае новыя праблемы ў палітызаваным цяпер грамадскім жыцці.

Часта ў палемічных матэрыялах з'яўляецца тэзіс аб абароне пункту гледжання меншасці ў партыі. Гэты тэзіс стаў модны не толькі ў Латвіі. Аб ім на поўны голас гавораць ужо і ў іншых рэспубліках краіны. Але як і ад каго патрэбна яго абараняць?

Увогуле шмат цікавага можна прачытаць сёння ў прыбалтыйскіх газетах. Напрыклад, як не звярнуць увагі на такія пасажы: «Трэба стаяць за пашырэнне на ўсіх узроўнях грамадскага кантролю за дзейнасцю партыйных арганізацый». А хіба не хапіла б дзеля гэтага «забеспячэння максімальнай галоснасці ў рабоце»?

Шмат праблем па нацыянальным пытанні, па мове. Нават мясцовая, лічы, курортная газета, якая разлічана не на адных латышоў, самым сур'ёзным чынам абмяркоўвае Закон аб мовах Латышскай ССР.

Тут пераход на дзяржаўнасць нацыянальнай мовы разлічаны на тры гады. Пачалося актыўнае адраджэнне латышскай мовы ў сферы справаводства ў многіх установах, прадпрыемствах, арганізацыях рэспублікі. Але пакуль не хапае даведнікаў. такіх, напрыклад, як «Слоўнік тэрмінаў эканамістаў» і гэтак далей. У латвійскай Акадэміі навук пра гэта клапоціцца цяпер тэрміналагічная камісія.

Чытаючы пра ўсё гэта, міжволі задумваешся над тым, як мы здолеем у сябе ажыццявіць такую ж праблему. Праўда, у нас на тэрыторыі рэспублікі пражывае больш карэннага насельніцтва, не тое што ў Латвіі ці Эстоніі, нас ці не 80 працэнтаў. Але ўжыванне нацыянальнай мовы тым часам зусім мізэрнае, свая мова ў нас у большым заняпадзе, чым дзе ў Савецкім Саюзе. У другі нумар часопіса «Спадчына» мне абяцалі прынесці матэрыялы першай беларусізацыі.. Карысна будзе вывучыць іх, каб што-кольвечы выкарыстаць у цяперашняй сітуацыі. Сяго-таго слова гэта — беларусізацыя — палохае. Помню. як прыходзіў да мяне адзін беларус, казаў: навошта нам цяпер беларусізацыя? Час правільна распарадзіўся, што звёў да нулявога становішча нашу мову; непатрэбна яна нам, хапае ўжо рускай, з ёю лягчэй жыць у такой вялікай краіне, як СССР; вы, пісьменнікі, адно бянтэжыце людзей… Я ажно ўскіпеў на ягоныя словы.

А між тым даводзіцца ўсё часцей і часцей згаджацца са скептыкамі — вялікая і бязладная тлумнасць усталявалася за пасляваенныя гады ў нашых галовах… Няўжо гэтаму чалавеку сапраўды даволі будзе заставацца на свеце кім заўгодна, але не беларусам? Бо спасылкі на «славянскі інтэрнацыяналізм» нічога не даюць пакуль ні розуму, ні сэрцу. Гэта не што іншае, як чарговая дэфініцыя разгубленага чалавека.

Што ж датычыць статуса дзяржаўнасці беларускай мовы, то ў прававых адносінах яго неабходна рабіць неадкладна, адразу; цяжэй будзе ажыццяўляць гэты статус на практыцы без дастатковай колькасці кадраў і пры шматлікім унутраным, нават адкрытым супраціўленні вялікай колькасці насельніцтва рэспублікі; значыць, на практыцы беларусізацыя павінна адбывацца паступова, шматступеньчата. Пара ўжо камусьці ствараць гэтыя ступені.

Дай Бог нам мудрасці. Але ж «сэрцы мудрых — у доме плачу».

У Дубултах цяпер сабралася нямала знаёмых: з Масквы С. Залыгін, А. Бачароў, В. Озераў, М. Галай, эстонец Юрый Туулік (ёсць яшчэ ў Таліне і Юла Туулік: то браты), украінцы Пятро Перабійнос, Уладзімір Каламіец, Юрый Шчарбак… З нашых — Навум Кіслік. І як заўсёды А. Б. Чакоўскі. Маладых зусім мала. Найбольш пажылыя людзі акупуюцца ў Дубултах сёлета, дакладней, нават дужа старыя.

Размовы тут усчынаюцца свядома і міжволі. Асабліва на пляжы. Учора нейкі чалавек, уздыхнуўшы, раптам сказаў:

— Шкада, што ў наступным годзе, можа, не ўдасца прыехаць сюды…

Звычайнае шкадаванне — хіба мала па якой прычыне чалавеку не давядзецца зноў прыехаць у Дубулты? Таму ніхто не звярнуў на яго словы ўвагі. Але чалавеку карцела сваё, дзеля чаго ён і пачаў гаворку. Аказваецца. у сувязі з рэспубліканскім пераходам на гасразлік латышы падумалі «нацыяналізаваць» усё юрмалаўскае ўзбярэжжа, каб у далейшым запрашаць у тутэйшыя пансіянаты, санаторыі, дамы адпачынку, нават у такі вось Дом творчасці. як наш, збудаваны Літфондам СССР, іншаземцаў, якія прывязуць рэспубліканскай казне валюту. Нішто сабе гасразлік — будавалі адны, а скарыстоўваюць санаторый і да таго падобнага будуць другія!.. А калі раптам да чагосьці падобнага дадумаюцца ўкраінцы, грузіны? На іх тэрыторыях таксама шмат курортных мясцін. Гэта толькі нам, беларусам, Бог не даў мора. Толькі мы не маем магчымасці мець (акрамя як на чужой тэрыторыі) марскіх ды горных курортаў. Ды і ўвогуле цяпер… пры радыяцыі праблемы з адпачынкам ускладніліся… У сябе таксама

няма куды падацца. Дарэчы, пра гэта мы пакуль не задумваемся. Калі ж у наступным годзе, напрыклад, для адпачынку за межамі рэспублікі патрэбна будзе валюта, то… Навошта тады гэтакае новае, гасразліковае жыццё?

Акрамя знаёмых газет, гэта значыць прывычных, як кажуць, сваіх, савецкіх, у кіёску Саюздруку прадаюць таксама газеты народнага фронту Латвіі («Атмода» — абуджэнне) і інтэрнацыянальнага фронту («Едянство»). Апошняя, трэба сказаць, мала цікавая, хоць і каштуе тыя ж дваццаць капеек, што і «Атмода». А вось газета Народнага фронту!.. У гэтай шмат незвычайнага, новага. Прынамсі, нам, беларусам, варта было б пачытаць яе, хоць бы і для параўнання з тым, што выпускае БНФ. Разам з тым, калі ўжо, усё роўна як на ноч, прыйшло жаданне такога параўнання, варта было б разважыць і вось над чым: у прыбалтыйскім народным руху прымаюць удзел выдатныя людзі — пісьменнікі, вучоныя, мастакі, акцёры, рэжысёры, дырэктары навуковых устаноў, прадпрыемстваў, старшыні калгасаў…

Дык у гэтым латышскім «Абуджэнні» за нумарам 33 ад 7 жніўня змешчаны сярод іншых артыкул пад назвай «Пернік з гарчыцай»: «І так, ці можна лічыць, што 29 ліпеня (а перад гэтым 28 ліпеня Вярхоўны Савет ЛатССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўнай суверэннасці) мы прачнуліся ўжо ў суверэннай краіне? Мяркуючы па пункту першаму дэкларацыі, так. Аднак ужо ў пункце чацвёртым у ёй гаворыцца: «Дзяржаўны статус ЛатССР у складзе СССР вызначаецца дагаворнымі адносінамі. Тут варта адразу задумацца: рэальны суверэнітэт дзяржавы, што знаходзіцца ў складзе другой дзяржавы, — такое магчыма хіба што ў камуністычнай трактоўцы гэтага паняцця. Дагаворныя адносіны для нас таксама не навіна — каля пяцідзесяці гадоў наш статус у складзе СССР вызначаецца дагаворамі, заключанымі 23 жніўня і 28 верасня 1939 года паміж СССР і нацысцкай Германіяй, а таксама дадатковымі сакрэтнымі пратаколамі да гэтых дагавораў. Пад націскам грамадскасці дагаворы давядзецца дэнансаваць, таму тэрмінова трэба падрыхтаваць новыя, і зусім без патрэбы пытацца ў народа, ці падыходзяць яму падобныя «дагаворныя адносіны»… Таму лагічна было б, пачынаючы з заўтрашняга дня: 1) прызнаць, што сёння Латвія з'яўляецца акупіраванай тэрыторыяй; 2) пачаць перагаворы з урадам СССР аб дэмантажы акупацыі і вывадзе акупацыйных войск з Латвіі; 3) аднавіць грамадзянства Латвійскай рэспублікі; 4) правесці дэмакратычныя выбары…»

Такой вось пісаніны ў «Атмодзе» не тое, што хапае. яна скрозь. Але ж яна прымушае думаць. Значыць. гэта сама рэ-

альнасць. І яна будзе пашырацца адсюль. з Прыбалтыкі, калі, вядома, не спыняць яе сілай.

Цяпер я пішу драму «Ігракі, альбо Сталін і Молатаў, Гітлер і Рыбентроп». Падзеі ў ёй адбываюцца ў саракавым годзе, у час паездкі наркома замежных спраў СССР у Берлін; Гітлер прапаноўваў тады падзяліць паміж сабой заходнюю Еўропу. «У трыццаць дзевятым годзе мы гэтак дружна падзялілі ўсходнюю Еўропу, цяпер давайце падзелім заходнюю, аднак дзеля гэтага вам давядзецца далучыцца да восі Рым–Берлін–Токіо». Збіраючы матэрыял пра саракавы год у дыпламатыі, зразумела, акунуўся я і ў трыццаць дзевяты, у тыя дакументы, якія даступны цяпер таксама праз розныя публікацыі. Канечне ж, у трыццаць дзевятым годзе адбыўся бессаромны падзел усходняй Еўропы паміж дзвюма аўтакратычнымі дзяржавамі. Праўда, нам, беларусам, неабходна і тое сказаць — у выніку тых падзей мы нарэшце ўз'ядналіся абедзвюма сваімі часткамі, усходняй і заходняй; нас стала зноў дзесяць мільёнаў. Відаць, да гістарычных праблем заўсёды трэба ставіцца канкрэтна, дакладней, таксама гістарычна, з пункту гледжання гістарычнай справядлівасці таго ці іншага народа. У Польшчы сёлета ў мяне часта пыталіся — ці будзеце вы, у Беларусі, адзначаць вераснёўскія падзеі трыццаць дзевятага года? А як жа, адказваў я шчыра, мы тады ўз'ядналіся ў адну нашу беларускую сям'ю, для нас нарэшце настала справядлівасць, парушаная Рыжскім дагаворам!

Між тым эстонцы, латышы, літоўцы збіраюцца ў гэтым месяцы, здаецца, 23 чысла, узяцца на адлегласць ад Таліна да Вільнюса за рукі, каб такім чынам адзначыць «несправядлівасць, што была ўчынена ў трыццаць дзевятым годзе ў адносінах да іх…».

З другога боку ўсё-ткі трэба прызнаць, што не народы выбіраюць шляхі гісторыі, хутчэй гісторыя выбірае іх.

«Атмода» друкуе ў сувязі з гэтымі даўнімі падзеямі выняткі з «Канвенцыі аб законах і звычаях сухапутнай вайны», якая была прынята ў 1907 годзе'на другой Гаагскай канферэнцыі, таксама некаторыя пункты з «Жэнеўскай канвенцыі ад 12 жніўня 1949 года аб абароне грамадзянскага насельніцтва ў часе вайны», суправаджаючы іх аналітычным артыкулам «Роздум на раздарожжы».

* * *

Няма міру на зямлі. Няма яго нават тады, калі не ідуць войны.

Між тым учора па тэлебачанні паказалі адзін выдатны куточак зямлі ў Афрыцы — кратэр вулкана Нгорангора. Разам з

драпежнымі звярамі, такімі, як львы, у кратары гэтым мірна суіснуюць антылопы, буйвалы… Чым не «клімат сужыцця»? Людзям не лішне было б сёе-тое пераймаць у звяроў.

Кідаючыся ў думках аб трагічным лёсе сучаснага чалавека на зямлі, прыходзіш да сумнай высновы: усё ў жыцці яго зводзіцца, па сутнасці, да самалюбства. Куды лепей было б, каб чалавек паставіў мэтай свайго існавання зусім іншае, напрыклад (а можа, гэта ў першую чаргу), тую ж самую любоў, але большую за сябе. А то ж толькі ў асобных выпадках чалавецтва магло дасюль бачыць гэту вялікую якасць свайго індывідуума.

Наш час, бадай, як ніколі вымагае самай выразнай акрыленасці чалавечага прызначэння. Пара ўжо шмат на што паглядзець не адназначна. Слова гэта цяпер чуецца ўсё часцей і часцей. Можна сказаць, у ранейшым жыцці мы яго ўсё роўна як і не ўжывалі. І ўвогуле раней людзі стараліся абыходзіцца настолькі звыклымі, настолькі зразумелымі тэрмінамі. якія зусім не павінны былі выклікаць сумнення, а пра так званую двухсэнсоўнасць ужо і казаць няма чаго. Маналітнасць, адзінства і гэтак далей. У выніку дайшлі да стагнацыі, дэфармацыі і ўсеагульнага разбурэння — у галіне палітыкі, эканомікі, культуры, маралі… Наша жыццё стала падобна на шалі, якія рэзка хісталіся ад самага малога цяжару. А былі ж у нашым жыцці (не дай бог яшчэ) і зусім нязносныя цяжары. У кожным разе, асэнсоўваючы цяпер усё, што з намі рабілася на працягу шматлікіх гадоў, нарэшце прыходзім да разумення, што сёння неабходна вяртацца да многіх паняццяў, якія былі альбо знарок затлумлены, альбо расчэплены, а тым часам наўмысна заблытаны, падменены… Нават праўда ў нас існавала не як адно цэлае; яе лёгка дзялілі на часткі, выдавалі адну перад адной: сёння такая, заўтра — наадварот. Цяжка, вельмі цяжка ад падобнага ўсведамлення. І тым не менш, неабходна рухацца далей.

Асабіста мяне, прызнацца. заўсёды бянтэжыла, калі мы зусім адвольна, зыходзячы з патрэб штодзённасці, абыходзіліся нават з такімі прыярытэтамі, як: 1) клопат аб хлебе надзённым і 2) усведамленне, што не хлебам адзіным жыве чалавек. Мы, здаецца, ніколі не ўмелі, прынамсі, на маёй памяці, — дык, бадай, мы сапраўды ніколі не ўмелі спалучаць у адзін час абедзве гэтыя часткі чалавечага існавання. А без гэтага ладзіць нармальнае чалавечае жыццё нельга, іначай заўсёды, раз за разам, перыяд за перыядам, эпоха за эпохай, калі да месца тут карыстацца такімі ўяўленнямі па ўзрастаючай лініі, будзем трапляць у балота згрызот і расчаравання. Дамагаючыся выразнай акрэсленасці чалавечага прызначэння, неабходна, зразумелая справа, шмат што пераасэнсаваць,

але не з тым, каб толькі дайсці да строгасці ўжывання тэрмінаў, а для таго, каб без рызыкі страшэннай памылкі вырашаць, як жыць далей і што рабіць. Дарэмна мы таксама дасюль спрачаліся, калі чалавеку лепей жыць — у «колькасці» ці ў «якасці»? Цяпер гэта колішняе неразуменне здаецца смешным, але ж з песні слова не выкінеш. І ці не таму даволі часта даводзіцца слухаць у нашы дні, што перабудова наша распачата таксама не вельмі прадумана — так званыя палітычныя зрухі, падобныя на тэктанічныя змяшчэнні зямной кары, спрабуем ажыццявіць на бяздоннай яме, якая завецца эканамічнай разрухай. Больш таго, аддаём перавагу пры гэтым эканамічнаму боку перабудовы. Але гэта ўяўнае разуменне прыярытэту няхай нават пры прывідзе голаду… Чалавек, апынуўшыся ў палоне навукова-тэхнічнага прагрэсу, раўнадушна глядзіць на разнастайныя катастрофы і. уласна кажучы, нічога не хоча рабіць дзеля паляпшэння справы.

Відаць, надзвычай правільна мы робім, калі бяромся нанова чытаць Маркса, Леніна. Нават не так нанова, як зыходзячы з цяперашняй — удалай ці, наадварот, няўдалай — практыкі грамадскага будаўніцтва. Напрыклад, я быў моцна здзіўлены, даведаўшыся, што заснавальнік марксізму ў апошнія гады свайго жыцця звязваў пераход да вышэйшай ступені чалавечага быцця не з задачай развіцця прадукцыйных сіл, а з карэннымі інтарэсамі захавання людскога роду, чалавечага жыцця ўвогуле.

Моцна, вельмі ж моцна прыкрываліся мы ў сваёй разбуральнай дзейнасці Марксам, Леніным… Цытаванне класікаў марксізму-ленінізму ператварылася ў нас у рытуал. А між тым ужо даўно станавілася зразумелым, што цытаты з прац іх, успамінаў, анкет браліся на ўзбраенне тады, калі навідавоку была тэарэтычная бездапаможнасць, калі замест таго, каб дапамагчы справе, неабходна было «закрыць» альбо «давесці» да абсурду якую-небудзь праблему, што станавілася небяспечнай ці проста непажаданай. Сёння нам зразумела дужа многае. Асабліва тое, што Сталін, Троцкі, Бухарын, маючы на мэце свае амбіцыйныя інтарэсы, маніпулявалі святымі імёнамі. Ды і не толькі адны гэтыя правадыры. Таму ў людзей адразу ўзнікае насцярога, калі чуюць знаёмыя выразы: «Маркс сказаў…», «Ленін сказаў…»

Чалавецтва ўвогуле схільна перабольшваць значэнне сваіх куміраў. Больш таго, яно свядома стварае іх. І тады «апякаецца» аб іх і з неўразуменнем і бясконцым сумам назірае, як ідэі і думкі куміраў перашкаджаюць думаць і дзейнічаць. Хоць даволі часта ўзнікаюць сітуацыі, калі тое ж чалавецтва з такой жа зацятасцю разбурае кумірні, куды яшчэ ўчора насіла сваіх ідэалаў.

Вядома, гэтыя развагі, можа, найменш тычацца Маркса, Леніна. Хутчэй за ўсё так. Але не станеш адмаўляць таксама наступнага: у цывілізаваны век, на зыходзе дваццатага стагоддзя не маглі нарэшце людзі не адчуць, што неабходна з розумам падыходзіць да высноў і ідэй чалавека, які сапраўды геніяльны і вялікі, аднак які, надзелены намі ўсялякімі дабрадзейнасцямі, усімі вядомымі талентамі. усімі вышэйшымі якасцямі, быў так узвышаны, што траціў рысы чалавека. ператварыўся ў надчалавека, дарма што і цяпер знаходзіцца вялікая патрэба зносін з ім.

Тут, у Юрмале, ужо ці не трэцяе дзесяцігоддзе стаіць помнік Уладзіміру Ільічу: моцная чалавечая постаць нібыта высечаная з суцэльнага каменя… Выдатная скульптура, здаецца, нават непаўторная, хоць з Леніным у нас не паўтарыцца амаль немагчыма. Але я не пра гэта. Вось пра што. Раней каля ног яго на зусім нізкім пастаменце, дакладней, на пліце, ляжалі кветкі. Іх часта мянялі, таму заўсёды былі як жывыя. Цяпер кветкі пад ногі Уладзіміру Ільічу кладуць не часта…

Гледзячы на яго, нават можна задумацца іншы раз: ці ёсць патрэба прысягаць другому сцягу. І ўвогуле, якому сцягу трэба прысягаць?

Тут, у Латвіі, даволі хутка і настойліва прывыкаюць да чырвона-бела-чырвонага. У Расіі нефармалы пачынаюць размахваць бела-сіне-чырвоным. У нас, у Беларусі. часта можна бачыць на мітынгах Народнага фронту бела-чырвона-белы колер. Адзін дзівак носіць з сабой на сходы жоўта-бела-жоўты…

Нядаўна да нас, у Пастаянную камісію Вярхоўнага Савета БССР па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах, прыйшло пісьмо ад чалавека, які палічыў, што цяперашні дзяржаўны сцяг рэспублікі не адпавядае не тое што сапраўднасці, хутчэй — ‘справядлівасці, маўляў, не хапае яшчэ аднаго колеру, белага, які адпавядаў бы таму значэнню, якое займае ў грамадскім жыцці нацыянальная інтэлігенцыя… Зялёны колер, на яго думку, увасабляе на нашым цяперашнім сцягу сялянства, чырвоны — рабочы клас, а вось месца інтэлігенцыі на ім не знайшлося… Таму чалавек прыслаў выяву новага сцяга — зялёна-чырвона-белую…

А ўвогуле сімволіка якраз і прыгожая сваёй шматзначнасцю і магчымасцю шматлікай колькасці інтэрпрэтацый. Акрамя таго, ёсць у колерах сімволіка традыцыйная, бо здаўна, напрыклад, вядома, што белы колер увасабляе высакароднасць, шчырасць; сіні — вернасць, сумленнасць; чырвоны — мужнасць, адвагу.

Тым часам, бываюць у адных і ты.х жа народаў дзяржаўныя сімвалы і нацыянальныя. Цяпер у нашай краіне амаль паўсюды пачалася цяга да ўзнаўлення нацыянальнай сімволікі.

Напярэдадні канферэнцыі аб культуры і перабудове, якая адбылася ў нас, у Мінску, на пачатку чэрвеня, на пасяджэнні аргкамітэта я прапанаваў уключыць у праграму даклад па нацыянальнай сімволіцы. Прапанова была прынята. Але што пачалося на самой канферэнцыі! Сярод вучоных узнікла такая дыскусія, што ніякавата было слухаць. І не таму, што гаварылі з трыбуны абы-што, проста, прысутныя адчулі раптам, што ніхто не ведае, што азначаюць нашы сімвалы і адкуль яны пайшлі. Дарэчы, такое становішча з усёй нашай беларускай гісторыяй. І тым не менш, ёсць надзея на маладых гісторыкаў ды на такіх, як Я. Юхо, Г. Штыхаў, М. Ермаловіч, В. Круталевіч, А. Грышкевіч. Для «Спадчыны» пра нацыянальную сімволіку піша артыкул А. Цітоў. Дарэчы, у яго ўжо выйшла цікавая кніга, здаецца, «Гербы беларускіх гарадоў». А можа, загаловак я прыпадабняю да колішняй сваёй заметкі ў часопісе «Беларусь»: яна называлася таксама гэтак — «Гербы беларускіх гарадоў». Пра што я толькі не пісаў у жыцці!

Як чалавек талерантны, сам я за найшырокі спектр колераў. Таму нічога не маю супраць бела-чырвона-белага сцяга. Але не хачу, каб ён зрабіўся цацкай альбо нават сімвалам у нашай нацыянальнай зацятасці, якая назіраецца ў некаторых амбітных людзей. Няйначай што некалі гэтаму сцягу нашы продкі прысягалі на вернасць і за яго памералі. А таму чалавеку, што прысылаў выяву і апісанне новага дзяржаўнага сцяга, быў пасланы за маім подпісам адказ такога характару: яшчэ пад гэтым нашым зялёна-чырвоным сцягам можна вельмі многа добрых спраў зрабіць, за якія нашчадкі скажуць нам дзякуй.

Сёння па тэлебачанні перададзена паведамленне аб нарадзе ў ЦК. КПСС па нацыянальных пытаннях. Ад Палітбюро выступілі Чэбрыкаў і Слюнькоў. Няйначай мала хто здагадваўся дасюль, што гэтыя таварышы спецыялісты ў гэтай галіне!.. Чаго толькі не бывае!..

А дождж тым часам рэдка калі надоўга перашчукае ў Дубултах. Ад самага нашага прыезду. Жывём мы на пятым паверсе, амаль на ўзроўні вершалін дрэў, што абступаюць дом. Таму кожнага дня можна назіраць, як клубіцца паміж іх туман, нагадваючы іншы раз аблокі. Хутка ўжо ўвогуле тут пачнуцца непраглядныя туманы, якія закрыюць і бераг, і заліў…

* * *

Усё больш і больш робіцца відавочным, што для вываду краіны з крызіснага становішча, у якім яна ўсё роўна як самахоць, неўпрыкмет апынулася раптам, патрэбны ўсенародны подзвіг і ў сэнсе самаадраджэння, і ў сэнсе працы. Важна, каб у кожнага з нас з'явілася новае святло, бо калі ў душы чалавека загараецца святло, то патушыць яго нельга.

Думаецца, што мы ўсё яшчэ недаацэньваем магчымасць удзелу ў наладжванні сённяшняга нашага жыцця (маюцца на ўвазе ўсе аспекты яго) класікаў літаратуры, такіх, як Леў Талстой, Фёдар Дастаеўскі, Максім Горкі, Янка Купала, Іван Мележ… Асабіста я перакананы, што ў наш час філасофскія погляды выдатных пісьменнікаў не толькі могуць дапаўняць маральныя каштоўнасці марксізму-ленінізму, але ў пэўнай ступені абнаўляць іх увогуле. Праўда, мне могуць запярэчыць, маўляў, марксісты заўсёды цанілі мастацкую і філасофскую спадчыну літаратараў, часта выкарыстоўвалі яе ў сваіх творах. Але ніхто не стане адмаўляць, што выкарыстанне гэта, як правіла, суправаджалася катэгарычнымі папраўкамі, якія часцей зводзіліся да вульгарных выгавораў: Дастаеўскі не ўлічваў… Талстой памыляўся, калі сцвярджаў… Горкі не зразумеў… А колькі нашаму Купалу рабілася папрокаў (праўда, не класікамі марксізму-ленінізму, а іх паслядоўнікамі), што і таго не зразумеў і таму дарэмна хвалу спяваў?..

Мы ўсе нарэшце павінны зразумець, што для ўзвышэння на новую ступень неабходна як хутчэй ажыццявіць новы культурны сінтэз, уцягваючы ў яго самыя розныя погляды.

За дэфармацыю сацыялізму (проста сказаць — дэфармацыя) мы абвінавачваем звычайна Сталіна. Але ж гэта таксама няпоўная праўда. Так, мы высветлілі практычна ўсе пралікі і грубыя памылкі Сталіна. Сказалі (відаць. яшчэ — збольшага) пра злачынствы, пра тое, якую шкоду народу прынёс яго палітычны авантурызм. Але мы не гаворым пра тое, за што ён асабіста не нясе адказнасці; гэта значыць мы ўсё яшчэ не гаворым аб трагедыях і заблуджэннях рэвалюцыйнага рабочага руху і ўвогуле — аб заблуджэннях эпохі. Былі б на яго месцы Троцкі, Бухарын. можа,нават Дзяржынскі ці Фрунзе, пра якi.х часам узнікае гаворка як аб магчымых па тым часе пераемніках Леніна, адбывалася б няйначай тое ж самае, што і пры ім. Вучоныя і публіцысты чамусьці не хочуць бачыць таго, што Сталін не проста стварыў «сваё царства», дакладней, «наша царства»,

умацоўваючы асабістую ўладу, якая вырадзілася ў тыранію; ён жа пераўтварыў сацыяльную структуру грамадства, будаваў сацыялізм у адпаведнасці з тэорыяй, прабаваў паскорыць рух краіны да камунізму, пачаты ў 1917 годзе.

Навошта падманваць сябе, міфалагізаваць Сталіна і яго справу? І ён, і яго дзейнасць, прачытаў я нядаўна ў адной кнізе, уяўляюцца параджэннем рэвалюцыйнага руху, якое пачалося задоўга да таго, як Сталін прыйшоў да ўлады. Спачатку было слова. Таму мы павінны суаднесці гэтае слова, гэта значыць навуковы сацыялізм, з уласнымі ўяўленнямі Сталіна аб ім, а тады ўжо прымераць здзейсненае ім да задум Маркса, Леніна.

Няйначай, што рух да галоўнай праўды (бачыце, і я праўду ўжо дзяліць пачынаю, дарма што папярэджваў другіх ад гэтага), дык рух да праўды неабходна ажыццяўляць з канстатацыі зусім не страшнай, вядомай ісціны. А яна ў тым, прачытаў я ў той жа кнізе, што і мысленне Сталіна і яго ўяўленне аб сацыялізме былі тыповымі для марксістаў таго часу. Ва ўсякім разе трэба набрацца мужнасці, якой мы валодалі трыццаць гадоў назад, у часе XX з’езда, каб сур’ёзна заняцца даследаваннем філасофскіх і сацыяльных ідэй, шаблонаў мыслення, якія ляжалі ў падмурку палітычнай і эканамічнай практыкі дваццатых, трыццатых, саракавых гадоў, ажно да перабудоўчага часу. Якраз толькі тады стане зразумела: калі, як і чаму аказалася магчымым гэтак дэфармаваць марксізм.

Разважаючы гэтак, я зусім не імкнуся апраўдаць крывавую тыранію; хачу растлумачыць, бо вядома, што ёсць людзі (і яны заўсёды будуць знаходзіцца), якія спрабуюць тлумачыць сталінскую свірэпасць, самадурства і ўсенароднае катаванне тым, што «вялікі архітэктар светлага будучага» нібыта зайшоў у сваім шчырым імкненні далей, чым тэарэтычна і практычна было прадвызначана і неабходна.

Мы цяпер. у часе нечаканай галоснасці, якая пасыпалася зверху. акурат манна нябесная, зрабіліся дужа словаахотлівымі і не заўсёды стрыманымі, таму гэтак люта тэарэтызуем і праклінаем. Але час ужо і штосьці тлумачыць, бо іначай не справіцца з практычнымі задачамі нашай жыццядзейнасці. Справа за доказамі, аргументамі. Іх цяпер, вядома, хоць адбаўляй. І ў кожнага свае. Кажуць, яшчэ жывы Кагановіч, здаецца, апошні з паплечнікаў крывавага тырана. Дык Кагановіч дажывае свае дні ў адзіноце, і калі журналісты робяць спробы пранікнуць да яго ў кватэру, каб з першых рук атрымаць падрабязнасці таго часу, даведацца куды больш, чым могуць даць афіцыйныя крыніцы,

крывавы Лазар, які пабываў з крывавай місіяй ледзь не ў кожнай савецкай рэспубліцы, у тым ліку і ў Беларусі, дык гэты крывавы Лазар, адчыняючы дзверы дапытлівым, замест размовы, якой яны прагнуць, рагоча і паказвае фігу. Можна сказаць — вар'ят. Што ж, ёсць з чаго звар'яцець. Другі паплечнік тырана Маляңкоў (і гэта таксама паводле людскіх апавяданняў) апошнія гады перад смерцю замольваў свае вялікія грахі ў царкве. Хадзіў туды кожнага дня на ютрань, стаяў пасярод сапраўды набожных людзей, якія ўцалелі ад ягонай жа тыраніі, і аб нечым думаў. Цікава. аб чым?

Між тым чалавечая памяць не дужа надзейны хавальнік патаемнасцей. Чалавечае жыццё кароткае. Да таго ж чалавек старэе, а старэючы, упадае ў маразм. Іншая справа — памяць народа. Пакуль жыве народ — датуль дзейнічае і ягоная памяць. Яна самая сумленная, што ёсць на свеце, і самая справядлівая. Можна знявечыць і перапісаць гісторыю, перайначыць яе згодна нейчым інтарэсам — ці то асабістым, ці то грамадскім, — але з памяццю народа, калі яна ўжо зачапілася за што, нічога няздольны зрабіць ні адзін чалавек, ні група.

Пра гэта вось неяк доўга ўчора мы размаўлялі з Туулікам. У іх цяпер, у Эстоніі, ідзе забастоўка на прадпрыемствах, дзе працуюць пераважна людзі так званай некарэннай нацыянальнасці. Да заводскіх далучыліся будаўнікі, транспартнікі, чыгуначнікі некаторых станцый, авіятары. Прычынай забастоўкі з'явілася рашэнне сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі аб выбарчым законе, дакладней, аб цэнзе аседласці ў ім. Туулік моцна перажывае гэтыя падзеі, слухае па радыё, як яны разгортваюцца ў Таліне, Кохтла-Ярве… Учора ж гаворка нечакана перакінулася таксама на даўнія часы, у тым ліку і на сталінскія рэпрэсіі. У Эстоніі яны пачаліся з таго, што работнікі НКУС раптам пачалі арыштоўваць і вывозіць кудысьці наглядчыкаў марскіх маякоў… Затым — афіцэраў былой эстонскай арміі. Пасля — членаў буржуазнага ўрада і гэтак далей. Як кажуць, да рабочых і сялян чарга ўжо дайшла пасля вайны з немцамі. Але перад адыходам Чырвонай Арміі ў сорак першым годзе адбываліся масавыя расстрэлы і ў мясцовых турмах. Знявечаныя трупы людзей немцы потым выстаўлялі на плошчах — глядзіце, маўляў, якія вылюдкі бальшавікі.

Вядома, слухаць пра тое, што Гітлер такі ж нягоднік, як і Сталін, ці наадварот — Сталін такі ж, як і Гітлер, заўсёды непрыемна. Але гэта таксама гісторыя і ўжо, на жаль, не «опроки-

нутая». Над Гітлерам праклён даўні, усенародны, над Сталіным ён толькі пачынаецца.

Я спытаў Тууліка, ці ёсць у іх, у Эстоніі, такія месцы масавага пахавання. як у нас, у Беларусі?

— Ты маеш на ўвазе Курапаты? — паглядзеў ён на мяне.

— Не толькі Курапаты, — удакладніў я.

— Дык чаму ж вы піш’аце пра адны Курапаты?

— У адной са сваіх п’ес я паспрабаваў рассакрэціць яшчэ адно такое месца -— Цівалі, то Галоўліт наш прымусіў рэдактара часопіса выкрасліць.

— Значыць, яшчэ дзейнічаюць сілы, якім нявыгадна ўсё гэта.

— Бадай.

— А мы, можна сказаць, убераглiся ад такіх могільнікаў на сваёй зямлі. Нашых вывозілі за межы Эстоніі. Цяпер у нас пра гэта ствараецца цэлая літаратура. Нядаўна я, напрыклад, даведаўся, як памёр недзе каля Варкуты наш дасавецкі прэм’ер-міністр. Не было ў што адзець чалавека, каб пакласці ў труну. Ды і труну з цяжкасцю ўдалося зрабіць. Але галоўнае не ў тым. Узяліся пахаваць прэм’ер-міністра нейкія людзі, можа,зэкі. Вынеслі труну на люты мароз, пранеслі трохі за ваколіцу, а там і выкінулі нябожчыка ў снег: вогнішча з дошак спяшаліся распаліш., каб пагрэцца. А ў вас у Курапатах каго забівалі?

Так,хутка пайшлі Курапаты па свеце, як і Хатынь некалі.

Сапраўды, аб Курапатах, што знаходзяцца на ўскраіне Мінска і амаль на адной дарозе з Хатынню, цяпер ведаюць не толькі ў нас, у Беларусі. Беларускія справы ў апошні час наогул вельмі хутка становяцца здабыткам не толькі ўсяго Савецкага Саюза, але таксама Еўропы, нават Амерыкі, адкуль ажыццяўляюцца перадачы розных радыёстанцый. Раней «Голас Амерыкі» рэдка калі звяртаў увагу на Беларусь. Цяпер звяртае. Праўда, нічога добрага пра сваю рэспубліку па «Голасу Амерыкі» я пакуль не чуў. Ды, відаць, і ніхто іншы.

Каго забівалі ў Курапатах? Ніхто яшчэ не ведае. Па дакументах тых дзесяці тысяч ахвяр, якія разгледжаны былі ў праваахоўных органах перад летнім пасяджэннем дзяржаўнай камісіі, месцам пакарання іх значыцца Мінск, гэта значыць прыгавор прыведзены ў выкананне ў Мінску. Хутчэй за ўсё, што Курапаты тады таксама ўваходзілі ў гэта энкавусаўскае паняцце «Мінск». Але тое, што ў Курапатах расстрэльвалі і савецкіх людзей, сёння ўжо не выклікае сумнення: нашы кулі, наш почырк забойства. Да таго ж на адзенні, якое, вядома, сатлела за столькі гадоў, сям-там захаваліся нашы меткі, дакладней, меткі беларускіх швейных

фабрык. Але трапляюцца і даволі часта сярод іх таксама загранічныя меткі. Не выключана магчымасць, што ў Курапатах у нас быў усесаюзны палігон, дзе энкавусаўцы маглі расстрэльваць не толькі жыхароў Беларусі; маглі прывозіць сюды на пакаранне таксама ахвяры з Прыбалтыкі… Мяне, напрыклад, бянтэжыць наступны факт. У шасці магілах (а іх, здаецца, толькі шэсць спачатку і раскапана было крыміналістамі і археолагамі), у кожнай з якіх знаходзяцца рэшткі 50–60 чалавек, знойдзена каля трох кілаграмаў золата і плаціны ў выглядзе зубоў, пенснэ, запанак… Адкуль такое багацце? У людзей усёй нашай рэспублікі — сялян, рабочых, інтэлігенцыі — наўрад ці было ўвогуле тады на зубах, на запанках і гэтак далей столькі золата, а тым больш — плаціны. Прынамсі, у нашай вёсцы ні адзін чалавек не насіў на сабе нават грама золата, хоць старыя царскія залатоўкі ў сяго-таго можна было знайсці. Значыць, ільга лічыць цалкам верагодным, што ў Курапатах маглі апынуцца людзі з іншых месц, можа, нават «камінтэраўцы» з Масквы, калі паняцце гэта расшырыць на прыналежнасць — проста, іншаземцы. Нездарма ж сяляне, якія жылі да вайны ў навакольных вёсках, усё яшчэ сведчаць, што везлі ў Курапаты ахвяры не толькі з Мінска, але і з бліжэйшай чыгуначнай станцыі, якая размешчана на лініі Мінск–Барысаў–Орша–Смаленск і гэтак далей.

І яшчэ — зусім нядаўна лічылася, што ўжо немагчыма даведацца дакладна не толькі пра тых, хто ляжыць у магілах у Курапатах, аднак і пра тых, што прыводзілі там прыгаворы ў выкананне. Дык вось сёння мы ведаем, хто працаваў тады ў камендацкай камандзе НКУС, хто ажыццяўляў расстрэлы — гэта: начальнікі камендатуры Нікіцін, Коба, яго намеснік Ермакоў, таксама Бачкоў, Астрэйка… Вялі следства і судзілі адны, так званыя «іншародцы», каралі другія, так званыя «славяне». Нікога з тых, хто судзіў і хто расстрэльваў, няма ў жывых. А калі і ўцалеў хто, дык таксама недзе сядзіць, гніды прышчаміўшы. А ты цяпер варушы чалавечыя косці ў магілах, прыкідвай, што да чаго, ды пакутуй ад сваёй бездапаможнасці. Тым часам людзі лічаць, што нават ад урадавай камісіі КДБ штосьці хавае? Асабіста я ўжо колькі разоў прапаноўваў на пасяджэннях камісіі друкаваць больш поўныя справаздачы аб праведзенай пошукавай рабоце, але газетныя інфармацыі выходзяць куцыя, з іх мала што можна зразумець староннямў чалавеку. Адсюль і недавер да камісіі.

Не толькі людзі, але і час, гады хаваюць ад нас шмат якія таямніцы. І тым не менш, апраўданне існавання кожнага пакалення

заключаецца і ў тым, каб раскрываць гэтыя таямніцы. Думаецца, што пра Курапаты мы таксама некалі будзем ведаць усё.

А ўвогуле даволі часта робіцца сумна, сумна ад усведамлення таго, што злачынцам у нас заўсёды ўдаецца пазбегнуць суда людскога, пакарання. Маюцца на ўвазе не звычайныя крымінальныя злачынцы. Гаворка ідзе пра дзяржаўных злачынцаў, якія амаль усе замураваны ў Крамлёўскай сцяне, а некаторыя пахаваны каля яе… Кагановіч жа тым часам паказвае фігі з-за дзвярэй у сваёй вялікай кватэры… Адны бясконцыя ахвяры… Няма вінаватых…

У доме нашым тут, у Дубултах, сапсуўся міжгародні тэлефон. Заліло недзе вадой. Таму мы даўно не звязваліся з домам, навін з Мінска не ведаем. Газет беларускіх на балтыйскім узбярэжжы таксама няма.

А між тым жыццё ў Латвіі бруіць. Праўда, слова «бруіць» хутчэй перадае крынічную чысціню. Але ж у Латвіі сёння нямала таксама муці. Пра гэта лёгка даведацца з газет, тэлебачання. Учора ў Рызе пачаў работу пленум ЦК КПЛ. Абмяркоўваецца праект праграмы «Да чаго імкнецца кампартыя Латвіі». Здаецца, мне ўжо даводзілася раней у гэтых нататках гаварыць пра падрыхтоўку да яго. З залы пасяджэнняў вядзецца прамы рэпартаж аб пленуме на ўсю рэспубліку. Варта паглядзець на выступленні ўдзельнікаў пленума, паслухаць, якая культура! Ні ў якое параўнанне гэта п’еса не ідзе з той, што разыгрывалася ў Крамлі ў час сесіі Вярхоўнага Савета СССР. Там часта дзея перапынялася інтэрмедыямі. Шмат было самарэкламы; ішло звычайнае спаборніцтва паміж дэпутатамі: хто ўтрымаецца за трыбунай, хто каго перакрычыць; вось ужо праўда — спецыяліст падобны на флюс!.. Цяпер народныя дэпутаты раз’ехаліся на так званыя канікулы. І таксама працягваюць гуляць у самарэкламу. Акрамя іх, здаецца, на экранах тэлевізараў нікога ‘больш і не ўбачыш. Дасюль яны абяцалі выбаршчыкам залатыя горы, цяпер абвінавачваюць ва ўсім урад — гэта ён вінаваты, што яны не могуць выканаць абяцанае; дзівакі, нават забываюць у новым запале, што яны выбіралі ўрад!.. Я ўспамінаю, як цэлая група народных дэпутатаў з Масквы (не толькі тыя, што выбіраліся ў Беларусі) прыязджала на нашу, адзінаццатую сесію Вярхоўнага Савета. Ні даць ні ўзяць — месіянскі дэсант. Але ўжо на другі дзень на тварах некаторых прыезджых народных дэпутатаў можна было прачытаць калі не разгубленасць, то зніякавеласць няйначай. Аказалася, беларусы самі з вусамі.

Але ладна. Я вось пра што падумаў раптам. Можа, каму ўжо нават здалося, што ў маіх прыбалтыйскіх запісах многа невясёлых рэчаў. Справа ў тым, што ў нашы дні ўвогуле мала пішуць пра радасць. Такі, аказваецца, стыль. Таму няйначай і я паддаюся агульнаму настрою.

Тым часам сёння часта паказвалася з-за хмараў сонца. Мы трохі паездзілі на параходзіку па Ліелупе, па Даўгаве. Калі наступны хоць бы адзін такі вось дзень выдасца, стане цёпла. Чым не радасць схаладнеламу чалавеку?

* * *

Кожную раніцу, недзе а восьмай гадзіне, хаджу я на бераг мора. У добрае надвор'е гэтак багата хто робіць, але ў макрэчу, якая ці не штодзень тут здараецца, ахвотнікаў рана выходзіць на пляж знаходзіцца мала. Учора было вялікае спадзяванне на сонечны дзень. Зноў падман. Аднак я спусціўся па лесвіцы да мора. Глянуў на карункавую рысу, да якой дасягалі ўначы хвалі, і быццам абмёр: замест водарасцей, што звычайна выносіць за ноч вада, на беразе серабрыстай паласой ляжала рыба: маленькая, недарослая, тая, што зусім нядаўна нарадзілася з ікры; гэта яна потым ператвараецца ў дарослую рыбу, якую ловяць промыславыя рыбакі. Мне не адзін раз даводзілася бачыць атручаную рыбу. Гэта жахлівае відовішча… А тут… мільёны малькоў!.. Што з імі здарылася? Чым яны атруціліся? І ніхто над імі не плача. Адны чайкі. Але і ім яна ўжо такая не патрэбна.

Я схадзіў у дом па Тууліка, прывёў на бераг: паказаць яму атручаную рыбу. Туулік нарадзіўся пасярод мора, на востраве, дзе ў яго і цяпер яшчэ стаіць бацькава хата. Таму рыбак ён, як кажуць, патомны. Акрамя таго, ён умее захоўваць унутраную стрыманасць. Але гэты раз нібыта сцепануўся. Сказаў: «Сам бачыш, што робіцца, адкуль ёй, рыбе той, у магазінах брацца? Гэта, мусіць, папярова-цэлюлозны камбінат у Слоцы чарговую атруту ў раку пусціў. А адтуль яна сюды, у заліў. Дарэчы, такое тут здараецца не першы раз. Тым часам недзе працуюць цэлыя рыбныя інстытуты, каб гэтакіх малькоў вывесці…»

Пагаварылі так вось, тым і абышлося. Усё-ткі не гаспадары мы тут. Але думалася потым пра страчаных малькоў увесь час. Няўжо на камбінаце не ведаюць, што робяць? Ведаюць, канечне ж ведаюць! Але працягваюць атручваць і рыбу, і людзей.

Дзіўна, але падобнае адбываецца ў такі час, калі значэнне прыродаахоўных праблем цалкам усвядомлена нашым грамадст-

вам. Нарэшце стала ўсім зразумела, што экалогія моцна закранае інтарэсы народа, бо яна шчыльна звязана і з аховай здароўя, і з захаваннем генафонду, ад якога будзе залежаць жыццё наступных пакаленняў; ад экалогіі залежыць таксама сённяшні хлеб наш надзённы і многае-многае іншае.

Усведамленне прыйшло, а вось далей нібыта не ведаем, што рабіць, нібыта дранцвеем перад праблемай нумар адзін. І, можа, таму, што пачынаем не з таго, з чаго неабходна. Вядома, абурэнне таксама ў гэтай справе адыгрывае сваю станоўчую ролю. Але трэба ісці далей, перш за ўсё належыць яшчэ вышэй узняць узровень ведаў, каб дайсці да экалагічнага мыслення.

Я недзе чытаў, што мы былі сярод першых, хто ствараў прыродныя запаведнікі. Морыцсала, Лагадэхі, Баргузінскі, Кедравая падзь, Бярэзінскі… Але ў канцы саракавых гадоў быў высунуты спекулятыўны лозунг аб тым, што недарэчна ахоўваць прыроду ад савецкага чалавека, і сістэма запаведнікаў аказалася разбуранай. Да гэтага прыклалі рукі Лысенка і Берыя. Так, той самы Лаўрэн, што загадваў Гулагам. Нарэшце высветлілася, што ён апекаваўся і над запаведнай справай. Ці не з таго яшчэ часу наша частка Белавежскай пушчы знаходзіцца ў кіраванні Ўпраўлення справамі Савета Міністраў БССР.

Пад дэвізам «Мы не можам чакаць міласці ад прыроды» нарадзілася і працягвае жыць не адно пакаленне людзей. Кіраўнікі нашы таксама з тых пакаленняў. На жаль, менавіта ад іх пакуль найперш залежыць будаўніцтва ачышчальных збудаванняў; якраз яны пакуль самыя непадатлівыя новаму экалагічнаму мысленню, бо менавіта на іх найбольш ляжыць цяжар мінулага абскурантызму.

Экалагічныя веды — гэта навука: батаніка, заалогія, глебазнаўства, генетыка, гідрабіялогія. Няйначай ёсць і іншыя навукі, але мае веды на гэтым канчаюцца. Затое знаю пэўна, што і пералічаныя навукі даўно ўжо не лічацца ў нас прэстыжнымі.

У нашы дні перашкаджае экалагічнай справе і тое,’ што марудна, нават дрэнна ідзе эканамічная перабудова. Драпежныя адносіны да прыродных рэсурсаў, у тым ліку і да рыбных багаццяў, будуць існаваць да таго часу, пакуль не стануць эканамічна нявыгаднымі. Таму на парадак дня як хутчэй павінен сапраўды стаць у гэтай справе экалагічны, а не тэхналагічны падыход. Іначай — загубім дарэшты прыроду. У сувязі з гэтым папярова-цэлюлозны камбінат на Ліелупе проста неабходна закрыць. Падвесці яго, як кажуць, пад закон. Але законы жывуць, калі яны дзейнічаюць. Між тым вельмі сумніцельна, што

яны ў нас дзейнічаюць. Помню, як у Бабруйску ў часе выбараў у народныя дэпутаты СССР мясцовыя выбаршчыкі спыталі ў майго альтэрнатыўнага кандыдата: «Завод, на якім вы працуеце, сама найбольш забруджвае горад. Што вы робіце, каб перашкодзіць гэтаму?» — «Плацім у год да трыццаці тысяч рублёў штрафу», — адказаў ён.

Як бачыце, камбінат на Ліелупе толькі прычына для размовы. У нас, у Беларусі, таксама нямала вытворчасцей, якія наносяць шкоду акаляючаму асяроддзю. На вачах мяняецца возера Нарач. Засолены землі вакол Салігорска. А што робіцца з новымі гарадамі — Наваполацкам, Светлагорскам?

* * *

Раней газету «Известия» чытаў я рэдка, цяпер купляю ў кіёску кожнага дня. Спытаеце — чаму раптам? Есць прычына.

Якраз пры канцы ліпеня, калі я ўжо збіраўся патроху ў дарогу, пазваніў айцец Серафім, памочнік мітрапаліта Філарэта. «Ёсць справа», — сказаў ён. Тым часам мне не першы раз ужо мець справу з царкоўнікамі. Сёлета на Вялікдзень нават малебен адстаяў у саборы на плошчы Свабоды па запрашэнні Уладыкі. Ёсць нейкая зачараванасць у царкоўнай службе. Што б ні гаварылі атэісты, але ёсць у ёй нейкая патаемнасць, што прымушае парафіян гадзінамі стаяць ды слухаць. Калісьці Ленін гаварыў, што рэлігію (у сэнсе — царкву) можа замяніць тэатр. Але не хутка гэта будзе. Я на сабе адчуў, што служба ў храме мацней пакуль за дзейства ў тэатры. Ды і царква цяпер нібыта нанова адрадзілася. Не, не скора тэатр заменіць царкву, асабліва пры той відавочнасці, што ў нашы дні на вялікія рэлігійныя святы зноў няма дзе яблыку ўпасці ў часе малебна, а месцы ў тэатры не заўсёды запоўнены. Дарэчы, калі я гаварыў пра новы сінтэз культуры, то рэлігію, як адзін з маральных фактараў, таксама меў на ўвазе.

З айцом Серафімам мы тады дамовіліся, што ён па справе прыедзе на Пуліхава. На вуліцы ішоў дождж, аднак айцец Серафім не прымусіў доўга чакаць сябе. Прыехаў, паказаў ліст у абарону Гомельскага кафедральнага сабора, дарэчы, адзінага ў Беларусі. Служба ў ім з перапынкамі ішла, здаецца, да сярэдзіны шасцідзесятых гадоў. Пасля сабор па нейкай прычыне закрылі. Усё хацелі зрабіць там планетарый, мусіць, нават зрабілі. Цяпер людзям закарцела нанава адкрыць сабор з царкоўнай службай, а дакладней — вярнуць ранейшы воблік: і архітэктурны, і куль-

тавы. Зразумела, што Беларуская епархія не магла пры гэтым апынуцца ўбаку. Пачалася доўгая перапіска з гомельскімі адміністратарамі. Тыя ані шманаюць. Таму'вось і з'явіўся на свет новы ліст, але падпісаны ўжо дужа вядомымі людзьмі краіны. «Хацелася б, каб і вы падпісаліся, — сказаў айцец Серафім. — Мы змовіліся, што надрукуе яго газета «Известия».

Што ж, справа боская. Я падпісаў. А цяпер чакаю, калі той ліст з'явіцца ў друку, таму купляю «Известия». Але ўжо сярэдзіна жніўня, а на старонках газеты ліста ўсё няма. Няйначай у Гомелі ўсё вырашылася як след, бо адрасавана пісьмо было Я. Я. Сакалову[1].

Апошнія гады па роду службы я ўвогуле далучаны да матэрыяльнай культуры. Даводзіцца займацца шырокім колам пытанняў, бо ў наш нялёгкі час прыйшло разуменне, што гістарычная самасвядомасць можа існаваць тысячагоддзі толькі дзякуючы помнікам культуры. Помнікі пісьменства, другія стварэнні чалавечага розуму, чалавечых рук з'яўляюцца сведкамі багацця гістарычнай свядомасці народа і ўмовай яго далейшага развіцця. Як толькі знікаюць матэрыяльныя носьбіты культурнай інфармацыі — знікае культура. У Беларусі ўзята на ўлік больш за трынаццаць тысяч помнікаў. А яшчэ болей, відаць, не ўзята. Цяпер распрацоўваецца рэспубліканская праграма «Спадчына». Але як па-людску зрушыць захаванне і аднаўленне помнікаў гісторыі і культуры, ніхто не мае пакуль уяўлення. Усё планы ды планы. Нягледзячы на гэта, Фонд культуры спрабуе штосьці рабіць канкрэтнае. Па нашых хадайніцтвах бюро ЦК КПБ прыняло рашэнне аб узвядзенні помнікаў на Буйніцкім полі, дзе ў сорак першым годзе змагалася пры абароне Магілёва дывізія генерала Раманава, помнікаў Кірылу Тураўскаму, Сімяону Полацкаму, Кастусю Каліноўскаму, Васілю Вашчылу… Праўда, далейшы лёс іх залежыць ад Міністэрства культуры рэспублікі, але там справы пакуль чамусьці глухнуць. Трэба спадзявацца, што з прыходам новага міністра яны зрушацца з месца.

Між тым даволі часта ў часе вырашэння таго альбо іншага пытання, якое датычыць помнікаў гісторыі і культуры, адчуваеш сябе бездапаможным, бо працэс катастрафічнага разбурэння іх не толькі не спыняецца, але нават паскараецца. Па падліках дасведчаных людзей мы страчваем у краіне кожнага дня не менш за дзесяць розных помнікаў. І гэта з ліку тых, якія ахоўваюцца дзяржавай. Можна ўявіць сабе, што робіцца тым часам з «неапрыходаванымі».

Нягледзячы на ўсе добрыя справы, людзі, якія сядзяць у адказных кабінетах, не толькі іншы раз застаюцца да айчынных помнікаў раўнадушнымі, але і спрыяюць разбурэнню іх. Назіраюцца нават факты варожасці, бо помнікі перашкаджаюць адміністратарам (гэта яшчэ дужа лёгкае слоўца — адміністратары) будаваць заводы, адміністрацыйныя корпусы, ведамаснае жыллё. Ды і ці мала яшчэ што?

На шмат якіх гістарычных збудаваннях вісяць таблічкі: «Ахоўваецца законам». Яны, гэтыя таблічкі, паступова на нашай памяці ператвараюцца ў насмешку над грамадскім клопатам, бо прымацоўваліся амаль заўсёды больш чым на аварыйных помніках архітэктуры.

Разумных гаворак аб усім у нас шмат. Час ужо і ўладу пасапраўднаму ўжываць. Неабходна перш за ўсё вылучыць органы аховы помнікаў з сістэмы выканаўчай улады, каб яны дзейнічалі самастойна, каб нарэшце займелі права «вета». Трэба дамагчыся галоўнага — ператварэння аховы спадчыны з неабавязковага мерапрыемства у асноўнае. Вось так!

* * *

Між тым, здаецца, ніколі яшчэ ў такіх вось запісах не ўдаваўся я гэтак у грамадскія развагі. Канечне, без іх, асабліва цяпер, не абысціся. Цяпер кожны калі не мысліцель, то тэарэтык ужо пэўна што. Любы крыкун, любы дэмагог — тэарэтык. Бо тэорыя зрабілася падобнай на звычайныя зграызоты, пра якія гаварыў надоечы. Яна апусцілася з-за воблачных вышынь, апала зрэджаным туманам на зямлю і перастала быць незразумелай. Раней мы адчувалі недахоп у практыцы, цяпер нібыта — у тэорыі. Але гэтае адчуванне падманлівае. Даступнасць тэорыі — усеагульная прафанацыя. Дарэчы, сесія Вярхоўнага Савета ў Крамлі была сведчаннем гэтаму. Там многія імкнуліся выдаць сябе тэарэтыкамі, дарма што ўвогуле выразных думак хапала на абзац. Але вернемся да першага сказа. Сапраўды, чаму пісьменнік-празаік аддае ў нататках перавагу публіцыстыцы, нават не перавагу, а зусім ігнаруе законы прозы. Адказ просты — вінавата надвор'е. Скрозь сцяну дажджу не дужа багата што ўбачыш. Сёння некаторыя з пісьменнікаў падаліся на экскурсію ў Талін. Прызнацца, я пашкадаваў, што таксама не запісаўся ехаць. Рабочыя ў Таліне па-ранейшаму бастуюць. Туулік супакойвае нас, маўляў, усё ўвойдзе ў свае жыццёвыя берагі. Але ў краіне людзі занепакоены

цяперашняй эстонскай сітуацыяй. Гэта адчуваецца па тых выказваннях, якія часта ў гэтыя дні чуюцца па радыё і тэлебачанні.

Ну што ж, раз мы ўжо заклеймавалі грамадскія развагі, якія пераважаюць у сшытку, раз гэтак лёгка адракліся ад публіцыстыкі, дзеля разрыўкі, як казаў адзін з герояў Кузьмы Чорнага, не лішне будзе прыгадаць сёе-тое з мясцовага гумару; не з латышскага, вядома, а з тутэйшага, які распаўсюджаны ў Доме творчасці. Расказаў некалі пра гэты выпадак Васіль Шукшын. Здаецца, яшчэ ў семдзесят другім годзе, калі тут, у Прыбалтыцы, стаяла вялікая спёка, тэмпература вады дасягала дваццаці сямі градусаў. Запомніліся падрабязнасці па простай прычыне: у тое лета мяне выклікалі з Дубултаў у выдавецтва «Советский писатель» правіць набраны раман «Плач перапёлкі»; раптам маскоўскі Галоўліт адшукаў у ім па нечай падказцы вялікую крамолу; нібыта я ў ім, у рамане, змешваю, дакладней, зблытваю, гістарычныя паралелі (дарэчы, аб гэтым у той час пісала і газета «Правда» ў артыкуле Ч. Гусейнава), няправільна сумяшчаю нямецкую акупацыю з татара-мангольскім прыгнётам. Зразумела, што рэдактар, хтосьці Барысаў, з маёй дапамогай вельмі пашкуматаў раман, і мне пасля з цяжкасцямі, паступова, ад выдання да выдання, давялося аднаўляць тэкст. Дык у той год у Дубултах знаходзіўся якраз Васіль Макаравіч: хадзіў то моцна пахмуры, трымаючыся левай рукой за грудзі, то раптам праз нейкую змогу пранікліва ўсміхаўся; збоку здавалася, што ён настроены вельмі рашуча да ўсяго свету; асабліва скрыпеў зубамі, калі гаворка заходзіла пра бюракратаў, гэта значыць начальнікаў усіх масцей; аднак ва ўсім астатнім, у тым ліку і ў асабістых адносінах, быў далікатны, мяккі і нават ласкавы. Дык Васіль Макаравіч з нейкім скепсісам, гледзячы на яшчэ зусім новы тады Дом творчасці, пачаў расказваць, як аднойчы сюды прыйшла школьная экскурсія — пажылая настаўніца прывяла чародку хлопчыкаў і дзяўчынак, па ўзросце пачаткоўцаў. «А вось тут, у гэтым доме, працуюць нашы савецкія пісьменнікі, якія пішуць кніжкі, па іх мы з вамі, дзеткі, вучымся. Не будзем ім перашкаджаць. Няхай ціха працуюць. А тым часам усё ж папляскаем ім у далоні». І сапраўды, дзеці следам за сваёй настаўніцай пачалі ледзь чутна пляскаць рукамі перад домам, дзе ў гэты час творцы і іхнія разбэшчаныя нашчадкі «пілі каву» ў бары альбо наладжвалі гармідар у вестыбюлі, ляніва сноўдаючы з кутка ў куток. Глухая Марыэта Сяргееўна Шагінян звычайна скардзілася ўранні Бауману, дырэктару Дома творчасці: «Усю

ноч гэтыя падшыванцы не давалі мне спаць…» Значыць, і ўначы, скрозь сон, мітусіліся яны ў яе галаве.

Канечне, расказ Шукшына пра настаўніцу і яе вучняў перад нашым тутэйшым домам нельга ўспрымаць без усмешкі, нават цяпер, па зыходзе столькіх гадоў, але ж гэта гаворыць разам з тым і вось пра што: аказваецца, ёсць па-ранейшаму недзе сярод людзей наіўны свет, спрадвечная вера ў непераходныя каштоўнасці… Мне таксама прыгадваецца штосьці падобнае, не менш наіўнае, але тое ўжо давялося бачыць на свае вочы. У нас, у беларускім Доме творчасці ў Каралішчавічах, працавала прыбіральшчыцай адна вясковая жанчына. Пры ёй у лесе жыў маленькі сынок, Віця. Таксама дужа вясковы чалавечак. Пісьменнікі звычайна падкормлівалі яго ласункамі. Але сёй-той, дзеля неразумнага жарту, пытаўся таксама: «Дзе ж твой бацька, Віця?» — «Ловяць бацьку, — адказваў ён. — Дзядзькі міліцыянеры зловяць, тады “ліменты” пачне прысылаць, а то грошай у мамкі няма». І вось аднойчы выходжу я на балкончык — ён адзіны быў там, у драўляным каралішчавіцкім доме, — бачу, як перад ганкам унізе валачэ Віця яловую макаўку; кружыць амаль на адным месцы і ціха шоргае зялёнымі лапкамі. Пытаюся: «Што гэта ты робіш. Віця?» А ён узняў галоўку ўгору ды кажа: «Не перашкаджаю пісьменнікам працаваць».

У той час, які, дарэчы, мы паспелі ўжо таксама праклясці, можа, толькі пажылая латышская настаўніца ды наш нічым не сапсуты каралішчавіцкі Віця разумелі, пісьменнікам сапраўды не трэба перашкаджаць працаваць. А пісалася, трэба сказаць, цяжка… Гэта толькі здаецца цяпер некаторым, што ў так званыя застойныя гады і жылося разгульна і працавалася абы-як. Не так было. Колькі жыццё помню — і ў сталінскія часы, і ў гітлераўскія, і ў хрушчоўскія, і ў брэжнеўскія, — сумленным людзям і жылося нялёгка, і працавалася цяжка.

Калі цікава, магу расказаць яшчэ пра адну згадку. І тут зусім не дзеля разрыўкі. Занатаваць яе ўсё роўна давялося б сёлета так ці інакш. Відаць, саспела ў душы. Да таго ж быў штуршок.

Я ўжо недзе пазначаў, хто з вядомых мне пісьменнікаў трапіў сюды ў жніўні. Але аднаго не ўспомніў. Праўда, і напаткаўся ён нядаўна. Прозвішча не скажу — забыў. Аднак тое, што з татараў, няма сумнення.

Як кажуць, даўным-даўно, калі мы былі маладыя і паасобна ўпотай марылі аб літаратурнай славе, але хадзілі адзін да аднаго ў госці, чувашскі крытык Мікалай Сцяпанавіч Дзедушкін запрасіў нас з жонкай у гэтых жа Дубултах на другі сняданак,

на своеасаблівы ленч, а дакладней, на перадабедзенную закуску, толькі з гарэлкай. У пакоі тым часам ужо сядзелі госці. Мікалай Сцяпанавіч пачаў знаёміць — выходзіла, што ледзь не кожны з прысутных быў альбо народным пісьменнікам, альбо народным паэтам. Усе мы выпілі за здароўе гаспадароў, а тады разгаварыліся. Адзін народны раптам сказаў: «Ты напісаў добры раман, але навошта ў ім Рахім? Замяні яму імя — няхай будзе, напрыклад, Сідараў, усё роўна паліцай. Дык якая розніца, татарын ён ці яшчэ хто?» Астатнія народныя ў падтрымку яго-ных слоў паківалі галовамі. А той, першы, дадаў: «Тады раман атрымае сапраўднае пашырэнне ў Саюзе. Мы таксама на сваю мову перакладзём». Мы з жонкай пераглянуліся, перавялі позірк на Мікалая Сцяпанавіча, той апусціў вочы — няйначай ведаў зараней, што гаворка такая абавязкова ўзнікае за сталом; можа, нават назнарок наладжваў яе.

Яшчэ больш здзівіўся я, калі ў тую ж восень тагачасны загадчык сектара літаратуры запрасіў мяне ў Мінску ў ЦК. Начальнік ён быў настойлівы, найбольш — ваяўнічы. а ваяваў найчасцей з добрай літаратурай. Энергічна павітаўся, спытаў, ці заплаціў я ўзносы за эпіграму, якую хтосьці напісаў на яго, а я, калі яна трапіла да мяне, адкрыта занёс у «ЛіМ», тады паклаў перада мной пісьмо старога бальшавіка-татарына, партыйны стаж якога пачынаўся ці не ў мінулым яшчэ стагоддзі. Гаворка ў пісьме зноў ішла пра мой раман «Плач перапёлкі», пра таго ж Рахіма, якога ўлетку мне прапаноўвалі памяняць на Сідарава. Пісьмо было напісана на імя Брэжнева, таму не адзін мой раман туды трапіў: кідаліся папрокі Анатолю Ананьеву, Андрэю Таркоўскаму за фільм «Андрэй Рублёў». Копіі пісьма былі разасланы Цэнтральным Камітэтам саюзных рэспублік, міністэрствам, камітэтам, творчым саюзам… Словам, было над чым задумацца. Тым больш што ў пісьме тым была таксама пагроза і ў адрас сакратара таварыша Брэжнева, каб абавязкова давёў да ўсіх.

— Трэба даць адказ, — сказаў загадчык сектара.

— Які? І хто павінен даваць? — паглядзеў я здзіўлена на яго.

— Ну, не нам жа, Цэнтральнаму Камітэту, падказваць табе! Нарабіў шкоды, а цяпер.

— Не буду я пісаць ніякага адказу, — аддаў я прачытаны ліст.

Загадчык сектара доўга даводзіў, што няўдалы выбар героя можа моцна паўплываць на дружбу паміж беларускім і татарскім народамі.

— Вось мы і ў Чувашыю хутка на дэкаду едзем, а там шмат татараў, — выклаў загадчык апошні довад.

Як цяпер помню, слухаў я літаратурнага начальніка і ў вялікую самоту прыходзіў; чым даўжэй сядзеў у ягоным кабінеце, вокны якога выходзілі на будынак Саюза пісьменнікаў, тым мацней адчуваў абсурдную бездапаможнасць. Дзіўная рэч, ваявалі ў мінулую вайну ўсе, гераізм выяўлялі ўсе незалежна ад таго, хто якой нацыянальнасці, але ж і здраднікамі станавіліся незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці. А цяпер паліцаем у часе нямецкай акупацыі ў літаратуры можа быць альбо рускі, альбо ўкраінец, ну і на дрэнны канец нехлямяжы беларус. Калі ў якім-небудзь творы з'яўляліся ў падобнай ролі прадстаўнікі іншай нацыянальнасці, лічылася абразай, узнімаўся ў крытыцы (і не толькі ў крытыцы) суцэльны вэрхал.

Вядома, ніхто не хацеў з'явіцца парушальнікам дружбы народаў. Тым больш што ў тыя гады мацавалася яна знешне ўражліва і пасягаць на яе нікому не толькі не карцела, але ў нейкай ступені проста было небяспечна.

І тым не менш, я набраўся тады настойлівасці не паслухацца цэкоўскага таварыша. Наадварот, асмеліўся сказаць:

— Перадайце аўтару гэтага пісьма… Не, не аўтару, а тым, хто кіраваў ім, бо наўрад ці меў магчымасць стары чалавек прачытаць мой раман… Дык перадайце, калі не пакінуць мяне ў спакоі, то ў наступным рамане (а тады ўжо якраз пісалася «Апраўданне крыві») выведу цэлы батальён такіх жа Рахімаў.

Прыгразіць — прыгразіў, але ўсё-ткі ў «Апраўданні крыві» здаў Рахіма ў абвераўскую школу ў Печах, што пад Барысавам, каб не блытаўся ён ні ў Верамейках, ні ў Бабінавічах, ні ўвогуле ў Забесяддзі.

Здаецца, асабліва задаволены гэтым застаўся Мікалай Сцяпанавіч Дзедушкін, дарэчы, надзвычай цікавы чалавек і добры таварыш. Не так даўно я пазнаёміўся з ягонай праграмай па нацыянальных літаратурах для ўніверсітэтаў. Мала ў нас, у краіне, гэтакіх знаўцаў.

Але ж гаворка ішла пра цяжкасці ў працы, з якімі сутыкаецца сумленны пісьменнік амаль заўсёды. Прынамсі, у маёй практыцы лёгкіх перыядаў не было.

Месяцаў колькі назад наш літаратурны штотыднёвік распаўсюдзіў сярод пісьменнікаў анкету з пытаннямі, сярод якіх змяшчалася наступнае: як адчуваецца ў вас унутраны рэдактар; вядома, за дакладнасць, як кажуць, не ручаюся, аднак сэнс недзе такі вось быў.

Я падумаў — чаму раптам узнікае падобная праблема? Мы яшчэ не паспелі пазбавіцца ад свавольства знешніх рэдактараў,

а тут ужо — унутраных. Зразумела, што аднаго без другога не існуе, асабліва калі ўлічваць, што да гэтага часу самым лютым знешнім рэдактарам быў Галоўліт, які ўзяў на сябе неўласцівую ролю, дакладней, ролю, якая пры ўтварэнні на яго не ўскладвалася. Паводле першай задумы, Галоўліту належала сачыць. каб праз друк не праходзілі дзяржаўныя тайны. Але паступова прапагандысцкая служба ўсклала на гэтую паўтайную-паўадкрытую арганізацыю функцыі колішняй царскай цэнзуры. І тады літаратуру пачалі малаціць у два цапы: у выдавецтвах і ў Галоўным упраўленні па літаратуры, над якім апекаваліся разам і аддзелы прапаганды партыйных арганізацый і аддзелы друку ў органах дзяржаўнай бяспекі.

Канечне, унутраная насцярога, якую сапраўды льга называць «унутраным рэдактарам», у многіх прысутнічала не толькі ў часе работы за пісьмовым сталом, аднак і ў працэсе задумы новага твора; больш таго, яна заўсёды сядзела, як той нябачны чорт, побач, папярэджвала, шэпчучы на вуха: «Гэта не пройдзе, гэта не пройдзе!»

Некалі, напярэдадні аднаго са з’ездаў Саюза пісьменнікаў, хадзіла на руках пісьмо А. Салжаніцына, у якім ён выступаў супроць свавольства цэнзуры. Самога пісьменніка на з’ездзе не было, аднак і пісьмо не было абнародавана, хоць і без таго аб ім усё ведалі. Ведалі і сарамліва маўчалі. Між тым Салжаніцын меў рацыю. І выступіў супроць цэнзуры не толькі таму, што тая даймала тады найбольш яго. Пісягі ад галоўлітаўскага дубца крывавілі таксама і на творах іншых пісьменнікаў. Збіраючыся ў кампаніі, мы пра гэта нават у тыя гады адкрыта гаварылі, а вось з трыбуны сказаць не рашаліся. Праўда, калі быць да канца шчырым, то варта ўспомніць: у нас, здаецца, на шостым па ліку з’ездзе ў Мінску спрабаваў гаварыць штосьці падобнае В. Быкаў, на тым з’ездзе, дзе я раптам узбурыўся супроць В. Кажэўнікава, які ў сваім выступленні дужа паблажліва паляпваў нас, беларусаў, па плячах, спрабуючы выдаць за суцэльную цямноту…

Але не трэба думаць, што гнеў супроць знешніх і ўнутраных рэдактараў скіроўваецца тут згодна з часам, у які нібыта ўсё дазволена. Цэнзура па-ранейшаму не дрэмле, выдавецкая і часопісная рэдакцыі таксама пільнасць захоўваюць. А што датычыць унутранага рэдактара, то гэта ўжо цалкам асабістая рэч. Мяне ўнутраны рэдактар не вельмі стрымліваў у рабоце, бо я заўсёды ведаў, што ёсць знешнія рэдактары і што ім за нядрэмнасць плацяць грошы. Будзем так гаварыць. Хутчэй за ўсё таму мае творы праходзілі кожны раз чыстку. Работнікі «Маладосці» не дадуць

схлусіць: калі друкаваўся мой раман, яны не атрымлівалі квартальнай прагрэсіўкі. Асабліва шмат рэдактарскіх і цэнзараўскіх выкідак было ў другім рамане — «Апраўданне крыві». У трэцім пад вялікім націскам таварыша Маркевіча, яшчэ зусім нядаўняга начальніка Галоўліта, была зменена назва: замест «Свае і чужыя» атрымаліся «Свае і чужынцы». Праўда, мяне суцяшала трохі пры гэтым тая акалічнасць, што па-руску ўсё роўна будзе чытацца «Свои и чужие». Але хіба пацярпела толькі адна назва? Недзе ж захоўваецца спіс за подпісам таварыша Русака, паводле якога абавязковаму скарачэнню падлягалі такія і такія старонкі…

Можна сказаць, усё гэта запозненыя «скаргі турка»: часы памяняліся, справы — таксама, і знешнія, і ўнутраныя. Аднак з нядаўняй драмы «Чалавек з мядзведжым тварам» той жа Галоўліт запатрабаваў ад рэдактара выкрасліць радкі, дзе гаворка ішла пра вынікі чарнобыльскай радыяцыі ў Бранскай вобласці. Аказваецца, пра Украіну, пра Беларусь пісаць можна, а вось пра Бранскую вобласць — нельга. Ды і да Курапат навошта шукаць дадатковых кладзішчаў? Таму колішнія могілкі ў Цівалях, дзе па загаду Кагановіча расстрэльвалі беларускіх чыгуначнікаў, таксама не варта абнародаваць.

А ўвогуле за маёй творчасцю пачалі рана сачыць. Нездарма ж апавяданне «Маці», якое некалі раскрытыкаваў К. Мазураў, удалося надрукаваць у выбраных творах праз дваццаць гадоў пасля таго, як яно было змешчана ў часопісе «Полымя». Першую кніжку «Птушкі ляцяць на волю» трымалі ўжо набранай нейкія людзі ажно некалькі месяцаў у выдавецтве, пакуль добрыя людзі не падказалі мне звярнуцца да самога Кірылы Трафімавіча Мазурава. Кіраўнік ён быў, можна сказаць, па цяперашнім часе ліберальны, дакладней, чалавечны; дарма што падобнае вызначэнне наогул наўрад ці ўласціва былым кіраўнікам буйнога маштабу. Але ж няйначай за дрэннае стаўленне да мяне ўсё-ткі папала таварышу Шауру, які загадваў у той час ў нас ідэалогіяй. Гэта я адчуў па тым, як ён раздражнёна, амаль з агідаю перакідваў па стале з месца на месца мой ліст да таварыша Мазурава, маўляў, куды яго цяпер дзяваць?.. А што было з раманам «Плач перапёлкі»! Гэта таксама цэлая гісторыя. Не надрукавана ні ў адным з выданняў (а іх ужо, здаецца, выйшла чатыры) мая аўтабіяграфія. Вось пра гэта, відаць, варта сказаць усё-ткі. Прынамсі, час растлумачыць, чаму ў беларускіх выданнях дасюль няма маёй аўтабіяграфіі, якая напісана па заказу для другога выдання; чаму аўтабіяграфія пад назвай «Первое воспоминание» надрукавана ў Маскве, у пятым томе «Автобиографий советских

пісателей» (праўда, гэта не тая, першая: для Масквы давялося пісаць яшчэ адну).

Дык вось пра тую аўтабіяграфію, якая таксама мела назву «Першы ўспамін», але не была ўзята для надрукавання і гэта мала цяпер сказаць — для надрукавання: з яе зместу ў выдавецтве, тады яно называлася Дзяржаўным, спрабавалі стварыць цэлую справу. А ўсё пачалося з таго, што сярод паэтаў-землякоў я ўспомніў Масея Сяднёва. Быў такі да вайны паэт. Цяпер ён — за мяжой. Калі мне давялося быць у ЗША, на 33-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, я пацікавіўся лёсам яго. Прафесар Антон Адамовіч тады сказаў: «Ён у Эўропе». На тым цікаўнасць і скончылася.

Тым часам Сяднёў нібыта заўсёды цікавіў мяне. Нездарма ж лёс яго, калі нарэшце можна прызнацца, паслужыў у нейкай ступені падставай для лёсу Масея Зазыбы ў трылогіі. Так, пакуль трылогіі. Як і Масей Зазыба, Сяднёў Масей таксама быў арыштаваны ў Мінску. Сядзеў. Пасля першага тэрміну яго прывезлі на перасуд. Аднак пачалася вайна. Калону арыштантаў, у якой, акрамя Сяднёва, канвойныя вялі Якуба Ермаловіча, Рыгора Бярозкіна, недзе каля Чэрвеня пераняў немцы; прынамсі, па калоне пайшлі чуткі, што на Магілёўскай шашы з'явіўся варожы дэсант. Гэта, уласна, і выратавала нашых пісьменнікаў. Іх адпусцілі канвойныя. Сяднёў праз нейкі час дабраўся да Мокрага, сваёй вёскі ў Касцюковіцкім раёне, пабадзяўся трохі, а тады пайшоў працаваць пісарам у валаснoе праўленне. За вялікую дакладнасць адказваць не бяруся, але так у нас гаварылі пасля вайны: зброі ён не насіў пры сабе, дый не меў яе ўвогуле, аднак у партызаны таксама не пайшоў, хоць былыя сябры па школе і клікалі яго ў мясцовы атрад «За Савецкую Беларусь». Пры набліжэнні фронту да Беларусі ў сорак трэцім годзе Сяднёў рушыў на Захад.

Якуб Ермаловіч расказваў, што зямляк мой колькі часу аціраўся ў Мінску, штосьці пісаў, здаецца, нават супроць савецкай улады, затым падаўся з адступаючай нямецкай арміяй у Еўропу. Акурат гэтак я і напісаў пра яго ў сваім аўтабіяграфічным успаміне, сказаўшы яшчэ, што нічога благога аб Сяднёве ў нас у Забесяддзі ніхто не помніць. Якраз вось гэта і ўзбурыла звышпільных таварышаў у канторы Захара Матузава[2] і Хведара Жычкі[3].

Аўтабіяграфію маю з кнігі знялі, мяне зганьбавалі, але «вялікай справы» не завялі, хтосьці перашкодзіў. Можа, той жа К. Мазураў, які ведаў свой прапагандысцкі апарат і не любіў, калі

да чалавека пачыналі чапляцца, цкаваць. Хацеў сказаць дарэмна чапляцца, але ў тыя часы падобных слоў не ведалі ці амаль не ведалі ў пэўных дачыненнях. То былі гады зледзянення хрушчоўскай «адлігі». Многа пазней мы неяк сустрэліся з Кірылам Трафімавічам у Маскве каля Вялікага тэатра, нават пагаварылі, але былога, беларускага, не ўспаміналі. Цяпер ён з’яўляецца кансультантам шматсерыйнага тэлевізійнага фільма, які здымае Ігар Дабралюбаў па раманах «Плач перапёлкі», «Адраджэнне крыві», «Свае і чужыя».

Увогуле ў пісьменніцкім лёсе шмат яўнага, але не менш і тайнага. Гэта той бяздонны калодзеж, з якога чэрпаецца, кладучыся на старонкі твораў, разам і светлае, і цёмнае. Гэта што датычыць мастацкіх твораў. Але ж нарэшце прыходзіць час, калі ўзнікае неабходнасць іншага ўзаемапаразумення з чытачом, калі трэба што-колечы проста патлумачыць.

Гадоў колькі назад сабраў я ў кніжку свае артыкулы, рэцэнзіі з часопісаў, газет, таксама — даклады, з якімі выступаў на пленумах праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, калі працаваў спярша намеснікам Старшыні праўлення СП, пасля сакратаром: старэйшыя пісьменнікі няйначай яшчэ памятаюць даклад па прозе. Часопіс «Полымя», дакладней, рэдактар яго, нават памкнуўся надрукаваць яго. Аднак тагачаснае ідэалагічнае начальства прымусіла палымянцаў зняць са старонак ужо набраны тэкст. Уключыў я той даклад і ў кніжку сваю «Новае ў жыцці, новае ў літаратуры». І які ж лямант пачаўся, калі раптам даведаліся, што ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выходзіць яна. Пад нож — і ўсё тут! Выратаваў тады кніжку аднакурснік В. Календчыц, які працаваў у ЦК. Кніжка выйшла, нават мела даволі вялікую колькасць рэцэнзій. Але В. С. Палтаран, якая благаславіла ў друк яе, прымусілі пісаць не адну тлумачальную паперку. Увогуле Веру Сямёнаўну варта было б часцей памінаць добрым словам: трапяткая душа была, аднак не палахлівая.

Я не стану лішне злоўжываць чужой цярплівасцю, аднак не маю права таксама змаўчаць у такім вось жанры яшчэ пра адну літаратурную недарэчнасць. Толькі, крый бог, сапраўды не падумайце — «скаргі турка». У пісьменніка гэта трохі іншае; у пісьменніка гэта называецца — пра час і пра сябе.

Ужо пры цяперашняй перабудове, але яшчэ не пры сённяшняй галоснасці, маскоўскі Галоўліт зняў у «Огоньке» набранае апавяданне «Третьим разом». У нас яго змясціў часопіс «Беларусь». З тае прычыны адбылася нарада ў ЦК. Мяне туды не клікалі, аднак начальнік беларускага Галоўліта ў часе яе выклаў

столькі літаратурных грахоў маіх, што нават тагачасны сакратар ЦК А. Кузьмін мусіў чырванець ды згладжваць сітуацыю… Цэнзара, які прапусціў апавяданне ў «Беларусі», з работы вызвалілі. Праўда, кажуць, што да таго, як трапіць у Галоўліт, ён быў начальнікам турмы… Здараюцца ж парадоксы!..

Між тым вярнуліся ў Дубулты экскурсанты, што ездзілі ў Талін. У горадзе, кажуць, спакойна. Аднак у людных месцах то паспешліва, то паволі снуюць міліцэйскія ды армейскія патрулі, якія становяцца ўсё роўна як адзнакай часу. У Нагорным Карабаху — патрулі, у Абхазіі — патрулі, у Фергане — патрулі, у Эстоніі — таксама…

* * *

І ўсё-ткі мясцовыя людзі, якія доўга ці мала жывуць на ўзбярэжжы, нездарма супакойвалі нас — надвор’е сапраўды пачало выясняцца. Сонца паміж Ліелупай і залівам, здаецца, павісла, нарэшце, надоўга. З гэтай прычыны мы тут, знаёмыя паміж сабой пісьменнікі, спрабуем пацвельвацца адзін з аднаго: маўляў. цяпер мы напрацуем, маючы на ўвазе, што ад вялікага сонца «плавіцца» розум. А ў такім стане нібыта нічога вартага не напішаш. Праўда, «Біблія» ды «Каран» калісь створаны якраз на гарачым сонцы, прынамсі, там, дзе яно вісіць на небе скрозь цэлы дзень. Але то «Каран» і «Біблія».

На наш балкон вецер уначы занёс шматок газеты. Уранку паглядзеў — загаловак артыкула ўцалеў: «Хто пойдзе да нефармалаў?»

Сапраўды, хто пойдзе? Там жа багата нашай моладзі. якая на штосьці спадзяецца, чагосьці дамагаецца.

*1989*

## КАБ ТОЛЬКІ НЕ ПАРЫВАЛАСЯ СУВЯЗЬ
*Гутарка Н. Кузняцовай з Іванам Чыгрынавым*

Пытанні памяці народнай, захавання роднай мовы, помнікаў гісторыі і культуры, а таксама прыроды роднай рэспублікі леглі ў аснову нашай гутаркі.

— Як мне здаецца, без памяці няма чалавека і няма чалавецтва. Уявіце сабе істоту, якая не памятае сваю маці, вёску ці горад. у якіх нарадзіўся, рэчку, у якой падлеткам вудзіў рыбу, чаромху, пад засенню якой упершыню блізка ўбачыў вочы каханай, якая

адказала яму тым жа пачуццём. Мне здаецца, само існаванне такога суб’екта павінна ўсяляць у душу страх і жаданне штосьці істотна выправіць, змяніць і адразу ж! Але гэта азначала б адразу ж атрымаць якасна новага чалавека — духоўнага, маральнага. А працэс гэты, як вядома, працяглы і няпросты.

Упэўнены: страціць памяць — гэта страціць сябе. Тое ж і з грамадствам. А яно моцна страціла на працягу апошніх дзесяцігоддзяў. Гэтаму «памагалі» трагічныя падзеі, якія нагрувашчваліся адна на другую. Магчыма, нам было цяжка ва ўсім разабрацца ў сілу прывіду іх бясконцасці. А потым мы бачылі, што гэтыя ж падзеі, якія закранaлі кожнага з нас, нехта хавае ад людзей. І так згубілася чалавечая памяць. Тое, што было ў рэальным жыцці, быццам не існавала. У выніку аказаліся мы амаль голымі, дакладней — свабоднымі ад многага: ад традыцый, ад духоўнасці, ад памяці і абавязку перад бацькамі сваімі, ад адказнасці за сваю зямлю. Праўда, сумленных людзей, якіх мы называем сумленнем народа, такое становішча рэчаў заўсёды трывожыла. Але голас іх губляўся ў шуме вялікай весялосці, якая, магчыма, таксама ішла ад страху. І перад жыццём будучым і перад жыццём цяперашнім усяго гэтага стагоддзя. Дваццатае стагоддзе прынесла шмат грамадскіх катаклізмаў: крывавыя войны, рэвалюцыі, удалыя і няўдалыя, грамадскія эксперыменты, таксама ўдалыя і няўдалыя. Некаторыя з іх заканчваліся канцлагерамі, турмамі. Загнанымі ў вугал, абалваненымі аказаліся мільёны людзей. Сёння народ скідае з сябе гэтую рабскую апратку, зрывае заслону з вачэй. Працэс абнаўлення няпросты, часта хваравіты. Спрабуючы разабрацца ў мінулым, адны ва ўсім вінавацяць Сталіна, другія — яго акружэнне, трэція, якраз тыя, каму трэба было б ва ўсім аб’ектыўна разабрацца, завязлі ў смакаванні сенсацый. Словам, спекулююць на гісторыі, спрабуючы нажыць сабе палітычны капітал. Добра, што галоснасць дазволена зверху! Час, аднак. вярнуць народу яго гісторыю — не добрую або дрэнную — а сапраўдную, якой яна была. Гэта пра вялікую гісторыю, пра вялікую Памяць.

Але ж памяць — гэта яшчэ і помнікі духоўнай і матэрыяльнай культуры. Яны таксама падвяргаліся разбурэнням і не толькі пад час войнаў. Іх разбуралі ў мірны час, прытым часта свядома, мэтанакіравана — і ад бяспамяцтва, і ад нелюбові, і ад невуцтва, вядома. Яно ж выхоўвалася самой разбуральнай стыхіяй, якая абрынулася на народ. Вось чаму я лічу, што наша невуцтва набытае. Цяпер мы пачалі абвінавачваць саміх сябе ў тым, што не вучылі людзей разумець і цаніць культуру, ахоўваць

помнікі. Часткова гэта, вядома, правільна. Але, калі разабрацца, плён гэтага бяспамяцтва прарастаў на той жа глебе сацыяльных і палітычных дэфармацый.

*— Гаворачы аб родным сяле, аб рэчцы і чаромсе, Вы нібы закранулі пытанне пра малую радзіму... Ці можна пра гэта больш падрабязна?*

— Так, ёсць паняцці вялікая радзіма і малая радзіма, вялікая гісторыя і малая гісторыя. Дык вось пра вялікую гісторыю — ці дрэнна, ці добра, але нам яе выкладалі ў школе. Пра малую гісторыю ніхто і не ўспамінаў, яе як быццам і не было. І сяла быццам не было, і ў ім не жыў ніхто. І горада. А там жа жылі людзі, працавалі, радаваліся, паміралі. І ў сілу гістарычных лёсаў усёй краіны змагаліся, гінулі, падзяляліся на сваіх і чужых. Але паступова на сваёй малой радзіме мы рабіліся бязроднымі. А краязнаўства — гэта малая гісторыя — было часта доляй дзівакоў. Аднак каб спасцігнуць вялікую гісторыю, трэба пачаць з малой, каб спасцігнуць вялікую памяць, трэба не згубіць кароткую. Бо бязродную радзіму і страціць было не страшна. Адсюль у значнай ступені міграцыя, наш вялікі адыход ад зямлі, адсюль яе спусташэнне. Не ведаю, ці знайшлі мы вялікую радзіму, але малую страцілі. Але разам з ёй страцілі зямлю, пашу, гэта значыць, хлеб. Хлеб страцілі! Цяпер стараемся зноў прывабіць людзей у вёску. Як кажуць, хацелася б верыць, але... Бо гэтыя людзі ўжо без памяці. Так, яны дзелавыя, яны, можа, ведаюць, як вырошчваць хлеб, але як радзіму гэтага месца, дзе пачынаюць жыць, не адчуваюць. І ці надоўга яны тут?

Як вядома, вельмі вялікі адток з вёскі быў у пасляваенныя гады. Я маю на ўвазе адыход ад «галачак», за якія там працавалі людзі, ад сацыяльнай неабароненасці. І дзе ж гэтая вёска? У гарадах? Але ці знайшла яна там сваё шчасце? Як жывуць людзі, якія пайшлі з родных мясцін? Сталі яны рабочым класам ці інтэлігенцыяй? Аб гэтым мы рэдка задумваліся, на жаль, аб гэтым мала задумвалася і наша літаратура. Так што з памяццю звязана ўсё: гісторыя, культура, эканоміка, духоўнасць. Самае галоўнае — духоўнасць. Каб абудзіць гэты так званы мясцовы патрыятызм, а прасцей кажучы, любоў да роднага ачага, да шматразова асмяянай гора-сацыёлагамі бярозкі, наш Фонд культуры адным з сваіх накірункаў у рабоце абраў краязнаўства. Страшна ўспомніць, апошняя ўсебеларуская краязнаўчая канферэнцыя адбылася ў канцы 20-х гадоў. Увосень гэтага года склікаем другую. Ёй папярэднічаюць абласныя... Краязнаўцы, людзі,

якія працуюць, як правіла, па загадзе сэрца, выдатна ведаюць, як і што трэба рабіць: дзе адрэстаўраваць храм, дзе паставіць помнік, дзе і якую арганізаваць экспедыцыю, адкрыць музей… Трэба толькі добра слухаць гэтых людзей, а потым памагаць ім…

*— Вы звязваеце памяць з духоўнасцю. Аб гэтых катэгорыях клапоцяцца і многія грамадскія арганізацыі.*

— Сапраўды, у апошні час шмат створана грамадскіх арганізацый, якія ў аснове сваёй маюць маральныя ўстаноўкі. Напрыклад, Дзіцячы фонд пачаў клапаціцца пра дзяцей-сірот. Так, гэта справа святая. Пра сірот трэба клапаціцца. І кепска, што пра іх не ў поўную меру клапоціцца дзяржава. Бо ў сілу гэтай прычыны і створаны Дзіцячы фонд. Але давайце падумаем, хто такі сірата? Есць сірата, які страціў бацькоў, але ёсць і сірата-падкідыш. У гэтага сіраты ёсць бацька, маці, два дзядулі, дзве бабулі. Дык дзе ж яны, гэтыя дзядулі і бабулі, гэтыя бацькі і маткі? Такія з’явы патрабуюць таго, каб разабрацца ў першую чаргу ў тым, што маральна і што амаральна. І разабрацца ўсяму грамадству, не перакладаючы ўсё гэта толькі на грамадскія арганізацыі, фонды. Маральнасць павінна быць справай дзяржаўнай, тады яна будзе маральнасцю. Вырашэнне гэтых пытанняў цяпер мы звязваем са стварэннем спецыяльнага Камітэта па справах жанчын, аховы сям’і, мацярынства і дзяцінства ў нашай дзяржаве, якое ўжо адбылося на пасяджэннях Вярхоўнага Савета. Але законы і камітэты самі па сабе не працуюць, — патрэбна яшчэ і грамадская энергія, адказнасць кожнага члена таварыства.

Мы ў Фондзе культуры спрабуем вызначыць межы сваёй дзейнасці — блізкія і далёкія. Дык, можа, пытанні маральнасці павінны і для нашага фонду стаць асноўнымі? А між тым займаемся помнікамі. Штосьці нам удаецца, штосьці рухаецца цяжка. Аб’явілі збор народных сродкаў на помнікі нашаму першадрукару Францыску Скарыне, Кастусю Каліноўскаму, кіраўніку паўстання 1863 года. Аб’яўлены збор сродкаў на помнік Васілю Вашчылу, таксама народнаму правадыру. Даўно збіраемся ператварыць у помнік Буйніцкае поле. дзе летам 1941 года 172-я дывізія генерала Раманава абараняла Магілёў ад фашысцкіх захопнікаў. Пакуль на ім толькі камень. які адзначае памяць К. Сіманава, які правёў ноч на гэтым полі з байцамі Чырвонай Арміі. У Магілёве нават грошы нейкія былі сабраны для помніка полю. Але штосьці не заладзілася з праектамі, справа была завалена. Мы аб’явілі конкурс на праект «Буйніцкае поле» і аб’явілі збор сродкаў — сродкі пакрысе паступаюць. але мала. Уключыліся ў работу скульптары і архітэктары, але іх таксама мала…

У рэспубліцы нашай шмат спраў па захаванні помнікаў, якія знаходзяцца ў стадыі разбурэння — архітэктурныя і гістарычныя. Праграму гэтую будзем разглядаць на прыгаданай тут Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі.

*— Якія, на Ваш погляд, самыя надзённыя праблемы нашага грамадства сёння ў цэлым?*

— Гэта захаванне міру, развіццё дэмакратыі, умацаванне эканомікі, асабліва сельскай гаспадаркі. умацаванне міжнацыянальных адносін і экалогіі. Але я крыху падрабязней хацеў бы спыніцца на дзвюх апошніх, што ўпісваюцца ў тэму нашай гутаркі пра памяць.

Усе мы інтэрнацыяналісты або лічым сябе такімі. Аднак паняцце дружбы народаў стала палітычнай формулай. якая, на жаль, не суадносіцца з практыкай жыцця. 1 падзеі апошніх гадоў паказваюць, што міжнацыянальныя адносіны ў краіне аказаліся, скажам так, не на высокім узроўні. Пра гэта сведчаць падзеі ў Нагорным Карабаху, у Прыбалтыцы, у Грузіі і шэрагу іншых месц. Многія беды, як мне здаецца, адбываюцца таму, што была спроба падмяніць нацыянальнае інтэрнацыянальным. А без першага няма другога. Мы яшчэ зусім нядаўна гатовы былі жыць без нацыянальнага, лічачы, што інтэрнацыянальнае — гэта ўсё. Хоць і рэальны інтэрнацыяналізм сілкуецца патрыятызмам, сокамі той самай малой радзімы, пра якую я ўжо тут гаварыў, яе песнямі і паданнямі. Такія катэгорыі як мова, традыцыі, культура, духоўнасць звязаны менавіта з паняццем нацыянальнага. Сёння даводзіцца з жалем канстатаваць, што наша навука дагэтуль не стварыла добрых работ па міжнацыянальных адносінах. Многія акцыі, задуманыя ў імя ўмацавання дружбы розных народаў, атручаны казёншчынай. І літаратура доўгі час не магла выйсці з замкнёнага кола агульных праблем, закранаючы толькі павярхоўны пласт нацыянальнага і інтэрнацыянальнага.

Як здарылася, што беларуская мова ў нашай рэспубліцы, можна сказаць, знікла з ужытку ва ўстановах, звузіла сваю сферу ў зносінах людзей. Што казаць пра агульнаадукацыйную школу і вышэйшую, дзе яна ўвогуле амаль не чутна. Кепска пастаўлена вывучэнне беларускай гісторыі, нацыянальнай літаратуры, мастацтва.

Вядома, хочацца спытаць: дзе ж нашы грамадазнаўцы, сацыёлагі, культуролагі? Часам здаецца, што ўся іх энергія ў недалёкім мінулым ішла на напісанне нікому не патрэбных дысертацый, а цяпер ідзе ў крытыку (а можа, крытыканства?), у бясплённыя

палемікі, дыскусіі з навешваннем ярлыкоў. А грамадства як жыло, так і жыве без канструктыўных рэкамендацый.

Разам з тым мы не павінны забываць, што жывём не замкнёна, не ізалявана ад іншых народаў. І з гэтым павінны лічыцца, паважаць пачуцці і культуру нашых братоў. Беларусы спакон веку вялікія інтэрнацыяналісты ў добрым сэнсе гэтага слова. Але і нам трэба больш уважліва ўглядзецца ў гэтыя праблемы, падумаць, як іх вырашаць.

*— На з'ездзе народных дэпутатаў СССР востра ставіліся пытанні экалогіі. І натуральна — яны, у прынцыпе, пастаўлены самім жыццём. Экалагічныя беды літаральна падступаюць да нас з усіх бакоў. Ваш калега пісьменнік В. І. Бялоў, у прыватнасці, прапанаваў адразу ж прыступіць да падрыхтоўкі і правядзення рэферэндуму па атамнай энергетыцы. Што вы пра гэта думаеце?*

— Як я ўжо сказаў крыху раней, экалагічная сітуацыя, а дакладней, праблема выжывання чалавека ва ўмовах наступу на прыроду тэхнакратыі, — заслугоўвае ўвагі ўсіх і кожнага. Гавораць, што цяжка пабудаваць дом, вырасціць хлеб. Але калі гэта зроблена, значыць, ажыццёўлена асноўныя ўмовы жыцця. Але цяпер, як гэта ні парадаксальна, усё ідзе крыху інакш. Можна зрабіць і тое і другое. Але ці забяспечыць гэта нармальнае існаванне чалавека? Таму што ўзнікаюць пытанні: ці чыстае паветра ў гэтым доме і ці не атручаны хлеб? Я быў за мяжой. заходзіў там у магазіны прадуктовыя і бачыў: вось гэтая бульба, вырашчаная на мінеральных удабрэннях, а гэта — на арганічных. І кошт у яе розны. На першую — ніжэй, на другую — вышэй. Але справа не толькі ў кошце, але і ў тым. што чалавек загадзя ведае, які прадукт ён ужывае. А мы не ведаем. І ў нас, па-мойму, усё засмечана нітратамі. А тут вось яшчэ і чарнобыльская трагедыя…

Здарылася так, што мы, беларусы, атрымаўшы самую моцную дозу радыяцыі, нібыта засароміліся гэтага і замаўчалі, пачалі хаваць ад людзей, што зямля і прадукты заражаны і вада атручана. Вось і мая вёска Вялікі Бор засыпана радыяцыяй і вёскі Бранскай вобласці ў раёне Краснай Горы, Навазыбкава. Я напісаў п'есу «Толькі мёртвыя не вяртаюцца» пра экалагічную трагедыю майго народа. Уступ да яе ўжо надрукаваны. Калі ён рыхтаваўся да публікацыі, Галоўліт пачаў выкідаць з яго тыя мясціны, дзе прыгадваецца Браншчына, у прыватнасці, Навазыбкаў. Гэта значыць ужо прызналі, што Украіна і Беларусь пацярпелі, а Браншчына быццам не.

З першага дня трагедыі ў Чарнобылі мы ставілі пытанне аб публікацыі карты забруджанай мясцовасці. Але яна была акружана вялікай тайнай. І людзі, далучаныя да тайны, глядзелі на нас вачамі, у якія не хацелася глядзець. Я думаў, што гэта толькі ў нас, у Беларусі, непраходна ў друку. Але вось быў «круглы стол» у «Литературной газете», на якім яго ўдзельнікі гэтае пытанне пра карту паставілі. Але выйшаў матэрыял, а гэтай праблемы і ў паміне няма. Цяпер карты апублікаваны…

Вы спыталі, ці адаб’ецца ў памяці народа Чарнобыль. У свядомасці народа, канечне, адаб’ецца — гэта будзе чорная памяць. Але мяне, прызнацца, больш хвалюе, як адаб’ецца гэта трагедыя на маім народзе. Магчыма, я не звяртаўся б да п’есы, калі б быў упэўнены, што адносіны да захварэўшай зямлі і людзей гэтых мясцін будуць нармальныя. Але калі доўга захоўваем гэтую ўсеагульную тайну, значыць, яшчэ і цяпер не надаём праблеме таго значэння, якога яна заслугоўвае. А чым далей, тым больш сітуацыя будзе ўскладняцца. Ва ўсякім разе жыццё і навука пацвярджаюць гэта. І магчыма сёння яшчэ не позна перасяліць людзей з самых забруджаных мясцін, можа, не араць там зямлю і не збіраць ураджай, які яўна шкодны людзям. І тым больш што ўяўляе тайну, куды ідзе хлеб гэты, хто есць яго і каўбасу з мяса жывёлы, што вырасла тут. Радыяцыю ж не схаваць ні пад зямлёй, ні над зямлёй.

Цалкам падзяляю трывогу і прапановы народных дэпутатаў, якія выступалі на з’ездзе, аб стварэнні ў краіне пастаянна дзейнага органа — можа, надзвычайнай камісіі па ліквідацыі вынікаў аварыі, планавае паэтапнае перасяленне насельніцтва з забруджаных раёнаў, пастаянныя меры аздараўлення і дзяцей, і дарослых, асабліва дзяцей. Бо як справядліва было сказана ўрачом — народным дэпутатам З. Н. Ткачовай: «…Сёння вырашаецца лёс не асобнага рэгіёна, а беларускай нацыі ў цэлым».

Калі гаварыць далей пра лёс майго народа, то трэба ўлічыць, што побач з БССР размешчана не толькі Чарнобыльская АЭС. Есць даныя, што Ровенская АЭС таксама ненадзейная. Акрамя таго, на мяжы з намі і Смаленская атамная і АЭС у Літве. Тую, што будавалася пад Мінскам, засыпалі. Разгараліся страсці вакол Віцебскай атамнай. Пакуль супакоілі людзей, што будаўніцтва адкладваецца да поўнага вывучэння ўсіх праблем. А між тым армяне сваю АЭС закрылі. Я разумею, што энергетычныя рэсурсы — гэта вялікая праблема. Але пагадзіцеся, што жыць заціснутымі паміж гэтымі непрадказальнымі пачварамі страшна.

Вядома, гэта не ўсе нашы экалагічныя праблемы. Трывожны лёс маладых гарадоў, такіх як Наваполацк, Светлагорск, Салігорск. Фонд культуры, вядома, заклапочаны гэтым і спрабуе штосьці прадпрыняць. Але мы ж улады не маем, матэрыяльна не забяспечаны, ніякімі рычагамі, якія памагалі б вырашаць праблемы, не валодаем, акрамя грамадскай думкі. І ўсё-такі таму мы маем намер стварыць пры Фондзе экалагічную камісію. Думаю, што вялікую дапамогу ў ахове прыроды маглі б аказаць на месцах саветы ветэранаў, арганізаваць, да прыкладу, ветэранскія пасты па кантролю за скідам у рэкі і азёры адходаў вытворчасці. Арганізаваць рух «Ветэран, разам з унукам пасадзі дрэва». Няхай не ўсе ўключацца ў гэты рух, а толькі палова; і два-тры ўнукі кожнага могуць пасадзіць цэлую тайгу, узбагаціўшы лёгкія планеты.

*— Вяртаючыся да паняцця памяці, хацела спытаць у Вас, як Вы думаеце, ці будуць спяваць калыханку ўнукам бабулі наступнага пакалення? Невыпадкова ўсё часцей гучаць словы экалогія культуры. Бо ў сутычцы з рэлігіяй мы ж згубілі такія цудоўныя абрады, як вяселле, усё тое цудоўнае, што ўтрымлівала ў сабе прыгажосць, эстэтыку і народную духоўнасць.*

— Так, мы зноў звяртаемся да памяці тых духоўных крыніц, якія сілкавалі жыццё народа. Я шмат глядзеў і слухаў фальклорна-этнаграфічныя калектывы ў сваёй рэспубліцы. Мяне таксама трывожыць, што ў гэтых калектывах спрэс бабулі і дзядулі. Дзе ж моладзь, няўжо ўся яна захоплена шэйкамі і брэйкамі? Я не пра забарону — папярэджваю, гэта аргумент маіх магчымых апанентаў. Але лічу, што да ўсяго трэба падыходзіць разумна. Калі гэта хвароба, то ёю павінна перахварэць сама моладзь. Калі рок і брэйк — гэта культура, то сама моладзь павінна вызначыць, што яна дасць нашай агульнай культуры, нашым нацыянальным культурам. Пакуль ясна, што традыцыі забыты альбо выцеснены масавай культурай. І калі сёння моладзь не прыйдзе ў народныя калектывы, то ні пра якія традыцыі ўжо не будзе чаго больш гаварыць. Сувязь перарвецца. Пра народную творчасць, традыцыі існуюць цэлыя навукі, напісаны дысертацыі. Але вось чамусьці навука жыве сама па сабе і ніякага ўплыву на жыццё народа, на яго культуру не аказвае. Спытаць: навошта яна?

Асабіста для мяне народныя абрады заўсёды былі радасцю, заўсёды звязаны са святам. Трэба вярнуць народу гэтую радасць. Мы пры нашым Фондзе стварылі спецыяльную камісію і правялі з удзелам фальклорна-этнаграфічных калектываў абрадавыя

святы «Гуканне вясны», «Купалле», «Каляды». І добра было б праводзіць іх усюды, каб з тэатралізаваных ператвараліся яны ў сапраўды народныя. Мы ж раней што рабілі, Вы правільна заўважылі, адносілі абрады да рэлігіі, а з рэлігіяй увесь час змагаліся. І ў выніку пастаянна гублялі сябе, сваю духоўнасць. Дзякуй богу, на рэлігію пачынаем глядзець іначай. Кажуць, няхай чалавек ідзе лепш у царкву, чым у пажыўное месца, у царкве благому не навучаць. Лічу. што кантакты з царквой трэба пашыраць. Бо запаведзі: не забі, не крадзі, палюбі бліжняга свайго — гэта ж пропаведзь згоды, гарманічнага жыцця, павагі да чалавека.

Вы спыталі, ці будуць, на маю думку, бабулі спяваць унукам калыханку, ці захаваецца вясельны і іншыя абрады. Усё гэта будзе, калі мы, нарэшце, зразумеем, што народная культура — гэта наша сённяшняя культура. Асабліва калі зразумее гэта моладзь, таму што традыцыю прадаўжаць ёй. Калі маладыя людзі прыйдуць у гэтыя калектывы. быць песні і танцу ўсюды, дзе жыве і працуе чалавек. Успамінаю, як у час паездкі ў Балгарыю я глядзеў выступленне фальклорна-этнаграфічнага калектыву. Там разам з пажылымі спяваюць і танцуюць дзеці, падлеткі, моладзь. Так хораша яны сябе адчуваюць у гэтых песнях, танцах, як быццам яны не вучыліся ім, а з мацярынскім малаком іх увабралі. Вось чаго нам не стае, вось што трэба адрадзіць. Вельмі многа магло б зрабіць тэлебачанне, дзе сёння рок-шоу карыстаюцца нейкай асаблівай прывілеяй, асабліва ў параўнанні з фальклорнымі праграмамі.

Я за тое, каб і будучыя бабулі спявалі калыханку ўнукам.

Я за памяць народа, за народную эстэтыку.

*1989*

## МАЙМУ НАРОДУ ТРЭБА ЎСПОМНІЦЬ, ХТО ЁН

*Гутарка А. Ярася з Іванам Чыгрынавым*

Вось я накіроўваўся ў ваш службовы кабінет. І міжволі падумалася, што Фонд культуры і культура грамадскага жыцця — гэта дзве несумяшчальныя рэчы. Вось тут — скарбніца нашай духоўнасці, высокія думкі і пачуцці. І зусім іншае — культура паўсядзённасці, ад якой енчыць хочацца… Ці так яно і павінна быць?..

— На мой погляд, паняцце культуры ў пэўным сэнсе трэба дзяліць. Культура быту, культура паводзін — гэта як бы адзін

паверх. А культура ўвогуле — літаратура, мастацтва, помнікі, урэшце гісторыя — ўсё тое, што робіць чалавека свядомым, высокаадукаваным, гэта, відаць, свой паверх. Вядома, бяда, калі яны не маюць пунктаў судакранання і знаходзяцца ў адарванасці адзін ад аднаго, як мы можам назіраць гэта сёння.

Што здарылася? Дзе мы знаходзімся? Такія пытанні хвалююць цяпер, бадай, кожнага.

А здарылася тое, што ў нас парвалася повязь часоў. Людзі страцілі гістарычную памяць, разбурылі шмат з таго, што стагоддзямі збіралася па крупінках.

Пагадзіцеся, раней у нас такога не было. Нейкія ўнутраныя духоўныя пружыны прымушалі людзей стрымліваць у сабе, мякка кажучы, нечалавечыя інстынкты. А сёння наступіў ўседазвол, як гавораць па-руску, беспредел, які выкаціўся на вуліцы. Бойкі, лаянка, бруд… Культура захісталася, і ўсё больш паверхі яе пачалі аддаляцца. Страшны для грамадства працэс. Спыніць яго, павярнуць на збліжэнне — вельмі важная задача.

*— Для гэтага трэба, каб грамадства мела магчымасці і сродкі абараніць гуманістычныя крытэрыі духоўнага жыцця. Ці ёсць яны ў нас?*

— У цяперашні час, у час перабудовы, зрэшты, я не хацеў бы ўжываць гэтае слова, таму што мы замусолілі яго, прыкрыліся ім, быццам перабудова працуе сама па сабе, быццам яна нясе ачышчэнне без нашага ўдзелу, быццам нашы парокі сыдуць, як крыгі ў ледаход.

Так не атрымаецца. Ачышчэнне магчыма толькі тады, калі кожны будзе дзейнічаць на карысць яго і думаць.

Непрыемна тое, што сёння мы, нібыта для аблягчэння свайго жыцця, надта моцна пачалі паклёпнічаць на ўсё, што мелі і маем. Да ўсяго яшчэ і палохаем самі сябе — маўляў, усё, што было, зжыло сябе і нічога ў нас не выйдзе. Ні з адраджэннем гістарычнай памяці, ні з адраджэннем культуры, ні з адраджэннем нашай чалавечай годнасці.

Вядома, калі культура падае, дык яе потым вельмі доўга даводзіцца вяртаць на належны ўзровень. Гэта з гісторыі. У пэўныя перыяды чалавек дзічэе. Яму лягчэй жыць без культуры, без духоўнасці. Не трэба на штосьці раўняцца, чаму-небудзь падпарадкоўвацца.

Сёння можна пачуць размовы пра духоўную галечу народа, і для іх ёсць падставы. Многія святары культуры заняліся пошукамі вінаватых. Але ж ці не нясуць адказнасці за маральны

стан народа і гэтыя ж самыя абвінаваўцы? Таму ці не самы час цяпер спыніцца, адумацца і неадкладна ўзяцца за стварэнне такога поля духоўнага прыцягнення, якое б вабіла да сябе людзей, далучала б іх да культуры.

Ведаеце, у нас склалася даволі незвычайная сітуацыя. Мы маем высокія ўзоры культуры — і ў літаратуры, і ў мастацтве, і ў тэатры. Усё гэта часта выдавалася за хрыбет культуры. На самай справе такія творы — толькі вяршыні. Вядома, горы вызначаюцца вяршынямі, аднак трымаюцца яны хрыбтом.

Для мяне, напрыклад, дзіўна, чаму, маючы добрую паліграфічную базу, мы не дамагліся таго, каб беларуская кніга запанавала на нашай зямлі? Маючы выдатныя нацыянальныя тэатры, мы не маем адпаведнай драматургіі. А калі творы нават і з’яўляюцца, дык не знаходзяць для сябе дарогі на сцэну. Есць у нас неблагія бібліятэкі, а людзей у іх мала. Збудавалі выдатныя калгасныя палацы, а яны пустуюць…

Нам трэба звярнуцца да выпрацоўкі новай канцэпцыі культуры, якая б адпавядала сённяшняму жыццю. Раней напрамкі развіцця культуры дыктаваліся зверху. Што ж, гэта мы прайшлі… І ўрэшце, здаецца, пераканаліся, што новую канцэпцыю культуры трэба выпрацоўваць ад народных традыцый, ад гістарычнай спадчыны.

*— Але каб карыстацца спадчынай, трэба, прынамсі, ведаць яе. І хоць у апошні час усё больш выразна праяўляецца цікавасць людзей Беларусі да гісторыі свайго краю, трэба шчыра прызнаць, што большасць мае даволі прыблізнае ўяўленне пра жыццё і культуру нашых продкаў.*

— Так, сёння патрэбен своеасаблівы лікбез па гісторыі і культуры Беларусі, трэба данесці да людзей тыя скарбы, што пакінулі нам пакаленні, якія жылі да нас. Менавіта пра гэта мы думалі, калі стваралі пры Фондзе культуры часопіс «Спадчына». Вырашылі пачаць з самага далёкага, пачалі друкаваць летапісы, іншыя старадаўнія дакументы. Калі скласці нумары часопіса, якія выйшлі, — гэта ж цэлыя тамы спадчыны. Неацэнныя тамы.

*— Часопіс і сапраўды карыстаецца папулярнасцю, але… толькі сярод невялікай колькасці чытачоў. Ва ўсялякім разе, мяркуючы па велічыні накладу…*

— А прычына таму — становішча з беларускай мовай. Гэта ж не сакрэт, што яна прыйшла ў сённяшні дзень амаль з нулявым ужыткам.

Ёсць вядомы выраз: мова — душа народа. А мы ў многім занядбалі гэту душу і з-за гэтага, дарэчы, многае страцілі і ў культуры. Пакуль што мы не разумеем, ці не жадаем разумець драматызму становішча. Але гэта вельмі сур’ёзна.

Ведаеце, гады тры-чатыры назад я весялей неяк, з большай надзеяй гаварыў і думаў пра адраджэнне мовы. Будучы старшынёй Камісіі Вярхоўнага Савета рэспублікі па нацыянальных і міжнацыянальных адносінах, я пачынаў працу па стварэнні Закона аб мовах (потым гэтым займалася асобная камісія). Дык вось створаны, на мой погляд, талковы, разумны закон. Прайшоў пэўны час пасля яго прыняцця. Але, скажам шчыра, ён бяздзейнічае, ён без ног. І не таму, што — чаго мы баяліся — няма грошай. Патрэбнага зруху няма таму, што не адбылося ўсведамлення неабходнасці душы ў асобе мовы. Пакуль не адбылося ўзаемапаразумення паміж народам і мовай. А мы, асветнікі, нібыта разгубіліся — не праяўляем настойлівасці, недастаткова займаемся прапагандай мовы. Крыніцы беларускай культуры і мовы, нягледзячы на ўсе ідэалагічныя меліярацыі, бруяць. Іх толькі трэба прачысціць. І гэту справу павінны ўзяць на сябе менавіта асветнікі — літаратары, настаўнікі, увогуле інтэлігенцыя.

*— І, вядома ж, актывісты Фонду культуры. Іван Гаўрылавіч, тут я і хачу скіраваць нашу размову да дзейнасці Фонду. Перш за ўсё хацелася б ведаць Вашы адносіны да самой ідэі стварэння такой арганізацыі. І яшчэ — ці ажыццявілася яна так, як было задумана?*

— Штуршком для стварэння Фонду, на мой погляд, з’явілася тое, што многія пачалі разумець: дзяржаўныя ўстановы не здольны ўдыхнуць у культуру новых вятроў. Таму і было вырашана стварыць масавую арганізацыю, якая побач з дзяржаўнымі органамі займалася б захаваннем і развіццём культуры разам з шырокай грамадскасцю. Каб далучыць людзей да духоўнай спадчыны, каб людзі прыйшлі і прынеслі сваю працу, і свой розум, і, урэшце, свой рубель на культуру.

Трэба сказаць, што на першым этапе з’явілася нямала энтузіястаў, падзвіжнікаў, людзі загарэліся. Было распачата многае, чаго дзяржаўныя ўстановы не зрушылі б. Але пачалася разруха ў эканоміцы, збядненне, галеча. Пасля пачалі адкрывацца рэчы, на якія народ паглядзеў з жахам і пачаў знявервацца. Людзям стала не да таго, каб займацца адбудоўваннем помнікаў і тым больш даваць на культуру грошы, якіх не хапае нават на харчаванне.

Таму Фонд культуры станавіўся ўсё больш падобным на дзяржаўную ўстанову. Мы звярнуліся да ўрада рэспублікі з просьбай дапамагчы стварыць матэрыяльную базу. І нам далі дзве фабрыкі — у Бабруйску і Маладзечне. Мы ўклалі ў іх грошы, перапрафіліравалі, і яны прыносяць нам прыбытак. Акрамя таго, стварылі некалькі малых прадпрыемстваў. Сродкі, якія атрымліваем ад іх дзейнасці, накіроўваем на развіццё культуры.

*— Так ці інакш прадпрымальніцтва — гэта вымушаны напрамак дзейнасці Фонду. Як кажуць, не ад добрага жыцця. Хацелася б, каб хоць у некалькіх словах Вы расказалі пра захады, якія маюць непасрэднае дачыненне да культуры.*

— Не палічыце за нясціпласць, але ў некалькіх словах зрабіць гэта даволі складана. Пры Фондзе створаны і дзейнічаюць шматлікія грамадскія фарміраванні — камісіі, саветы, клубы — якія вядуць дзейнасць па самых розных напрамках. Яны прыцягнулі да сябе нямала людзей, зацікаўленых у адраджэнні нацыянальнай культуры.

Узяць хоць бы камісію «Вяртанне», якую ўзначальвае Адам Мальдзіс. Пры яе садзейнічанні на радзіму з-за мяжы вярнулася шмат культурных каштоўнасцяў. Слуцкі пояс, старадрукі, архіўныя матэрыялы, запісы музычнага фальклору Беларусі — усяго не пералічыць. Творча працуе клуб калекцыянераў: ладзіць выставы, вядзе рэестр мастацкіх каштоўнасцяў, якія знаходзяцца ў прыватных калекцыях.

Ушаноўваючы памяць аб выдатных людзях беларускай культуры, значных старонках гісторыі Беларусі, Фонд культуры праводзіць тэматычныя вечары, ахвярує матэрыяльныя сродкі на рэстаўрацыю і пабудову помнікаў. Адным з асноўных кірункаў нашай дзейнасці з’яўляецца адраджэнне народных традыцый, развіццё краязнаўства. Такія народныя абрадавыя дзеі як «Купалле», «Каляды», «Гуканне вясны», «Дзяды» зноў уваходзяць у наша жыццё. Асабліва прыемна, што яны палюбіліся маладому пакаленню.

Фонд культуры наладзіў добрыя сувязі з беларускімі суполкамі, якія знаходзяцца за межамі рэспублікі — у Эстоніі, Латвіі, Літве, Маскве.

Шырокае развіццё атрымала выставачная дзейнасць Фонду культуры. Прыкметай часу з’яўляецца тое, што некаторыя з іх заканчваюцца аўкцыёнамі.

А памятаеце дыскусіі на старонках перыёдыкі аб лёсе Верхняга горада, Ракаўскага прадмесця, Лошыцы? Рух «Родны горад»

у многім вызначыў дзейнасць Мінскага гарадскога аддзялення Фонду культуры. У Верхнім горадзе штолета працавалі студэнцкія будаўнічыя атрады, праведзена амаль пяцьдзесят суботнікаў.

*— Прабачце, але тут я дазволю сабе, як кажуць, злавіць Вас на супярэчнасці. Крыху раней вы гаварылі пра тое, што людзі зняверыліся...*

— Супярэчнасці тут няма. Так, падзвіжнікі, энтузіясты былі і будуць ва ўсе часы. Але, прызнаем шчыра, іх не столькі, колькі хацелася б бачыць. І нават, на жаль, менш, чым было на пачатку дзейнасці Фонду. Той жа рух «Родны горад» спыніўся.

*— Сёння даволі часта можна пачуць небеспадстаўныя і трывожныя словы пра тое, што народ страціў ідэалы. З другога боку, некаторыя палітыкі спрабуюць даказаць, быццам грамадства здольна жыць і без ідэалаў — яны, маўляў, толькі адцягваюць увагу ад канкрэтных рэалій, ад вырашэння паўсядзённых задач.*

— Ведаеце, у нашым грамадстве здарылася так, што доўгі час з-за палітычных ідэалаў мы нібыта адракліся ад ідэалаў духоўных, ідэалаў культуры, ідэалаў прыроды. Так, палітычныя памкненні павінны быць. І, дарэчы, я не лічу, што ідэя сацыялізму вычарпала сябе. Яна ўладарыць над чалавекам тысячагоддзі, і не трэба думаць, што яе прыдумалі ў семнаццатым годзе. Тут, пэўна, трэба адлічваць ад часоў з'яўлення хрысціянства ды нават раней.

Але бяда ў тым, што мы занядбалі, зрабілі другаснымі духоўныя ідэалы, без якіх, тут я ўпэўнены, немагчыма пабудаваць светлую будучыню…

На вялікі жаль, і цяпер некаторыя людзі пры ўладзе лічаць, што дастаткова наесціся, апрануцца і ўсё ўжо — забяспечаны светлыя далі, узгодненасць у грамадстве. Гэта памылка, якая можа стаць трагічнай.

Паверце, без духоўнасці, без культуры, без маралі нельга чакаць нічога, акрамя панажоўшчыны. І вялікай цемрадзі. Можа, нават горшай, чым у сярэднявечча.

Што значыць жыць без ідэалаў? Гэта значыць жыць без памкнення ў будучыню. А такое жыццё нязменна прывядзе да катастрофы.

*— Іван Гаўрылавіч, нядаўна ў Льва Талстога сустрэў думку пра тое, што разумнае і маральнае заўсёды супадаюць. І ведаеце, засумняваўся ў яе правільнасці. У апошні час наша грамад-*

*ства зрабіла прыкметныя крокі да разумнага. А вось мараль, на мой погляд, пахіснулася, калі не сказаць больш жорстка…*

— Не, класік не памыліўся. Проста ўсім нам трэба быць уважлівымі і абачлівымі. Спробы расчапіць, разлучыць разумнае і маральнае сыходзяць не з космасу, не з аб'ектыўных законаў развіцця грамадства. Яны — вынік дзейнасці асобных людзей, якія імкнуцца ўнесці ў гэтыя паняцці выгадны для сябе сэнс.

Мяне дзівіць, як мы падобны ў сённяшняй сітуацыі на перадрэвалюцыйную, на семнаццаты, васямнаццаты гады. Пачытайце Буніна, Горкага, Караленку, Купалу з яго публіцыстыкай — усё вельмі падобна.

Самае галоўнае, хоць і самае цяжкае, зразумець, што адбываецца вакол. Вось сёння з усіх бакоў заклікаюць — пакайся, пакайся,пакайся. Ну і што? Пакайся, а потым зноў грашы? Што ж, некаторыя з «папулярных» цяпер асоб так і робяць. Але гэта на словах. Я лічу, што галоўнае — зразумець свой грэх. Зразумець, каб не паўтараць яго.

Дарэчы, «пакайся» — гэта другое слова пасля «перабудовы», якое я не заўсёды магу чуць. Мне здаецца, яно спыняе чалавека на нейкай мяжы. Пакайся — а далей што? Не, галоўнае усё-ткі зразумець. І жахнуцца. І здрыгануцца. Каб не паўтараць памылак.

*— Не буду спрачацца. Але колькі ж часу патрэбна, каб прыйшло такое разуменне, каб адбылося духоўнае адраджэнне народа? Біблейскі Маісей вадзіў свой народ па пустыні сорак гадоў…*

— Паралель не зусім падыходзіць, Маісей вадзіў свой народ, каб ён забыўся пра… Словам, мой народ не бачыў «залатога цяляці». Яму трэба не забывацца, а, наадварот, успомніць хто ён. Аднак часу на гэта, напэўна, спатрэбіцца не менш. А першыя важкія зрухі павінны адбыцца менавіта цяпер, у наш час.

*— І Вы думаеце пра гэта з аптымізмам?*

— Канешне.

*— На чым жа ён трымаецца?*

—А я не ведаю. Аптымізм — ён не заўсёды логікай выклікаецца. У некаторай ступені гэта як інстынкт. Я веру ў карані, у патэнцыял нашага народа. Веру, што нягледзячы на Чарнобыль, — а ён як кароста на маёй душы, кароста, якая не дае спакою ні днём і ноччу, — дык вось,нягледзячы на Чарнобыль, мы будзем жыць, будзем працаваць, будзем развіваць сваю эка-

номіку і культуру. Ключы нашых крыніц не скончыліся, проста іх трэба сапраўды прачысціць. І мы абавязаны зрабіць гэта.

*— Не сакрэт, што ў нядаўнім мінулым мы многа згубілі ад таго, што ізалявалі сябе ад агульначалавечых каштоўнасцяў і адначасова нівеліравалі ўсе нацыянальныя культуры пад стэрэатып ідэалагічнага адзінства. Сёння сітуацыя змянілася, нацыянальнае адраджэнне праяўляецца ўсё больш выразна. Аднак часам можна назіраць іншую крайнасць — абсалютызацыю нацыянальных аспектаў культуры, спробы пераканаць, што «свая» культура вышэй іншых, пераўзыходзіць іншыя.*

— Думаю, што гэта не зусім правільна зразуметая нацыянальная гордасць. Увогуле нацыя павінна быць вельмі абачлівай. Як і кожны асобны чалавек. Ведаць і разумець, што побач з табой нехта жыве, і не вельмі па-мядзведжаму варушыцца, каб не адціснуць некаму нагу ці не адвярнуць выпадкова галаву…

Я за тое, каб нацыянальнаму даць бязмежнае развіццё. Але не за кошт уздымання над іншымі народамі ці нацыямі. І тым жа часам нельга ўзводзіць моцныя граніцы паміж народамі, паміж культурамі народаў. Культура, яна тым і вызначаецца, што патрэбна не толькі сваёй нацыі. Выхад за мяжу, як кажуць, на людзі, — гэта залог развіцця нацыянальнай культуры.

*— Сёння на нашых вачах адбываецца камерцыялізацыя мастацтва. Але ці можа гэта спрыяць павышэнню густу, унутранаму ўзвышэнню асобы?*

— Пытанне амаль рытарычнае. Ведаеце, мы часта спасылаемся на замежныя краіны, у якіх рынак — даўняя рэальнасць. Але пры гэтым забываем, што там ён развіваўся не падаўляючы значэння культуры. Адно аднаму — эканоміка і культура — дапамагала.

У нас жа культура аказалася неабароненай перад рынкам. Прывід безграшоўя, галечы насоўваецца на мастацтва. Нас вымушаюць зарабляць грошы. Але трывожыць тое, што нават прадпрыемствы, якія працуюць пад дахам устаноў культуры, мала або зусім не дбаюць пра культуру. Яны бачаць сваё прызначэнне толькі ў тым, каб даваць грошы, а духоўнае адраджэнне быццам зусім не іх клопат. Думаю, што тут хаваецца небяспека. Як кажуць, крый божа ад таго, каб гэтая вытворчасць не пайшла па прынцыпе — хто плаціць, той заказвае музыку. Каб камерсанты не пачалі камандаваць культурай. А што? Скажуць — мы да’ём вам грошы, а вы будзеце пісаць такія кнігі, маляваць такія карціны, ставіць такія п’есы, якія мы загадаем. Што,ніякавата

ад такіх думак? Аднак адмахвацца ад іх нельга — гэта я ізноў пра абачлівасць. Да таго ж намі ўжо камандавалі…

*— Не хачу гаварыць кампліментаў, але Чыгрынаў, на маю думку, ніколі не пісаў па загадзе, ад каго б ён ні сыходзіў. І калі ўжо мы загаварылі пра творчасць, дазвольце апошняе пытанне. Што,знаходзіцца сёння на Вашым рабочым стале, якія задумы на бліжэйшы час?*

— За апошнія гады я нямала папрацаваў на ніве драматургіі, напісаў некалькі п’ес. Праўда, на жаль, яны пакуль што застаюцца толькі літаратурнай з’явай, а не з’явай тэатральнай, аднак гэта ўжо тэма асобнай размовы.

Сабраў кніжку эсэістыкі, публіцыстыкі, літаратурнай крытыкі.

І вось на стале — раман. Працяг маіх раманаў пра вайну. Ён, здаецца, нарэшце займеў назву — «Вяртанне да віны сваёй». Першую частку рамана здаў у часопіс «Полымя» і спадзяюся, што яна выйдзе ў пачатку будучага года.

А наогул хацелася б напісаць пра сённяшні дзень. Напісаць у нейкім такім змешаным жанры — і публіцыстыка, і проза, і дзённік… У мяне нават загаловак ёсць — «Адзін год і ўсё жыццё». Тут і вяртанне ў мінулае, і роздум над сённяшнім — і над усім гэтым боль Чарнобыля… Мая родная вёска перасяляецца. Трэба ахапіць, схапіць розумам і памяццю ўсё, што можна.

Есць задумы напісаць пра жыццё на Беларусі адразу пасля вайны. А яшчэ хацелася б папрацаваць у гісторыі. Наша гісторыя ў літаратуры ў многім рамантызавана. Яна, вядома, мае права на жыццё. Але з яе народ не будзе мець дакладнага ўяўлення пра сваё мінулае. А я вось думаю… не, урэшце, не буду пераказваць тое, што спадзяюся сам выкласці на паперу.

— Што ж, гэта права мастака. І дзякуй вам за размову, Іван Гаўрылавіч.

***1991***

# ДАДАТАК

«ВАЙНА ЗРАБІЛА ІВАНА ЧЫГРЫНАВА ПІСЬМЕННІКАМ…»

*Гутарка Таццяны Падаляк з Людмілай Чыгрынавай*

…Ужо пасля выхаду першай кнігі Івана Чыгрынава «Птушкі ляцяць на волю» (1965) літаратуразнаўцы адзначалі, што дэбютаваў пісьменнік, схільны да аналізу ўнутранага стану чалавека, да драматызацыі апавядальнай плыні, глыбокага і шматзначнага падтэксту.

Гэтая ацэнка яшчэ больш замацавалася пасля выхаду кнігі апавяданняў «Самы шчаслівы чалавек».

Сапраўднай творчай вяршыняй Івана Чыгрынава сталі раманы «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужынцы», «Вяртанне да віны»: мастацкі аналіз каранёў, вытокаў усенароднай барацьбы народа з фашызмам.

Івану Чыгрынаву ўдалося адшукаць абагульнены мастацкі вобраз часу — а гэта пад сілу толькі сапраўднаму Майстру.

А якім быў Іван Чыгрынаў у жыцці? Хто ведае гэта лепш за жонку?.. Людміла Чыгрынава згадзілася адказаць на пытанні карэспандэнта «Звязды».

*— Людміла Прохараўна, як Вы пазнаёміліся з Іванам Гаўрылавічам?*

— Мы землякі, з Касцюковіцкага раёна. Але паміж Іванавай вёскай Вялікі Бор і маёй, Студзянец, — больш за 20 км. А калі рака Бесядзь разлівалася, дык і зусім адразала Вялікі Бор… Пазнаёміліся на нашай чыгуначнай станцыі «Камунары» па дарозе на вучобу ў Мінск — ён вучыўся на аддзяленні журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, а я ў педінстытуце, на літфаку (потым ён стаў гісторыка-філалагічным факультэтам).

*— Трэба было паступіць у ВНУ, каб сустрэцца!..*

— Так! — Усміхаецца. — Пазнаёміў нас Васіль Нікалаенка (ён, дарэчы, працаваў калісьці ў «Звяздзе»). Мы з ім адначасова паступілі вучыцца, я ў педінстытут, ён у БДУ, але перад паступленнем Васіль працаваў у раённай газеце. А Іван яшчэ ў школе пісаў вершы, дасылаў у «раёнку» — так што яны былі добра знаёмыя… З Васілём мы сябравалі.

*— Мабыць, заляцаўся да Вас?*

— Не-не, тут іншае… Васіль ваяваў і быў, як кажуць, недавучаны: за плячамі толькі сямігодка, і ён хацеў экстэрнам здаць экзамены за дзесяцігодку. Таму звярнуўся да мяне, каб дапамагла падрыхтавацца па гуманітарных прадметах. Я з ім займалася…

Так склалася, што мы з Іванам пасябравалі, яго ведалі ўсе мае аднакурснікі. У нас былі агульныя інтарэсы: мы вельмі любілі чытаць, многа чыталі, шмат размаўлялі пра літаратуру… Але пажаніліся пасля заканчэння вучобы, у 1958-м. Вельмі прыгожую вясельную сукенку сабе купіла за 200 рублёў — уся стыпендыя…

*— Цікава, з якой сям'і выйшаў Чыгрынаў?*

— Іван нарадзіўся ў мнагадзетнай сям'і — чатыры браты і дзве сястры. Да вайны яго бацька Гаўрыла Сяргеевіч працаваў старшынёй сельсавета, а маці Хадоска Ігнатаўна — у калгасе, дый глядзела дом. Бацька пайшоў на вайну — і не вярнуўся…

Мой бацька загінуў на фронце — і я была гордая, што ён аддаў жыццё за Радзіму. А Іванаў бацька сустрэў на вайне іншую жанчыну — і пакінуў сваю сям'ю. Гэта было вельмі-вельмі цяжкім ударам для дзяцей…

Усё гэта апісана ў Іванавых апавяданнях, па крупінках рассыпана: нейкія дэталі, моманты. Хаця адзінай такой лініі няма.

*— У яго, відаць, крыўда на бацьку захавалася?*

— Крыўда была, мусіць, у дзяцінстве: вельмі ж цяжка жылі… У 1962 годзе, калі я чакала другую дачку, ён сказаў: «Люда, я хачу паехаць да бацькі». Бацька яго жыў на Кубані. Пасля вайны прыязджаў на радзіму толькі аднойчы — калі трэба было разабрацца з сямейнымі паперамі-дакументамі. Але пра гэта я ніколі не пыталася — гэта была не тое што забароненая тэма, але ў нас проста не прынята было яе закранаць…

Скажу толькі, што маці Іванава ніколі не даравала свайму былому мужу — але любіла яго да апошніх хвілін. А дараваць… дараваць, канешне, не магла. Яна вельмі кахала яго, а ён кінуў яе ў такім цяжкім становішчы… Іван хадзіў у школу босы — да самай зімы. Піліпаўкай толькі абуваўся ў лапці. І што на ім за вопратка была — нават не магу вам апісаць… Але на гэта ён не звяртаў асаблівай увагі, галоўным для яго была кніга, кніга, кніга — увесь час чытаў.

…Ён паехаў да бацькі. Ёсць фотаздымак — яны ўдвух. Іван стаіць такі акрылены, з такім светлым тварам…

Пабыў ён у бацькі нядоўга, можа з тыдзень. і вярнуўся вельмі шчаслівы.

Адтуль, з Кубані, прыслаў абрыкосаў — у мой Студзянец. Гэта зараз ёсць любая садавіна, якую пажадаеш, а тады — гэта ж такая навіна… Я паехала да свекрыві, расказала пра пасылку, прывезла абрыкосаў. А

маці: «Вынесі гэта ўсё з хаты — каб тут іх не было!..» А Коля, брат Іванаў, гаворыць: «Дык гэта ж Іван прыслаў, мама!». Але не, жанчына настаяла на сваім: «У майго Івана гэтага няма — вынесі». Ён вынес — дзеці на вуліцы расхапалі тыя абрыкосы…

*— Гордая жанчына…*

— Так. Пайшоў — ідзі, нічога ад цябе не трэба, і маці не хацела, каб Іван падтрымліваў адносіны з бацькам. Дарэчы, калі Іван пазнаёміў мяне са сваёй маці, ёй было гадоў 50, але выглядала яна такой старой змучанай, знясіленай. Калі мы пажаніліся, пасылалі грошы, сталі яе прыбіраць: купілі ў Мінску плюшаўку, паліто, іншую вопратку, абутак… Дык вось, у той сітуацыі, калі Іван вярнуўся ад бацькі, я таксама была на баку Хадоскі Ігнатаўны: «Я выходзіла замуж за чалавека, у якога няма бацькі, як і ў мяне. Няма ў мяне свёкра, ёсць свякроў — і я падтрымліваю яе…». Яна да апошніх дзён была ўдзячная за гэту маю пазіцыю.

*— Ён паслухаўся маці?*

— Так. Іван маці любіў і паважаў. Невыпадкова вобраз Хадоскі ён выпісаў у рамане.

*— А сябе Вы часта пазнавалі ў творах мужа?*

— Не.

*— ???*

— Кожны твор я вычытвала.

*— А, дык Вы былі цэнзарам?*

— Так! — Смяецца. — А калі сур’ёзна — Іван, бывала, калі пісаў, трошкі раіўся. Калі пісаў раман, вельмі доўга выношваў яго, а апавяданні — яны ствараліся больш «аператыўна». Звяртаўся да мяне: «Мне трэба прозвішча для добрага маладога хлопца». Пачынала ўспамінаць сваіх аднакласнікаў, аднакурснікаў, аднавяскоўцаў — ён выбіраў тое, якое, на яго думку, больш падыходзіць персанажу.

Ці, бывала. нешта расказвае — я пярэчу: «Іван, гэтага не можа быць!». А логіка такая: гэтага не можа быць, таму што гэтага быць не можа… «Хто пісьменнік: ты ці я?!» — эмацыянальна перапытвае ён. Пісьменнік, кажу, ты — але я чытач: калі ты будзеш пісаць тое, што я не буду чытаць, дык навошта пісаць? Ён быў запальчывы — бег у кабінет. Потым, праз нейкі час, пытаецца: а што ты хацела сказаць? Выказала сваё меркаванне. Улічыў — не ўлічыў? Трошкі ўлічыў…

*— Па творчасці некаторых пісьменнікаў можна дакладна прасачыць многія перыпетыі іх жыцця, убачыць характары сваякоў, сяброў, суседзяў…*

— Дакладна скажу: Іван Чыгрынаў — гэта не Іван Шамякін… Дзесьці па крупінках я бачу свой характар… Але ніколі не была вель-

мі ўжо пазнавальная — ніколі. Ён на гэта не ішоў, ён быў чалавекам даволі закрытым, нейкія асабістыя рэчы на чытача не выносіў. Ну, а калі сябрам за чаркай што сказаў — дык гэта ўжо іншая справа.

Дарэчы, Чыгрынаў любіў і паважаў Шамякіна. Іван Пятровіч да мяне вельмі добра адносіўся. Памятаю, у Доме літаратара сабраліся, нейкая была нагода, — засядзеліся, ужо і гадзіна ночы, і дзве… Звоніць Марыя Філатаўна, жонка Шамякіна, а ён тлумачыць: «Маша, ты не хвалюйся, тут Люда Чыгрынава». — «А, раз Люда — то сядзіце!..»

*— Людміла Прохараўна, калі шчыра, я думала, Іван Гаўрылавіч старэйшы за свае гады. Калі яшчэ школьніцай чытала «Плач перапёлкі», было ўражанне, што пісьменнік і сам прайшоў вайну…*

— Ён і знешне выглядаў старэйшым. І калі з ім пазнаёмілася, думала, ён старэйшы… Я была эвакуіравана ў Саратаўскую вобласць, вярнуліся мы з маці пасля вызвалення нашых мясцін, вясной 1944-га. А Іван жыў у акупацыі — у такіх неймаверна складаных умовах, што ўсё гэта адбілася на яго выглядзе. І вонкава, і ад сваёй душэўнай, духоўнай работы ён здаваўся старэйшым, чым быў на самай справе. Ён жа памёр праз два тыдні пасля таго, як адзначылі 61-ы дзень нараджэння. Але гэта быў вельмі хворы чалавек. Доктар сказаў, што хворы ён быў яшчэ з ваеннага часу, калі хлопчыкам перанёс вельмі цяжкі брушны тыф. Ён выжыў, але змены, якія адбыліся ў арганізме, засталіся назаўсёды.

Вайна прайшла праз усё жыццё Івана Чыгрынава. Вайна зрабіла яго пісьменнікам, яна ж яго і забіла.

Невыпадкова Дзмітрый Бугаеў напісаў: «Галоўнай падзеяй для чалавечага і пісьменніцкага лёсу Івана Чыгрынава стала Айчынная вайна, сустрэтая ім у дзіцячым уразлівым узросце. Менавіта з глыбінным адлюстраваннем жыцця, подзвігу і трагедыі народа ў тыя вогненныя гады звязаны самыя значныя дасягненні гэтага выдатнага майстра слова ў літаратуры».

У снежні 1941 г. Івану споўнілася 7 гадоў. Хлопчык ён быў уразлівы, усё бачыў, чуў, запамінаў… Калі рыхтаваў раман «Плач перапёлкі», многа-многа чытаў, гутарыў з партызанамі — у нас столькі партызанаў перабыло, нават па прозвішчах не змагу ўсіх назваць… Ён ставіў задачу паказаць усю праўду жыцця першых дзён вайны.

*— Сапраўды, у пасляваеннай літаратуры вайна часам паўставала ў некалькі прыхарошаным выглядзе, замоўчваліся некаторыя абставіны пачатку вайны, назіралася імкненне абмінаць няўдачы і паражэнні…*

— Чыгрынаў хацеў не спрошчана-схематычна, а рэалістычна паказаць жыццё чалавека ў акупацыі, жыццё ў сітуацыі вайны: дзеці нараджаюцца, людзі дарослыя паміраюць — хто ад кулі, хто ад узросту, хто ад хваробы. І сеяць трэба, і жаць — каб жыць… Пятро Прыходзька нядаўна сказаў: «Такога рамана, як “Плач перапёлкі”, у беларускай

літаратуры няма». Бо там усё выверана. Калі ён што пісаў, то зыходзіў з жыццёвага факта.

Іван пешшу прайшоў па ўсей Беларусі — з рукзаком, кацялком… Збіраў па дарозе грыбы, ягады. Начаваў у людзей — тады людзі дабрэйшыя былі, чым зараз, пускалі пераначаваць, яшчэ і малака давалі. І скварку сала — дзе купляў, дзе проста частавалі… Тут рэчка, тут лес, тут поле — калі ён пісаў пра гэта ў рамане, усё ў яго было дакладна. Назву вёскі мяняў, але ўсе што навокал… Ён збіраў усе даведнікі па раслінах, птушках, звярах — усе, што ён пісаў, добра ведаў. Калі сумняваўся, звяраў з адпаведнай літаратурай.

*— Перад нашай сустрэчай яшчэ раз пагартала «Плач перапёлкі», апошнія словы рамана: «Заканчваўся ўсяго толькі другі месяц вайны...»*

— Так, пісьменнік не бягом бег па гэтых цяжкіх першых днях вайны, а вельмі падрабязна даследаваў маральна-псіхалагічныя асаблівасці пачатку акупацыі…

*— Вельмі ўдалая назва рамана — «Плач перапёлкі». Моцная метафара...*

— Сапраўды.

*— Цікава, як прыйшла гэта назва?*

— Не магу адказаць дакладна… Іван заўсёды ішоў ад прыроды, ад прыметаў, што склаліся ў народзе на падставе шматвяковых назіранняў. Плач перапёлкі — гэта прадвесце вялікай бяды, агульнага гора.

«Сёння перапёлка, няйначай, плакала — ці то гняздзечка яе разбурыў хто, ці яшчэ якая бяда прымусіла агалошваць тугой наваколле, але замест звычайнага спеву чуўся плач…

Зазыба нарэшце адчуў гэта, і ў галаве ягонай узнікла пакутлівая думка: калі птушкі так плачуць са свайго гора, то як жа тады павінны галасіць людзі, у якіх гора наогул бывае незраўнана больш, а цяпер дык і зусім цераз край?»

Як толькі зарадзілася назва «Плач перапёлкі» — так яна і засталася. А назвы далейшых твораў Іван мяняў у працэсе работы — нават па чарнавіках гэта відаць.

*— У канцы 1980-х гадоў вядомы беларускі рэжысёр Ігар Дабралюбаў паставіў шматсерыйны фільм «Плач перапёлкі». Як Чыгрынаў ацэньваў экраннае ўвасабленне свайго твора?*

— Яны працавалі з Дабралюбавым разам — і вельмі доўга. Жылі пад Ракавам на Іслачы, у пісьменніцкім Доме творчасці. Усё-ўсе ўладкоўвалі разам. Івану фільм падабаўся. Ён любіў і Зазыбу, і Чубара. Гэта былі яго «кроўныя» героі.

*— Але ж у рамане яны такія розныя...*

— Розныя. Так. Але гэта няважна… Чубара іграў Валянцін Белахвосцік (царства яму нябеснае), ён любіў гэту ролю і расказваў: з яго, Белахвосціка, бацькам такая ж гісторыя атрымлівалася, ён не мог знайсці сябе ў пачатку вайны…

*— Падабенства лёсаў?*

— Так, лёс героя і лёс яго бацькі былі ў чымсьці падобныя…

А Зазыбу іграў Эдуард Гарачы — з ім і зараз мы падтрымліваем добрыя адносіны. Калі яго сустракаю, не магу ўстрымацца, каб не сказаць: «Мне здаецца, што вы — жывы Зазыба, што вы — мой сваяк!». Ён смяецца… Настолькі гэта было ўдала!

*— Ведаю, што беларускія акцёры былі вельмі ўдзячныя аўтарам фільма: «замежных» не запрашалі.*

— Так. Фільм паказвалі па ўсім Савецкім Саюзе, Івану адусюль і пісалі, і званілі…

*— Людміла Прохараўна, ці быў Іван Гаўрылавіч чалавекам веруючым?*

— Не. Ён быў камуністам — але далёка не артадаксальным.

*— Іван Чыгрынаў плённа працаваў і як драматург. Адна з п’ес называецца «Звон — не малітва», яна была пастаўлена на сцэне Купалаўскага тэатра... Калі шчыра, я была вельмі здзіўлена, што пісьменнік звярнуўся да праблемы веры.*

— Ён пачаў задумвацца над гэтым… Іван быў хрышчоны ў час вайны, калі гэта адбывалася пагалоўна. Калі бацька — камуніст, ды яшчэ і дзеці яго нехрышчоныя — гэта немагчыма было ўявіць

*— З кім сябраваў Іван Гаўрылавіч?*

— Ён вельмі добра адносіўся да Мележа, Кудраўца, Казько. Сябраваў больш з крытыкамі. Самым душэўным, шчырым яго сябрам быў Дзмітрый Якаўлевіч Бугаёў. Вельмі любіў Нічыпара Еўдакімавіча Пашкевіча — яны заседжваліся да раніцы, у нас ці ў яго. Паставяць пляшку, нарэжуць сала, хлеба, агуркоў — і размаўляюць, размаўляюць.. Ён быў вельмі гасцінны чалавек, у нас перабывалі ўсе-ўсе, апроч, можа, самых маладых.

Іван вельмі любіў Алеся Пісьмянкова — просты, сціплы, разумны, таленавіты чалавек. Ён ведаў яго з 9 класа, калі Алесь пачаў публікавацца ў раённай газеце: да Івана Гаўрылавіча, як да земляка-пісьменніка, звярнуліся, каб пазнаёміўся з юным талентам. Мы з ездзілі да бацькоў Алеся ў вёску Бялынкавічы, і пасля гэтага сувязь пастаянна падтрымлівалася. Алесь паступіў на філфак, Іван увесь час цікавіўся і творчасцю яго, і жыццём… Шкада. што Алесь так рана пайшоў з жыцця.

Касцюковіцкі раён — багаты на таленты. Два народныя пісьменнікі. Іван скончыў Саматэвіцкую школу, якую калісьці скончыў і Аркадзь Ку-

ляшоў. Выдатны беларускі паэт Аляксей Русецкі, Алесь Пісьмянкоў… Варта было б належным чынам аформіць Касцюковіцкі краязнаўчы музей — магчыма, асобны пакой прысвяціць землякам-творцам.

*— У гэтым годзе ў серыі «Беларуская проза ХХ стагоддзя» выйшла кніга І. Чыгрынава «Плач перапёлкі» (раман, апавяданні). Людміла Прохараўна, а які лёс 6-томнага Збору твораў пісьменніка, заяўленага яшчэ дзесяць гадоў таму?*

— У 1995 годзе выйшаў першы том Збору твораў у 6-і тамах. І на гэтым — усё. Іван Чыгрынаў сам падрыхтаваў да выдання і другі том — ён, мабыць, і дагэтуль ляжыць у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Не хацелася б у гэтыя юбілейныя дні гаварыць аб праблемах, але пытанне адносна збору твораў задаюць мне даволі часта…

*2004*

# КАМЕНТАР

## ПЛАЧ ПЕРАПЁЛКІ

*Раман (с. 15)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1970, № 10–12.

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Плач перапёлкі: раман, апавяданні. Мінск, 2004.

Паводле рамана «Плач перапёлкі» аўтар напісаў п’есу, якая ў 1980 г. была пастаўлена на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

Па матывах раманаў І. Чыгрынава «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві» і «Свае і чужынцы» рэжысёрам Ігарам Дабралюбавым на кінастудыі «Беларусьфільм» быў створаны шматсерыйны тэлевізійны фільм «Плач перапёлкі». Паводле гэтага ж рамана кампазітар Уладзімір Кандрусевіч напісаў аднайменную сімфонію.

## АПАВЯДАННІ

*Праз гады (с. 287)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1961, 6 чэрв.

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Плач перапёлкі: раман, апавяданні.

*Дзівак з Ганчарнай вуліцы (с. 295)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1961, 28 ліп., пад назвай «Птушкі ляцяць на волю».

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Плач перапёлкі: раман, апавяданні.

Паводле гэтага апавядання І. Чыгрынаў напісаў аднайменную п’есу, якая была ў 1986 г. пастаўлена Тэатрам-студыяй кінаакцёра ў Мінску.

*Апавяданне без канца (с. 302)*

Упершыню — час. «Полымя», 1962, № 4.

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Ішоў на вайну чалавек: выбраныя апавяданні. Мінск, 1973.

*Маці (с. 310)*

Упершыню — час. «Полымя», 1963, № 1.

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Плач перапёлкі: раман, апавяданні.

### *Бульба (с. 318)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1963, № 12, пад назвай «Ля вогнішча».

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Плач перапёлкі: раман, апавяданні.

### *У баку ад дарогі... (с. 325)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1964, № 6.

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Плач перапёлкі: раман, апавяданні.

### *Жыве ў крайняй хаце ўдава... (с. 336)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1964, 20 кастр.

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Плач перапёлкі: раман, апавяданні.

### *Сустрэча на пероне (с. 344)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1964, № 5.

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Ішоў на вайну чалавек: выбраныя апавяданні.

### *Народны камісар (с. 350)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1965, 5 сак.

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Ішоў на вайну чалавек: выбраныя апавяданні.

### *Ішоў на вайну чалавек (с. 357)*

Упершыню — час. «Полымя», 1965, № 6.

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Ішоў на вайну чалавек: выбраныя апавяданні.

### *Самы шчаслівы чалавек (с. 363)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1965, № 6, пад назвай «Першы бой».

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Ішоў на вайну чалавек: выбраныя апавяданні.

### *На пыльнай дарозе (с. 369)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1965, № 6.

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Плач перапёлкі: раман, апавяданні.

*Шчаслівае месца (с. 378)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1965, № 6.

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Плач перапёлкі: раман, апавяданні.

*За сто кіламетраў на абед (с. 386)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1966, 29 ліп.

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Плач перапёлкі: раман, апавяданні.

*Дзічка (с. 395)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1966, № 2.

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Ішоў на вайну чалавек: выбраныя апавяданні.

*Выпадак у вёсцы Капранаўка (с. 404)*

Упершыню — час. «Полымя», 1969, № 9.

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Плач перапёлкі: раман, апавяданні.

*За трэцім разам (с. 413)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1984, № 6.

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Ішоў на вайну чалавек: выбраныя апавяданні.

*Коні (с. 423)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1994, 16 вер.

Друкуецца паводле выд.: Чыгрынаў І. Ішоў на вайну чалавек: выбраныя апавяданні.

## ДРАМАТУРГІЯ

*Осцей — Альгердаў унук. Гістарычная згадка (с. 431)*

Друкуецца паводле час. «Беларусь», 1996, № 2–3.

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

Усе публіцыстычныя артыкулы друкуюцца паводле выд.: Чыгрынаў І. Паміж сонцам і месяцам. Роздум над жыццём, культурай і літаратурай. Мінск, 1994.

*Першы ўспамін (с. 473)*

[1] *...не падыходзіць да такой кнігі.* — Маецца на ўвазе адна з кніг аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў, якія складаў Янка Казека: «Пяцьдзесят чатыры дарогі» («Дзяржаўнае выдавецтва БССР», 1963),

«Пра час і пра сябе» («Беларусь», 1966) і «Вытокі песні» («Мастацкая літаратура», 1973). Пра тое, чаму аўтабіяграфія Івана Чыгрынава не ўвайшла ні ў водную з гэтых кніг, сам аўтар падрабязна расказвае ў прыведзеным вышэй публіцыстычным артыкуле «Хто пойдзе да нефармалаў» (с. 539–540).

### *Бабруйскі кацёл (с. 482)*

[1] *Адамовіч* Алесь (1927–1994) — беларускі пісьменнік, крытык, літаратурзнавец, грамадскі дзеяч.

### *Хто пойдзе да нефармалаў (с. 506)*

[1] *Сакалоў* Яфрэм — першы сакратар ЦК КПБ (1987–1990).
[2] *Матузаў* Захар — тагачасны дырэктар Дзяржаўнага выдавецтва БССР (потым — «Беларусь»).
[3] *Жычка* Хведар — беларускі пісьменнік, тагачасны рэдактар выдавецтва «Беларусь».

## ДАДАТАК

### *«Вайна зрабіла Івана Чыгрынава пісьменнікам...» Гутарка Таццяны Падаляк з Людмілай Чыгрынавай (с. 559)*

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 21–22 снеж. 2004 г., дзе апублікавана ўпершыню.

## SUMMARY

The People's Writer of Belarus Ivan Chyhrynau (1934–1996) comes from the generation whose childhood years were in the period of the Second World War and the Nazi occupation. Born at the village of Vialiki Bor, Kastsiukovichy District Mahiliou Region and graduated from the journalist department of the Belarusian State University, Ivan Chyhrynau worked as an editor for publishing houses and editorial boards of journals and was the Secretary of the Board of the Union of the Writers of Belarus and the Chairman of the Board of the Belarusian Fund of Culture. Since 1978 as a member of the delegation of the BSSR, he took part in the work of the XXXIII Session of the General Assembly of the UNO. He was elected Depute of the Supreme Soviet of the BSSR (1986–1990) and then the Chairman of the Constant Commission on Ethnic Aspects and Interethnic Relations.

As a writer Ivan Chyhrynau was first introduced in press in 1958. He is the author of a number of stories, short stories, novels, dramas and articles.

The present book comprises the most considerable literary works — the novel *Plach perapiolki* (*The Cry of the Hen-Quail*) about the first days of the Nazi occupation during the WW II, the best short stories, drama works and articles.

The introductory article to the book was written by Candidate of Philology Taisa Hramadchanka, the well-known literary critic.

# ЗМЕСТ

## Дадатак

**Чыгрынаў, І.**

Ч11 Выбраныя творы / Іван Чыгрынаў; уклад., камент. Л. Чыгрынавай; прадм. Т. Грамадчанка. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 576 с. : [8] с. іл. — («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).

ISBN 978-985-7057-64-1.

У кнігу народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава (1934–1996) увайшло ўсё самае значнае з яго літаратурнай спадчыны — раман «Плач перапёлкі» пра першыя дні нямецкай акупацыі ў 1941 годзе, апавяданні, драматычная згадка пра нашу далёкую гісторыю, публіцыстычныя артыкулы пра самыя надзённыя праблемы сучаснасці.

Шэсцьдзясят дзявяты том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3**
**ББК 84 (4 Беи)**

---

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя І. Мастацкая літаратура

**Чыгрынаў Іван**

Выбраныя творы

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Кастусь Дуброўскі*
Тэхнічны рэдактар *Алег Глекаў*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Людміла Чыгрынава*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 06.05.2013.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 30,42 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 29,74.
Наклад 1000 асобнікаў. Зак. .

Пры ўдзеле ТАА «Харвест». Ліцэнзія № 02330/0056935 ад 30.04.04.
Вул. Кульман, 1, корп. 3, пав. 4, п. 42, 220013, Мінск.
E-mail: harvest2004@mail.ru

ПУП «Кнігазбор». Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
e-mail: bkniha@tut.by

ISBN 978-985-7057-64-1

9 789857 057641

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў РУП «Выдавецтва “Беларускі дом друку”».
Пр. Незалежнасці, 79, 220004, Мінск.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя І.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы
ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік
ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы
ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы
КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы
ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы
ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы
ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы
ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы
ЦЁТКА. Выбраныя творы
НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы
ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы
АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы
ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы
РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы
ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы
ЯН СКРЫГАН. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы
ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. Выбраныя творы
СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (XII–XVII стст.)
СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ. Выбраныя творы
ЯКУБ КОЛАС. Выбраныя творы
АЛЯКСЕЙ КАРПЮК. Выбраныя творы
КАНДРАТ КРАПІВА. Выбраныя творы
РЫГОР БАРАДУЛІН. Выбраныя творы
РАССТРАЛЯНАЯ ЛІТАРАТУРА. Зборнік
АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ. Выбраныя творы

*БЕЛАРУСКІЯ* АЛЕКСАНДРЫЯ, ТРОЯ, ТРЫШЧАН. Зборнік
НІЛ ГІЛЕВІЧ. Выбраныя творы
ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН. Выбраныя творы
МАКСІМ ГАРЭЦКІ. Выбраныя творы
РЫГОР КОБЕЦ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ. Выбраныя творы
АЛЕНА ВАСІЛЕВІЧ. Выбраныя творы
КАЗІМІР СВАЯК. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ ЗУЁНАК. Выбраныя творы
УЛАДЗІСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ. Выбраныя творы
ВІНЦУК АДВАЖНЫ. Выбраныя творы
АЛЕСЬ БАРСКІ. Выбраныя творы
ЦІШКА ГАРТНЫ. Выбраныя творы
КАСТУСЬ ТАРАСАЎ. Выбраныя творы
КАСТУСЬ ЦВІРКА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ АДАМОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЛЕРЫЙ КАЗАКОЎ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ ВІТКА. Выбраныя творы
ВІКТАР КАРАМАЗАЎ. Выбраныя творы
МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ. Выбраныя творы

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік
КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць
МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае
ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы
ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы
ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае
ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае
ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе
АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае
ЗАРЫЯН ДАЛЭНГА-ХАДАКОЎСКІ. Выбранае
АДАМ МАЛЬДЗІС. Выбранае
АДАМ СТАНКЕВІЧ. Выбранае
МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ. Выбранае
АНАТОЛЬ ГРЫЦКЕВІЧ. Выбранае

